**Redakcja naukowa tomu**
Nina BARSZCZEWSKA
Mikałaj CHAUSTOWICZ

**Redakcja tematyczna i językowa**
Katarzyna DROZD (*literatura*)
Nadzeya CHUKICHOVA (*język białoruski*)
Jadwiga GRACLA (*kultura, historia*)
Mirosław JANKOWIAK (*język polski*)
Anna RĘDZIOCH-KORKUZ (*język angielski*)

**Sekretarz redakcji**
Anna RĘDZIOCH-KORKUZ

**Projekt graficzny okładki**
Krzysztof KLESZCZ

Na okładce: *Połock nad Dźwiną przy ujściu Połoty*. Rysunek Napoleona Ordy, XIX w.
**Skład i łamanie**
Maryla CHAUSTOWICZ

**Adres redakcji**

Katedra Białorutenistyki
Uniwersytetu Warszawskiego
ul. Szturmowa 4, 02-678 Warszawa
tel./fax (0 22) 55 34 222
http://www.albaruthenica.uw.edu.pl
e-mail: m.khaustovich@uw.edu.pl



**ISSN 1898-8091**

Wersja pierwotna czasopisma: papierowa
Nakład 120 egz.

**Druk i oprawa:**
*SOWA Sp. z o.o.*
*ul. Raszyńska 13, 05-500 Piaseczno*
*tel. (22) 431-81-40; fax (22) 431-81-50*

# Spis treści

## STUDIA i ARTYKUŁY

### LITERATURA



### JĘZYK

**KULTURA. HISTORIA**

# Contents

## STUDIES AND ARTICLES

### LITERATURE



### LANGUAGE

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ванда Бароўка**
Віцебск

# Металітаратурны ракурс у беларускай прозе XX стагоддзя

Мастацкае асэнсаванне літаратуры і літаратурнай творчасці ў беларускай прозе XX стагоддзя – дынамічны працэс. Першыя спробы ў гэтым кірунку былі зробленыя Максімам Багдановічам, Максімам Гарэцкім, Вацлавам Ластоўскім. Выказванні пісьменнікаў пра літаратурную творчасць спачатку мелі фрагментарны характар, датычыліся ўзаемаадносін літаратуры і жыцця, а потым набылі сэнсава больш аб'ёмны характар. Так, у апавяданні В. Ластоўскага *Панас гуляе* (1910) акцэнтавалася, што народжаныя жыццём творы заўсёды выклікаюць цікавасць у чытачоў і здольныя змяніць свет да лепшага. Эцюд М. Багдановіча *Мадонна* (1913) стаў эстэтычным увасабленнем рэфлексіі аб вербальным мадэляванні свету, аб суаднесенасці слоўнага мастацтва і рэчаіснасці. Словамі аднаго з персанажаў аўтар сцвярджаў, што ў казках народ выяўляў свае назіранні, а ў літаратурных творах адбіліся ўяўленні іх аўтараў. Ранняе апавяданне *У лазні* (1913) М. Гарэцкага – спроба намацаць лініі судакранання літаратуры і жыцця. У творы малады інтэлігент у першым пакаленні Клім Шамоўскі параўноўвае сваё стаўленне да роднага краю з ідэяй, выказанай коласаўскімі радкамі "Мой родны кут!.. Як ты мне мілы…", і ловіць сябе на думцы, што яго стаўленне да землякоў і "роднага карэння" неадназначнае. Клім – кніжнік, яго раздражняе абыякавасць аднавяскоўцаў да сучаснага мастацкага слова, абурае прыхільнасць да дыдактычнай і царкоўнай літаратуры. Тып наіўнага пісьменніка-нашаніўца М. Гарэцкі прадставіў у апавяданні *Зіма* (1917). З іроніяй паказваліся намаганні настаўніка Ляксея Ляксеевіча з гучным псеўданімам *Леў Парнаснік* па пятніцах садзіцца "за стварэнне нацыянальнай літаратуры"[1], за напісанне рамана, першая частка якога мела назву *Утопія*, бо гаварылася там пра нібыта шчаслівае будучае на беларускай зямлі праз дзесяць гадоў. У асобе Льва Парнасніка М. Гарэцкі рэпрэзентаваў графаманаў, што кіраваліся літаратурнай модай, а напісанне твораў разглядалі як асобаснае самасцвярджэнне.

Літаратура і жыццё, роля літаратуры ў вызначэнні грамадскіх перспектыў праз сюжэтную лінію з выкарыстаннем другаснай мастацкай

[1] М. Г а р э ц к і, *Збор твораў у 4 т,* т. 1: *Апавяданні 1913–1930*, Мінск 1984, с. 164.

умоўнасці асэнсоўваліся ў абразку М. Гарэцкага *Фантазія* (1921). У творы цень Францыска Скарыны збірае дзеячаў беларускай культуры розных эпох з мэтай дапамагчы свайму народу ў крывавы час вызначыць далейшы шлях. Сістэмай падзей аўтар паказваў, што жыццё ідзе сваім кірункам, змяніць які літаратуры праблематычна. Потым у аповесці *У чым яго крыўда?* (1926) пісьменнік скарэктаваў свае меркаванні адносна культурна-інтэграцыйнай і нацыятворчай функцыі мастацтва слова, калі заўважыў пра Лявона Задуму: "Трапілі ж яму да рук *Песні жальбы* – Якуба Коласа і *Жалейка* – Янкі Купалы, а гэтыя-то кнігі многіх той парою зусім збілі з даўнага тору, а некаторых, прынамсі, звялі з яго на ўбочныя дарожкі і працягнулі іхнае блуканне на тых убочынах на значна большы час, як тое магло быць у перадгэтую эпоху"[1].

1920-я гады – перыяд у развіцці беларускага пісьменства, дэтэрмінаванага процістаяннем адраджэнскай і рэвалюцыйнай ідэалогій, старога і новага пакалення пісьменнікаў. Рэхам палемікі старых і маладых літаратараў стаў *прыяцельскі шарж*, па аўтарскім жанравым вызначэнні, *Трыумф* (1925) Якуба Коласа, дзе класік беларускай літаратуры ў асобе ганарлівага маладога паэта, жыццё музы з якім было катаргай, дасціпна высмеяў бурапеннасць, празмерную метафарычнасць вобразаў амбітных аўтараў. На пачатку твора з'едліва згадваліся ганарыстыя літаратары, што не клапаціліся пра зразумеласць сваіх твораў чытачамі: "Паэты ж наогул людзі непаседлівыя, без самагону п'яныя. І недарма ж цягнуць іх то блакітныя далі, то васількововая журба, то проста аўсянае поле ці яшчэ іншая трасца. А то засвярбяць у іх рукі – зоры за косы хапаюць, зару бляяць прымушаюць, на сонца з нажамі кідаюцца, а пра бедны месяц і казаць не прыходзіцца: у цырульню яго зацягнуць, пудраю напудраць"[2]. Сваімі *казкамі жыцця* Я. Колас даў першыя ў айчыннай прозе характарыстыкі стылю Янкі Купалы і Змітрака Бядулі. *Ноч, калі папараць цвіце* (1925) мела пазначэнне *Прысвячаецца Янку Купалу*. Там гаварылася пра нараджэнне паэта, дзейснымі памочнікамі якога вырашылі стаць міфалагічныя істоты: русалкі, вадзянік, лясун, дамавік, ваўкалакі, здані і чараўнікі: "Я падарую яму Жалейку, – азваўся Дамавік. – Струмант гэты хоць і просты, але я навучу юнака іграць так, каб тутэйшыя людзі зачароўваліся ігрою і прыходзілі да свядомасці, чаму так сталася, што яны не гаспадары ў сваёй хаце.

– А я дам яму Гуслі, – сказаў Вадзянік. – Няхай апявае былую славу свайго народа і закідае ў сэрца яго імкненне заняць пачэснае месца між славянамі"[3]. Уключэнне міфалагічных істот у структуру аповеду артыкулявала метафарычнасць як дамінантную рысу стылю Янкі Купалы. У *Кучаравым дрэве* (1926) аўтар акцэнтаваў складанасць жыццёвых шляхоў творчай асобы з дапамогай дасціпнага выкарыстання рэмінісцэнцый

[1] М. Г а р э ц к і, *Збор твораў у 4 т.*, т. 2: *Аповесці*, Мінск 1985, с. 10.
[2] Я. К о л а с, *Збор твораў: у 20 т.*, т. 6, Мінск 2009, с. 6.
[3] Я. К о л а с, *Новая зямля. Казкі жыцця: паэма, апавяданні*, Мінск 2001, с. 338.

з твораў Змітрака Бядулі: “І шумела буйнае лісце на Кучаравым дрэве, галасна шумела зялёнае. А ў гэтым шуме чуліся ***рытмы жыцця***, сталыя аповесці аб тым, што тварылася навакола “***пад родным небам***”, “***на зачарованых гонях***”. І ціша і громы пакідалі сляды на струнах Кучаравага дрэва, і ў перамовах яго буйнага лісця чуўся іх голас”[1]. Водгулле палемікі наконт месца літаратурнай класікі ў сучаснасці ўтрымлівала Коласава аповесць *На прасторах жыцця* (1926). Самім фактам звароту маладых людзей да аўтараў мінулага апавядальнік сведчыў на карысць высокамастацкай спадчыны класікаў.

Пісьменніцкая рэфлексія над мастацтвам слова непасрэдна ў саміх празаічных творах перапынілася ў канцы 1920-х гадоў і аднавілася толькі ў 1960-я гады. На працягу гэтага часу і адразу пасля яго выходзілі аповесці і раманы пра класікаў беларускай літаратуры (Зінаіды Бандарынай, Сцяпана Александровіча, Васіля Хомчанкі і інш.), аднак у іх фактычна адсутнічала абмеркаванне ўласналітаратурных праблем, пазіцыянаваліся галоўным чынам грамадскія погляды і сацыяльныя прыярытэты пісьменнікаў.

Традыцыя грунтоўнага асэнсавання літаратуры ў літаратуры распрацоўвалася Міхасём Стральцовым. Яго аповесць (часта жанр твора вызначаюць як нарыс. – *В. Б.*) *Дзень у шэсцьдзясят сутак (Згадка пра Поўнач)* (1964) напоўненая разважаннямі апавядальніка і героя ў адной асобе пра пісьменніцкі талент, пра функцыі літаратуры і пісьменніка. У творы акцэнтуецца апавядальнікам, што талент – важная перадумова творчага працэсу: “Талент, як і сумленне, павінен быць непадкупны, галава павінна быць цвярозая, жыццёвы інстынкт здаровы, зрок востры, слых абсалютны. Талент – інструмент, пры дапамозе якога чалавек пазнае жыццё, ён – люстра, у якім адбіваецца свет, а карціна гэтага свету будзе тым складанейшая, чым складанейшы сам інструментарый”[2]. Згадваючы папулярнага ў свайго пакалення амерыканскага пісьменніка Эрнеста Хемінгуэя, М. Стральцоў падкрэсліваў: “Свет, магчыма, трэба лячыць, але найперш трэба паставіць дакладны дыягназ”[3]. І дадаваў: “Хіба можна ўявіць Хемінгуэя, як і Чэхава, у позе натхнёнага, красамоўнага прапаведніка вядомых ісцін?”[4]. Знакамітае эсэ (зараз жанр твора нярэдка вызначаюць як аповесць – *В. Б.*) *Загадка Максіма Багдановіча* (1968) заснавана на меркаванні, што мастак павінен апярэджваць свой час. Паводле апавядальніка, пісьменнік існуе на перакрыжаванні свету жывой рэчаіснасці і “свету, створанага фантазіяй, арганізаванага па законах мастацтва”[5]; ён павінен бачыць з’яву “цалкам, у мастацкай і сацыяльнай перспектыве”[6]. Жыццё таленавітага аўтара, існаванне яго

---

[1] *Ibidem*, c. 341.

[2] М. С т р а л ь ц о ў, *Ад маладзіка да поўні: апавяданні, аповесці, эсэ*, Мінск 2005, с. 174.

[3] *Ibidem*, c. 173–174.

[4] *Ibidem*, c. 176.

[5] *Ibidem*, c. 273–274.

[6] *Ibidem*, c. 295.

твораў у гістарычным часе з пункту гледжання апавядальніка – заўсёды таямніца: “Загадка ёсць у лёсе амаль кожнага мастака. Гэта загадка ракі: яна нараджаецца недзе ў вытоках, трымціць і мроіцца там, і толькі мора, у якое ўплывае рака, цалкам разгадвае яе. Мора – гэта час, жыццё народа і літаратуры, да якіх прылучаецца мастак. У асобе, у адзінкавым лёсе – загадка, у жыцці народа і літаратуры – вырашэнне яе”[1]. Галоўнае прызначэнне літаратуры М. Стральцову бачылася ў даследаванні жыцця, адпаведна закладзеным у ёй законам. Эстэтычным імператывам самога М. Стральцова стала абнаўленне мастацкай палітры твораў, пазіцыянаванне герменеўтычнай функцыі літаратуры як дамінантнай. Шэдэўрам беларускай прозы невыпадкова называюць апавяданне *Смаленне вепрука* (1974), у якім узнаўляецца працэс творчасці і асэнсоўваецца яе выратавальная роля для аўтара як чалавека: “Ёсць, на жаль, рэчы, непадуладныя нам, але ж ёсць і суцяшэнне, ёсць і надзея. У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды – бо сказаў. Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг”[2].

Працягам распачатай М. Стральцовым размовы пра літаратуру магла стаць аповесць Барыса Сачанкі *Не на той вуліцы* (1974), дзе цэнтральныя – гэта праблемы шэрасці і эпігонства ў літаратуры. У творы супрацоўнік часопіса Адам Іванавіч Калінка спрабуе зразумець феномен нядаўна памерлага аўтара шматлікіх раманаў Язэпа Тарасюка. Справа ў тым, што з дырэктара рэстарана Тарасюк вырас да вядомага пісьменніка, перакананага, што па колькасці напісанага даўно пераўзышоў Мікалая Гогаля, Кузьму Чорнага ды іншых знакамітасцей. Улюбёны жанр Тарасюка – раман, але яго меркаванні пра раман дастаткова прымітыўныя. Гэты жанр ён любіць за магчымасць атрымаць немалы ганарар за кнігу. З запісаў нябожчыка Калінка выявіў, што Тарасюка цікавілі толькі крытыка ім напісанага, грошы, слава. Літаратурная кар’ера графамана ў аповесці тлумачылася атмасферай абыякавасці, што пануе ў творчым асяроддзі, нахабствам і дэмагогіяй халтуршчыка ад літаратуры, які ставіцца да яе як да сродку атрымання матэрыяльнага дабрабыту. Б. Сачанка ўзняў складанае пытанне, але спрасціў яго вырашэнне, калі праз сістэму вобразаў стаў даводзіць, што прымітыўнасць у літаратуры ідзе ад прымітыўнасці асобы аўтара і яго адарванасці ад стваральнай працы народа.

Металітаратурныя ўстаўкі нярэдкія ў прозе Уладзіміра Караткевіча, дзе звычайна змяшчаліся ацэнкі твораў вядомых аўтараў сусветнай літаратуры. Напрыклад, іранічныя філіпікі на адрас беларуска-польскага рамантызму XIX стагоддзя і адначасова прызнанне мастацкай дзейснасці твораў тагачасных мясцовых рамантыкаў фрагментарна выявіліся праз спрэчку Мар’яна Пташынскага і Антона Косміча

[1] *Ibidem*, с. 241.
[2] *Ibidem*, с. 150.

ў рамане У. Караткевіча *Чорны замак Альшанскі* (1979). Раман-эсэ Алега Лойкі *Як агонь, як вада* (1982) адметны зваротам да асвятлення такіх праблем, як жыццёвы факт і яго мастацкая інтэрпрэтацыя, праўда жыцця і праўдападобнасць у літаратуры, літаратура як адбітак аўтарскай свядомасці. Аповесць Адама Мальдзіса *Восень пасярод вясны* (1984), у цэнтры якой знаходзіўся Уладзіслаў Сыракомля на схіле яго зямнога жыцця, акцэнтавала думку пра інтэграцыйную сілу сапраўднай літаратуры, была напоўненая развагамі пра маральныя імператывы творчай дзейнасці.

Сацыякультурная атмасфера з другой паловы 1980-х гадоў спрыяла пашырэнню металітаратурнага ракурсу ў айчыннай прозе, які на пачатку стаў арганічнай часткай твораў пра класікаў прыгожага пісьменства. Напрыклад, Уладзімір Арлоў у аповесці *Час чумы* (1986) словамі Міколы Гусоўскага і яго апекуна Эразма Цёлка (Вітэліуса) падкрэсліваў нацыястваральную ролю прыгожага пісьменства, крэатыўную ролю натхнення ў пісьменніцкай працы. М. Гусоўскі ў аповесці – прынцыповы прыхільнік ідэі, згодна з якой літаратура павінна "сказаць свету словы праўды пра сваю зямлю"[1]. Знаёмаму студэнту паэт даводзіў: "Каб захаваць наступнікам нашу гісторыю, мала запісаць яе ў хроніі. Яе трэба адчаканіць у паэтычных радках"[2]. Погляды М. Гусоўскага на літаратуру выяўляюцца падчас гутарак з Эразмам Цёлкам, доннай Франчэскай, Строццы. На запытанне прыгожай рымлянкі: паэзія – гэта грэх ці святое прызнанне, – М. Гусоўскі адказаў, што "паэзія – радасць", бо паэт "творыць з хаосу свой свет"[3], а яго ўласная крыніца натхнення – туга па Радзіме. Паэзія для М. Гусоўскага – сродак змянення чалавека, "гэта не набор прыгожых статуэтак, якія можна паставіць на стале ці над камінам. Паэзія мусіць дапамагчы чалавеку будаваць храм сваёй душы. І ўладару, і людзям нізкага звання"[4]. Антыподам М. Гусоўскага ў аповесці выступае італьянскі паэт Строццы, безаблічны эпігон, прыхільнік капіравання жыцця і творчасці іншых аўтараў. У 1990 годзе з'явіўся ў друку напісаны яшчэ ў 1969 годзе раман Уладзіміра Дамашэвіча *Камень з гары*, пафас якога быў скіраваны на выкрыццё ўяўлення, што літаратура – проста адна са сфер чалавечай дзейнасці, што гэта звычайнае рамяство. Твор У. Дамашэвіча закранаў і праблему ўзаемаадносін пісьменніка з літаратурнымі рэдактарамі, а таксама з выдавецтвамі. Літаратурнае рэдагаванне і выдавецкая дзейнасць, у трактоўцы пісьменніка, істотна тармазілі развіццё літаратуры і пісьменніцкую творчасць, укладвалі ў пракруставае ложа нарматыўнай эстэтыкі.

Калі ў большасці беларускіх празаікаў металітаратурны ракурс меў фрагментарны характар, то ў раманах *Рэвізія* (2003) і *Мяжа* (2008)

---

[1] У. Арлоў, *Сны імператара: апавяданні, аповесці, эсэ*, Мінск 2001, с. 278.
[2] *Ibidem*, с. 302.
[3] *Ibidem*, с. 281.
[4] *Ibidem*, с. 318.

Андрэя Федарэнкі ён дамінантны. Назва кожнага з гэтых твораў паказвала на іх праблематыку. Цэнтральнае месца ў *Рэвізіі* адводзілася ацэнцы мастацкага вопыту літаратурных папярэднікаў і сучаснікаў, аналізу сучаснага стану і перспектыў айчыннай літаратуры. Галоўным героем твора пісьменнік абраў літаратурацэнтрычную па волі лёсу асобу студэнта гістфака Алеся Трухана, што нясмела спрабуе сябе ў ролі пісьменніка. Жыццёвыя рэаліі Алесь успрымае з пункту гледжання ўласнага чытацкага вопыту, але не губляе пры гэтым назіральнасці, здаровага сэнсу, наглядаючы за спрэчкамі маладых і старых беларускіх пісьменнікаў. Канфлікт паміж старымі і маладымі аўтарамі ў творы падаецца як заканамерная з'ява літаратурнага жыцця ўвогуле і пераходнага часу ў прыватнасці. Безыменны сівы пісьменнік і амбітны малады паэт Ведрыч адстойваюць гонар свайго пакалення. Ведрыч папракае старых за нізкі мастацкі ўзровень твораў, за эпігонства, за дэвальвацыю знакавых слоў і паняццяў, а апанент не хоча і не можа яго зразумець, таму абураецца: "Нашая літаратура кепская, вы хочаце сказаць? Ды мы далі сусветныя ўзоры ваеннай прозы! Дзякуючы нам, урэшце, захавалася наша мова – нашая родная мілагучная, пяшчотная матчына мова..."[1]. Ведрыч перакананы, што яго пакаленне абсалютна іншае, але крытэрыі ацэнкі літаратурных твораў паэтам абумоўлены яго "гістарычным бессвядомым", таму Ведрыч абураецца адсутнасцю ў айчыннай літаратуры ненадрукаваных твораў і дысідэнтаў, адсутнасцю аўтараў, якім бы за напісанне твора як мінімум пагражала б турма, а як максімум – расстрэл. Іншымі словамі, кожная пісьменніцкая генерацыя жыве сваімі літаратурнымі міфамі і стварае свае міфы пра літаратуру. Пісьменнік-пачатковец Трухан заўважыў, што процістаянне пакаленняў у літаратуры канца 1980-х гадоў больш датычылася не пытанняў творчасці, а афіцыйнага прызнання ў выглядзе надрукаваных твораў. Літаратура, паводле Алеся, заўсёды мае патрэбу ў новых тэмах, мастацкіх ідэях, неардынарных асобах. Харызматычны Ведрыч – асоба пераходнага перыяду, але літаратура трымаецца на ўдумлівых і цягавітых, як Алесь Трухан, што ведаюць творчасць іншых, але імкнуцца не паўтараць іх, а ісці сваім шляхам. Логікай аповеду А. Федарэнка сцвярджаў, што літаратурнае развіццё немагчыма без пастаяннай рэвізіі мінулага і сучаснага эстэтычнага досведу.

*Мяжа* – спавядальны раман, дзе аўтар адначасова галоўны герой і апавядальнік, які напярэдадні саракапяцігоддзя адчуў "цягу да падрахункаў, чысткі, рэвізіі – у галаве, у жыцці, у літаратуры"[2]. Некалі літаратура для маладога пісьменніка была сэнсам жыцця: "Яна была чымсьці вечным, непарушным, адзіным, што мела сэнс у жыцці, больш таго – яна была вышэй за жыццё, бо была самадастатковай, значыць, не магла быць пераможана нічым, і ў сваю чаргу, з'яўляючыся своеасаблівым

[1] *Ibidem*, c. 284.
[2] А. Ф е д а р э н к а, *Мяжа: раман-эсэ, апавяданні*, Мінск 2011, c. 5.

«страхавым полісам», павінна была аберагаць ад любога выпадку, любой нечаканасці. І вось гэтая страхоўшчыца, ратавальшчыца, самадастаткоўшчыца адыходзіць з першага плану ў невядома які. Перастае памагаць. І да яе з'яўляецца агіда і апатыя. Трэба было тэрмінова разабрацца з гэтым. Інакш усё губляла сэнс"[1].

Памежная сітуацыя інспіравала роздум над "вечнымі" пытаннямі: мэты творчасці, пісьменнік і жыццё, роля крытыкі, пісьменнік і чытач, маральная адказнасць пісьменніка. Літаратура, на думку апавядальніка, павінна развівацца ў атмасферы патрабавальнасці з боку крытыкі і калег па пяру, каб у ёй не квітнелі шэрасць, графаманства, эпігонства, плагіят. Каштоўнасць літаратуры ў тым, што літаратура стварае ў пісьменніка ўяўленне пра магчымасць падоўжыць свой лёс. Праз суадносенне эпізодаў з уласнага жыцця з іх мастацкай рэпрэзентацыяй у канкрэтных творах апавядальнік зазначаў, што пісьменнік часта не спецыяльна, а падсвядома выкарыстоўвае іх у сваёй працы. Літаратура, згодна з аўтарскай канцэпцыяй, – від дзейнасці, які патрабуе пастаяннага самаўдасканалення. З іроніяй апавядальнік прыгадваў пісьменніцкую іерархію: "У «сярэдняга» пісьменніка заўсёды ёсць фора перад «славутым». Многае яшчэ наперадзе – і сам не ведаеш, і іншыя не ведаюць, чаго ад цябе чакаць, – у адрозненне ад пісьменніка «славутага», які сваю вышыню ўзяў, у якога ўжо ўсё адбылося і застаецца толькі або спачываць на лаўрах, або спускацца ўніз: паўтарацца, выпісвацца, гнаць вал, без надзеі кагосьці чымсьці здзівіць"[2]. На думку апавядальніка, літаратура разлічаная на чытача, але аўтар нярэдка баіцца здрады чытацкай, бо ўнутрана адчувае адсутнасць узаемаразумення, рэцэптыўнай адэкватнасці: "Людзі вакол жывуць – ты адлюстроўваеш гэтае жыццё, усё піхаеш, усё ўкладваеш, як пракляты, самае лепшае сваё ў нейкі беспрацэнтны, банкруцкі банк – без надзеі на аддачу"[3].

А для для героя-пісьменніка з аповесці Франца Сіўко *Плебейскія гульні* (2015) літаратура – сродак пазбаўлення ад адзіноты, рэч глыбока асабістая. Герой-пісьменнік усведамляе сябе самадастатковай асобай, надзвычай востра і крытычна ставіцца да калег па "літаратурнаму цэху", хаця сам далёкі ад маральнай бездакорнасці. Карыкатурна выглядаюць у творы паэтка з "неўтаймоўнай схільнасцю да скаргапісання, даносаў", што "з уздымам распавядае пра тое, як днямі, у перапынку паміж шынкаваннем капусты і сартаваннем морквы разрадзілася ў выніку начнога азарэння яшчэ і рыфмаваным прадуктам, а назаўтра дзве гадзіны тлуміла ім галовы слухачоў падчас адной з сарака трох згарбузаваных і праведзеных ёю цягам апошняга месяца літімпрэзаў"[4]; "аўтар сусальна-рамантычных тэкстаў пра харство роднай зямлі і каханне"[5]

[1] *Ibidem*, с. 105.
[2] *Ibidem*, с. 101.
[3] *Ibidem*, с. 7.
[4] Ф. С і ў к о, *Плебейскія гульні*, Мінск 2015, с. 259.
[5] *Ibidem*, 275.

паэт В.; “схільны да філасофскіх рэфлексій”, “прыхільнік традыцыйных накірункаў у жывапісе і сардэчна-выгінальных вышукаў Рота і Мілера ў літаратуры”[1] паэт К.; нарысіст З., “чалавек зычлівы і прыязны, нават часам аж залішне, аж да навязлівасці, лічыць сябе ў горадзе за месію і дня не можа пражыць, каб не згарбузаваць пры першай жа нагодзе якую-небудзь творчую імпрэзу. На ўсіх калектыўных здымках З., як той персанаж з нататнікаў Чэхава, заўсёды стаіць паперадзе ўсіх, а любую спробу пасунуць яго ў сцэнары мерапрыемства хоць на міліметр ад лідарскай пазіцыі, то бок мікрафона, успрымае як нечуваную абразу”[2], яго мэта – забяспечыць сабе годнае месца ў капрызлівай памяці нашчадкаў. Мастацкае даследаванне літаратурнага асяродку Ф. Сіўко ўгрунтавана на вар’іраванні матываў вядомай працы Ёгана Хёйзінгі *Homo ludens*, на перакананні: “Гульня – гэта святое, усё нашае – з гульні”[3]. У гульні чалавек імкнецца прыхаваць сваю сутнасць, літаратура – гульня, адмысловая сутыкненнем людзей рознага ўзроўню таленту і чалавечых амбіцый.

Праблема ўзаемаадносін літаратуры і чытача, узятых і дыяхраніі і сінхраніі, – дамінантная ў прозе Людмілы Рублеўскай. У аповесці *Пярсцёнак апошняга імператара* (2001) пісьменніца доказна сцвердзіла, што літаратурная творчасць – найперш споведзь душы, што шчырая споведзь не пакідае чытача абыякавым. Адзін з герояў твора перакананы, што на раннім этапе нацыянальная літаратура, напрыклад, беларуская паэзія 1920-х гадоў, не можа быць арыгінальнай, не можа эстэтычна ўздзейнічаць на чытача, быць запатрабаванай ім: “Прабачце за кашчуннасць, але гэта так – ні Ясеніна, ні Ахматавай, ні нават Маякоўскага ў беларускай паэзіі дваццатых не магло быць. Адны правінцыйныя варыянты Дзям’яна Беднага. Змяшчай у кучу ўсе гэтыя іхнія руні ды палеткі ды паспрабуй адрозніць, якому Глебку-Жылку належаць, – не адрозніш! Ды яшчэ мова не распрацаваная, з русізмамі. Не думаю, што тыя вершы будзе перапісваць дзяўчынка, каб перачытваць і плакаць над імі. Наўрад ці юнак стане вучыць іх на памяць і ў яго будуць палаць шчокі і шчымець сэрца ад прагі жыцця і подзвігу. Не працытуе іх філосаф у роздуме пра жыццё і смерць. Творчасць таго пакалення, пры ўсёй павазе да яе, толькі кокан, шалупінне, з якога магла вырасці нацыянальная літаратура, вартая суседскіх”[4]. Апанент гэтага персанажа, гісторык па адукацыі, лічыць, што ўспрыманне літаратуры залежыць ад эмацыянальнага стану чытача і мастацкіх вартасцей твора: “«О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет… У ветры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасцеш». Я чытаў гэты верш, і ў мяне палалі шчокі, і хацелася подзвігаў… А мая маці спявала мне, ма-

[1] *Ibidem*, c. 293.
[2] *Ibidem*, c. 278.
[3] *Ibidem*, c. 285.
[4] Л. Рублеўская, *Сэрца мармуровага анёла: аповесці, апавяданні*, Мінск 2003, с. 53.

ленькаму: «Падаюць сняжынкі, дыяменты-росы, падаюць бялюткі за маім акном. Расчасалі вішні шоўкавыя косы і ўранілі долу снегавы вянок». І яшчэ пра тое, як «шэпчуцца явар з калінаю ў цёмнай даліне над ярам». І вочы яе вільгатнелі”[1]. На яго думку, літаратура – мастацкая гісторыя народа і часу; каб не захварэць на гістарычнае малакроўе, трэба ведаць сваіх аўтараў, сваю літаратуру. Мастацтва слова як феномен дыялогу пісьменніцкай і чытацкай свядомасці – лінія металітаратурнага ракурсу ў “паралельным” рамане *Золата забытых магіл* (2003) і ў *Пантофлі Мнемазіны* (2017). У *Рамане як дзяржаве* Мілерад Павіч заўважыў, што патрэбна новая тэхніка напісання твора, варта развіваць тэхніку нелінейнага аповеду: “Трэба стварыць такі твор, якім можна карыстацца як інтэрактыўнай прозай. Гэта патрабуе абсалютна іншай, новай тэхнікі напісання рамана або апавядання, – тэхнікі, якая загадзя прадугледжвае і забяспечвае розныя хады пры чытанні твора”[2], бо “мы маем справу не з крызісам самога рамана, а з крызісам чытання рамана. Такога рамана, які нагадвае вуліцу з аднабаковым рухам. Гэта значыць з крызісам графічнага аблічча рамана. З крызісам – кнігі”[3]. Л. Рублеўская свядома мадэрнізавала сістэму аповеду ў новым рамане *Пантофля Мнемазіны*. Галоўная гераіня твора – мадэратарка сайта фанфікшан. Змешчаныя там матэрыялы становяцца аб’ектам шырокага абмеркавання чытачоў, прычым іх меркаванні ўплываюць на выкладанне аўтарам гісторыі, карэктуюць нарматыўную стратэгію. У рамане разгортваюцца тры пераплеценыя паміж сабой апавядальніцкія гісторыі: гісторыя стварэння рамана, гісторыя Ірыны Корвус і гісторыя таленавітага доктара Люцыяна Корвуса, што заўсёды імкнуўся працаваць на карысць чалавецтва. Апавядальніца падкрэслівае, што ў пісьменніцкай працы фактычны матэрыял толькі дае штуршок, становіцца імпульсам для творчай дзейнасці, якая грунтуецца на аўтарскай канцэпцыі жыцця, на вымысле ў імя пераканаўчасці, інтэлектуальнага і эмацыянальнага ўздзеяння на чытача. Па прызнанні аўтара як героя рамана, пісьменнік – чалавек бязлітасны, ён абсалютна вольна абыходзіцца з персанажамі і жыццёвымі фактамі. Для напісання рамана пісьменніку найперш неабходна “фактуркі зараз нагрэбсці”[4]. Багатая “фактурка” гісторыі вечнага барацьбіта за праўду і справядлівасць Люцыяна Корвуса дастаткова поўна пададзеная ў запісах рэпрэсаванага геолага, гераіняй-пісьменніцай карэктуецца: “І я разумела, што напісаць менавіта так, як вычытала ва ўспамінах геолага, я не змагу. Гісторыя майго героя будзе іншай.

Так, балючай і трагічнай. Але іншай.

І можа быць, хтосьці з тых, хто яе прачытае, аднойчы адмовіцца выбіраць між ролямі ката, здрадніка і ахвяры.

---

[1] *Ibidem*, с. 54.

[2] М. П а в і ч, *Роман как держава*, Москва 2004, с. 20.

[3] *Ibidem*, с. 35.

[4] Л. Рублеўская, *Пантофля Мнемазіны*, “Дзеяслоў”, 2017, № 5 (90), с. 160.

Таму што застанецца чалавекам. Проста чалавекам на сваёй зямлі. Ну, неяк так”[1]. Пісьменніца іранічна разважае з сабой і дэкларуе: “Хопіць пафасу? Альбо яшчэ падкінуць? Я магу. Вось толькі не магу забыцца на забытых”[2].

Металітаратурны ракурс – адзін са складнікаў сэнсавага патэнцыялу беларускай прозы ХХ стагоддзя. Асноўныя тэматычныя лініі асэнсавання літаратуры – гэта літаратура і рэчаіснасць, сутнасць літаратуры, літаратура і пісьменніцкае асяроддзе, літаратура і чытач. У знакамітым артыкуле *Змена функцый літаратуры* (1986) Вольфганг Ізер сцвярджаў, што памерла не літаратура, а ранейшыя ўяўленні пра яе. Металітаратурная рэфлексія беларускіх празаікаў пацвярджае гэты вывад, бо яе праблематыка – дынамічны працэс, на які ўплывалі знешнія і ўнутраныя абставіны. Калі на пачатку ХХ стагоддзя ў цэнтры ўвагі былі культуралагічная і нацыястваральная функцыі літаратуры, то на пачатку ХХІ стагоддзя – перш за ўсё камунікатыўная з вялікай зацікаўленасцю да суадносін аўтара і чытача. Спосабы рэпрэзентацыі металітаратурнай рэфлексіі ў беларускай прозе ХХ стагоддзя дэтэрмінаваліся аўтарскай індывідуальнасцю: у адных аўтараў яна выяўлялася галоўным чынам праз аўтарскія, апавядальніцкія маналогі, маналогі персанажаў (Я. Колас, М. Гарэцкі, М. Стральцоў, У. Караткевіч, Ф. Сіўко), у іншых – галоўным чынам праз сюжэт, сістэму вобразаў (В. Ластоўскі, А. Мальдзіс, У. Арлоў, Л. Рублеўская).

*Vanda Barouka*

**Metaliterary Perspectives in Belarusian Prose of the 20th Century**

A b s t r a c t

A metaliterary perspective is an integral part of the semantic potential of Belarusian prose of the 20th century. The problem of the metaliterary reflection of Belarusian writers is a dynamic process. The main lines of understanding Belarusian prose of the 20th century are the following: literature and reality, the essence of literature, literature and the writing environment, literature and the reader. Various ways of realizing the metaliterary reflection were determined by the individuality of writers.

[1] *Ibidem*, с. 164.
[2] *Ibidem*.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Мікола Хаўстовіч**
Варшава

# Праблемы тэксталогіі беларускамоўных вершаў Вінцэся Каратынскага

У беларускім літаратуразнаўстве творчасць Вінцэся Каратынскага "з'явілася" яшчэ на пачатку XX стагоддзя[1]: спачатку "Наша ніва" надрукавала ягоны верш *Туга на чужой старане* (1912, № 49–50) з кароткаю інфармацыяй пра паходжанне рукапісу; пасля ў ёй жа Вацлаў Ластоўскі згадаў паэта ў артыкуле *Памажыце*! (1913, № 37–38). Узнаўленне ў газеце "Вольная Беларусь" – хутчэй за ўсё, Рамуальдам Зямкевічам – надрукаванага ў 1858 г. верша *Найяснейшаму яго міласці*...[2], пэўна ж, дало магчымасць зарэгістраваць (як ён сам пісаў) Яўхіму Карскаму ў аналах беларускае літаратуры паэта з Наваградчыны з ягонымі чатырма (*Наиясьнѣйшаму Ягó Милóсьци Гаспадарý Императáтару Алексáндру Микаля́явичу...*, *Daliboh-to, Arcim*..., *Tuha na czužoj staranie*, *Гутарка старога дзеда*) беларускамоўнымі тэкстамі[3], а Максіму Гарэцкаму ўвесці яго творчасць у навучальны працэс, змясціўшы тэксты В. Каратынскага ў *Хрыстаматыі*[4] і ахарактарызаваўшы іх у *Гісторыі беларускае літаратуры*[5].

---

[1] Заўважым, аднак, што ў канцы XIX ст. Б. Эпімах-Шыпіла зрабіў з асобніка дадатку да Віленскага альбома, які захоўваўся "W Uniwersyteckej bibliotece pod L 3500", рукапісную копію верша *Najjaśniejszamu Jaho Miłosci Haspadaru Imperatoru Aleksandru Mikołajewiczu*..., якая маецца цяпер у фондзе Ядвігі Раманоўскай у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гл.: БДАМЛіМ, ф. 394, воп. 1, адз. зах. 25, арк. 1–1 ад.: "Я. Лучына. *Wiasna*. Верш. В. Каратынскі. *Najjaśniejszamu Jaho Miłości Haspadaru Imperatoru Aleksandru Mikałajawiczu*... *Lepel*. Вершы. Рукапіс Б.І. Эпімаха-Шыпілы. 1892".

[2] *Найяснейшаму яго міласці гаспадару імператару Аляксандру Мікалаевічу песня з паклонам ад літоўска-русінскае мужыцкае грамады*, "Вольная Беларусь" 1918, № 41.

[3] Гл.: Е. К а р с к і, *Стары беларускі пісьменьнік Арцэм Дарэускі-Вярыга і яго літэратурны альбом*, "Беларусь" 1919, № 50 (77); ё н ж а, *Беларускія творы Вінцэся Каратынскага*, "Беларусь" 1920, № 4 (60); ё н ж а, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорусскаго племени*, кн. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 70–71.

[4] М. Г а р э ц к і, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 169–172.

[5] М. Г а р э ц к і, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920, с. 91–94; ё н ж а, *Гісторыя беларускае літэратуры*, выданьне другое (папраўленае), Вільня 1921, с. 91–94; ё н ж а, *Гісторыя беларускае літаратуры*, уклад. і падрыхт. тэксту Т. Г о л у б, Мінск 1992, с. 221–225 [узнаўл. трэцяга выдання]; ё н ж а, *Гісторыя беларускае літаратуры*, выд. чацьвертае, перарobленае, Менск 1926, с. 139–142.

Вульгарна-сацыялагічная метадалогія савецкае навукі канца 1920-х – пачатку 1950-х гг. фактычна пакінула па-за межамі літаратуразнаўчых даследаванняў спадчыну В. Каратынскага: ёй не знайшлося месца ні ў тагачасных хрэстаматыях[1], ні нават у аглядных артыкулах, прысвечаных літаратуры XIX стагоддзя[2]. (Як выключэнне, відавочна, трэба разглядаць нататкі пра В. Каратынскага гісторыка Фёдара Дамінікоўскага ды Ісідара Баса (на падставе выяўленай копіі *Альбома* Арцёма Вярыгі-Дарэўскага) у пасляваеннай перыёдыцы[3]).

І толькі на пачатку 1960-х гг. адбылося "вяртанне"[4] В. Каратынскага ў гісторыю беларускае літаратуры. Запачаткаваў яго Мацей Канапацкі невялікаю нататкаю ў беластоцкім штодынёвіку "Ніва"[5]: беларускія гісторыкі літаратуры ў гэтым допісе заўважылі магчымасць выявіць і ўвесці ва ўжытак беларускамоўныя вершы як В. Каратынскага, так і Уладзіслава Сыракомлі (менавіта ў мемуарах Бруна Каратынскага гаварылася пра праект супольнае беларускае кніжкі У. Сыракомлі і В. Каратынскага). Актыўна распрацоўваў дадзенае пытанне Адам Мальдзіс, дзякуючы публікацыям[6] якога стала магчымым змясціць раздзел пра паэта ў акадэмічнай гісторыі беларускае літаратуры[7], а таксама апублікаваць ва ўніверсітэцкай хрэстаматыі творы В. Каратынскага: цалкам *Найяснейшаму яго міласці...* (пад назваю *Уставайма, братцы*!.., як і ў хрэстаматыі М. Гарэцкага, адкуль перадрукоўваўся), *Daliboh-to, Arcim*... (у раздзеле *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага, дзе пададзена і зменшаная, а таму нечытэльная фотакопія верша), а таксама фрагменты *Гутаркі старога дзеда* і чамусьці скарочаны (хіба, ненаўмысна?) верш *Туга на чужой старане*[8].

Нейкіх іншых беларускамоўных твораў выявіць даследчыкам не ўдалося, а таму адзінай магчымасцю павялічыць корпус тэкстаў В. Ка-

---

[1] Гл.: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, пад рэд. Я. Купалы, склад. В. Барысенка, М. Ларчанка, Л. Фіглоўская, Мінск 1940; *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, пад рэд. Ю. Пшыркова, склад. В. Барысенка, М. Ларчанка, Л. Фіглоўская, Мінск 1950.

[2] Гл. напрыкл.: С. Майхровіч, *Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957; В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957 і інш.

[3] Гл.: [Ф. Дамінікоўскі], *Вінцэнт Каратынскі*, "Беларусь" 1946, № 7; І. Бас, *Забытыя імёны*, "ЛіМ" 1956, 13 кастр.

[4] У 1944 г., у Берліне, і ў 1964 г., у Лондане, верш В. Каратынскага *Туга на чужой старане* перадрукоўвалі паводле нашаніўскае публікацыі. Гл.: *Ой, ня будзе над радную... З творчасьці Вінцэся Каратынскага – піянера беларускае эміграцыі. Туга на чужой старане* ("Раніца" 1944, 28 траўня); Вінцэсь Каратынскі, *Ой саколка, ой галубка!* ("Божым Шляхам: Двумесячны часапіс беларускае рэлігійнае думкі" 1964, № 85, год XII, ліпень–жнівень, с. 18).

[5] М. Канапацкі, *Над мемуарамі Бруна Каратынскага*, "Ніва" 1961, № 41 (8 кастр).

[6] А. Мальдзіс, *Пісьменнік і публіцыст*, "ЛіМ" 1962, 27 сак.; ён жа, *Творчае пабрацімства*, Мінск 1966, с. 73–79 і інш.

[7] *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры*, у 2 т., Мінск 1969, т. 2, с. 44–47.

[8] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, с. 107–108, 118–120, 352–353.

ратынскага было засваенне ягонай польскамоўнай спадчыны. Праўда, давялося чакаць яшчэ дзесяць гадоў, пакуль беларускія літаратуразнаўцы "павярнуліся тварам" да польскамоўнай спадчыны ўраджэнцаў Беларусі: у 1981 г. Уладзімір Мархель (1940–2013) падрыхтаваў і выдаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" томік выбранага наваградскага літаратара[1]. Такім чынам, В. Каратынскі стаў першым з г. зв. беларуска-польскіх паэтаў XIX стагоддзя, уганараваных беларускамоўнаю кнігаю[2]. (Тут мы не згадваем Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлі, бо іх перакладныя кніжкі выйшлі ў – назавём так – неафіцыйнай серыі "польскія паэты", а таксама Янкі Лучыны, у томік твораў якога былі ўключаны дзевяць вершаў і ўрывак з паэмы *Абразкі з палявання* ў перакладах Міхася Клімковіча, Піліпа Пястрака, Міхася Машары, Канстанціна Цітовіча).

Усяго ў зборніку, апрача трох вядомых беларускамоўных твораў і фрагментаў двух агітацыйных гутарак часоў паўстання 1863–1864 гг., што прыпісваліся В. Каратынскаму, – васямнаццаць вершаў і асобныя раздзелы паэмы *Таміла*. Цікава, што са зборніка *Czym chata bogata*… укладальнік змясціў адзінаццаць (з дваццаці) твораў. Іншыя сем трапілі ў томік з тагачасных перыядычных выданняў („Biblioteka Warszawska", „Gazeta Warszawska", „Teka Wileńska"), а таксама з публікацыі *Album biograficzne zasłużonych Polaków i polek wieku XIX*.

У раздзеле *Нарысы, артыкулы* змешчана дзевяць тэкстаў (ці іх фрагментаў) В. Каратынскага ў перакладзе ўкладальніка, што складала больш за палову ўсяго зборніка і адлюстроўвала той факт, што літаратар з Наваградчыны больш плённа, хіба, працаваў на полі нарысістыкі і эсаістыкі, чым паэзіі.

У 1994 г. зноў жа ў "Мастацкай літаратуры" і зноў жа як літаратурна-мастацкае выданне выйшла другое – так пазначана ў выходных дадзеных кніжкі – выданне твораў В. Каратынскага, укладзеных зноў жа У. Мархелем[3]. Па сутнасці, гэта новая беларускамоўная кніга літаратара XIX стагоддзя: аб'ём тэкстаў павялічаны тут больш чым у два разы. Тут знайшлося месца амаль усім творам зборніка *Czym chata bogata*… (апрача перакладу верша П'ера Жана Беранжэ *Powołanie*), а лік тэкстаў з перыядычных выданняў, а таксама з рукапісаў, выяўленых у архівах, павялічыўся ў больш чым тры разы. У выніку маем, апрача трох беларускамоўных, сорак адзін верш (дваццаць тры спецыяльна

[1] В. К а р а т ы н с к і, *Творы*, уклад., прадм. і камент. Ул. Мархеля, Мінск 1981, 174 с.

[2] Цягам апошніх дзесяцігоддзяў томікаў выбраных твораў "дачакаліся" наступныя, апрача В. Каратынскага, літаратары Беларусі XIX стагоддзя: Я. Лучына, Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, У. Сыракомля, Кастусь Каліноўскі, Аляксандар Ельскі і Адам М–скі (Зоф'я Тшачкоўская). Гл.: Г. К і с я л ё ў, *Праблема беларускамоўнай кніжкі Каратынскага* [у:] *Вінцэсь Каратынскі ў беларуска-славянскім літаратурным узаемадзеянні: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі* (Мінск, 29 верасня 2006 г.), Мінск 2006, с. 42–52.

[3] В. К а р а т ы н с к і, *Творы*, уклад., прадм. і камент. У. Мархеля, 2-е выд., дап., Мінск 1981, 406 с.

перакладзеныя для гэтага выдання), цалкам паэму *Таміла*, вершаванае апавяданне *Выпіў Куба да Якуба*. Ці не ўсё, што было створана В. Каратынскім на паэтычнай ніве. Перакладчыкі (Генадзь Тумас, Раіса Баравікова, Пятро Бітэль, Галіна Дубянецкая, У. Мархель і Рыгор Барадулін), на жаль, не заўсёды ашчадна ставіліся да аўтарскай задумы, не заўсёды вытрымлівалі ідэйна-сэнсавы ўзровень арыгіналу[1].

Не зусім зразумела, чаму, нягледзячы на адсутнасць цэнзуры, укладальнік пакінуў у новым выданні тыя самыя фрагменты з *Гутаркі старога дзеда* і *Гутаркі двух суседаў*, хоць была магчымасць ці не ўпершыню ў XX стагоддзі надрукаваць гэтыя, нядаўна крамольныя, антыцарскія творы.

У два разы павялічыўся раздзел *Артыкулы, нарысы*, аднак, хоць і складае ён амаль 70% аб'ёму кнігі, уяўляецца нам недастатковым, бо падае трыццацігадовую журналісцкую і публіцыстычную дзейнасць В. Каратынскага надзвычай фрагментарна. А трэба ведаць, што ў больш чым пяцідзесяці выданнях[2] другое паловы XIX стагоддзя друкаваліся тэксты "барадатага ліцвіна" – так яго пры жыцці называлі ў Варшаве.

Бясспрэчна карысным з'яўляецца ў кнізе раздзел *Лісты*. Іх тут адзінаццаць – да Адама Кіркора, У. Сыракомлі, Эдварда Паўловіча, Яна Карловіча і інш. І зноў жа – гэта мізэрная частка нават з тых, ужо выяўленых сёння. Здзіўляе, што ў зборніку не знайшлося месца надзвычай цікавым лістам пісьменніка да Адама Плуга, у якіх аўтар спрабуе патлумачыць асаблівасці свае творчае манеры.

Праблема "кнігі В. Каратынскага" нібыта і вырашана У. Мархелем, але застаецца шэраг пытанняў, на якія давядзецца адказваць наступнаму пакаленню гісторыкаў літаратуры: "У перспектыве бачацца больш або менш шырокія спробы фундаментальнага выдання твораў Каратынскага на мове арыгінала з перакладамі на беларускую мову, як таго, прынамсі ў ідэале, патрабуе акадэмічная навука"[3].

На жаль, сёння бракуе не толькі кваліфікаваных перакладчыкаў паэзіі ды публіцыстыкі В. Каратынскага, але і даследчыкаў ягонае творчасці. Спроба У. Мархеля прыцягнуць да вывучэння спадчыны пісьменніка маладых навукоўцаў, дзеля чаго была арганізаваная Рэспубліканская навуковая канферэнцыя, не прынесла асаблівага плёну: зацікаўленасць большасці выступоўцаў прапанаванай тэматыкай была, можна сказаць, выпадковай, а знаёмства з прадметам даследавання даволі павярхоўным.

---

[1] Пра гэта гл.: А. Б р а з г у н о ў, *Беларуская інтэрпрэтацыя паэзіі Вінцэся Каратынскага* [у:] *Вінцэсь Каратынскі ў беларуска-славянскім літаратурным узаемадзеянні: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі* (Мінск, 29 верасня 2006 г.), Мінск 2006, с. 72–78.

[2] K. E s t r e i c h e r, *Bibliografia polska XIX stulecia*, Kraków 2015, t. XVIII, s. 92.

[3] Г. К і с я л ё ў, *Праблема беларускамоўнай кніжкі Каратынскага* [у:] *Вінцэсь Каратынскі ў беларуска-славянскім літаратурным узаемадзеянні: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі* (Мінск, 29 верасня 2006 г.), Мінск 2006, с. 51.

Наперадзе новы, ужо не навукова-папулярны, а акадэмічны этап вывучэння жыцця і творчасці В. Каратынскага. А пачаць яго трэба, уласна, з беларускамоўных твораў паэта. І гэта тым больш важна, што іх навуковае публікацыі яшчэ не было.

### *Найяснейшаму Яго Мілóсці Гаспадару Імператару*

Гісторыя ўзнікнення гэтага верша высветлена не дастаткова добра. Перадусім, калі ў чэрвені 1858 г. на пасяджэнні Віленскай археалагічнай камісіі, якая дзейнічала пры Віленскім музеі старажытнасцяў, абмяркоўвалася пытанне падачы цару адраса, дык, відавочна, не было яшчэ гаворкі пра тэксты на "народных" мовах. Не зусім зразумела, хто з'явіўся ініцыятарам гэтага "праекта" ўвогуле. А ім мог быць як нехта з шаснаццаці сапраўдных сяброў камісіі [напрыклад, яе старшыня Яўстах Тышкевіч (1814–1873), які выношваў ідэю аднаўлення Віленскага ўніверсітэта], так і віленскі генерал-губернатар Уладзімір Назімаў (1802–1874). І хутчэй апошні: дастаткова згадаць, што менавіта ён у 1857 г. ініцыяваў паданне адраса шляхты Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў з просьбаю адмяніць прыгоннае права пры ўмове захавання памешчыцкай зямельнай уласнасці.

Да 2 жніўня 1858 г. рукапіс будучае "Памятнае кнігі" быў падрыхтаваны. "Коллежскій асессоръ" Адам Кіркор (1818–1886) у гэты дзень падаў[1] яго цэнзару Паўлу Кукальніку (1795–1884), які ўжо 4 жніўня даў дазвол на друк. Кніга *Въ память пребыванія Государя Императара Александра II въ Вильнѣ, 6 и 7 Сентября 1858 г. Изданіе Виленской археологической комиссии // Na pamiątkę pobytu Najjaśniejszego Cesarza Jego Mości Alexandra II w Wilnie 6 i 7 Września 1858. Wydanie Kommissii archeologicznéj wileńskiéj* складалася з тэкстаў чатырох аўтараў, сапраўдных сяброў Віленскай археалагічнай камісіі: Антона Эдварда Адынца (верш *Przyjdź królestwo Boże*!), Ігнацы Ходзькі (эсэ *Dzień 6 i 7 Września w Wilnie 1858*), А. Кіркора (артыкул *Историко-статистическіе очерки города Вильно*) і Мікалая Маліноўскага (артыкул *La Lithuanie depuis l'avènement au trône de Sa Majesté l'Empereur Alexandre II*).

Толькі пасля выхаду кнігі з друку, узнікла, відавочна, ідэя далучыць да адраса прывітальныя тэксты ад імя сялянскае грамады і на мовах вясковага насельніцтва губерняў, якімі кіраваў У. Назімаў. Ініцыятыва зноў жа магла паходзіць ад генерал-губернатара, які быў надзвычай актыўны ў працы па "сялянскім пытанні", ці, перадусім, толькі з ягонага дазволу. Верш Мікалоюса Акялайціса (1829–1887) *Jo Milestaj Szwiesiausiam Ciesoriuj Alexandruj II, wieszpacziuj wisos rosijos, lanku karaluj, pinu ir lietuwos żemes didżiamjam kunugajkszcziuj, tejpat wałdonuj daugiaus kitun żemiu, o musu Garbingiausim Ponuj // Его Импера-*

[1] Пазней А. Кіркор пярэчыў, што з'яўляўся выдаўцом альбома: "wydawcą miał być A.H. Kirkor, czemu zresztą on sam zaprzeczył" (паводле: K. E s t r e i c h e r, *Bibliografia polska: Cz. 1: Stulecie XIX*, Warszawa 1977, t. II, s. 85).

*торскому Величеству Александру II, самодержцу всероссійскому, царю польскому, великому князю литовскому и финляндскому и многихъ иныхъ странъ обладателю, нашему Всемилостивѣйшему Государю*[1] быў напісаны 17/29 жніўня 1858 г., а 5 верасня П. Кукальнік даў дазвол на друк. Відавочна, што і беларускі тэкст В. Каратынскага з'явіўся прыкладна ў гэты час, бо подпіс віленскага цэнзара таксама датуецца 5 верасням 1858 г.

Сам В. Каратынскі наступным чынам падаў гісторыю напісання твора: "Дзякуючы яго (І. Ходзькі. – *М. Х.*) артыкулу ў кніжцы ў памяць бытнасці імп. Аляксандра ў Вільні я спатыкнуўся і напісаў надрукаванае тамсама *antidutum*, за якое быў адхвастаны як апошні адступнік"[2]. Гэта трэба разумець так: прачытаўшы эсэ І. Ходзькі *Dzień 6 i 7 Września w Wilnie 1858* і, вельмі верагодна, атрымаўшы заданне прывітаць цара ад імя беларускіх сялян, В. Каратынскі ў якасці "творчага стымулу" выкарыстаў думкі аўтара славутых *Літоўскіх малюнкаў* пра дачыненні земляўласнікаў і сялянаў "на Літве": "Літва, край, моцна прывязаны да сваіх традыцый, край, жыхары якога – кожны пад сваёй роднаю страхою, ля хатняга агменю – рады працягваць і як найдаражэйшую спадчыну пакінуць нашчадкам Хрысціянскія Цноты і Звычаі прадзедаў; кожны ў гэтых самых звычаях і цнотах знайшоў сардэчную пабудку сведчання дабра тым, з якімі яго ад вякоў лучыць хутчэй патрыярхальная, маўляў, бацькоўская апека над дзяцьмі, чым панская ўлада над падданымі. І таму Літоўская шляхта, дзеля вялікіх ідэй і намераў Наймілацівейшага Імператара, са спісу сваіх правоў і ўласнасці, уласнасць чалавека над чалавекам першая скрэсліла: яднаючы гэтым чынам Найвышэйшае задавальненне і давер Манарха, у выніку чаго ЁН самой шляхце, дзеля новых кантактаў і дачыненняў краёвага грамадства меў ласку даручыць разгляд і прыгатаванне новых законаў"[3].

Добра арыентуючыся ў грамадска-палітычным жыцці свайго краю, В. Каратынскі ведаў, што І. Ходзька быў адным з тых, хто катэгарычна пярэчыў спробам "вызвалення сялян": "Калі з даручэння ваеннага губернатара з'ехаліся ў Вільню ўсе маршалкі паветаў, каб адрэдагаваць петыцыю імператару пра дазвол урэгулявання сваіх дачыненняў з сялянамі, <…> адбылося колькі бессэнсоўных пасяджэнняў і нарэшце большасць згадзілася на нейкую петыцыю, што выяўляла ў агульных рысах жаданне палепшыць быт сялянаў. Знайшліся два ўпартыя апаненты ўсялякіх пераменаў сучаснага стану рэчаў, даводзячы, што ўся-

[1] Надрукаваны ананімна: „Wargdienis isz Lietuwos wardąn sawo broliu // Литовскій крестьянинъ, отъ имени своихъ братьевъ".

[2] В. Каратынскі, *Ліст да Уладзіслава Сыракомлі* [у:] В. Каратынскі, *Творы*, выд. 2-е, дап., Мінск 1994, с. 363.

[3] *Въ память пребыванія Государя Императара Александра II въ Вильнѣ, 6 и 7 Сентября 1858 г. Изданіе Виленской археологической комиссіи // Na pamiątkę pobytu Najjaśniejszego Cesarza Jego Mości Alexandra II w Wilnie 6 i 7 Września 1858. Wydanie Kommissii archeologicznéj wileńskiéj*, Вильно 1858, с. 10.

лякая мадыфікацыя ў сённяшніх умовах дачыненняў пана да селяніна пагражае заняпадам земляробства, эпідэмічным гультайствам сялянаў, канфліктамі паміж імі і ўладальнікамі. Гэтымі апанентамі былі: віленскі губернскі маршалак Дамейка і славуты сваімі творамі грамадзянін Ігнацы Ходзька. Не падпісалі яны агульнай петыцыі, але кожны асобна далучыў да яе ў форме тлумачэння свой пратэст. Вестка пра тое, што нібы ўсё кола маршалкаў не захацела зусім нічога зрабіць для сялянаў, хутка распаўсюдзілася і абурыла ўсіх. Пачцівы літоўскі пясняр *Dęboroga*[1] пад уражаннем напісаў цудоўны вершык, які віленцы зычліва прынялі”[2].

Тлумачэнне В. Каратынскага знаходзіць пэўнае пацвярджэнне і ў прывітальным тэксце І. Ходзькі, і ў ягонай дзейнасці ў “сялянскім камітэце”: беларускага паэта магла абурыць крывадушная пастава славутага пісьменніка. Праўда, супрацьяддзе (“antidutum”) у вершы выяўляецца даволі апасродкавана, хіба, праз спадзяванне, што з дапамогаю імператара “бра́тамъ ста́не па́нъ”. А вось залішне нізкі паклон “Гаспада́ру кра́я” выразна заўважаецца ў духу і літары верша. Зрэшты, эйфарыяю ад чаканых пераменаў перахварэлі ці не ўсе тагачасныя ліцвіны. Хіба толькі У. Сыракомля здолеў ухіліцца ад “гонару” праспяваць у хоры віленскай інтэлігенцыі, а, дачуўшыся, пэўна, пра першыя праявы патрыятычнага гневу эміграцыі, годна стаў на абарону сваіх калегаў, свайго асяроддзя, заявіўшы, што “Głupi kto wierzy, // Że oni szczerzy – // «Sachar-Maroz!»”[3].

Папулярнага на Бацькаўшчыне верша У. Сыракомлі, пэўна, не ведаў Валяр’ян Тамашэвіч (1819–1861), які далучыўся да тых, хто бязлітасна асуджаў “адступніцтва” былых сяброў і знаёмых.

У сувязі з тым, што дадатак да кнігі *Въ память пребыванія*... быў усё ж асобным выданнем і, відаць, не заўсёды далучаўся да яе, ды, магчыма, друкаваўся меншым накладам[4], не ўсе эміграцыйныя крытыкі[5] ведалі

---

[1] Маецца на ўвазе Уладзіслаў Сыракомля і ягоны верш *Sachar maroz*.

[2] [W. T o m a s z e w i c z], *Album Wileńskie*, „Przegląd rzeczy polskich” 1860, nr 3, s. 5–6.

[3] W. S y r o k o m l a, *Poezje wybrane*, Kraków 2003, s. 26.

[4] У бібліяграфіі К. Эстрайхера сцвярджаецца, што кніга *Въ память пребыванія*... выйшла накладам у 100 асобнікаў. Але на асобніку Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве маецца прыклееная картка наступнага зместу: “Do księgozbioru Józefa Ignacego Kraszewskiego niniejsze dzieło złożone Cesarzowi Alexandrowi II w muzeum Wileńskim 6º września 1858 roku, odbite w ***150 exem***. (вылучэнне нашае. – *M. X.*), z polecenia Tow. archeol. składa *AHKirkor*”. Думаецца, выдавец альбома дакладна ведаў колькасць надрукаваных кніжак.

[5] Напрыклад, Карнэль Уейскі ў артыкуле *Listy z pod Lwowa: O Albumie wileńskim* (“Dziennik Literacki” 1860, nr 34, 27 kwietnia) пісаў: “Я не ведаю, адкуль рэдакцыя “Dziennika Literackiego” атрымала вестку, што ў *Альбоме віленскім* змешчаныя творы, апрача чатырох ужо названых, яшчэ Вінцэнта Каратынскага і нейкага з неўяўненым прозвішчам жмудзінскага вершаскладальніка. «Dziennik Paryski», паінфармаваны, здаецца, як найлепей, працытаваў чатыры, што ішлі адзін за адным, артыкулы кнігі чатырох, пастаўленых намі пад ганебны слуп, аўтараў, не згадваючы аніякага Вінцэнта Каратынскага і аніякага вершаскладальніка са

пра ўдзел М. Акялайціса і В. Каратынскага ў такім ганебным, на іх погляд, "праекце", а таму толькі В. Тамашэвіч падрабязна прааналізаваў творы "народных паэтаў"[1]. Ягоны артыкул *Album Wileńskie* дастаткова часта[2] згадваўся ў працах беларускіх літаратуразнаўцаў. Звычайна, цалкам пагаджаючыся з крытыкай на адрас А.Э. Адынца, І. Ходзькі і М. Маліноўскага, бо "яны якраз і былі аўтарамі твораў з празмернымі ўсхваленнямі цара", гісторыкі літаратуры сцвярджалі, што В. Каратынскі і М. Акялайціс "напісалі па сутнасці ад імя сваіх прыгнечаных народаў далёка не панегірычныя «вітанні» аўгусцейшаму манарху, прычым на афіцыйна непрызнаных мовах – беларускай і літоўскай. Цікава, што вершы Каратынскага і Акялайціса былі надрукаваныя на асобна ўкладзеных лістах. Верагодна, альбом задумваўся без гэтых твораў, таму яны і ўвайшлі ў яго як дадатак. Відаць, гэта вынік ваганняў Каратынскага і Акялайціса, якія спачатку ў чымсьці не падзялялі спадзяванняў выдаўцоў альбома на грамадскія рэформы новага цара"[3]. Сцвярджалася гэта, відаць, адно на падставе сумненняў У. Сыракомлі ў шчырасці "пісьменнікаў". Бо самі тэксты В. Каратынскага і М. Акялайціса выяўляюць якраз і празмерныя ўсхваленні цара, і "панегірычныя «вітанні» аўгусцейшаму манарху". Ды і сам В. Каратынскі шчыра прызнаваўся, што ён "спаткнуўся". А таму надзвычай цікаваю падаецца характарыстыка твора і асобы беларускага паэта, якую даў у сваім артыкуле В. Тамашэвіч:

"Як дадатак да разгледжанай кніжкі надрукаваная была і таксама пададзеная цару брашура на адзінаццаці старонках такога ж няправільнага фармату[4], што змяшчала два, нібы народныя, паэтычныя творы: адзін, меншы, па-жмудску з расейскім перакладам побач... <...>

Жмудзі. Хто кідае такое страшнае абвінавачванне, павінен быць больш асцярожным. Патрабую ад рэдакцыі "Dziennika Lit.", каб назвала крыніцу, адкуль узяла вестку пра гэтыя дзве асобы". У гэтым жа нумары газеты рэдакцыя ў раздзеле "Przewodnik" (частка: *Dodatek do Albuma Wileńskiego*) змясціла некалькі фрагментаў з артыкула В. Тамашэвіча ў „Przeglądzie rzeczy polskich".

[1] Арыкул *Album Wileńskie* змешчаны ананімна ў „Przeglądzie rzeczy polskich" як карэспандэнцыя ад 15 жніўня 1859 г. з Беластоку. У якасці эпіграфа выкарыстоўваюцца радкі Гамера ў перакладзе на французскую мову: "Quand un homme tombé dans l'esclavage, // Jupiter lui enleve la moitié de son ame" ("Калі чалавек трапіў у рабства // Юпітар забірае палову ягонае душы") з кнігі філосафа П'ера Леру (1797–1871) *Quelques pages de Vérités* (*Асобныя старонкі праўды*), што выйшла ў Парыжы ў 1859 г.

[2] Упершыню падрабязна ахарактарызаваў яго І. З а п р у д с к і. Гл. артыкул: *"Віленскі альбом" і верш В. Каратынскага* УСТАВАЙМА, БРАТЦЫ... *ў ацэнках эміграцыйнага друку* [у:] *Вінцэсь Каратынскі ў беларуска-славянскім літаратурным узаемадзеянні: Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі (Мінск, 29 верасня 2006 г.),* Мінск 2006, с. 64–71.

[3] У. М а р х е л ь, *Творчасць Уладзіслава Сыракомлі*, 2-е выд., дап. і перапрац., Мінск 2005, с. 58–59.

[4] Фармат абодвух выданняў – *in quarto*: аркуш паперы, які дае чатыры карты ці восем старонак кнігі.

Наступны, значна большы, напісаны на беларускім дыялекце верш друкуецца на адной старонцы літарамі польскімі, а на другой – расейскімі, а тытул мае наступны: *Najjaśniejszamu Jaho Miłosci Haspadaru Imperatoru Aleksandru Mikołajewiczu, piesnia z pokłonom Ad Litewsko-Rosinskoj Mużyckoi Hramady spisav Vincéjś Korotyński*. З эпіграфам са Святога пісьма. Тут ужо аўтар *Тамілы* выступае пад сваім прозвішчам. Трэба здзіўляцца ягонай грамадзянскай адвазе; вельмі шкада, што не ведаем прозвішча жмудскага песняра, хоць падазрэнне можа падаць на аднаго з тых трох, хто ў Вільні піша літаратурныя творы на гэтай мове. У скарачэнні падаём, пра што спявае п. Каратынскі ад імя беларускай сялянскай грамады, а дзеля ўзору ягонае спадлелае музы працытуем пачатковую страфу:

Vstavajmo, bratcy, da dzieła, da dzieła!
Z pǒvnaczy piěvień załopav kryłom.
Nieże, kab żyvo rabota pospiěła,
Vysłać haściniac żovciańkim piaskǒm.

Змест працягу наступны. “Грамадка з ахвотаю, сардэчна начапляе на сябе торбы з пяском (дзеля таго, каб высыпаць дарогу), бо збліжаюцца дарагія госці; едзе вялікі пан шырокіх земляў, о верная служба! За ім цягнецца доўгая стужка *дабра і шчасця*. Калі Пан Бог хадзіў па зямлі, то кожны слаў яму пад ногі світы і зялёныя ружачкі, а што мы сёння падсцелем свайму дабрачынцу? О, узыдзі сонейка! і скажы, што рабіць. Дзе яго прымем? Чорная нашая хата, а залатых тканінаў не даў нам Бог: наймілейшая нам маці-зямля, а залаты пясок на яйкі (na jaja zbił się) збіўся. Цябе на плячах, зямля дарагая, нясу вялікаму госцю пад ногі, але раса змочвае пясок, о выйдзі сонейка, забяры расу”. І тут паказваецца, разліваецца заранак, міргаюць зоркі, размаўляюць з грамадою, і шчасце, бо “братам стане пан”; але імгла лягла на палі, о сонейка, разгані імглу! І сонца загадвае засвяціцца дню, высушыць расу, а птушкам дапамагаць спяваць; тут ідзе параўнанне: “І наша сонца да нас прыязджае, *дабро і шчасце* ён рассейвае; будзь здаровы, вялікі гаспадар краю, будзь здаровае, сонейка, паклон табе, паклон”.

Яшчэ раз паўтараем: якім правам пан Каратынскі становіцца выстуном нейкае нібы ўдзячнасці беларускага люду за неатрыманыя ад цара ласкі? Ці ж таму, што сам паходзіць з люду? Ці ж замена сярмягі на тужурак[1] магла гэтак прынізіць і адначасна асмеліць паэта, які шмат абяцаў? Ці ж ад пачцівага ўзору працаў аўтара *Margiera*[2] выйшла такая прафанацыя паэзіі? гэта так хутка арыентуецца ў сітуацыі талент?.. Заўважалі мы калісь у *Таміле* вялікае майстэрства і нейкую бясхарактарнасць, нейкае недаравальнае няведанне, дзе знаходзіцца крыніца зла. У пакутніцкім жыцці Тамілы ніхто не віноўны: ні пан, ні ўрад, ні нешчаслівы селянін; нейкі фаталізм, нейкая святая неабходнасць хоча

[1] Тужурак – доўгі мужчынскі сурдут (ад франц. tout jour ‘кожны дзень’).
[2] У. Сыракомлі.

нічым незаслужанага няшчасця. Такую вось апатычнасць у намерах трэба сустракаць у творы народнага паэта? Але ніхто не спадзяваўся ў аўтары *Чым хата багата, тым рада*, у перакладчыку Беранжэ заўважыць бяздарнага аўтара песні з паклонам, карэспандэнта, што ў "Gazecie Warszawskiéj" апраўдвае славуты гімн Адынца[1], клічучы на пасвядчэнне святыя душы Міцкевіча і Клаўдыі Патоцкай!... Вядома п. Каратынскаму, што гэтак званае *сялянскае пытанне* – прычына ўсіх гэтых выяўленняў павагі і ўдзячнасці – пра якое гаворыцца ў царскім рэскрыпце, у пастановах Камітэтаў, у *праектах пра паляпшэнне быту сялян*, зусім не мае на мэце паляпшэнне іхняга лёсу, г. зн. змены іхніх правоў як людзей; гэтыя праекты абмяжоўваліся толькі як найдаражэйшым ачыншаваннем. Стан сялянаў аніяк не змяніўся. Яны – як і былі ад падзелаў краю – самыя нешчаслівыя парыі сённяшніх еўрапейскіх народаў. Як амерыканскія негры і неагільдаваныя ў нас жыды. Прыгнечаныя, як аніякая іншая сёння каста, з пастаяннаю не на сябе працаю, без амаль усялякай уласнасці, з вялікімі падаткамі, з дзікунскаю рэкрутчынаю на палову жыцця ў царскае войска, куды злачынцаў у якасці кары адсылаюць, яны не маюць аніякіх правоў, якія забяспечвалі б ім асабістую чалавечую годнасць; бо кожны вышэйшы ўладаю, маёнткам ці нараджэннем можа іх балесна зневажаць, збіць нават без адказнасці. Словы *хлоп* і *хам* лаянкавымі сталі; анідзе не можа трапіць селянін, не кажу пра забавы, але нават у багатыя касцёлы і суд; дамагацца там селяніну справядлівасці ані вусна, а тым больш на пісьме немагчыма. За ўсялякія скаргі да найвышэйшае ўлады на злоўжыванні ніжэйшых чыноўнікаў ці паноў караюць сялян як за злачынствы. Ці ж стан літоўскіх падданых зазнаў хоць найдрабнейшае палёгкі за час панавання Аляксандра II? Ці далі ім хоць крыху грамадзянскіх правоў? З якой жа шатанскаю сумленнасцю можна ад імя гэтага беднага люду ганараваць цара за дабрадзействы? Калі ў выніку мадыфікацыі дачыненняў з панамі іхні матэрыяльны быт трошкі палепшыцца, то яны, аднак, застануцца ранейшымі парыямі сярод класаў ці расаў нашага грамадства. Не хапае слоў, каб выказаць балеснае абурэнне, якое ў нас выклікала адступніцтва п. Каратынскага; калісь мы марылі бачыць у ім будучага трыбуна люду, бо, паходзячы з яго, ён ведае ўсе ягоныя патрэбы, а адначасна і крыўды, атрымаўшы ж адукацыю не на подлай руціне ўрадавае школы, а на ўзорных польскіх пісьменніках, хуткім крокам прайшоў пачатковыя ступені разумовага развіцця і, збратаўшыся з патрыятычнаю літаратураю, здаецца, быў добрым палякам... Якое ж узнёслае паняцце пра значэнне польскае песні выказаў ён у вершы на імяніны Сыракомлі! Не можам стрымацца, каб не працытаваць адну страфу, дзе гэтак кажа, чым з'яўляецца песня для Айчыны:

Czy wam nieznana ta postać senna,
W ciężkim letargu dawno złożona?

[1] На жаль, выявіць дадзеную карэспандэнцыю В. Каратынскага ў "Gazecie Warszawskiej" пакуль не ўдалося.

Sama dla siebie dziś bezimienna,
Żyje oddechem mojego łona.
Ja jéj ochraniam duch nieskalany,
Grzeję jéj dłonie by nieskostniały;
Ja balsam życia. Kto mój wybrany
Do wieńca cierpień i wieńca chwały?

Ці ж павінна беларуская песня мець ужо іншае прызначэнне, чым песня польская?.. Відаць, прадчуваў гэта паэта, калі кажа далей:

Widzę jednego mogiłę dużą,
Drugi sierota jeszcze w oddali…
*A inni Bogu niezbożnie służą,*
*W nędznych ulikach myśl zakopali*!...[1]

Страшэннае адшчапенства! Зухаватае, нікчэмнае адступніцтва ад сябе і шляхетных пачуццяў!.. З пагардлівым маўчаннем глядзелі б мы на аднаасобную, выключную, што не мае згубных наступстваў для грамады, подласць, але калі адступніцтва пайшло ажно ад шасцёх прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі на Літве, калі ажно трое паэтаў (а адзін колісь былы прыяцель вялікага Адама), пісьменнік, гісторык і археолаг выступаюць ад імя перакананняў усяе правінцыі, ад імя несвядомага люду, мы рады былі б увесь енк нашае прыгнечанае Айчыны перамяніць у такое моцнае пракляцце, каб задушыць, як атрутную гадзіну, тых самазванцаў і адшчапенцаў!..”[2].

Верш В. Каратынскага даследчыкі літаратуры згадвалі яшчэ ў XIX стагоддзі: Аляксандар Пыпін, хоць і не бачыў віленскіх выданняў (сцвярджаў, што паэт змясціў свой твор у *Альбоме*: “отъ имени народа на бѣлорусскомъ языкѣ”[3]), але, карыстаючыся эміграцыйнымі выданнямі 1860-х гг., залічыў беларускага паэта да ліку “пакараных” Юльянам Клачкам і К. Уейскім. А вось Я. Карскі ў другім і трэцім тамах *Бѣлоруссовъ* апісаў, а пасля падаў “это рѣдкое стихотвореніе <…> полностью съ сохраненіемъ дажѣ тогдашней орфографіи”[4].

Асобнікаў дадатку да *Альбома* захавалася няшмат: восем з іх у Літве [Літоўская нацыянальная бібліятэка імя Мартынаса Мажвідаса = Lietuvos nacionalinė Martyno Mažvydo biblioteka (Dt44845,

---

[1] В. Тамашэвіч цытуе верш В. Каратынскага *Pieśń wdowa*. Твор друкаваўся ў часопісе „Teka Wileńska” (1858, nr 4, s. 7–8). Аднак аўтар артыкула карыстаецца не яго часопіснай рэдакцыяй, а нейкай іншай ці ўзнаўляе тэкст па памяці. На нашу думку, тытул верша па-беларуску трэба падаваць як *Песня-ўдава*, а не *Песня ўдавы,* як гэта гучыць у перакладзе Пятра Бітэля. Гл.: В. К а р а т ы н с к і, *Творы*, выд. 2-е, дап., Мінск 1994, с. 103–104.

[2] [W. T o m a s y e w i c z], *Album Wileńskie*, „Przegląd rzeczy polskich” 1860, nr 3, s. 30, 31–34.

[3] А. П ы п и н, *Исторія русской этнографіи*, т. 4: *Бѣлоруссия и Сибирь*, С.–Петербургъ 1892, с. 64.

[4] Е. К а р с к и й, *Белорусы*, в 3 т., т. III, кн. 2: *Очерки словесности белорусского племени*, Минск 2007, с. 298. Гл. таксама: ё н ж а, *Бѣлоруссы,* т. II: *Языкъ бѣлорусскаго племени*, кн. 3: *Очерки синтаксиса бѣлорусскаго нарѣчія*: *Дополненія и поправки*, С.–Петербургъ 1912, с. 319–321.

A14/858), Літоўская акадэмія навук = Lietuvos Mokslų Akademijos (LK-19/937), Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта = Vilniaus universiteto biblioteka (LR533, LR2288), Бібліятэка інстытута літоўскае літаратуры і фальклору = Lietuvių literatūros ir tautosakos instituto biblioteka (1738, разам з *Въ память пребыванія*..., 7380 – дэфектны), Nacionalinio publikuotų dokumentų archyvinio fondo = Нацыянальны архіўны фонд апублікаваных дакументаў (E 35027/1858)][1], а тры ў іншых бібліятэках [Ягелонская бібліятэка = Biblioteka Jagiellońska (9353/III, дар Круповіча), Расейская нацыянальная бібліятэка = Российская национальная библиотека (Литов.4-603), Славянскі фонд Бібліятэкі Расейскай акадэміі навук = Славянский фонд Библиотеки Российской академии наук (XXIV/в 519) і Брытанская бібліятэка = British Library (1572/252)].

Асаблівую цікавасць уяўляе рукапіс Віленскага альбому, які захоўваецца ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх = Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka. У ім – аўтографы А. Кіркора, М. Маліноўскага, І. Ходзькі, А.Э. Адынца, М. Акялайціса і В. Каратынскага. Паходзіць ён, хутчэй за ўсё, з архіву друкарні Завадскіх, мае пазнакі цэнзара П. Кукальніка. Што датычыць тэксту В. Каратынскага, то рукапіс адрозніваецца ад друкаванае версіі, па-першае, наяўнасцю спасылкі-тлумачэння вымаўлення беларускіх гукаў [ў] (у паэта ён палучаны з гукам [в]) і [г][2], па-другое, – рэкамендацыі як друкаваць словы, падкрэсленыя ці адной, ці то дзвюма рыскамі, па-трэцяе, у рукапісе адсутнічае эпіграф[3].

Звернем увагу, што верш В. Каратынскага напісаны васьмірадковымі строфамі, прычым сем радкоў вытрыманыя як 11-складовік з цэзураю пасля пятага складу, а апошні радок страфы – рэфрэн – як 12-складовік з цэзураю пасля сёмага складу[4].

### *Далібог-то, Арцім...*

Гісторыя напісання дадзенага верша В. Каратынскага даследавана лепш, чым папярэдняга, бо рукапісны *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага, дзе

[1] Гл.: Lietuvos nacionalinė Martyno Mažvydo biblioteka [online]: http://nbdb.libis.lt/simpleSearch.do?pageSize=1&order=true&BI001=C1R0000049360[доступ: 27.01.2018].

[2] "В, в, всегда без исключения произносится как латинское u в словах August, Europa; это – русское у, но короткое как согласная. Г произносится всегда как латинское h". У версіі лацінкай: "V, v, wymawia się wszędzie bez wyjątku jak u w wyrazach August, Europa, t. j. ma brzmienie u krótkiego jak spółgłoska. Ó, é z kreskami zachowują brzmienie o, e; kreska oznacza tylko, że na nie pada akcent".

[3] "Не бóйся, мáлое стáдо... Не пять ли птицъ цѣни́тся пѣ́нязема двѣмá? и ни еди́на отъ нихъ нѣстъ забвéна предъ Бóгомъ... Не убóйтеся ýбо: мнóзѣхъ птицъ ýнши естé вы" (Ев. св. Луки, гл. 12, зач. 6, 7 и 32). Ці не азначае гэта, што існаваў яшчэ адзін рукапіс, паводле якога і быў ажыццёўлены набор тэкста В. Каратынскага?

[4] Больш падрабязна пра гэта гл.: Ю. П а ц ю п а, *Феномен беларускага 11-складовіка: Тэарэтычны, параўнальна-гістарычны і прапедэўтычны аналіз*, "Acta Albaruthenica" 2017, nr 17, s. 119–158.

ён быў змешчаны, ужо больш за сто гадоў вядомы даследчыкам. *Альбом* разам з часткаю "віцебскага" архіва А. Вярыгі-Дарэўскага трапіў у зборы Віленскага таварыства сяброў навукі пасля 1906 г., дзе быў выяўлены Браніславам Тарашкевічам. На падставе *Альбома* Б. Тарашкевіч падрыхтаваў і прачытаў у Пецярбургскім студэнцкім навукова-літаратурным гуртку рэферат *Album Artemiusza Weryhy-Darewskiego* (1912), а таксама апублікаваў у "Нашай ніве" (1912, № 45) верш Ялігі Пранціша Вуля. Копію *Альбома* (зробленую, відавочна, Б. Тарашкевічам) выкарыстаў Я. Карскі ў сваім даследаванні *Бѣлорусы*, падаючы 24 радкі з твора В. Каратынскага[1]. У сваю чаргу, паводле працы Я. Карскага М. Гарэцкі спачатку ахарактарызаваў верш В. Каратынскага ў першым выданні *Гісторыі*...[2], а пасля ў *Хрыстаматыі*... перадрукаваў 15 радкоў пад тытулам *Ў Альбом А. Дарэўскаму-Вярызе*[3]. У сярэдзіне 1960-х гг. Генадзь Кісялёў паўторна выявіў у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы арыгінал *Альбома*[4], што дало магчымасць Вячаславу Рагойшу ўпершыню цалкам, але ў адаптаваным выглядзе надрукаваць верш В. Каратынскага ў 1971 г. у раздзеле, прысвечаным творчасці А. Вярыгі-Дарэўскага (відавочна, каб не "раскідваць" матэрыялы *Альбома* і не "ствараць" шэраг паэтаў, "вядомых адным вершам" [І. Запрудскі]).

Паводле дадзенай публікацыі перадрукоўваўся верш *Daliboh-to, Arcim*... у выданнях твораў[5] і хрэстаматыях савецкага і паслясавецкага часу.

Альбом А. Вярыгі-Дарэўскага – гэта ўнікальная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Семдзесят чатыры асобы – сябры, знаёмыя і сваякі Беларускага Дудара з Віцебшчыны – пакінулі свае запісы – вершаваныя, празаічныя, музычныя і графічныя ў адмысловай кнізе-альбоме. Першы "ляпнуў верш" 21 кастрычніка 1858 г. Уладзіслаў Сыракомля, пакліканы зрабіць "dobry początek" "w xiążce <…> pamiątek". Характэрна, што В. Каратынскі быў адным з першых (пасля У. Сыракомлі, А. Э. Адынца і, магчыма, Рамуальда Саковіча ды братоў Рэніераў – Аніцэта і Юлія), каго прасіў А. Вярыга-Дарэўскі запісаць верш. Бо В. Ка-

---

[1] Я. К а р с к і, *Беларускія творы Вінцэся Каратынскага*, "Беларусь" 1920, 6 студз. гл. таксама: Е. К а р с к и й, *Белорусы в 3 т.*, т. 3, кн. 2: *Очерки словестности белорусского племени*, Минск 2007, с. 298–300.

[2] М. Г а р э ц к і, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920, с. 92–93.

[3] М. Г а р э ц к і, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 172.

[4] Г. К і с я л ё ў, *Каля вытокаў*... [у:] *Дзень паэзіі,* Мінск 1965, с. 33–43. Гл. таксама: Г. К і с я л ё ў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд., Мінск 2003, с. 51–56.

[5] Праўда, У. Мархель сцвярджаў, што ў выданнях *Твораў* В. Каратынскага (1981, 1994) верш "друкуецца паводле зб. гісторыка-літаратурных матэрыялаў *Пачынальнікі* (Мінск 1977)", аднак няцяжка пераканацца, што за выключэннем двух папраўленых паводле *Пачынальнікаў* слоў тэксты твора не адрозніваюцца. У той жа час звяртаем увагу, што верш у *Пачынальніках* пададзены ў адпаведнасці з арыгіналам, але транслітэраваны з лацінкі на грамадзянскі шрыфт. Усе іншыя выданні выкарыстоўваюць адаптаваную версію твора.

ратынскі, нягледзячы на тое, што не належаў да віленскае пісьменніцкае эліты, быў ужо дастаткова вядомы сваімі творамі: на той час ён ужо выдаў дзве ўласныя кніжкі паэзіі (*Czem chata bogata, tem rada*, Wilno 1857 і *Tomiło: Obrazek z życia ludu*, Wilno 1858). Яны сваёй тэматыкай і праблематыкай былі, бясспрэчна, блізкімі А. Вярыгу-Дарэўскаму. Апрача таго, літаральна паўтара месяцы таму тут, у Вільні ўбачыў свет дадатак да альбома *Въ память пребыванія Государя Императара Александра II въ Вильнѣ 6 и 7 сентября 1858 г.*, дзе быў надрукаваны беларускамоўны верш. А гэта значыць, ягоны аўтар з'яўляўся другім (пасля В. Дуніна-Марцінкевіча) літаратарам у краі, беларускамоўныя творы якога выйшлі з друку. А. Вярыга-Дарэўскі, што ўжо таксама меў у партфелі шэраг тэкстаў па-беларуску, мусіў звярнуць на гэта ўвагу. У сваім вершаваным адказе-развітанні віленскім прыяцелям *Litwinam, zapisauszymsia u moj Albom, na pażegnańnia* паэт з Віцебшчыны хоць і гаворыць пра зусім іншае, але называе В. Каратынскага дударом, падкрэсліваючы тым самым ягоныя здольнасці і жаданне спяваць на мове люду:

Wincuk Dudar! Praudu hetu,
Hledzia na Cia, ja paznau:
Szto Ty b usio addau świetu,
A niczoha b sam nie brau.
  Budź zdaroŭ! Krapiś, labiedźka,
  U swajej cichaj dume;
  Choć żyćcio czasam jak redźka,
  Miej szto druhoje na umie[1].

Беларускія літаратуразнаўцы звычайна датуюць верш *Daliboh-to, Arcim*... днём ягонага напісання, г. зн. – 23 кастрычніка 1858 г. Змест твора нібыта і пацвярджае дадзенае меркаванне, але пэўныя сумненні выклікае наступнае: ці сапраўды паэт, атрымаўшы на кароткі час *Альбом*, змог напісаць цягам некалькіх, скажам, гадзін дастаткова вялікі (58 радкоў) і дасканалы з мастацкага ды версіфікацыйнага боку верш? Незабывайма: у гэты ж дзень А. Вярыга-Дарэўскі мусіў наведаць і Р. Саковіча, з якім правёў некалькі гадзін "у мілай вячэрняй гутарцы"[2], і Аніцэта ды Юлія Рэніераў. Больш верагодна, што паэт з Віцебшчыны, прыехаўшы на пачатку кастрычніка 1858 г. у Вільню ("Ja try tydni u Was szlausia", *Litwinam, zapisauszymsia*...) і сустракаючыся са знаёмымі літаратарамі, выказваў ім сваё жаданне-просьбу: занатаваць у *Альбом* на памятку які-небудзь верш. Аднак толькі на апошнім тыдні свайго побыту ў Вільні, калі ўдалося атрымаць згоду У. Сыракомлі, які жыў у пятнаццаці вёрстах ад горада, першым занатаваць свае вершаваныя радкі, пачаў актыўна ажыццяўляць задуманае: наведваць віленчукоў, каб атрымаць абяцанае.

[1] ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі, ф. 23, воп. 1, адз. зах. 405, k. 8.

[2] А. Вярыга-Дарэўскі, *Альбом* [у:] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, 2-е выд., Мінск 2003, с. 249.

Яшчэ больш пытанняў узнікае пры аналізе правапісу твора В. Каратынскага. Паэт дзеля перадачы на пісьме беларускіх гукаў [***ў***] і [***в***] выкарыстоўвае адну літару – ***й***. Гэта, відавочна, азначае, што ён не адрозніваў дадзеных гукаў. Фактычна, тое самае мы назіраем і ў рукапісе верша *Наиясьнейшаму Яго Милосьци Гаспадару Императару Александру Микалаявичу. Песьня зъ паклонам адъ Литовско-Русинскаи мужыцкаи грамады / Najjaśniejszamu Jaho Miłości Haspadaru Imperataru Aleksandru Mikałajaviczu. Pieśnia z pakłonam ad Litovsko-Rusinskai mużyckai hramady*. Праўда, там прапаноўвалася абазначаць гэтыя гукі на пісьме літараю ***v***[1]. Г. зн. В. Каратынскі цягам двух месяцаў змяніў свой погляд на тое, як вырашаць праблему адметнага беларускага гуку (гукаў).

У вершы *Daliboh-to, Arcim*… літара ***й*** ужыта сямнаццаць разоў дзеля перадачы гуку [***ў***] (*prypłyй, kroй, Roйno, pasłaй, Zabłudziй, daй* і інш.) і пятнаццаць – гуку [***в***] (*sйaim, Tйaja, Czałaйiek, йioscy, Nadźйinski, źйinić* і інш.). Прычым, гук [***в***] перадаецца толькі літарай ***й***.

В. Каратынскі быў першы, хто запісаў беларускамоўны твор у *Альбом* А. Вярыгі-Дарэўскага. Некаторыя іншыя аўтары беларускамоўных тэкстаў у *Альбоме* – Мамерт Рэніер і Эдвард Г..... з Вільні, Мікалай Караткевіч з Мінску і Якуб Т–кі з Магілёва – дзеля абазначэння гука [***ў***] карысталіся літарай ***u***. (Гук [***в***] яны перадавалі літарай ***w***). У той час як В. Дунін-Марцінкевіч ужываў дзеля гэтага літару ***ú*** (а дзеля адлюстравання націскнога [***у***] – ***ū***); Я. П. Вуль – ***û***; А. Рыпінскі – ***й*** (а дзеля адлюстравання націскнога [***у***] – ***ū***).

Перадачу гука [***в***] літараю ***й*** нам выпала бачыць двойчы: у рукапісе верша *Daliboh-to, Arcim*…, а таксама ў рукапісе верша *Dudar*, які паходзіў з варшаўскага архіва В. Каратынскага[2].

### *Туга на чужой старане*

Звестак пра тое, якім чынам верш В. Каратынскага *Tuha na czużoj staranie* трапіў у “Нашу ніву”, не захавалася[3]. Рэдакцыя, публікуючы твор у здвоеным 49–50-м нумары газеты на 1912 г., датуе яго “10-м студзеня 1864 г.” і, апрача таго, паведамляе: “Да гэтаго верша В. Коротынскаго напісау музыку селянін з новаградзкаго павету Вінцэсь Клімовіч. Музыку В. Клімовіч пасьвячае п. Мошчынскаму «на памятку». Арыгінал верша і нотоу знаходзіцца у рэдакціі «Н. н.»”[4].

Да Р. Зямкевіча рукапіс трапіў, магчыма, не ў той час, калі вядомы бібліяфіл працаваў у рэдакцыі беларускай газеты[5], а пазней, аднак да

[1] Гл.: Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 9-361, k. 197, 200.

[2] Гл. пра гэта больш падрабязна: М. Х а ў с т о в і ч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, том другі, Warszawa 2016, s. 247–251.

[3] Можна, аднак, меркаваць, што паходзіў рукапіс ад людзей, звязаных з Янам (Іванам) Машчынскім, кандыдатам Пецярбургскага ўніверсітэта, які быў касірам мінскай паўстанцкай арганізацыі.

[4] В. К о р о т ы н с к і, *Туга на чужой старане*, “Наша ніва” 1912, № 49–50 (14 снеж.).

[5] У лісце да А. Ельскага з Варшавы ад 29/14 (так у арыгінале) ліпеня 1912 г. Р. Зямкевіч паведамляе, што папрацаваўшы ў “Нашай ніве” паўгода, ён пакінуў яе.

30 ліпеня 1919 г., калі Антон Грыневіч (1877–1937) перапісаў цікавы для яго дакумент.

Доўгі час "нашаніўская" публікацыя была адзінаю крыніцаю самага лепшага, як пісаў М. Гарэцкі, "з ведамых беларускіх твораў Каратынскага"[1]. І толькі ў 2015 г. Вячаслаў Мартысюк выявіў у фрагментах фалькларыстычнага архіва былога Беларускага музея імя Івана Луцкевіча (сёння ў Інстытуце літоўскай літаратуры і фальклора = Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas) копію рукапісу слоў В. Каратынскага і нотаў В. Клімовіча[2] ды апублікаваў у 2017 г. у газеце "Наша ніва"[3].

Копія выканана на чатырох нотных аркушах. На першым з іх даецца тытул твора па-беларуску (*Tuha na czužoj staranie*) і ў перакладзе на польскую мову (*Tęsknota w obcej stronie*). Ніжэй называюцца аўтары ("Słowy Wincentaha Korotynskoho. Muzyka Wincentaha Klimowicza"), а пасля ідзе характэрная пазнака: "На арыгінале напісана[4]: Panu Moszczyńskiemu na pamiątkę pierwszego spotkania ofiaruje współwygnaniec chłop Nowogródzkiego powiatu Wincenty Klimowicz. 10 Grudnia 1864 r." і акрэсліваецца паходжанне копіі: "Сьпісана з архіўных матэрыялаў п. Ромуальда Земкевіча. 30/VII 1919 г. А. Грыневіч". На наступных старонках запісаныя ноты і словы песні; прычым, правапіс яўна не сярэдзіны XIX стагоддзя: А. Грыневіч, безумоўна, захаваў значна больш асаблівасцяў арыгіналу, чым рэдактары "Нашай нівы", бо запісаў тэкст лацінкаю, але ўсё ж сумнеўна, што В. Каратынскі выкарыстоўваў графему ***ž***, што пісаў "ŭ serdecznym", а не "ŭ serdecznum" (так у "Нашай ніве" і ў такой форме ўжываецца слова ў вершы *Najjaśniéjszamu Jahó Miłóści*...).

Копія А. Грыневіча – надзвычай важны дакумент у тэксталогіі твораў В. Каратынскага. Ён дае магчымасць больш дакладна падаваць тэкст верша *Tuha na czužoj staranie*, бо ў шэрагу публікацый укладальнікі, спасылаючыся на нейкія "апошнія знаходкі тэкстолагаў"[5], істотна перайначылі твор: у трэцяй страфе першы катрэн стаўся апошнім, а ад чацвёртай – пакінулі толькі апошняе чатырохрадкоўе[6].

---

[1] М. Г а р э ц к і, *Гісторыя беларускае літаратуры*, выд. чацьвертае, перапрацаванае, Мінск 1926, с. 140.

[2] Вінцэсь Клімовіч (каля 1830 – каля 1880) паходзіў з казённых сялян. Працаваў арганістам і настоўнікам музыкі ў Навагрудку, настаўнікам вясковае школы і валасным пісарам у м. Паланэчка. Разам з братам і сястрою ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1863 г. Сасланы ў Сібір; памёр у Іркуцку. Гл.: Г. К і с я л ё ў, *Вінцэсь Клімовіч з вёскі Перасека* [у:] Г. К і с я л ё ў, *Героі і музы: Гісторка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 142–150.

[3] Гл.: В. М а р т ы с ю к, *Аднаўленая песня часоў паўстання Каліноўскага* [online] https://nn.by/?c=ar&i=200192 [доступ: 28.01.2018 г.].

[4] Гэта, хутчэй за ўсё азначае, што рукапіс пачынаўся тытулам твора па-польску і дарчым надпісам В. Клімовіча.

[5] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, с. 353.

[6] Гл. таксама: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., перапрац. і дап., склад. А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1988, с. 115; *Літаратура Беларусі: Першая палова XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, уклад., прадм. і камент. К. Цвірка,

Варта ўважліва прааналізаваць і дарчы надпіс В. Клімовіча. Асабліваю цікавасць выклікае дата: В. Клімовіч ахвяруе песню Яну Машчынскаму “10 Grudnia 1864 r.”. Г. зн. у той час, калі вязні ўжо былі асуджаныя (у лютым 1864 г.), вырак палявога аўдытарыяту зацверджаны М. Мураўёвым (21 чэрвеня 1864 г.) і былыя паўстанцы сасланыя “ў больш аддаленыя месцы Сібіры”. Паўгода было дастаткова, каб дабрацца да вызначанага ўладамі месца пасялення. Што датычыць Я. Машчынскага, дык ён, хоць і знаходзіўся адначасова ў мінскай турме, быў асуджаны па іншай справе, і яго ўжо 24 красавіка 1864 г.[1] выслалі ў Сібір. Магчыма, В. Клімовіч якраз і сустрэў знаёмага на высылцы (гэта пацвярджаецца і словам з прысвячэння – “współwygnaniec”, бо так можна назваць калегу, які атрымаў вырак) і нагадаў пра “першае спатканне”. І ўжо зусім іншая справа, якім чынам “падарунак” В. Клімовіча “вярнуўся” з Сібіры на Беларусь.

Выяўленыя колісь архіўныя матэрыялы дазволілі Г. Кісялёву сцвердзіць, што песня *Tuha na czužoj staranie* была папулярная сярод вязняў мінскае турмы, а адзін з іх – Стэфан Пяткевіч, паўстанец з атрада Антона Трусава – пераклаўшы верш на польскую мову, даслаў яго сваёй мінскай знаёмай[2].

Варта таксама задумацца, чаму ў копіі В. Клімовіча дарчы надпіс датаваны 10-м снежня 1864 г., а рэдактары “Нашай нівы” датуюць верш В. Каратынскага 10-м студзеня 1864 г.? Гэта проста тэхнічная памылка, ці ў арыгінале была яшчэ адна (пад вершам?) дата? 1864 год як год напісання верша В. Каратынскага няраз настойліва даводзіў Г. Кісялёў. Маўляў, паэт “знайшоў спосаб пераслаць сваю журботную элегію ў турму, дзе Клімовіч і паклаў гэтыя словы на музыку”[3]. На карысць гіпотэзы знанага гісторыка літаратуры будзе наступнае: В. Клімовіч і В. Каратынскі, відавочна, былі ў добрых прыяцельскіх дачыненнях яшчэ з дзіцячых гадоў, а таму, даведаўшыся, што сябар арыштаваны і яго чакае высылка, пераслаў свой верш, магчыма, напісаны раней і вядомы В. Клімовічу, “ku pokrzepieniu serc” вязняў.

У. Мархель, які быў адным з першых, хто засумняваўся, што атрыбуцыя рэдактараў “Нашай нівы” верша В. Каратынскага адпавядае праўдзе, і прапанаваў сваю гіпотэзу: В. Клімовіч не мог у турме напісаць музыку[4]. Аргумент У. Мархеля палічыў непераканаўчым Г. Кісялёў, у выніку ў акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры чытаем наступ-

---

Мінск 2000, с. 463; *Заняпад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, Мінск 2001, с. 102–104; *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*, Мінск 2013, с. 635–636.

[1] С. Т о к ц ь, А. С е м я н ч у к, Я. Т р а ц я к, *Высылка з Беларусі шляхцічаў-паўстанцаў 1863–1864 г.*, “Герольд Litherland” 2006, № 17, с. 112.

[2] Гл.: Г. К і с я л ё ў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд., Мінск 2003, с. 312.

[3] *Ibidem*.

[4] В. К а р а т ы н с к і, *Творы*, уклад., прадм. і камент. У. Мархеля, 2-е выд., дап., Мінск 1994, с. 377.

нае: “Зварот да народных асноў, да вобразнасці беларускага меласу вывеў Каратынскага на высокі ўзровень натуральнага мастакоўскага самавыяўлення ў нацыянальных формах, найперш у творы, напісаным пад час паражэння паўстання 1863 г. і рэальнай пагрозы расстання з родным краем, калі пачуццё страты радзімы асабліва абвастрылася, набыло рысы жыццёвай катастрофы”[1]. Пры гэтым даследчык улічвае, што элегія В. Каратынскага “пераймае асобныя матывы” верша П.Ж. Беранжэ *Настальгія, або Сум па радзіме* (*La Nostalgie, ou la Maladie du pays*), перакладзенага на польскую мову У. Сыракомлем.

Не пагаджаўся з прынятай гісторыкамі літаратуры датай узнікнення верша В. Каратынскага Уладзімір Казбярук: “Ёсць, аднак, падставы меркаваць, што ён нарадзіўся на свет значна раней”[2]. Дзеля пацвярджэнне свае думкі даследчык выкарыстоўвае ліст В. Каратынскага ад 23 лістапада 1857 г. да А. Плуга, у якім паэт прызнаецца, што вялікі ўплыў на ягоную творчасць аказаў П.Ж. Беранжэ: “Чытаючы тысячу разоў *адзінага сапраўднага вешчуна народнага духу*[3], узнімаючы яго невялічкія формай, але вялікія думкай *chansons* вышэй за ўсё, што ў такім родзе было калі-небудзь напісана, цяжка мне было ўберагчыся, каб не пераняцца яго духам, а затым і спосабам выказвання думак”[4].

У апошні час ідэю ранняга (“у канцы 1850-х”) датавання верша В. Каратынскага падтрымаў В. Мартысюк, сцвярджаючы пры тым, што беларускі аўтар “зрабіў вольны беларускамоўны «пераспеў» верша французскага паэта”[5]. Мы разумеем, што слова “пераспеў” гісторык літаратуры выкарыстоўвае, хутчэй, у метафарычным сэнсе, аднак, тым не менш, лічым патрэбным сказаць, што беларускім літаратуразнаўцам нявapта перабольшваць “залежнасць” В. Каратынскага ад П.Ж. Беранжэ. Пераняўшыся, як ён сам сцвярджаў, духам і спосабам выказвання думак французскага паэта, В. Каратынскі стварыў цалкам арыгінальны твор, значна больш – наважымся так сказаць – аўтабіяграфічны, чым яго папярэднік (П.Ж. Беранжэ ўсё ж паходзіў з буржуазнай парыжскай сям'і і толькі некалькі гадоў выхоўваўся ў невялікім гарадку ў дзядулі-краўца). Параўнанне твора В. Каратынскага з вершам П.Ж. Беранжэ (і з перакладам У. Сыракомлі) дазваляе сцвердзіць: адно матыў тугі па пакінутай вёсцы лучыць гэтыя творы, хоць – трэба сказаць – дадзены

[1] У. М а р х е л ь, *Вінцэсь Каратынскі* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзя*, Мінск 2007, с. 290.

[2] *Занепад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, уклад., прадм. і заўвагі У. Казберука, Мінск 2001, с. 104.

[3] Вылучэнне аўтара. Відаць, гэта запазычаная з невядомай сёння крыніцы характарыстыка творчасці французскага паэта.

[4] Цыт. па: *Занепад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, уклад., прадм. і заўвагі У. Казберука, Мінск 2001, с. 104.

[5] В. М а р т ы с ю к, *Адноўленая песня часоў паўстання Каліноўскага* [online] https://nn.by/?c=ar&i=200192 [доступ: 28.01.2018 г.].

матыў сустракаецца ў літаратуры з часоў антычнасці, а паэты-рамантыкі выкарыстоўвалі яго надзвычай часта.

| LA NOSTALGIE<br>OU<br>LA MALADIE DU PAYS | NOSTALGIJA<br>CZYLI<br>TĘSKNOTA ZA KRAJEM |
|---|---|
| Vous m'avez dit : "À Paris, jeune pâtre,<br>«Viens, suis-nous, cède à tes nobles penchants.<br>«Notre or, nos soins, l'étude, le théâtre,<br>«Tauront bientôt fait oublier les champs».<br>Je suis venu; mais voyez mon visage.<br>Sous tant de feux mon printemps s'est fané.<br>Ah ! rendez-moi, rendez-moi mon village,<br>Et la montagne où je suis né![1] | Rzekliście: „Pasterzu! idź z nami ochoczo;<br>„W Paryżu nauki i dziwy najrzadsze,<br>„Osypie się złoto, starania otoczą,<br>„Zapomnisz swe niwy na świetnym teatrze".<br>Poszedłem… i patrzcie! ów skwar, co tu płonie,<br>Jak świeżość wiosenną z mej twarzy wypala!<br>Ach! wróćcie mi, wróćcie domowe ustronie,<br>A górom powróćcie górala![2] |

Успрыняцце верша В. Каратынскага як выяўленне пачуццяў аўтара, што калісь пакінуў сваю вёску (г. зн. звыклае для сябе асяроддзе), схіляе да датавання твора часам, калі ён працаваў над перакладам паэзіі П.Ж. Беранжэ, г. зн. 1857–1859 гг.[3]. Аднак мусім памятаць і тое, што не існуе аніякіх аргументаў, каб адпрэчыць дату ("10 студзеня 1864 г.") "Нашае нівы": а раптам узятая яна менавіта з арыгіналу, які сёння страчаны?

Перабольшаннем з'яўляецца і абсалютызацыя матыву страты радзімы ў вершы *Tuha na czužoj staranie*. Перадусім, калі не глядзець на твор праз прызму лёсу арыштаваных паўстанцаў і самога паэта, які ў 1866 г. вымушаны быў выехаць у Варшаву. У сваім першасным і літаральна ўспрынятым значэнні твор В. Каратынскага ўзнімае праблему долі г. зв. выхадцаў з народа, сялянаў, якія – дзякуючы адукацыі і шчасліваму збегу акалічнасцяў – здолелі заняць вышэйшае, неўласцівае іх стану месца ў грамадстве. Іншая справа, што падзеі 1860-х гг. дадалі вершу новыя сэнсы.

Акцэнтуючы празмерную, на нашую думку, увагу на наследаванні В. Каратынскага П.Ж. Беранжэ, літаратуразнаўцы часам пішуць (у агульных рысах, праўда) пра фальклорныя вытокі дадзенага верша: "асіміляваў іх (асобныя матывы верша П.Ж. Беранжэ. – *М. Х.*) беларускім фальклорам"[4]. У. Мархель, відавочна, гаворыць пра паэтыку і стылістыку вуснай народнай творчасці. Аднак жа і "асобныя матывы" вясковых песень паэт таксама мог выкарыстаць. Напрыклад: "Ой тошно мнѣ // на

[1] Pierre-Jean de Béranger, *Œuvres complètes de Béranger*, H. Fournier aîné, Paris 1839, 3, pp. 55–56 [online] https://fr.wikisource.org/wiki/%C5%92uvres_compl%C3%A8tes_de_B%C3%A9 ranger/La_Nostalgie [доступ: 29.01.2018].

[2] P.J. B e r a n g e r, *Piosnki*, Wilno 1859, s. 164.

[3] Магчыма, смерць французскага паэта (ліпень 1857 г.) спрычынілася да ўзнікнення ідэі перакласці і выдаць томік ягонае паэзіі.

[4] У. М а р х е л ь, *Вінцэсь Каратынскі* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 291.

чужой сторонѣ”, “Чужая сторо́на // Туго́ю о́рана, // Слёзками засѣвана”[1].

Нельга выключаць таксама, што В. Каратынскі ведаў папулярны расейскі раманс Юрыя Нелядзінскага-Мялецкага (1751–1828) *Ох! Тошно мне*… (“Ох! тошно мне // На чужой стороне… // Всё постыло, // Всё уныло: // Друга милого нет”), які быў напісаны на аснове, заўважым, украінскае народнае песні *Дівчина моя* ў 1791 г., а ў XIX стагоддзі нязменна ўключаўся ў песеннікі і лубачныя выданні. Ягоную папулярнасць спрабавалі выкарыстаць дзекабрысты: Кандрат Рылееў і Аляксандар Бястужаў-Марлінскі напісалі на яго аснове агітацыйную песню *Ай и скучно мне*... (1825), якую Аляксандар Герцан (1812–1870) і Мікалай Агароў (1813–1877) надрукавалі ў лонданскім альманаху “Полярная звезда” 1859, кн. V,: “Ах, тошно мнѣ // Во своей сторонѣ! // Все въ неволѣ, // Въ тяжкой долѣ, – // Видно, вѣкъ вѣковать. // Долго-ль Русскій народъ // Будетъ рухлядь господъ, // И людями, // Какъ скотами, // Долго-ль будутъ торговать?”[2]. Бо можна меркаваць, што ў віленскае патрыятычнае асяроддзе траплялі не толькі польскамоўныя эміграцыйныя выданні, але і расейскамоўныя.

Нягледзячы на тое, што ўжо больш за стагоддзе вывучаецца літаратуразнаўцамі спадчына В. Каратынскага, усё яшчэ застаецца шэраг важных праблемаў тэксталагічнага характару. Найбольш істотным з’яўляецца адсутнасць да сённяшняга дня навуковай публікацыі беларускамоўных тэкстаў паэта. Наяўнасць рукапісаў двух твораў (*Наиясьнѣйшаму Яго́ Мило́сьци Гаспадару́ Импера́тару Алекса́ндру Микала́явичу...*, *Daliboh-to, Arcim*…), а таксама рукапісная копія верша *Tuha na czužoj staranie* пачатку XX стагоддзя даюць багаты матэрыял як для мовазнаўчых даследаванняў (перадусім, гісторыя перадачы на пісьме ў сярэдзіне XIX ст. беларускага гуку [ў]), так і для літаратуразнаўчых (дакладнае ўзнаўленне рытмічнага малюнка верша, ягоная страфічная будова і інш.). На новым этапе асэнсавання асобы і творчасці В. Каратынскага паўстае неабходнасць падрыхтоўкі сучаснага выдання яго твораў на мове арыгінала і ў прафесійных перакладах. Актуальным застаецца і выяўленне беларускамоўных тэкстаў паэта, а таксама ягонай карэспандэнцыі.

---

[1] І. Н а с о в і ч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 616, 643.

[2] К. Р ы л ѣ е в ъ, А. Б е с т у ж е в ъ, *Пѣсня*, “Полярная звѣзда” 1859, кн. пятая, с. 10. Вядомы таксама і такі варыянт: “Ах, тошно мне // И в родной стороне; // Всё в неволе, // В тяжелой доле, // Видно, век вековать. // Долго ль русский народ // Будет рухлядью господ, // И людями, // Как скотами, // Долго ль будут торговать?”

*Mikałaj Chaustowicz*

**Textological Problems of Vincent Karatynski's Poems Written in the Belarusian Language**

A b s t r a c t

The article discusses various aspects of textology of Vincent Karatynski's poems written in the Belarusian language. A comparison of the preserved manuscripts of works with their published versions allowed to state that Belarusian scientists and publishers failed to adopt an accurate approach while analysing the poet's legacy. A scientific analysis of Karatynski's texts will contribute to a more accurate understanding of them by literary critics and allow linguists to make certain adjustments to the history of written expressions of distinctive sounds of the Belarusian language.

**Таццяна Аляшкевіч**
Гродна

# Творчасць Яна Чыквіна ў мастацкай свядомасці Алеся Разанава: эсэ *Безназоўны верш Яна Чыквіна*

У навуцы пра літаратуру знойдзецца няшмат тэм, якія прадугледжваюць вывучэнне мастацкай рэфлексіі, сузірання, у якіх толькі адна згадка пра аўтараў успрымалася б як відавочны і бясспрэчны факт іх патэнцыяльнай блізкасці. Карціна такога кшталту, відаць, узнікае не толькі з прычыны відавочнага „перагуквання" тэм, ідэй, стылёвых дамінант у творчасці даследаваных аўтараў. Тут мае месца і тая ўстойлівасць і самадастатковасць метадаў і прыёмаў, якія звычайна выкарыстоўваюцца пры разглядзе такой навуковай тэмы. У выніку ствараецца ілюзія ўсебаковай вывучанасці дадзенай з'явы, хоць даследчы „багаж" аказваецца не настолькі прадстаўнічым.

Тэма, агучаная ў загалоўку артыкула, на наш погляд, адна з такіх, а, магчыма, і першая ў шэрагу падобных: бібліяграфія па творчасці як Алеся Разанава, так і Яна Чыквіна даволі багатая. Пра спецыфіку паэтычнага мыслення А. Разанава гаварылі Ульяна Верына, Васіль Вітка, Уладзімір Гніламёдаў, Віктар Жыбуль, Анатоль Івашчанка, Ала Кабаковіч, Уладзімір Калеснік, Віктар Каратай, Ганна Кісліцына, Уладзімір Конан, Наталля Ламека, Ева Лявонава, Уладзімір Сакалоўскі, Тамара Чабан, Іван Штэйнер і іншыя. У самастойную групу склаліся і працы, прысвечаныя аўтаномнаму разгляду ідэйнага зместу паэтычных тэкстаў Яна Чыквіна, своеасаблівасці філасофіі іх мастацкіх формаў. У шэрагу даследчыкаў імёны Алы Брадзіхінай, Людмілы Зарэмбы, Уладзіміра Калесніка, Анжэлы Мельнікавай, Алы Петрушкевіч, Анатоля Раманчука, Ірыны Саматой, Святланы Тарасавай, Галіны Твараловіч, Галіны Тычко і іншых. Аднак калі гаварыць пра канцэпцыю мастацкага ўсведамлення творчасці Я. Чыквіна паэтам А. Разанавым, то вопыт вывучэння дадзенай тэмы не ўтрымлівае ў сабе ні асобных артыкулаў, ні спецыяльных даследаванняў. Праўда, апошнім часам, на інтэрнэт-прасторы з'яўляюцца публікацыі, у якіх мае месца згадка пра актыўны інтарэс А. Разанава да паэтычнага слова Я. Чыквіна. Аднак усё застаецца на ўзроўні канстатацыі факта.

Трэба аднак зазначыць, што акупунктурнай кропкай у паэзіі Яна Чыквіна, што знайшла свой водгук у свядомасці А. Разанава, стаў па-

куль менавіта верш *Даўно нежывы бацька полем ідзе,* надрукаваны ў зборніку *Крэйдавае кола* (2002). У кнізе А. Разанава *Невядомая велічыня*, якая выйшла з друку напрыканцы 2017 года, поруч з разнастайнымі гутаркамі, згадкамі, артыкуламі ёсць эсэ *Безназоўны верш Яна Чыквіна*, у якім аўтар спрабуе „паразумецца з вершам", увесці названы твор у культурна-філасофскі кантэкст праз прызму свайго светабачання, засвойваючы яго эстэтычную праграму, рэфлексуючы над ёю і выяўляючы ў яго кантэксце тое вонкавае, якое становіцца глыбока ўнутраным. Яшчэ калісьці А. Разанаў заўважыў, што:

> Верш закручваецца, як стужка Мёбіўса: што ў ім унутранае, а што вонкавае, што форма, а што змест? Усякае размежаванне спрашчае, усякі падзел разбурае жывую вібрацыю сэнсу, якая ўзнікае дзякуючы гэтаму суаднясенню: верш набывае мову праз яе[1].

Адразу хацелася б адзначыць, што такая спроба вынікае з прычыны асноватворчага характару паэзіі А. Разанава. Усё самабытнае, адлюстраванае пры дапамозе паэтычнага слова, адэкватнае ўсясветнаму, універсальнаму, агульначалавечаму ў творах іншых паэтаў адгадваецца А. Разанавым. Ён чуйны да праяваў культурна-філасофскага дыскурсу. Ствараючы кожны новы твор у тым ці іншым жанры, аўтар пастаянна здзяйсняе рэфлексію над усім сваім творчым вопытам, у тым ліку і над перакладамі, а таксама і над сучаснымі эстэтычнымі тэндэнцыямі сусветнага мастацтва. Аўтарскі код найперш змяшчаецца ў „метапрасторы", што ўключае ў сябе любы творчы вопыт, сумяшчальны з ключавымі момантамі іншых мастакоў (у шырокім сэнсе) і мысліцеляў, што сведчыць не пра выпадковыя супадзенні, а пра свядомы дыялог і тыпалагічныя паралелі.

Як сцвярджае сам А. Разанаў, ён звяртаецца да тых вершаў, якія, „чытаючыся", „клічуць у размову". Сярод такіх твораў можна назваць верш Янкі Купалы *Мужык*, верш Алеся Пісьмянкова *Мой сад у снезе па калена*, верш Міхася Стральцова *Пад шоргат кропель дажджавых*. Часам ён адгукаецца на цэлыя кнігі, ствараючы „бліц-водгукі". Напрыклад, такога кшталту водгук ён напісаў на кнігу Валянціна Акудовіча *Мяне няма*. Альбо піша эсэ, нататкі, артыкулы, цалкам прысвечаныя творчасці якога-небудзь паэта, вылучаючы і падкрэсліваючы той першазмест, які застаецца дарэшты недатлумачаным: *Загавораная вада* (пра асобу і творчасць Рыгора Барадуліна), *Выспа Надзеі Артымовіч*, *Скрыжаванне Францішка Багушэвіча*, *Жыта і васілёк: Слова пра Максіма Багдановіча* і іншыя.

Асоба А. Разанава-эсэіста – яшчэ адна старонка ў творчасці паэта, якая, з аднаго боку, дае магчымасць паглядзець на творы і творцаў вачыма самога А. Разанава, пабачыць з'яву „трэцім вокам", а з другога, прасачыць рух асацыяцый, мыслення, унутранай інтанацыі аўтара-

[1] А. Р а з а н а ў, *Паляванне ў райскай даліне*, Мінск 1995, с. 198.

эсэіста, тым самым вызначыўшы асноўныя вехі ў прыродзе менавіта разанаўскага эсэ і вылучыўшы асаблівасці яго эсэістычнага ідэастылю.

Звярнуўшыся да верша Я. Чыквіна, А. Разанаў найперш зразумеў, што ён адзін з тых паэтаў-белавежцаў, хто не проста ўсведамляе ролю мастака, аднак і наўпрост наследуе асноўны яго запавет: „не навязваць яму [мастацтву. – *Т. А.*] сваёй волі, не прышчапляць сваёй заангажаванасці, якой бы вартаю яна ні была, а наадварот, – умець угадаць яго волю, здолець пачуць і (паслухацца) яго патаемныя памкненні”[1].

Я. Чыквін – паэт, які ўвабраў у сябе набыткі і традыцыі розных славянскіх культур. У літаратуразнаўчых колах, калі ідзе размова пра ягоную паэзію, згадваюцца і пошукі еўрапейскай паэзіі. Беларускімі і польскімі даследчыкамі падкрэсліваецца набліжанасць яго інтэлектуальнай лірыкі да вялікай мудрасці Эклізіяста, філасофскай думкі Жан-Поля Сартра, Марціна Хайдэгера. У той жа час, творчасць Я. Чыквіна тыпалагічна блізкая і ўкладаецца ў рэчышча менавіта беларускай літаратуры. Калісьці вельмі ўдала і абсалютна дакладна заўважыў У. Калеснік: „Агульны настрой і стан душы Я. Чыквіна задуменны, медытацыйны, ён адпавядае ладу беларускай песні, балады, паэт выяўляе хібнасць свету, але і яго дасканаласць, гармонію, хараство <…> Фантазія ў Яна Чыквіна не простая, чытаць яго вобразы часам даводзіцца з напругай, а часам і пакідаць фрагменты неразгаданага падтэксту. Але, нягледзячы на ўскладнёную чытальнасць, а, можа, і дзякуючы ёй, чытача агортвае адчуванне велічнасці лёсу чалавека і фатальнага трагізму пражывання адпушчанага яму часу”[2]. У гэтых планах Я. Чыквін і А. Разанаў аказваюцца роднаснымі. Да ўсяго сказанага нельга не дадаць і той факт, што спалучаны яны і ідэяй Купалы. „Сапраўды, калі лінейна ўявіць вектарны шлях беларускай літаратуры, то паэзію Купалы і Чыквіна [Купалы і Разанава. – *Т. А.*] будзе падзяляць вялікі інтэрвал. Калі ж перамясціць пункт погляду ў кропку, адкуль пачынаецца рух вектара, то мы ўбачым супадзенне”[3]. Відаць, і гэтым абумоўлены зварот А. Разанава да верша Я. Чыквіна. У іх, быццам адзін духоўны настаўнік, чыя паэзія валодала тым „нябачным вымярэннем”, якое вабіла і захоплівала ў свой палон найперш сваім „недасяжным словам”, якое, па словах А. Разанава, „і было ўнутраным зместам і стымулам усёй адраджэнцкай беларускай паэзіі, было яе заклятай чароўнай папараць-кветкай”[4]. Да таго ж, тэма колазвароту жыцця з'яўляецца адной з магістральных у абодвух паэтаў. У А. Разанава яна рэалізуецца праз

---

[1] А. Р а з а н а ў, *Градус мастацтва* [у:] А. Р а з а н а ў, *Невядомая велічыня*, Мінск 2017, с. 110.

[2] У. К а л е с н і к, *Два светы Яна Чыквіна* [у:] У. К а л е с н і к, *Сляза пякучай Айчыны: творчы партрэт Яна Чыквіна*, Беласток 2000, с. 19.

[3] А. Р а м а н ч у к, *Янка Купала і Ян Чыквін: да пытання аб шляхах развіцця нацыянальнай паэзіі* [у:] *Міжнародныя Купалаўскія чытанні. Матэрыялы навуковай канферэнцыі*, Гродна 1999, с. 176.

[4] А. Р а з а н а ў, *Паляванне...*, с. 217.

„традыцыю Dinggedicht” (верш на прадмет, аб прадмеце, нават верша-рэчы). Аўтар піша:

> з імі [рэчамі. – *Т. А.*] нас звязвае тайнае падабенства, бы некалі, напачатку, калі Бог стварыў свет, мы былі гэтаксама рэчамі і будзем некалі зноў... Мы не знікаем, а знікаючы ажываем у іх – рэчах[1].

У Я. Чыквіна кола сімвалізуе бясконцасць жыцця, адвечнасць усяго існага на зямлі. Адсюль і адпаведныя назвы паэтычных зборнікаў: *Кругавая чара, Крэйдавае кола.* Да таго ж, у адным інтэрв’ю ў Я. Чыквіна калісьці пацікавіліся: „Якія геаметрычныя выявы найболей сімпатычныя вам у паэтычным, філасофскім спасціжэнні быцця – кола, квадрат, кут альбо прамыя, якія не перасякаюцца, ці нешта іншае?”[2] Ён адказаў: „Мне блізкі погляд на творчы працэс старажытных мысляроў, якія бачылі ў ім два няроўнавялікія моманты: Ingenium і Ars (першая частка па-за свядомасная, інтуітыўная, уяўленчая; другая – кантраліруемая інтэлектам, тэхнічнае ўменне, чаму можна навучыцца). Значыць для паэта ў творчым працэсе не ўсё можа быць вытлумачана, найперш тое ingenium: чаму раптам адчуваецца патрэба напісаць, напрыклад, верш *Размова з сястрою* ці *Адысей і Наўзікая*, не ведаючы анічагуткі, што будзе далей не толькі ў канцы твора, але і за вуглом-паваротам кожнага верша. Адцягнена ад маіх вершаў, можна сказаць, што Прырода, Сусвет, Жывое выяўляецца найпаўней праз форму «вогненага кола», цыклічнасць (падобна як часапрастора), а чалавек стварае сваю цывілізацыю, дадаючы да гэтага «вострую геаметрыю». Магчыма, што і ў маіх тэкстах паўтараюцца нейкія «геаметрычныя выявы». Калі гэта «кола» (круг), то тым цікавей мне самому постфактум паспрабаваць асэнсаваць раней схопленае інтуітыўна”[3].

Эсэ *Безназоўны верш Яна Чыквіна* ўжо сваім тытулам спрычыняе А. Разанава да часткі free вершавай містэрыі:

> Не ведаю, ці спрабаваў Ян Чыквін даць гэтаму вершу,
> калі ён пісаўся ці напісаўся, назву, але тое, што назва
> не далася (не знайшлася альбо не прышчапілася),
> пэўным чынам сведчыць пра „непрадстаўнічы” характар верша[4].

Заяўляючы пра „непрадстаўнічы” характар верша напачатку, А. Разанаў усім наступным зместам эсэ даводзіць адваротнае. „Безназоўныя” вершы прынята называць першым радком, у якім „нібы першым уражаннем, схопліваецца самае важнае, робіцца ракурс пралом у „неазначальнай” рэчаіснасці, астатнія будуць дэталізаваць і замацоўваць схопленае”[5].

---

[1] *Ibidem*, с. 31.

[2] К. Ладуцька, *„Пісьменнік звольнены з пасады апостала ісціны...”*, „Літаратура і Мастацтва” 2010, 21 мая, № 20(4564), с. 13.

[3] *Ibidem*.

[4] А. Разанаў, *Безназоўны верш Яна Чыквіна* [у:] А. Разанаў, *З апокрыфа ў канон*, Мінск 2010, с. 109.

[5] А. Разанаў, *Безназоўны верш...*, с. 103.

Звернемся да зместу самога верша, якому прысвечанае эсэ А. Разанава:

Даўно нежывы бацька полем ідзе.
Ён арэ.
Ён і плуг. Ён і скіба раллі, і зерне,
І водсвет далёкага раю.

Вочы, якімі ён глядзіць на свет,
Тыя самыя вочы, што яго сузіраюць.

Аўсу бацька ўзяў у радно
Ды сее той бок, дзе вечнасць даўно[1].

Дадзены верш Я. Чыквіна з падачы А. Разанава аказваецца ў коле розных дыскурсаў, семіятычных працэсаў. Колькасць такіх працэсаў даволі шматлікая; характар жа іх часам грунтуецца на пэўным супрацьпастаўленні, супрацьдзеянні, што найчасцей і ёсць фактар, ініцыятар узнікнення якасна новых сэнсаў. Да таго ж, паколькі „эссеистика тяготеет к синкретизму", то ў разанаўскім эсэ „начала собственно художественные <...> легко соединяются с публицистическими и философскими"[2]. Эсэ – гэта своеасаблівы спосаб мыслення з устаноўкай на рухомасць сэнсаў. Агучаная „рухомасць сэнсаў" ахоплівае ўсю мастацка-філасофскую сістэму верша, „где каждый элемент пронизывается извечным движением, нередко – противоречивым по своим направлениям и конечным целям"[3].

Вершавыя „стыхіі", над якімі рэфлексуе А. Разанаў, можна падзяліць на некалькі блокаў. Першы блок – моўны – „стыхія" гукасэнсаў. Другі – вобразна-асацыятыўны – стыхія выяўных і невыяўных вобразаў, рэалій, з'яў. Трэці – культурна-філасофскі – стыхія, у якой адзначаецца прысутнасць фундаментальных, агульначалавечых сэнсаў, стыхія антыномій чалавечага быцця, стыхія прыхаваных алюзій, стыхія паэтычнага светабачання паэта. Усе блокі ўзаемазвязаны, перацякаюць і вынікаюць адзін з аднаго. Таму лагічным нам бачыцца комплексны падыход пры разглядзе і аналізе эсэ, выбудаваны на стыку моўнага і змястоўна-канцэптуальнага ўзроўняў тэксту. Філасофская адметнасць і змест верша Я. Чыквіна ўяўляецца А. Разанавым як бесперапынны рух да светаразумення ў вобразнай сістэме, рух да пошуку ісціны на шляху пазнання.

Здавалася б, Ян Чыквін выкарыстоўвае ў сваёй паэтычнай мове тыя ж самыя словы, што і ў побытавай мове, „аднак яны адрозніваюцца паміж сабою, як глыбіня і паверхня: адна невядомая, і яе належыць асвойваць, другая вядомая, і ад яе належыць адсвойвацца (адасабляцца)"[4]. Злучнік „і" ў творы Я. Чыквіна выконвае не толькі злучальную

[1] Я. Ч ы к в і н, *Крэйдавае кола,* Беласток 2002, с. 27.
[2] В. Х а л и з е в, *Теория литературы*, Москва 200, с. 331.
[3] А. Р о м а н ч у к, *Мир поэзии Яна Чиквина*, „Нёман" 2006, №5, с.172–173.
[4] А. Р а з а н а ў, *„Каб дождж дагаджаў вершаказу, а REGEN гутарыў GERN з вершасловам..."* [у:] А. Р а з а н а ў, *Невядомая велічыня*, Мінск 2017, с. 188.

функцыю. Ён функцыянуе тут найперш як канструктыўны элемент і забяспечвае цэласнасць вобразу бацькі. З дапамогай злучніка „і” ў вершы ўтвараецца стылістычная фігура – полісіндэтон. Ён не толькі звязвае кампаненты паэтычнага сказу, аднак вылучае найбольш значныя, важкія з іх па сэнсе. Інтанацыя, з якой прачытваецца такі страфоід, запавольваецца, адбываецца працэс акцэнтуалізацыі лексемаў „арэ”, „скіба раллі”, „плуг”, „водсвет далёкага раю”. А. Разанаў называе злучнік „і” семантычным цэнтрам верша, „змест верша, як вакол сваёй сарцавіны, збіраецца вакол «і»”[1].

Па словах А. Разанава, „апроч відавочнай і яўнай рыфмы, у вершы прысутнічаюць няяўныя і невідавочныя: ён імі праняты і знітаваны, і гукасэнсавыя пісягі-барозны ідуць па ўсім яго полі, усярэдзіне знікаючы, на краі адкрываючыся: арэ – ралля – зерне – раю – сузіраюць, водсвет – свет – аўсу – сее – вечнасць”[2]. Аднак прысутнічаюць, на думку аўтара, у вершы і неагучаныя словы. І такіх словаў тры. „І першае безназоўнае слова сын”[3].

Неагучанае слова „***сын***” чуваць у вершы ўнутраным слыхам. Яно суадносіцца са словам „бацька” непасрэдным чынам: „выяўляючыся праз «нядаўняе» (сына), бацька з жывога становіцца нежывым”[4]. Але прысутная рэалія „поле” вяртае бацьку з нежывога ў жывыя. Поле вечнае, большае, „чым бацькава ўласнасць”[5]. Яно становіцца ў вершы сімвалам жыцця, быцця, дадзенага звыш, адтуль. Поле становіцца часткай містэрыі, у якую ўведзены і якой, па сутнасці, і з’яўляецца сам верш Я. Чыквіна. Бацька ідзе полем, як калісьці, даўно, ён быццам вяртаецца з магільнага царства Азірыса. І ключавым тут з’яўляецца слова „быццам”, таму што „па-свойму тут усіх няма: і бацькі, і сына, і поля, і плуга, і зерня, але ў іхняй «нямасці» выяўляецца ёсціна”[6].

„Другое безназоўнае і па-свойму прысутнае ў вершы слова – ***вестка-лёс***”[7]. Мова ў вершы, па-разанаўскаму вызначэнню, адухаўляецца, набывае статус самастойнага героя, амаль ці не галоўнага: „Мова вымавіла авёс як адзіна спраўджанае і найбольш дакладнае слова ў вершы”[8]. Поруч з гэтым, яно аб’явіла „неаб’яўленыя” дзве асобныя лексемы – „вестку” і „лёс”.

“«***Правы***» – трэцяе, адчытанае намі безназоўнае слова ў вершы”[9]. А. Разанаў даводзіць, што бацька здзяйсняе тую працу, спрадвечную, якая суадносіцца з найменнем „правы”. Менавіта правы бок засейвае бацька аўсом. Па-першае, „правы” натуральна ўпісваецца ў пазначаную

[1] А. Р а з а н а ў, *Безназоўны верш…*, с. 107.
[2] *Ibidem,* с. 109.
[3] *Ibidem.*
[4] *Ibidem,* с. 103.
[5] *Ibidem.*
[6] *Ibidem,* с. 109.
[7] *Ibidem,* с. 111.
[8] *Ibidem,* с. 110.
[9] *Ibidem,* с. 111.

гукасэнсавую ізаглосу (тую, дзе „ралля”, дзе „рай”, дзе „радно”)”[1]. А па-другое, аўтар адсылае нас да Евангелля, тым самым дае зразумець усю невыяўную, аднак зашыфраваную ў вершы „праvату”: „Ісус ім кажа: дзеці, ці маеце, што есці? Яны адказалі: не. Тады ён ім кажа: закіньце невад на ***правы*** бок лодкі – і здабудзеце”[2].

Мастацкая форма верша дыктуе яго кампазіцыйную логіку. Верш – кола. Кальцавая кампазіцыя прасочваецца на некалькіх узроўнях. Першы ўзровень, відавочна, звязаны з выкарыстаннем Я. Чыквіным стылістычна-кампазіцыйнага прыёму – паўтору ў пачатку і ў канцы твора аднаго і таго ж слова – „даўно”. Другі ўзровень кола, зашыфраваны, і нагадвае варонку, якая паглынае, „уцягвае іх [рэаліі верша. – *Т. А.*] у сябе не толькі з месца паказу, але і адтуль, дзе ніякі паказ немагчымы”[3]. Кожны вобраз-рэалія распадабняецца, спараджаючы серыю сэнсавых ракурсаў, кожны з якіх прынцыпова не замкнёны: як на паверхні вады разыходзяцца колы – ад малых да вялікіх. Так, рэалія „бацька” „становіцца гравітацыйным полем верша”[4]. Ён – той камень, кінуты ў ваду, ад якога па ўсім творы распаўзаюцца кругавыя хвалі. Разыходзячыся, яны даганяюць адна адну ў небыцці. Галоўным чыннікам верша А. Разанаў называе бацьку. Гэты факт успрымаецца намі apriory. Па-сутнасці, усё названае і неназванае ў вершы звязана з бацькам. Выкарыстаўшы анафарычны прыём, – паўтор напачатку трох радкоў займенніка „ён” (бацька) – аўтар суадносіць яго з такімі анталагічнымі рэаліямі і дзеяннямі, як „скіба раллі”, „зерне”, „плуг”, „арэ”, „водсвет далёкага раю”. Праз гэтае, як даводзіць А. Разанаў, распазнаецца бацькоўская сутнасць быцця. Бацька становіцца сімвалам вечнасці ў вершы, пра якую „можна казаць або катэгорыямі гегелеўскай дыялектыкі, матэматычнымі формуламі, або, урэшце мастацкімі вобразамі і сімваламі”[5]. Паняцце вечнасці, да якога шматразова звяртаецца А. Разанаў, выступае ў творы філасофскім канцэптам. „Вечнасць вырабляецца з неазначальнага часу”[6]. Уся вершавая „дзея” творыцца перад „тварам вечнасці”, як, дарэчы, і сам змест верша становіцца сімвалам вечнасці.

Кожная рэалія цэнтральная і разам з тым перыферыйная, складаецца, па сутнасці, з мноства сусветаў, якія абапіраюцца адзін на адзін і ў той жа час служаць надбудовай для кожнага. Так, А. Разанаў падмячае красамоўную дэталь: бацька сее авёс, а не „вечнае” жыта і не „вечную” пшаніцу, тым самым падкрэслівае штодзённасць быцця, звычайнасць, будзённасць бацькавай працы. Альбо архетыпная, семантычна багатая дэталь-рэалія “радно”, якая „сваёй архетыповасцю на-

[1] *Ibidem,* с. 112.
[2] *Ibidem.*
[3] *Ibidem,* с. 102.
[4] *Ibidem.*
[5] У. К о н а н, *Паэзія думкі і таемнасць сэнсу,* „Літаратура і Мастацтва” 1989, № 14 (7 красавіка), с. 5.
[6] А. Р а з а н а ў, *Безназоўны верш…*, с. 103.

гадвае поле, але, у адрозненне ад «вечнага» поля, яно згортваецца і разгортваецца, суадносячыся з парою і з бацькавым прыходам і зыходам"[1]. Тое, што прыхавала радно ў сваім цэнтры, што ўтаіла ў сваёй прыродзе, А. Разанаў падмячае і разгадвае. Радно – таксама той цэнтр, ад якога разыходзяцца „колы" сэнсаў і гукасэнсаў. Уважлівы, праніклівы, аўтар эсэ расшыфроўвае іх, дафармулёўвае багаты змест верша. Аўтарскія развагі пра радно нагадваюць нішто іншае як аднайменны вершаказ. Свядома ці падсвядома А. Разанаў выкарыстаў прыём ужывання „твора ў творы"?! Думаецца, гэта адна з асаблівасцей і спецыфічных дэталяў разанаўскай манеры. Звернемся непасрэдна да зместу „вершаказа":

> радно" чуе і распазнае ў сабе і рад – лад, паслядоўнасць,
> парадак, што гаспадарыць у прыродзе; і раду – перад тым,
> як зярнятам рассеяцца, яно збірае іх разам; і радасць – у ім адзінкавае „я"
> выяўляе сваю многасць; і адно – яно не частка нечага, а цэласнасць,
> што займае сабою жыццёвы абсяг; і дно – апору,
> дзякуючы якой магчыма ўзыходжанне; і роднае – падставу,
> якою рознае ўраўноўваецца ў падобным; і Радаўніцу – свята,
> калі з нежывых у жыццё вяртаюцца людзі, якіх мы любім і памятаем[2].

У адзін рад, такім чынам, А. Разанаў зближае словы радно – рад – лад – парадак – гаспадарыць – прырода – рада – разам – радасць – дно – апора – роднае – падобнае – Радаўніца. Збліжэнне слоў у дадзеным кантэксце абумоўлена іх семантычнымі асацыяцыямі. Паклаўшы ў аснову вершаказу паэтычны этымалагізм, творца не толькі зыходзіць з сэнсу – ён адначасова і стварае сэнс: семантычнае поле слова пашыраецца, прыхопліваючы ў сябе значэнні іншых слоў. Як правіла, семантычная асацыяцыя можа быць прадыктаваная не толькі і не столькі значэннямі слоў, колькі агульным законам верша: "У кантэксце верша кожны элемент гукавой формы становіцца аказіянальным носьбітам зместу"[3]. У паэтычным тэксце гук акрамя сваёй натуральнай рэпрэзентатыўнай функцыі набывае іншыя: гукавы лад паэтычнага твора перастае быць дэтэрмінаваным толькі лінгвістычна. Займаючы „малекулярную" нішу ў паэтычным маўленні, гукі неадвольна перадаюць больш буйным адзінкам сваю „адпрыродную" змястоўнасць. Дзякуючы гукавым перазовам, словы, цэлыя паэтычныя выказванні набываюць дадатковыя функцыі: эўфанічную, сімвалічную, філасофска-эксплікацыйную, форматворчую.

Увесь верш, на думку А Разанава, пабудаваны на антыноміях гэтаксама, як пабудаванае на антыноміях і жыццё чалавека. Так, антынамічныя пары А. Разанаў вылучае як на ўзроўні формы, так і на ўзроўні вершавага зместу. Яны вельмі канкрэтна і лагічна прасочваюцца на

[1] *Ibidem,* с. 105.
[2] *Ibidem.*
[3] Е. Э т к и н д, *Материя стиха*, Санкт-Петербург 1998, с. 272.

працягу ўсяго эсэ. Напрыклад, ён тлумачыць „назоўныя рэаліі" і „безназоўныя словы", якія чуваць у вершы іншым слыхам („назоўны бацька" і „безназоўны сын", назоўныя „авёс", „сее", „вечнасць" і безназоўныя „вестка" і „лёс"). Да таго ж, у эсэ прысутнічаюць іншыя падставы гаварыць пра супрацьлеглую дыхатамію рэалій і паняццяў: быццё і нябыт, папярэдняе і наступнае, блізкае і далёкае, „цёмная існасць раллі" і „водсвет далёкага раю", даўняе і цяперашняе, частка і цэлае, канец і пачатак, „я" і „маё" – рухомая раўнавага, якая з'ядноўвае ў вершы „вечнасць" і „рай". Больш за тое, А. Разанаў умее прачытаць і ўбачыць агучаную антыномію там, дзе, здавалася б, усё відавочна, на паверхні. Бацька „сее той бок, дзе вечнасць даўно"[1] – і ў гэтым радку заўважаны А. Разанавым „шматмерны ландшафт поля"[2], дакладней двумерны. „Калі ў поля ёсць той бок, павінен быць і гэты. Калі той бок займае вечнасць, то што займае гэты бок?"[3] Заканчваецца разанаўскае эсэ „паэтычным роздумам" пра плуг, які таксама, галоўным чынам і па змесце, і па форме, нагадвае „вершаказны" тып маўлення:

> Тут, на полі няма нічога цвярдзейшага за плуг: Плуг аддзяляе
> ад нерухомага поля „скібы раллі", ён перапарадкуе поле, парушае
> яго і сцеле бацькавы ногі сцежку: ідучы за плугам, бацька
> заўсёды мае, куды ісці. Плуг змайстраваны і з аб'яўленых у вершы
> рэаліяў больш за ўсё здзейнічаны: бацька ідзе за ім, як за сваім павадыром,
> і здзяйсненне набывае свой кшталт. Плуг не ад поля, але пільнуе
> поле і не можа ад яго нікуды падзецца. У ім ён выяўляе сябе,
> і з ім поле дзейсніцца. Тое, што дзейсніцца, набывае здольнасць
> прыходзіць у канец і вяртаецца ў пачатак,
> і „вечнасць даўно" бярэ ў гэтым удзел[4].

У А. Разанава ёсць свой уласны вершаказ *Плуг*, надрукаваны ў кнізе *Пчала пачала паломнічаць*. Аднак гэта іншы па змесце твор. У ім А. Разанаў згадвае рэалію "конь", пра якую Я. Чыквін не згадвае. Але ў сваім эсэ А. Разанаў даводзіць, што „ў змесце з'явы ўгадваецца яшчэ адна рэалія – конь, але семантыкай верша яна не запатрабавана і – безназоўным словам не становіцца, яе роля перадаверана плугу"[5]. Для А. Разанава гэты невялічкі па памеры верш аказваецца неймаверна вялікім, глыбокім, настолькі ёмістым сэнсоўна, што пачынае спараджаць *„новыя творы",* уласна разанаўскія.

У зборніку *Крэйдавае кола* аналізаванаму твору папярэднічае верш *Яна ляжала ў забыцці*. Учытаемся ў яго:

> Яна ляжала ў забыцці,
> І свет з вакна глядзеў на маці,
> Як час павольна кропляй капаў,

---

[1] Я. Ч ы к в і н, *op. cit.*, с. 27.
[2] А. Р а з а н а ў, *Безназоўны верш...*, с. 106.
[3] *Ibidem*.
[4] *Ibidem*, с. 112.
[5] *Ibidem*.

Быццам вада канчалася у хаце,
І душа цела не хацела сцерагчы.

Ці маці памерлая ўспомніць
Жыццё, што не ведае ўводзін,
І што над ёю акруглае сонца
Ззяла як воблік Гасподзен?

Яна не ўспомніць не можа
Імгненна і прагна пражыты
Палёт свой над спеючым жытам
У трапятанні трывожным.
Успомніць – і станецца кветкай мурожнай[1].

На думку А. Мельнікавай, „гэтыя два вершы складаюць своеасаблівы паэтычны дыптых”[2]. Іх вылучае своеасаблівая танальнасць, найперш велічная і ўрачыстая. Вершы глыбокафіласафічныя, прасякнутыя канцэптамі жыцця, яго сэнсу, анталагічных законаў быцця. У гэтых вершах яскрава бачна, як „логіка мастацкага светаўспрымання арганічна суадносіцца не толькі са сферай свядомасці, але і працэсамі падсвядомага, а таксама ўласцівымі крэатыўнаму намаганню праявамі звышсвядомасці”[3].

Эсэ *Безназоўны верш Яна Чыквіна* спалучае ў сабе публіцыстычны, філасофскі, паэтычны пачаткі. А. Разанаву ўдаецца, на першы погляд, у простым і пластычна-наглядным тэксце адшукаць складаны падтэкст, у штодзённа-побытавых рэаліях верша знайсці глыбінны сэнс, у вонкавых знаках расшыфраваць заглыбленыя сімвалы. Названы верш выступае для А. Разанава тым калодзежам, у якім ён прагне „дакапацца” да вады. Глыбокае „дно” верша намацана і адгадана ім, дакладней разгадана. Ён выяўляе моўныя, вобразна-асацыятыўныя, культурна-філасофскія аспекты верша праз прызму свайго ўласнага светабачання. З другога боку, яго пазіцыя, яго канцэпцыя прачытання твора паэта-белавежца бачыцца абсалютна ўніверсальнай і аб’ектыўнай. Разанаўская інтэрпрэтацыя з прыцягненнем ідэі гукасэнсавасці, выкарыстаннем прыёмаў алюзіі (бацька вяртаецца нібыта з царства Азірыса – царства памерлых; адсылка да Евангелля, якая дэшыфруе згаданую ў вершы „праўату”), сама спецыфічная разанаўская манера думаць, дадумваць, дафармулёўваць вылучаюць ягонае эсэ, выяўляюць своеасаблівасць яго ўшчыльненага прачытання, выкананага метадам *close reading*. Аўтару эсэ ўдаецца заўважаць, па словах У. Конана, „дамінанты нацыянальнага характару <...> можна казаць пра сімволіку менталітэтаў, зашыфраваных у лексіцы”[4], і нават глыбей – у фанетыцы. Так, даразгаданымі ў вершы выступаюць лексемы *поле*, *авёс*, *радно*. А ў рэ-

[1] Я. Ч ы к в і н, *op. cit.*, с. 26.
[2] А. М е л ь н і к а в а, *„Дзе скарбы сэрца вашага...”*, „Полымя” 2010, №3, с. 132.
[3] А. Б р а д з і х і н а, *Пошук ісціны, або „Сінестэзія пачуццяў і сімультанізм думкі”*, „Тэрмапілы” 2003, №7, с. 145.
[4] У. К о н а н, *Узыходжанне: [Аб творчасці А. Р.]*, *„Полымя”* 1997, №12, с. 254.

чышчы гукасэнсавых ізаглосаў названыя словы выступаюць крыніцамі для новых сэнсаў, новых асацыяцый – „за выяўленым і вымаўленым у вершы прысутнічае нявыяўленае і нявымаўленае”[1]. І менавіта з гэтых адноўленых А. Разанавым словаў „творыцца верш”[2].

*Tatsiana Aliashkevich*

**The Creativity of Jan Chicvin in the Artistic Consciousness of Ales Riazanov (Essay *Beznazoun□ Versh Yana Ch□cvina*)**

A b s t r a c t

The creativity of Ales Ryazanov is a real cultural phenomenon. The author acts within his own “poetic Manvantara”, i.e. the energy of the national reality. As a result, he turns to the works of the poet Jan Chicvint. The author devotes an essay to Chicvin’s nameless poem, in which he tries to “negotiate with the poem". Why did Ryazanov turn to this work? We think it is not accidental. It happened because, at first, the very content of the verse required this, and secondly, the desire of Ryazanov to understand things which remained, perhaps, “outside”: schematic-associative figures did not allow the recognition of the rich meaning of the verse or its implicit “mystery”. The author shows that the multi-level space of the verse is internally logical, reveals its philosophy in a completely new way, with unfamiliar realities and allusions, as well as draws attention to the semantically rich and eloquent details.

[1] А. Р а з а н а ў, *„Зацемкі з зімовага саду”* [у:] А. Р а з а н а ў, *Невядомая велічыня*, Мінск 2017, с. 204.
[2] *Ibidem,* с. 224.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Anna Alsztyniuk**
Białystok

# Вобраз гараджаніна ў апавяданнях Андрэя Федарэнкі і Міхася Андрасюка

У другой палове ХХ стагоддзя пачалася актыўная ўрбанізацыя Беларусі, што, зразумела, знайшло сваё адлюстраванне ў шэрагу мастацкіх твораў. Аб сваёй вернасці вясковым караням, аб складаным уваходжанні ў новую рэчаіснасць найперш яскрава засведчыла гэтак званае славутае "філалагічнае пакаленне" беларускіх пісьменнікаў, якія звязалі назаўсёды свой лёс з горадам. Класічным прыкладам імкнення прымірыць у свядомасці горад і вёску, вядома, з'яўляецца апавяданне Міхася Стральцова *Сена на асфальце* (1962). У творчасці маладзейшага пакалення беларускіх пісьменнікаў таксама шмат увагі надаецца асэнсаванню гэтай тэмы, прычым, ужо з некалькі іншай перспектывы.

Так, Андрэй Федарэнка і Міхась Андрасюк, прадстаўнікі аднаго творчага пакалення, лаўрэаты прэстыжных літаратурных прэмій, адны з самых цікавых сучасных празаікаў метраполіі і Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", раскрываюць у сваіх творах псіхалогію сучаснага гараджаніна. Тэматыка апавяданняў А. Федарэнкі і М. Андрасюка вельмі разнастайная, але створаны імі псіхалагічны партрэт сучаснага гараджаніна-беларуса дае падставы для супастаўлення іх творчых пошукаў.

Зварот да гарадской тэматыкі відавочна абумоўлены асабістым вопытам пісьменнікаў – выхадцаў з вёсак і ўжо шматгадовых гараджан, што наклала выразны адбітак на іх пісьменніцкую індывідуальнасць, у значнай ступені вызначыла мастацка-эстэтычныя і ідэйна-стылявыя асаблівасці твораў. А. Федарэнка (аўтар кніг прозы *Гісторыя хваробы* (1989, 1990), *Смута* (1994), *Нічые* (2009), *Мяжа* (2011), *Ціша* (2014) і інш.) у сваіх творах імкнецца спасцігнуць духоўны свет сучасніка, выявіць яго клопаты і трывогі. Героямі апавяданняў А. Федарэнкі ў большасці з'яўляюцца людзі, якіх стаміла, якім надакучыла гарадское жыццё, якія прагнуць хоць бы на момант вярнуцца да вытокаў, пабыць на прыродзе. У сваю чаргу М. Андрасюк у кнігах *Фірма* (2000), *Мясцовая гравітацыя* (2004), *Белы конь* (2006), *Вуліца Добрай Надзеі* (2010), *Krzyżyk* (2015) і інш. звяртаецца да роздуму над жыццём у мястэчку на ўскраіне Белавежскай пушчы і яго ваколіцах.

Пісьменнікі заўважаюць, што пад уплывам сацыяльных і эканамічных зменаў іначыцца мысленне сучаснага беларуса. Пераацэнка каштоўнасцяў, сацыяльная адзінота, арыентацыя на паскораны статусны рух абумовілі характар сучаснага чалавека: расчараванага, самотнага, няўстойлівага. Добра пра гэта напісала Галіна Тычка: "Пералом XX і XXI стагоддзяў, пазначаны крахам сацыялістычнай сістэмы, чарговым перакройваннем еўрапейскай карты шматлікімі стыхійнымі бедствамі, лакальнымі войнамі і тэрарыстычнымі актамі – цалкам разбурае ранейшы стэрэатып жыцця, дыктуе новую шкалу матэрыяльных і ў нейкай ступені духоўных каштоўнасцяў. І асабліва балюча гэта адбіваецца на жыцці і свядомасці гэтак званага простага, звычайнага, чалавека, які адчувае сваю загубленнасць і безабароннасць у гэтым новым свеце глабальных перамен"[1].

З старонак апавяданняў А. Федарэнкі і М. Андрасюка паўстаюць персанажы, якіх яднае тое, што яны з'яўляюцца своеасаблівымі ахвярамі перамен, што вядуць да знішчэння чалавека, а ўрэшце ж і ўсяго грамадства. Аднак усё ж героі абодвух пісьменнікаў шукаюць духоўнага ратунку, шляхоў ацалення сваёй душы.

Федарэнкаўскія героі, нягледзячы на сваё сацыяльна-эканамічнае становішча, ментальна застаюцца вяскоўцамі, верачы, што адчуць суладдзе з Космасам яны могуць толькі ў вёсцы. Менавіта таму яны падаюцца ў свае родныя пенаты, дзе спадзяюцца не толькі проста адпачыць, але і ўзмацніцца, найперш, духоўна. З гэтай мэтай збіраецца ў вёску герой апавядання *Бунін-Марцінкевіч* (2007): "Якая насалода – ведаць, што ўсё страшнае, брыдкае, балючае – ззаду, а наперадзе цэлае жыццё! Цэлае лета! Узяць на ўсе тры месяцы адпачынак, паехаць у вёску; ні пра што не думаць, сесці на беразе, вудку закінуць..."[2]. Спачатку здаецца, што дваццаціпяцігадовы малады чалавек, у якога ёсць сям'я і добрая пасада, толькі ў бальніцы пачынае заўважаць дыскамфортнасць гарадскога жыцця: "Аднаго толькі не разумею: навошта ім, каторыя на волі, здаровым, дужым, гэтая беганіна? Гэтая мітусня? І дзеля чаго? Гэтае ўвесьчаснае жаданне перагнаць адзін аднаго, хутчэй перабегчы вуліцу, у краму заскочыць, у госці не спазніцца, да тэлевізара паспець..." (213).

Аднак расчараванне гарадскім ладам жыцця, як лёгка можа здагадацца чытач, з'явілася ў душы маладога чалавека намнога раней. Патрэба змяніць нешта ў жыцці, імкненне хаця б на хвіліну стаць некім іншым вызначала паводзіны героя. Праўда, ён сам гэтага да канца не ўсведамляе: "Выйшаў з офіса пакурыць у двор. Хлопцы грузяць у кузаў шыны. Тры-чатыры чалавекі, крэкчучы, падымаюць адну. Які чорт, пад

---

[1] Г. Т ы ч к а, *Проза Міхася Андрасюка. Пошукі новых шляхоў мастацкага асэнсавння жыцця* [у:] Г. Т ы ч к а, *Нацыянальнае. Індывідуальнае. Агульначалавечае*, Беласток 2015, с. 105.

[2] А. Ф е д а р э н к а, *Мяжа. Раман-эсэ, апавяданні*, Мінск 2011, с. 219. Далей пры спасылцы на гэта выданне ў дужках падаецца старонка.

якую руку мяне штурхануў? Навошта мне спатрэбілася – у белай кашулі, з цыгарэтаю ў зубах, галоўнае, калі мяне ніхто не прасіў – памагаць ім?! <…> А вось чаму: не цаніў тое, што меў. На, параўнай. Не адчуўшы смагі захацеў пазнаць смак вады?" (217).

Паступова ў маналогах псіхалагічна дакладна раскрываюцца думкі і мары пацыента гарадской бальніцы: "Усё жыццё. Не высоўвацца, не вылучацца... Трэба быць як усе. І тады, магчыма, выжывеш. І, магчыма, будзеш жыць доўга. Магчыма, нават станеш багатым, прыгожым, тоўстым... <…> Адным мазгі былі занятыя – лізінг, маркетынг! Браць ад жыцця, патрабаваць ад яго, нават разумець, што нічога не даецца так, задарма, мы з горам папалам навучыліся, вось толькі цаніць не ўмеем! Хіба я цаніў? Прымаў як належнае, само ў рукі плыло, ды і шчэнціла мне, каціўся па жыцці абаранкам, не пабываўшы – ні разу! – ні ў бальніцы, ні ў турме..." (215–217).

Герой выступае супраць прыстасавальніцтва, спажывецтва, што атручваюць сучаснага чалавека. Аднак гэты бунт, на думку пісьменніка, не мае сэнсу. З горыччу А. Федарэнка заўважае, што толькі ў крызіснай, драматычнай сітуацыі чалавек задумваецца над сваім лёсам, але нават тады ён не здольны належным чынам ацаніць тое, што ў яго ёсць. Пісьменнік не пакідае чытачу ніякіх ілюзій: яго герой памірае і не атрымлівае магчымасці здзейсніць задуманае, бо сапраўдная яго духоўная перамена не адбываецца. Герой іграе са смерцю, не ўмее даражыць жыццём і не слухае ўгавораў урача, які тлумачыць, што нельга яму гаварыць і варушыцца. Гарачыя словы, выказаныя ў маналогах, становяцца непасрэднай прычынай смерці маладога чалавека: "Каб маўчаў, дык жыў бы" (221).

Развітацца са сваімі ўяўленнямі і марамі мусіць і Марусь, герой апавядання М. Андрасюка *У цягніку*. Сціплы кравец пакідае сваё мястэчка і едзе ў Варшаву, дзе спадзяецца ўладкавацца на працу ў сапраўдную працоўню. Аднак, як і А. Федарэнка, М. Андрасюк даказвае, што сучасны чалавек не зможа змяніць жыццё, адмяніць свой лёс. Ужо на пачатку досыць катэгарычна пісьменнік прадказвае, што здзяйсненне кравецкай мары не прадбачыцца: "Але нават самыя простыя людзі побач са звычайнымі марамі носяць у сабе мроі святочныя. <…> Часам такая мроя вырываецца з рук, уцякае, пачынае жыць сваім жыццём, нараджае чарговыя летуценні. А яны, бы фальшывыя сябры, абступаюць чалавека, клічуць, вабяць у чужы і непрыхільны яму свет"[1].

Поўны пухір – толькі непасрэдная, але ж не галоўная прычына драмы Маруся. Пісьменнік заглыбляецца ў псіхалогію мужчыны, што сароміецца пайсці ў туалет з-за суседкі ў купэ: "Яна такая прыгожая, а ў мяне зусім празаічная праблема. Як жа так? Напэўна ж, адразу здагадаецца ў чым справа. <…> Ну, быццам нічога, быццам звычайнае, чалавечае. Усе людзі час ад часу прымушаны. А можа і не ўсе? Напэўна, не.

---

[1] М. А н д р а с ю к, *Мясцовая гравітацыя,* Беласток 2004, с. 19.

Вось, скажам, які Лінда або Пазура, ды і ўсе астатнія моцныя мужчыны, якіх глядзіш у кіно – здараецца ж схадзіць ім у туалет, калі побач такая прыгажосць? Дзіўны сорам загрузіўся на спіну свінцовым цяжарам, прышпіліў да лавачкі. Гэты сорам вядомы кожнаму, чыю абдзёртую куртку ў раздзявальні элегантнага рэстарана вешалі побач з напышлівым каракулевым футрам”[1].

Не сацыяльнае асяроддзе, але ўяўленні пра жыццё тых, каго бачыў у тэлевізійных праграмах, фарміравалі думкі і ўчынкі героя. Ён хаваецца за маскай, не можа быць самім сабою, змушае сябе цярпець пакуты, што канчаткова вядзе яго да асабістай катастрофы, якую памайстэрску паказвае пісьменнік у канцы апавядання: “Але Марусь ужо не чуў вісклівага пратэсту пухіра. Сціскаючы далікатную жаночую далонь, ён паглыбляўся ў блакітныя абдымкі басейна. Цёплая, шаўковая вада агарнула сцёгны, калені. Увішнымі струменчыкамі пабегла яшчэ ніжэй, на лыткі, у чаравікі, што цягам гадоў выстаялі не адну летнюю спёку і восеньскую слату”[2].

М. Андрасюк сведчыць, што чалавек не павінен выступаць супраць прыроды. У дадзеным выпадку змаганне з поўным пухіром паказваецца пісьменнікам як сімвал безнадзейнага змагання з самім сабою. Марусь хоча пакінуць сваё натуральнае асяроддзе, бо ў сталічным жыцці бачыць шанц для прафесійнага росту. Аднак духоўна, ментальна ён зусім не падрыхтаваны да новага жыцця і таму ўжо першае сутыкненне з метраполіяй у вобліку прыгожай варшавянкі мае драматычны фінал.

Гарадское жыццё выглядае прывабным, але абодва пісьменнікі бачаць і адмоўныя яго бакі. Цана, якую вымушаны плаціць гараджане за свой матэрыяльны дабрабыт, на думку як А. Федарэнкі, так і М. Андрасюка, залішне высокая. Адарваныя ад прыроднага наваколля, ад спрадвечных каштоўнасцяў людзі накладаюць маскі, каб выжыць у штучным свеце, у якім немагчыма знайсці сапраўднае шчасце.

Сваё гарадское жыццё раз у год пакідае і галоўны герой апавядання А. Федарэнкі *Госць* (1995): “Звычайна пад канец мая, калі ў Мінску ставала гарачыня, і душа і цела звыкла пачыналі бунтаваць («а час ляціць, а людзі на курортах, дачах, на прыродзе, а я...» і г. д.), адзін малады чалавек, па прозвішчы, скажам, Азіевіч, кідаў усё і хоць на пару дзянькоў вырываўся на Палессе, да былога сябра-аднакурсніка, які працаваў там настаўнікам у вёсцы”[3].

Вяртанне Азіевіча ў вёску, як амаль адразу падкрэслівае А. Федарэнка, матывавана яго “духоўнымі” патрэбамі, неабходнасцю ўпэўніцца, што ён лепшы за іншых: “У першы свой прыезд Азіевіч, як і сябар цяпер, быў звычайным настаўнікам, у другі – журналістам, а ў гэты,

[1] *Ibidem*, с. 22.
[2] *Ibidem*, с. 27.
[3] А. Ф е д а р э н к а, *Ціша. Аповесці. Апавяданні,* Мінск 2014, с. 132.

трэці – «камерсантам» (ён памагаў скупляць і перапрадаваць тавары, зробленыя іншымі людзьмі). А сябар кожны раз заставаўся адным і тым жа, са сваімі маленькімі клопатамі. І гэта прыемна было ведаць, бачыць – што ты расцеш, а некаму Бог не даў, так і гібее”[1].

Асабліва ярка адмоўныя душэўныя якасці Азіевіча выступаюць у параўнанні з сябрам настаўнікам. Відаць, невыпадкова А. Федарэнка не называе імя і прозвішча настаўніка, а стварае абагулены вобраз вясковага інтэлігэнта. Настаўнік самахарактарызуе сябе і выступае ў ролі выкрывальніка Азіевіча: “Ты ведаеш, што я ўжо год не тое што сабе ці жонцы – малой не магу купіць ніводнай абноўкі? Усё на ежу, на муку, цукар, камбікорм... І наце – з’яўляецца ён ! На ўсё гатовае! Ты ведаеш, якую ты гарэлку піў? Тую, што я хаваў людзям, каб соткі абагналі, дроў прывезлі! Паляндвіцу хаваў, грыбы – малой шкадавалі, а для яго выставілі – пі, еж, толькі будзь чалавекам! <…> Хвалішся сваімі рэстаранамі, «баксамі», а прывёз хоць раз, як чалавек, цукерку малой? Лене апельсіна якога? У госці ж са сваёй гарэлкай ідуць, а ты з чым прыязджаеш трэці раз? З пустымі рукамі! Але хай – пі, еж, рыбалку хочаш – на табе рыбалку... Не – дай яшчэ жонку! Свіння, проста свіння, і больш нічога!”[2].

Пры абмалёўцы Азіевіча пісьменнік канцэнтруецца на адной рысе яго характару, якая завастраецца да незвычайнай ступені. Паводзіны Азіевіча, яго спажывецкае стаўленне да другога чалавека цалкам вызначаюцца думкамі аб уласнай карысці. І таму нават колькасцю выпітай гарэлкі нельга апраўдаць тое, што герой спрабаваў залезці і ў шлюбны ложак гаспадароў.

Настаўнік, выказаўшы набалелае, пад уплывам эмоцый спачатку выкідае Азіевіча з хаты, але потым дазваляе яму застацца на начлег, а раніцай паводзіць сябе так, нібыта нічога не сталася: “Калі, як шкадлівы кот, ён [Азіевіч. – *А. А.*] адважыўся высунуцца са сваёй баковачкі і прытупаў у меншую хату, яго ўжо зноў чакаў сабраны свежымі закускамі стол і слоік самагону”[3]. Такім чынам пісьменнік звяртае ўвагу на чалавечнасць, маральную вышыню настаўніка, тыя рысы характару, якія некаторыя гараджане даўно страцілі.

А. Федарэнка канстатуе, што, апынуўшыся ў вясковай рэчаіснасці, яго герой-гараджанін не толькі не можа вярнуць сабе страчаныя каштоўнасці, але і ўносіць у свет, у якім яны яшчэ дзейсныя, набытую за гады жыцця ў горадзе амаральнасць. Аднак у напісаным некалькімі гадамі пазней апавяданні *Лёд* (2002, 2007) пісьменнік паказвае, што перамены XX–XXI стагоддзяў не абышлі і вёску, апошні бастыён маральна-этычных каштоўнасцяў, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Ён сведчыць, што новыя эканамічныя ўмовы змяняюць і жыхараў вёскі. Баба Ганя, “звычайная вясковая бабулька, у пуховай хустцы, вязанай

[1] *Ibidem*, с. 132.
[2] *Ibidem*, с. 137.
[3] *Ibidem*, с. 138.

кофце, у пантофлях з кутасамі і ў мужчынскіх шкарпэтках” (227), з'яўляецца гаспадыняй тыповай вясковай хаты, што аказваецца “домам спатканняў”.

Гарадское жыццё спарадзіла маральную праблему ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, нават самымі блізкімі. Галоўныя героі апавядання *Лёд* (Фелікс і Галубоўскі) не знаходзяць шчасця ва ўпарадкаваным сямейным жыцці і спадзяюцца адчуць яго ў бабы Гані, у час сустрэчы з замужнімі мінчанкамі, якім таксама ў жыцці нечага не хапае. А. Федарэнка дае агульную характарыстыку маладога пакалення, расчараванага гарадскім жыццём: “І ўсё ж было нават у тварах іх нешта агульнае, ледзь улоўнае, што рабіла іх падобнымі. Гэта – узрост, той самы сумнаславуты «крыху за трыццаць», <…> калі сёе-тое ў жыцці дасягнута (а дасягнуць хацелася, канечне ж, «чаго і ўсе»: сямейка, дзеткі, кватэрка, кар’ерка, машынка...), калі жыццё больш-менш уладкавана, распланавана, калі ведаеш, што было, што ёсць і – на жаль – лёгка адгадваецца, што будзе (а будзе яшчэ круглейшы жывот, яшчэ большая азызласць, мяшкі пад вачыма, вяласць мышцаў, усё менш заставацца будзе валасоў на галаве і зубоў у роце і ўсё расці будзе пералік хваробаў у медыцынскай картцы...), і – як вынік – пытанне: гэта ўсё?! няўжо ўсё?! – і разгубленасць, <…> і ўсё мацней прага нейкага бунту, хоць бы бунціку, усё вастрэй жаданне ўхапіць рэшткі маладосці, паспець «загрузіцца»” (223).

Фелікс вонкава выяўляе сябе як культурны чалавек, але знаходзіцца ў духоўнай цемры – здраджвае хворай жонцы і не бачыць свайго маральнага заняпаду. Духоўную зіму перажывае і Галубоўскі, але пад уплывам эмоцый ён уцякае з хаты бабы Гані. Пісьменнік тонка перадае крызісны стан свайго персанажа, што выпадкова праваліўся пад лёд. Спачатку герой думае пра матэрыяльныя рэчы: “шапка намокне! І гадзіннік, і цыгарэты, і тэлефон... Якраз тое, што трэба ратаваць!..” (232), потым ракурс яго думак мяняецца: “Вось табе прынцыповасць! Вось яна, плата за маральнасць – заместа ўзнагароды! А не трэба было акторстваваць, дурыць, капрызнічаць не трэба было – і не праваліўся б, не замярзаў бы цяпер, не боўтаўся б, як дзярмо ў пельцы, не стаяў бы раскіракаю – а ляжаў бы ў цёплым ложку з дзеўкаю, як Фелікс, мабыць, зараз... <…> Не, не застаўся б... Калі б Фелікс нават каўнер адарваў, утрымліваючы, – уцёк бы. Чаго ўжо тут... Не кожнаму, дарагі мой, дадзена, не так проста, як у тваіх анекдоціках!..” (233).

У халоднай вадзе адбываецца маральнае ачышчэнне душы Галубоўскага, які прыходзіць да высновы, што не змог бы здрадзіць жонцы. Катарсіс адбываецца, але гэта фізічна не ратуе героя: “Стаяў па пояс у ледзяной вадзе, пад гэтым вечным месячным святлом, маленькі, скалелы, напалоханы, бездапаможны – мікраскапічная пылінка ў Космасе, і хныкаў, румзаў так, што салёныя слёзы ажно ў нос зацякалі!” (233). Звычайна чалавек, апынуўшыся ў цяжкім становішчы, шукае дапамогі ў іншых людзей. Герой А. Федарэнкі не робіць гэтага: яму сорамна і ён не асмельваецца ні прасіць дапамогі ў рыбакоў, ні пазваніць

некаму са знаёмых. Аднак пісьменнік не дазваляе Галубоўскаму загінуць: ратуе яго рыбак, жыхар палаткі, былы гараджанін, якога з хаты выгнала дачка. Выказаныя рыбаком словы ў пэўнай ступені тлумачаць паводзіны Галубоўскага: "Як-ніяк сталіца, а вы ў мокрым... Пазіраць будуць, падумаюць немаведама што..." (234). Так пісьменнік звяртае ўвагу на праблему складаных чалавечых узаемаадносін, на тое, што ўчынкі сучасніка часта вызначае тое, што падумаюць, скажуць іншыя.

Героі апавяданняў М. Андрасюка – гэта "«лішнія героі» нашага часу"[1], што таксама, як персанажы А. Федарэнкі, вырашылі схапіць свой лёс у свае рукі. М. Андрасюк вядзе чытача ў "паўнакроўны, жывы свет дробнага, смешнаватага паўсялянства-паўместачкоўцаў, паўінтэлігэнтаў <…> своеасаблівы сацыяльны маргінэс на сумежжы нашай польска-беларускай рэчаіснасці"[2]. Імкненні жыхароў мястэчкаў памежжа не адрозніваюцца ад тых, якімі жывуць і жыхары гарадоў Беларусі. Пан Владак з апавядання *Крах*, як героі апавядання А. Федарэнкі *Лёд*, стварае лагічны план сваёй будучыні. Кватэра, адукацыя, пасада, машына – тое, што трэба, на думку героя, прыдбаць раней, чым закласці сям'ю. Жыццёвыя арыенціры змушаюць героя да сляпога паслушэнства і дапамогі таму, ад каго залежыць далейшы прафесійны лёс. Пан Владак часова пакідае ўласную кватэру, у якой над важнымі праектамі працаваць павінен яго начальнік інжынер Стручук. Герой нават не ўсведамляе сабе, што начальнік выкарыстоўвае яго наіўнасць, а кватэра – месца спатканняў інжынера з каханкаю. М. Андрасюк стварае каларытны вобраз героя, які, "чакаючы належнае сабе жыццёвае і прафесійнае месца, <…> падаўся ў горад, каб разглянуцца за месцам куды больш празаічным, а менавіта – за начлегам"[3]. Выпадковая сустрэча з паняй Стручук – кульмінацыйны момант у жыцці героя, што вядзе да краху яго планаў: "Перамена з інтэлігентнага, адданага фабрыцы чалавека ў апошняга ідыёта, якая за адну ноч адбылася ў спальні інжынера Стручука, была самай вялікай і найважнейшай трансфармацыяй у маім жыцці. Усё, што здарылася потым – вымова з папярэджаннем, паніжэнне на рабоце, а ў рэшце рэшт і звальненне з працы – я не лічу актам помсты. Гэта толькі лагічны рэзультат маёй ранейшай перамены"[4]. Нават пра сумныя, трагічныя моманты М. Андрасюк гаворыць з уласцівым яму гумарам, ратуючы такім чынам і сябе, і чытача ад песімізму і адчаю.

Бяскрыўдны гумар дапамагае М. Андрасюку стварыць адметны партрэт свайго сучасніка, з яго markнымі чалавечымі хібамі. Пісьменнік з лагоднай усмешкай гаворыць аб няўдачніках, ментальна зусім непадрыхтаваных да жыцця, якога прагнуць. Мара пра дом з басейнам

[1] Я. Ч ы к в і н, *Сцэны з нашага тэатрума* [у:] Я. Ч ы к в і н, *Па прызванні і абавязку. Літаратурна-крытычныя артыкулы*, Беласток 2005, с. 226.
[2] *Ibidem*, с. 228.
[3] М. А н д р а с ю к, *Фірма,* Беласток 2000, с. 50.
[4] *Ibidem*, с. 51.

падштурхоўвае Толіка Рубеля (*Фірма*) кінуць працу на фабрыцы і стварыць уласную фірму, капітал якой вызначылі пенсіі цесця, цешчы і зарплата жонкі. Спажывецкае стаўленне Толіка Рубеля да грошай, здабытых сапраўднай працай сямейнікаў, магло б выклікаць у чытача супраціўленне. Аўтарская пазіцыя лагодзіць адмоўныя рысы вобразу героя, які пра інтарэсы сваёй фірмы найчасцей дбае ў кавярні "Верас". З мяккай іроніяй пісьменнік гаворыць пра тое, што светлая будучыня герою не даступная, бо ён не разумее, што толькі цяжкай працай здолее адмяніць свой лёс: "Думкі і праекты матэрыялізаваліся, увасабляліся, ператвараліся ў складаныя прагнозы, вылічэнні, бізнес-планы. У залежнасці ад актуальнай кан'юнктуры мяняліся аб'екты зацікаўлення, пранікаліся новыя і новыя абшары гаспадарчай рэчаіснасці, аднак думка, каб што-небудзь рабіць, заставалася ў першапачатковым прататыпе"[1]. М. Андрасюк таленавіта "валодае мераю і адчуваннем межаў у «порцыях» смеху. Неаднаразова на працягу чытання ўзнікае пачуццё небяспекі, што вось-вось саркастычная ўхмылка ператворыцца ў цынічную грымасу. <…> тое самае небяспечнае «ледзь-ледзь» пісьменнік не пераступае"[2].

Ужо ў згаданых вышэй апавяданнях пісьменнік звяртае ўвагу на праблемы, з якімі вымушаны змагацца сучаснікі. Яны аналагічныя як і ў федарэнкаўскіх герояў: расчараванне жыццём, у тым ліку і сямейным. Да тэмы здрады М. Андрасюк вяртаецца ў кнізе *Мясцовая гравітацыя.* Не на сваім месцы, самотнымі адчуваюць сябе пан Носік і яго суседка Зіна з апавядання *Сустрэча*:

"– <…> Тут можна быць толькі нешчаслівай жанчынай.

– Та-ак. Тут усё не так. Дзе ні глянь, правінцыя, – працягваючы настрой, працягнуў пан Носік. А на душы – пасвятлела. Вось, аказваецца, не адзін ты ў няшчасці, ёсць і ў цябе таварышы"[3].

Патаемная сустрэча жанатага Носіка і яго замужняй суседкі павінна стаць першым крокам у новае жыццё. Аднак панам Носікам, яго паводзінамі кіруе страх перад рэакцыяй жыхароў мястэчка, так што герой не пераступае "нябачную, назначанаю мястэчкам мяжу прыстойнасці"[4]. Аднак неабходнасць прыстасавацца да ўсталяваных нормаў і няпісаных законаў, што існуюць у мястэчку, не адбірае ў героя магчымасці быць шчаслівым, і ён знаходзіць выхад з тупіковай сітуацыі. Паглыбляючыся ў свет мараў, у якім дазволена пераступаць любыя межы, пан Носік забывае пра шэрую рэчаіснасць.

Асалоду ў інтымных адносінах з жанчынамі знаходзіць Вітусь Агоньчык, герой апавядання *Клаксон*. Месца яго жонкі, што раз у год

[1]*Ibidem*, с. 10.

[2] Л. А л е й н і к, *Погляд на жыццё з вышыні палёту (проза Міхася Андрасюка)* [у:] *Шлях па прамой часу. Да гісторыі беларускай літаратуры ў Польшчы. 1958–2008 гг.,* пад рэд. Я. Чыквіна, Беласток 2007, с. 300.

[3] М. А н д р а с ю к, *Мясцовая гравітацыя,* с. 75.

[4] *Ibidem*, с. 77.

едзе ў адпачынак на цёплае мора, за прылаўкам у краме "Мамуазель" займаюць маладыя дзяўчаты, з якімі Вітусь прыемна бавіць час і пасля працы. Пагрозай для шчаслівага, спакойнага і забяспечанага жыцця мужчыны можа стаць дзіця, што, мабыць, народзіцца пасля праведзеных у аўтамашыне хвілін з Кавалёвай Лількай. М. Андрасюк падрабязна раскрывае думкі героя, выкліканыя ўжо самім намёкам на магчымасць стаць бацькам: "У Вітуся не было жадання ні ўцякаць, ні адмаўляцца ад чаго-небудзь. <...> І думаў пра бліжэйшую будучыню. Перш за ўсё – як аб'явіць такую навіну жонцы. Што ёй сказаць? І як сказаць? З жонкай, хаця і пражылі разам гадоў трыццаць, ніколі такога не было. Ніколі, нат пасля самай блізкай блізкасці, не сказала яна Вітусю: у нас будзе дзіця. І яго не было. А затым у разгубленасці, непазбежнай у новай сітуацыі, пачаў вылузвацца дзіўны мужчынскі гонар, упэўненасць у сваёй выключнасці, несмяротнасці амаль"[1].

М. Андрасюк паказвае жыццё герояў мястэчка ва ўсёй супрацьлегласці і адначасова выяўляе агульнае ў рысах характару яго жыхароў. З аднаго боку, героі з трывогай думаюць аб непрыемных наступствах паводзін, нязгодных з маральным кодэксам мястэчка. З другога – яны здольныя выступаць супраць існуючых прынцыпаў, асцерагаючыся, каб амаральныя ўчынкі не пабачылі дзённае святло. Канчаткова на магчымага нашчадка герой глядзіць праз прызму ацэнкі асяроддзя, якая ў падобных выпадках заўсёды была адмоўнай. Вітусь мусіць развітацца ўжо з самімі думкамі аб магчымым дзіцяці, бо не можа дазволіць сабе нават уяўнага разбурэння жыцця, яго ладу. Ён не гатовы нешта перайначыць у сваім лёсе і будзе паводзіць сябе як і раней: "У суботу пасля поўдня ён сядзе ў машыну, паедзе на вакзал. <...> Яна [жонка. – *А. А.*] будзе ісці побач, а ён тады скажа:

– Ведаеш? Гэта прадаўшчыца, што ты да ад'езду вынайшла яе... А, дарма і казаць што.

– Зноў нястача ў касе? – як заўжды спытае жонка і смутна ўсміхнецца. – Зараз не трэба даўяраць маладым"[2].

Пісьменніцкая згадка пра рэакцыю жонкі Вітуся Агеньчыка можа сведчыць аб ролі, якую на сцэне мястачковага жыцця мусіць сыграць і жанчына, якой здрадзілі. Яна, відавочна, уяўляе сабе, як паводзіць сябе яе муж, але не можа выказаць набалелае.

Сваё месца на зямлі і ў сусвеце шукае і герой апавядання А. Федарэнкі *Уночы* (1993, 2009), што паўстае перад чытачом як вельмі складаная псіхалагічная структура: "Раз ці два ў год гэта здаралася з Берасцевічам. Ён пачынаў востра, без аніякай, здавалася б, прычыны баяцца і ненавідзець людзей. Не ўсё чалавецтва, а менавіта бліжняга свайго, які абганяў яго на аўтамабілі, ехаў побач у метро, выступаў па тэлевізары, ішоў па тратуары. <...> Ён пераставаў разумець, чаму яны апранаюцца,

[1] *Ibidem*, c. 68.
[2] *Ibidem*, c. 72.

куды едуць, куды баяцца паспець, перабягаючы вуліцы, даганяючы транспарт? <…> Цікава, што сам ён добра разумеў, чаму вечарам кладзецца ў ложак, а раніцаю ўстае, чаму голіцца, снедае, апранае касцюм і гальштук, чаму спяшаецца на працу, чаму яму трэба хутчэй перабегчы вуліцу і дзеля чаго закупацца прадуктамі на базары і ў магазіне" (246–247).

Маладушны, спакойны, палахлівы па натуры Берасцевіч разумее, што нешта кепскае адбываецца з ім і шукае ратунку за горадам. Ноччу ён падаецца ў невядомую яму вёску, дзе спадзяецца "паправіць здароўе, вярнуць душэўны супакой і фізічную бадзёрасць" (249).

Звяртае ўвагу супярэчлівасць вобраза Берасцевіча, які, з аднаго боку, не прымае таго, што адбываецца ў вясковай хаце, але з другога – дае волю самым змрочным пачуццям. Герой задумваецца над лёсам нямой Ларысы, якой гандлюе ўласны бацька, здаецца, нават спачувае дзяўчыне: "Прамільгнула ў галаве: сціплая, напалоханая, забітая ў куточак, з нацянутай коўдрай да падбародка... Але ў гэты момант чужыя дзявочыя рукі яшчэ ў цемры абхапілі яго за шыю. Яна ажно павісла на ім. І ён зразумеў – якая тут коўдра да падбародка! – за сваё кароткае жыццё яна проста не ведае іншых адносін з мужчынамі, акрамя такіх, а можа і не хоча ведаць" (255).

Спачатку ў адносінах да дзяўчыны Берасцевіч кіруецца маральнымі законамі: "Берасцевіч адвярнуўся.

– Я... не той, не такі... Калі не хочаш – не трэба... Я ўсё роўна заплачу, дам грошы, многа!..

Яна толькі пасміхалася. Яна не разумела, што ёй кажуць. Яго дабрыня ні прама, ні ўскосна не магла быць ацэнена ў гэтым глуха-нямым, мёртвым царстве" (256).

Пісьменнік быццам апраўдвае пазнейшыя паводзіны Берасцевіча, паказваючы, што яны – вынік расчаравання. Герой у вёсцы спрабуе палячыць душу, шукае спакою, гармоніі, а трапляе ў яшчэ горшае, чым гарадское, "цёмнае каралеўства". Малая, пабеленая, дагледжаная звонку хатка з садзікам ужо з парога "ззяе" брудам, які ў прамым і пераносным сэнсе абляпіў і яе жыхароў: дзядзьку Івана, што ўвесь час ходзіць у брудных, заношаных кальсонах і яго прыгожую дачку, што прадае сваё цела. Аднак ці расчараванне можа апраўдаць звярыны шал, якому паддаецца герой?

Як ні дзіўна, ды менавіта ўспрыняцце Ларысы як прадмета толькі асалоды, усёдазволенасць адурэлага самца, выяўленне проста звярынага інстынкту змяняюць героя: "За ноч Берасцевіч ператварыўся ў іншага чалавека. З вачэй сышла трывога, на твары гуляла ўсмешка абсалютна здаровага, дужага, упэўненага ў сябе мужчыны. Шчаціна на шчоках не старыла, а наадварот, свяжыла яго. На такіх звычайна прыемна глядзець, і хочацца парадавацца чужой радасці, сказаць добрае слова ці хоць бы ўсміхнуцца ў адказ на ўсмешку" (257).

Здаецца, полавыя адносіны вызвалілі героя, забралі ўвесь цяжар, што сабраўся ў душы. Берасцевіч шчаслівым вяртаўся ў сваё гарадское

жыццё, задаволенымі ён пакінуў і жыхароў малой хаткі, якім, згодна з абяцаннем, шчодра заплаціў за праведзеную ў іх кампаніі ноч.

“Чалавек, такі яго склад, заўжды хоча быць кімсьці другім, чым ёсць”[1], – заўважае герой апавядання М. Андрасюка *Гравітацыя.* З перспектывы трыццаці гадоў ён глядзіць на сябе ранейшага, маладога, шчасліва закаханага, адно рашэнне якога паклалася ценем на ўсё жыццё. У час выпадковай сустрэчы з Болюсем і Папусем герой асмельваецца прыняць позу, пастуміць нязгодна са сваімі маральна-этычнымі прыярытэтамі. Небяспечная гульня, якую вядзе герой са знаёмымі не можа мець шчаслівы фінал: п’яная Зося становіцца ахвярай мужчынскай пажадлівасці. Усё адбываецца ў прысутнасці яе каханага, што вырашыў пайсці на ратунак дзяўчыне толькі тады, калі яна пачне крычаць. Алкаголь адабраў у Зосі здольнасць рэакцыі на нахабнасць гвалтаўніка: “Ляжыць, бы здзёртая шына. І толькі ўсё паўтарае: «Ванітаваць хачу...»”[2]. Нечаканая цяжарнасць змусіла Зосю і Болюся стварыць сям’ю. Шлюб каханай дзяўчыны зламаў героя: “Хацелася сесці на які-колечы аўтобус, нават не ведаючы яго маршруту, ды адправіцца ў самае далёкае месца на зямлі”[3]. Аднак герой застаўся ў мястэчку, не завёў сям'і, стаў праводзіць час на вакзале, на якім некалі сустракаўся з Зосяй. Герой глыбока корпаецца ў сваёй душы, аналізуе асабістыя памылкі і мары. Такім чынам пісьменнік даводзіць, што чалавек мусіць заставацца самім сабою, бо ён нясе поўную адказнасць за сябе і свой лёс.

Творчасць М. Андрасюка – гэта “не толькі эмацыянальная рэакцыя на грамадскія падзеі другой паловы 1980-х гадоў, выяўленне сваіх непасрэдных адносін да навакольнага свету, а штосьці больш глыбокае і значнае, а менавіта – мастацкае цэласнае бачанне свету і чалавека ў ім. Свету канкрэтнага і чалавека жывога, рэальнага”[4] – дакладна адзначыў Серафім Андраюк, між іншым ураджэнец падбельскай вёскі Грэдалі. Пісьменнік “не губляецца ў мностве падрабязнасцей, а, аддаючы ім належнае, стварае ўрэшце цэласны, завершаны зрэз рэчаіснасці”[5]. М. Андрасюк часта звяртаецца да вобразу расчараванага сваім сямейным становішчам мужчыны. Найчасцей яго героі знаходзяць спагаду ў таварыстве сяброў, у размовах пры куфлі піва. Шануюць такія хвіліны героі апавядання *Клёсы*, у тым ліку і Федзік, што пасля страты працы стаў асабліва скептычна глядзець на свет. Аднак нават кусліўыя заўвагі героя не абуджаюць у яго таварышах супраціўлення, жалю, ці злосці, бо ў мірным свеце мястэчка людзі яшчэ здольныя разумець адзін аднаго.

А. Федарэнка і М. Андрасюк не імкнуцца да выхавання свайго чытача, пазбягаюць павучальнага пафасу, непасрэднай ацэнкі ўчынкаў герояў. Яны проста ствараюць “карціны жыцця”, паказваюць свет, які

[1] *Ibidem*, с. 47.
[2] *Ibidem*, с. 55–56.
[3] *Ibidem*, с. 57.
[4] С. А н д р а ю к, *Свет да болю блізкі* [у:] *Шлях па прамой часу...*, с. 302.
[5] А. С а к о в і ч, *Беларуская літаратура Польшчы,* Беласток 2012, с. 137.

добра ведаюць, бо ў ім жывуць. Усеагульнае знаходзіць у іх творах сваё індывідуальнае выяўленне. Галоўны акцэнт у апавяданнях А. Федарэнкі і М. Андрасюка зроблены на ўнутраным стане душы сучасніка. Героі апавяданняў А. Федарэнкі спрабуюць прыхаваць ментальнасць вяскоўца, паказаць, што яны ўжо гарадскія, але цяжар маскі, якую накладаюць на сябе, ім зусім не па сілах. Цана фінансавай стабільнасці – індывідуалізм, замкнёнасць, адсутнасць шчыльных сваяцка-суседскіх сувязяў, жыццё сярод безаблічнага, ананімнага натоўпу. Пісьменнік акцэнтуе ўвагу на кантрасце паміж высокім сацыяльным статусам гараджаніна і яго маральнай дэградацыяй. Яго героі, губляючы сябе, губляюць і сваё шчасце. Нашмат шчаслівейшымі выглядаюць жыхары мястэчка на польска-беларускім памежжы, што мараць пра жыццё ў вялікім горадзе, але не пакідаюць сваё роднае гняздо або пакідаюць яго толькі часова. М. Андрасюк глыбока, па-філасофску аналітычна пранікнуў ва ўнутраны свет свайго героя, выявіў яго залежнасць ад грамадскага і сацыяльна-культурнага асяроддзя.

*Anna Alsztyniuk*

**The Picture of a City Dweller in Short Stories of Andrei Fiedarenko and Michas Androsiuk**

Abstract

The urbanization processes of the second half of the 20th century in Belarus and Poland became the subject of increased interest among writers of the post-war generation. According to the younger generation of Belarusian writers, both in Belarus itself and in Poland, the space of the city is not only an opportunity for personal development or better material existence, but also a real threat to traditional values. Andrei Fiedarenka and Michas Androsiuk, who are among the most interesting contemporary Belarusian writers, focus in their works on showing the psyche of a city dweller. Their personal experience is the underlying reason for a return of writers to the subject of the city and its residents. Their country origin as well as many years of urban life made a clear mark on the conceptual and stylistic features of their stories. The writers focus on showing the influence of the city on everyday life of people and their character. Andrei Fiedarenka presents the inner world of his heroes, disappointed and tired of living in the urban space. The protagonists of Michas Androsiuk short stories are residents of a small town on the Polish-Belarusian borderland.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Наталля Апанасовіч**
Полацк

# Заходнебеларускія рэаліі ў раманным цыкле Вячаслава Адамчыка

Творчасць Вячаслава Адамчыка – адметная частка беларускай народазнаўчай літаратуры. Цікавасць аўтара да звычайнага, паўсядзённага жыцця і клопату простага чалавека вызначыла і ракурс пісьменніцкага светабачання, паспрыяла неабходнасці добраахвотна накласці на сябе адказны абавязак захавальніка найдрабнейшых адзінак вясковага космасу. Пісьменнік добра разумеў, што „са стратай бацькоў меркне сьвятло роднай хаты. Са стратай роднага парога меркне і глухне сьвятло Бацькаўшчыны”[1].

Мастацкаму захаванню народнай спадчыны, даследаванню і асэнсаванню спецыфікі беларускай ментальнасці пісьменнік прысвяціў усё сваё творчае жыццё. Выбраны аўтарам рэалістычны напрамак стаў арганічным увасабленнем эпічнага мыслення, у якім адлюстравалася глыбокае разуменне надзвычайнай вартасці ўсяго, з чаго складалася жыццё вясковага чалавека, таго, што дапамагло б адказаць на пытанні: „Хто такі беларус?”, „Чаму ён такі?” і, нарэшце, „Якая яго чакае будучыня?” Найлепшым чынам гэтая праблематыка ўвасобілася ў раманным цыкле, які складаецца з твораў: *Чужая бацькаўшчына* (1977), *Год нулявы* (1982), *І скажа той, хто народзіцца* (1987), *Голас крыві брата твайго* (1990).

Асновай для раманаў стала заходнебеларуская вясковая рэчаіснасць у надзвычай складаны перыяд гісторыі: з восені 1938 г. па вясну 1944 г. Для В. Адамчыка, выхадца з „усходніх крэсаў” (нарадзіўся ў в. Варакомшчына, Слонімскага павета, Наваградскага ваяводства), выбар заходнебеларускага матэрыялу для творчага даследавання шмат у чым быў натуральным. Глыбока і дакладна ён ведаў спецыфіку жыцця і мыслення мясцовага чалавека, адчуваў адметнасць гэтага краю, разумеў усю складанасць і неадназначнасць гістарычных пераўтварэнняў.

Разам з тым для пісьменніка заходнебеларускае – неадлучнае ад беларускага, таго, што ёсць у жыцці і лёсе ўсяго беларускага народа. Мастацкі свет раманнага цыклу размешчаны ў межах традыцыйнай карціны свету, ілюструе народны лад жыцця, пабудаваны па сваіх традыцыях, звычаях, правілах паводзін і маралі. Віктар Каваленка пад-

[1] В. А д а м ч ы к, *На крыллях смутку і адзіноты*, „Маладосць” 1993, №10, с. 161.

крэсліваў: „Ідэя раманаў агульнанацыянальная”[1]. Рэальна-гістарычныя каардынаты ў творах суадносяцца з паралельным выяўленнем быцця на ўзроўні традыцыйнага міфапаэтычнага разумення прастора-ва-часавай сістэмы. Цыклічны, каляндарна-абрадавы хранатоп прадвызначыць кампазіцыйна-сюжэтную будову раманаў і стане адной з тых злучальных ніцяў, што звязалі, аб’яднала асобныя чалавечыя лёсы персанажаў у цэльны эпічны аповед пра жыццё народа, яго мінулае і будучыню: „асобныя навелы” ў раманах В. Адамчыка – гэта своеасаблівыя „кругі”, сцэментаваныя ў адзінай, цэласнай канструкцыі, спіралі, па якіх чытач разам з пісьменнікам уздымаецца на новыя вышыні, каб па-новаму ўбачыць, ацаніць, зразумець самую субстанцыю жыцця і такія яго вызначальныя паняцці, як бацькаўшчына, эпоха, сям'я”[2].

В. Адамчык намаляваў беларускія краявіды, вясковы свет, дзе гучыць каларытная беларуская мова. Агульнароднае прадстаўлена на ўсіх узроўнях, але найбольшым чынам выяўлена праз этнаграфічны ракурс, міфа-паэтычнае ўспрыняцце хранатопу, каштоўнасную сістэму. Паглыбляючыся ў побытава-будзённы вясковы клопат, ненавязліва, але мэтанакіравана і дэталёва В. Адамчык знаёміць чытачоў з сялянскім светапарадкам: з традыцыйнымі справамі і заняткамі, вясковымі будзённымі і святочнымі клопатамі, спецыфікай светапогляду і спадчыннымі традыцыямі. Як дапытлівы этнолаг, праўдзівы летапісец жыцця вёскі, для якога ўсё ўяўляе каштоўнасць, патрэбу ў захаванні, В. Адамчык падрабязна апісвае ўладкаванне хаты і падворка, сялянскую працу, узаемадзеянне чалавека і прыроды.

Абагульнены вобраз тыповага беларуса прадстаўлены праз лёсы многіх персанажаў і ўвасоблены ў дбайным і спрытным гаспадару, які разумна і ашчадна ставіцца да свайго набытку, імкнецца да жыццёвай уладкаванасці, разважлівых адносін да жыцця. Чытаючы раманы, мы разумеем тое, што было „добрым”, а што асуджалася, бачым тых, каго ў вясковай грамадзе паважалі і цанілі, а хто быў не варты і спачування. Галіна Тычко падкрэслівае: „В. Адамчык імкнецца спасцігнуць народную душу ва ўсёй яе складанасці, убачыць не толькі вытокі дабра і чалавечнасці ў характарах сваіх герояў, але і спазнаць прычыны зайздроснай хцівасці, злосці і жорсткасці. Пісьменнік далёкі ад ідэалізацыі сялянскага жыцця, сваіх персанажаў ён паказвае рэальнымі няпростымі людзьмі”[3]. Героі раманнага цыклу – складаныя і супярэчлівыя асобы, якія маюць асабістую, часта трагічную гісторыю і чыя характарыстыка не ўкладаецца толькі ў паняцці „добры” – ”дрэнны”. Яны жывуць надзённым клопатам, мараць аб шчасці, спрабуючы дасягнуць

[1] В.А. К а в а л е н к а, *Вячаслаў Адамчык* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 тамах*, т.4, кн.1, Мінск 2002, с. 545.

[2] А. Р а г у л я, *Людзі на раздарожжы*, „Літаратура і Мастацтва” 1977, № 7 (10 чэрвеня), с. 7.

[3] Г.К. Т ы ч к о, *Беларуская літаратура XIX–XX стагоддзяў: час і асобы: вучэбны дапаможнік*, Мінск 2010, с. 198.

яго, часам нават шляхам граху, чакаюць будучыні і назіраюць за няспынным бегам часу, пад які не многія здолеюць падладзіцца і прыстасавацца.

Маштабнасць закранутай праблематыкі, шырыня ахопу матэрыялу і ўзровень абагуленасці дазваляе гаварыць пра спробу стварэння В. Адамчыкам адметнага раманнага эпасу, у якім пададзены „ўласна беларускі погляд на Гісторыю, па-майстэрску занатаваныя сутнасныя адзнакі беларускага”[1]. На гэта звярталі ўвагу ў сваіх працах Яўген Лецка, В. Каваленка, Міхась Тычына, Г. Тычко, Анжэла Мельнікава і інш. Людміла Корань адзначае: „Праз смугу і падкрэсленую шэрань заходнебеларускай рэчаіснасці бачацца ў тэтралогіі вялікія таямніцы жыцця, яго вітальныя сілы ў інтэр'ерах мяккай беларускай красы. Бачыцца сам народ-эпас, суадносны з вечным, і немалая частка ягонага крыжовага гістарычнага шляху”[2].

Ідучы за гісторыяграфічнымі традыцыямі ў рускай і польскай літаратурах (найперш творчасцю Льва Талстога, Уладзіслава Рэйманта), рэалістычным напрамкам у беларускай літаратуры, пісьменнік здолеў стварыць па-мастацку аналітычную, праўдзівую, шматпланавую і шматгранную панараму народнага жыцця. Г. Тычко заўважае: „В. Адамчык імкнецца да максімальнай гістарычнай дакладнасці, да таго, каб факты асабістых успамінаў не засланілі сапраўднага народнага жыцця ў рамане. З вялікай колькасці жыццёвых з'яў ён выбірае толькі тыя, якія можна назваць тыповымі, якія маглі адбывацца ў любой беларускай вёсцы”[3].

Заходнебеларуская рэчаіснасць, якая стане асновай для фактаграфічнага зместу раманнага цыклу, будзе прадстаўлена і як своеасаблівае месца перакрыжавання жыццёвых шляхоў беларускага народнага лёсу, і як плённы матэрыял для выяўлення спецыфікі тых змен, што адбываліся з беларускім характарам, жыццём, норавамі. У адным з інтэрв'ю В. Адамчык прызнаваўся: „Пра што я заўсёды жадаў пісаць і пісаў? Пра беларускую вёску на трох сацыяльных зломах – міжваенная Польшча, уз'яднанне Заходняй Беларусі, нямецкая акупацыя падчас Другой сусветнай вайны. Хацелася разгадаць лёс і нейкую наканаванасць народнага жыцця”[4]. Заходнебеларускае прадстаўлена ў раманным цыкле як прызма, праекцыя да агульнанароднага, таго, што праз сваю спецыфіку і адметнасць добра паказвае і выяўляе ўсю складанасць калізій беларускага народнага жыццёвага шляху.

Першы раман цыкла *Чужая бацькаўшчына* з'яўляецца своеасаблівым месцам заглыблення ў культурна-гістарычную прастору, знаёмствам са спецыфікай вясковага жыцця на „ўсходніх крэсах” Польшчы.

---

[1] А. М е л ь н і к а в а, *Голас крыві... Тэтралогія В. Адамчыка як люстэрка жыцця Заходняй Беларусі*, „Дзеяслоў” 2014, №3 (70) (травень – чэрвень), с. 295.

[2] Л. К о р а н ь, *„Што значыць цяпер чалавек?...”: па старонках раманаў В. Адамчыка* [у:] *Цукровы пеўнік: літаратурна-крытычныя артыкулы,* Мінск 1996, с. 170.

[3] Г.К. Т ы ч к о, *Беларуская літаратура...*, с. 209.

[4] *В. Адамчык: „Моваю жыцця”: гутарыла С. Кузьміна*, „Беларусь” 1989, № 10, с. 20.

У далейшых раманах заходнебеларуская рэчаіснасць будзе заставацца натуральным жыццёвым фонам, у якім праявяцца новыя рэаліі, звязаныя з прыходам савецкай улады і нямецкай акупацыяй.

Рэальную геаграфічна-часавую прастору аўтар тэтралогіі паказвае на двух узроўнях: дзяржаўным і вясковым або афіцыйным і традыцыйным, дзе вясковы і традыцыйны могуць успрымацца як канкрэтызацыя агульнанароднага. Узроўні ўзаемапранікальныя, узаемазалежныя, але ў многім супрацьпастаўленыя і варожыя адзін аднаму. Афіцыйнае, дзяржаўнае выяўляецца найперш праз „польскае", якое паступова напаўняецца прыкметамі савецкага, а потым у час акупацыі становіцца і парадаксальна шматуладна-безуладным, але відавочна агрэсіўным у дачыненні да чалавека.

Польская прастора прадстаўлена найбольш з афіцыйнага боку. Гэта і шматлікія дзяржаўна-сацыяльныя і палітыка-адміністрацыйныя рэаліі, паводле якіх было арганізавана жыццё на ўсходніх крэсах: гміна, пастарунак, солтыс, паплаўнічы, шарварка, партрэты Пілсудскага, уніформа і інш. Цэнтрам заходнебеларускага жыцця ў раманах з'яўляецца мястэчка Дварчаны з прылеглымі вёскамі Верасавым, Прылукамі, Лязневічамі, Ведравічамі, Дубатоўкамі і інш. Яны не толькі будуць пунктамі разгортвання сюжэтнай лініі, але стануць яскравай ілюстрацыяй таго, як складвалася жыццё на гэтай тэрыторыі Польшчы, як адбывалася палітычнае і эканамічнае ўзаемадзеянне паміж жыхарамі з рознай нацыянальнай прыналежнасцю і статусам, як змяняліся характар і паводзіны мясцовага насельніцтва.

Мясцовыя органы кіравання і падтрымання парадку размяшчаліся ў Дварчанах. Сюды па розных патрэбах і з розных прычын добраахвотна або пад прымусам прыязджалі вяскоўцы з суседніх вёсак: і на працу, і па гандлёвай неабходнасці, і па паратунак або на пакаранне, найперш за спробы выяўлення беларускага. Неаднаразова Міця Корсак будзе збіты ў пастарунку за праявы беларускага, а грубыя і абразлівыя паводзіны п'яных маладых хлопцаў-палякаў у аўтобусе ў дачыненні да старога габрэя, нягледзячы на асуджэнне кіроўцы і пасажыраў, застануцца без увагі „паліцыянта" Гуры.

Своеасаблівым увасабленнем эканамічнага развіцця краю будзе чыгунка, якая зменіць адносна станоўчае значэнне ў наступных раманах і стане сімвалам рэпрэсіўнай машыны савецкай улады ды сапраўднай дарогай выжывання ў акупацыйны час. Для многіх жыхароў прылеглых вёсак працаўладкаванне на чыгуначнай станцыі, пакгаўзе было жаданым і нават прэстыжным. В. Адамчык шукае прычыны імкнення вяскоўцаў змяніць традыцыйны род заняткаў на зямлі на іншую працу, цяжкую ды часта небяспечную для жыцця. Перадумовы гэтых зменаў аўтар бачыць у мінулым, калі падчас будаўніцтва чыгункі сяляне страцілі большую частку лепшае зямлі, а законных выплат за гэта не

атрымалі[1]. У выніку большая частка насельніцтва вёскі збяднела і не змагла вярнуцца да ранейшага ладу жыцця.

В. Адамчык падкрэслівае, што новае ў ладзе жыцця пастунова прывяло да катастрафічных перамен у свядомасці, преайначыла маральныя арыенціры: „Цяпер яны жылі са станцыі – кралі, што нарвецца пад руку"[2], нарадзілі варожасць да сваіх суседзяў-вяскоўцаў. Найбольш пацярпелі жыхары Дубатоўкаў і Ведравічаў, нянавісць паміж якімі пачала перадавацца па спадчыне. Яна была звязана з ранейшым падзелам зямлі: кавалкам пашы – „які ніяк не маглі раздзяліць: дубатоўцы згубілі свой межавы план"[3]. Гэты падзел быў звязаны з выдаткамі сервітутнага права і той аграрнай рэформы польскіх уладаў, якая праводзілася менавіта на „ўсходніх крэсах"[4].

Мелася ў мястэчку і пошта. Тут атрымлівалі лісты, можна было купіць ці выпісаць з Вільні беларускія газеты. На пошце вяскоўцы захоўвалі і грашовыя зберажэнні, што з вялікімі цяжкасцямі зарабляліся сялянскай працай або здабываліся на заробках за мяжой. Звесткі аб тым, што сяляне ў Заходняй Беларусі жылі не багата, цярпелі ўціск, бяспраўе не пярэчаць сведчанням савецкай гісторыі. Але ў сучаснай гістарыяграфіі дапаўняюцца важнымі параўнальнымі дадзенымі аб тым, што жыццё на „ўсходніх крэсах" на момант уз'яднання было больш заможным, чым у Савецкай Беларусі[5]. Паводле твораў В. Адамчыка, вяскоўцы на заходнебеларускіх землях жылі не багата, але, пры працавітасці і ашчадных адносінах да гаспадаркі і набытку, пэўныя зберажэнні маглі мець.

Пісьменнік распавядае аб тым, што ў вясковай грамадзе цаніліся „багатыры", тыя, хто мог і ўмеў напрацаваць і назапасіць пэўны дабрабыт. Эканамічная сітуацыя на заходнебеларускіх землях не спрыяла хуткім заробкам, ды і палітыка польскіх уладаў стымулявала выезд на працу за межамі Польшчы. Такія паездкі былі вымушанымі, ды не

---

[1] В. А д а м ч ы к, *Чужая бацькаўшчына: Раман*, Мінск 2015, с. 147.

[2] *Ibidem.*

[3] *Ibidem.*

[4] У міжваеннай Польшчы сервітуты існавалі толькі ў той частцы, якая раней уваходзіла ў склад Расійскай імперыі. У Заходняй Беларусі сервітутныя землі былі замацаваны яшчэ царскімі ўладамі спецыяльнымі граматамі, якія захоўваліся ў давераных асоб і з цягам часу губляліся, таму афіцыйных дакументаў на права карыстання гэтымі землямі ў сялян часта не было. Для вяскоўцаў быў важны кожны кавалак зямлі, таму праблема прыналежнасці гэтых земляў стаяла заўсёды. Гл.: С.М. Г р э с ь, *Аграрныя пераўтварэнні ў Заходняй Беларусі 1921–1939 гг: Манаграфія*, Гродна 2012г, с. 129–131; Н. А п а н а с о в і ч, *Гісторыка-культурныя рэаліі ў рамане В.Адамчыка* Чужая бацькаўшчына [у:] *Зборнік навуковых артыкулаў III міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі „Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка, вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў" (Полацк, 14–15 крас. 2016 г.)*: *у 2 частках*, ч. 2, Наваполацк 2016, с. 357.

[5] Гл.: *Гісторыя Беларусі: у 6 тамах,* т. 5: *Беларусь у 1917–1946 гг.*, Мінск 2006, с. 457; З. Ш ы б е к а, *Нарысы гісторыі Беларусі 1795–2002*, Мінск 2003, с. 303.

заўсёды прыводзілі да жаданага выніку, таму сяляне адважваліся на іх толькі ў выпадку моцнай неабходнасці. Ілюстрацыяй да гэтага можна лічыць і лёс Сцяпана Чарняўскага, які не вярнуўся да сваёй сям'і з Амерыкі, і старых Радзюкоў, хворы сын якіх не зможа ў поўнай меры скарыстацца заробленым бацькам на капальнях Францыі, і ад'езд Каці Шайбаковай. Распавядаючы пра імкненне сялян да дабрабыту, В. Адамчык настойліва праводзіў думку аб абсалютнай і натуральнай залежнасці спакойнага, перспектыўнага жыцця вясковага чалавека ад зямельнага ўладання і разам з тым падкрэсліваў трагізм становішча сялян.

Выразна акрэслены ў рамане *Чужая бацькаўшчына* нацыянальна-рэлігійны склад мясцовага насельніцтва заходніх земляў: гэта люд шматнацыянальны і прадстаўлены ў творы беларусамі, палякамі, габрэямі і татарамі; рэлігійная прастора – праваслаўнымі („рускімі") і каталікамі. Пры гэтым В. Адамчык, з аднаго боку, наўмысна не завастраў увагі на нацыянальнай прыналежнасці сваіх персанажаў; з другога боку, паслядоўна прасочваў залежнасць правоў, магчымасцяў, дабрабыту і роду заняткаў ад нацыянальнай прыналежнасці. Прафесійная сфера дзейнасці адлюстроўвае пэўную рэгламентацыю, звязанасць магчымага роду заняткаў з нацыянальнай прыналежнасцю. Так, палякі будуць працаваць паліцэйскімі, вадзіцелямі, настаўнікамі, медыкамі, займаць больш вартасныя пасады на станцыі і чыгунцы. Гандаль, так склалася гістарычна, у большасці належыць габрэям, а „жыдоўскія крамы" стануць адметнай рысай заходнебеларускага жыцця. Беларусы прадстаўленыя пераважна вясковым насельніцтвам, для якога кар'ерныя перспектывы будуць маладасягальнымі.

Сувязным звяном паміж уладамі і мясцовымі жыхарамі, як на ўсёй тэрыторыі Польшчы, так і на „ўсходніх крэсах", быў солтыс – вясковы стараста, які адказваў за захаванне і выкананне закону, нагляд і падтрыманне парадку, уладкаванне сялянскага жыцця. Вобраз верасаўскага старасты створаны В. Адамчыкам праўдзіва і дакладна. Янка Вайтовіч – такі ж вясковец, як і іншыя, мае гаспадарку, працуе на зямлі, хоць жыве крыху больш заможна. Аднавяскоўцы да Вайтовіча ставіліся з паслушэнствам, бо ён не дазваляў сабе свавольства ў адрозненне ад папярэдніка – Адама Рэпкі, які з-за зайздрасці выдаваў палякам аднавяскоўцаў, што хавалі скаціну ад рэквізіцыі.

Але разам з тым нельга не заўважыць, што сяляне крытычна ставіліся да солтыса, не вельмі на яго спадзяваліся і не дужа давяралі яму, бо добра разумелі, што ён будзе дзейнічаць у інтарэсах улады, падначальвацца і выконваць нават тое, за што і самому будзе сорамна (напрыклад, садзейнічаць арышту Міці Корсака), ды і наогул, будзе імкнуцца пазбягаць залішняга клопату. Так, асабліва не высвятляючы правоў і абавязкаў бакоў, Вайтовіч юрыдычна заверыць перадачу зямлі Алесі Корсак, а потым не стане высвятляць акалічнасці смерці Таквілі Мондрай і яе дачкі Еўкі.

Завуалявана і спакваля раскрывае В. Адамчык яшчэ адзін бок палітычна-адміністратыўнай сітуацыі на ўсходніх крэсах, калі няўзнак гаворыць пра два класы адукацыі Вайтовіча. Згодна з польскім заканадаўствам на пасаду солтыса павінна была прызначацца асоба з веданнем і валоданнем польскай мовай[1]. Вяскоўцам адукацыя была мала даступная, таму ў Верасаве адукаваных было трое: Вайтовіч – з двума класамі, Літавар – з чатырма і Міця Корсак – адзіны, хто скончыў поўны курс школьнага навучання. З улікам рэальнай сітуацыі з цягам часу замацаванае законам патрабаванне аб валоданні мовай спачатку было адкладзена, а потым і адменена ў сувязі з тым, што і праз больш чым 15-цігадовы тэрмін існавання міжваеннай Польшчы польскім уладам цяжка было знайсці на "ўсходніх крэсах" адпаведных кандыдатаў на пасаду солтыса[2].

Пра навучанне маглі думаць больш-менш заможныя сяляне, якія разумелі неабходнасць адукацыі, марачы аб лепшай долі для сваіх дзяцей. Сярод шчасліўцаў-навучэнцаў былі як разумныя, здольныя вучні (такія як Міця, Чэся), так і няздольныя, але зацікаўленыя ў адукацыі, як у статуснай з'яве, дзеці заможных гаспадароў (Ладак Радзюк, Костак Камашыла). Працягваць вучобу пасля сямігодкі маглі адзінкі, і то – толькі пры адпаведных матэрыяльных магчымасцях. Як убачым далей, у апошнім рамане *Голас крыві брата твайго*, вучоба ў Віленскай гімназіі, схільнасць да беларускага руху не зробяць з Костака Камашылы сапраўднага патрыёта, а стануць яшчэ адным спосабам прыстасавальніцтва, а ў ваенны час – адной з магчымасцей уратавацца. Кардынальна пераменіцца з прыходам савецкай улады і пачаткам рэпрэсій і лёс Вайтовіча. Былы вясковы солтыс ператворыцца ў ахвяру: цудам выратуецца з пекла Полацкай турмы, страціць сувязь з высланай у далёкі Казахстан сям'ёй, а па вяртанні ў родныя мясціны будзе спрабаваць уладкаваць сваё жыццё па іншых законах маралі.

Найбольш паказальным увасабленнем дзяржаўнай палітыкі "на ўсходніх крэсах" будуць прадстаўнікі паліцыі. У дачыненні да беларускага насельніцтва, мовы яны паводзяць сябе бязлітасна і жорстка. Прадузята ставяцца да беларусаў і рэлігійныя ўлады. Падкрэслівае гэта і ўпэўненае сцверджанне дварчанскага ксяндза: „Знам, знам, то весь піякув і зладзеюв, мейсцовэ яндро цемносці"[3]. Ды і палякі ніжэйшых узроўняў грамадства (чыгуначнікі, кіроўца аўтобуса і інш.) радыя паздзекавацца з беларуса, паказаць сваю перавагу.

Сярод прадстаўнікоў польскай нацыі мы сустрэнем прадстаўнікоў польскіх вайскоўцаў, каланістаў-асаднікаў, якія былі перасялены на ўсходнія землі згодна з тагачаснай эканамічнай палітыкай і мелі перавагі ў матэрыяльным і фінансавым забеспячэнні. І да гэтай з'явы,

1 А.І. Борка, *Мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання і самакіравання ў заходняй Беларусі (1921–1939 гг.): Манаграфія*, Гродна 2011, с. 24–25.

2 *Ibidem.*

3 В. Адамчык, *Чужая бацькаўшчына...*, с. 285.

характэрнай выключна для заходнебеларускай рэчаіснасці міжваеннага часу, В. Адамчык падыходзіць з памкненнем да максімальнай дакладнасці і аб'ектыўнасці, распавядаючы пра розных прадстаўнікоў роду Грабянкаў, старэйшы з якіх быў асаднікам. Сям'я Грабянкаў паказвалася не толькі праз дабрабыт, паводзіны і адносіны прадстаўнікоў асадніцкай сям'і паміж сабой і да наймітаў, але і праз стаўленне саміх верасаўцаў, якія наймаліся да іх на заробкі, карысталіся паслугамі. Асадніцтва для вяскоўцаў часта было ахутана рамантычнымі ўяўленнямі, здавалася іншым, лепшым светам, у якім існуюць паважлівыя адносіны, вытанчанасць і далікатнасць, народжаныя адукацыяй і выхаваннем, дабрабыт, карысны і для сям'і, і для людзей. Як паказвае жыццё, багацце не з'яўляецца гарантыяй шчаслівага сямейнага лёсу, а адукаванасць – узорам маральнай чысціні. В. Адамчык апісвае разгульнае жыццё маладога Грабянкі і яго разбэшчаных сяброў, здзекі з жонкі Анці. Яго гвалтоўная і жорсткая смерць ад прадстаўнікоў новай улады моцна ўразіла ўсіх навакольных, а для спакутаванай жанчыны стала сапраўдным выратаваннем.

Сёстры Доўнар, Анця і Чэся, нягледзячы на тое, што бацька іх быў звычайным стрэлачнікам на станцыі, паказаны як прадстаўніцы іншага, адрознага ад сялянскага, свету і паказаны глыбокімі асобамі, адукаванымі і выхаванымі жанчынамі.

Палякі сябе выразна выяўляюць з боку нацыянальнай ідэнтычнасці, паказваюць сваю перавагу і пануючы стан перад мясцовымі жыхарамі з іншай культурнай прыналежнасцю: „У Польсцы мейсца толькі для полякув!”[1]. Упэўненыя ў тым, што Беларусь „наверсе не была і ніколі не будзе”[2], паліцэйскія- палякі Бубель і Гура моцна збілі ў пастарунку за беларускамоўныя вершы і спадзяванні „адшукаць Беларусь” Міцю Корсака. Сітуацыя жыццёвай бесперспектыўнасці, немагчымасць наладзіць спакойнае заможнае жыццё, разуменне практычнай бессэнсоўнасці змагання за лепшую долю нарадзіла ў саміх беларусаў комплекс непаўнавартасці: „Во так і кажуць, што беларус не раўня паляку і немцу – бо і нераўня”[3].

Пытанне нацыянальнага самавызначэння на заходнебеларускіх землях В. Адамчык бачыў звязаным у тым ліку і з праблемай веравызнання: калі хрышчаны ў касцёле – значыць, паляк. Характэрны ў гэтым сэнсе дыялог Ваўчка з Міцем Корсакам: „Я то во – паляк… Які ж вы, дзядзька, паляк? <…> Як і ты – у касцёле хрышчаны. Ды і назвіска маё польскае – Ваўчок. – Па-польску было б Вільчэк <…> – усміхнуўся Міця, чакаючы, што на гэта адкажа Ваўчок. Але той, пашморгаўшы носам, доўга ўмошчваўся ў канюшыне, потым нехаця, мусіць, пагадзіўся: – Можа яно і так”[4]. Спроба Ваўчка зрабіць вайсковую кар'еру, пасля добра-

[1] *Ibidem*, с. 438.
[2] *Ibidem*, с. 114.
[3] *Ibidem*, с. 97.
[4] *Ibidem*, с. 334.

ахвотнага ўдзелу ў ваенных дзеяннях на баку палякаў, стала выразнай ілюстрацыяй немагчымасці пераадолець нацыянальныя абмежаванні, змяніць наканаванае. Няўдалы кар'ерыст распавядае сваю гісторыю: „Думаю сабе – падамся на афіцэра. Адправілі мяне ў падафіцэрскую школу. Скончыў яе, а звання мне не даюць. Эге, бачу, тут нешта не тое. Бачу – не туды палез"[1].

У шчырай гаворцы Ваўчка з маладым, яшчэ апантаным надзеяй на перспектывы, Міцем Косакам асэнсоўваецца народны гістарычны шлях: „Хто ж цябе, мужыка, пусціць? Ты павінен век, як твае дзяды і прадзеды, быць пад нечаю пятою. Нявучаны чалавек – сляпы. Яго ўжо трэба за руку вадзіць – сам ён дарогі не знойдзе. <...> Вот чаму мы не ведаем – хто мы. Адзін кажа – паляк, другі кажа – беларус.. Ды і галодныя мы, нам яшчэ наесціся хочацца. І свянцонага зелля, каб трохі душы апячы... Каб злосць прагнаць..."[2].

Апісаны далей у раманным цыкле прыход савецкай улады дасць надзею, зменіць акцэнты, але па сутнасці сітуацыя бяспраўнага становішча селяніна перад уладамі прынцыпова не зменіцца. Пачатак вайны галоўнай характарыстыкай жыцця зробіць небяспеку, перамяшае ролі, зробіць жыццё непрадказальным. Чалавек і яго жыццё перастануць быць каштоўнасцю і адначасова стануць той мерай, якая будзе адрозніваць ужо не палякаў, беларусаў, габрэяў, украінцаў, немцаў, а падзеліць усіх на дзве катэгорыі: людзі і нелюдзі. Не прыдасца Ваўчок савецкай уладзе, якраз за тое, што служыў у „легіёнах", а лёс яго недарэчна і трагічна абарвецца ў час акупацыі.

Адну з разваг аб пытанні пра самавызначэнне беларусаў аўтар уклаў у вусны ксяндза-пробашча, які добра ведае „простую" гаворку і некалі паспрабаваў весці службу на беларускай мове ў касцёле. „Славіць Бога на мове, якой гаварылі дома?" – да гэтага аказаліся не гатовыя і самі прыхаджане. Ледзь не пацярпеўшы ад сваёй ініцыятывы, ксёндз вярнуўся да кананічных правіл. А служба, як і раней на заходнебеларускіх землях, працягвалася на латыні і па-польску. Святочную імшу з шэсцем апісваў В. Адамчык, калі распавядаў пра Алесіна жаданне споведзі ў рамане *Год нулявы*.

Сярод ідэйных, тых, хто выразна праяўляе сябе як беларус, можна назваць толькі Міцю Корсака і яго старэйшага таварыша Лаўрына Царыка. Гэта перакананыя беларусы, якія разумеюць важнасць нацыянальнай і з гэтым звязанай дзяржаўнай самастойнасці. Нягледзячы на перашкоды і ўціск, якія чыняцца польскімі ўладамі, яны актыўна шукаюць беларускага шляху. Але лёс гэтых памкненняў быў вельмі трагічны. Царык будзе пакутаваць за свае беларускія ідэі і пры палякам, і пры савецкай уладзе, не ўратуюць беларускія ідэі яго і ад смерці ў час акупацыі. Безвыходную і бесперспектыўную сітуацыю змагароў за бе-

[1] *Ibidem*, с. 337.
[2] *Ibidem*.

ларускасць выразна праілюструюць словы жонкі Лаўрына Царыка: „Што за лёс выпадзе чалавеку: якая ўласць ні прыйшла, што ні змянілася на свеце, а ён усё нікому не патрапіць. Ці ўжо свет такі, ці ён гэтакі ўдаўся”[1].

Лёс асаднікаў ды іншых прадстаўнікоў польскага боку кардынальна пераменіцца з прыходам савецкай улады. Многія з іх вымушаны будуць з’ехаць, некаторыя, як доктар Пятроўскі і асаднік Закрэўскі, скончаць жыццё самагубствам, тыя, хто застанецца, будуць арыштаваны і адпраўлены ў лагеры. Нехта, як Юзік Адалінскі, вернецца і стане ў час акупацыі паліцаем, многія будуць супрацоўнічаць з польскімі партызанамі.

Калі беларускасць выяўляецца ў шматлікіх дыялектызмах, каларытнай мясцовай гаворцы, багатай на фразеалагізмы, прыказкі і прымаўкі, якімі насычана мова вяскоўцаў, то афіцыйнае жыццё, сфера адукацыі агучваюцца па-польску. На польскай мове складаюцца афіцыйныя паперы. Такім будзе тастамент Таквілі Мондрай, загад-“росказ” гміны наконт працы вяскоўцаў на шарварцы, аб прызыве ў Войска Польскае верасаўскіх рэзервістаў. Па-польску будзе слухаць загады „плютановага” Літавар на вайсковай службе ў Млаве і Плоцку амаль каля самай мяжы з Германіяй. На польскую мову будзе пераходзіць і Чэся Доўнар, калі захоча дыстанцыявацца ад Міці. А ён будзе чытаць ёй вершы Леапольда Стафа – вядомага польскага паэта. Трэба адзначыць, што нягледзячы на непісьменнасць, большасць беларусаў з раманаў разумеюць польскую мову ў адрозненне ад рускай, якая актыўна пачне распаўсюджвацца з прыходам новай улады. У шматмоўі раманнага цыклу чуваць будзе і габрэйскую гаворку, і латынь, і ўкраінскія словы, і пагрозлівыя нямецкія каманды.

„Простая” мясцовая гаворка раскрывае сялян як спрытных і дасужых, надзеленых гумарам і „вострым языком” асобаў. Розум, жыццёвая кемлівасць і народная мудрасць выяўляюцца ў шматлікіх прыказках і прымаўках, якія да месца, трапна і дасціпна ўжываюць верасаўцы. Разам з тым у заходнебеларускай вёсцы сустракаем і лайдакоў, і не вельмі ўдалых гаспадароў. Бачым сапраўдную атмасферу, насычаную хлуснёй, забабонамі, імкненнем адседзецца і не ўмешвацца ў тое, што можа мець дрэнныя наступствы, бо „ў шырокай плыні народнага жыцця не можа быць толькі чыстых і толькі мутных струменяў”[2].

Трэба падкрэсліць, што ў поле зроку пісьменніка трапляе абсалютна ўсё з жыцця заходніх беларусаў: ад відавочнай і добра адчувальнай моўнай стыхіі да назваў прылад працы, спецыфікі ўзаемаадносін, жыццёвых завядзёнак. Некалькі разоў апісвае аўтар адметны аўтэнтычны „верасаўскі” звычай, паводле якога госці не распраналіся і не здымалі шапак: „Па верасаўскаму звычаю не знімаючы з галавы шапкі ў чужой хаце, пры стале ўжо сядзеў, пакліканы за сведку, Бронік Літавар”[3],

[1] В. А д а м ч ы к, *Голас крыві брата твайго: Раман, апавяданне*, Мінск 1991, с. 240.
[2] В.А. К а в а л е н к а, *Вячаслаў Адамчык...*, с. 533.
[3] В. А д а м ч ы к, *Чужая бацькаўшчына...*, с. 220.

„Дзяўчаты, што сядзелі на лаве, па верасаўскаму звычаю не распранаючыся, а толькі расслабіўшы каля шыі суконныя хусткі”[1]. Знайшоўшы прытулак у старой габрэйкі Сулі, са смехам Хрысця будзе ўспамінаць страшныя вясковыя байкі, паводле якіх габрэі лавілі і кідалі дзяцей у кадушкі з цвікамі. Ведаючы гэтую гісторыю, дзяўчына будзе „брыдзіцца” есці мацу, цеста да якой нібы замешвалі на крыві, ды здзівіцца з таго, то Сулін мужык дома будзе есці ў шапцы.

У рамане *І скажа той, хто народзіцца* ў парадыгме проціпастаўленняў „польскае” пачне замяняцца, хоць у многім і чаканым, але незнаёмым і незразумелым савецкім. З цягам часу высветліцца – таксама варожым, вельмі жорсткім ды далёкім ад таго, што ў вясковым асяроддзі лічылася справядлівым і правільным. Жыццё вяскоўцаў пачнуць рэгламентаваць сходы, мітынгі, разнарадкі, праверкі, пачнецца час даносаў, помсты за мінулае, арыштаў. Пашырацца такія паняцці, як райвыканкам, калгас, пачнуць працу прадстаўнікі НКВД. Уладу будзе прадстаўляць апранутая ў адпаведную форму міліцыя. Прыкметамі савецкага стануць падлікі і стварэнне спісаў, чырвоныя павязкі на рукавах, партрэт Сталіна замест ікон у чырвоным куце хаты. Калі ў ранейшы час заходнія беларусы ездзілі на заробкі ў Амерыку і Еўропу, то з прыходам савецкай улады з’явіліся надзеі падпрацаваць на вугальных шахтах савецкай дзяржавы. Маркёрамі новага часу стане гарэлка „Маскоўская”, салёны сыр „брынза”, прыгожыя тужліва-лірычныя рускія мелодыі ды заліхвацкія спевы і скокі пад гармонік, асветніцкія лекцыі і адкрыццё школы, а таксама рабаванне, пераразмеркаванне і неахайнае абыходжанне з некалі добрай і дарагой маёмасцю, кнігамі.

Паказальным фактам стане моўная праблема. То вяскоўцам будзе незразумелая руская гаворка, то кіраўнікі, з невымаўляльнымі для мясцовых сялян імёнамі не будуць разумець мову і гаворку тых, чыё жыццё прыехалі наладжваць. В. Адамчык тонка і, на нашу думку, вельмі смела для часу стварэння твораў, завастрае праблему савецкай кіраўнічай палітыкі і раскрывае яе апасродкавана, але вельмі выразна праз мову, імёны і змену гендарных роляў. Так, старшынёй валаснога камітэта замест Царыка, які для савецкай улады стане ненадзейным, прызначаць жанчыну. Уразяць тутэйшае насельніцтва яе кароткая стрыжка і патрабавальна-прынцыповае стаўленне да фармальнага боку справы. Яна актыўна возьмецца наводзіць парадкі, але ніводнага разу не запытаецца ў былога старшыні аб жыцці людзей у незнаёмым для яе месцы. Усё, што ёй патрэбна ад папярэдніка – адпаведная інвентарызацыя і перадача маёмасці.

Вырашаць найважнейшыя для сялян вясковыя пытанні прызначаны Нурмат Рахматулаевіч Назімаў. Царыкава абмылка ў яго прозвішчы на беларускі манер пры вымаўленні імя па-бацьку – замест Рахматулаевіч Рахматулавіч, неабходнасць называння імя і імя па-бацьку за-

[1] *Ibidem*, с. 316.

мест звычайнага „Літавар, сын Антосі і Зосі", з'яўленне дзіўнай для сялян формы звароту „пан-таварыш" і многія іншыя дэталі яскрава гавораць аб вельмі істотнай адлегласці паміж новаўвядзеннямі і тым жыццём, якое было звычным на заходнебеларускіх землях.

Вайна стане яшчэ адным выпрабавальным колам у жыццёвым лёсе заходніх беларусаў, як і ў жыцці ўсяго беларускага народа. У адлюстраванні акупацыйнага часу В. Адамчык таксама імкнецца да аб'ектыўнасці, успамінае тое, што вяскоўцы ведалі аб немцах з перыяду папярэдняй вайны. Знакамі мінулага стануць і даўнейшая нямецкая бойня, і некалі атынкаваная немцамі-пастаяльцамі хата Ваўчка, традыцыя ставіць навагоднюю елку Корсакамі. У першым рамане *Чужая бацькаўшчына* аўтар пазбягае палітычнай ацэнкі і запыняе ўвагу на момантах, якія характарызуюць чужынцаў з боку характару, культурнага ўзроўню. В. Адамчык падкрэслівае парадак, заведзены немцамі: замест глінянай паклалі драўляную падлогу, на святы елі цукеркі і шакалад і нават дзяліліся гэтымі прысмакамі з „забітым і некультурным насельніцтвам". Жаданне далучыць да еўрапейскіх традыцый не мела павагі, імкнення прасвяціць, а было імкненнем паказаць сваю перавагу, падкрэсліць дасканаласць сваёй нацыі: „О, культура! Пан будзе помніць!"[1].

Праз параўнанне жыццеўпарадкавання двух народаў (палякаў і немцаў), аўтар гаворыць аб гаспадарлівасці, рацыяналізме, акуратнасці як спрадвечных якасцях нямецкага народа, развітых у іншых гістарычных умовах. У параўнанні з гэтым і палякі, і беларусы выглядаюць безгаспадарлівымі: „Паляк-то такі самы галадранец і гультай, як і наш чалавек. А немец – не! Немец некалі ў нашай вёсцы на пяску капусту садзіў, і расла, качанэ раслі, як тыя чыгуны… Калейку, во, правёў, так хоць паляку ёсць на чом ездзіць"[2].

Прыход немцаў у час Другой сусветнай вайны выклікаў адпаведныя ўспаміны і надзею на магчымасць узаемасуіснавання. Так, супрацоўнікам шпіталя, у тым ліку Чэсі Доўнар і Хрысці, плацілі за працу 30 марак, на нямецкія святы выдавалі хлеб, мармелад, сухарыкі і цыгарэты. Беларускія нацыяналісты пачнуць супрацоўніцтва з немцамі, а вяскоўцы ў чарговы раз будуць прызваны на вайсковую службу – у паднямецкія беларускія фарміраванні. Бронік Літавар скажа: „Мне, можа, ужо і не першыня. Служыў у польскім, служыў у савецкім, паслужу і ў беларускім войску"[3]. У гэтай заўвазе чуецца не толькі сумны гумар, але і прачытваецца намёк на лёс усяго беларускага народа, які большую частку сваёй навейшай гісторыі прысягаў і служыў не сваім абраннікам і не па сваёй волі.

Бесчалавечнасць фашысцкай ідэалогіі хутка развее надзеі на магчымае суіснаванне з нямецкай уладай. Вядомыя з мінулага, зразумелыя

[1] *Ibidem,*с. 296.
[2] *Ibidem,*с. 97.
[3] В. А д а м ч ы к, *Голас крыві брата твайго*..., с. 69.

нямецкія словы для старой Рэпчыхі пераўтворацца ў жахлівыя каманды па знішчэнні людзей. Пачатак генацыду габрэяў, пра які чулі вяскоўцы яшчэ ў даваенны час, дасягне свайго апагею.

Жыццё мясцовых жыхароў стане непрадказальным, аўтар малюе час хаосу і абсурду, выратавацца з якога амаль не было магчымым. Пасля раптоўнай і недарэчнай смерці Ваўчка з безвыходнасцю аб гэтым скажа стары Корсак, маючы на ўвазе становішча вяскоўцаў паміж партызанамі і нямецкімі ўладамі: „Адныя прымушаюць слупы рэзаць, другія за гэта вешаюць"[1].

На працягу разгортвання аповеду раманнага цыкла ўзнікаюць цікавыя і сумныя паралелі. Неаднаразова сюжэтная лінія будзе прыводзіць персанажаў за краты. Здзекавацца з Міці будуць у польскім пастарунку, жорстка збіваць злоўленага нямецкага дыверсанта ў польскім войску рэзервістаў, дзе служыў Бронік Літавар. А пазней, трапіўшы ў лагер для ваеннапалонных, яму і самому прыйдзецца вытрымаць голад і гвалт. Падобныя выпрабаванні выпадуць на долю арыштантаў і Міці Корсака ў канцлагеры ў Картуз-Бярозе, дзе польскія ўлады катавалі змагароў за беларушчыну, іншых падазроных і ваеннапалонных. З падобнага, але савецкага палону цудам уратуецца былы солтыс Янка Вайтовіч. Хворы і згаладалы, ён будзе выглядаць так, як быццам вярнуўся з таго свету. Праўдзіва В. Адмычык будзе апісваць здзекі з палонных, у тым ліку з дзяўчат і жанчын, за нямецкімі кратамі ў Дварчанах.

Асабліва паказальны лёс Лаўрына Царыка, які адбыў і адгараваў у турмах усіх уладаў, што мелі дачыненне да заходнебеларускіх земляў: „асунуўся, высах, змяніўся і пастарэў"[2]. Пры сустрэчы з Міцем ён скажа: „Смяяцца, брат, не магу…. Усе зубы высыпаліся яшчэ ў Гародні, а потым ў Баранавічах, калі ўжо ўзялі свае"[3]. Пазней яго расстраляюць немцы разам з іншымі гараджанамі.

Гэтыя паралелі з мінулым выяўляюць і падкрэсліваюць даўні шматпакутны лёс беларусаў, для якіх з надыходам кожнай новай улады жыццё не лепшала, а часта станавілася яшчэ больш дрэнным, а выпрабавальны ход гісторыі пачаўся задоўга да Другой сусветнай вайны.

Час акупацыі ў раманным цыкле – гэта сутыкненне розных ваеннапалітычных сіл. На заходнебеларускай тэрыторыі будуць дзейнічаць і савецкія партызаны, і РОНА, і акаўцы, і казацкія сотні, дзе былі „людажэры горшыя, чым паліцыя"[4]. Паказваючы дзейнасць усіх гэтых структур на заходнебеларускіх землях, В. Адамчык найперш раскрывае невыноснае становішча звычайнага чалавека ў час вайны, для якога ўсе ператвараюцца ў ворагаў і небяспека пачынае сыходзіць нават ад аднавяскоўца. Вайна – асаблівая рэальнасць, дзе дзейнічаюць бесчалавечныя законы сілы і жаху, якія вытрымаць няпроста, а часам немагчыма.

---

[1] *Ibidem,*с. 121.
[2] *Ibidem,* с. 81.
[3] *Ibidem*.
[4] *Ibidem,* с. 114.

Перамены, якія прыйшлі разам з вайною, незваротна змяняюць і чалавека, яго псіхічны стан: „Свае б'юць сваіх, нешта заклятае на гэтым свеце. Грэшнае і страшнае. І ніколі ўжо не адкупнае – страляем, нішчым самі сябе. На векі вечныя"[1]. Жорсткая расправа над казакам, што забіў маладое дзяўчо, як бы звяжа ў адзінае кола ахвяр і катаў, паяднае ўсіх удзельнікаў помсты-адплаты ў звярынай лютасці, закруціць жыццёвы колазварот з такой хуткасцю і непрадказальнасцю, што адны з другімі хутка будуць мяняцца месцамі: „Бо няма ўжо нічога святога ў чалавечай душы. Нейкі злы д'ябал, раздзіраючы душу і пад'юшчваючы, змушае чалавека чыніць і тварыць усё злое і грэшнае"[2]. Менавіта з пазіцыі маленькага чалавека, у жыцці якога пачынае адбывацца непадуладная яму жахлівая катастрофа, а не „з вышыні" гераічных учынкаў і смелых подзвігаў, распавядае аўтар аб акупацыйным жыцці, выходзячы на агульначалавечы ўзровень і падкрэсліваючы антыгуманную сутнасць вайны. Пісьменнік не прыніжае сілы народнага духу, а наадварот падкрэслівае, што тыя спрадвечныя законы маралі, якімі кіравалася традыцыйнае грамадства, вёска, у многім былі арыентаваныя на агульначалавечыя, дазвалялі чалавеку ў самых невыносных умовах не страціць чалавечае аблічча.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што ў раманным цыкле пісьменнік выступае летапісцам вясковага жыцця, засяроджвае ўвагу на адметным, мясцовым, заходнебеларускім. Творчы погляд В. Адамчыка арыентаваны на выяўленне, захаванне каларытных і самабытных з'яў мясцовай рэчаіснасці, і ў раманным цыкле прадстаўленыя шмат якія з'явы, праблемы, што існавалі, выявіліся на заходнебеларускай тэрыторыі ў канцы 30-х – пачатку 40-х гг. XX стагоддзя. Праз лёсы вёсак і іх жыхароў аўтар спакваля, але мэтанакіравана акрэсліў кола найбольш спрэчных эканамічных пытанняў, звязаных найперш з магчымасцямі землеўладання, падкрэсліў неадназначнасць рэформ, здзейсненых у розныя часы на заходнебеларускіх землях. Разнастайныя факты эканамічнага жыцця, закранутыя ў рамане, сталі спробай разгледзець праблему сялянскага дабрабыту з розных бакоў, як мага больш аб'ектыўна, аналітычна, з пазіцыі гістарычнай праўды. Пісьменнік, як даследчык, прасочвае змены ў жыццёвым ладзе, свядомасці і паводзінах вяскоўцаў у залежнасці ад вырашэння гэтых пытанняў, стаўлення да іх з боку розных дзяржаўна-палітычных сіл, саміх сялян.

Кожны гістарычны факт у творы не проста фон, на якім адбываецца дзеянне і разгортваецца сюжэт, а выхад на канкрэтны чалавечы лёс. Для пісьменніка адназначна: менавіта з лёсаў гэтых людзей з масы – шчаслівых і нешчаслівых, удалых і трагічных, звычайных і непрадказальных – складаецца лёс народа. Праз назіранні за жыццёвымі клопатамі, памкненнямі і спадзяваннямі звычайнага вяскоўца пісьмен-

[1] *Ibidem,* с. 262

[2] *Ibidem,* с. 149.

нік паспрабаваў выявіць тыповыя характарыстыкі асобы, роду, народа, абгрунтаваць і апісаць тыя змены, якія адбываліся на ментальным узроўні чалавека цягам жыцця, а таксама ў выніку выбуховых сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў і вайны як агульначалавечай катастрофы.

Заходнебеларускае жыццё прадстаўлена ва ўсім спектры жыццёвых праяваў, з акцэнтаваннем тых гістарычных або прыватных момантаў, праз якія выразна прасочваюцца, малююцца паралелі з агульнанародным лёсам. Адлюстраванне спецыфікі культурна-эканамічнага жыцця на заходнебеларускіх землях дазволіла аўтару паказаць паступовы працэс парушэння традыцыйнага ладу, змены каштоўнаснай парадыгмы.

Цэнтральнае месца ў раманным эпасе займае праблематыка нацыянальнага руху. Найперш яна выяўлена праз шматпакутны шлях у пошуках беларускасці найлепшых прадстаўнікоў этнасу. Інтэлігенцыю, „высокае", рэфлектыўна-культурнае прадстаўляе найперш Міця Корсак, чые погляды з ідэалізавана-рамантычных пашырацца да разумення ўсёй глыбіні, супярэчлівасці і пэўнай укрыжаванасці беларускага шляху. Шматпакутнае жыццё Лаўрэна Царыка, прыстасавальніцтва Костака Камашылы і інш. стане адлюстраваннем спроб супрацоўніцтва прадстаўнікоў беларускага руху з рознымі палітычнымі сіламі, што не толькі не дасць жаданага выніку, але і пераўтворыць такіх беларусаў у ахвяр, вымушаных выбіраць паміж пагібеллю або згодай на амаральныя кампрамісы, удзелам у генацыдзе свайго народа.

Лёсамі сваіх герояў В. Адамчык выявіў бесперспектыўнасць такога шляху і акрэсліў неабходнасць пошуку самастойнага і незалежнага выйсця з нацыянальнай нявызначанасці. Менавіта зварот да заходнебеларускага кантэксту дазволіў аўтару выразна паказаць, што мясцовае насельніцтва бачыць сваю адрознасць ад палякаў, чужыя для яго і прадстаўнікі Саветаў. Але ж і беларусамі вяскоўцы сябе ў поўнай меры не адчуваюць. Яны проста тутэйшыя жыхары.

Такім чынам, нацыянальная тэма раскрываецца цэласна: праз лёсы асобных прадстаўнікоў заходнебеларускай інтэлігенцыі, і перадусім – праз вобраз народа, прадстаўлены звычайнымі вяскоўцамі, для якіх пытанні нацыянальнай самаідэнтыфікацыі будуць узнікаць на ўзроўні жыццёвага вопыту і звязвацца найперш з зямлёй, спадчынай, трывалым жыццёвым падмуркам, які б дазволіў рэалізаваць права на лепшую долю і шчасце.

Бытапісальніцтва і раскрыццё праблематыкі праз кругагляд чалавека з народнай масы, які не сягае ў тонкасці палітычных раскладаў, але з'яўляецца паўнапраўным удзельнікам гісторыі, – гэта вельмі ўдала знойдзеная В. Адамчыкам аўтарская пазіцыя. Яна дала пісьменніку магчымасць у 1970-я – другой палове 1980-х гг. эўфемічна выказацца пра вострыя моманты, абысці абмежаванні сацрэалістычнага ракурсу ў савецкай літаратуры і закрануць многія тэмы, якія з'яўляліся на той

час падцэнзурнымі і застаюцца малараскрытымі нават у навейшай беларускай літаратуры (праблемы нацыянальнага беларускага руху і “калабарацыі” як супрацоўніцтва дзеячаў беларускага адраджэння з рознымі сіламі: ад немцаў-кайзераўцаў да палякаў-пілсудчыкаў і расійцаў-бальшавікоў; пытанні станаўлення беларускай дзяржаўнасці, схаваныя глыбока ў раманным падтэксце; усталявання савецкай улады на заходнебеларускіх тэрыторыях, падзелы і перападзелы зямлі, неадназначнасць партызанскага руху, габрэйскае пытанне і інш.).

Зварот да гісторыка-культурных рэалій у раманным цыкле не толькі выявіў у асобе аўтара глыбока дасведчанага знаўцу жыцця, эрудыта, але і прадставіў пісьменніка, для якога гістарычная праўда стала выяўленнем высокай грамадзянскай пазіцыі. Таму яго творы пазбаўлены ідэалізацыі, прыхарошвання, характэрных для “вясковай” прозы XX стагоддзя. Імкненне да аб’ектыўнасці, праўдзівасці на ўсіх узроўнях раманнага цыклу, пазбяганне адкрытай ацэначнасці, – усё гэта дазволіла празаіку падштурхнуць чытача на крытычнае стаўленне да аповеду, да самастойнага асэнсавання мастацкага зместу твораў.

*Natalla Apanasovich*

**West-Belarusian Reality in the Novel Series by Adamchyk**

A b s t r a c t

The article deals with West Belarusian reality as the basis for the factual realistic content of Adamchyk’s novel series and as a place of intersection of life paths of Belarusians, which forms source material helping to identify the characteristics of changes that occurred within Belarusian life, manners of behaviour and self-identification. It is emphasised that the address to West Belarusian reality does not limit the story geographically or culturally and it allows the writer to design certain national issues and raise many questions censored in the Soviet era.

Tom 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ірына Бурдзялёва**
Мінск

# Раман Э.Т. Масальскага *Пан Падстоліц* у шэрагу еўрапейскіх літаратурных утопій

Так сталася, што многія творы даўняй і новай шматмоўнай літаратуры Беларусі нараджаюцца двойчы: спачатку ў арыгінальным моўным абліччы ў культурна-гістарычным кантэксце свайго часу, паўторнае іх нараджэнне адбываецца праз сучасныя пераклады на беларускую мову. Здзейснены сёння мастацкі пераклад даўніх тэкстаў належыць ужо бягучаму літаратурнаму працэсу, і асэнсаванне гэтых твораў, іх рэінтэрпрэтацыя адбываецца ў новай сацыякультурнай сітуацыі. Такім чынам актуалізаваўся раман Эдварда Тамаша Масальскага *Пан Падстоліц, альбо Чым мы ёсць і чым быць можам* (друкаваўся з 1831 па 1833 гг.), які выйшаў у 2015 г. у перакладзе на беларускую мову.

Па сваёй ідэйна-тэматычнай адметнасці раман Э.Т. Масальскага займае ў беларускай літаратуры выключнае месца і ўтрымлівае шэраг тыпалагічных рыс, уласцівых жанру літаратурнай утопіі. Твор пазначаны як адміністрацыйны раман, што само па сабе мае на ўвазе мастацкае канструяванне рацыянальна арганізаванага і сістэмна скаардынаванага свету. Сапраўды, чацвёртая і пятая часткі рамана маюць аднолькавую назву *Ідэалы* і прэзентуюць чытачу праект узорнай сядзібнай прасторы, заснаванай на прынцыпах рацыяналізму і гуманізму, з прамымі інструкцыямі па яе практычнай рэалізацыі.

Літаратурная ўтопія – агульнаеўрапейская мастацкая з'ява, вытокі якой хаваюцца ў самой прыродзе чалавечай псіхікі. Як гнуткае і рухомае жанравае ўтварэнне ўтопія падлягала ўплыву гістарычных, культурна-ідэалагічных фактараў і за сваю літаратурную гісторыю назапасіла вялікую колькасць жанравых мадыфікацый. Пэўныя праблемы ў вызначэнні і вывучэнні ўтапічных твораў абумоўлены сінтэтычнасцю жанру і яго пагранічным становішчам у літаратурным працэсе. Літаратурная ўтопія спалучае ў сабе розныя тыпы свядомасці – навукова-аналітычны і мастацка-вобразны. Вынікам з'яўляюцца шматлікія жанравыя злучэнні ўтопіі з сацыяльна-палітычным, прыгодніцка-авантурным раманам, з філасофскімі дыялогамі, публіцыстыкай ці навуковымі выкладамі. Беларускі філосаф Чэслаў Кірвель характарызуе ўтопію як з'яву, якая знаходзіцца "на стыку побытавай і тэарэ-

тычнай свядомасці, вобразным і канцэптуальным успрыняццем рэчаіснасці, псіхалогіяй і ідэалогіяй, рэлігіяй і навукай”[1].

Варта заўважыць, што і сама постаць Э.Т. Масальскага вылучаецца разнапланавасцю праяваў. Ён – магістр права і філасофіі, аўтар артыкулаў па эканоміцы сельскай гаспадаркі, разам з тым яму належыць названы вышэй раман і змястоўныя мемуары. Хто ён: мастак-літаратар ці эканаміст-практык, які тып свядомасці з’яўляецца дамінантным? Раман *Пад Падстоліц* паказвае, што талент Э.Т. Масальскага сінтэтычны па сваёй прыродзе, але на першы план выступае не эстэтычнае перасэнсаванне рэчаіснасці, а праявы рацыянальна-крытычнага мыслення.

Твор Э.Т. Масальскага прасякнуты дыдактычным пафасам. Гэта тычыцца як першых частак, якія можна суаднесці з раманам нораваў, так і апошніх раздзелаў *Ідэалы*, у якіх утапічны кампанент найбольш адчувальны. Пра задачу актыўнага ўздзеяння на чытача сведчыць аўтарская прадмова і ўступ, дзе ўтрымліваецца прамая апеляцыя да шляхты, як да патэнцыяльна грамадска-актыўнага саслоўя, ад якога залежыць будучыня краю: “Каб звярнуць увагу на гэты найважнейшы наш абавязак, дзеля таго, каб давесці, што ў нашых руках ёсць спосабы паправіць наш быт, дзеля таго, каб паказаць, што гэта за спосабы, аўтар вырашыў выдаць гэтую кнігу”[2]. Пісьменнік прапануе канкрэтныя спосабы выйсця з сацыяльна-эканамічнага тупіка, а каб захапіць сваімі рэфарматарскімі ідэямі як мага большую чытацкую аўдыторыю, выкарыстоўвае нескладаны любоўны сюжэт: “Жадаючы зрабіць сваю кнігу даступнаю для ўсіх чытачоў, якім яна прызначана, аўтар вырашыў падаць яе не ў паважным навуковым выглядзе, а ў форме рамана, каб наблізіць яе і да не вельмі адукаваных, і да тых нават, якім хапае часу чытаць толькі дзеля забавы”[3].

Раман *Пан Падстоліц* з’яўляецца рэакцыяй на недасканаласць рэчаіснасці і імкненнем проціпаставіць ёй ідэальную грамадскую супольнасць, самаарганізаваную праз ідэю ўсеагульнага дабра ў пэўнай сацыяльнай арыентацыі. Другая частка назвы рамана *Чым мы ёсць і чым быць можам* падкрэслівае яго двухпланавасць, апазіцыйнасць першых і апошніх частак, супрацьпастаўленне рэальнага-ідэальнага, якое ёсць асновай любога ўтапічнага твора. На крытычным пафасе адмаўлення рэчаіснасці сцвярджаліся ўтопіі Томаса Мора, Джанатана Свіфта, Вальтэра, Жана-Жака Русо, Луі Себасц’яна Мерсье, Ігнацы Красіцкага ды іншых аўтараў.

Пісьменніцкае майстэрства Э.Т. Масальскага найбольш праяўляецца ў першых трох частках рамана, дзе па чарзе паўстаюць вобразы

---

[1] Ч. К и р в е л ь, *Утопическое сознание: сущность, социально-политические функции*, Минск 1989, с. 17.

[2] Э.Т. М а с а л ь с к і, *Пан Падстоліц, альбо Чым мы ёсць і чым быць можам*: прадм., пер. з польскае мовы і камент. М. Хаўстовіча, Warszawa 2015, с. 6.

[3] *Ibidem*, с. 6.

гаротных сялян і дэградаванай шляхты, беспрынцыповых мясцовых урадоўцаў і чыноўнікаў, купцоў, рамеснікаў, мяшчан. Такім чынам аўтар імкнецца панарамна паказаць праблемны стан усіх слаёў грамадства, смела і рашуча вылучыўшы на першы план самыя брыдкія і адмоўныя бакі.

У апісанні абуральных бакоў рэчаіснасці ўтопія звычайна актыўна задзейнічала сатыру. Прычым пад крытыку падпадалі не прыватныя ці адзінкавыя з'явы: маральна дэфармаванай, алагічнай і абсурднай паказвалася ўся сучасная рэчаіснасць. Э.Т. Масальскі таксама трапна і дарэчы выкарыстоўвае сатырычныя сродкі. Кампазіцыйна першыя часткі рамана складаюцца з шэрагу таленавіта напісаных мікрасюжэтаў, у якіх у сатырычным плане падаюцца ілюстрацыі заняпаду маральнасці і эканамічнай катастрофы. Яны нанізаны на постаці двух галоўных герояў – каментатара пана Падстоліца і яго слухача, Уладзіслава. Дарэчы, пісьменнік так і не называе ўласнага імя Падстоліца. Абодва героі выступаюць не як індывідуалізаваныя персанажы, а хутчэй як функцыі: пан Падстоліц з'яўляецца прамым выказнікам аўтарскай крытычнай думкі, Уладзіслаў патрэбны ў такой сітуацыі як слухач, які раз-пораз задае Падстоліцу пытанні і інспіруе таго на разгорнутыя тэарэтычна-дыдактычныя выказванні.

Звяртае на сябе ўвагу грамадзянская смеласць і мужнасць аўтара, які на прыкладзе сям'і бедняка Тадэвуша праўдзіва апісаў стан сялянства, самадурства і бесчалавечнасць прыгоннікаў. "Няма добрых паноў, – кажа маленькі сын Тадэвуша, – усе яны нашу кроў п'юць"[1]. Іх гаспадары, сямейства пана Харунжага, дбаюць толькі пра грошы на модныя рэчы, тым часам як уласная гаспадарка знаходзіцца ў поўным заняпадзе. Дачуўшыся, што за чалавечыя валасы даюць някепскія грошы, яны, як здзекліва паказвае аўтар, гатовы да прамой рэалізацыі метафары "стрыгчы сялян як баранаў". З іроніяй і абурэннем аўтар піша пра фальшывую "Ласку Божую", так па-фарысейску называюць клопат паноў пра сваіх падданых. Пісьменнік параўноўвае забітага беларускага селяніна з "мурынам, які канае ад здзекаў крывавага наглядчыка ў капальнях Новага свету. Гэтакая шляхецкая «Ласка»"[2]. У постацях шляхты, гасцей пана Харунжага, назіраецца тыпізацыя заган гэтага саслоўя. Харунжы – увасабленне жорсткасці і невуцтва, Маршалак – амбітнасці і фанабэрыі, Капітан – спешчанасці і марнатраўства. Іх мова персаналізаваная, насычаная словамі-маркёрамі і характэрнымі выразамі, дыялогі надзвычай ілюстратыўныя і малююць норавы дэградаванай шляхты. Некаторыя мікрасюжэты набываюць фарсавы характар, напрыклад, купля-латэрэя капялюшыка, калі пад маскай дабрачыннасці хаваецца рабунак і вымагальніцтва. "Абыякавасць да лёсу краю, гультайства, марнатраўства, бязладдзе і тытуламанія – гэта спадчына

[1] *Ibidem*, с. 28.
[2] *Ibidem*, с. 46.

амаль кожнае сям'і,"[1] – канстатуе хранічныя хваробы шляхты Падстоліц. Э.Т. Масальскі паказвае пагарду як шляхты, так і мяшчанства да асветы і адукацыі, грамадзянскую пасіўнасць, адсутнасць асабістай зацікаўленасці ў рэформах.

У рамане няма замілаванасці старой шляхецкай вольнасцю і старасвецкім традыцыяналізмам, якую мы знойдзем у многіх пісьменнікаўсучаснікаў Э.Т. Масальскага. Аўтар не сімпатызуе сарматызму, ён цалкам еўрапейскі і сваім крытычным пафасам нацэлены ў будучыню, да радыкальных перамен, якія здатны разварушыць сацыяльна-эканамічнае жыццё краю і надаць новы імпульс яго развіццю. Сярод гасцей паноў Харунжых пэўную сімпатыю выклікае адзіны пан Каморнік, небагаты патрыярхальны шляхціц, якога Падстоліц далучыў да "няшкодных абываццеляў". Але ж і карысці ад яго ніякай. Гэта тып кансерватыўнай, патрыярхальнай шляхты, пазбаўленай энергіі, крэатыўнасці, вітальнай сілы, якая забяспечвае рух наперад. Пісьменнік паказвае, што старасвецкая шляхта выраджаецца, яна не прыдатная жыць у новых варунках, якія дыктуе час. У якасці ўзору грамадскай і эканамічнай актыўнасці, імклівага развіцця прамысловасці, аўтар некалькі разоў прыводзіць ЗША: "Прыклад шмат якіх амерыканскіх правінцый даводзіць, як хутка і шчасліва можа змяніцца край, калі ўвесь народ прыкладзе дзеля гэтага намаганні"[2]. А ў каментарах пазначае: "З 1809 г. пачалася тая цудоўная эпоха. Паўсюль у Паўночнай Амерыцы ствараліся мануфактуры і адкрываліся багатыя крыніцы заможнасці... Агая 20 гадоў таму была пустыняю, заселенаю дзікімі плямёнамі, у 1810 г. праз некалькі гадоў пасля таго, як з'явіліся тут першыя перасяленцы, ужо выпрадукавала 2.000.000 ярдаў суконных, бавоўняных і льняных тканінаў; выгнала 1.000.000 галонаў гарэлкі, 13.000.000 фунтаў цукру і г. д."[3] Побач з падобнымі прыкладамі прамысловага прагрэсу камічна глядзіцца таксама досыць сімпатычная, але безнадзейна маральна састарэлая постаць пана Бурмістра, даўняга сябра Падстоліца. Гэты апісаны з мяккай іроніяй "няшкодны абывацель" таксама застаўся ў мінулым, ва ўспамінах далёкай маладосці, а яго мову аўтар удала насычае шматлікімі лацінізмамі і выказваннямі, узятымі з *Альвара*. Як паказвае пісьменнік, большая частка шляхты і мяшчан знаходзіцца ў палоне шматлікіх забабонаў, і нават "няшкодныя абывацелі" не бачаць сябе ні ў прамысловасці, ні ў гандлі, ніяк не зацікаўлены ні ў навацыях ва ўласнай гаспадарцы, ні ў зменах звыклага ладу жыцця.

Аўтар далёкі ад абстрактнага гуманізму і сентыментальнай замілаванасці беднымі і пагарджанымі, ён абірае для галоўнага героя ролю дабрачыннага прагматыка. Пан Падстоліц сцвярджае, што "дабро павінна быць разумным." Або ён кажа: "Трэба дапамагаць, не бяд-

[1] *Ibidem*, с 140.
[2] *Ibidem*, с. 195.
[3] *Ibidem*, с. 207–208.

неючы"[1]. Карысць багацця ён трактуе наступным чынам: "Чалавек павінен быць заможным, бо толькі ў дастатку можна даць добрае выхаванне. Беднасць нараджае заганы"[2]. Да гонару Э.Т. Масальскага, ён ці не першым звярнуў увагу на геапалітычнае становішча краіны, гаворачы, што з яго можна атрымаць вялікую перавагу ў гандлі: "Наша геаграфічнае становішча робіць нас пасярэднікамі паміж Паўночнай Еўропай і Азіяй; з дапамогай нашых рэк і каналаў, якія ўжо ёсць, а таксама новых, можна мець такія ж выгоды, якія маюць ваколіцы Александрыі, размешчаныя паміж трыма часткамі свету"[3].

Мастацкія выяўленчыя сродкі падаюцца пісьменніку замалымі, ён выходзіць за сюжэтныя межы, набывае функцыю публіцыста, навукоўца-практыка, эканаміста, сацыёлага і выкладае патрэбныя дадатковыя звесткі ў *Заўвагах* да кожнай часткі рамана. Яны насычаны статыстычнымі дадзенымі, спасылкамі на пазітыўны вопыт еўрапейскіх краін, навінамі пра навукова-тэхнічныя вынаходніцтвы, прапановамі па ўдасканальванні земляробства, прамысловасці і гандлю. Па ідэйнай скіраванасці, кампазіцыйных асаблівасцях, інфармацыйнай змястоўнасці, сінтэзу мастацкага і навуковага мыслення раман Э.Т. Масальскага стаіць асобна ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя.

Пісьменнік малюе татальны заняпад усіх сфер грамадства і лагічна падводзіць да разумення неабходнасці рашучых перамен. Гэтым ён падрыхтоўвае чытача да ўспрыняцця двух апошніх частак твора, у якіх на прыкладзе ўладанняў пана Падстоліца паказана мадэль ідэальнай прасторы, дзе законы рацыянальнага гаспадарання спалучаны з прынцыпамі гуманізму і сацыяльнага міру. Э.Т. Масальскі прапануе сваё бачанне ідэалу і супрацьпастаўляе яго існуючай рэчаіснасці, таму апошнія дзве часткі твора выглядаюць як выпраўлены люстэркавы адбітак дэфармаванай рэальнасці. Калі першая палова рамана дэманстравала цэлую галерэю адмоўных тыпажоў з розных саслоўяў, а сяляне паўставалі гаротнымі і забітымі, то ва ўтопіі Падстоліца ўсё наадварот. Мы бачым ідэальных паноў, святароў, мяшчан, рамеснікаў, настаўнікаў, дактароў, шчаслівых і поўных самапавагі сялян. На пачатку рамана прыгонныя пана Харунжага жывуць у гнілых хатах, хварэюць, а смяротнасць сярод дзяцей жахлівая. Ва ўладаннях пана Падстоліца наадварот: сяляне жывуць у асобных дамках, пабудаваных у грэцкім, англійскім, швейцарскім, маўрытанскім стылях, часам трымаюць парабкаў, а дзецям пагалоўна робяцца прышчэпкі. Калі падчас апісанага на пачатку рамана гарадскога балю паненкі зласліва пляткараць, інтрыгуюць, ацэньваюць строі канкурэнтак, то ў доме Падстоліца маладыя шляхцянкі, выпускніцы гаспадарчай школы, за кубачкам гарбаты абмяркоўваюць удасканаленне працэсу вырабу крухмалу, новыя спосабы кліматычнай адаптацыі экзатычных раслін і іншыя вынаходніцтвы.

[1] *Ibidem*, с. 184.
[2] *Ibidem*, с. 124.
[3] *Ibidem*, с. 195.

“Аніводная дама нават слова не сказала пра крой каптуркоў, аніводная не іранізавала з вадаў адсутных тут суседак”[1]. Невыпадкова гэты падраздзел названы ў творы *Грамадзянкі*. Калі знаёмства з сядзібай Харунжага пачыналася з панарамнага агляду яго заняпалых уладанняў і занядбанага сядзібнага дома, то частка чацвёртая *Ідэалы* прапануе дасканалую гаспадарку, утульны і камфортны дом сямейства Падстоліца. Калі для пані Харунжыхі безгустоўны парк і аранжарэя з дарагімі і каштоўнымі дрэвамі існуе выключна для фанабэрыі і ёсць сапраўдным марнатраўствам, то ў садзе і аранжарэі пана Падстоліца ўсё прыгожа, прадумана і рацыянальна. Садоўнік пані Харунжыхі гаворыць: “Ці ж не дастаткова тае карысці, што ў гэтым чароўным кутку знаходзіцца тое, пра што нават не чулі на некалькі міль навокал?”[2] Тым часам у садзе Падстоліца “аніводнага дрэва няма без ужытку”, тут прыгажосць і прыемнасці жыцця спалучаюцца з розумам і практычнасцю.

Вядома, што сюжэтнастваральныя магчымасці ўтопіі вельмі абмежаваныя, бо ва ўтапічнай прасторы няма ўнутраных канфліктаў, якія б забяспечвалі сюжэтнае развіццё і надавалі б дынаміку дзеянню. Сядзібная ўтопія ў рамане Э.Т. Масальскага таксама носіць пераважна апісальны характар. Тут знікае сатыра, якой былі насычаны першыя часткі, бо крытыка немагчымая з-за адсутнасці заган. Утопія ніколі не брала пад увагу супярэчлівасці і ірацыянальнасці чалавечай прыроды, і шматлікія персанажы, якімі запоўнена ўтапічная прастора рамана Э.Т. Масальскага, аднамерныя і не індывідуалізаваныя: яны з’яўляюцца ілюстрацыяй аўтарскіх ідэй і выконваюць чыста прагматычныя функцыі. Такія спецыфічныя рысы характэрныя для паэтыкі ўтопіі, як і дыялогавая форма нарацыі. Дыялог выступае адной з яе асноўных жанравых асаблівасцяў і традыцыйна лічыцца найбольш аптымальным спосабам перадачы інфармацыі, абмену думкамі і поглядамі. Постаці пана Падстоліца і Уладзіслава, каментатара-апавядальніка і цікаўнага слухача, і ў гэтых частках рамана застаюцца асноўнымі вобразамі, вакол якіх арганізуецца ўтапічны топас. Асаблівасці паэтыкі жанру вынікаюць з таго, што мастацкі кампанент твора з’яўляецца другасным у адносінах да яго сацыяльна-філасофскага зместу.

Ствараючы ў рамане ідэальны сядзібны топас, Э.Т. Масальскі задзейнічае як багаты вопыт заходнееўрапейскай літаратурнай утопіі, так і традыцыі польскамоўнай літаратуры Асветніцтва з папулярнай канцэпцыяй класавага салідарызму і ідэяй добрага пана. Можна згадаць творы Францішка Багамольца *Пан добры*, Францішка Карпінскага *Чынш*, Мацея Радзівіла *Агатку*, дзе пан выступаў справядлівым і мудрым уладаром сваёй сядзібы-дзяржавы. Гэтая ж ідэя ляжыць у аснове дыдактычнага рамана І. Красіцкага *Пан Падстолі*, у якім пісьменнік намаляваў ідэальнага пана і яго рацыянальна арганізаваную гаспадарку. Прэзентуючы галоўнага героя на пачатку твора, Э.Т. Ма-

[1] *Ibidem*, c. 345.
[2] *Ibidem*, c. 70.

сальскі прама паказвае на генетычную сувязь свайго рамана з названым творам І. Красіцкага. Пан Падстоліц сапраўды мае шмат агульнага са сваім літаратурным "бацькам", панам Падстолім, а супастаўляльны аналіз тэкстаў паказвае на блізкасць праблематыкі, супадзенне некаторых сюжэтных схем і кампазіцыйных прыёмаў. Гэта тлумачыцца падабенствам мастацкіх задач і дыдактычнай скіраванасцю абодвух аўтараў, але ідэальная сядзіба-дзяржава ў творы Э.Т. Масальскага выступае ў больш сучаснай, "мадэрнізаванай" версіі, адпаведнай бягучай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі. Розніца ў арыенцірах абодвух аўтараў заўважальная: калі герой І. Красіцкага час ад часу спасылаецца на старажытных рымлян, антычны залаты век ці прыгадвае Казіміра Вялікага, то Э.Т. Масальскі апелюе да сучасных сацыёлагаў, эканамістаў і прамыслоўцаў.

Э.Т. Масальскі, безумоўна, быў знаёмы з утопіяй вострава Ніпу ў рамане І. Красіцкага *Прыгоды Мікалая Дасвядчынскага*, куды пасля шматлікіх прыгод трапляе галоўны герой. Як адзначаюць даследчыкі, "Красіцкі, сінтэзуючы разнародныя літаратурныя ўплывы Свіфта, Лесажа і Вальтэра, стварыў арыгінальны польскі раман, адначасова сатырычны, утапічны і прыгодніцкі. У сваім героі ён паказаў неакласіцысцкую сумесь Гулівера, Жыль Блаза і Кандыда"[1]. Але найперш у творах І. Красіцкага адчуваецца ўплыў русаізму, які праяўляецца ў апісаннях натуральнага ладу жыхароў далёкага вострава, у прынцыпах суладнага жыцця і працы ў сядзібе пана Падстолія. Такім чынам, Э.Т. Масальскі ўспрымаў вопыт еўрапейскіх утопій як напрамую, так і ў адаптаваным літаратурнымі папярэднікамі выглядзе.

Аналіз рамана *Пан Падстоліц* паказвае, што найперш гэта быў уплыў не рэнесансных, класічных утопій Т. Мора і Тамаза Кампанэлы, а вопыт асветніцкіх утопій, у першую чаргу твораў Вальтэра *Кандыд, або Аптымізм* і раманаў Ж.-Ж. Русо *Эміль* і *Юлія, або Новая Элаіза*. У апошнім рамане Ж.-Ж. Русо стварае ўтопію Кларана, маёнтка Юліі д'Этанж і яе мужа, пана Вальмара, дзе найбольш гарманічна праяўляецца чалавечая прырода, пануюць мір, шчасце і ўзаемапаразуменне. Распавядаючы пра лад жыцця насельнікаў Кларана, пісьменнік ілюструе сваю сацыяльную і эканамічную тэорыю, выказвае погляды на разнастайныя аспекты чалавечага і грамадскага жыцця. Э.Т. Масальскі пераймае ад заходнееўрапейскіх мысляроў ідэю "ўсеагульнага дабра", у аснове якой ляжыць грамадская карысць і дабрачыннасць ва ўсіх яе праявах.

Апрача таго, пісьменнік меў рэальныя прататыпы свайго станоўчага героя, а прапанаваная мадэль сядзібнай утопіі пана Падстоліца абапіралася на прыклады з рэчаіснасці. Мікола Хаўстовіч у прадмове да твора ўказвае на рэальную аснову твора і называе найбольш вера-

[1] Р. Л е б л а н к, *Русский Жилблаз Фаддея Булгарина*, пер. с англ. Е. Островской и А. Плисецкой [online], magazines.russ.ru/nlo/1999/40/leblank-pr.html [доступ: 4.03.2018].

годнага прататыпа галоўнага героя – Дамініка Манюшку, які ў маёнтку Раткаўшчына на Ігуменшчыне правёў мясцовую аграрную рэформу, заснаваў землябробчую школу і пансіянат для сялянскіх дзяцей, стварыў лабараторыі, батанічны сад, здзейсніў шэраг іншых істотных пераўтварэнняў. Варта адзначыць, што былі і ранейшыя спробы рэфарматарскай дзейнасці – гэта чын Антоні Тызенгаўза, Ёахіма Храптовіча. Сучаснікам Э.Т. Масальскага быў добра вядомы вопыт Паўлаўскай рэспублікі, створанай Паўлам Ксаверыям Бжастоўскім у другой палове XVIII стагоддзя ў маёнтку Мерач на Віленшчыне. Пад уплывам асветніцкіх ідэй Ж.-Ж. Русо, а таксама сацыялістаў-утапістаў Т. Мора і Анры Сэн-Сімона ён правёў радыкальныя сацыяльна-эканамічныя рэформы, увёў мясцовае сялянскае самакіраванне. Э.Т. Масальскі піша: "прыемна аўтару заявіць, што ўсё тое добрае, пра што тэма дазваляе згадаць ці ўкласці ў вусны пану Падстоліцу, узятае з рэчаіснасці, з учынкаў альбо выказванняў руплівых і адукаваных суайчыннікаў". Ён не называе іхнія прозвішчы, "каб не абразіць сціпласць іх носьбітаў"[1]. Такія прыклады асобных суайчыннікаў-рэфарматараў, бясспрэчна, паслужылі ў якасці правобраза-першаасновы ўтапічнай сядзібы пана Падстоліца, але Э.Т. Масальскі ідзе далей за рэальнасць, ён даводзіць такую рэфармаваную прастору да абсалюту. Пісьменнік стварае мастацкі вобраз ідэальнага свету, у якім гуманізм і чалавечы розум дазваляе рэалізаваць прынцыпы сацыяльнага міру і класавай згоды, увасобіць на практыцы прагрэсіўныя сацыяльна-эканамічныя ідэі, задзейнічаць, мабыць, увесь вядомы на той час еўрапейскі перадавы вопыт гаспадарання, прыстасаваўшы яго да айчыннай глебы. Часам мастацкія часткі рамана падаюцца ілюстрацыяй да вялізнага інфармацыйна-даведачнага блока, які суправаджае твор. Тым не менш, сядзіба пана Падстоліца – гэта мастацкі вобраз ідэальнай прасторы, наколькі ён можа быць мастацкім ва ўтопіі, пакліканай не толькі эмацыянальна а, найперш, інтэлектуальна ўздзейнічаць на чытача.

Першае знаёмства з уладаннямі пана Падстоліца адбываецца праз уражанні яго госця Уладзіслава. Малады чалавек цешыцца цудоўнымі краявідамі, якія скіроўвалі "ў свет фантазій пра шчаслівую нявіннасць першабытных жыхароў"[2]. Аднак далей аўтар паступова разгортвае апісанні менавіта рукатворнага раю, які ўзнік за дваццаць гадоў руплівай і паслядоўнай працы пана Падстоліца. Калісьці "тут была глухамань, зарослая адным пустазеллем ды хмызняком, і ўражвала душу сваёй мёртвай неабжытасцю"[3]. Пан Падстоліц, як і гаспадары маёнтка Кларан, выступае тут як творца, які з хаосу і бязладдзя сфарміраваў спарадкаваны свет, "дзе па волі аднаго абываццеля разгортвалася нязнаная дагэтуль краса жыцця, дзе людзі былі з іншымі пачуццямі,

[1] Э.Т. М а с а л ь с к і, *Пан Падстоліц...*, с. 7.
[2] *Ibidem*, с. 212.
[3] *Ibidem*, с. 213.

адукацыяй, светапоглядам, благаславёныя Небам, захопленыя дабрадзейнасцю, чалавечай годнасцю і міласэрнасцю”[1].

Ж.-Ж. Русо лічыў жыццё і працу на зямлі самымі натуральнымі формамі жыццядзейнасці чалавека. Для Э.Т. Масальскага перавагі земleўласніка таксама відавочныя. Следам за Ж.-Ж. Русо пісьменнік сцвярджае, што ні адзін грамадскі стан не атрымлівае столькі выгод, як вясковы, бо апрача волі і жыцця на ўлонні прыроды мае “большыя, чым у якім-небудзь іншым стане, магчымасці чыніць дабро бліжнім”[2]. Аргументацыя Э.Т. Масальскага, як бачым, некалькі адрозніваецца ад русаісцкай канцэпцыі жыцця ўдалечыні ад сапсаванай цывілізацыі. Ва ўмовах прыгонніцтва шляхціц-землеўласнік – абсалютны гаспадар сваіх уладанняў і паднявольнага люду, але пры гэтым ён асабіста надзелены магчымасцямі рэфармаваць і пераствараць рэальнасць, хоць бы ў межах прыватнай сядзібы. “На ўласнай зямлі, што б я не зрабіў, усё навечна застанецца маім, і я магу будавацца паводле ўласнае фантазіі, садзіць сады, паляпшаць глебу, вырошваць гаі альбо лясы, нарэшце, будаваць мануфактуры”,[3] – разважае адзін са шляхціцаў, аднадумца пана Падстоліца.

Калі раннія літаратурныя ўтопіі малявалі жыццё асобных дзяржаў на аддаленых экзатычных выспах, то ў літаратуры Асветніцтва магчыма звужэнне ўтапічнага локусу да адлюстравання прыватнага маёнтка. Герой Вальтэра, Кандыд, пасля таго, як пакінуў утапічную краіну Эльдарада і паражыў мноства нягод, суцяшаецца словамі ўсходняга мудраца: “Праца адганяе ад нас тры вялікія бяды: сум, распусту і нэндзу”. У выніку герой прыходзіць да жыццёвай пазіцыі: што б ні здарылася, “трэба вырошчваць наш сад”. У гэтым тэзісе выяўлена дзейсная асветніцкая пазіцыя, якая на месца пасіўнага сузірання і рэфлексій аб недасканаласці свету ставіць асабістую актыўнасць і працу на сваёй ніве і на сваім месцы. Пан Падстоліц заўважае, што чалавек “павінен шукаць шчасце і славу ў тым, каб у родных мясцінах палепшыць і абнавіць жыццё”[4]. Падобныя асветніцкія ідэі паляпшэння жыцця вакол сябе, практыцызм і вера ў навуковы прагрэс атрымалі працяг у пазітывізме другой паловы XIX стагоддзя, у сцвярджэнні неабходнасці “працы ў асноў”.

Калі традыцыйна ўтопіі ўключалі ў сябе матыў падарожжа і прасторавай ізаляванасці, то ўтопія пана Падстоліца існуе тут і цяпер. Яго ўладанні падаюцца Э.Т. Масальскім як міні-краіна з размытымі прасторавымі межамі, куды ўваходзіць не толькі маёнтак Падстоліца, але і сядзібы навакольнай шляхты, якая пераняла яго пераўтварэнні, фермерскія пасяленні сялян і нават горад з даволі вялікай колькасцю мануфактур. Гэта міні-краіна існуе як адно гарманічнае цэлае, часткі

[1] *Ibidem*, с. 247.
[2] *Ibidem*, с. 249.
[3] *Ibidem*, с. 325.
[4] *Ibidem*, с. 213.

якога знаходзяцца ў цеснай узаемасувязі і гаспадарчым узаемадзеянні. Пісьменнік у якасці ўзору прапануе чытачу сапраўдную прамысловую гаспадарку, дзе задзейнічаны найноўшыя методыкі і тэхналагічныя распрацоўкі. Шматлікія мануфактуры працуюць на мясцовай сыравіне, якая таксама вырошчваецца пры дапамозе інавацыйных спосабаў, тут квітнеюць разнастайныя рамёствы і вядзецца актыўны гандаль, сяляне пад працэнты кладуць грошы ў ашчадны банк і на назапашаныя працэнты купляюць фальваркі і паляпшаюць свой дабрабыт. Тут усё спрыяе развіццю прадпрымальніцкай ініцыятывы.

Як пісьменнік-навуковец Э.Т. Масальскі робіць выразны ўхіл у бок эканомікі, але не абыходзіць увагай і пытанні сацыяльныя і маральна-этычныя. У яго ідэальным свеце ў адно злучыліся веды, навука і дабрачыннасць. Ён апісвае шчаслівае жыццё мясцовых насельнікаў, якія карыстаюцца безліччу сацыяльных прэферэнцый. Тут існуе пральня, сталовая, бальніца, бібліятэка, дзіцячыя яслі, сельскагаспадарчыя школы, дзейнічае іпатэка і страхавая каса, ёсць свае судовыя інстытуты, гэтак званыя “палюбоўныя суддзі парафіі”. Жыццё розных саслоўяў напоўненае актыўнай, дзейснай, узаемавыгаднай працай і здаровым прагматызмам. Па-сутнасці Э.Т. Масальскі паказаў у сваім рамане асветніцкую буржуазную ўтопію, прыстасаваную да навукова-тэхнічных рэалій XIX стагоддзя, сапраўдны буржуазны рай, заснаваны на гуманістычных прынцыпах маральнага раўнапраўя ўсіх членаў супольнасці.

Э.Т. Масальскі памкнуўся звязаць тое, што можа шчасліва спалучацца толькі ва ўтопіі: прагматызм, скіраванасць на асабістае ўзбагачэнне і маральна-этычныя каштоўнасці, патрэбы чалавечага духу. Але ва ўтопіі свая логіка сцвярджэння ідэалу, ды і пісьменнік пераканаThe ў іх узаемаабумоўленасці: “Там дабрачыннасць расквітнее, дзе чалавека ўбоства альбо цяжкія абставіны не змушаюць да злачынства, дзе ён упэўнены, што атрымае ўзнагароду за працу, і што ў самой дабрачыннасці – невычарпальная крыніца яго дабрабыту”[1].

Пісьменнік рэалізаваў у творы шырокі спектр асветніцкіх сацыяльна-ўтапічных ідэй, блізкіх да русаізму. Варта адзначыць, што русаізм – гэта шматпланавая і шматузроўневая з’ява. Як адзначаў Юрый Лотман, “структурная ёмістасць, складанасць арганізацыі, з аднаго боку, дазваляла русаізму выступаць на працягу доўгага перыяду еўрапейскай цывілізацыі ў якасці адной з вядучых культурных ідэй, а з другога, – абумовіла тое, што засваенне гэтых ідэй нязменна было пераасэнсаваннем, інтэрпрэтацыяй, перакладам іх на мову іншых ідэалагічных структур”[2]. Э.Т. Масальскі пераймае і інтэрпрэтуе ў рэчышчы адметнай айчыннай сітуацыі многія асноватворныя прынцыпы сядзібнай утопіі

[1] *Ibidem*, c. 310.

[2] Ю. Лотман, *Руссо и русская культура XVIII – начала XIX века* [у] Ю. Лотман, *Собрание сочинений*, т. 1: *Русская литература и культура Просвещения*, Москва 2000, c. 145.

Кларана. Найбольш актуальнымі для пісьменніка аказаліся дэкларавання Ж.-Ж. Русо прынцыпы міжчалавечых стасункаў у сям'і, паміж бацькамі і дзецьмі, гаспадарамі і слугамі, адносін чалавека і прыроды, пытанні асветы і адукацыі, правілы рацыянальнага гаспадарання.

Уладары маёнтка Кларан "болей стараюцца палепшыць сваю гаспадарку, чым пашырыць свае ўладанні"[1]. Насельнікі ўтопіі Э.Т. Масальскага тонка адчуваюць прыгажосць прыроды, але не проста карыстаюцца яе дабротамі, а пераствараюць, узбагачаюць за кошт паляпшэння глебы, адаптацыі паўднёвых экзатычных раслін, засваення новых сельскагаспадарчых культур. "Цяжка вызначыць межы прыроды і чалавечых намаганняў. Ласка Божая дала людзям панаванне над зямлёю,"[2] – кажа пані Падстоліцава. Тым не менш, як паказвае аўтар, гэта не спажывецкае стаўленне да прыроды, а гарманічнае і плённае з ёй узаемадзеянне. "Толькі парадак, толькі ўменне памножыць і ўмацаваць карыстанне дабротамі могуць пераўтварыць прыемнасць у шчасце",[3] – сцвярджае пан Вальмар у рамане Ж.-Ж Русо. Камфорт і прыемнасць без раскошы і пыхі, здольнасць абмяжоўваць жаданні мэтазгоднасцю вылучаюць і жыццё дома Падстоліца.

Пры ўсёй крытыцы цывілізацыі Ж.-Ж. Русо не заклікаў да яе разбурэння і вяртання да першабытнага "натуральнага стану". Ён меў на ўвазе найперш адраджэнне чалавечай прыроды, яе вяртанне да "натуральнай дабрачыннасці" праз правільнае выхаванне і выпраўленне хібаў грамадства. Увасабленнем гэтага і служыў узорны маёнтак пана Вальмара і Юліі д'Этанж, дзе адносіны паміж людзьмі прасякнуты такой "натуральнай дабрачыннасцю", сардэчнымі пачуццямі і рэгулююцца найперш правіламі маральнасці. Па падобных прынцыпах будуецца ўтопія чалавечых і міжсаслоўных стасункаў у рамане Э.Т. Масальскага: "Мы з маленства ўнушаем дзецям, што любоў да бліжняга, альбо грамадскае дабро, павінна быць матывацыяй усіх учынкаў чалавека, які жыве ў грамадстве"[4]. Асноўным маральным крытэрыем чалавечых учынкаў для абодвух пісьменнікаў з'яўляецца сумленне ў яго хрысціянскай трактоўцы як духоўнага інстынкту, які больш чуйны за розум у адрозненне дабра ад зла. Савойскі вікарый у рамане Ж.-Ж. Русо *Эміль, або Аб выхаванні*, які пастулюе асновы натуральнай веры, гаворыць, што ў глыбіні душы кожнага чалавека жыве прыроджаны прынцып справядлівасці і дабрачыннасці: "Сумленне, сумленне! Божы інстынкт, бессмяротны і нябесны голас, непадкупны суддзя дабра і зла, які робіць чалавека падобным Богу"[5]. Э.Т. Масальскі вельмі блізка паўтарае ў рамане гэты духоўны прынцып: "Воля Божая аб'яўляецца

[1] Ж.-Ж. Русо, *Юлия, или Новая Элоиза*, Москва 1968, с. 309.
[2] Э.Т. Масальскі, *Пан Падстоліц...*, с. 345.
[3] Ж.-Ж. Русо, *Юлия...*, с. 321.
[4] Э.Т. Масальскі, *Пан Падстоліц...*, с. 262.
[5] Ж.-Ж. Русо, *Эмиль, или О воспитании* [online], www.klex.ru/bob [доступ: 14.04.2018].

чалавеку праз ягонае сумленне... У сумлення ёсць голас, незалежны ад нас, бо ён паходзіць ад Бога, які нам кажа, што кепска, што добра"[1].

Ні Ж.-Ж. Русо, ні Э.Т. Масальскі не адмаўляюць сацыяльнай дыферэнцыяцыі. "Розніца станаў у грамадстве не прыніжае аднаго чалавека перад другім, а з'яўляецца толькі ўстаноўленаю формай парадку,"[2] – сцвярджае пан Падстоліц. Э.Т. Масальскі заклікае да абнаўлення сацыяльных адносін і імкнецца паказаць у рамане розныя пласты грамадства, – землеўласнікаў, сялянства, рамесніцтва, купецтва, – як аднолькава значныя і паважаныя сацыяльныя групы. Адно з дыдактычных павучанняў Падстоліца гучыць наступным чынам: "Шчаслівым робіць чалавека стараннае выкананне абавязкаў, а ўзвышае над іншымі больш высокая ступень тае карысці, якую ён прыносіць"[3].

У ідэальным маёнтку свайго героя Э.Т. Масальскі яднае праявы розных эпох: калі гаспадарча-эканамічная дзейнасць мае капіталістычны характар, то ў адносінах паноў да сялян твор нагадвае архаічную патэрналісцкую ўтопію. Адна з сялянак невыпадкова назвала пана Падстоліца за яго дабрачыннасць – "наместнік Бога на зямлі". Мудрае бацькоўскае панаванне над прыгоннымі, якое пісьменнік паказаў у сядзібе Падстоліца, – гэта прыклад таго, з чаго павінна пачаць шляхта. На першапачатковай стадыі рэформ пісьменнік не адмаўляе прыгону, маючы на ўвазе высокі грамадзянскі абавязак і велізарныя магчымасці шляхты ва ўласных уладаннях. "Перш-наперш павінны мы зрабіць іх людзьмі, а потым вольнымі,"[4] – сцвярджае герой рамана. Асноўнымі рэгулятарамі ў сядзібным супольніцтве з'яўляюцца прынцыпы сямейных стасункаў, заснаваныя на ўзаемапавазе і любові. У рамане Э.Т. Масальскага сяляне свой зварот да грамады, якая складаецца са шляхты, прыгонных і слуг, пачынаюць з паказальнай фразы: "Бацькі і браты!". Такі стан рэчаў падаецца аўтару правільным і гарманічным, але дасягальным толькі ў такім ідэальным свеце, якім ёсць сядзібная прастора пана Падстоліца і яго аднадумцаў-суседзяў. Тут магчліва тая ўнікальная сітуацыя, калі падчас агульнай узрушанасці святкавання Дажынак "дзеці рынуліся ў абдымкі сваіх бацькоў, слугі – у абдымкі паноў, і першы, можа, раз на зямлі сяляне шчыра абдымаліся са сваімі панамі"[5]. Э.Т. Масальскі адчувае пэўную хісткасць і нетрываласць такіх ідылічных, "сямейных" узаемаадносін паноў і падданых. Са скрухай адзначае Падстоліц, "хто ж можа гарантаваць, што сярод наступнікаў маіх не з'явіцца які-небудзь Харунжы, што зноў ператворыць іх у быдла альбо прадасць у рэкруты"[6]. Калі пісьменнік апісваў гаспадарча-эканамічныя дасягненні пана Падстоліца, ён выглядаў куды больш упэўненым і аптымістычным.

[1] Э.Т. М а с а л ь с к і, *Пан Падстоліц...,* с. 255.
[2] *Ibidem*, с. 265.
[3] *Ibidem*, с. 355.
[4] *Ibidem*, с. 49.
[5] *Ibidem*, с. 333.
[6] *Ibidem*, с. 283.

Такім чынам, Э.Т. Масальскі, натхнёны рэфарматарскім вопытам асобных адукаваных сучаснікаў, стварае вобраз ідэальнай сядзібнай мадэлі пана Падстоліца, у якой спалучае тыпалагічныя рысы асветніцкай утопіі з айчыннымі рэаліямі і патрэбамі новага стагоддзя. Пісьменнік усведамляў істотнае адставанне Літвы-Беларусі ў параўнанні з еўрапейскім сацыяльна-эканамічным і прамысловым вопытам, таму яго ўтапічны праект мае выразны “тэхнічны” і гаспадарчы ўхіл. Калі сацыяльны лад у яго рамане лібералізуецца, але ў прынцыпе застаецца без кардынальных змен, то ў гаспадарчым і навукова-тэхнічным плане гэта памкненне наперад, да рашучых пераўтварэнняў. Ствараючы ідэальную сядзібу пана Падстоліца, аўтар паказвае магчымыя спосабы выхаду з эканамічнага крызісу і мадэрнізацыі архаічных сацыяльных адносін.

Ці ўсведамляў Э.Т. Масальскі, што піша своеасаблівую ўтопію? Відавочна, не. Яго раман – жаданне супрацьпаставіць кансерватыўнасці і інертнасці гаспадарчага і эканамічнага жыцця, сацыяльным шаблонам прамінулых гадоў мадэль ідэальнага свету, якая дала б чалавеку і грамадству стымул для самаразвіцця. Як, у прынцыпе, і Ж.-Ж. Русо не ствараў свядома ўтопіі, апісваючы жыццё Кларана, а найпераш ілюстраваў свае філасофскія канцэпцыі ў дзеянні. Увогуле, многіх аўтараў мінулага здзівіла б сучасная ацэнка іх твораў. Чаму раман *Пан Падстоліц*, пры ўсім тым, што аўтар абапіраецца на рэальны айчынны і агульнаеўрапейскі прамыслова-гаспадарчы вопыт і дасягненні ў сацыяльнай сферы, усё-такі суадносіцца з утапічным жанрам? Твору Э.М. Масальскага ўласціва яшчэ адна вельмі істотная рыса ўтопіі: створаная пісьменнікам складаная, шматузроўневая ідэальная мадэль немагчымая ва ўсёй сваёй паўнаце і цэласнасці ў тых грамадска-палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах, у якіх пісаўся твор. Гэта гіпатэтычная канструкцыя, не рэальная да ўвасаблення ў сапраўдным свеце ў той шматкампанентнай і гарманічнай форме, у якой яна паказаная ў свеце мастацкім. Але менавіта сама недасканалая рэчаіснасць з усім комплексам нявырашаных праблем дае стымул для стварэння ўтопій.

*Iryna Burdeljova*

**The Novel "Pan Podstolic" by Edward Tomasz Massalski among European Literary Utopias**

A b s t r a c t

The novel by Massalski reveals distinctive features of an Enlightenment bourgeois Utopia, adapted to the national reality and achievements of scientific, technical and socioeconomic thoughts of the 19th century. The author of the article studies Massalski's interpretation of Rousseau's ideas and draws a comparison between the ideal socioeconomic structure of Pan Podstolic's estate and the Utopia of Claran manor in the novel, "Julie, or the New Heloise". Massalski created an artistic image of an ideal country estate, basing on reformative activities of educated compatriots. That image involves the experience of West European Utopias and national traditions of Enlightenment literature with a popular concept of class solidarity and the idea of "a good master".

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Надзея Чукічова**
Гродна

# Інтрыга дзеяння і інтрыга слова: *Тралялёначка* як аўтарскі эксперымент

Разуменне руху беларускага сюжэту ў вялікім гістарычным часе немагчымае без асэнсавання спецыфікі ўваходжання ў нацыянальную культуру слынных аўтарытэтаў новай славеснасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча і ўсведамлення феномена іх мастацкай тэхнікі на этапе інтэнсіўнай эвалюцыі літаратуры.

У беларускім літаратуразнаўстве існуе адносна ўстойлівае меркаванне, што Ф. Багушэвіч крытычна ацэньваў творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча[1], смелы наступнік нібыта не толькі не ўспрымаў літаратурнага досведу папярэдніка, але нават адмаўляўся ад працягу прапанаваных яму гатовых мастацкіх ідэй і рашэнняў, ад існуючай у тагачасным літаратурным працэсе арыгінальнай паэтычнай традыцыі ў цэлым[2]. Думаецца, новы складаны шлях да тутэйшага чытача падказвала Ф. Багушэвічу якраз вострая патрэба выпрацоўкі ўзораў інакшай – празаічнай – стылістыкі. Ён, бадай, першым у беларускай літаратуры і адважыўся ўзяцца за свядомае аддаленне нацыянальнай прозы са стыхіі стылізацыі народнага апавядання.

Наогул, праблема вытокаў беларускай празаічнай традыцыі і сёння з'яўляецца адной з самых складаных для тлумачэння. Алесь Яскевіч, напрыклад, звязвае працэс станаўлення першасных форм нацыянальнай прозы з паспяховым адштурхоўваннем ад выказвання вершаванага: "Вядома, што проза ўзнікае толькі пасля таго, як у нацыянальнай традыцыі «папрацуе» паэзія з яе вялікай умоўнасцю і ўзвышанасцю формы. Без такога вопыту проза напачатку магла б успрымацца як

---

[1] У каментарах да цытаванага тут выдання ў дачыненні да ацэнкі Ф. Багушэвічам творчага даробку В. Дуніна-Марцінкевіча змешчана агаворка, што паэт, магчыма, не ведаў найбольш таленавітых, значных твораў драматурга – *Пінскай шляхты* і *Залётаў* (Ф. Багушэвіч, *Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты*, Мінск 1991, с. 251). Праўда, як слушна заўважае І. Запрудскі, рукапісныя тэксты неапублікаваных п'ес В. Дуніна-Марцінкевіча пісьменнік мог атрымаць ад сяброў – Я. Карловіча ці А. Ельскага (І. Запрудскі, *Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 2003, с. 128).

[2] А. Яскевіч, *Выхад за круг: Літаратуразнаўчыя артыкулы*, Мінск 1985, с. 153; І. Запрудскі, *op. cit.*, с. 128; А. Макарэвіч, *Творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча ў крытычных ацэнках другой паловы XIX – першай трэці XX ст.* [у:] *Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у еўрапейскім кантэксце*, Мінск 2008, с. 192–193.

звычайная гаворка, перапіска. І таму здаецца, што, паколькі проза ўзнікае на базе ўжо ўсталяванай паэзіі, задача стварэння яе не ўяўляе асаблівых цяжкасцей. Толькі пракладальнікі першых шляхоў ведаюць, якая гэта непасільна цяжкая справа – упершыню загаварыць складам празаічнага выказвання на сваёй нацыянальнай мове”[1]. Калі гэта так, то адпрэчванне і ігнараванне Ф. Багушэвічам мастацкага досведу В. Дуніна-Марцінкевіча ў нечым было апраўданым.

Як жа ў сюжэце сцвярджаліся магчымасці і культура “празаічнага складу” нацыянальнага выказвання, і ў якім выглядзе праяўлялі сябе ў новых эстэтычных умовах архетыпныя сюжэтныя мадэлі?

Унутраны механізм функцыянальна-эстэтычнай трансфармацыі беларускага літаратурна-мастацкага сюжэту даследаваўся на падставе падрабязнай марфалагізацыі шэрагу наратыўных тэкстаў двух аўтараў[2] у адпаведнасці з методыкай сюжэталагічнага аналізу, прапанаванай Уладзімірам Пропам у *Марфалогіі чарадзейнай казкі*[3]. Дадзеныя, якія мы атрымалі пры структурным аналізе сюжэтаў пералічаных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, адлюстраваны ў выглядзе табліцы. Першая калонка змяшчае інфармацыю пра выбраную групу персанажных функцый. Другі, трэці і чацвёрты слупкі паказваюць на працэнтныя суадносіны ўзятай функцыянальнай групы з агульнай колькасцю сюжэтных адзінак, вылучаных у творах В. Дуніна-Марцінкевіча і вызначаных вершаваных ці празаічных творах Ф. Багушэвіча адпаведна. Такім чынам, мы маем магчымасць ажыццявіць супастаўленне “праяўленых” сюжэтных архетыпаў у творах абодвух аўтараў.

**Табліца: Прадуктыўнасць апавядальных архетыпаў у творах В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча**

| **Назва функцыянальнай групы** | **В. Дунін-Марцінкевіч: вершаваныя аповесці і апавяданні, %** | **Ф. Багушэвіч: вершы, паэма *Кепска будзе!*, %** | **Ф. Багушэвіч: апавяданні, %** |
|---|---|---|---|
| Функцыі руху | 11,33 | 21,46 | 13,68 |
| Функцыі выпрабавання | 27,15 | 27,85 | 27,35 |

[1] А. Я с к е в і ч, *op. cit.*, с. 143.

[2] У межах дадзенага даследавання ў тэкставы корпус былі ўключаны, з аднаго боку, вершаваныя аповесці і апавяданні В. Дуніна-Марцінкевіча (*Гапон*, *Вечарніцы*, *Купала*, *Літаратарскія клопаты*, *Благаслаўлёная сям'я*, *Славяне ў XIX стагоддзі*, *Шчароўскія дажынкі*, *Люцынка, або Шведы на Літве*, *Травіца брат-сястрыца*, *Быліцы, расказы Навума*, *З-над Іслачы, або Лекі на сон*), з другога – выбраныя вершы наратыўнага тыпу Ф. Багушэвіча (*Як праўды шукаюць*, *У судзе*, *Здарэнне*, *Хрэсьбіны Мацюка*, *Падарожныя жыды*, *Хцівец і скарб на святога Яна*, *Гдзе чорт не можа, там бабу пашле*, *У астрозе*, *Быў у чысцы*, *Панская ласка*, *Скацінная апека*, *Балада*, *Не ўсім адна смерць*, *Праўдзівая гісторыя аб замучаным дукаце*), яго паэма *Кепска будзе!* і чатыры вядомыя апавяданні (*Сведка*, *Палясоўшчык*, *Дзядзіна*, *Траляленачка*).

[3] В. П р о п п, *Морфология волшебной сказки*, науч. ред., текстолог. коммент. И. Пешкова, Москва 2001.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Функцыі рэагавання | 23,35 | 17,81 | 11,97 |
| Функцыі паведамлення | 17,13 | 13,47 | 18,80 |
| Функцыі аблічча | 6,43 | 5,94 | 11,11 |
| Функцыі выніку | 14,60 | 13,47 | 17,09 |

З табліцы выразна відаць: пры супастаўленні прадуктыўнасці апавядальных архетыпаў на ўзроўні “верш – проза” найбольш істотныя адхіленні адбываюцца, як мінімум, у дзвюх функцыянальных групах. Рэгулярнасць функцый аблічча ў сюжэтах чатырох празаічных апавяданняў Ф. Багушэвіча павялічваецца амаль удвая ў параўнанні з сюжэтамі вершаваных аповесцяў і апавяданняў В. Дуніна-Марцінкевіча (з 6,43 % да 11,11 %), частотнасць рэагавальных адзінак, наадварот, змяншаецца прыкладна напалову (з 23,35 % да 11,97 %). Але калі браць пад увагу толькі вершаваны эпас, усе функцыянальныя групы, акрамя адной – функцый руху, размеркаваны ў г. зв. “марцінкевічаўскай” і “багушэвічаўскай” калонках прыкладна аднолькава. Адзінае значнае статыстычнае разыходжанне пры адлюстраванні прасторавага руху персанажаў у сюжэтах вершаваных твораў можна патлумачыць імкненнем В. Дуніна-Марцінкевіча да максімальнай сабранасці падзей і эпізодаў у адзін вузел, звязаным з вопытам працы аўтара ў драматургічных жанрах. Ф. Багушэвіч жа адносна часта будуе сюжэты сваіх эпічных вершаў на падставе падарожных здарэнняў (*Як праўды шукаюць*, *Здарэнне*, *Быў у чысцы*, *Панская ласка*, *Скацінная апека*) ці ў выглядзе апісанняў міжсветавых перамяшчэнняў (*Хцівец і скарб на святога Яна*, *Гдзе чорт не можа, там бабу пашле*, *Балада*, *Не ўсім адна смерць*).

Але істотным тут варта лічыць іншае. На ядро сюжэтнай канструкцыі твора пачынае аказваць уздзеянне апавядальная інстанцыя. І заўважаецца такое ўздзеянне найперш у свядомым узбуйненні семантычнага поля героя. У эстэтычных умовах такога ўзбуйнення персанажная функцыя становіцца здольнай павялічваць унутраны сэнсавы аб’ём – змяшчаць у сабе патрэбную апавядальніку колькасць новай дадатковай інфармацыі.

Супаставім, напрыклад, інфармацыйную “ёмістасць” варыянтаў рэалізацыі геройнай функцыі ростані ў тэкстах В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча. Сутнасць яе, нагадаем, заключаецца ў тым, што герой самастойна ці пад прымусам адлучаецца на пэўны час з месца падзей. Параўнаем два кароткія ўрыўкі з тэкстаў: адзін – з першай *Вечарніцы* (*Дурны Зміцер, хоць хітры*) В. Дуніна-Марцінкевіча, другі – з апавядання Ф. Багушэвіча *Тралялёначка*.

1. [Пасля таго, як Зміцер не прызнаў ва ўласным пеўніку зайца] “Тут пан галавою крыху пакачаў, / Плюнуў, *завярнуўся*, ад Змітра *адстаў*”[1];

[1] В. Дунін-Марцінкевіч, *Збор твораў у 2 тамах*, т. 1: *Драматычныя творы, вершаваныя аповесці і апавяданні*, Мінск 2007, с. 423.

2. [Пасля таго, як Бартак Сасок пасварыўся з жонкай] “Пазлаваліся, расплюваліся, так як хто зімным перакінуў, і *разышліся*”[1].

У першым з прыведзеных прыкладаў факт развядзення персанажаў у прасторы паказваецца і карэктуецца аўтарам з некалькіх бакоў: па-першае, мы можам выразна ўявіць вектар перамяшчэння кожнай з дзейных асобаў па тапічнай гарызанталі; па-другое, навідавоку эмацыйна-псіхалагічны стан паразы і расчаравання аднаго з герояў (“галавою крыху пакачаў, плюнуў, завярнуўся”); па-трэцяе, называецца непасрэдны ініцыятар развітання персанажаў (пан); і, нарэшце, з дапамогай моўных сродкаў выражэння падзеі ростані (“ад Змітра адстаў”) у сюжэце прагназуецца тое, за якім героем, актыўным ці пасіўным, – перспектыўнае развіццё аповеду. Разам усё гэта сведчыць пра досыць багатае інфармацыйнае напаўненне функцыі ростані ў першым прыкладзе.

У другой з прыведзеных цытат адносна галоўнай падзеі можна толькі меркаваць аб найвышэйшай ступені эмацыйнага накалу сваркі паміж мужам і жонкай (“Пазлаваліся, расплюваліся, так як хто зімным перакінуў”), чым дэтэрмінавана развядзенне персанажаў у прасторы, і гіпатэтычна – аб характары такога развядзення (“разышліся”, г. зн. скіраваліся ў розныя, супрацьлеглыя, бакі). Аднак інфармацыйнае “ўкладанне” функцыі тым фактычна і завяршаецца. Ф. Багушэвіч не імкнецца надзяліць яе павышанай сэнсавай нагрузкай, так як – мы ўпэўніліся – робіць гэта В. Дунін-Марцінкевіч.

Вось яшчэ для параўнання два паказальныя прыклады функцыянальнай рэалізацыі расстання – з той жа марцінкевічаўскай *Вечарніцы* і з апавядання Ф. Багушэвіча *Сведка*:

1. [Зміцер, прадаўшы цялушку, пакідае кірмаш] “А пакуль, маўляў, дахаты сабраўся, / Ён на дарогу *селядца* купіў, / Туды ж у кішэню, гдзе грошы, ўлажыў”[2];

2. [Сведка пазычае касу] “Мы сабе аб тым ды аб сім, а пасля таго я пайшоў дахаты вячэраць. Як дзісь помню, еў *зацірку з малаком*”[3].

Два ўрыўкі аб’ядноўвае тое, што рух персанажаў у прасторы суправаджаецца блізкападобнай мастацкай дэталлю: і ў адным, і ў другім выпадках называецца страва, якая выступае абавязковым атрыбутам акта ростані. Скіруем увагу на спецыфіку і невыпадковасць выкарыстання нязвыклай і вонкава, здавалася б, нематываванай мастацкай дэталі ў сюжэтах двух аўтараў. У В. Дуніна-Марцінкевіча селядзец з’яўляецца важным сюжэтным “штрыхом” твора, які спрычыняецца да далейшага разгортвання фабулы: да мокрай рыбіны неспадзявана прыліпне выручаная за цялушку грашовая паперка, якой ненаўмысна “папалудную” галоўны герой. Мастацкі атрыбут утрымлівае на сабе павышаны аб’ём сюжэтна-фабульнай нагрузкі, які дазваляе ініцыяваць

[1] Ф. Багушэвіч, *op. cit.*, с. 117.
[2] В. Дунін-Марцінкевіч, *op. cit.*, с. 418.
[3] Ф. Багушэвіч, *op. cit.*, с. 119.

наступны ход падзей. Ф. Багушэвіч таксама згадвае сваю страву – зацірку з малаком, але не ўкладае ў яе ніякага дадатковага сэнсавага пасылу для руху фабулы. Яго атрыбут – пусты, у ім зведзены да мінімуму альбо наогул адсутнічае фактар г. зв. перспектыўнай сюжэтнай рэалізацыі. У адным выпадку страва – і сапраўды мастацкая дэталь, у другім – звычайная падрабязнасць, якая не мае магчымасці развіцца ў падзею і зрушыць наперад мастацкую сітуацыю. Але патрэбна такая "аздоба" аўтару найперш дзеля арганізацыі суб'ектнай сітуацыі апавядання, задуманага такім чынам, што ў персанажным дыскурсе істотныя звесткі-сведчанні, неабходныя суддзям для пацвярджэння (ці абвяржэння) факта злачынства ("Дык чаму ж я не знаю? Усё знаю"[1]), апускаюцца з аповеду, а значнае месца ў маўленні "сведкі" неапраўдана для суда займаюць лішнія падрабязнасці і ўдакладненні – такія як малочная зацірка.

Чым жа ў гістарычнай перспектыве паўстануць перад намі гэтае і падобныя сюжэтныя рашэнні аўтара?

Вядома, што з надыходам "эпохі прозы" (Вадзім Кожынаў) у суб'ектнай сферы літаратурнага твора адбываюцца заўважныя зрухі, істотна дэфармуецца тып узаемадачыненняў паміж статусам героя і пазіцыяй аўтара-апавядальніка. Пры разыгрыванні фабулы ў аповед наратарам суб'ектыўна адбіраюцца толькі тыя персанажы і персанажныя ўчынкі-рэакцыі, якія валодаюць у яго гісторыі найвышэйшай рэлевантнасцю. Менавіта ў яго, наратара, інтэрпрэтацыі якасна (і колькасна) мадыфікуецца ўнутранае напаўненне здзейсненых героем аперацый. Свядомасць наратара (а не аўтара) фармуе семантычны аб'ём і патэнцыял сюжэтнай адзінкі, тым самым агаляючы ці маскіруючы мастацкую сітуацыю-падзею. Выклад гісторыі персаналізуецца таксама з дапамогай шматразовай змены часавых планаў расказвання, наўмыснай імплікацыі элементаў прычынна-выніковага парадку і, канечне, найбольш наглядна – праз маўленчыя паводзіны апавядальніка.

У гэтай сувязі нельга не заўважыць, што ў вершаваных аповесцях і апавяданнях В. Дуніна-Марцінкевіча контуры чужога маўлення, хоць маркіравана яно яшчэ слаба, выразна акрэслены. У агульным наратыўным дыскурсе маўленне апавядальніка (дзеда Ананіі з *Вечарніц*, Навума са *Злой жонкі*, старшыні з *Халімона на каранацыі*, Халімона Наклікі з *Купалы*) і геройныя рэплікі паўстаюць пераважна ў звыклай форме даслоўна ўзноўленых першасным наратарам выказванняў. Блізкападобную сітуацыю назіраем і ў апавяданнях *Сведка*, *Палясоўшчык* і *Дзядзіна*, якія лічацца плёнам ранняга перыяду творчасці Ф. Багушэвіча. Тут цытатныя ўкрапіны геройных "галасоў" усё яшчэ адмежаваны ў дыскурсе апавядальніка граматычна – узяты ў двукоссе. А вось у выдадзенай асобным выданнем ананімнай *Траляльёначцы*, наадварот, дыстанцыя паміж наратарам і яго героем значна скарачаецца. Актыўна

[1] *Ibidem*, с. 119.

карыстаючыся ўскоснай і няўласна-простай мовай, наратар імкнецца некаторым чынам размыць абрысы не-свайго слова. Больш за тое, персанаж-апавядальнік часам і перадае падзеі не так, як мог бы ўспрымаць іх сам, а ўзнаўляе бачанне гэтых падзей з суб'ектыўнай пазіцыі іншых персанажаў.

Прывядзём некалькі характэрных прыкладаў свядомай інтэрферэнцыі апавядальных дыскурсаў з *Тралялёначкі*. Вось першы сказ, з якога пачынаецца твор:

"Вёска нашая, невялікая вёсачка, меж прыгоркамі, пры балотцы; на выган пясочак з прыгоркаў спёрла, тут і лес блізюсенька, лес хоць і чужы, але выгода ёсць"[1].

З відавочнай акцэнтаванай суб'ектыўнасцю апавядальнікам адлюстраваны не проста сельскі краявід – у даліне ("меж прыгоркамі"), нібыта схаваўшыся ад людскіх вачэй, пры балотцы за лесам размясцілася маленькая вёсачка. Перад намі малюнак выключнага сялянскага "шчасця": балота і лес заўсёды з'яўляліся невычэрпнай крыніцай неабходнага ў хатняй гаспадарцы матэрыялу, грыбоў і ягад, а пясчаны (не балоцісты) выган пры вёсцы можна лічыць сапраўднай раскошай для селяніна. Падобны "відарыс", бясспрэчна, мог бы належаць толькі свядомасці гаспадарлівага жыхара неназванай вёскі. Фраза "але выгода ёсць" у найбольш моцным канцавым становішчы сведчыць пра тое, што гэты лес, гэтае балотца, гэты выган – складнікі дабрабыту такога гаспадара і яго каштоўнасныя арыенціры, якія, не даводзіцца сумнявацца, падзяляе апавядальнік.

Аднак з часавай пазіцыі акта расказвання (цяпер) наратар нечакана пераносіцца ў пазіцыю моманту дзеяння (калісьці). Аповед пра сённяшнія "выгоды" згаданай вёскі раптоўна абрываецца, і на кантрасце з падкрэсленым дабрабытам пачынаецца выбудоўванне некаторай мастацкай сітуацыі:

"На канцы вёскі Бартак Сасок жыў. Цяжкі быў чалавек Сасок: за сваю шкоду, хоць з прыпадку зробленую, нікому не даруе, хоць залатоўку возьме, а сам, бывала, уночы конна сядзе і пайшоў чужыя межы спасываць; каменне з свайго поля дык усё, бывала, цягае на чужое… Эй, нядобры быў чалавек: як пазыча суседу рубель, то яму трэба дзень араць, дзень касіць, дзень жаць, кожны дзень па грошу працэнту аддаць, а рубель рублём. Пазыча табе бульбы на насенне – то ўжо сей напалавіну і насенне насеннем аддай – і ўсё гэтак! Купе, бывала, у скарбовым лесе крадзеную калоду, такую, што парай коні як зрушыць, а сам па яе не паедзе – суседаў пашле: удасца – добра, а зловяць – яны прапалі! От які быў Бартак!"[2].

Абазначаная пачатковая расстаноўка сіл ёсць не што іншае, як эпічна распрацаваны казкавы зачын навэлістычнага тыпу "Жылі-былі

[1] *Ibidem*, с. 114.
[2] *Ibidem*.

два браты, адзін з іх быў бедны, а другі – багаты", у якім заўважальны сказавы тон адлюстраванага ў тэксце персанажа-апавядальніка. У багатым браце з лёгкасцю пазна́ем скупога і хітрага Бартка Саска, а вось за фігурай беднага брата паўстае даволі цікавы зборны персанаж – "мы".

Ракурс бачання і ўспрыняцця рэчаіснасці такім калектыўным "бедным братам" вызначае і ўвесь працэс нарацыі. Так, напрыклад, "цяжкасць" ("Цяжкі быў чалавек Сасок") і "нядобрасць" ("Эй, нядобры быў чалавек") галоўнага героя вымяраецца яго жорсткасцю выключна ў дачыненні да "суседаў", адзін з якіх выпадкова ўбіўся з канём ў Сасковы палеткі, другі абяцаў вярнуць ці адпрацаваць пазычаныя грошы, трэці вымушана браў у суддзі бульбу на насенне, чацвёрты вывозіў для яго з лесу крадзеную калоду. Адбор і размяшчэнне шараговых падзей і здарэнняў з бязлітасным Барткам ажыццяўляецца з канкрэтнай – па сутнасці, "бядняцкай" – наратыўнай перспектывы: пазіцыя бачання, якую выяўляе наратар, належыць усёй вясковай грамадзе, сярод якой усё ж можна ўгледзець і самога персанажа-апавядальніка ("пазыча *суседу* рубель", але "пазыча *табе* бульбы на насенне"). Суб'ектыўны аповед пра Бартка Саска, прымеркаваны да моманту перажывання вяскоўцамі незаслужаных крыўды і нястачы, спыняецца інтраспекцыяй наратара ў "калектыўную" свядомасць яго абачлівага адзіна-множнага героя: "Бывала, шапкі здымаем прад ім, як прад панам, бо ў яго і пісар і старшыня – прыяцелі, з акцызнікам у мястэчку, як з кумам вітаецца, *дык як жа тут шапкі не зняць*? *А можа*, думалі, *і ён старшынёй* [так у аўтара. – *Н. Ч.*] *будзе*?.."[1]. У дадзены момант наратар нібыта больш не кіруе працэсам нарацыі, ён быццам перадае свае функцыі і голас калектыўна-масаваму герою, сам герой пераўвасабляецца ў апавядальніка. Але насамрэч такім наратыўным акцэнтам, выражаным праз няўласна-простую мову, аўтар напружвае падзейны рад, падрыхтоўвае чытача да наступных важных падзей, пра якія персанаж з абмежаванай часавай перспектывай цяпер можа толькі здагадвацца. І так у *Тралялёначцы* выяўляецца мастацкі прынцып узаемнай дапаўняльнасці наратыўных інстанцый: вядучую ролю ў працэсе нарацыі адыгрывае светапогляд апавядальніка, максімальна набліжаны да светапогляду яго калектыўнага героя.

Аповед неўзабаве ненадоўга вяртаецца з расказанага часу ў час расказвання ("Даўно, праўда, усё гэта было, але было!"), наратар здзяйсняе выбар чарговага значнага элемента яго гісторыі – падзеі пераўвасаблення "хама" ў пана. І акцэнтуе з'яўленне ў сюжэце яшчэ аднаго героя – Прыбалдова. Пры гэтым ён свядома абмяжоўвае сваю назіральную пазіцыю роляй пераказчыка мясцовых плётак, усе адабраныя і злучаныя ў адзін шэраг звесткі пра героя перададзены цяпер як чужыя з мадальнасцю недаверу і няўпэўненасці: "Гадоў таму з пятнасце наш Бартак апрануў ужо чорны сурдут, стаў часта ўлегцы ў Вільню ездзіць,

[1] *Ibidem*.

*казалі*, у банку інтарэсы мае, а і да Замораўкі *чагось*, бывала, наварачуе. Ад нас да Замораўкі недалёка, але туды ніхто не ўчашчае: там пан надта дзікі *якісь* быў, Прыбалдоў *зваўся*; *сам казаў,* што ён ганарал, але мундзеру таго, каб які там быў у яго ганаральскі, бліскучы – *таго ніхто не відзеў*, хоць крычаў па-ганаральску і біўся”[1]. Праз простае сумяшчэнне фактаў чыёйсьці свядомасці, нібыта пакінутых у статусе нявызначанасці ў дачыненні да будучай гісторыі, пракладваецца агульная для наратара і яго персанажа сэнсавая лінія. Узнікае адпаведная мастацкая сітуацыя: вяскоўцам невядома, *з якой мэтай* сельскі суддзя так часта стаў наведваць банк, *чаго* кожны раз збочваў ён з дарогі ў Замораўку, *што* патрэбна было Саску ў месцы, якое не асабліва вабіла іншых, і, нарэшце, *ці быў* без бліскучага мундзіра Прыбалдоў сапраўдным генералам.

Марфалагічна ўвесь эпізод прачытваецца як пачатковая нястача, якую імкнецца зліквідаваць “багаты брат”. Праўда, набыццё Барткам Саском права на валоданне генеральскім палацам-маёнткам памылкова можа прачытвацца як складаная задача. Казкавая царэўна часам патрабуе за адну ноч узвесці высокі палац, які і пабудуе пратаганіст з дапамогай памагатага ці чарадзейнага сродку. Сапраўды, кіруючыся крытэрыем вызначэння геройнай функцыі па яе наступствах[2], мы можам кваліфікаваць дзеянні Бартка як выкананне задачы, якая выклікае адпраўку героя з дому, доўгія пошукі і сустрэчу з варожым дарыльнікам. Аднак у сюжэце *Тралялёначкі* марфалагічна набыццё Замораўкі ўяўляе іншы элемент – ліквідацыю нястачы. Для поўнага прызнання за пана пераапранутаму ў чорны сурдут Бартку, у якога ўжо “і пісар і старшыня – прыяцелі”, не хапае аднаго – родавай сядзібы. Але дзеля таго, каб зрушыць сітуацыю з месца, герой казкі павінен быў бы найперш нястачу ўсвядоміць. Падзея, калі адпраўнік ці сам герой раптам разумее, што яму вельмі хочацца мець нешта, ірэлевантная ў сюжэце *Тралялёначкі*, яна не адабрана наратарам для выкладу яго гісторыі. Увагу на Барткаў істотны “недахоп” гіпатэтычна магла звярнуць толькі жонка: “Бартчыха была гумарыстая і не надта каб мужа дбала, а ўсё больш сваім розумам жыла. Бадай, ці не яна і пілавала Бартку, каб маёнтак купіў? А купіў ён яго і на сябе і на жонку разам”[3]. У такім разе Бартчыху і варта лічыць архетыпным персанажам-адпраўнікам кшталту царэўны ці злоснай мачахі. У казкавым сюжэце якраз праз падобны момант пасярэдніцтва ў дзеянне ўступаў бы герой, і менавіта адсюль і развіваўся б увесь канфлікт твора. У сюжэце ж *Тралялёначкі* пра магчымую наўмысную адсылку героя (у рацыяналізаванай форме рэгулярнага сямейнага “пілавання”) апавядальнік мімаходзь згадае нашмат пазней – у той час, пакуль сварацца Бартак з Бартчыхай. Ды і згадае

---

[1] *Ibidem*.
[2] В.Я. Пропп, *op. cit.*, с. 62.
[3] Ф. Багушэвіч, *op. cit.*, с. 117.

досыць неардынарна – з недаверліва-пытальнай інтанацыяй: ці варта наогул верыць такой пагалосцы ("але, можа, то і брэшуць?")?

Сцэна сельскага сходу, на якім нечакана становіцца вядомым факт куплі-продажу маёнтка пана Прыбалдова, таксама вельмі паказальная ў наратыўных адносінах. Прывядзём яе цалкам:

"Раз увосень на сельскім сходзе хацелі мы Бартку выбраць у сотнікі і кажым: ён багаты, сын падрос і парабка можа наняць, дык яму латвей і службу адбываць; а то вот Янук Сакол, як пабыў сотнікам, дык і гаспадарку звёў, а зямлю таму ж Бартку ў арэнду пусціў! Няхай, кажым, цяпер і Бартак закаштуе чэсці!.. Аж ён нам на гэта: «Ах вы, галадранцы, сякія ды такія, вы гэта мяне ў сотнікі?.. Да я вас і так усіх у халодную пасаджу, як захачу, і па мордзе біць буду; я вам, жабракам (а ён тыкі і парабіў нас жабракамі), – кажа, – не раўня: я сам цяпер пан – ганаральскі маёнтак купіў, – а на вас мне плюнуць, і не маеце права, хамуці, мяне сюды і туды памыкаць! Я вам пакажу!..» Ажно страшна нам зрабілася, і паразаўляліся мы, як дурні: іншы шапку зняў, іншы так кланяўся, а ўсе замаўчалі. Так мы яго і не выбралі, а больш сталі баяцца"[1].

Як бачым, сумесна прынятая пастанова аб выбары Саска ў якасці "сотніка" паказана наратарам, як і павінна б, з назіральнай пазіцыі вясковай грамады і мае адпаведную матывацыю: "кажым: ён багаты, сын падрос і парабка можа наняць, дык яму латвей і службу адбываць"[2]. Заўважым яшчэ, што ўкрапіна ўскоснага персанажнага маўлення ў наратарскім дыскурсе наратарам жа і "апрацавана": асноўным аргументам на карысць рацыянальнасці выбару сялян застаецца магчымасць вядзення старастам уласнай гаспадаркі. Бацьку ў гаспадарчых клопатах можа замяніць сын-падростак, да таго ж, у гарачы час Бартку ёсць чым заплаціць парабкам. Тут мы зноў выразна чуем голас калектыву, які ў пэўнай ступені замяшчае голас наратара. Інакш, наратар падбірае такое слова персанажа, якое адпавядае менавіта яго, наратара, светапогляднай пазіцыі. Папраўдзе прычына абрання Бартка Саска сельскім старастам – у іншым: "Няхай, кажым, цяпер і Бартак закаштуе чэсці!..". Падобнае прынятае сялянамі рашэнне ўяўляе падманную прапанову з мэтай знішчыць героя, прыкладна такую як казкавая "Аддай тое, чаго дома не ведаеш". Вяскоўцы помсліва разлічваюць на тое, што, прагнучы паспытаць "чэсці", Бартак Сасок неўзабаве абавязкова збяднее, як і папярэдні староста Янук Сакол, звёўшы за грамадскімі абавязкамі ўсю сваю багатую гаспадарку. І такую прапанову згодна з казкавым сюжэтным эталонам герой павінен, зразумела, прыняць. Але Бартак Сасок не паддаецца на хітрую правакацыю, і, каб падкрэсліць яго ўнутраны ўзрушаны стан, наратар афармляе кароткую рэпліку героя ў выглядзе аўтэнтычнага (даслоўна ўзноўленага) выказвання. Выразна

[1] *Ibidem*, с. 115.

[2] Параўн. з Дзёмкавай скаргай у К. Марашэўскага: "А усё як адзін, так адзін. Сына пералом удавіў – не расцець, а парабка не за што наняць" (К. Марашэўскі, *Камедыя* [у:] *Беларуская дакастрычніцкая драматургія*, Мінск 1978, с. 10).

захоўваючы, аднак, у ёй сваю наратарскую прысутнасць, пра што сведчаць відавочныя прыкметы цытацыі персанажнага маўлення ў дыскурсе апавядальніка (“кажа”, “сякія ды такія”), а таксама заключаная ў дужкі ацэначная ўкрапіна-каментар калектыўнага героя (“а ён тыкі і парабіў нас жабракамі”). Вытрымаўшы выпрабаванне меднымі трубамі, Бартак адначасова паведамляе пра набыццё ім генеральскага маёнтка – своеасаблівага аналага казкавага чарадзейнага прадмета, – за які нібыта і “пілавала” яго Бартчыха.

Прыгледзімся і да самога маёнтка. Назва яго – Замораўка – вельмі гаваркая дэталь, якая выдае сапраўдную сутнасць жыцця ў гэтым месцы. Цяпер тут бавяць час не прадстаўнікі радавітай шляхты, а ўбогія заморкі, самаўпэўнена абвешчаныя генераламі, для якіх валоданне багатай некалі сядзібай – пусты атрыбут іх уяўнай “панскасці”. З іншага боку, Замораўка можа прачытвацца і як мясцовасць, што ляжыць “за морам”, менавіта там, дзе звычайна размешчана казкавае трыдзясятае царства. Праўда, у апавяданні Ф. Багушэвіча Замораўка ўсё ж знаходзіцца блізка “ад нас” (“Ад нас да Замораўкі недалёка”), прычым настолькі, што герой можа дабрацца туды пехатой (“Бывала, пехатой пойдзе да яго”). А вось вяртаецца ён адтуль звычайна конна – у панскай брычцы (“а вернецца ў вялікай панскай каламажцы”). Маёнтак куплены Бартакам разам з усёй генеральскай гаспадаркай і дабром, сярод якога, пэўна ж, невыпадкова вылучаны апавядальнікам якраз транспартныя сродкі і ездавыя жывёлы – *вазы*, *карэты* і вялікі, *як конь*, сабака. Як і ў краіне мёртвых, у Замораўцы амаль перасталі сеяць, араць і жаць і пра ўласную гаспадарку дбаюць мала (“мы сеем ужо на зіму, а ён сабе касіць зачынае; мы на зіму аром, а ў яго зажынкі, і ўсё гэтак”), тут можна толькі спажываць – есці, піць і гуляць у карты. Адсюль няцяжка вывесці і сэнс прозвішча замораўскага гаспадара-лайдака, які, нічога не робячы, праводзіў увесь час у вясёлых забавах – ганяў балду. І, канечне, абавязковым атрыбутам іншага царства паўстае сад, па якім штодня з парасончыкам “спанцыруе” Бартчыха. Нягледзячы на прасторавую блізкасць, ніхто з тутэйшых у Замораўку лішні раз без патрэбы не заязджае, а прычынай таму – дзікі характар замораўскага пана. Пасля пераезду сюды і Бартак Сасок неўзабаве пераўвасабляецца ў жахлівага вартаўніка свайго свету: “Бартак стаў стражэйшым панам ад ганарала: дзярэ за шкоды – жыць не можна – а крычыць, а лае, а па полі конна, як праўдзівы ганарал, гарцуе… аж страх!”[1]. І, нарэшце, каб завалодаць жаданым маёнткам, Бартак адважваецца пазычыць Прыбалдову ўсе свае грошы, цэлых семсот рублёў, з несумнеўным веданнем, што той ніяк не зможа выплаціць пазыку, бо не хоча вярнуць і заслужанай сотні Юдку-кавалю. Аддаць жа за Замораўку Бартку трэба нашмат больш, чым ён дагэтуль меў: “у банку тысяч трыццаць, то толькі працэнтаў дзве тысячы шторок

[1] Ф. Багушэвіч, *op. cit.*, с. 116.

трэба было заплаціць, а так людзям ружным тысяч з дваццаць набралася"[1]. І, відаць, у гэтай трансакцыі для прадпрымальнага Бартка Саска асаблівай рызыкі не было, бо хутка ён разлічыцца з крэдыторамі, а "пачакаўшы гадок-другі", займее з Мораўкі ажно "па пяць тысяч на рок даходу". Такая сітуацыя вельмі нагадвае казкавае выкормліванне каня ці арла, які, з'еўшы ў гаспадара ўсю скаціну, неўзабаве перадасць яму прадмет вечнай магутнасці і багацця.

Здабыўшы генеральскую сядзібу, прадпрымальны Бартак ліквідуе тым самым пачатковую нястачу – выходзіць з негатыўнага стану, увасобленага ў яго нізкім статусе. Адбываецца доўгачаканая метамарфоза: сельскі суддзя нарэшце становіцца панам. На гэтым моманце фабула твора магла б і завяршыцца. Аднак фінальная падзея пераезду Саскоў з вёскі ў Зараўку ёсць адначасова ініцыятыўнай сітуацыяй другога сюжэтнага ходу апавядання. Адлюстравана яна па-ранейшаму з пазіцыі сялянскага калектыву, светапогляд наратара абмежаваны "мужыцкімі" рэаліямі і ацэнкамі: "Глядзім мы, калі ўжо Бартак і Бартчыха з тым судавым разам абедаюць, і *навет кухар на стол падаець*, Бартчыха *ў чорнай панскай сукні*! На нашую пахвалёнку *ніхто і не адказаў*"[2], "Да касцёла, бывала, калі *прыляціць чацвёркай*, а яна *ў капялюху бліскучым з жоўтай істужкай і брыжыкамі*, а наверсе, пане, сядзіць птушка, як жывая, *чыста ж жывая сіваваронка* [відаць, маецца на ўвазе краска – пералётная птушка з вельмі яркім зеленавата-блакітным апярэннем. – *Н. Ч.*], толькі што не закаўкае"[3]. У апошнім з прыведзеных прыкладаў заўважаем і адзіны ва ўсім тэксце апелятыўны зварот да эксплiцытнага адрасата ("а наверсе, *пане*, сядзіць птушка…"), пэўна, незнаёмага персанажу-апавядальніку.

Да прыкладу, астатніх дзейных асобаў апавядання наратар ідэнтыфікуе выключна ў прастамоўнай стылістыцы – з дапамогай "вясковых" форм імёнаў (Бартак, Каська, Юдка[4], Янук) і мянушак (Траляля), сацыяльнай ці прафесійнай прыналежнасці (камісар, ганарал, Юдка-каваль), партрэтных дэфектаў (Марціська крывая), а таксама праз сваяцтва з іншымі асобамі (Бартчыха, Траляlёначка, старая арганісціха, кузінятачка). Першую жонку Бартка Саска апавядальнік скрозь называе па-вясковаму Бартчыхай. А вось Бартак, які стараецца прыстасавацца да свайго панскага статусу, у звароце да жонкі, сумяшчаючы

---

[1] *Ibidem*, с. 115–116.
[2] *Ibidem*, с. 116.
[3] *Ibidem*.
[4] Намінацыя "Юдка-каваль" не зусім дакладна перададзена ў цытаваным намі выданні. У тэксце арыгінала імя сустракаецца двойчы: першы раз апавядальнік толькі знаёміць адрасата свайго аповеду з персанажам "Юдкам", паведамляючы пра яго дадатковыя звесткі – "каваль" ["Kazaŭ i nasz Judka – kawal, szto i jamu 100 r. winien, a płacić niachocze…" (*Tralalonaczka*, Kraków 1892, с. 4)], паўторнай жа намінацыяй наратар ужо ідэнтыфікуе Юдку для адрасата ["Judka kawal horka płakaŭ, bo sto rublej prapali…" (*Ibidem*, с. 6)].

жывую сялянскую і зымітаваную панскую манеры, кліча яе “Ваша, пані Каська”, што ў кантэксце ўсёй фразы (“Вот не шкодзіла б, каб Ваша, пані Каська, сярпок узяўшы, ды па загончыку прайшлася, замейце таго, што дарма па садзе дрыптаеш…”[1]) гучыць досыць іранічна. Матываванае сялянскім успрыняццем імя Тралялёначкі, вынесенае аўтарам і ў загаловак апавядання, сустракаецца ва ўсім тэксце ўсяго двойчы – абрамляючы апошняе выказванне: “Тралялёначку ж тую бедную мы, злажыўшыся з душы па дзесяць грошы, аддалі, як сваё дзіця, да Марціські крывой <…> і расце паненачка, так гадкоў ужо, мусі, з дзесятак мае; а такая васолая ды смяхотная, якраз жэ Тралялёначка!”[2]. У пачатку фразы нібыта ўзніклая самаадвольна ў свядомасці калектыўнага персанажа мянушка пакінутага маці-Тралялёй безыменнага немаўляці, па сутнасці, яшчэ не нясе ў сабе ніякай ацэначнай канатацыі. Яна канцэптуалізуецца з дапамогай дадатковых ацэнак аб’екта (“бедную”, “як сваё дзіця”). Фінальная ж намінацыя “Тралялёначка”, нават графічна вылучаная ў тэксце, утрымлівае выразнае пацвярджэнне першапачатковай персанажнай намінацыі (“якраз жэ *Тралялёначка*!”). Тралялёначкай дзіця названа не толькі таму, што народжанае яно Тралялёй, а і таму, што расце дзяўчынка такой жа вясёлай і смяшлівай, як маці.

Вернемся, аднак, зноў да застраўскага жыцця Саскоў. У другім сюжэтным ходзе нас таксама чакае сітуацыя, якая абавязкова патрабуе свайго вырашэння: “А жаць як прыйшлося, дык на полі невасола ў Бартку: жыта мала, а жней яшчэ меней; і *не ўрадзіла*, і *жнеі дарагія,* – плацілі і па тры злоты!..”[3]. Перад героем пастаўлена складаная задача нароўні з казкавай – “за адну ноч узараць і засеяць поле, сабраць і змалоць збожжа, спячы з атрыманай мукі хлеб”. Праўда, у істотна рэдукаваным выглядзе. У сюжэце ўпершыню не знойдзем суб’екта задавання такой трансфармаванай задачы для Бартка, бо такім суб’ектам, як гэта ні парадаксальна, з’яўляецца ён сам. А ў наступным, быццам нічым не матываваным, кадры сваркі Бартка з жонкай нечакана мяняецца і наратыўны фокус. Пачынаючы аўтэнтычнай перадачай перанятай Саскамі “панскай” далікатнай гаворкі, сам ход сваркі наратар пачынае пераказваць з пазіцыі вонкавага назірання з відавочнай нейтралізацыяй ацэначнай перспектывы. Толькі заключная сцэна канчатковага разрыву мужа з жонкай, як кульмінацыйная, зноў перададзена даслоўна.

Апавядальніка, якому вядомы не толькі вонкавы, але і ўнутраны змест падзеі, вынік выканання задачы (зжатае жыта) ніяк не цікавіць; гэты элемент не патрабуецца для яго гісторыі. Тут важна канстатаваць іншы вынік, а менавіта – расстанне героя са старой жонкай і ўзяты другі шлюб.

Узнікае пытанне: а дзеля чаго Ф. Багушэвічу наогул спатрэбіўся падобны рэдукаваны іспыт героя? Ці не лагічней было б аўтару проста нейкім чынам “забіць” фанабэрыстую Каську?

[1] Ф. Багушэвіч, *op. cit.*, с. 116.
[2] *Ibidem*, с. 118.
[3] *Ibidem*, с. 116.

Этымалагічна расстанне Бартка з Бартчыхай ёсць метафарычная сустрэча героя са смерцю і яго перанараджэнне: “Бартак чыста перамяніўся, раздалікаціўся: на полі не бывае, зімой у месце гуляе… А раз вярнуўся ўжо і з паненачкай такой харошай, цянклявінькай, шталтам за губарнанку, а называў яе якосьці кузынкай і цалаваў пры людзях”[1]. Невыпадковымі ў гэтых адносінах выступаюць жніво і няўрод як вобразныя інтэрпрэтацыі метафары смерці, а таксама смяшлівы характар новай “Бартчыхі” (Тралялі) як аналогія рэгенерацыі і вяртання да жыцця ў новым статусе. Цяпер Бартак – мужык, узведзены ў статус пана, Бартчыха ж, наадварот, – пані, разжалаваная ў аканомкі (“ахмістрыні”). І мы выдатна ведаем, чым звычайна завяршаецца падобная казкавая гісторыя: пана пакараюць смерцю, а дурань-мужык застанецца ўладарыць.

Возьмем эпізод, у якім асвятляецца ключавая падзея – змаганне Бартка з Бартчыхай у судзе.

“Раз за малым не ўсёй вёсцы *прыпёрлі павесткі* з *акружнога* аб тым, што жонка Бартка *падала скаргу,* што муж выгнаў яе з двора, што з другой жывець, што палавіну яе маёнтка забраў, па пяць тысяч на рок даходу цягне, а ей ні гроша не даець”[2].

Падзея дазнання вяскоўцамі з дасланых “за малым не ўсёй вёсцы” судовых павестак пра смелую спробу былой жонкі сельскага суддзі Бартка Саска заўладаць незаконна прыдбанымі ўласнасцю і прыбыткам мужа сведчыць не толькі пра паведамленне ў акругу аб “бядзе” і “нястачы” гераіні (муж выгнаў з хаты, забраў маёмасць, пакінуў без грошай). Праз узноўлены апавядальнікам псіхалагічны стан “зняважанай” Бартчыхі задаецца ўнутраны (геройны) ракурс бачання падзеі – пададзенай скаргай супрацьстаяць “найвялікшай жыццёвай несправядлівасці”. Фраза пабудавана такім чынам, што чытач мае магчымасць убачыць усю сітуацыю і вачыма той самай Бартчыхі.

У акружным судзе, які павінен вырашыць лёс “палавіны яе маёнтка” (“паловы царства”), пераможцам у спрэчцы за Зamoраўку аказваецца Бартчыха, і перад намі апошні элемент цыклічнай сюжэтнай схемы – вяртанне героя, што традыцыйна суправаджаецца і вяртаннем яго сацыяльнага статусу. Бачым відавочную перамену ў паводзінах і псіхалогіі пакінутага і пакаранага Бартка Саска (“Траляля захварэла і ў тры дні навек заснула, <…> палавіну маёнтка Бартчыха адабрала, а другую прадалі з ліцытацыі за даўгі”[3]), які самотна вяртаецца ў вёску, адмаўляецца ад ранейшай пасады суддзі і – што немалаважна – з гэтага моманту, як сведчыць апавядальнік, пачынае ўсім кланяцца. Новая набытая якасць персанажа акцэнтуецца на фоне былых асаблівасцяў яго жыццёвых паводзін. Аднак не менш цікавым уяўляецца і тое, што

[1] *Ibidem*, с. 117.
[2] *Ibidem*, с. 118.
[3] *Ibidem*.

сам персанаж-апавядальнік – і, магчыма, упершыню ў беларускай літаратуры – таксама адлюстраваны ў развіцці, як дынамічная фігура. У фінале свайго аповеду гэта не той аднавясковец, які некалі палахліва здымаў шапку перад сквапным і хітрым Барткам. У яго голасе заўважаем іншую – спачувальную – інтанацыю ў дачыненні да няшчаснага героя: "Нядоўга, *бедны*, пабыў і тут, бо за штосьць у турму пасадзілі"[1], "Тралялёначку ж тую *бедную* мы, злажыўшыся з душы па дзесяць грошы, аддалі, *як сваё дзіця*, да Марціські крывой на мамкі на рок, а далей не ведалі, што і рабіць з *беднай сіротачкай*, дык ксёндз зыскаўся *літасцівы* – узяў *малую кузянятачку* да старой арганісціхі"[2]. У інтэнцыі персанажа-наратара аўтарам свядома закладзена некаторая этычная дыстанцыя паміж пачатковай светапогляднай пазіцыяй наіўнага "беднага брата" і фінальнай пазіцыяй яго ж, але цяпер – "суседа", чулага да гора бліжняга.

Так, *Тралялёначка* засведчыла, што працэс сюжэтнай "перакадзіроўкі" мастацкага твора ў канцы XIX стагоддзя пачынаецца ў беларускай літаратуры з паступовага пераадолення традыцыі аб'ектывізаванага аповеду і вывядзення на першы план персанальнай апавядальнай сітуацыі. І гэта становіцца істотным фактарам мадыфікацыі семантычнага аб'ёму і напаўнення актуалізаванай сюжэтнай адзінкі. Інстанцыя персанажа-наратара па-ранейшаму ўшчыльняе і напружвае падзейны рад ці, наадварот, разрэджвае яго дэталямі. Яна здольна расстаўляць свае акцэнты ўнутры семантычнага поля героя: зрабіць упор ці, наадварот, маскіраваць прычынна-выніковую сувязь паміж падзеямі, узмацніць ці паслабіць полісемантычнасць таго ці іншага сюжэтнага элемента. Менавіта персанальны наратар з выразнай суб'ектыўнасцю ажыццяўляе адбор патрэбных геройных дзеянняў і ўчынкаў і надае гэтым дзеянням і ўчынкам статус падзеі, успрымаючы іх з вышыні канкрэтнай назіральнай пазіцыі (уласнай ці персанажнай) і матывуючы згодна з адпаведнымі такой пазіцыі каштоўнаснымі маркёрамі.

Усё разам гэта дазваляе заўважыць сур'ёзны зрух у эвалюцыі нацыянальнага сюжэту і істотны рывок беларускай літаратуры на часавым адрэзку ад 50-х да 90-х гадоў XIX стагоддзя. У той час, як В. Дунін-Марцінкевіч у сваіх вершаваных аповесцях і апавяданнях толькі рэгулярна множыць традыцыйны стылізаваны фальклорна-сказавы наратыў, Ф. Багушэвіч на падставе гэтай традыцыі стылізацыі ўсвядомлена стварае цалкам новую паэтыку – паэтыку наратыву празаічнага.

---

[1] *Ibidem.*
[2] *Ibidem.*

*Nadzeya Chukichova*

## The Intrigue of the Action and Intrigue of the Word: *Tral�alonachka* as the Authorial Experiment

A b s t r a c t

This article investigates the process of a purposeful plot code conversion of fiction in Belarusian literature of the second half of the 19th century and the conscious overcoming of the traditional narrative of a folklore tale leading to the creation of essentially new one within the framework of the Belarusian literary process of poetics. In the plot of Tralyalyonochka Bogushevich successfully implements the principle of mutual complementarity of narrative instances, significantly having deformed at the same time the type of the relationship between the status of the hero and position of the author-storyteller. It is proven that a clearly subjective selection by a personal narrator of the necessary actions and acts of the characters may give a certain status of an event to these actions and acts, emphasize or, on the contrary, dim the cause-and-effect relationship between events, strengthen or ease its polysemantism. It is also stated that a subject element and various forms of psychological introspection meant also for Belarusian literature a new possibility of forming a tradition of national narration as a prosaic statement.

**Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091**

**Ганна Гладкова**
Віцебск

# Праблема нацыянальнай самаідэнтыфікацыі асобы ў аповесці Зыгмунта Мілкоўскага *Drugie Boże przykazanie*

Зыгмунт Фартунат Мілкоўскі (1824–1915, псеўд. Teodor Tomasz Jeż) – адзін з самых пладавітых польскіх пісьменнікаў XIX стагоддзя, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху. У сферы аўтарскай увагі знаходзілася гісторыя і сучаснасць, праблемы эмансіпацыі жанчын, паўстанні на землях Польшчы, Літвы, паўднёваславянскіх краін. Як вынікае з польскіх бібліяграфічных крыніц, пісьменніку належыць некалькі дзясяткаў аповесцей, і па агульнай колькасці твораў З. Мілкоўскі саступае толькі Юзафу Ігнацы Крашэўскаму[1].

Адносна аповесці *Другая Божая запаведзь* Караль Эстрэйхер пазначыў у *Польскай бібліяграфіі XIX стагоддзя*, што твор не быў надрукаваны на момант стварэння даведніка[2]. Аповесць выдалі пасля смерці пісьменніка ў Варшаве ў 1930 годзе.

Адзначым, што аўтарская ўвага ў творы звернута на асаблівасці жыцця віленскай шляхты першай трэці XIX стагоддзя. Падзеі адбываюцца на Літве, у ваколіцах Вільні, час акрэслены дастаткова дакладна: пасля смерці імператара Аляксандра I і да моманту паўстання 1830 года. З. Мілкоўскі стварыў яркія характары шляхціцаў; у аповесці дзейнічаюць прадстаўнікі расійскай улады на землях Літвы, таксама раскрыты дачыненні жыдоўскага насельніцтва з мясцовай шляхтай і афіцыйнай уладай.

Пісьменнік лічыў разлад паміж шляхтай і простым людам галоўнай прычынай заняпаду федэрацыі, а згоду – першаснай умовай адраджэння Рэчы Паспалітай. Таму яскравымі фарбамі З. Мілкоўскі маляваў галечу прыгоннага сялянства, эксплуатацыю, распуснасць шляхты і ў той жа час паказваў ідэальны шляхецкі двор, патрыярхальныя сувязі, якія злучаюць заможную і збяднелую шляхту, акцэнтаваў увагу на неабходнасці асветы для маладога пакалення шляхціцаў.

[1] T.T. J e ż, *Wybór dzieł*, Warszawa 1930, s. 4.
[2] *Miłkowski Zygmunt* [w:] *Bibliografia polska XIX stólecia przez K. Estreichera*, Kraków 1876, t. III (L–Q), s. 138.

Галерэя мастацкіх вобразаў віленскай шляхты ў аповесці дастаткова багатая і разнастайная. Паважанымі шляхціцамі выступаюць пан Бальтазар Троцкі – дзейны маршалак, пан Непамуцэн Нушкевіч – эксмаршалак, пані Вічова, жонка суддзі пана Яна Віча, уладальніца маёнтка ў Падарнішках і маці дзвюх дачок, Францішкі і Ружы.

Як вядома, нацыянальная самаідэнтыфікацыя, якая ўяўляе сабой асэнсаванне чалавекам прыналежнасці да той ці іншай нацыянальнай супольнасці, выступае базісам нацыянальнай свядомасці. Самаідэнтыфікацыя праяўляецца на двух узроўнях: на першым выступаюць уяўленні пра самога сябе як часткі пэўнай супольнасці, другі прадстаўляе пэўнае ідэйна-тэарэтычнае абагульненне, канцэпцыю, якою кіруецца асоба. Першы ўзровень фарміруецца дзякуючы нацыянальным традыцыям, звычаям, якія захоўваюцца і перадаюцца ад продкаў нашчадкам, а таксама дзякуючы выхаванню – элементам, якія ляжаць у аснове каштоўнасных арыенціраў чалавека.

Што датычыць пытання нацыянальнай самаідэнтыфікацыі прадстаўнікоў віленскай шляхты, то пісьменнік падкрэслівае, што ёй уласцівая памяць пра продкаў з часоў Ягелона: сямейныя рэліквіі, памятныя рэчы (зброя, посуд, прадметы хатняга ўжытку, абразы, кнігі, дакументы і г. д.) перадаюцца ад бацькоў дзецям (род Вічаў) і беражліва захоўваюцца ў спадчынным маёнтку. Узорнымі шляхецкімі сем’ямі ў аповесці паказаны род Вічаў і род Нушкевічаў. Першасная рыса, якая іх вылучае – вернасць радзіме і служэнне на яе карысць: прадстаўнікі роду ваявалі з татарамі, шведамі, маскалямі, пан Юзаф Віч, дзед Францішкі і Ружы, быў удзельнікам бітвы пад Мацяёвіцамі падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

Апрача разумення ўласнага абавязку перад краінай і агульнадзяржаўнага патрыятызму, прадстаўнікам роду Вічаў уласцівая любоў да “малой” радзімы – Літвы. Гэтае пачуццё з’яўляецца асновай светапогляду герояў, у многім прадвызначае іх жыццё і паводзіны. Напрыклад, дочкі пана Віча, якія атрымалі хатнюю адукацыю, за межы “старашляхецкага літоўскага гнязда” амаль не выязджалі, ні Вільня, ні Гродна не былі знаёмыя паненкам, “вялікім светам” для іх было мястэчка Віленскай губерні Мерач (*Merecz*).

Адзначым, што вернасць традыцыям продкаў уласцівая і іншым прадстаўнікам шляхты: кожны год у адзін і той жа час з нагоды Дня Анёла запрашаюцца суседзі ў той ці іншы маёнтак, ладзіцца прыём гасцей, што становіцца на пэўны перыяд самай значнай падзеяй мясцовага маштабу. Парушэнне спрадвечных традыцый – абраза шляхецкага гонару, што яскрава бачна падчас балю ў доме пана Бальтазара, калі насуперак старадаўнім правілам першы танец адкрыў прадстаўнік расійскай улады, асэсар (засядацель) Н.П. Гільфердзінг замест найбольш паважанага мясцовай шляхтай пана Непамуцэна Нушкевіча і гаспадыні дому пані Троцкай.

Як адзначае вядомы расійскі гісторык і палітолаг К. Гаджыеў, надзвычай важным фактарам захавання нацыянальнай ідэнтычнасці з'яўляецца памяць пра мінулае, бо яна ляжыць у аснове свядомасці чалавека, калектыва, грамадства: "В силу того, что личностная самость человека формируется в процессе социокультурной и политико-культурной социализации, забвение прошлого затрудняет понимание собственной идентификации с соответствующим обществом"[1]. Невыпадкова ў фінале аповесці Н.П. Гільфердзінг з хеўраю ліхадзеяў рабуе маёнткі віленскай шляхты – у доме Вічаў знішчаны ўсе старажытныя спадчынныя рэліквіі, бо вынішчэнне гістарычнай памяці – гэта адзін са спосабаў укаранення ўлады чужынцаў.

Сярод маладога пакалення ў аповесці вылучаны вобраз Пятра Нушкевіча – шляхціца з універсітэцкай адукацыяй, выдатнага стралка, вершніка, прызвычаенага да аскетычнага ладу жыцця. Пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта герой аб'ехаў дамы сваякоў і знаёмых у Кароне Польскай, Беларусі, на Валыні, Падоллі, Украіне. Шляхціц вызначаецца асветніцкімі поглядамі: Пётр марыць стварыць узорную гаспадарку, адкрыць школу і чытальню ў Падарнішках, а фамільныя рэліквіі Вічаў зрабіць даступнымі для ўсеагульнага карыстання.

Клопат пра бацькаўшчыну (Літву) як першасны элемент самасвядомасці вызначае паводзіны героя падчас паўстання: малады Нушкевіч не пакідае родных мясцінаў, не едзе ў Варшаву, як гэта зрабілі некаторыя суседзі, але застаецца чакаць паўстанне "пад роднай страхой". Такая пазіцыя героя выклікае незразуменне шляхты, якая паводзіны Пятра імкнецца апраўдаць нядаўнім вяселлем і каханнем да маладой жонкі, аднак, як вынікае з кантэксту, прычынай такога выбару героя з'яўляецца імкненне быць карысным "малой" радзіме, Літве, на яе тэрыторыі змагацца, перамагчы ці загінуць.

Для Пятра Нушкевіча не існуе прыватнага шчасця без вольнай айчыны. У размове з жонкай ён абгрунтоўвае сваё меркаванне, выкарыстоўваючы вобраз ланцуга, які яднае ўсіх грамадзян. Каханне героем разумеецца як звяно ланцуга, з якім злучаюцца па чарзе іншыя. Адасобленасць, наадварот, трактуецца як эгаізм, а гэтай заганы трэба пазбягаць дзеля агульнай светлай будучыні. Сямейнае шчасце не перашкаджае герою выконваць абавязкі грамадзяніна: "Lecz taki jest los Polaka: albo wyrzec się obowiązków obywatela i oddać cichemu szczęściu, albo wyrzec się cichego szczęścia i oddać obowiązkom. Pośredniej drogi niema"[2]. У сітуацыі выбару паміж прыватным шчасцем і дзяржаўным абавязкам Пётр абірае абавязак. Такую пазіцыю аўтар лаканічна тлумачыць: "Kochał żonę, lecz bardziej, niż żonę, Polskę, a Polska wołała: "Do broni!"[3].

---

[1] К. Г а д ж и е в, *Национальная идентичность: концептуальный аспект*, "Вопросы философии" 2011, №10, с. 3–17.

[2] T.T. J e ż, *Drugie Boże przykazanie: z powstania r. 1831 na Litwie*, Warszawa 1930, s. 88.

[3] *Ibidem*, s. 89.

Як вынікае з тэксту, Пётр Нушкевіч, як аўтарскі ідэал у творы, вылучаецца сярод іншых прадстаўнікоў шляхты абвостраным пачуццём любові як да "малой" айчыны (Літва), так і да былой федэрацыі (Рэч Паспалітая). Натуральна, што, з улікам спецыфікі гістарычных абставін, у аповесці не існуе і не можа існаваць проціпастаўлення "Польша-Літва" як "чужое-сваё", гэтыя паняцці ў свядомасці шляхціца-ліцвіна падпарадкоўваюцца адно аднаму як "агульнае-прыватнае", "Айчына – малая радзіма". Нягледзячы на агульнадзяржаўны патрыятызм, тым не менш, для Пятра Нушкевіча першасна значнай стане абарона менавіта родных мясцін, клопат пра свабоду ліцвінскага краю, які застаецца арганічна злучаным з Польшчай насуперак любым знешнім падзелам з боку іншых дзяржаў.

Патрыятычная пазіцыя Пятра Нушкевіча агучана самім героем падчас выступлення перад аднадумцамі ў Віленскім універсітэце ў студзені 1830 года. Сход студэнцкай моладзі меў на мэце абмеркаванне ліста з Варшавы з заклікам да ліцвінаў падтрымаць паўстанне, быць стойкімі і актыўнымі. Прамова Пятра вызначалася канкрэтнасцю і эмацыянальнасцю, якая дазволіла выступоўцу выкарыстаць трапныя вобразы для перадачы галоўнай думкі: "kwiat młodzieży bawi się pluciem na sufit. A jednakże ci ludzie Polskę kochają. Tylkoby chcieli, ażeby Polska za nich wszystko zrobiła, jak matka, która dzieci za stołem sadza <…> i nosy uciera, a im, ażeby wolno było kaprysić <…>. W ich miłości niema powagi, ale miłość jest. <…> Utop myśl w sercu, a serce oddaj ojczyźnie. Wówczas każda jej rana i ciebie zaboli, i nie będziesz leczenia odkładał z dnia na dzień <…>, i każdą swoją czynność skierujesz ku ratowaniu ojczyzny"[1].

Трапнае параўнанне грамадзян дзяржавы з неразумнымі дзецьмі, якія не могуць усвядоміць адказнасць за лёс маці-айчыны, адносіцца і да характарыстыкі віленскай шляхты, якая не ставілася сур'ёзна да палітычнай сітуацыі ў краіне і больш глядзела на паводзіны суседзяў, чым кіравалася гістарычнай памяццю і ўласным патрыятызмам. Інертнасць, празмерны кансерватызм, першачарговы клопат пра ўласнасць і прэстыж, недальнабачнасць, маруднасць у дзеянні, залішняя ганарлівасць, на думку аўтара, уласцівыя большасці прадстаўнікоў тагачаснага шляхецкага кола грамадства.

Малады Нушкевіч не раз звяртаўся да суседзяў з заклікам рыхтаваць зброю, аднак, на момант пачатку паўстання на Літве шляхта аказалася фактычна непадрыхтаванай да дзеяння. Прычынай бачыцца асаблівасць шляхты, як піша аўтар, узяцца за справу, але ў хуткім часе яе кінуць. Пісьменнік працягвае: "na karę Boską zasłużyliśmy za to, iż zmarnowaliśmy, raz lat 26, drugi raz 18, trzeci raz 18, czwarty raz 16, piąty raz 17. Jeżeli będziemy jeszcze i jeszcze marnowali lata bądźmy pewni, że spadnie na nas kara raz szósty i siódmy i ósmy"[2]. Менавіта з-за памылак, дапушчаных у мінулым, край аказаўся не гатовым да паўстання

[1] *Ibidem*, s. 65–66.
[2] *Ibidem*, s. 109.

1830 года. Пісьменнік адзначыў, што на момант узброенага выступлення Літва не мела ні спецыяльна падрыхтаваных для гэтай справы людзей, ні гатовых адміністрацыйна-вайсковых кадраў, ні зброі.

З. Мілкоўскі назваў паўстанне на Літве штучным, бо натуральнае выступленне, на яго думку, павінна адбывацца без чакання. Дакорам ліцвінам гучалі словы пісьменніка пра дарэмна згубленыя гады, за якія можна было б стварыць уласную адміністрацыю, ваенныя кадры, падрыхтаваць арсеналы і зброю. Такім чынам, адсутнасць належнай падрыхтоўкі стала сур'ёзным пралікам і зрабіла магчымасць перамогі ў такіх умовах нерэальнай. Немалаважнай прычынай маруднасці дзеянняў таксама з'явілася азіранне шляхты на аўтарытэты кн. Адама Чартарыскага, Ёахіма Лялевеля, Юльяна Нямцэвіча, Юзафа Хлапіцкага, бо "Czartoryski nie namawiał do powstania ani Chłopicki, ani Niemcewicz, ani nawet Lelewel"[1], чаканне шляхтай чарговай вайны паміж Францыяй і Расіяй таксама было дарэмным.

Шляхецкі патрыятызм прывёў да шэрагу імправізаваных з'ездаў з мэтай "паразумецца", гэта значыць, вызначыць агульны накірунак дзеянняў. "Паразуменне" ішло марудна. Трапнае апісанне адной з такіх шляхецкіх змоў прыведзена ў аповесці: да маёнтка пана Непамуцэна ў Пшэтаках з'ехалася мясцовая шляхта (дробнапамесная, засцянковая) на "імяніны айчыны". Пад ліпай быў накрыты стол, прыгатаваны боршч, бігас і калдуны, хлеб, соль, гарэлка, вяндліна. Гаспадар дому зачытаў пракламацыю генерала Дэмбіньскага, вяліся размовы пра новыя віды зброі (своеасаблівае спалучэнне пікі і пісталета), пра тактыку будучых сутычак з непрыяцелем. У выніку такога "паразумення" быў абраны кіраўнік паўстанцаў. Нарэшце, шляхта сабралася на прызначаным месцы, і першая справа, якую зрабіў кіраўнік, – склаў спіс удзельнікаў і раздаў ім рангі. Пры гэтым, увесь клопат жанчын зводзіўся да таго, каб выпрасіць у капітана як мага больш пачэсны тытул для сваіх родных. З доляй сумнай іроніі аўтар піша пра "вялікую занятасць" капітана і штаба, якія замест стратэгічных дзеянняў займаліся фармальнымі справамі.

З. Мілкоўскі неаднаразова ў аповесці падкрэсліваў, што адной з галоўных прычын паражэння паўстання на Літве стала адсутнасць адзінства шляхты. Пісьменнік прызнаў праўду і за тымі, хто імкнуўся хутчэй распачаць паўстанне, і за тымі, хто чакаў паразумення "powiatów z powiatami, Litwy z Koroną i Rusią"[2]. Беларускі гісторык Вячаслаў Швед слушна адзначыў сярод прычын паражэння Лістападаўскага паўстання на Літве і Беларусі адсутнасць сувязі паміж павятовымі органамі кіравання, непадрыхтаванасць з боку Віленскага цэнтральнага камітэта, несвоечасовую дапамогу Варшавы, адсутнасць адзінства і паразумення ў кіраўніцтве паўстання. Аднак, на думку гісторыка, "мясцовыя (ліцвінскія) патрыятычныя сілы здолелі арганізаваць партызанскі рух,

[1] *Ibidem*, s. 92.
[2] *Ibidem*, s. 93.

адцягнуць на сябе значныя сілы царскіх войск з мэтаю падтрымкі агульнага паўстання супраць Расіі і аднаўлення уніі незалежнай Літвы (ВКЛ) з Каралеўствам Польскім"[1].

Калі Пётр Нушкевіч называе паўстанне найважнейшай справай жыцця, у яго разуменні існуе непарыўная сувязь узброенага выступлення і ахвяры, якую прыносіць нацыя на Божы алтар. Матыў ахвярнасці пакаранай Польшчы неаднаразова ўзнікае ў творы. Грэх, на думку аўтара, відавочны: перавага прыватных інтарэсаў над дзяржаўнымі для большасці прадстаўнікоў шляхецкага стану. З. Мілкоўскі адкрыта выказаў сваё меркаванне, сцвярджаючы, што "штучнае" паўстанне на Літве, якое ажыццяўлялася звонку, не стала значным, хаця магло такім стаць, "gdyby klasa, na której barkach spoczywa obowiązek myślenia o Polsce, była swój obowiązek <…> spełniła"[2].

Паказальна, што адзінай вылазкай групы паўстанцаў было здабыванне амаль пустога мястэчка Мерач, дзе "трафеем" сталі некалькі п'яных казакаў. Далей атрад рушыў на злучэнне з войскам генерала Дэмбіньскага, а звесткі пра яго ваенныя справы губляюцца. У хуткім часе атрад распадзецца і тыя, хто ацалеў, вернуцца дадому.

Апрача шматлікіх вобразаў ліцвінскай шляхты ў аповесці ёсць прадстаўнік расійскай улады ў Віленскім краі – асэсар Н.П. Гільфердзінг. Этнічная індыферэнтнасць – адна з галоўных характарыстык згаданага вобраза. Гэта чалавек без "каранёў", дзеля карысці ён прысвойвае нямецкае прозвішча, якое перакладаецца як *карысная рэч*, пра сябе ён апавядае наступнае: "Urodziłem się ni tem, ni owem… Było mi potrzeba, zrobiłem się ruski… Byłoby potrzeba, zrobiłbym się Niemcem… Będzie potrzeba, zrobię się Polakiem"[3]. Насамрэч, такая адсутнасць нацыянальнай самаідэнтыфікацыі робіць героя непаражальным. Адзінае яго слабае месца – каханне да жонкі Пятра Нушкевіча. Напрыканцы твора Гільфердзінг сапраўды "робіцца" палякам, набывае ім жа разрабаваны маёнтак удзельніка паўстання Пятра Нушкевіча і яго бацькі, пана Непамуцэна, бавіць час, жорстка здзекуючыся з прыгонных сялянаў, прымае запрашэнні суседзяў на абеды. У віленскай шляхты няма іншага выйсця, як толькі даравацъ Гільфердзінгу рабаўніцтва і забойствы, гвалт і абразы з прычыны, што менавіта ён валодае спісам удзельнікаў паўстання, выкрадзеным са штаба.

У процістаянні шляхты і Гільфердзінга, у дадзеным выпадку, мацнейшым аказваецца апошні. І ўлада яго настолькі моцная, што шляхта вымушана пайсці на падман – клятвапарушэнне падчас следства па справе забойства і гвалту, учыненаму над жонкай Пятра Нушкевіча і яго бацькам. Парушаецца слова праўды, засведчанае перад Богам. Пісьменнік параўнаў гэтую здраду з біблейскім адрачэннем Пятра ад Хрыста.

[1] В. Ш в е д, *Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.)*, Гродна 2001, с. 326.
[2] T.T. J e ż, *Drugie Boże przykazanie…*, s. 109.
[3] *Ibidem*, s. 25.

Алюзія набывае прарочы сэнс: пакутніца-Польшча, дзеці якой выракліся ісціны, не можа быць імі выратавана.

Гісторыя, па-мастацку выкладзеная ў аповесці, адбывалася насамрэч. Як адзначае аўтар, гэты факт не сведчыць пра адсутнасць сумленнасці ў "нашай шляхты", ён даказвае толькі, што маральнасць, у першасным сваім значэнні, якое вынікае з другой Божай запаведзі, была немажлівая ў той памылковай сітуацыі, у якой знаходзіўся край. Адкрыццю праўды перашкаджаў… выкрадзены спіс удзельнікаў паўстання.

Паказальна, што ў аповесці значная ўвага адводзіцца ролі жыдоўскага насельніцтва ў згаданых падзеях і дачыненнях з мясцовай шляхтай. У этнічнай структуры насельніцтва Літвы жыды займалі прыкметнае месца з другой паловы XVI стагоддзя. Вядомы беларускі і польскі этнограф і гісторык Адам Кіркор адзначаў: "Нам, аднак, здаецца, што літоўскія жыды лепшыя, больш высакародныя за ўсіх іншых. Заганы, дурныя якасці выпрацаваліся лёсам і стагоддзямі, але ў літоўскіх жыдоў вы сустрэнеце такія якасці, якіх бы вы дарэмна шукалі ў іншых жыдоў. Адносіны іх да мясцовага насельніцтва шчыльныя, больш шчырыя, чым у іншых краінах. Добрыя, высакародныя рысы характару літоўскіх жыдоў апісвалі самыя славутыя польскія пісьменнікі: Міцкевіч, Крашэўскі, Кажанёўскі і інш. Адметнаю рысаю тутэйшых жыдоў з'яўляецца любоў да радзімы. Месца, дзе ён нарадзіўся, дзе жылі і памерлі яго бацькі, робіцца яму дарагім, запаветным... <...> Мы ведаем многіх жыдоў у розных месцах былой Польшчы і крыўдзіць іх не маем намеру, але такіх жыдоў, як у Літве, мы не ведаем: яны лепшыя, больш сардэчныя і высакародныя за іншых"[1].

У аповесці сустракаюцца два дыяметральна супрацьлеглыя вобразы жыдоў – гэта карчмары Цэзар (мянушка; сапраўднае імя невядомае) і Ізраіль (Srul). Першы – злодзей і махляр, другі – надзейны памочнік Пятра Нушкевіча, чалавек, верны свайму слову. Паказальна, што, нягледзячы на дастаткова доўгае сумеснае жыццё побач з палякамі, ліцвінамі, беларусамі, жыды захавалі сваю нацыянальную адметнасць, што выявілася ў творы не толькі праз этнаграфічныя маркеры жыдоўскай культуры (традыцыйнае адзенне, занятак, маўленне, рысы нацыянальнага характару і інш.), але і праз уласныя выказванні герояў, якія адчуваюць сваю этнічную асобнасць і ў той жа момант падтрымліваюць добрасуседскія сувязі з прадстаўнікамі іншых народнасцей.

Адносна гэтага пытання беларускі гісторык Эмануіл Іофе сцвярджаў: "Нягледзячы на шматвяковае сумеснае жыццё з беларусамі, яўрэі Беларусі захавалі традыцыйны ўклад жыцця, абшчыннае ўладкаванне, уяўляючы сабой у той жа час асобую субкультуру, асаблівы тып асобы"[2]. У размове з маладым Нушкевічам Ізраіль прыводзіць сваё разуменне нацыянальнага характару жыдоўскага і польскага народаў,

[1] *Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье*: Репринтное воспроизведение издания 1882 года, Минск 1993, с.17, 18.

[2] Э. І о ф е, *Яўрэі Беларусі ў другой палове XIX стагоддзя*, "Białoruskie Zeszyty Historyczne – Беларускі гістарычны зборнік" 2005, s. 137–147.

выкарыстоўваючы проціпастаўленне: “my naród lamentujący, a wy walczący”, “nas było mało <…> was, jak piasku w morzu <…> Nasza cała ziemia nie była większa od trockiego powiatu: polska ziemia, ileż to trockich powiatów w sobie mieści!”[1].

Прыгадваючы гісторыю свайго народа, жыд апавядае пану пра лёс Іуды Макавея, які ў старажытнасці ўзначаліў паўстанне жыдоў супраць Анціоха Эпіфана – вынішчальніка іўдзейскай веры. “Mnie się zdaje, że nim Polska do oczyszczenia przystąpi, potrzeba jej Machabeuszów, i takich, co się biją, i takich, co się w męczarniach giną”[2], – так акрэслена меркаванне лейпінскага карчмара пра будучыню краю.

Адзначым, што маўленне герояў таксама служыць ускоснай характарыстыкай іх самасвядомасці. Напоўненыя рускамоўнай лаянкай выказванні Н.П. Гільфердзінга выступаюць кантрастам да прыстойнай, насычанай ветлівымі зваротамі, мовы шляхты. Калі ў дыялогах шляхты пастаянна згадваецца кола патрыятычных ці бытавых тэм, традыцыі айчыны, міфы, гучаць прыказкі, нават лацінамоўныя выразы, то рэплікі расійскага чыноўніка тыповыя, насычаныя русізмамі і вульгарызмамі. Пісьменнік заўважае, што “język nasz” ніколі не запазычыць і не будзе мець такіх агідных “узораў” маўлення, якія ўласцівыя мове-суседцы.

Як бачым, у аповесці З. Мілкоўскага прадстаўлены асноўныя этнічныя групы насельніцтва Літвы адзначанага перыяду: пераважная большасць – гэта мясцовая шляхта рознай ступені заможнасці, якая захоўвае ліцвінскую самасвядомасць з аднаго боку, а з другога – адчувае сябе часткай былой федэрацыі, гэта значыць, усведамляе свой грамадзянскі абавязак перад саюзам абодвух народаў. Другую этнічную групу складае жыдоўскае насельніцтва, шчыльна злучанае з мясцовым грамадствам на працягу некалькіх стагоддзяў, якое, тым не менш, захоўвае этнічную адметнасць, аўтаномнасць, не падпадае пад асіміляцыю. Апрача мясцовага, карэннага насельніцтва па аб’ектыўных прычынах палітычнага характару на землях Літвы знаходзяцца прадстаўнікі расійскай улады. У аповесці яны паказаны абыякавымі да лёсу ліцвінскага краю і яго грамадзян. Новыя пасады імі разглядаюцца як магчымасць разбагацець, атрымаць землі і нерухомасць (Н.П. Гільфердзінг), ці ўвогуле прадаць тут спадчыну сваякоў і хутчэй вярнуцца ў Пецярбург (пляменнік пана Непамуцэна Нушкевіча, саноўнік Расійскай імперыі). Паказальна, што герой менавіта з гэтай групы выракаецца сваіх каранёў і дэманструе крайнюю індыферэнтнасць у пытанні нацыянальнага самавызначэння.

Аповесць З. Мілкоўскага адлюстравала складаны гістарычны час, калі краіна рабіла чарговую спробу аднавіць дзяржаўнасць, і шляхта, як той клас грамадства, на якім ляжала адказнасць за будучыню айчыны,

[1] T.T. J e ż, *Drugie Boże przykazanie…*, s. 95.
[2] *Ibidem.*

разумела сваю ролю ў гэтай палітычнай сітуацыі. Аднак шэраг фатальных знешніх і ўнутраных прычын не дазволіў ажыццявіць задуманае і выкарыстаць шанц на аднаўленне незалежнасці. Верагодна, пісьменнік бачыў у прайграным паўстанні яшчэ і філасофскі сэнс, які раскрываецца з улікам назвы твора і эпіграфа да яго: "Nie będziesz brał imienia Pana Boga twego nadaremnie"[1]. Як бачна, функцыю эпіграфа выконвае вытрымка з дэкалогу – не ўжывай імя Пана Бога дарэмна – другое прыказанне паводле каталіцкай традыцыі. Клятвапарушэнне, з якога пачынаецца аповесць, і якой заканчваецца, становіцца асноўнай сюжэтна-тэматычнай лініяй твора. Аўтар адзначае, што бываюць клятвапарушальнікі двух відаў: адны робяць гэта свядома, даўно забыўшыся на імя Бога, другія становяцца лжэсведкамі мімаволі. Пісьменнік называе такіх "smutni głupcy", якія не ведаюць, што робяць, і выказванне гэтае адрасуецца большасці герояў твора.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што аповесць З. Мілкоўскага *Другая Божая запаведзь* уяўляе сабою своеасаблівы роздум над прыродай чалавека, над сутнасцю паняццяў вернасць, патрыятызм, сумленне, прыватнае шчасце, грамадзянскі абавязак і інш. Пісьменніка непакоілі невыкараняльныя заганы чалавечай натуры: эгаізм і інертнасць, хабарніцтва, п'янства, крывадушнасць. На думку аўтара, толькі адзінкі са шляхты гатовыя былі паставіць інтарэсы дзяржавы вышэй за свае, і гэтая акалічнасць шмат у чым прадвызначыла лёс паўстання на землях Літвы ў 1830–1831 гадах.

*Hanna Hladkova*

**The Problem of National Identity in the Story *The Second God's Commandment* by Milkovsky**

A b s t r a c t

The article deals with the problem of national self-identification of a person that is presented in the story *The Second God's Commandment* by Zygmunt Milkovsky (writing under a pseudonym Teodor Tomasz Jeż), one of the Polish writers of the 19th century. The analysis of the literary context made it possible to highlight peculiarities of national self-consciousness of representatives of different social groups inhabiting Lithuania. Particular attention is paid to the ideological orientation of the work, its figurative system and artistic features.

[1] *Ibidem*, s. 5.

**Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091**

**Ivana Slivková**
Prešov, Slovensko

# Польскія элементы ў *Хвілінцы* Ігара Бабкова

Традыцыя польскага ўплыву на беларускае асяроддзе адносна ўстойлівая і гістарычна належыць да найбольш пашыранага чужога элемента, які ўплывае на культурную ідэнтычнасць беларусаў. У нашым артыкуле звернемся да двух форм польскага ўплыву ў творы Ігара Бабкова *Хвілінка. Тры гісторыі*. У першую чаргу, прапануем падрабязны каментар да верша Баляслава Лесьмяна *Дзяўчына* (Bolesław Leśmian, *Dziewczyna*), які ў тэксце І. Бабкова ўключаны ў чацвёрты раздзел першай часткі кнігі *Партрэт мастака, нябачны ў сутонні*, а пасля прааналізуем другі раздзел з другой часткі кнігі *Паветраны шар*, у якой апісваецца двухмесячнае "палітычнае" навучанне Багдана ў Варшаве, у часе якога той сустрэўся з прафесарам Вайцэхоўскім і маладой актывісткай Агнешкай. Абодва вонкава не звязаныя раздзелы ўтвараюць істотную частку аповеду ў рамане *Хвілінка*, бо, апрача іншага, рэфлексуюць інтэркультурныя сувязі дзвюх краін – з аднаго боку, блізкіх суседак, а з другога – паводле грамадска-палітычных асаблівасцяў глыбока адрозных.

Раман *Хвілінка. Тры гісторыі* І. Бабкова паводле інтэрпрэтацыйнай патэнцыі – надзвычай цікавы твор, які прапануе шматаспектныя магчымасці ўзірання ў тэкст і інтэрпрэтавання яго зместу. Адным з такіх ракурсаў, які на першы погляд можа здавацца меней выразным, у параўнанні, напрыклад, з аналізам часу і прасторы, выступае стэрэатыпізацыя сувязі *свой – чужы.*

Апазіцыя *свой – чужы* ў літаратурнай прасторы вылучана, асабліва ў нацыянальных кантэкстах, якія развіваюцца пад узмоцненым уплывам іншай культуры, гэта тыповая з'ява. Пару *наш* і *не наш* можна з беларускага літаратурнага (і культурнага) кантэксту перанесці і на іншую еўрапейскую прастору (напрыклад, апазіцыя чэшскі vs. славацкі і пад.).

У рэчышчы тэорыі міжкультурнай камунікацыі нацыянальныя стэрэатыпы з'яўляюцца настолькі ўстойлівым складнікам культуры, што іх пазіцыя параўнальная з пазіцыяй вуснай народнай творчасці (што істотна паўплывала на фарміраванне беларускай і славацкай мастацкіх літаратур і літаратурных моў). Нацыянальныя стэрэатыпы, якія могуць быць параўнаны з пазіцыяй гэтак званай народнай міфалогіі, утвараюць пэўны складнік культурнага кантэксту, які прэзентуецца ў напрамку да сябе, гэта значыць, выхоўвае і адукоўвае прадстаўнікоў

уласнай культуры, і адначасова акцэнтуе нацыянальную спецыфіку навонкі, у напрамку да носьбітаў іншых культур, гэта значыць адрознівае, параўноўвае[1]. Аксіялогія выступае важным складнікам чытацкага ўражання, прычым, як двое людзей не зразумеюць ідэнтычным чынам адну метафару, так і ўспрыманне светапоглядных пытанняў таксама будзе адрознівацца ў любым, напрыклад, намі выбраным, тэксце. Сваю ролю ў гэтым іграе не толькі нацыянальная прыналежнасць чытача, але і шматлікія іншыя фактары, такія, напрыклад, як веданне беларускага літаратурнага, а таксама і шырэйшага гістарычнага або грамадскага кантэксту.

Балада *Дзяўчына* Б. Лесьмяна ўпершыню была апублікаваная ў "Літаратурных навінах" ("Wiadomości Literackie") у 1933 г., а пазней увайшла ў паэтычны зборнік *Напой цяністы* (*Napój cienisty)* (1936). Лейтматывам верша выступаюць пошукі праўды і барацьба за мары, якіх можна дасягнуць толькі нястомнай працай. Балада злучае рэальны і нерэальны светы, а яе ідэя заключана ў пазнанні таго, што сэнсам жыцця чалавека з'яўляецца шлях, а не мэта. Дасягнуць мэты – не поспех, а наадварот, – страта, таму што калі няма за што змагацца, наступае дэструкцыя.

З пункту погляду тэматыкі філасофская балада мае вельмі просты сюжэт – дванаццаць братоў вырашаюць разбіць мур, за якім чуюць плач дзяўчыны. Трэба адзначыць, што браты вырашаюць цалкам аддаць сябе нейкай неакрэсленай мэце, якой выступае разбіванне муру. Браты не вытрымліваюць фізічнага напружання і паміраюць. Разбіваць мур працягваюць іх цені, але і яны не здольныя выканаць задуманае і таксама паміраюць. Нарэшце задуманае выконваюць самі молаты, працягваючы бурыць мур і без дапамогі чалавека. Аказваецца, што імкненне іх усіх было марным, таму што за мурам зусім нічога няма.

Твор належыць да сімвалізму і з'яўляецца наратыўнай лірыкай з народна-паэтычнымі элементамі. У яго ідэі заключаны філасофскі аспект, належны да праблем чалавечага існавання. У баладзе актуалізуецца адразу некалькі скіраванняў на філасофію: найбольш выразным успрымаецца далучэнне да афарызму Дэкарта "Cogito, ergo sum" (Думаю – значыць існую), што ў вершы набывае форму „Плача – значыць ёсць!"[2]. Рацыа змяняецца на інтуіцыю – пра знаходжанне дзяўчыны за мурам сведчыць усяго толькі эмацыянальна ўспрыняты гук, не рацыянальны доказ. Заўважаецца таксама сувязь балады з філасофіяй Сёрэна К'еркегора, што менавіта неразважлівасць і няпэўнасць дэтэрмінуюць жыццё чалавека. Інтуіцыя выклікала ў братоў упэўненасць, што менавіта за мурам ляжыць іх мэта. Гэта суадносіцца таксама і з філасофіяй Генры Бергсона, які, акрамя іншага, сфармуляваў думку наконт жыццёвага руху як канчатковай мэты чалавечага імкнення (гэтак

[1] I. S l i v k o v á, *Úvod do interkultúrnej komunikácie*, Prešov 2015, s. 61.
[2] І. Б а б к о ў, *Хвілінка. Тры гісторыі*, Мінск 2013, с. 97.

Мікола Арочка ў сваёй манаграфіі *Беларуская савецкая паэма*, спыніўшы разгляд здабыткаў беларускай паэмы на мяжы 1970–1980-х гадоў, дастаткова абгрунтавана паказваў на шлях гэтага жанру ў наступныя перыяды: "паэма павінна, паводле нашых назіранняў, зусім самастойна прарабіць усё на свой лад, сваімі, уласцівымі толькі ёй сродкамі, з поўным улікам сучаснай жанравай прыроды выпрацаваць, узбагачаючы сябе, мастацкія крытэрыі і сродкі пазнання, сваю меру псіхалагічнага аналізу, лірычнага сінтэзу, драматычнага агалення сутнасці, вартай шырокага эпічнага, філасофскага абагульнення"[1].

Беларускі даследчык па сутнасці прадбачыў, калі не адраджэнне і ўзлёт паэмнага жанру ў новых гістарычных умовах, то яго жыццяздольнасць і патэнцыяльную магчымасць быць і далей запатрабаваным у асяродку творцаў і чытачоў. Паэма канца XX стагоддзя чарговы раз паказала сваю аператыўнасць і жанравую гнуткасць.

Праведзены агляд твораў паэмнага жанру ў дастатковай ступені даказвае, што, як і іншыя жанры, сучасная паэма звяртаецца да разнастайных тэм, да актуальных праблем нашага часу, яна збліжае гісторыю з сучаснасцю, звязвае рэальнасць жыцця з сімволікай, імкнецца да глыбокага і поўнага выяўлення сваіх адносін да свету, раскрывае ў індывідуальным, асабістым тыповае, сацыяльна значнае. Сучаснай паэме ўласціва маштабнасць бачання і мыслення.

Наяўнасць традыцыйнай і авангарднай парадыгмы ў сучаснай беларускай літаратуры даказваюць правамернасць выдзялення для шырокамаштабнага вывучэння жанру паэмы "традыцыйнага" і "авангарднага" тыпаў мыслення.

У літаратуры мяжы стагоддзяў творча ўзаемадзейнічаюць аўтары, якія працуюць у рэчышчы традыцыйнай парадыгмы і якія бяруць за арыенцір мастацкія набыткі ў жанры паэмы паэтаў-класікаў, а таксама літаратары, якія адмаўляюць традыцыйныя спосабы выяўлення і імкнуцца да асаблівага тыпу вобразнасці.

Аналіз твораў беларускіх аўтараў дазволіў канстатаваць, што паэты, якія трымаюцца традыцыйнай парадыгмы, аддаюць перавагу некананічным жанрам: ліра-эпічнай або лірычнай паэме, працягваецца мастацкі пошук і ў жанры драматычнай паэмы.

Згаданыя жанравыя мадыфікацыі бачыцца магчымым аб'яднаць у комплекс, пазначаны як "***класічныя некананічныя***" або "***традыцыйныя жанры паэмы***". Іх характэрнай адзнакай з'яўляецца тое, што іх складковыя элементы ўзаемадзейнічаюць на родавым узроўні, дэманструючы тую ці іншую родавую дамінанту.

Другі комплекс утвараюць ***эксперыментальныя паэмы***. Такія паэмы вылучаюцца тым, што іх складковымі элементамі выступаюць не родавыя, а жанравыя адзнакі, якія, спалучаючыся і ўзаемадзейнічаючы паміж сабой, утвараюць такім чынам своеасаблівую сінтэзаваную форму.

---

[1] М. А р о ч к а, *Беларуская савецкая паэма*, Мінск 1979, с. 331.

У рэчышчы названага комплексу магчыма прапанаваць наступную тыпалогію: паэмы, пабудаваныя на аснове міжжанравага ўнутрылітаратурнага ўзаемадзеяння і паэмы, дзе выяўляецца фальклорна-літаратурнае ўзаемадзеянне.

Корпус твораў беларускіх пісьменнікаў, творчасць якіх суадносіцца з рубяжом стагоддзяў, дакладна засведчыў іх актыўны пошук у рэчышчы класічных некананічных жанраў паэмы. У беларускіх аўтараў застаецца запатрабаванай ***ліра-эпічная паэма*** – жанравая разнавіднасць паэмы, у якой "важныя праблемы рэчаіснасці раскрываюцца адначасова эпічнымі (наяўнасць у творы сюжэта, характараў) і лірычнымі (вобраз лірычнага героя, шматлікія лірычныя адступленні) сродкамі" (Вячаслаў Рагойша). Беларуская ліра-эпічная паэма канца XX стагоддзя аператыўна адгукаецца на ўсе складаныя і драматычныя перыпетыі народнага быцця [Сяргей Грахоўскі, *Балючая памяць*, (1987), Сяргей Законнікаў, *Чорная быль* (1989), Юрка Голуб *Знакі* (1990) і інш.]. У новай прасторы пачатку XXI стагоддзя ліра-эпічная паэма прадстаўлена творамі Генадзя Бураўкіна (паэмы *Узнясенне, Развітанне),* Міколы Мятліцкага (паэма *Апалены золак),* Святланы Куль (паэма *Ян і Мар'яна*) і інш. Творы беларускіх пісьменнікаў Польшчы ў меншай меры "прывязаны" да жанру ліра-эпічнай паэмы, згадануюформу магчыма адзначыць у мастацкім набытку Яна Чыквіна (паэма *Гусак і гусыня).*

Паэмы з дамінантай лірычнай плыні складаюць найбольшую частку твораў класічных некананічных жанраў. Колісь прычыны такой запатрабаванасці жанру лірычнай паэмы М. Арочка бачыў у наступным: "Гэтаму, відавочна, паспрыяў сам час, тая грамадская атмасфера, у якой актывізавалася самаўсведамленне асобы чалавека, яе асабістай прыналежнасці да спраў грамадства, да трывог свету. Надышоў час грамадзянскай лірыкі, яе страснага прамаўлення"[1]. Выказаная пазіцыя не выклікае пярэчання і можа быць прызнаная слушнай і для часу рубяжа стагоддзяў. Аўтары сучасных твораў умела разгортваюць да маштабаў паэмы які-небудзь эпізод або перажыванне, шырока выкарыстоўваюць асацыяцыі, сімволіку, праводзяць складаныя прасторава-часавыя трансфармацыі, алюзіі, разгортваюць разважанні-маналогі, з дапамогай якіх дадзены эпізод або перажыванне прадстаўляецца ў розных ракурсах, выяўляючы новыя грані адносін і асвятляючы ўзнятае кола праблем.

Названыя адзнакі сталі прыкметай такіх узораў лірычнай паэмы канца XX ст., як паэма *Одзіум* (1990) Янкі Сіпакова, *Падарожжа вакол двара* (1991) Васіля Зуёнка, *Белыя ночы* (1996) Алеся Лісіцкага і інш. На этапе пачатку XXI ст. лірычная паэма прадстаўлена ў творчасці Валерыя Максімовіча (*Прага любові,* 2009), Андрэя Гуцава (*Паэма першага позірку*, 2008). Алеся Бадака (*Цень,* 2002), Арцёма Кавалеўскага (*Шлях не дадому,* 2011) і інш.

[1] *Ibidem,* с. 261.

Сярод адносна невялікай колькасці паэм у аўтараў з Польшчы менавіта лірычная паэма ў большай меры аказалася прыдатнай для выяўлення асабіста аўтарскай пазіцыі. У 1983 г. пабачыла свет кніга Алеся Барскага *Блізкасць далёкага*, якая атрымала назву па змешчанай у ёй паэме, якую можна бясспрэчна аднесці да жанру ліра-маналагічнай паэмы. Яна ўяўляе сабой палкі маналог, які выяўляе настрой і пазіцыю чалавека, што ўстрывожаны зменлівым і непрадказальным часам, якога хвалюе і не дае заспакаення асаблівая злучанасць з радзіннаблізкім светам. У паэме *Блізкасць далёкага* за аснову ўзяты не толькі перажываныя пачуцці, але і сама асоба, якая перажывае. Больш за тое, у паэме А. Барскага лірычны герой уяўляе сабой тып, сфарміраваны ў пэўных умовах на пэўнай духоўнай аснове. Такі герой, па азначэнні Людмілы Рублеўскай, надзелены пачуццём адказнасці за захаванне культуры свайго народа, адчувае сваё месіянства, непарыўна звязанае з пакутай, захоўвае рэшткі сакральнага стаўлення да роднага кута[1].

На старонках літаратурнай анталогіі *Беларускія пісьменнікі Польшчы. Другая палова XX ст.* (2000) прадстаўлены яшчэ адзін узор лірычнай паэмы, у якім самой назвай аўтар Міхась Шаховіч падкрэслівае яго пэўную жанравую адрознасць ад іншага напісанага – *Паэма ценяў*. Названы твор і ранейшыя паэмы М. Шаховіча *Святая ноч, Смерць валошкі, Святы лес* выяўляюць характэрныя жанравыя адзнакі лірычнай паэмы: спавядальнасць, эмацыйную напружанасць, энергію пачуцця, імклівае разгортванне лірычнага дзеяння і сцісласць думкі, асацыятыўнасць. Творы М. Шаховіча наўрад ці магчыма абазначыць як адмысловы цыкл, але ў іх можна вылучыць скразны матыў драматычнага разладу чалавека і рэчаіснасці. Але гэты канфлікт не абазначаны абрысамі канкрэтнага часу, ён ахоплівае больш шырокую прастору, пашыраючыся ад асабістага да агульначалавечага.

Лірычныя паэмы М. Шаховіча аб'яднаны і сваім асаблівым настроем. Даследчыкамі неаднаразова ўказвалася на элегічнасць, нязводны смутак у творчасці пісьменнікаў-белавежцаў. Менавіта такі настрой і выяўляюць паэмы М. Шаховіча. Так, у яго *Паэме ценяў* дакладна рэалізуецца матыў пошуку страчанага раю і імкненне вярнуцца да пакінутага[2].

Цікавай праявай жанру лірычнай паэмы ў творчасці пісьменнікаў Польшчы можна лічыць дзве паэмы Зосі Сачко, аб'яднаныя ў зборніку *Паэмы*, выдадзеным у 2000 г. Паэтка не толькі прадэманстравала асаблівы моўны склад сваіх паэм (захаванне падляскай гаворкі вёскі Волька (Vôlka) каля Бельску, у якой нарадзілася З. Сачко), але і выявіла асаблівую форму пабудовы твора з яскрава выяўленай лірычнай плынню. Звяртае на сябе ўвагу факт, што аўтара хвалюе праблема адме-

[1] Л. Рублеўская, *Нацыянальны міф у інтэрпрэтацыі паэтаў Беласточчыны*, "Тэрмапілы" 1998, №1, с. 16.

[2] *Беларускія пісьменнікі Польшчы. Другая палова XX ст.*, Мінск 2000, с. 242.

жавання чалавечай асобы ад рэальнага свету і яе нівеліроўка, якая набывае пагрозлівыя праявы. Для яе паэм *Як жэ мніэ бігушчуй..., Будні* характэрны павышаная суб'ектыўнасць, складаная трансфармацыя рэчаіснасці, фрагментарнасць яе выяўлення, знакавая роля сімволікі.

Згаданыя прыклады твораў беларускамоўных пісьменнікаў Беларусі і Польшчы паказалі не толькі на прадуктыўнасць тэндэнцыі родавага ўзаемадзеяння ў межах паэмнага жанру ў літаратуры мяжы стагоддзяў, але і ўказалі на запатрабаванасць класічных некананічных жанравых мадыфікацый у творцаў розных узростаў і рознай індывідуальна-стылёвай накіраванасці.

У той жа час літаратура канца XX – пачатку XXI ст. дакладна прадэманстравала сваю зарыентаванасць на эксперымент, на пошук, які не абмінуў і творы паэмнага жанру. Вынікам з'яўлення ў беларускай літаратуры эксперыментальных паэм можна назваць карэнныя змены ў самой сферы жанравай сістэмы, а менавіта як працяг працэсу дэкананізацыі жанраў у паэтыцы мастацкай мадальнасці.

Па азначэнні даследчыкаў, у сучаснай сістэме жанраў узаемадзеянне жанравых элементаў ажыццяўляецца ў розных напрамках. Кожны жанр мае ўплыў і з боку родаў, і з боку сумежных жанраў, і з боку жанраў, традыцыйна суадносных з іншымі родамі, і трансфармуецца ў выніку гэтага ўплыву. Гэтаму працэсу падуладны нават традыцыйныя жанры, у якія пры захаванні змястоўнай дамінанты могуць уключацца і элементы іншых жанравых форм.

Працэс міжжанравага ўнутрылітаратурнага ўзаемадзеяння знайшоў выяўленне ў творах паэмнага жанру як маладых аўтараў, якія дэманструюць неаслабную цікавасць да жанравай трансфармацыі, так і ў пісьменнікаў старэйшага пакалення, якіх несумненна прывабіла магчымасць арыгінальнага выяўлення свайго аўтарскага "я".

Жанравыя мадыфікацыі паэмы сталі прыкметнай з'явай у творчасці Рыгора Барадуліна, які і ў паэзіі часта здзіўляў чытачоў сваімі жанрава-фармальнымі эксперыментамі. Паэт часта сам падкрэсліваў жанравую адметнасць сваіх паэм. Так, *Слухаючы мора* аўтар пазначыў як ***хваля-паэма***, указаўшы гэтым самым на адметную інтанацыйна-гукавую інструментоўку твора. Аднак, разглядаючы фармальныя адзнакі твора, можна заўважыць стварэнне паэтам такой своеасаблівай жанравай мадыфікацыі, як ***паэма-эсэ***. У паэме Р. Барадуліна паэтычныя радкі пабудаваны такім чынам, што кожная наступная страфа асэнсоўваецца толькі пасля ўспрыняцця і аналізу папярэдняй. Пры гэтым страфічная будова паэмы дэманструе такую яркую адзнаку твора, як афарыстычнасць. Заяўленая ў пэўнай страфе тэма становіцца нагодай для філасофскага разважання.

Паэма Р. Барадуліна *Самота паламніцтва* носіць аўтарскае жанравае вызначэнне ***лера-паэма***, што, бясспрэчна, паказвае на змястоўную шматзначнасць твора. Частка слова "лера" ў перакладзе з лацінскай мовы абазначае "мець сэнс, глыбокае значэнне, магутную сілу".

Так аўтарам даецца мэтанакіраваная ўстаноўка на знакавае ўспрыманне тых праблемных пытанняў, якія паэт лічыць вартымі неадкладнага асэнсавання: лёс генія, лёс беларускай зямлі з яе мовай, культурай, гісторыяй. Адметнае спалучэнне суб'ектыўнага з гісторыка-канкрэтным і з філасофска-абагульненым дае падставы вылучыць жанравую разнавіднасць твора як ***паэма-эцюд***, дзе аўтар імкнецца максімальна праўдзіва перадаць уласныя пачуцці, уражанні, згадваючы важныя этапы жыцця Францыска Скарыны і гістарычнага шляху беларусаў.

Паэма Р. Барадуліна *Удакладненні да асабовага лістка па ўліку партызанскіх кадраў*, прысвечаная памяці бацькі паэта, засведчыла не толькі магчымасць ваеннай тэмы адкрываць новыя ракурсы ў выяўленні яе праблем, паэма стала прыкладам і адмысловай жанравай формы. Яна нагадвае лісток па ўліку партызанскіх кадраў, куды заносіліся кароткія звесткі пра ўдзельніка партызанскага злучэння. Сухія фразы афіцыйнага дакумента пісьменнік дапаўняе ўласнымі ўспамінамі, згадкамі дэталяў жыцця іх сям'і, яго непасрэдных стасункаў з бацькам, які загінуў напрыканцы вайны. Так канкрэтныя біяграфічныя факты гісторыі жыцця чалавека, які сціпла і непрыкметна выконваў сваю місію салдата-вызваліцеля на вайне, пераўтвараюцца ў гераічную біяграфію народа-змагара. Гучыць у паэме і непрыхаваны сыноўні боль, гучыць боль за ўсіх, хто прайшоў такімі ж ваеннымі дарогамі, гучыць пратэст супраць вайны. Заключная частка паэмы вытрымана ў малітоўным рэчышчы. Гэта маленне не толькі аб супакаенні душы блізкага чалавека, але і пра вечную памяць усім загінулым. Названы элемент абумовіў у паэме дамінанту лірычнай плыні, якая падаецца ў звязку з адзнакамі афіцыйна-дзелавога стылю, навеянага цытаваннем дакумента. Мяркуецца, што перад намі адмысловая сінтэзаваная форма паэмы. Яе мастацкімі адзнакамі можна назваць аўтабіяграфізм, трагедыйнасць зместу, спалучэнне лірычнай і публіцыстычнай плыняў, філасафічнасць.

У беларускіх пісьменнікаў Польшчы эксперыментальныя формы паэмы, на жаль, не знайшлі такога разнастайнага выяўлення. Аднак у творчасці Я. Чыквіна мы дакладна канстатуем прысутнасць арыгінальнай жанравай мадыфікацыі паэмы, варыянт якой увайшоў у паэтычны зборнік *Крэйдавае кола*, што датуецца 2002 г. У паэме *Чорная віла* (1977, 2001) аўтар таксама апрабуе новыя структурныя формы, пашырае паэтычную ўмоўнасць, уздымаецца да філасофскага асэнсавання праблем свайго часу. Каларытна апісаная ў творы вясковая канкрэтыка на вачах пераўтвараецца ў шматзначную алегорыю. Нельга не задумацца над умоўнасцю дзеяння і змястоўнай напоўненасцю выпісаных паэтам алегарычных вобразаў. Праз усе раздзелы паэмы праходзіць думка, якая непасрэдна ў тэксце нідзе не вербалізуецца і не выносіцца ў загаловак, думка аб свабодзе, якая не даецца нікім і ўзнікае толькі пры адчуванні ўласнай знакавасці. Істота слабая, звыклая да падпарадкавання не зможа быць свабоднай ніколі.

Філасофская прырода канфлікту ў творы Я. Чыквіна значна паўплывала на мастацкую форму паэмы. Беручы пад увагу родавыя адзнакі, можна вылучыць у творы наяўнасць эпічных і лірычных элементаў. Паэма мае яўную ўстаноўку на сюжэтнасць. А настраёвы тон твора, скіраванасць на ўнутраную засяроджанасць указваюць на лірычную прыкмету. Сінтэз гэтых элементаў надае паэме новую якасць – маштабнасць мастацкага абагульнення. У той жа час прысутная ў паэме іншасказальна-сімвалічная апавядальная плынь, філасофская глыбіня думкі, абагульненасць сітуацый з'яўляюцца адзнакамі прытчавага пачатку ў паэме Я. Чыквіна. Вылучаныя адзнакі дазваляюць абазначыць жанр паэмы Я. Чыквіна *Чорная віла* як ***філасофская паэма–прытча***.

Паэмы беларускіх аўтараў не ў меншай меры засведчылі прадуктыўнасць яшчэ аднаго ўзаемадзеяння, якое адбываецца ў межах розных мастацкіх сістэм – фальклорнай і літаратурнай. Уплыў народнай творчасці на жанр паэмы адчувальны на розных узроўнях: стылістычным, змястоўным, жанрава-кампазіцыйным, а таксама адбіваецца на этычных і эстэтычных прынцыпах пісьменніка, яго светапоглядных уяўленнях. Творы беларускіх пісьменнікаў канца XX – пачатку XXI ст. часцей прадстаўляюць узор фальклорна-літаратурнага ўзаемадзеяння ў форме адкрытага "цытавання". Аўтары паэм часта звяртаюцца да выкарыстання паэтычных жанраў фальклору: песень, замоў, прыпевак і інш., з ярка выражанай лірычнай афарбоўкай. Так, фальклорная "цытата" дае магчымасць для ўнясення ў кананічную форму паэмы суб'ектыўна-лірычнага пачатку.

Паэмы Р. Барадуліна *Смаргонская акадэмія*, *Аблачына-самабранка* з'яўляюцца ўзорам арыгінальнага камбінавання аўтарскага і фальклорнага матэрыялу, якія арганічна дапаўняюць адзін аднаго. Галоўнае, што ўдаецца пісьменніку, захаваўшы адметнасць жанраў народнай творчасці, іх стылёвыя адзнакі, стварыць свае ўнікальныя паэмныя канструкцыі, у якіх два ўспрыманні свету выступаюць як выяўленне мастацкага цэлага.

Паэмы беларускіх пісьменнікаў Польшчы ў меншай меры закранулі вышэйназваны працэс, аднак не пакідае спадзеў, што тэндэнцыя фальклорна-літаратурнага ўзаемадзеяння ўсё ж зможа стаць фактам творчасці ў маладзейшых прадстаўнікоў беларускамоўнага пісьменства.

Такім чынам, назіранні за жанравай прыродай паэм пісьменнікаў Беларусі і Польшчы сведчаць: творы названага жанру актыўна ўключаны ў працэсы, якія ахопліваюць усю літаратуру канца XX – пачатку XXI ст., а менавіта ў працэс узаемадзеяння літаратурных родаў, відаў і жанраў. Гэтым тлумачыцца наяўнасць у творчасці аўтараў Беларусі і Польшчы адмысловых жанравых мадыфікацый паэмы, якія пацвярджаюць думку не аб знікненні ці крызісе паэмы, а аб трансфармацыі традыцыйнага жанру. Імкненне творцы выкарыстаць жанравыя і родавыя магчымасці літаратуры з'яўляецца характэрнай прыкметай руху паэмы і натуральна прыводзіць да памнажэння патэнцыялу жанру, які

мае ўнікальныя магчымасці развіцця за кошт міжродавых і міжжанравых узаемадзеянняў.

*Svaitlana Tarasava*

**The Nature of Poems in the Works of Belarusian Writers of the Late 20th and Early 21st Centuries (with Examples of Belarusian and Polish Authors)**

A b s t r a c t

The article examines the genre features of poems of Belarusian authors of Poland and Belarus in the mainstream of the main literary trends of the late 20th and early 21st centuries. With the example of various works of Belarusian writers (including Borodulina or Chikvina), the leading trends in the development of the poem genre are noted: the processes of intergenerational and inter-genre interaction as well as characteristic features of the genre modifications of the poem are revealed.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ніна Баршчэўская**
Варшава

# Мова білінгвальнага насельніцтва ў Падляшскім ваяводстве

Падляшскае ваяводства з'яўляецца рэгіёнам, на тэрыторыі якога перакрыжоўваюцца некалькі моў, культур і рэлігій. Гэтая полікультурнасць, з аднаго боку, сведчыць пра духоўнае багацце рэгіёну, а з іншага, – ускладняе нацыянальную самаідэнтыфікацыю.

На гэтай тэрыторыі на працягу многіх стагоддзяў назіралася ўзаемаўздзеянне балцкіх ды заходне- і ўсходнеславянскіх народаў, што аказвала ўплыў не толькі на этнічную структуру рэгіёна, але таксама на культурна-моўную сітуацыю. Засялялася Беласточчына з розных напрамкаў: з поўначы ішлі балты, з усходу – усходнія славяне, а з захаду – мазавецкае насельніцтва. Гэта былі прадстаўнікі розных канфесій і культур. Апрача гэтага, тэрыторыя сённяшняй Беласточчыны шмат разоў мяняла сваю дзяржаўную прыналежнасць. Вось асноўныя прычыны, з-за якіх тэрыторыя польска-ўсходнеславянскага памежжа сёння такая дыферэнцыяваная ў культурным, рэлігійным і моўным планах.

Памежжа непарыўна суадносіцца з моўнымі кантактамі, шматмоўем, полікультурнасцю ды некалькімі рэлігійнымі канфесіямі[1]. Жыхары такой тэрыторыі адкрытыя на суседнюю культуру ды не ўспрымаюць яе як цалкам чужую.

Істотаю памежнага шматмоўя з'яўляецца адсутнасць выразных межаў, іх расплывістасць ды лёгкае пераключэнне з адной мовы на другую. Парадаксальна, але гэта сведчыць не столькі пра шматэтнічнасць і полікультурнасць, колькі пра супольнасць, асноўнаю рысаю якое з'яўляецца тутэйшасць, паходжанне з дадзенай тэрыторыі[2].

Аснову культурнае тоеснасці жыхароў памежжа складае матэрыяльная і духоўная спадчына продкаў. Можна вылучыць некалькі яе ўзроўняў. Першы ўзровень – гэта сямейная тоеснасць, калі чалавек

[1] І. Б у д з ь к о, *Лінгвістычны і сацыялінгвістычны характар беларускага памежжа. Да пастаноўкі праблемы* [у:] *Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej*, red. E. Smułkowa, A. Engelking, Warszawa 2007, s. 259.

[2] J. S t r a c z u k, *Wielojęzyczność pogranicza: od tutejszości do nowej lokalności* [w:] *Tożsamość – Język – Rodzina. Z badań na pograniczu słowiańsko-bałtyckim*, Warszawa 2008, s. 103.

атаясамлівае сябе з сям'ёю: пачынае карыстацца моваю сям'і, засвойваць традыцыі і каштоўнасці, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Вялікую ролю адыгрываюць адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Гэта менавіта сям'я ўплывае на сацыялізацыю дзіцяці. Другі ўзровень – набыццё лакальнае тоеснасці. Адбываецца ідэнтыфікацыя з мясцоваю грамадскасцю. На гэтым узроўні параўноўваюцца каштоўнасці, вынесеныя з роднага дому, з новымі, раней невядомымі, заўважаюцца іншыя асяроддзі. Гэта ўзровень свядомага вызначэння свайго месца ў асяроддзі. Трэці ўзровень – гэта фарміраванне нацыянальнае тоеснасці шляхам пашырэння кантактаў з аднагодкамі і дарослымі з дадзенае нацыянальнае групы. На чацвёртым узроўні чалавек уваходзіць у раздвоеную аўтатоеснасць, авалодвае яе рознымі відамі, такімі як ізаляцыя, этнацэнтрызм (закрыццё ў сваёй нацыянальнай групе), акамадацыя (узаемапрызнанне і талерантнасць), рэарыентацыя (перажыванне супярэчнасцяў паміж каштоўнасцямі адзінкі і групы, да якой належыць)[1].

**Прававая аснова беларускае мовы на Падляшшы**

У Польшчы найбольш носьбітаў беларускае мовы жыве ў Падляшскім ваяводстве – 39898 чалавек з агульнае колькасці карыстальнікаў беларускае мовы 40650 чалавек і пры агульнай колькасці беларусаў у Польшчы – 48737 чалавек (так вынікае з *Нацыянальнага перапісу насельніцтва 2002 года*). Крыху іншыя дадзеныя прынёс *Нацыянальны перапіс насельніцтва 2011 года* – 47 тысяч беларусаў у Польшчы, у тым ліку з першай беларускай ідэнтычнасцю – 37 тысяч, з другой – 10 тысяч; з адзінай беларускай ідэнтычнасцю – 31 тысяча, з беларускай ідэнтычнасцю, якая суіснуе разам з польскаю – 15 тысяч чалавек[2]. Аднак гэты перапіс у вялікай ступені быў праведзены метадам ацэначным, а не на падставе непасрэднага кантакту з рэспандэнтам[3]. Верагоднасць перапісу насельніцтва часта з'яўляецца вынікам нацыянальнае палітыкі дзяржавы ды бягучых грамадскіх абумоўленасцяў, што чарговы раз выразна выявілася падчас двух апошніх перапісаў насельніцтва ў Польшчы[4].

Беларусы на Беласточчыне з'яўляюцца аўтахтонным насельніцтвам, жывуць кампактна і складаюць больш за 20% жыхароў у 12 гмінах (паводле *Нацыянальнага перапісу насельніцтва 2002 года*), або ў 9 (паводле *Нацыянальнага перапісу насельніцтва 2011 года*)[5], што – у ад-

[1] J. N i k i t o r o w i c z, *Pogranicze, tożsamość, edukacja międzykulturowa*, Białystok 1995, s. 67, 90–96.

[2] N. B a r s z c z e w s k a, *Język a świadomość narodowa na Podlasiu* [w:] *Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia*, red. N. Barszczewska, M. Chaustowicz, M. Timoszuk, t. 1, Warszawa 2016, s. 42–43.

[3] M. B a r w i ń s k i, *Struktura narodowościowa Polski w świetle wyników spisu powszechnego z 2011 roku*, „Przegląd Geograficzny” 2014, t. 86, z. 2, s. 220.

[4] *Ibidem*, s. 237.

[5] https://pl.wikipedia.org/wiki/Gminy_w_Polsce_z_j%C4%99zykiem_pomocniczym [dostęp: 12.03.2018].

паведнасці з *Законам аб нацыянальных і этнічных меншасцях ды рэгіянальнай мове ад 6 студзеня 2005 года* дае права ўвесці двухмоўныя назвы населеных пунктаў і карыстацца беларускаю моваю як дапаможнаю ў адміністрацыйных кантактах.

Беларускаю моваю як дапаможнаю можна карыстацца ў 5 гмінах: гарадской гміне Гайнаўка – ад 03.12.2007, ды ў вясковых гмінах: Орля – ад 07.05.2009, Нараўка – ад 16.06.2009, Чыжы – ад 8.02.2010 і Гайнаўка – ад 28.05.2010. У гміне Орля ўведзены таксама беларускія назвы мясцовасцяў – ад 11.01.2011)[1], аднак, як вынікае з выказванняў войтаў, да гэтага часу дапаможная мова функцыянуе толькі ў вусным варыянце.

> U nas jość, što možna zajści i navet padannie pisać, čy što, to možna na biełaruskaj movie i jany nam atkažuć na takoj že samaj. Jašče pakul što nichto nie pisaŭ, a ja dumaju napišu, kali chtoś prydzie da mianie paprosić, to sprabujem. Jany tam dastajuć za heta hrošy, bo viedajecie, dziesiać pracent buolš majuć našyja pracaŭniki s taho tytułu, što jany, kali chto pradstaviŭ takoje paśvietčannie, što končyŭ licej biełaruski, bo tam užo ni treba, kap fiłałohiju zakončyŭ, vyšejšuju adukacyju, ale chopić biełaruski licej i dastaje dadatak. <…> Tak što ŭ nas možna ŭ hminie s kožnym tutaj čynoŭnikam havaryć pa-biełarusku, jon pavinien atkazać pa-biełarusku. (Новае Ляўкова 2013, Ян Цялушэцкі, нар. 1945)

Па-беларуску або на мясцовай гаворцы можна было размаўляць з чыноўнікамі ў падляшскіх гмінах таксама да афіцыйнага ўвядзення беларускае мовы як дапаможнае. Дзякуючы ўмацаванню беларускае мовы як дапаможнае ў юрыдычных актах, можна пазбегнуць выпадкаў, што нехта з чыноўнікаў адмовіцца афармляць справу па-беларуску, а таксама з’яўляюцца магчымасці працаўладкавання людзей, якія валодаюць беларускаю моваю.

> Jeśli chodzit a dvuchmoŭnyja, skažam, tutaj u gmini machčymaści, to jany jest, patamu što Rada Gminy pryniała uchvału pra jazyk dadatkovy, užędovy, biłaruski, i heto ŭže jest zalegalizovane praŭno […]. Nihledzia na toje, čy je, čy nima takaja pastanova Rady Gminy, to i tak, jak pryšoŭ čałaviek, katory havoryt pa-svojemu, jon ni mieŭ prablemoŭ. My z im havaryli, tak jak trebo, patamu što, no balšynstvo pracoŭnikuoŭ, to jany ŭsie ssiul, tak što heta mova ŭže ni jest čužaja. (Нараўка 2013, Мікалай Павільч, войт гміны Нараўка)
>
> My vvieli jezyk biełaruski do užendu, što v užendzie ŭ nas možna havaryć pa-biełarusku i pa-polsku. No tože ja choču skazać, što jak rablu nabar da raboty, to ja pišu, štoby chtoś oryjentavavsia ŭ našom jazykovi. (Махнатэ 2013, Ольга Рыгаровіч, войт гміны Гайнаўка)

Выкарыстанне мовы ў дзяржаўнай адміністрацыі павышае яе прэстыж, што мае істотнае значэнне ў грамадскім жыцці, таму што пры суіснаванні дзвюх моў заўсёды перамагае больш прэстыжная[2]. І з такою з’яваю маем справу на польска-беларускім памежжы, дзе па абодва бакі

---

[1] *Ibidem*. Гл. таксама: N. B a r s z c z e w s k a, *Język białoruski w Polsce – historia i stan obecny*, „Acta Polono-Ruthenica” 2009, t. XIV, s. 339–351.

[2] J. S t r a c z u k, *Język a tożsamość człowieka (w warunkach społecznej wielojęzyczności)*, Warszawa 1999, s. 19.

дзяржаўнае мяжы беларуская мова не карыстаецца належным ёй прэстыжам, не шануецца, не з'яўляецца каштоўнасцю. Гэта прычына выказванняў, што беларуская мова „грубая, непрыемная, сялянская". На Беласточчыне большасць носьбітаў беларускае мовы ўвогуле не задумваецца над яе каштоўнасцю, успрымаючы адно як сродак зносін. Для этнічнае групы яе культура, мова, звычаі так зразумелыя, простыя і натуральныя, што не могуць быць прадметам рэфлексіі[1]. З другога аднак боку, моўная адметнасць дапамагае адрозніць „сваіх" ад „чужых", і таму гэты аспект становіцца падставай фарміравання нацыянальнае ідэнтычнасці.

У Польшчы вядзецца вывучэнне беларускае мовы на розных узроўнях – ад дзіцячых садкоў да вышэйшых навучальных ўстаноў. У школах беларуская мова вывучаецца як дадатковы прадмет. Наогул, з года ў год назіраецца змяншэнне колькасці вучняў, якія паглыбляюць свае веды па беларускай мове. Рэкордная колькасць вучняў занатаваная ў 1967/1968 навучальным годзе – 12504. Згодна з дадзенымі Куратарыі асветы ў Беластоку, у 2015/2016 навучальным годзе беларускую мову вывучалі 3140 вучняў[2]. Больш за 90% настаўнікаў беларускае мовы маюць вышэйшую беларусазнаўчую адукацыю і актыўна ўдзельнічаюць у падрыхтоўцы праграмаў навучання і падручнікаў ды ўплываюць на валоданне беларускаю моваю ў навакольным асяроддзі.

Уплыў на мову асяроддзя на Падляшшы маюць таксама СМІ, у асноўным тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва", двухмоўны польска-беларускі штомесячнік „Czasopis", „Беларускі гістарычны зборнік" – паўгадавік Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы, „Тэрмапілы" – літаратурна-мастацкі гадавік, „Бельські Гостінэць" –культурна-краязнаўчы квартальнік, які выходзіць на мясцовым дыялекце, а таксама электронныя СМІ – Беларускае Радыё Рацыя, Праграма для нацыянальных меншасцяў Радыё Беласток, Беларуская служба Польскага радыё для замежжа ды тэлестанцыі Белсат і Беластоцкае аддзяленне Польскага тэлебачання TVP з тэлепраграмаю Беларускі тыдзень. На беларускай мове вядзецца таксама Інтэрнэт-Бібліятэка „Камунікат" з агромністаю колькасцю публікацый, датычных розных галін беларускага жыцця.

Беларуская літаратурная мова ў Польшчы выкарыстоўваецца падчас розных навуковых сустрэч (канферэнцый, семінараў) ды культурніцкіх мерапрыемстваў.

Нягледзячы на вялікае заангажаванне інтэлігенцыі ды беларускіх дзеячаў на папулярызацыю беларускае мовы ў Польшчы, большасць

---

1 W. P a w l u c z u k, *Białorusini jako grupa etniczna*, „Studia Socjologiczne" 1968, nr 2, s. 37.

2 *Kształcenie mniejszości narodowych. Wykazy szkół prowadzących nauczanie języków mniejszości. Język białoruski* [online], http://www.kuratorium1.home.pl/kuratorium2/jez_mniej/wykazy_2016/bial2006.pdf [dostęp 12.03.2018].

карыстальнікаў лічыць, што яна малапрыгодная ў штодзённым жыцці з увагі на выразнае дамінаванне расійскай мовы ў самой Беларусі.

**Усходнеславянкія гаворкі на Беласточчыне**

На гутарковым узроўні на Беласточчыне ўсходнеславянскія гаворкі лепш захаваліся сярод праваслаўнага насельніцтва, якое моўную адметнасць прызнае важным элементам адметнасці рэлігійнае і этнічнае[1]. Назіраюцца даволі істотныя разыходжанні паміж нацыянальнаю прыналежнасцю жыхароў Падляшскага ваяводства і гаворкаю, якою яны карыстаюцца, бо нацыянальная ідэнтычнасць фарміравалася не на аснове моўнага крытэрыя, а – у асноўным – рэлігійнага, і таму католікі з-пад Саколкі ці Дубровы Беластоцкай, якія ў штодзённым жыцці карыстаюцца беларускаю гаворкаю, лічаць сябе палякамі, а праваслаўныя з-пад Бельска Падляшскага ці Сямяціч – беларусамі, хаця ў іхняй мове многа ўкраінскіх рысаў. Здараецца, што нехта размаўляе па-польску, лічыць сябе беларусам, хоць паходзіць з сям'і, якая карыстаецца ўкраінскаю гаворкаю[2].

На Беласточчыне да важных ідэнтыфікацыйных элементаў трэба таксама залічыць традыцыйнае пачуццё рэгіянальнай прыналежнасці, г. зв. „тутэйшасць", услед за якою родная гаворка акрэсліваецца як „простая мова": "my pa prostu havorym, naša mova m'éšana, n'i polśka, ni b'ełaruśka"[3].

Заходнюю мяжу пашырэння ўсходнеславянскіх гаворак на тэрыторыі Польшчы вызначае ўсходняя мяжа мазурэння (вымаўлення зычных *š*, *ž*, *č*, *ǯ* як *s*, *z*, *s*, *ʒ*). Гутарковая беларуская мова выступае ў паўночна-ўсходняй частцы Беласточчыны. Заходняя мяжа праходзіць ад Аўгустоўскага канала да ракі Бобра пад Штабінам, па Бобры ідзе да вусця Бярозаўкі, адкуль па заходнім баку рэчкі ідзе лясамі на паўднёвы ўсход ад Кнышына да ракі Супрасль каля Васількова, па Супраслі да ракі Нараў, правым берагам якой адступае крыху на ўсход ад ракі паміж Лапамі і Суражам, перасякаючы яе каля вёскі Завыкі. На тэрыторыі паміж Нарваю і Бугам лінія паказвае на заходні абсяг усходнеславянскіх гаворак, праходзіць паміж Бранскам і Бельскам Падляшскім, адкуль меандрамі, крыху на захад ад Сямяціч, даходзіць да ракі Буг[4]. Гаворкі на гэтай тэрыторыі разнародныя: ад акаючых і цекаючых / дзекаючых на поўнач ад ракі Нараў, праз паласу гаворак з украінскімі рысамі да

[1] J. W i ś n i e w s k i, *Zarys dziejów osadnictwa na Białostocczyźnie* [w:] *Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny*, t. I, Warszawa1980, s. 10.

[2] *Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny*, red. S. Glinka, A. Obrębska-Jabłońska, S. Siatkowski, t. 1, Warszawa 1980, s. 10.

[3] E. S m u ł k o w a, *Polsko-białoruski kontakt językowy* [w:] E. S m u ł k o w a, *Białoruś i pogranicza. Studia o języku i społeczeństwie*, Warszawa 2002, s. 380.

[4] E. S m u ł k o w a, *Polsko-białoruski kontakt...*, s. 374. Гл. таксама: S. G l i n k a, *Granica językowa i przykłady zróżnicowania fonetycznego gwar białoruskich Białostocczyzny*, „Sprawozdania z prac naukowych Wydziału Nauk Społecznych PAN" 1969, r. III, z. 5.

украінскіх[1], што вынікае з пасяленчых працэсаў з ваколіцаў Гродна і Ваўкавыска ды Брэста. Гаворкі ваколіцаў Гродна і Ваўкавыска не надта дыферэнцыяваныя – разам ствараюць заходнюю групу паўднёва-заходняга беларускага дыялекту. Таму і на Беласточчыне не назіраецца большых моўных адрозненняў у нашчадкаў гэтых двух пасяленчых напрамкаў. Іх гаворкам характэрнае аканне, яканне, цеканне і дзеканне. Гаворкі на поўдзень ад ракі Нараў, за выключэннем тэрыторыі Белавежскае пушчы, вылучаюцца ўкраінскімі рысамі[2]. І менавіта гэтыя гаворкі на поўдзень ад ракі Нараў выклікаюць найбольшыя дыскусіі сярод польскіх дыялектолагаў. З аднаго боку, яны блізкія брэсцка-пінскім гаворкам, якія належаць да ўкраінскага моўнага генатыпу, але адначасова падлягаюць натуральным беларускім уплывам, выкліканым беларускаю нацыянальнаю свядомасцю жыхароў ды вывучэннем беларускай мовы ў школах рознага ўзроўню на Беласточчыне. Асаблівую дыскусію выклікае вызначэнне мяжы паміж беларускімі і ўкраінскімі гаворкамі, напрыклад, Эльжбета Смулкова вылучае паласу пераходных беларуска-ўкраінскіх гаворак паміж рэкамі Нараў і Буг[3], а Міхал Саевіч бачыць паміж імі рэзкую мяжу, якую праводзіць па рацэ Нараў, крыху на поўнач ад яе, а затым накіроўвае ў напрамку Белавежы[4].

Падляшскае беларуска-ўкраінскае памежжа сведчыць пра цяжкасці ў правядзенні класіфікацыі перыферыйных гаворак і адначасова – у суаднясенні іх з адною канкрэтнаю моваю. Размежаванне маўлення жыхароў праводзіцца шляхам паказання ізаглосаў, якія ілюструюць пашырэнне дыферэнцыяльных рысаў, характэрных для беларускай і ўкраінскай моваў[5]. Традыцыйна выдзяляецца шэсць ізафонаў, якія вызначаюць гэтую мяжу: рысы, характэрныя для беларускай мовы – гэта пашырэнне акання ды цекання і дзекання; рысы ўкраінскія – гэта дыспалаталізацыя зычных перад *е* і *і* (ізафоны, якія паказваюць дыспалаталізацыю губных зычных перад *е*, дыспалаталізацыю зубных зычных перад *е,* а таксама дыспалаталізацыю зубных зычных перад *і*);

---

[1] Такі падзел усходнеславянскіх гаворак гл. у: *Opisy badanych wsi* [w:] *Atlas gwar…,* s. 33–63.

[2] E. S m u ł k o w a, *Polsko-białoruski kontakt…,* s. 378.

[3] E. S m u ł k o w a, *Pojęcie gwar przejściowych i mieszanych na polsko-białorusko-ukraińskim pograniczu językowym* [w:] E. S m u ł k o w a, *Białoruś i pogranicza…,* s. 336–348; E. S m u ł k o w a, *Propozycja terminologicznego zawężenia zakresu pojęć: „gwary przejściowe"– „gwary mieszane"* [w:] E. S m u ł k o w a, *Białoruś i pogranicza…,* s. 349–354; E. S m u ł k o w a, *Szkic systemów fonologicznych ruskich gwar Białostocczyzny wschodniej* [w:] E. S m u ł k o w a, *Białoruś i pogranicza…,* s. 91.

[4] M. S a j e w i c z, *O białorusko-ukraińskiej granicy językowej na Białostocczyźnie* [w:] „Rozprawy Slawistyczne" 1997, nr 12, s. 91–107; *Nasza mowa prosta, czyli o białorusko-ukraińskiej granicy językowej na Białostocczyźnie,* „Над Бугом і Нарвою: український часопис Підляшшя" [online], http://nadbuhom.pl/art_2375.html [доступ: 12.03.2018].

[5] *Atlas gwar…,* s. 122 oraz Mapa 1.

шостая ізаглоса паказвае пашырэнне мяккага вымаўлення даўняга *c'*, напр. укр. *хłорес'* vs. бел. *хłор'ес*. Сярод названых шасці рысаў чатыры праходзяць прыблізна той самаю лініяй, якая вядзе больш-менш уздоўж ракі Нараў, затым паварочвае на поўдзень і праходзіць каля Гайнаўкі. Гэтая лінія супадае таксама з мяжою пашырэння іншых моўных рысаў – марфалагічных і лексічных[1].

На акаючай тэрыторыі знаходзяцца такія мясцовасці, як Дуброва Беластоцкая, Саколка, Нараўка, Белавежа. У трохкутніку, створаным мясцовасцямі Ляўкова – Семяноўка – Белавежа выступае дыспалаталізацыя губных зычных перад *e*, што вядзе да вымаўлення тыпу *mašók*, *vaséla*, *vasná*. Такое вымаўлене характэрнае для беларускіх камянецкіх і пружанскіх гаворкак: *man'é*, *matłá*, *vanók*, *vasná*[2].

У сваю чаргу ў чатырохкутніку, створаным вёскамі Жулткі – Навадвороцы – Завыкі – Чарэўкі – Козлікі – Тапаляны паміж рэкамі Супрасль і Нараў выступаюць окаючыя гаворкі і адначасова дзекаючыя / цекаючыя. Далей на поўдзень у вёках Рыбалы і Трасцянка захоўваецца вымаўленне *d' / t'*. Паралельна з гэтай ізаглосаю праходзяць ізаглосы дыспалаталізацыі зубных зычных перад *e* ды паўночнага пашырэння мяккага вымаўлення даўняга *c'*. Пашырэнне дыспалаталізацыі зубных зычных перад *i* выступае на поўдзень ад Бельска Падляшскага і Гайнаўкі і ахоплівае мясцовасці Орля, Махнатэ, Чаромха, Нямíраў[3].

У беларускіх гаворках, якія сутыкаюцца з мазавецкімі гаворкамі, назіраецца мазурэнне (вёскі Краснаборкі, Крапіўніца, Мілеўске, Рыбнік, Крушэва). Мазурэнне адсутнічае ў новай мазавецкай гаворцы, што ўзнікла на беларускім субстраце ў Сэйненскім павеце.

У залежнасці ад вымаўлення ненаціскнога *o* і мазурэння, выдзяляюцца чатыры віды беларускіх гаворак: акаючая без мазурэння, акаючая з мазурэннем, окаючая без мазурэння, окаючая з мазурэннем, якія падзяляюць тэрыторыю Беласточчыны на дзве часткі: паўночна-ўсходнюю і паўднёва-заходнюю[4].

На паўночна-ўсходняй тэрыторыі (Сакольскі павет, Дубровы Беластоцкай, паўднёва-ўсходнія ўскраіны Аўгустоўскага і ўсходняя частка Беластоцкага паветаў), дзе выступаюць акаючыя гаворкі, назіраецца ўзмацненне марфалагічных адметнасцяў. Тут менавіта выступаюць такія рысы, як канчатак *-é* ў родным склоне назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку, аснова якіх заканчваецца цвёрдым зычным (тып *vadé* vs. паўднёва-заходняга *vadý*); канчатак *-é* ў назоўным склоне назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду множнага ліку на цвёрды зычны, што пашыраецца таксама на паўночна-заходнія окаючыя гаворкі; саканне –

---

[1] M. J a n k o w i a k, *Gwary białoruskie w Polsce* [w:] N. B a r s z c z e w s k a, M. J a n k o w i a k, *Dialektologia białoruska*, Warszawa 2012, s. 153.

[2] Э. Б л і н а в а, Е. М я ц е л ь с к а я, *Беларуская дыялекталогія*, Мінск 1969, s. 76.

[3] *Atlas gwar wschodniosłowiańskich…*, Мара 1.

[4] S. G l i n k a, *Granica językowa…*, s. 36–45.

вымаўленне зваротнай часціцы -*s'a* як -*so*, -*s'o* (у окаючых гаворках -*s'e*)[1]. Гэтыя прыклады пацвярджаюць прыналежнасць аналізаваных гаворак да паўнёва-заходняга беларускага дыялекту, якi ў паўднёвай частцы становіцца пераходным беларуска-ўкраінскім[2].

На гэтай тэрыторыі назіраецца вялікі ўплыў польскае мовы, напр. будучы складаны час *budu rab'íŭ* у параўнанні з агульнабеларускім *budu rab'íc'*; пашырэнне суфікса -*ak* на азначэнне маладых істот (*zereb'ák, c'el'ák, jehn'ák*) пры множным ліку (*zarab'áta, c'eláta, jehn'ak'é*)[3].

Падзел Беласточчыны на тры часткі: заходнюю, паўночна-ўсходнюю і паўднёвую назіраецца таксама з увагі на лексічную дыферэнцыяцыю[4]. Пучок ізалексаў заходняга напрамку праходзіць з поўначы на поўдзень згодна з фанетычнай мяжою і аддзяляе ўсходнеславянскія лексемы ад польскіх, напр. *perév'esło – pas, póžn'a, stern'á – ržýsko, tok – klep'ísko, žm'én'a – garść,* хоць гэтая мяжа не з'яўляецца выразнай і застаецца даволі шырокая паласа, на якой выступаюць калькі ўсходнеславянскіх назваў у навакольных польскіх вёсках і ў польскім маўленні білінгвальнага насельніцтва, напр. *pšewiąsło* – поль. *pas* і *rozžucać* – поль. *podorywać*[5]. Пучкі ізалексаў паўночна-ўсходняга і паўднёвага пашырэння ілюструюць дыферэнцыяцыю ўсходнеславянскіх гаворак. Пучок ізалексаў паўночна-ўсходняга напрамку (*s'v'éren* vs. паўднёвы *šp'ixl'ér, m'ak'iná – połóva, v'éjałka – šópel'ka*) супадае з падзелам на акаючыя і окаючыя гаворкі[6]. У сваю чаргу пучок ізалексаў паўднёвага напрамку (*kłun'a* vs. паўночнага напрамку *humnó, adrýna, stern'á – póžn'a*, *ržýsko, rózpłuha – barazná*) праходзіць уздоўж ракі Нараў і на паўднёвы ўсход ад Белавежы, так як мяжа паміж дзекаючымі / цекаючымі гаворкамі і з захаванымі *d' / t',* што пацвярджае істотнае супадзенне пашырэння дыялектных фанетычных і лексічных рысаў[7].

### Моўныя паводзіны білінгвальнага грамадства і праблемы нацыянальнай тоеснасці

Спалучэнне сіл лінгвістаў і сацыёлагаў прывяло да стварэння супольнай мадэлі сацыялінгвістычнага вопісу моўных паводзінаў. Асноўнаю перадумоваю, на якую абапіраецца сацыялогія мовы, з'яўляецца існаванне шчыльнае залежнасці паміж структураю моўнае грамадскасці і сукупнасцю ўсіх моўных формаў, якімі гэтая грамадскасць

[1] E. S m u ł k o w a, *Przykłady zróżnicowania morfologicznego gwar białoruskich Białostocczyzny* [w:] E. Smułkowa, *Białoruś i pogranicza…,* s. 131.
[2] *Ibidem*, s. 132.
[3] *Ibidem*.
[4] E. S m u ł k o w a, *Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim,* Wrocław – Warszawa – Kraków 1968, s. 177–188 oraz vol. 2 Mapy 23–25.
[5] *Ibidem*, s. 177–179.
[6] *Ibidem*, s. 179–181.
[7] *Ibidem*, s. 181–183.

карыстаецца[1]. Гэты метад дазваляе мовазнаўцам даследаваць неаднароднасць моўнай структуры, а сацыёлагам высвятляць чыннікі, якія ўплываюць на змену моўных паводзінаў. Складовымі часткамі моўнай сітуацыі з'яўляюцца: моўцы, від грамадскай сувязі, якая іх спалучае, г. зн. іх грамадскія ролі, тэма размовы і сітуацыйныя абставіны[2]. Моўныя сітуацыі можна падзяліць на тыповыя, паўтаральныя ды індывідуальныя, напр., у выпадку размовы асобы з мясцовага асяроддзя з асобай чужой, звонку, назіраецца г. зв. сітуацыйны зрух[3]. Гэты тэрмін азначае змену мовы або яе стылю, што выклікана зменай сітуацыі паміж моўцамі. Гэтыя правілы набываюцца несвядома ў працэсе сацыялізацыі з першых дзён жыцця, і гэта менавіта яны вызначаюць сацыялінгвістычную кампетэнцыю – інтуітыўныя веды пра спосабы і час выкарыстання мовы ў залежнасці ад абставінаў, выпрацаваных грамадствам[4], значыць, можна сцвердзіць, што за сацыялінгвістычнай кампетэнцыяй дзяцей стаяць іх бацькі, якія свядома або несвядома прымаюць рашэнне пра выбар мовы, на якой звяртаюцца да дзяцей і гэтым самым уплываюць на іх прымарную мову. Найчасцей гэтай мовай з'яўляецца родная мова бацькоў або дзяржаўная мова краіны, на тэрыторыі якое дзіця нарадзілася. Даволі частыя сітуацыі, калі дзіця выхоўваецца адначасова ў дзвюх мовах, а нават у шматмоўі, як у выпадку эмігрантаў ці нацыянальных меншасцяў на памежнай тэрыторыі.

У выпадку заходняга памежжа Беларусі гэта можа быць польская мова і / або беларуская, або беларуская гаворка ў вясковым асяроддзі, часам таксама літоўская мова, ды расійская мова, якая накладваецца на гэты моўна-культурны кангламерат. У сваю чаргу на Беласточчыне суіснуюць мовы польская і / або беларуская, або беларуская гаворка на поўнач ад ракі Нараў, а на поўдзень ад яе – гаворка з украінскімі рысамі. На тэрыторыі этнічна мяшанай насельніцтва найчасцей білінгвальнае, да чаго прымушае неабходнасць утрымліваць кантакты з прадстаўнікамі як мінімум двух этнасаў.

На памежжы выкарыстанне аднае з моў не заўсёды супадае з пачуццём нацыянальнае тоеснасці яе носбітаў[5]. На Падляшшы падыход да нацыянальнае ідэнтычнасці па-іншаму ўспрымаецца рознымі пакаленнямі: старэйшае пакаленне непарыўна звязвае нацыянальнасць з веравызнаннем, пра што сведчаць сцвярджэнні кшталту „рускай веры" ці „праваслаўнай нацыянальнасці".

З праведзеных даследаванняў сярод моладзі вынікае, што канфесія (у большасці праваслаўная) не вызначае нацыянальнасці. Сёння заўважаюцца іншыя нацыянальныя перамены, а менавіта – пераход ад тутэй-

---

[1] J. S t r a c z u k, *Język a tożsamość człowieka…*, s. 19.
[2] S. G r a b i a s, *Język w zachowaniach społecznych,* Lublin 1997, s. 57.
[3] *Ibidem*, s. 58.
[4] *Ibidem*, s. 59.
[5] E. S m u ł k o w a, *Badanie pograniczy językowych – uwagi metodologiczne* [w:] *Gwary dziś. 2. Regionalne słowniki i atlasy gwarowe*, Poznań 2003, s. 46.

шасці да канкрэтнае нацыянальнасці, найчасцей польскае. Назіраецца таксама адыход ад беларускае ідэнтычнасці на карысць украінскае, аднак гэтая змена маргінальная ў параўнанні з паланізацыйным працэсам і не ўспрымаецца жыхарамі як пагроза страты свае мясцовае традыцыі, таму што абедзве ўсходнеславянскія нацыі ўспрымаюцца як „свае".

На Беласточчыне старэйшае пакаленне, якое карыстаецца рознымі ўсходнеславянскімі гаворкамі, найчасцей ідэнтыфікуецца з беларускай нацыянальнасцю.

> *Tutaj pieravažna biłarusy byli, i <...> sama Hajnaйka była apsalutna biełaruskaja. Tam jak pačałasia pramysłovać, to jechali z usiul, s cyełaj Polščy, o, tam i mazurye jechali, chto tuolki, i navet jest dzielnica Mazury, akurat u Hajnaйcy, dzie pasialiłasia najbuolš hetych mazuruoй.* (Новае Ляўкова 2013, Ян Цялушэцкі, нар. 1945)

Пераход ад беларускае нацыянальнасці да ўкраінскае назіраецца на поўдзень ад ракі Нараў, чаму спрыяюць моўныя рысы мясцовых гаворак.

> *Ja skažu tak, że ja išov do školy v šejsiat deviatum roci, praktyčno vsie lude v takich gminach, jak Čyžye, Hajnovka, Vuorla, Narva, Dubičy Cerkovne, kruhom hovoryli v toj hovuorci, značyt, ja dzisiaj znaju, że to je hovuorka ukraińška. <...> Nichto nam ne skazav, kim my je tak napravdu do kuńcia, bo hovoryli nam i našym bat'kam, że biłorusy, skoro tak, nu, biłorusy.* (Шастакова 2013, Міраслаў Стэпанюк, нар. 1960)

Асіміляцыя ўсходнеславянскага насельніцтва выклікана ў асноўным мяшанымі сужонствамі.

> *Sa Skupava čy z Janova, skažam, jaho žonka, a juon sam palak, nu, i tutaj miešany takije dzieci, ali dzieci ŭže palaki, <...> chodziat da kaścioła, ni chodziat u carkvu.* (Новае Ляўкова 2013, Ян Цялушэцкі, нар. 1945)

**Стаўленне жыхароў Падляшша да роднае мовы**

Нягледзячы на асіміляцыйныя працэсы, усходнеславянскія гаворкі на Беласточчыне добра захаваліся, хоць мясцовае насельніцтва не ўмее суаднесці сваю гаворку з канкрэтнаю моваю. Найчасцей з'яўляецца фармулёўка, што гэта „простая мова", а яны размаўляюць „папросту", „па-своему". Датычыць гэта розных гаворак, як набліжаных да беларускае мовы, так і да ўкраінскае.

> *– My – pa-prostu havorym. My nie pa-biełarusku, ni pa-rusku, tyko pa-prostu.*
> *– I baćki vašy tak razmaŭlali, i dziady?*
> *– Tak, i dziedy, i pradziedy. My ni pa-biełarusku.* (Рудакі 2013, Генадзь Каравайчык, нар. 1958)

Людзі заўважаюць моўныя адрозненні ў мясцовасцях, размешчаных недалёка адна ад аднае.

> *My tak: i po-ukraińśki ne hovorym, i po-biełoruśki, a čom takaja mova, tak jak o to my toper hovorymo. <...> A More vže za Zbučom – uže chodyv, buv – uže bolš po-ukraińśki. Uže stosujećcia do ukraińśkiej movy bolš. A ŭže tuda bolš vže na pойnoč – na „ci", uže tam „pašoй", ciekajut uže – bolš na biełoruśkie.* (Чыжы 2013, Ян Стэпанюк, нар. 1927)

Мова бацькоў і дзядоў часам акрэсліваецца як „праваслаўная мова”. Рэспандэнты з сумам канстатуюць факт, што іх дзеці і ўнукі не карыстаюцца ўжо роднаю гаворкаю, хоць яе разумеюць.

> *– A jak nazyvajecie tuju havorku?*
> *– Nu, ja znaju, nazyvajut pravosłavna mova takaja. Koliś našy dziatki tak hovoryli i bat’ki, i my tak hovorymo, a našy vže dyety i vnuki, to vže ne hovorat po-našomu, po-pravosłaйnomu, no po-polśki hovorat. Uže pryiždžajut vnuki, to hovorat po-polśki, po-našomu ne hovorat.*
> *– Navat z vami pa-polsku?*
> *– Nu, i z namy, ale my z imy ne hovorym po-polśki, ano vony ponimajut uže što-to, jakoje tam słovo* (Крывяцічы 2013, Фёдар Чыквін, нар. 1931)

**Уплыў гаворак на назвы жыхароў населеных пунктаў**

Вясковае беларускае насельніцтва Беласточчыны заўважае моўную дыферэнцыяцыю і выкарыстоўвае некаторыя моўныя рысы дзеля таго, каб акрэсліць жыхароў дадзенай тэрыторыі: дзекаючае насельніцтва – гэта *дзекалы,* а з цвёрдым вымаўленнем *д* перад *е* – *дéкало,* цекаючае насельніцтва – гэта *цепрукі;* яшчэ сустракаюцца *штокманы* і *шчокманы* – назва ўзятая з вымаўлення займенніка *што* / *шчо*. У назвах жыхароў розных рэгіёнаў закадаваная таксама гісторыя, напр. *каралёўцы* – гэта жыхары ваколіц Бельска Падляшскага, Дубіч Царкоўных, Орлі, г. зн. падданыя караля, а ліцвіны – гэта акаючае і дзекаючае / цекаючае насельніцтва земляў, якія знаходзіліся ў межах Вялікага Княства Літоўскага[1].

> *– Tyje pudlašye ŭže na nas kažuć «lićviny». Ale ja viedaju, čy my tak havorym, jak lićviny, u nas takaja mišanina prosta, gvara takaja o.* (Міхнаўка 2013, Валерыя Скепко, нар. 1941)

„Размова па-літоўску” ў разуменні рэспандэнтаў азначае беларускую акаючую гаворку. Сённяшняя моўная мяжа паміж акаючымі і окаючымі гаворкамі амаль поўнасцю супадае з былою палітычнаю мяжою паміж ВКЛ і Каронаю.

> *– V toj miejscovości inačej trochu zatiahajut, napšykłat, o tam za torom pud hranicu, to tam uže bolš tak po-litoŭsku.*
> *– Pad litoŭskuju hranicu ci biełaruskuju?*
> *– Pud biełarusku, biełarusku. I tak i nazyvajut ich tutaj uže – litviny.*
> *– A litviny vas jak nazyvajuć?*
> *– Ne viedaju, jak tam nas nazyvajut, ale siuda dalej, v toj bok to – štokmany. U nas mova takaja pravosłavna, a tam u ich to mova inna trochu. Bolš cieniujut, bo v nas tut takije tverdy rozmovy, a tam tak bolš cieniujut. Miachše tak. A vže tuda na Levkovo pud Narvu, pud Narevku, to tam uže «chadzicie», «rabicie» – o tak v druhi bok cieniujut.* (Дубічы Царкоўныя 2013, Ян Багроўскі, нар. 1953)

---

[1] M. S a j e w i cz, *Białorusko-ukraińska granica językowa na Białostocczyźnie* [w:] M. S a j e w i c z, *Derywacja sufiksalna osobowych nazw subiektów w nadnarwiańskich gwarach białoruskich Białostocczyzny. Deverbativa deadiectiva*, Lublin 2002, s. 37.

**Моўная інтэграцыя**

На польска-беларускім памежжы на Беласточчыне заўважаюцца інтэграцыйныя моўныя працэсы, якія праходзяць у адным напрамку – інтэгруюць беларускамоўнае насельніцтва з польскамоўным[1]. Назіраецца пераход на польскую мову ў мяшаных сем’ях.

> *Teras to ŭžo pa-polsku havorym! Bo synova pa-polsku!*
> *– A syn pa-svojemu ŭmieje havaryć?*
> *– Tak, umieje. Tylko syn umieje, i ja! A ŭžo jana, synova, to ŭžo jana tak pa-polsku, to ja toža ŭžo pa-polsku havaru! Baćki našy pa-prostu havaryli!* (Паўночны Востраў 2013, Ольга Козёл, нар. 1930, Ян Жамойда, нар.1928)

Пераходу на польскую мову спрыяе таксама навучанне ў польскай школе.

> *Maładyja pašli uczycca ŭ Białystoku, i ŭže jany pa-polsku havorać. Razumiejuć heto, bo tut vychavalisa, ale ŭže pa-prostu jany tak nie havorać. Jak da chaty pryjeduć, to pa-prostu havorać da baćka, da matki, a jak u Białystokie, to ŭže po-polsku havorać.* (Паўночны Востраў 2013, Мікалай Гурыновіч, нар. 1944)

Да малых дзяцей бацькі і дзядулі таксама найчасцей звяртаюцца па-польску.

> *Teper uže ŭvogule mało chto hovoryt po-našomu. Bo jak uže pojavlajutsia małyje dieti i odne pokolenie, potum następne, to uže bapcia ščytaje svoim oboviąskom, može ne každa, što treba do dytiata hovoryty po-puolśku.* (Орля 2013, Ніна Несцяровіч, нар. 1933).

Гэта прычыняецца да з’яўлення шматлікіх паланізмаў у выказванні і старэйшага пакалення, а нават міжвольнае пераключэнне на польскую мову.

> *Dzieci to już nic nie znajuć pa-prostu! Tylko ŭsio pa-polsku! A my, nam tedy nie ma s kim, jak ja sama jedna mieškam i co z dvoma dzieci, też nie razmavia pa-prostu da dzieci.* (Стараўляны 2013, Надзея, нар. 1943)

З’яўляецца нават сцвярджэнне, што разам з пакаленнем сённяшніх пенсіянераў адыдзе ў нябыт і ўсходнеславянская гаворка, якая праіснавала толькі таму, што ніякай іншай мовы вясковае насельніцтва не ведала.

> *My ne znali navet inakšej movy, to jak my mohli hovoryti.* (Орля 2013, Ніна Несцяровіч, нар. 1933)

Уплыў адной мовы (гаворкі) на другую найчасцей выяўляецца ў лексіцы. Гэта значыць, што лексемы інфільтруюць хутчэй за некаторыя фанетычныя ці марфалагічныя рысы. Некаторыя лексемы прыжываюцца ў суседняй гаворцы. Тады назіраюцца змены ў вымаўленні блізкіх сістэмна і тэрытарыяльна моў (гаворак). Запазычанні ўваходзяць у лексіка-семантычную сістэму гаворкі і выклікаюць змены на розных

---

[1] N. Barszczewska, *Новыя тэндэнцыі ў беларускіх гаворках*, „Studia Białorutenistyczne”, Lublin 2013, t. 7, s. 199–215.

моўных узроўнях (лексічным, семантычным, марфалагічным, фанетычным), аднак сістэма застаецца дастаткова празрыстай[1].

Тэрытарыяльная блізкасць стварае магчымасць непасрэднага моўнага кантакту. Немалы ўплыў маюць таксама экстралінгвістычныя фактары (радыё, тэлебачанне, прэса, школа). Напрыклад, у семантычным полі ‘народзіны чалавека’ сустракаюцца паланізмы: *c’astka, c’onža, ʒ’ecko, kab’ety, łańcušek, navl’ečka, p’elušk’i, porodova (bapka), ubranko*, якія часта набываюць усходнеславянскія фанетычныя і граматычныя рысы, як аканне – *kab’ety* (Баброўнікі, Хамэнтоўцы, Сакаляны), змена месца націску з перадапошняга склада на апошні – *p’elušk’i͡e* (Сакаляны), рэалізацыя насавых як *en, on* – *c’onža* (Баброўнікі, Хамэнтоўцы), усходнеславянская флексія – *navl’ečkoju* (Козлікі). Найбольшы ўплыў польскай мовы назіраецца ў мясцовасцях, што знаходзяцца на непасрэдным стыку дзвюх моў, напр., на стыку польскае і беларускае[2].

Лексіка мае, несумненна, найбольшыя магчымасці пранікнення, таму ў перыферыйных гаворках выступае значная колькасць сінонімаў і структурных дублетаў, што не выклікае, аднак, сур’ёзных якасных зменаў у іх сістэмах. У сваю чаргу пранікненне істотных фанетычных рысаў можа весці нават да змены моўнае прыналежнасці[3].

Працэс паланізацыі ў большай ступені закранае маладое пакаленне[4], хоць даследаванні ліцэістаў сведчаць пра тое, што сцвярджэнні *я паляк (полька)* не заўсёды азначаюць асіміляцыю, але часта вынікаюць з польскага грамадзянства. Назіраецца бунт супраць выкарыстання роднае гаворкі, які з часам пераўтвараецца, аднак, у афірмацыю.

> *Ja pomniu, jak muoj bat’ko tłumačyv dla mene matematyku albo fizyky po-svojomu. To buło strašne. Pomniu, što ja płakała i prosiła, kob hovoryv po-puolśku. Oj, čołoviek buv mołodyj to j durnyj. Ne ponimav nekotorych sprav, ne ponimav, jakuju veliku vartość maje taja mova. Po jakumś časi ja pryzvyčaiłaś i to buło normalne, što bat’ki hovorat do mene, do nas po-svojomu.* (Крывяцічы)

Маладое пакаленне часта вінаваціць сваіх бацькоў у тым, што не перадалі ім роднае гаворкі. У сваю чаргу бацькі тлумачаць пераход на польскую мову фактам жыхарства ў горадзе. Існуюць аднак сем’і, якія прыкладаюць намаганні, каб перадаць наступнаму пакаленню родную гаворку.

У маўленні моладзі выступае шмат лексічных паланізмаў, напр., *barʒo, cmentaš, dvuʒ’esty usmy kv’etn’a, emerytury, najp’erf, puźn’ej, obus vendrovny, opcokrajov’ec, obojentn’e, p’enkn’e, psečkol’e, pšep’enkny zdjenc’a, pševažn’e, roʒ’icuf, ružn’e, spułʒ’éln’oju, stafka zasadn’iča byłá; šy͡eść lat szkoły,*

[1] N. B a r s z c z e w s k a, *Białoruski system gwarowy pięciu wsi na Białostocczyźnie (na materiale leksykalnym związanym z narodzinami dziecka* [w:] *W kręgu kultury białoruskiej*, Olsztyn 1994, s. 159–168.

[2] *Ibidem*, s. 167–168.

[3] M. S a j e w i c z, *O białorusko-ukraińskiej granicy językowej…*, s. 98–99.

[4] Zob. N. B a r s z c z e w s k a, *Język a świadomość narodowa młodego pokolenia na pograniczu polsko-białorusko-ukraińskim (na Podlasiu)* [w:] *Światła masz tyle w sobie… Ze studiów wschodniosłowiańskich,* Lublin 2015, s. 265–279.

*varunk'i s'e poprav'iły, vłaʒa, zb'orča škoła gm'inna* (Бельшчына), *łąka, kos'arka*, *mel'joracja, rovek, tvardy dysk, v'ig'ilja, zžuty komunal'ne* (Белавежа). Некаторыя паланізмы суіснуюць факультатыўна з усходнеславянскімі лексемамі як поўныя сінонімы: *xerbata* і *čaj*, *ałovok* і *karandáš, raʒ'ina* і *s'amjá* (Белавежа).

Сярод фанетычных рысаў вельмі паказальныя насавыя гукі, якія або захоўваюцца: *łąk'i, zv'ązany s toj m'escovos'c'ą* (Белавежа), або вымаўляюцца як спалучэнне en, on: *obojentn'e, p'enkn'e, vendrovny, zdjenc'a; łonka* (Бельшчына)*, ks'onška* (Белавежа), назіраецца таксама чаргаванне *v (ŭ) – f*: *adresóf, bac'kóf, dakumentof, jazykóf, narodof, słof* (Белавежа).

Большую небяспеку аднак выклікае ўплыў польскае мовы на ўсходнеславянскі сінтаксіс, які парушае глыбокую структуру мясцовае гаворкі. Ва ўсходнеславянскіх гаворках азначэнне найчасцей выступае ў прэпазіцыі да азначанага слова: *baravyje tak'ije m'está, barʒo c'ikava ks'onška, haračy l'ep'óšačk'i pradaváŭ, vołk'i doŭh'i xvostý majut, žoŭty pasočok* (Белавежа), аднак здараецца, што пад уплывам польскае мовы з'яўляецца яно ў постпазіцыі: *fs'e pracy mag'istersk'i, pakłá tak'í buŭki drožǯovy, takoje zdaren'e c'ikave* (Белавежа), з'яўляюцца польскія прыназоўнікавыя канструкцыі, напр., выкарыстанне прыназоўніка *да (до)* з родным склонам замест *у* з вінавальным, напр.: *poji͡exat'i do pásynkuv* (Бельшчына)*, ʒ'éduška pryjexaŭ da b'iłav'ežy, my iʒ'ém da stadoły, nu i zašóŭ da kl'asy, zaježžajem da Pačájeva* (Белавежа); прыназоўніка *на* з вінавальным склонам замест тыпова беларускіх *у* або *па* з вінавальным у канструкцыях: *išć'í ŭ / pa hrybý*, *u / pa jáhady*, *u / pa mal'iny: bábuška man'é na hrybý brała, ja xaʒ'íŭ na hrybý pa etaj puščy, jak pašóŭ ja kol'ís' na jáhady* (Белавежа)[1]; спалучэнне прыназоўніка *за* з назоўнікам у родным склоне таксама можна ўспрымаць як польскі ўплыў: *ja kal'ís' abvoz'íŭ za komuny, za n'emca było heto* (Белавежа). Пад уплывам польскае мовы з'яўляецца спалучэнне дзеясловаў руху з прыслоўем *там* замест *туды*: *poji͡exała tam* (Бельшчына). У выказваннях жыхароў з'яўляюцца таксама польскія ўстаўныя словы ці словазлучэнні: *f každym raz'e, s tym že, z grupša, zreštą* (Белавежа).

Заўважаецца і адваротны працэс, г. зн. уплыў беларускае мовы на польскае маўленне жыхароў памежнае тэрыторыі. У маўленні найстарэйшага пакалення назіраюцца шматлікія ўсходнеславянскія асаблівасці, напр., з'яўленне нескладовага *ŭ* на месцы польскага w: *dla n'emcиŭ, spšedavaŭ, dv'e ʒ'eŭčynk'i, ja jemu z loduŭk'i podavałem, kraŭcova była, šeŭc, v domu starcиŭ*; прысутнасць пярэднеязычнага ł: *dług'i, połudn'ovy, top'iło*; спражэнне дзеясловаў у прошлым часе паводле беларускага ўзору: *ja byŭ, ja pšyjexaŭ, pošli my do lasu*; з'яўленне ўсходнеславянскай лексікі: *xałúj*, *čuv'íl'ixa*, *małaʒ'éc, šul'ák*, *uxažór, žul'ik*[2].

---

[1] N. B a r s z c z e w s k a, J. G ł u s z k o w s k a, *Kilka przykładów wpływu języka polskiego na składnię gwar białoruskich i ukraińskich Białostocczyzny* [w:] *Ze studiów nad gwarami wschodniosłowiańskimi w Polsce*, Lublin 1997, s. 173.

[2] B. N o w o w i e j s k i, *Z życia wschodnich slawizmów w mowie miast i miasteczek Białostocczyzny* [w:] *Ze studiów nad gwarami...,* s. 175–187.

На польска-ўсходнеславянскім памежжы моўныя ўзаемаўплывы вельмі выразна выяўляюцца ў мікратапонімах. З аднаго боку, выступаюць назвы лясоў, палёў, лугоў характэрныя для польскае мовы (*Jełufka, Sfyn'ak, Terta Gora*), беларускае (*Barók, Hará, Hl'ín'išča, L'asók*) і ўкраінскае (*Budyska, Ozeréć, Perélisky, Pyńký*)[1], а з другога – гібрыдныя формы: польска-беларускія (*C'imoxov'izna, Darahuščyzna, Pod Głembóčynaj, Žab'a Hará, Žondovy L'es*), польска-ўкраінскія (*Napšec'iv Sel'isek, Telatyccyzna*) і беларуска-ўкраінскія (*Horoʒ'iska, Verxkryn'ica, Zveryn'ec*)[2].

Назіранні над рознымі пакаленнямі насельніцтва польска-ўсходнеславянскага памежжа пацвярджаюць тэзу, што яго асіміляцыя з польскай большасцю праходзіць шляхам страты трох дыстынктыўных элементаў: па-першае, зямлі, якая ўспрымаецца як жыццё згодна з рытмамі прыроды і працы на сельскай гаспадарцы – у сувязі з міграцыяй у гарады; па-другое, мовы, як важнага элементу індывідуальнае і групавое нацыянальнае ідэнтычнасці – мову траціць калі не другое, то напэўна трэцяе пакаленне; па-трэцяе – веравызнання, якое страціць найцяжэй – на варце адметнасці стаіць праваслаўе[3], пераход у каталіцызм назіраецца найчасцей у мяшаных сем'ях.

*Nina Barszczewska*

**The Language of the Bilingual Population in the Podlasie Region**

A b s t r a c t

The examination of the Podlasie region is essential due to multiculturalism in the area, which, on the one hand, determines the richness of the region, and on the other, leads to difficulties in identifying the population's nationality. The national awareness of the Podlasie region has not been shaped only by the linguistic criterion: East Slavs most often identify themselves with the Belarusian nation. The main objective of the article is to investigate the Polish–East Slavic linguistic interference and to analyse behaviour patterns in bilingual communities of the multicultural borderland, including the necessity to select the appropriate language in various social situations. It is possible to observe an ongoing process of stronger assimilation of East Slavs through actions aimed at integrating them into Polish-speaking communities.

[1] N. B a r s z c z e w s k a, J. G ł u s z k o w s k a, T. J a s i ń s k a, *Polsko-wschodniosłowiańskie związki językowe w mikrotoponimii północno-wschodniej Polski* [w:] *Badania dialektów i onomastyki na pograniczu polsko-wschodniosłowiańskim*, Białystok 1995, s. 205.

[2] *Ibidem*, s. 206, 209. Zob. też: N. B a r s z c z e w s k a, J. G ł u s z k o w s k a, *Gwarowe zjawiska językowe w odliczebnikowych nazwach terenowych na wschodniej Białostocczyźnie*, „Rozprawy Slawistyczne" 1993, t. 7, s. 49–62; N. B a r s z c z e w s k a, J. G ł u s z k o w s k a, N. K o l i s, T. J a s i ń s k a, E. S m u ł k o w a, *Elementy bałtyckie i wschodniosłowiańskie w przygotowywanym Słowniku nazw terenowych północno-wschodniej Polski*, „Acta Universitatis Lodziensis. Folia Linguistica" 1993, t. 27, s. 3–8.

[3] E. C z y k w i n, D. M i s i e j u k, *Dwujęzyczność i dwukulturowość w perspektywie psychopedagogicznej*, Białystok 1998, s. 28.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Наталля Паўлоўская**
Мінск

# Інтэгратыўны падыход пры даследаванні этыкетных формул у рознасістэмных мовах

Сучасны аналіз лінгвістычных з'яў характарызуецца міждысцыплінарнасцю, узрастаннем ролі суб'екта і яго каштоўнасных адносін да прадмета даследавання, мультыпарадыгмальнасцю – прызнаннем "адначасовага руху ў розных кірунках да розных ісцін, аніводная з якіх не лепшая і не горшая за іншую"[1]. Прынцып інтэгратыўнасці як сінтэз ведаў, набытых у розных галінах, думаецца, павінен стаць вядучым і пры выкананні кантрастыўных даследаванняў блізка- і няблізкароднасных моў, бо разуменне свету залежыць "не ад прапазіцый, а ад вопыту ўспрымання, маўлення і дзейнасці"[2]. Натуральная мова ў якасці біяпсіхалагічнага, семіятычнага, кагнітыўнага, сацыяльнага феномену абумоўлівае наяўнасць у яе асноўных рэпрэзентантах – словах, дыскурсах – сінергетычных ведаў, што выходзяць за межы моўнага кантынууму. Падобнае шматмернае ўспрыняцце дазваляе ўбачыць у моўных з'явах і іх семантыцы, піша Барыс Гарадзецкі, "сутыкненне шматвяковых тэндэнцый чалавецтва, <…> кірункі выбіральнасці ва ўспрыманні рэчаіснасці"[3]. Разам з тым інтэгратыўны падыход, улічваючы розныя аспекты моўных з'яў – антрапацэнтрычнасць, сістэмацэнтрычнасць, функцыянальнасць, – не можа абапірацца на апісанні толькі сінхранічнага характару, як прыпісвалася, напрыклад, кантрастыўным даследаванням у пачатку двухтысячных гадоў.

Цяжка таксама пагадзіцца з думкай, калі за мэтамі кантрастыўных даследаванняў пакідаецца толькі "выяўленне адрозненняў у семантыцы і функцыях адзінкі адной мовы ў параўнанні з яе магчымымі адпаведнікамі ў іншай мове"[4] і адмаўляецца ўстанаўленне падабенстваў і адрозненняў у моўных падсістэмах.

---

[1] А.А. З а л е в с к а я, *Проблема знания в различных ракурсах* [в:] *Studia linguistica cognitive,* вып. 2: *Наука о языке в изменяющейся парадигме знания*, Иркутск 2009, с. 16.

[2] С.Дж. К о у л и, *Понятие распределенного языка и его значение для волеизъявления* [в:] *Studia linguistica cognitive,* вып. 2: *Наука о языке в изменяющейся парадигме знания*, Иркутск 2009, с. 205.

[3] Б.Ю. Г о р о д е ц к и й, *К проблеме семантической типологии,* Москва 1969, с. 455.

[4] И.А. С т е р н и н, *Контрастивная лингвистика: Проблемы теории и методики исследования,* Москва 2006, с. 25.

Пры кантрастыўнам аналізе пад тлумачэнне павінны падпадаць не столькі значэнні моўных адзінак, колькі іх сэнс. Гэта значыць, даследчыку належыць максімальна ўлічваць і выкарыстоўваць кагнітыўна-камунікатыўную парадыгму навуковых ведаў у яе сінхронным і дыяхронным вымярэннях. У сінхраніі фіксуецца сучаснае функцыянаванне моўнага эксплікатара. Працэсы дыяхраніі адлюстроўваюць і транслююць найважнейшыя этнічныя коды, захоўваюць гістарычныя асаблівасці развіцця народаў, маніфестуюць глыбінную рэферэнцыю да сваёй першакрыніцы, якая абавязкова пакідае пэўны адбітак у семантыцы моўнай адзінкі. І задача даследчыка высветліць яго, бо, адлюстроўваючы рэферэнцыю да пэўнага дэнатату і ўвасабляючы ментальныя вобразы прадметаў і з'яў, моўныя сродкі тым самым змяшчаюць пэўны тып светаўспрымання чалавека ў гістарычным развіцці.

Кагніцыя забяспечвае "канцэптуальнае сэнсавае адзінства", "кагнітыўныя арыенціры" з'яў, якія вывучаюцца ў адной мове, для спараджэння раўнацэннага тэксту – у другой. Моўнае і пазамоўнае асяроддзе дае магчымасць апісаць не толькі сінтагматыку і парадыгматыку моўных адзінак, але і іх прагматычныя асаблівасці – вопыт засваення цэлымі этнасамі навакольнага свету. У гэтым выпадку інтэгратыўны падыход ахоплівае спецыфіку светаўспрымання (кагніцыю), камунікацыю, структурна-моўныя механізмы і фактары пабудовы і выкарыстання моўнай адзінкі. Прастора, дзе функцыянуе мова, "з'яўляецца гульнёвай пляцоўкай, але мячом валодае моўца, гэта ён разыгрывае значэнні ў бесперапынных пазіцыях маўленчых ходаў, якія прынята называць дыскурсам"[1]. Кагніцыя, а дакладней, канцэпт у якасці ментальнай схемы моўных рэпрэзентантаў завязаны на моўцы, значэнне ж самой адзінкі з'яўляецца сацыяльна, культурна, гістарычна абумоўленым вопытам мноства індывідаў, таму аддзяліць кагнітыўнае значэнне ад прагмасемантычнага, сінхроннае ад дыяхроннага можна толькі штучна.

Значэнне, адлюстроўваючы сутнасць прадмета, з'явы, працэсу, фарміруецца вельмі працяглым часам у складанае мазаічнае спалучэнне, якое спараджае моўную адзінку са сваёй семантычнай парадыгмай – гістарычна ўстойлівым комплексам, што на розных этапах мае "розныя мадэлі спалучальнасці, дзе колькаснае павелічэнне прыметы вядзе да стварэння новай адзінкі ў межах пэўнага якаснага поля"[2].

У адпаведнасці з прадстаўленымі тэарэтычнымі перадумовамі быў праведзены кантрастыўны аналіз формул маўленчага этыкету з семантыкай прывітання/развітання ў рускай, беларускай, польскай, англійскай мовах. Мы паспрабавалі паказаць, як глыбінныя, генетычныя

---

[1] Е.И. Р и в е л и с, *Словарь в свете когнитивной лингвистики* [в:] *Studia linguistica cognitive*, вып. 2: *Наука о языке в изменяющейся парадигме знания*, Иркутск 2009, с. 306.

[2] И.Г. К о ш е в а я, *Проблемы языкознания и теории английского языка: принципы языковой интеграции*, Москва 2012, с. 28.

значэнні моўных эксплікатараў, занатаваныя ў этымалагічных і гістарычных слоўніках, уплываюць на іх сучасныя прагматычныя сэнсы. У лінгвістычных даследаваннях тлумачацца галоўным чынам адваротныя працэсы: як прагматыка мяняе значэнне моўнага знака.

Этыкетныя комплексы ствараюць фрэймы (канцэптуальныя структуры) – “мадэлі для вымярэння і апісання ведаў (ментальных рэпрэзентацый), якія захоўваюцца ў памяці людзей”[1]. Напаўненне фрэймаў ажыццяўляецца з дапамогай трактоўкі адпаведных паняццяў, змешчаных у дэфініцыях тлумачальных, этымалагічных слоўнікаў, у рэалізацыі камунікатыўна-прагматычных значэнняў этыкетных адзінак, прадстаўленых у разнастайных кантэкстах нацыянальных корпусаў рускай, беларускай, польскай, англійскай моў, у маўленчай практыцы.

Формы маўленчага этыкету, выконваючы рэгулятыўную функцыю ў метакамунікацыі, садзейнічаюць галоўным чынам эмацыянальна-псіхалагічнай гарманізацыі міжасобасных адносін, выражаюць добразычлівасць, сімпатыю, маюць, безумоўна, свае этнакультурныя адрозненні, рэалізуючы нацыянальна-спецыфічныя стэрэатыпы. Гэтыя міні-дыскурсы ўтрымліваюць глыбінныя сэнсы, сфарміраваныя ў старажытнасці і захаваныя ў свядомасці этнасаў генетычна.

Матэрыялам для аналізу паслужыла назва рускага мастацкага фільма *Здравствуй и прощай* (рэжысёр Віталь Мельнікаў, 1972 г.) і яе пераклад на беларускую, польскую, англійскую мовы. У аснове сюжэта – класічны любоўны трохкутнік: адна жанчына, два мужчыны і ўзаемаадносіны паміж імі. Першы, шалапутны муж Міцька, пакінуў Аляксандру з трыма дзецьмі і падаўся ў горад “за сэнсам жыцця” і дабрабытам. Другі, на думку аднавяскоўцаў, – з усіх бакоў станоўчы міліцыянер Бураў, які хоча будаваць сям’ю з каханай…

Загаловак у наш час разглядаецца як маўленчы акт пацверджаных ведаў, што становяцца зместам наступнага твора (Валерыя Кухарэнка, Наталля Вахтэль). Загалоўкі прагназуюць сэнс працы, эксплікуюць аўтарскія інтэнцыі, уздзейнічаюць на адрасата, з’яўляючыся квінтэсенцыяй любога твора. Таму вельмі важны іх адэкватны пераклад – “перакадзіраванне” з адной мовы на іншыя з улікам міжкультурных, гістарычных, сацыяльных, міжмоўных адрозненняў, тыпаў твораў, індывідуальнасці перакладчыка.

Рускае *здравствуй* – гэта форма дзеяслова першай асобы адзіночнага ліку ад *“здравствовать* ‘вітаць, зычыць здароўя’, роднасная з прыметнікам *здравый*; ад праславянскага *sъdorovь = ст. інд. su ‘харошы’ (Бадуэн дэ Куртэнэ, Stud. Brückn. 221 і наст.) і *dorvo-, звязанага чаргаваннем з *дрэва*, г. зн. ‘з добрага дрэва‘; гл. Остхаф, Parerga 121 і наст.; Клячкоўскі, Baudouinowi de Courten. 175 і наст.; Бернекер 1, 214; Траутман, BSW 53; Френкель, Mél. Pedersen 444 і наст. Параўн. са ст. інд. dā́ru ‘палена’, авесц. dāru ‘бервяно, дрэва’, грэч. δόρυ ‘дрэва, кап’ё’, гоцк.

[1] В.И. К а р а с и к, *Языковой круг: личность, концепты, дискурс,* Волгоград 2002, с. 152.

triu ‘дрэва’, грэч. δροόν˙ ἰσχυρόν (Гесіхій) і г. д. Яараўн. значэнне ням. kerngesund ‘зусім здаровы’: Kern ‘зерне, сарцавіна’, лац. rōbustus ‘дубовы, дужы, здаровы’ – ад rōbur ‘драўніна дуба, дубовае дрэва’; параўн. у Мельнікава рус. здоровенный… роўна з мацёрага дуба зроблены”[1].

З этымалагічных дадзеных вынікае, што архетыпны код лексемы *здравствовать* – ‘пажаданне здароўя’, ‘здаровы’, ‘дрэва’, ‘сарцавіна’, ‘дуб’, ‘зерне’, ‘сіла’, ‘пачатак’, сутнасць’, ‘урадлівасць’, ‘жыццё’. Семантычна трансфармуючыся, гэтая сукупнасць значэнняў страчвае сему пабуджальнасці як інварыянт і пераўтвараецца ў пазітыўнае прывітанне пры сустрэчы, тым самым дэсемантызуючыся і метафарызуючыся. У некаторых камунікатыўных сітуацыях лексема можа дэсемантызавацца да нуля: – *Мы успеем закончить репетицию? – Здравствуйте!* (= часціцы *не*).

Калі руская этыкетная формула прывітання адсылае да пажадання здароўя канкрэтнаму суб’екту, то беларускія *Добрай раніцы (Дабранак)! Дзень добры!* (запазычана з польскай мовы[2]) *Добры вечар!*, польскія *Dzień dobry! Dobry wieczór!* і англійскія *Good morning! Good afternoon! Good evening!* транслююць глыбінную рэферэнцыю да шчаснага быцця навакольнага свету з усімі насельнікамі і, шырэй, космасу ў кожны з перыядаў яго існавання, пажаданне даброт, радасці, станоўчага настрою. Тым самым прыведзеныя этыкетныя формулы ўвасабляюць тып агульначалавечага светапогляду, абстрагаваны ад канкрэтна-індывідуальнага прадстаўлення сітуацыі і чалавека ў ёй.

Беларускія і польскія структуры *Вітаем! Прывітанне! Witam!* выражаюць прыязнасць, добрае стаўленне, сімпатыю і маюць агульны корань з “рус. *витать* ‘віншаваць’; ‘лунаць’, укр. вітаті ‘віншаваць; прымаць гасцей; заходзіць’, ст.-слав. витати ‘жыць, знаходзіцца’, польск. *witać*, чэш. *vitati*, славац. *s(vitat’)*, в.-луж. *witać,* н.- луж. *witaś* ‘віншаваць’. Сюды ж польск. *zavitać* і чэш. *zavitati* ‘зайсці’, якое Махэк (692) беспадстаўна аддзяляе ад *vitati* ‘віншаваць’. Да гэтага ж дзеяслова рус. *обитать,* ст.-слав. обитати (<*Фасмер, 3, 101). Слова роднаснае літ. *vietá* ‘месца’, лат. *vieta* ‘тс’, *pavietat* ’мець жыллё’ (Праабражэнскі, 1, 85; Брукнер, 625; Фасмер, 1, 321). Першапачатковае значэнне ‘жыць, знаходзіцца’, пазней на яго аснове развілося значэнне ‘гасціць, знаходзіць прытулак’ і потым ‘гасцінна сустракаць, віншаваць’, магчыма пад уплывам віншавальнай формы **vitajь* ‘будзь з намі, застанься ў нас’ (Рудніцкі, 1, 140; Шанскі, 1, В, 109). Літ. *vitóti* ‘віншаваць, прымаць гасцей’ з польск. (Скараджус, Slav, 239)”[3].

Глыбінны сэнс прыведзеных беларускіх і польскіх этыкетных формул звязаны з паняццем існавання чалавека, месцам яго пражывання,

---

[1] М. Ф а с м е р, *Этимологический словарь русского языка* [online], www.https://vasmer.lexicography.online [доступ: 15.09.2017].

[2] *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, т. 3, Мінск 1985, с. 133.

[3] *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, т. 2, Мінск 1985, с. 166–167 [online], http://knihi.com/none/Etymalahicny_slounik_bielaruskaj_movy_zip.html.

у выніку метаніміі яны набываюць значэнне ‘гасцяваць’ і далей, абстрагуючыся, пераўтвараюцца ў дзеясловы маўлення, а затым – у формулы маўленчага этыкету.

Таксама польскі этыкетны выраз *Cześć!* этымалагічна звязаны з сэнсамі ‘павага’, ‘пакланенне’, ‘гонар’, ‘навучанне’ ‘плата за навучанне’[1], гістарычна ўвасабляе маўленча-разумовую дзейнасць чалавека, яго добразычлівае стаўленне да суразмоўцы.

Англійскі адпаведнік *hello* – ‘call to attract attention’[2] транслюе заклік прыцягнуць увагу і этымалагічна звязаны з сітуацыяй to shout, especially to call to the hounds in hunting ‘крычаць’, ‘падзываць сабак на паляванні’[3]. Падобны спрадвечны сэнс змяшчае моцную экспрэсію і не зусім упісваецца ў ідэю фільма, дзе за аснову сюжэту ўзята зараджэнне адносін паміж мужчынам і жанчынай.

Улічваючы сучасную семантыку лексем, іх глыбінныя гістарычныя сэнсы, камунікатыўна-прагматычныя ўласцівасці, аптымальнымі адпаведнікамі ў назве фільма для рускай лексемы *Здравствуй!* варта лічыць (беларус.) *Дзень добры!* (польск.) *Dzień dobry* (*Witam?)!* (англ.) *Good morning!*

Этымалогія *прощай* звязана з праславянскай словаформай “*prostiti, прости́ть прощу́, загадны *прости́*, укр. *прости́ти*, ст.-рус. простити, таксама ‘вылечыць’ (2 Саф. летап. пад 1463 г., стар. 185 і інш.), балг. простя́ ‘дарую’, сербахарв. *про̀стити, про̏сти̂м*, славен. prostíti, prostím ‘даравацць’, чэш. prostiti ‘вызваліць’ ад *prostъ; ст.-рус. *простити* ‘вылечыць’”[4].

У сваю чаргу, паходжанне слова *простой* звязана з праслав. “*prostъ – ‘просты’, ст.-рус. простъ ‘прамы’, ‘адкрыты’, ‘свабодны’, ‘шчодры’, ‘багаты’; рус. простой, укр. простий, беларус. просты, балг. прост ‘просты, прамы’, сербахарв. про̏ст – ‘прастадушны’, ‘просты’, ‘дараваны’, славенск. prȍst, prósta ‘нязмушаны’, ‘свабодны’, ‘звычайны’, ‘просты’; параўн. з літ. ãpstas ‘багацце’, apstùs ‘багаты’, ‘шчодры’, ‘шырокі’, atstùs ‘аддалены’, ст.–инд. suṣṭhú – ‘той, хто знаходзіцца ў добрым стане’”[5].

Глыбінная рэферэнцыя лексемы *прощай* выяўляе этнічны стэрэатып у выглядзе інтэнцыі ‘будзь адкрытым, свабодным, шчырым, жыццярадасным, нястомным, забывай чыюсьці віну’. Сучасная мова значэнне гэтай этыкетнай формулы трактуе як ‘вокліч пры расставанні на працяглы час ці назаўсёды, зняць віну з кагосьці, вызваленне ад абавязкаў, доўгу’[6].

---

[1] A. B r ü c k n e r, *Słownik etymologiczny języka polskiego,* Warszawa 1985, s. 77–78.

[2] *Cambridge Dictionary* [online], https://dictionary.cambridge.org/ru/словарь/англо-русский/ [доступ 20.10.2017].

[3] *Online etymology dictionary* [online], www.etymonline.com/index [доступ 20.10.2017].

[4] М. Ф а с м е р, *Этимологический словарь русского языка* [online], www.https://vas mer. lexicography.online [доступ 15.09.2017].

[5] *Ibidem*.

[6] Т.Ф. Е ф р е м о в а, *Новый словарь русского языка. Толково-словообразовательный [online],* https://www.efremova.info/word/proschaj [доступ 25.10.2017].

Беларускае *бывай* (імператыў дзеяслова *быць*) утворана ад "праслав. *byti, з якога пайшлі: ст.-рус., ст.-слав. быти, рус. быть, укр. бути, сербахарв. би̏ти, славен. bíti, чэш. bу́t, польск. być; в.-луж. być, н.-луж. byś. Роднаснае літ. bū́ti 'быць', ст.-інд. bhū́tíṣ, bhūtís 'быццё, добры стан, поспех', ірл. buith 'быццё', далей, ст.-інд. bhávati 'ёсць, маецца, паходзіць', грэч. φύομαι 'станаўлюся', лац. fui 'я быў', futūrus 'будучы', гоц. bauan 'жыць', д.-в.-н. bûan; гл. Бернекер 1, 114 і інш."[1]

Семантычная інфармацыя, закадаваная ў гэтай паўсядзённай формуле, апелюе да суразмоўцы і яго жыцця як дастатку, росквіту, пазітыўнага ўспрымання ўсяго існага. Гэта этыкетная формула мае больш абстрактную семантыку, чым руская формула *прощай.*

Рускае *До свидания*, беларускае *Да пабачэння,* польскае *Do widzenia* захоўваюць празрыстую этымалогію, звязаную са зрокавай перцэпцыяй, тлумачацца як вокліч пры расставанні з надзеяй на новую сустрэчу, працягу адносін, што семантычна карэлюе з сюжэтам фільма, але не супадае з яго стылістыкай.

Польская лексема *Żegnam* 'да пабачэння' этымалагічна звязана з нямецкай segnen і лацінскай Signare from Signum, "Sign" 'Святы Крыж'[2], тым самым акцэнтуе разлуку ў якасці сакральнага, рытуальнага абраду.

Англійская структура *good-bye* значыць 'salutation in parting' – 'вітанне пры расстанні'[3], узыходзіць да *godbwye* – 'a contraction of God be with ye…, influenced by good day, good evening; include God be… you' 'скарачэнне *Хай Бог будзе з вамі* пад уплывам харошага дня, харошага вечара'[4]. У адсылцы да сакральных сэнсаў *good-bye* карэлюе з польскай формулай *Żegnam.*

Як сінонім да *good-bye* ў сітуацыі з перакладам назвы фільма магчыма было б выкарыстаць (англ.) *farewell* – "expression at parting, late 14 c., from Middle English *faren wel*, verbal phrase attested by c. 1200 (see fare (v.) + well (adv.); usually said to the departing person, who replied with *good-bye*. As a noun, "a good-bye, a leave-taking," by early 15c. Expression *to a fare-thee-well* "to the last degree" is by 1884, American English. – 'выраз пры развітанні, канец XIV ст., ад сярэднеанглійскага *faren wel*', фраза, засведчаная з 1200 г. (гл. fare (дзеяслоў) + well (прыслоўе); звычайна гаварылі таму, хто з'язджаў, хто развітваўся'. У якасці назоўніка *да пабачэння* – у пачатку XV ст. Значэнне 'да апошняй ступені' – да 1884 г., амерыканскі, англійскі'[5].

Этымалогія гэтага слова высвятляе экспрэсіўны кампанент, што пярэчыць развіццю сюжэтнай лініі фільма. Гукавая інструментоўка рускай этыкетнай формулы і жанр твора – лірычная камедыя – сведчаць пра аптымальнасць формулы *good bye*.

[1] M. Ф а с м е р, *op. cit.*
[2] A. B r ü c k n e r, *op. cit.*, s. 664.
[3] *Cambridge Dictionary* [online], https://dictionary.cambridge.org/ru/словарь/англо-русский/ [доступ 20.10.2017].
[4] *Online etymology dictionary* [online], www.etymonline.com/index [доступ: 20.10.2017].
[5] *Online etymology dictionary…,* [доступ: 22.10.2017].

Аналіз рускіх, беларускіх, польскіх, англійскіх выразаў прывітання/развітання ў якасці знакаў камунікатыўных падзей дазволіў выявіць іх глыбінную семантыку як эвалюцыю свядомасці, агульна-гістарычнага, нацыянальна-культурнага вопыту розных этнасаў. У аснове разгледжаных рускіх этыкетных формул праглядаюцца індывідуальныя, прагматычныя інтэнцыі моўцы. Беларускія, польскія, англійскія адпаведнікі нясуць у сабе, акрамя інварыянтных значэнняў, разнастайныя сэнсы агульначалавечых, філасофскіх, сакральных адносін да гэтых супрацьлеглых, але ўзаемазвязаных сітуацый.

Для стварэння мастацкай вобразнасці варта ўлічваць не толькі семантыку і прагматыку этыкетных формул у сінхраніі і дыяхраніі, але і гукапіс, гармонію, музыку вуснага маўлення. Усе прыведзеныя факты сведчаць пра аптымальнасць наступнага перакладу *Здравствуй и прощай*!: (беларус.) *Дзень добры і бывай!*, (польск.) *Witam i żegnam!*, (англ.) *Good morning and good bye!*

У заключэнне адзначым, што пры перакладзе адбываюцца не проста замены слоў адной мовы на другую, а “сутыкаюцца розныя эпохі, культуры, традыцыі, склады мыслення, асобы”[1]. Таму значэнне нават самага маленькага выказвання не абмяжоўваецца яго моўным і кантэкстуальным зместам, а ўключае не менш значныя для камунікантаў глыбінныя, імпліцытныя сэнсы, якія вельмі часта бяруць пачатак у гісторыі моўнай адзінкі. Інтэгратыўны падыход як сукупнасць структурна-семантычнага, кагнітыўнага, камунікатыўна-прагматычнага, кантрастыўнага метадаў аналізу моўных фактаў дазваляе ўлічваць найбольшую колькасць параметраў і правілаў іх выкарыстання ў сінхраніі і ў дыяхраніі. Падобная мультыпарадыгмальнасць дапаможа пабудаваць тэорыю перакладчыцкай эквівалентнасці як асновы камунікатыўнай раўнацэннасці, стварыць агульную тэорыю міжмоўнай камунікацыі, вылучыць і апісаць нацыянальныя духоўна-культурныя коды – “ключы для разумення разнастайных лінгвакультур у іх сацыяльнай і нацыянальнай дэтэрмінаванасці”[2].

*Natallia Paulouskaya*

**The Integrated Approach to the Study of Etiquette Formulas in Heterogeneous Languages**

A b s t r a c t

The contrastive analysis of the speech etiquette formulas of greetings and farewells has been carried out in line with the modern integrated approach to the interpretation of scientific knowledge. The semantic and pragmatic parameters of the etiquette statements in Russian, Belarusian, Polish and English have been revealed at the synchronic and diachronic levels. The necessity of taking into account deep genetic meanings of linguistic units recorded in etymological and historical dictionaries, which influence their modern pragmatic senses, is emphasized.

[1] В.Н. К о м и с с а р о в, *Современное переводоведение* [online], http://library.durov.com/Komissarov-089.htm [доступ: 14.01.2018].

[2] В.И. К а р а с и к, *Языковой круг...,* с. 137.

Tom 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Alina Filinowicz**
Białystok

# Sufiksy *-ewicz, -owicz* w nazwiskach i nazwach terenowych Białostocczyzny i ich synkopa w wariantach gwarowych

Obszar Białostocczyzny ze względu na historię swej przynależności państwowej oraz procesy osadnicze był w XVI wieku terenem wzajemnego oddziaływania różnych kultur, nakładania się wpływów polskich, wschodniosłowiańskich i bałtyckich. W wyniku procesów kolonizacyjnych, szczególnie intensywnych w wiekach XV–XVII, zetknęły się tu różne pod względem etnicznym, językowym i konfesyjnym grupy ludności. Zachodnią część zasiedliła ludność polska z Mazowsza, część południowo-wschodnią osadnicy ruscy, nadbużańscy pochodzenia północnoukraińskiego, a część północno-wschodnią objęła białoruska ludność z okolic Grodna i Wołkowyska z dużą domieszką litewską i potomkami dawnej Jaćwieży[1].

Kształtujący się w takich warunkach historyczno-kulturowych system nazewniczy Białostocczyzny charakteryzował się bogactwem form oraz ich zróżnicowaniem pod względem fonetycznym, słowotwórczym i znaczeniowym[2].

W polskiej i wschodniosłowiańskiej kulturze nazewniczej podstawowym, szeroko stosowanym sposobem identyfikacji osób były formacje patronimiczne. Struktury te znane były już w okresie prasłowiańskim. Tworzono je za pomocą przyrostka **it'ь*, którego kontynuatorem w języku polskim był formant *-ic*. W średniowieczu polski sufiks został rozbudowany o dodatkowe elementy morfologiczne *-ew*, *-ow*. Następnie, pod wpływem ruskim, wygłosowe polskie *c* przeszło w *cz*[3].

W XVI-wiecznej antroponimii Podlasia dominowały formacje patronimiczne derywowane sufiksem *-owicz//-ewicz.* Potwierdzają ten fakt ba-

[1] Zagadnienie kolonizacji Białostocczyzny szeroko omówił w licznych pracach J. Wiśniewski, m. in.: *Osadnictwo wschodniej Białostocczyzny, geneza, rozwój oraz zróżnicowanie i przemiany etniczne,* „Acta Baltico-Slavica" 1977, t. 11, s. 7–80; oraz *Rozwój osadnictwa na pograniczu polsko-rusko-litewskim od końca XIV do połowy XVII wieku*, „Acta Baltico-Slavica" 1964, t. 1, s. 115–135, i inne publikacje.

[2] L. C i t k o, *Z historii kształtowania się nazewnictwa osobowego północnej Białostocczyzny*, „Białostocczyzna" 1997, t. 1, s. 40.

[3] Por. L. D a c e w i c z, *Historia nazwisk na kresach północno-wschodnich Rzeczpospolitej (XVI–XVIII w.)*, Białystok 2014, s. 65; Z. K l e m e n s i e w i c z, *Historia języka polskiego*, Warszawa 1974, s. 305.

dania przeprowadzone przez Annę Berlińską, Lilię Citko, Leonardę Dacewicz, Bazylego Tichoniuka, Piotra Złotkowskiego[1] i innych.

Upowszechnienie się w podlaskiej antroponimii nazwisk na *-owicz//-ewicz* to wynik oddziaływania modelu nazewniczego obowiązującego w kancelarii Wielkiego Księstwa Litewskiego, którego częścią do roku 1569 było Podlasie. Wśród litewsko-ruskiej szlachty Księstwa nazwiska z „-wiczem" pozycją społeczną odpowiadały polskiej szlacheckiej formacji na *-ski*. W drugiej połowie XVI wieku ten wzorzec nazewniczy był stosowany wśród innych warstw społecznych na Podlasiu[2].

We współczesnym zasobie nazwisk funkcjonujących w regionie białostockim antroponimy na *-ewicz//-owicz* są powszechne. W podlaskich ośrodkach naukowych nie prowadzono dotychczas badań statystycznych, które wskazałyby, jaki procent wszystkich nazwisk stanowią te formacje. Odwołać się natomiast można do białoruskiej literatury przedmiotu. Na podstawie pracy Mikołaja Biryły *Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў*[3], stwierdzić można, iż na obszarze Białorusi formacje derywowane sufiksem *-ewicz*, *-owicz* stanowią 11% wszystkich nazwisk. Są jednak obszary, w których ten typ jest dominujący i wynosi ponad 50% ogółu antroponimów (tj. północna część obwodu mińskiego, wschodnia część obwodu grodzieńskiego, zachodnia część obwodu witebskiego). W przylegających do Polski zachodnich rejonach obwodu brzeskiego i grodzieńskiego wskaźnik produktywności struktur na *-ewicz*, *-owicz* wynosi od 10% do ponad 30%. Przypuszczać należy, że podobna frekwencja utrzymuje się na pograniczu Grodzieńszczyzny i przylegającym obszarze Białostocczyzny.

Głównym tematem artykułu są nazwiska mieszkańców Białostocczyzny z sufiksem *-ewicz, -owicz*, a właściwie warianty gwarowe tych nazwisk, w których zaobserwowano zjawisko synkopy[4]. Ten proces fonetyczny pole-

---

1 A. B e r l i ń s k a, *Antroponimia Tykocina od XVI do XIX wieku*, Białystok 1988 (maszynopis); L. C i t k o, *Nazewnictwo osobowe północnego Podlasia w XVI w.*, Białystok 2001; L. D a c e w i c z, *Historia nazwisk na kresach północno-wschodnich Rzeczpospolitej (XVI–XVIII w.)*, Białystok 2014; B. T i c h o n i u k, *Antroponimia południowej Białostocczyzny w XVI wieku*, Opole 1988; P. Z ł o t k o w s k i, *Nazwy osobowe szlachty podlaskiej z formantem -icz, -owicz, -ewicz w XV–XVII wieku*, „Studia Slawistyczne" 1999, t. 1, s. 343–348.

2 Por. L. C i t k o, *Nazewnictwo osobowe…*, s. 14, 60–65, 127; oraz L. D a c e w i c z, *Historia nazwisk…*, s. 106–107.

3 М.В. Б і р ы л а, *Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай)*, Мінск 1963, с. 31–33.

4 Synkopa – od gr. *synkope*, zjawisko fonetyczne polegające na zaniku nieakcentowanej głoski lub grupy głosek wewnątrz wyrazu, co pociąga za sobą jego skrócenie. Jest to proces charakterystyczny w niestarannej, szybkiej wymowie. Przykłady wyrazów synkopowych: [prezdent] zamiast *prezydent*, [org'inalny] *oryginalny*, [vogle] *w ogóle*, [uńiverstet] *uniwersytet*. Por. A. Nagórko, *Podręczna gramatyka języka polskiego*, Warszawa 2010, s. 74; oraz *Mały słownik języka polskiego*, pod. red. S. Skorupki, Warszawa 1969, s. 792.

ga na redukcji głoski [*w*] wewnątrz formantów -*ewicz,* -*owicz,* co powoduje ich skrócenie, uproszczenie do postaci -*eicz*, -*oicz*.

Warto nadmienić, że formacje ze zredukowanym sufiksem -*ewicz*//-*owicz* funkcjonowały już w historycznych nazwach osobowych Podlasia. Historyczne antroponimy z uproszczonym sufiksem określane są jako potoczne, gwarowe[1]. W źródłach XVI-wiecznych, m. in.: *Regestrum wybierania poboru w mieście knyszyńskim z roku 1577* oraz *Powiat Bielski, Drohicki i Mielnicki, 1580 r.*, poświadczono następujące nazwy[2]:

*Andrichoicz* Cit 67, SHNO I 17; Paweł *Czimochoicz* Cit 67, SHNO I 61; Piotr *Gemanoicz* Cit 68, SHNO I 94; Siemion *Joskieicz* Cit 70, SHNO I 139; Stanisław *Olixieicz* Cit 70, SHNO I 271; Jan *Ozegoicz* Cit 69, SHNO I 281; śl. Mikołaj *Pietroicz*, śl. Jadam *Piotroicz* Zawist SHNO II 30; Liewon *Pułianoicz* Cit 69, SHNO II 58; *Rudnikoicz* DacHN 76; Jakób *Rudzieicz* Cit 70, SHNO II 75.

Przedstawienie tematu, podanie współczesnych form gwarowych nazwisk stało się możliwe dzięki przygotowywanej (w zasadzie będącej na ukończeniu) elektronicznej wersji *Kartoteki nazwisk* do *Słownika współczesnych nazwisk mieszkańców regionu białostockiego*, redagowanego przez Michała Kondratiuka (Uniwersytet w Białymstoku). Kartoteka obejmuje nazwiska obywateli Rzeczypospolitej zamieszkałych w gminach wiejskich i miastach, położonych na obszarze między Kanałem Augustowskim na północy, a rzeką Bug na południu. Zachodni zasięg badanego terenu wyznaczają rzeki Netta, Biebrza, Narew, Ślina, Mień, Nurzec i Bug, wschodni zaś – granica państwowa z Białorusią.

Materiały do kartoteki *Słownika współczesnych nazwisk mieszkańców regionu białostockiego* zbierali w latach 1960–1971 pracownicy Zespołu Filologii Białoruskiej Instytutu Słowianoznawstwa PAN w Warszawie, następnie od początku lat 90. ubiegłego wieku studenci filologii rosyjskiej i filologii białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku (do roku 1997 Filii Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku). W drodze bezpośrednich eksploracji zapisano nazwiska oficjalne, urzędowe, oraz głównie wśród mieszkańców wsi, brzmienie ludowe nazwisk. W obszernym, liczącym ponad 13 tysięcy nazwisk zbiorze znalazły się antroponimy genetycznie polskie, białoruskie, ukraińskie, rosyjskie, litewskie, niemieckie, tatarskie, żydowskie i inne. Hasłem w onomastykonie będzie nazwisko podane w formie urzędowej, następnie w postaci gwarowej (zapisane w transkrypcji fonetycznej). Przy każdym antroponimie określona zostanie jego frekwencja poprzez wskazanie liczby rodzin noszących dane nazwisko w konkretnej miejscowości. Objaśniona zostanie etymologia i budowa słowotwórcza antroponimu[3].

---

[1] Por. L. D a c e w i c z, *Historia nazwisk…*, s. 70.

[2] Na podstawie prac: L. C i t k o, *Nazewnictwo osobowe północnego Podlasia w XVI w.*, Białystok 2001 (dalej skrót: Cit); *Słownika historycznych nazw osobowych Białostocczyzny (XV–XVII w.)*, Białystok 1997 (dalej skrót: SHNO); oraz L. D a c e w i c z, *Historia nazwisk na kresach północno-wschodnich Rzeczpospolitej (XVI–XVIII w.)*, Białystok 2014 (dalej skrót: DacHN).

[3] Na podstawie publikacji M. K o n d r a t i u k a, *Zasady opracowania i struktura SŁOWNIKA WSPÓŁCZESNYCH NAZWISK MIESZKAŃCÓW REGIONU BIAŁOSTOCKIEGO* [w:] *Onimizacja i apelatywizacja*, red. Z. Abramowicz i E. Bogdanowicz, Białystok 2006, s. 405–413.

Ze wspomnianej wyżej Kartoteki dla potrzeb artykułu wyekscerpowałam 576 nazwisk, które przez autochtonów – mieszkańców regionu białostockiego wymawiane są z uproszczonym sufiksem *-ewicz, -owicz*. Zredukowany przyrostek był zapisywany przez eksploratorów w trojaki sposób: *-e**i**cz* z ***i*** niezgłoskotwórczym, *-e**j**cz* (ze spółgłoską ***j***) lub ***eiª**cz*, analogicznie *-**o**icz//-o**j**cz//-o**iª**cz*.

Jako przykłady można podać następujące nazwy: nazwisko oficjalne *Abramowicz* w miejscowości Zielony Gaj, gm. Janów, pow. sokólski, ma formę gwarową *Abramoicz* (1 rodzina); nazwisko *Augustynowicz* w miejscowości Nowodworce gm. Wasilków, pow. białostocki jest wymawiane *Augustynojcz* (3 rd.); nazwisko *Bogdanowicz* we wsi Wólka Ratowiecka, gm. Czarna Białostocka, pow. białostocki brzmi *Bahdanoiªcz* (1 rd.); nazwisko *Butkiewicz* w trzech miejscowościach gm. Suchowola, pow. sokólski: Suchowola (1 rd.), wś Pokośno (1 rd.), wś Trzyrzecze (3 rd.) jest wymawiane jako *Butkiejcz*; nazw. *Dacewicz* we wsi Synkowce, gm. Nowy Dwór, pow. sokólski brzmi *Dacejcz* (4 rd.); nazw. *Gudewicz* w czterech wsiach gm. Suchowola, pow. sokólski: Chodorówka Nowa (2 rd.), Dryga (1 rd.), Połomin (1 rd.), Trzyrzecze (4 rd.) oraz w miejscowości Aulakowszczyzna (1 rd.), gm. Korycin, pow. sokólski ma formę gwarową *Gudejcz//Gudeicz*. Oto inne przykłady nazwisk:

*Harasimowicz,* gw. *Harasimojcz*: wś Rogacze (1 rd.), gm. Nowy Dwór, pow. sokólski; wś Sadowo (2 rd.), gm. Dąbrowa Białostocka, pow. sokólski.

*Hlebowicz*, gw. *Hleboicz*: wś Bobrowniki (2 rd.), gm. Sokółka, pow. sokólski; wś Orłowicze (3 rd.), gm. Sokółka, pow. sokólski.

*Jarmołowicz,* gw. *Jarmałojcz*: wś Reszkowce (1 rd.), gm. Dąbrowa Białostocka, pow. sokólski.

*Jurgielewicz*, gw. *Jurgielejcz*: wś Brzozowo (1 rd.), gm. Dąbrowa Białostocka, pow. sokólski; wś Dryga (1 rd.), gm. Suchowola, pow. sokólski; wś Kopciówka (6 rd.), gm. Suchowola, pow. sokólski; wś Stary Szor (1 rd.), gm. Sokółka, pow. sokólski.

*Klimowicz*, gw. *Klimoicz*: wś Brody (1 rd.), gm. Korycin, pow. sokólski; wś Karpowicze (1 rd.), gm. Suchowola, pow. sokólski; wś Trzyrzecze (1 rd.), gm. Suchowola.

*Lachowicz*, gw. *Lachoiªcz*: wś Brzozówka Koronna, gm. Czarna Białostocka, pow. białostocki.

*Leonowicz*, gw. *Leonojcz*: wś Janowszczyzna (1 rd.), gm. Sokółka, pow. sokólski.

*Makarewicz*, gw. *Makarejcz*: wś Krugło (1 rd.), gm. Dąbrowa Białostocka, pow. sokólski; wieś Krukowszczyzna (1 rd.), gm. Korycin, pow. sokólski; wś Lipina (6 rd.), gm. Sokółka; wś Nowy Dwór (1 rd.), gm. Nowy Dwór, pow. sokólski; wś Słojniki (2 rd.), gm. Sokółka; wś Kopczany (1 rd.), gm. Lipsk, pow. augustowski; Kolonie Lipsk, gm. Lipsk, pow. augustowski; wś Krasne (1 rd.), gm. Lipsk, pow. augustowski wś Kurianka (2 rd.), gm. Lipsk, pow. augustowski; wś Siółko (1 rd), gm. Lipsk, pow. augustowski.

*Misiewicz*, gw. *Misieicz*: wś Laskowszczyzna (1 rd.), gm. Korycin, pow. sokólski; wś Reszkowce (1 rd.), gw. *Misiejcz*, gm. Dąbrowa Białostocka, pow. sokólski.

*Ościłowicz*, gw. *Aściłojcz*: wś Stara Kamionka (4 rd.), gm. Sokółka, pow. sokólski.

*Panasewicz*, gw. *Panasejcz*: wś Ciemne (1 rd.), gm. Suchowola, pow. sokólski; wś Czerwonka (1 rd.), gm. Suchowola; wieś Rutkowszczyzna (1 rd.), gm. Suchowola; gw. *Panaseicz*, wieś Skindzierz (1 rd.), gm. Korycin, pow. sokólski; gw. *Panaseiªcz*, wś Jałowo (6 rd.), gm. Lipsk, pow. augustowski.

*Sakowicz*, gw. *Sakoicz*: wś Bombla (4 rd.), gm. Korycin, pow. sokólski; gw. *Sakoiªcz*, kol. Osierodek (1 rd.), gm. Czarna Białostocka, pow. białostocki.

*Szułowicz*, gw. *Szułowicz* // *Szułoiªcz*: wś Płaska, gm. Płaska (1 rd.), pow. augustowski.

*Tarasewicz*, gw. *Tarasejcz*: wś Butrymowce (1 rd.), gm. Nowy Dwór, pow. sokólski; kol. Chilmony (1 rd.), gm. Nowy Dwór; wś Nowy Dwór (3 rd.), gm. ts.; gw. *Taraseiªcz*, wś Jałowo (2 rd.), gm. Lipsk, pow. augustowski; wś Krasne (1 rd.), gm. Lipsk, pow. augustowski; wś Lipszczany (1 rd.), gm. Lipsk, pow. augustowski.

*Usewicz*, gw. *Useiªcz*: wś Rakowicze, gm. Lipsk, pow. augustowski.

*Ziniewicz*, gw. *Ziniejcz*: wś Janowszczyzna (1 rd.), gm. Sokółka, pow. sokólski.

*Żukiewicz*, gw. *Żukiejcz*: wś Planteczka (1 rd.), gm. Sokółka, pow. sokólski.

Frekwencja nazwisk z uproszczonymi sufiksami na obszarze objętym badaniami przedstawia się następująco: w gminie Sokółka odnotowano 113 nazwisk (202 rodziny), w gm. Dąbrowa Białostocka – 84 nazwiska (118 rd.), gm. Korycin – 80 nazwisk (92 rd.), gm. Suchowola – 69 nazwisk (107 rd.), gm. Czarna Białostocka, pow. białostocki – 68 nazwisk (103 rd.), gm. Nowy Dwór – 64 nazwiska (105 rd.), gm. Lipsk pow. augustowski – 57 nazwisk, gm. Janów – 19 nazwisk (23 rd.), gm. Płaska, powiat augustowski – 5 nazwisk (6 rd.), gm. Wasilków, pow. białostocki – 3 nazwiska (5 rd.), gm. Szudziałowo – 1 nazwisko (2 rd.), gm. Krynki – 1 nazwisko (1 rd.).

Większość wymienionych gmin wchodzi w skład powiatu sokólskiego. Jest on położony w środkowej części obecnego województwa podlaskiego, od wschodu graniczy z obwodem grodzieńskim na Białorusi. Gminy Czarna Białostocka i Wasilków od północy sąsiadują z powiatem sokólskim. Gmina Lipsk od południa graniczy z pow. sokólskim, od wschodu przylega do granicy państwowej z Białorusią, podobnie gmina Płaska od wschodu ganiczy z Białorusią, a przez jej północną część przepływają wody Kanału Augustowskiego.

Na podstawie wyżej zarysowanego obszaru można wyznaczyć przybliżoną naturalną granicę występowania zredukowanego sufksu *-ewicz*//*-owicz* w formach gwarowych nazwisk: na północy jest to Kanał Augustowski, południową granicę stanowi rzeka Supraśl, zachodni zasięg wyznacza rzeka

Brzozówka, a na wschodzie granica państwowa z Republiką Białorusi. Wskazany obszar to północna Białostocczyzna, obszar typowo pograniczny, zróżnicowany pod względem językowym, etnicznym i wyznaniowym.

Nazwiska urzędowe wymawiane są w gwarze z cechami charakterrystycznymi dla danej miejscowości. Znaczną część antroponimów notowano we wsiach i miasteczkach powiatu sokólskiego, gdzie do dnia dzisiejszego część mieszkańców posługuje się gwarą białoruską. Podobna sytuacja językowa utrzymuje się w gminach Lipsk, Czarna Białostocka i Wasilków, tu najstarsi mieszkańcy, głównie wyznania prawosławnego, znają gwarę białoruską. Zebrany materiał onimiczny odzwierciedla niektóre cechy fonetyczne właściwe tej gwarze. Wymienić tu należy m. in.:

- zjawisko akania: por. ***A**stapojcz* od ***O**stapowicz*; ***A**ściłojcz* – ***O**ściłowicz*; *Ch**a**dukieicz* – *Ch**o**dukiewicz*; *Jaw**a**rojcz* – *Jaw**o**rowicz*; *K**ara**nkieiªcz* – *Koronkiewicz*; *T**a**mkojcz* – *T**o**mkowicz*; *W**a**jtulejcz* – *W**o**jtulewicz*.

- obecność **ŭ** niezgłoskotwórczego: *Ka**ŭ**nieroiªcz* od *Kownierowicz*; *La**ŭ**kieiªcz* – Lewkowicz; *Ła**ŭ**rynojcz* – *Ła**w**rynowicz*; *Pa**ŭ**kiejcz* – *Pałkiewicz*; *Wa**ŭ**ojcz* – *Wo**ł**owicz*.

- zachowanie tylnojęzykowej lub krtaniowej głoski **h**: *Ba**h**danoiªcz* od *Bo**g**danowicz*; *Hisztaroiªcz* – ***G**isztarowicz*; *Hruszejcz* – ***G**ruszewicz*; *Hryhatojcz* – *Grygatowicz;*

Redukcja sufiksu w formach gwarowych nazwisk na obszarze powiatu sokólskiego jest na tyle silna, konsekwentna, że znalazło to swoje potwierdzenie w nazwach terenowych tego obszaru. Nazwiska na *-ewicz//-owicz* mogą stanowić człon określający mikrotoponimu lub samodzielną nazwę terenową. Przykłady mikrotoponimów wynotowano z pracy doktorskiej autorki artykułu, pt. *Mikrotoponimia dawnego powiatu sokólskiego*[1] oraz ze *Słownika nazw terenowych północno-wschodniej Polski*[2].

DANILEICZOŬ ŁUH, gw. *Dańil'eičoŭ Łux*, gen. *-čovaha Ł'uha*, kolonia, pole, wś Sadowo, gm. Dąbrowa Białostocka, pow. sokólski. – I człon n. dzierżawcza, podstawą mikrotoponimu jest nazwisko *Danilewicz* RymSN: 57[3]. II człon n. topograficzna = ap. brus. *луг*, pol. łęg.

DARGIEJCZAWA HORKA, gw*. Darg''eiªčava H'orka*, gen*. -voiª Har'y*, loc*. -vuj Har'y͡e* wzgórze, wś Nomiki, gm. Sokółka, pow. sokólski. – I czł. n. dzierżawcza od nazw. *Dargiewicz,* mieszkańca wsi Nomiki KAB, RymSN: 77. II czł. n. topograficzna = ap. brus. *горка* 'górka, pagórek'.

[1] A. F i l i n o w i c z, *Mikrotoponimia dawnego powiatu sokólskiego*, Białystok 2012. Maszynopis pracy.

[2] N. B a r s z c z e w s k a [i in.], *Słownik nazw terenowych północno-wschodniej Polski*, t. 1–2, Warszawa 1992 oraz *Indeks nazw gwarowych do Słownika nazw terenowych północno-wschodniej Polski*, Warszawa 1995.

[3] Frekwencję nosicieli nazwisk określono na podstawie *Słownika nazwisk używanych w Polsce na początku XXI wieku*, opracowanego przez K. Rymuta, Kraków 2002. Wersja elektroniczna *Słownika* w programie PDF (dalej skrót RymSN) oraz Kartoteki nazwisk do *Słownika współczesnych nazwisk mieszkańców regionu białostockiego*, redagowanego przez M. Kondratiuka (dalej skrót KAB).

Reasumując: formy dubletowe, które zostały wyekscerpowane z gazety występują na różnych poziomach języka, mianowicie na płaszczyźnie grafematycznej, ortograficznej, fonetyczno-fonologicznej, morfologicznej i leksykalnej.

Zasób grafemów alfabetu łacińskiego charakteryzował się w początkowej fazie gazety silnym podobieństwem do alfabetu polskiego (zastosowanie litery *w*, znaki diakrytyczne odzwierciedlające palatalność, digrafy). Najwięcej dubletów znaleziono na płaszczyźnie fonetyczno-ortograficznej, gdyż system fonetyczny najbardziej jest podatny na wszelkiego rodzaju interferencje. Nie tylko brak normy ortograficznej sprzyjał powstaniu form dubletowych, ale i pochodzenie autorów z różnych okolic Białorusi. W zakresie zjawisk wokalicznych (akania i jakania) zanotowano największą różnorodność pisowni: z jednej strony zachowanie pisowni etymologicznej, a z drugiej strony tendencja do fonetyzacji ortografii. Jeżeli chodzi o konsonantyzm, to odnotowano w kilku przypadkach odstępstwo od reguły morfologicznej. Formy dubletowe różnią się tylko dźwięcznością i bezdźwięcznością. Najczęściej zmiany w zakresie konsonantyzmu spotyka się na granicach morfemów. Na płaszczyźnie morfologicznej wzajemne wpływy polsko-wschodniosłowiańskie, jak np. zakłócenie dystrybucji formantów wspólnych dla języka polskiego/ rosyjskiego i białoruskiego, czy zmiana rodzaju gramatycznego mają znacznie mniejszy zasięg. W systemie leksykalnym można również zaobserwować dużą liczbę interferencji i zapożyczeń. W niniejszym artykule ograniczyłam się wyłącznie do dokładnego opisu dubletów nazw miesięcy.

*Maria Katarzyna Prenner*

**“Naša Niva” on the crossroads of cultures: evidence from various levels of language based on the newspaper**

Abstract

The paper examines certain peculiarities of the Belarussian language in Naša Niva, the first official weekly newspaper, issued between November 1906 and August 1915. Interference phenomena, which are the result of repeated language contact between Belarussian on the one hand and Polish as well as Russian on the other hand, can be found on various levels of language. First the graphematics will be in focus, as a special case of language contact is represented in the simultaneous appearence of the newspaper in cyrillic and latin script (łacińka) between November 1906 and October 1912. In contrast to many other papers on Naša Niva, the editions issued in latin alphabet constitute the central interest of the present paper.

Second, the graphematics will be addressed, since the graphematic system of the initial phase of the newspaper was characterized by strong similarity to Polish one. Thias was expressed in the use of digraphs (sz, cz) and diacritics (ć, ń, ł, ś, ż, ź). In the later phase the diagraphs and the diacritic ż were replaced by typical czech characters, č, š and ž while diacritics denoting palatalization persisted. Third, the plurality of orthographics, independent of the used alphabet, will be illustrated on the four phonetic phenomena that are characteristic for the Belarussian language, namely, akan'e, jakan'e, cekan'e and dzekan'e. The paper proviedes an analysis of the doublets in graphematics, phonology, morphonology, morphology and lexics.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Алена Садоўская, Марыя Якалцэвіч**
Гродна

# Беларуска-польскія ўзаемасувязі ў парэміялогіі і фразеалогіі

Тыпалогія сувязей славянскіх моў адносіцца да найбольш актуальных і важных праблем як беларускага, так і славянскага мовазнаўства. Такая сувязь у пэўнай ступені выяўляецца ў фразеалогіі і ў парэміялогіі. Многія з прыказак і фразеалагізмаў узнікаюць дзякуючы цесным узаемадачыненням народаў і ўзаемаўплыву моў, якімі яны карыстаюцца. Як у парэміялагічным, так і ў фразеалагічным фондзе нашай мовы, акрамя ўласна беларускіх устойлівых выразаў, знаходзім і значную колькасць інтэрнацыянальных, агульнаславянскіх, агульнаўсходнеславянскіх, запазычаных, калек і паўкалек.

Ёсць такія ўстойлівыя адзінкі, якія вядомы ўсім носьбітам мовы і шырока выкарыстоўваюцца ў маўленні, у тым ліку з рознымі мадыфікацыямі, якія ўзнаўляюцца ўсімі. Звычайна гэтыя прыказкі і фразеалагізмы маюць аднолькавы сэнс, падобную сінтаксічную будову і лексічны склад. Напрыклад, *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага (ні аднаго) не зловіш* ‘калі возьмешся адразу за некалькі спраў, то не дасягнеш поспеху ні ў адной’, рус. *За двумя зайцами погонишься – ни одного не поймаешь*, укр. *За двома зайцями поженешся, ні одного не піймаеш (не зловиш)*, польск. *Kto dwa zające goni, żadnego nie złapie.* Сустракаецца ў славянскіх мовах і значная колькасць аднолькавых фразеалагічных адзінак, прычым адны з іх бытуюць фактычна ва ўсіх славянскіх мовах (*на край свету, бабіна лета*), другія абмяжоўваюцца 4–5 мовамі, напрыклад, фразеалагізм *вочная стаўка* ‘адначасовы і перакрыжаваны допыт абвінавачанага і сведак’ ужываецца ў рускай (*очная ставка*), украінскай (*очна ставка*), балгарскай (*очна ставка*) мовах.

Пачатак фарміравання беларускай мовы характарызуецца цесным узаемадзеяннем з усімі славянскімі мовамі і іх значным узаемаўплывам. Што да беларускай і польскай моў, то кантакт паміж імі назіраецца на працягу ўсяго перыяду існавання і на розных узроўнях. Гэты працэс пачаў выяўляцца ўжо ў канцы XIV ст., калі пасля заключэння Крэўскай уніі ўзмацніліся дзяржаўныя і культурныя сувязі паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім. Найбольш адчувальнымі кантакты паміж старабеларускай і польскай мовамі былі тады, калі суседнія народы

апынуліся ў межах адной дзяржавы (згодна з Люблінскай уніяй 1569 г. Вялікае Княства Літоўскае і Каралеўства Польскае былі аб'яднаны).

Таму можна сцвярджаць, што і фразеалагізмы, і прыказкі актыўна выкарыстоўваюцца як у беларускай, так і ў польскай мовах з незапомных часоў. Тым не менш, каб вызначыць паходжанне таго ці іншага выразу, трэба правесці глыбокі этымалагічны аналіз, і гэта справа даволі складаная. Без этымалагічных экскурсаў у многіх выпадках цяжка сцвярджаць, дзе ўзнікла менавіта тая ці іншая моўная адзінка, якімі шляхамі трапіла ў іншыя мовы. Асабліва праблематычна зрабіць гэта ў дачыненні да аналагічных выразаў, што выкарыстоўваюцца ў розных мовах. З гэтай задачай справіўся выдатны беларускі мовазнаўца, лексікограф, фразеограф, парэміёлаг Іван Лепешаў. У 2004 годзе выйшаў з друку яго *Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў*[1], а ў 2014 годзе – *Этымалагічны слоўнік прыказак*[2]. У іх раскрываецца гісторыя і паходжанне каля 1750 фразеалагізмаў і больш за 400 прыказак сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Многія з іх маюць непасрэднае дачыненне да польскай мовы. Так, напрыклад, агульнымі для беларускай і польскай моў, па меркаванні І. Лепешава[3], будуць прыказкі *Не чапай (не будзі) ліха, калі спіць ціха* (*Nie budź licha, gdy śpi cicho*) 'гаворыцца як парада не чапаць каго-н., не задзірацца з кім-н.' [тут і далей значэнне прыказак прыводзіцца на аснове даведніка: І.Я. Лепешаў, М.А. Якалцэвіч, *Тлумачальны слоўнік прыказак* (Гродна: ГрДУ, 2011, 695 с.)]; *Якое дрэва, такі клін, які бацька, такі і сын* (*Jakie drzewo, taki klin, jaki ojciec, taki syn*) 'свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў'; *Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць* (*Nie bądź słodki, bo Cię zliżą, nie bądź gorzki, bo Cię splują*) 'гаворыцца як парада пазбягаць крайнасцей, трымацца прамежкавых пазіцый, паводзін і пад.'; *За кампанію <і> цыган павесіўся* (*Dał się dla kompanii cygan powiesić*) 'гаворыцца жартаўліва пра таго, хто гатоў рабіць што-н. заадно з іншымі толькі таму, што гэтае самае робяць і яны'; *На бязлюддзі і поп чалавек* (*Na bezludziu i pop człowiek*) 'калі няма каго-н. лепшага, то і той, хто ёсць, лічыцца добрым'; *Шукайце і знойдзеце* (*Szukajcie, a znajdziecie*) 'каб знайсці што-н., трэба шукаць'.

Яўген Іваноў адзначае, што „ў першым у свеце друкаваным зборніку славянскіх (у тым ліку беларускіх) прыказак і прымавак *Proverbiorum polonicorum* (1618) Саламона Рысінскага" сустракаецца шмат парэмій, шырокаўжывальных у сучаснай беларускай мове[4]. Яны, такім чынам, таксама з'яўляюцца агульнымі для польскай і беларускай моў. Вось некаторыя з іх: *Ад прыбытку галава не баліць* (*Od przybytku głowa nie boli*) 'прыбытак ніколі не зашкодзіць, не можа непакоіць каго-н.';

[1] І. Л е п е ш а ў, *Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў*, Мінск 2004, 448 с.

[2] І. Л е п е ш а ў, *Этымалагічны слоўнік прыказак*, Мінск 2014, 141 с.

[3] І. Л е п е ш а ў, *Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства*, Гродна 2006, с. 70.

[4] Я. І в а н о ў, *Да праблемы вызначэння асноўнага парэміялагічнага фонду беларускай мовы*, „Веснік БДУ" 2006, серыя 4, № 3, с. 105.

*Ахвота горш за няволю* (*Ochota gorsza niż niewola*) 'тое, што чалавеку па душы, ён робіць ахвотна'; *Бог тройцу любіць* (*Bóg trójcę lubi*) 'гаворыцца як прапанова зрабіць што-н. трэці раз ці ў апраўданне чаго- або каго-н. трэцяга'; *Госць у дом, бог у дом* (*Gość w dom, Bóg w dom*) 'прыход госця – вялікая радасць'; *На злодзеі шапка гарыць* (*Na złodzieju czapka gore*) 'той, хто правінаваціўся ў чым-н., сам міжвольна выдае сябе сваімі паводзінамі'*; На каго бог, на таго і людзі* (*Na kogo Bóg, na tego i ludzie*) 'гаворыцца, калі крыўдзяць чалавека, якому і без таго не пашанцавала'; *Што галава, то і розум* (*Co głowa, to rozum*) 'кожны мяркуе інакш, па-свойму, не так, як іншыя'; *Што край, то абычай* (*Co kraj, to obyczaj*) 'у кожным краі свае звычаі'.

Уласна беларускія прыказкі і фразеалагізмы – значная частка парэміялагічнага і фразеалагічнага складу беларускай мовы. Традыцыйна лічыцца, што ўласнымі выступаюць тыя адзінкі, якія выкарыстоўваюцца толькі ў дадзенай мове. Але пры вызначэнні ўласна беларускіх моўных адзінак варта памятаць пра тое, што беларускі і польскі народы жылі па-суседску, а частка беларускіх зямель уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай. У сувязі з гэтым некаторыя прыказкі і фразеалагізмы, хоць і лічацца ўласна беларускімі, аднак у аднолькавай ступені пашыраны ў беларускай і польскай мовах. Гэта, напрыклад, такія прыказкі: *Высока лятаеш, але нізка сядзеш* (*Wysoko mierzysz, ale nie wiadomo gdzie trafisz)* 'кажуць насмешліва фанабэрыстаму чалавеку, прадракаючы нязбытнасць яго намераў, задум'*; У страху вочы вялікія* (*Strach ma wielkie oczy)* 'спалохаўшыся, чалавек перабольшвае небяспеку ці бачыць яе там, дзе яе няма'*; Хто мажа, той і едзе* (*Kto nie smaruje, ten nie jedzie)* 'хто дае хабар ці іншым чынам умее падлагодзіцца, той і дабіваецца поспеху'; *Ціхая вада грэблю рве* (*Cicha woda brzegi rwie)* 'ціхі чалавек здольны на рашучыя, неспадзяваныя дзеянні, учынкі'.

Толькі ў беларускай і польскай мовах ужываюцца фразеалагізмы *абяцанка-цацанка (obiecanka cacanka)* 'ненадзейнае ці нездзяйсняльнае абяцанне' [тут і далей значэнне фразеалагізмаў прыводзіцца на аснове даведніка: І.Я. Лепешаў, *Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў* (Мінск: БелЭн, 2004, 448 с.)]; *як бабёр (jak bóbr)* 'жаласліва і доўга'; *пры душы (przy duszy)* 'у наяўнасці (быць у каго-н., мець што-н., звычайна грошы)'; *адправіцца (пайсці, паехаць) да Абрама на піва (pójść do Abrahama na piwo)* 'памерці'; *на вуснах мёд, а ў (на) сэрцы лёд (na ustach miód, a w sercu lód)* 'хто-н. знешне ветлівы, далікатны, а спадцішка прычыняе шкоду, непрыемнасці'; *у гарачай вадзе купаны* (*w gorącej wodzie kąpany)* 'занадта гарачы, запальчывы'*; як Заблоцкі на мыле (jak Zabłocki na mydle)* 'зусім нічога, нікольکі ці амаль нічога, амаль нікольکі не зарабіць і інш.'.

Фразеалагічны і парэміялагічны фонд беларускай мовы ўтрымлівае ў сваім складзе запазычанні, якія маюць дачыненне як да родных, так і да няроднасных моў. У беларускую мову з польскай трапілі шматлікія фразеалагізмы: *збіць з тропу (zbić z tropu)* 'выклікаць замяшанне, заблытаць'; *вывесці ў поле (wywieść w pole)* 'спрытна, хітра

ашукаць, падмануць каго-н.'; *даць дыхту (dać dychtu)* 'даць лазню, узяць у абарот'; *шарая гадзіна* (*szara godzina*) 'так называюць змрок, прыцемак, час на стыку дня і ночы, калі пачынае шарэць, цямнець'; *вастрыць зубы (ostrzyć zęby)* 'ненавідзячы каго-н., рыхтаваць яму якуюн. непрыемнасць'. Гісторыя з'яўлення фразеалагізма відаць (відно) *пана па халявах (znać pana po cholewach)* 'відаць па знешнасці, паводзінах' мае дачыненне да таго, што „даўней польскія паны абувалі каляровыя саф'янавыя боты. Іх пасля даношвалі слугі, прышыўшы да каляровых халяў чорныя галоўкі і гэтым вылучаючыся сярод іншых людзей"[1].

Лічацца запазычанымі, трапіўшы з польскай мовы, і такія прыказкі: *Спяваць дарма – баліць гарла* (*Śpiewać darmo – boli gardło) 'с*права не вартая патрачаных сіл, часу і пад.'; *Панскае вока каня тучыць (гадуе) (Pańskie oko konia tuczy) 'л*аскавае слова, добрыя адносіны да каго-небудзь дапамагаюць у справе'; *Бяла не бяла, а ваду відала* (*biała* – 'бела', *widziała* – 'бачыла') 'пра няякаснае, неахайнае мыццё чаго-н. ці каго-н.'.

Яшчэ адной крыніцай узбагачэння фразеалагічнага і парэміялагічнага фонду беларускай мовы з'яўляецца калькаванне (калькі – гэта своеасаблівыя копіі іншамоўных выразаў, у якіх кожны кампанент перакладзены на беларускую мову сэнсавым адпаведнікам; паўкалькі – гэта частковы пераклад, частковае запазычанне з іншай мовы)[2]. У склад фразеалагізмаў такім чынам трапілі выразы *на святое ніколі* (*na święty nigdy*) 'невядома калі; ніколі'; *заліваць чарвяка* (*zalać robaka)* 'выпіваць спіртнога'; *не ўсе дома* (*nie wszyscy w domu*) 'хто-н. прыдуркаваты, ненармальны' і інш. Спецыфічным у гэтым плане з'яўляецца выраз *ні богу свечка ні чорту качарга*, які з'яўляецца паўкалькай з польскай мовы. „У польскай мове фразеалагізм ужываўся ўжо ў XVI ст. і фіксуецца ў форме *ni Bogu świeczki ni diabłu ożoga* (літаральна „ні богу свечка ні чорту галавешка"); ён пабудаваны на супрацьпастаўленні Бога і чорта і іх крыніц святла – свечкі і галавешкі. Слова *ożóg* у польскай мове абазначае і 'галавешка', і 'качарга', таму пры калькаванні, відаць, адбылася падмена аднаго значэння другім"[3]. Што да фразеалагізма *весці (павесці) рэй* 'быць завадатарам, верхаводзіць, аказваць уплыў на ход чаго-н.', то ён з'яўляецца паўкалькай з польскай мовы. „Слова *рэй* у польскай мове па-за фразеалагізмам не ўжываецца, але з'яўляецца часткай складанага слова *wodzirej* 'распарадчык (танцаў)', якое ўзнікла на аснове нямецкага *Reigen* 'танец, хор, карагод'. Першапачаткова фразеалагізм *wodzić rej* у польскай мове ўжываўся ў дачыненні толькі да танцаў – са значэннем 'быць распарадчыкам танцаў'"[4].

Прыказкі таксама могуць трапляць з адной мовы ў другую ў выніку калькавання. Гэты працэс хутчэй за ўсё „непасрэдным чынам звязаны

[1] І. Л е п е ш а ў, *Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў...*, с. 294.
[2] І. Л е п е ш а ў, *Фразеалогія сучаснай беларускай мовы*, Мінск 1998, с. 37, 41.
[3] І. Л е п е ш а ў, *Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў...*, с. 266.
[4] *Ibidem*, с. 73.

з актывізацыяй перакладчыцкай дзейнасці ў той ці іншы час"[1]. Шматлікія калькі ствараюць інтэрнацыянальны парэміялачны фонд некалькіх моў. Скажам, калька з лацінскай мовы *Mens sana in corpore sano* ёсць у беларускай (*У здаровым целе здаровы дух*), рускай (*В здоровом теле здоровый дух*), украінскай (*У здоровому тілі – здоровий дух*), чэшскай (*V zdravem tele zdravy duch*), польскай (*W zdrowym ciele zdrowy duch*) мовах. Сёння часцей такія копіі іншамоўных прыказак ужо не ўспрымаюцца як чужамоўныя: *Адна ластаўка вясны не робіць* (грэч.), *Грошы не пахнуць* (лац.), *Час – гэта грошы* (англ.), *Ружы без калючак не бывае* (ням.), *Ад вялікага да смешнага адзін крок* (фр.) і інш.

З польскай мовы да нас трапілі таксама і прыказкі-паўкалькі: *Шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе (Szlachcic na zagrodzie równy wojewodzie;* польск. *zagroda* – '*сядзіба, двор*') 'у сваім доме, у сваёй гаспадарцы чалавек паводзіць сябе незалежна'; *Што задужа (занадта, залішне), то (тое) не здрова (не здарава)* (*Co za dużo, to nie zdrowo*) 'залішняе, празмернае не ідзе на карысць. Кажуць як жаданне захоўваць пачуццё меры'.

Паводле паходжання фразеалагічны і парэміялагічны фонд, акрамя запазычанняў, калек і паўкалек, утрымлівае яшчэ адну групу – спрадвечна беларускія адзінкі. Яны групуюцца на агульнаславянскія, агульнаўсходнеславянскія і ўласна беларускія. Выразы, якія з'яўляюцца агульнымі для славянскіх моў, па сутнасці, павінны былі ўзнікнуць у той час, калі ўсе славянскія плямёны карысталіся адносна адзінай мовай. Але цяпер з-за адсутнасці фактаў цяжка ўзнавіць, якія менавіта выразы ўтварыліся ў перыяд агульнаславянскага адзінства. Можна толькі зрабіць выснову, што тыя моўныя адзінкі, якія бытуюць у некалькіх славянскіх мовах, з'яўляюцца агульнаславянскімі. Нягледзячы на тое, што ў працы *Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства* І. Лепешаў прыказку *Стары вол баразны не псуе* 'стары, вопытны чалавек не сапсуе таго, за што бярэцца; гаворыцца, калі за справу нараўне з маладымі бярэцца стары, але яшчэ моцны і вопытны' лічыць агульнаславянскай: „яна ёсць у польскай мове (*Stary wół bruzdy nie psuje*), украінскай (*Старий віл борозны не псує*), рускай (*Старый конь борозды не портит*) і беларускай мовах"[2], аднак, даючы этымалагічную характарыстыку прыказкам, у *Слоўніку* гэты тэрмін не выкарыстоўвае. І гэта апраўдвае сябе. Прыказкі, агульныя для некалькіх моў, даволі складана кваліфікаваць у генеалагічным плане, паколькі яны выкарыстоўваюцца ва ўсіх гэтых мовах. У *Слоўніку* сустракаюцца прыказкі, агульныя для беларускай, рускай, украінскай і польскай моў: *Баба з воза – каню (кабыле) лягчэй* 'калі хто-н. пакіне каго-н. ці адмовіцца ад чаго-н., то ад гэтага будзе толькі лепей'; *Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду*

[1] Г. Ш е в ч е н к о, *Фразеологизмы античного происхождения в славянских языках*, Минск 2005, с. 148.

[2] І. Л е п е ш а ў, *Парэміялогія як асобны раздзел...*, с. 67.

*дзьмеш (дзьмухаеш)* 'той, хто ўжо аднойчы сутыкнуўся з непрыемнасцямі, няўдачай, робіцца празмерна асцярожным'; *У сям'і не без вырадка* 'ў калектыве заўсёды ёсць і такі чалавек, які сярод іншых вылучаецца сваімі дрэннымі якасцямі'.

Многія прыказкі паводле паходжання характарызуюцца наступным чынам: агульная для ўсходнеславянскіх і польскай моў. Такое паходжанне ўласціва наступным адзінкам: *І воўк сыты і козы цэлы(-я) (I wilk syty i koza cała)* 'і для адных, і для другіх выгадна'; *З вялікае хмары малы дождж* (*Z wielkiej chmury mały deszcz)* 'якая-н. справа, шумная, гучная напачатку, часам завяршаецца нікчэмнымі вынікамі'; *Даравanaму (дарованаму, дармоваму) каню ў зубы не глядзяць (Darowanemu koniowi nie zagląda się w zęby)* 'тое, што лёгка дасталася каму-н., не павінна ім абмяркоўвацца ці прыдзірліва ацэньвацца'*; Індык думаў, думаў (многа думаў) ды здох* (*Indyk myślał, myślał i zdechł)* 'ужываецца як рэакцыя на слова д у м а ц ь (п а д у м а ц ь) у папярэдняй рэпліцы суразмоўніка'; *Найшла (наскочыла) каса на камень* (*Trafiła kosa na kamień)* 'адзін аднаму ні ў чым не хоча саступаць'; *Не ўсё (не заўсёды) кату масленіца <прыйдзе і вялікі пост>* (*Nie zawsze kotowi zapusty)* 'не заўсёды бывае для каго-н. толькі адно прыемнае, настане і нялёгкае жыццё'; *Сава не родзіць (не прывядзе) сакала* (*Nie urodzi sowa sokoła* 'у дзецях паўтараюцца недахопы, заганы іх бацькоў'); *Не варта шкурка вырабу* (*Niewarta skórka wyprawki)* 'справа не варта патрачаных на яе сіл, сродкаў і пад.'; *Славен бубен за гарамі (Sławne bębny za górami (a jak się zbliżą, równe z nami)* 'прывабным здаецца тое, што знаходзіцца дзесьці далёка'; *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш (не зловіш, не падманеш)* (*Starego wróbla nie weźmiesz na plewy)* 'вопытнага, бывалага чалавека не перахітрыш, не падманеш'; *Язык без касцей* (*Język bez kości)* 'нагаварыць можна ўсяго, што хочаш'; *Цярпі, казак, атаманам будзеш* (*Cierp, Kozacze, atamanem będziesz)* 'будзь цярплівы і дачакаешся чаго-н. лепшага'; *Шыла ў мяшку (у мяху) не схаваеш (не ўтоіш)* (*Nie zatai się szydło w worze)* 'немагчыма ўтаіць тое, што само сябе выдае'; *У бабы валасы доўгія (волас доўгі), а розум кароткі (памяць кароткая)* (*Kobieta ma włosy długie, a rozum krótki)* 'кажуць пра жанчыну, калі яна памылілася ў чым-н., неразважліва сказала ці зрабіла што-н. '.

Аналагічна можна гаварыць і пра фразеалагізмы. Так, з польскай мовай рускую, украінскую і беларускую яднаюць і такія фразеалагічныя адзінкі: *кроў з малаком (krew z mlekiem)* 1) 'здаровы, моцны, у стане росквіту', 2) 'вельмі прыгожы, свежы, румяны (пра твар, шчокі)'; *на руку (na rękę)* 'падыходзіць каму-н., выгадна камусьці, адпавядае яго жаданням'; *са шчытом (z tarczą)* 'з перамогай, пераможцам (з'явіцца, вярнуцца і пад.)'; *міма вушэй* (*mimo uszu*) прапускаць (прапусціць), пускаць (пусціць), праходзіць (прайсці) 'без увагі і рэагавання (прапускаць тое, што гаворыцца кім-н.)'; *на шчыце (na tarczy)*; 'пераможаны, з паражэннем'; *садом і гамора* (*sodoma i gomora*) 'крайняе бязладдзе, беспарадак, хаос' і інш.

У беларускай, польскай і ўкраінскай мовах выкарыстоўваюцца фразеалагізмы *як свет светам (jak świat światem, як світ світом)* 1) 'заўсёды, спрадвечна, усё жыццё', 2) 'ніколі'; *грушы на вярбе (gruszki na wierzbie, на вербі груші)* 'недарэчнасць, несусвеціца'; *першы-лепшы (pierwszy lepszy, перший ліпший)* 1) 'любы чалавек, які трапіцца', 2) 'няважна які, любы'; *сам-насам (sam na sam, сам на сам)* 'без сведак, удвух з кім-н. (гаварыць, сустракацца і пад.)'. У беларускай, польскай і рускай мовах можна сустрэць ужыванне фразеалагізма *на здароўе (na zdrowie)* 'колькі хочацца каму-н. і без пярэчанняў з боку таго, хто гаворыць'.

Разам з тым, устойлівыя выразы, што бытуюць у беларускай мове, утрымліваюць у сваім складзе асобныя кампаненты, якія пранікле ў іх у працэсе моўных зносін з іншымі народамі, і ў першую чаргу – з блізкімі суседзямі. Адсюль – паланізмы, русізмы. Менавіта гэтыя дзве групы лексем выбраныя невыпадкова, бо геаграфічнае становішча Беларусі садзейнічала і садзейнічае актыўнаму ўзаемадзеянню беларускай мовы з мовамі-суседкамі, але найперш – з польскай і рускай.

Паколькі прыказкі, гэтак жа як і фразеалагізмы, складаюць неад'емную спадчыну беларускага народа і шырока выкарыстоўваюцца ў маўленні, яны падпалі пад уплыў зменаў і працэсаў, якія адбываліся ў мове. Інакш кажучы, тыя ці іншыя гістарычныя абставіны, змяненні ў мове аказвалі свой адбітак і на лексічны фонд прыказак і фразеалагізмаў.

У складзе прыказак, радзей фразеалагізмаў, паланізмы дэманструюць некаторыя фанетычныя і лексічныя асаблівасці мовы-крыніцы. Фанетычныя паланізмы ў сваёй структуры ўтрымліваюць наступныя прыказкі: *Дзе баба жондзіць, там хата блондзіць* (*жондзіць* 'уладаць, кіраваць'; *блондзіць* 'блукаць, блудзіць; грашыць, памыляцца'); *А гдзе цемна, там пшыемна* (пшыемна 'прыемна'); *Пасці серады і пёнткі, то дастанеш жонку на зялёны свёнткі, а як будзеш пасціць да ўсіх святых, то дастанеш не з тых* (*пёнткі* 'пятніцы'; *свёнткі* 'святы'); *Чорт цёнгле сядзіць у гразі, бо ён прывык* (*цёнгле* 'заўсёды'); *Многа гавэнды, а мала скутку* (*гавэнда* 'пустая, беззмястоўная гутарка'; *скутэк* 'вынік'); *Перад богам кленчыць, а людзей мэнчыць*; *Часам вучоны будзе лепей, як злоцоны*; *Змяна змяне пагоду падае*; *Якая вяра, такая і ахвяра*; *У маткі няма ружніцы для дзіцяткі; Ох-ох-ох, хто ўдвох, а я, бедна, сама една*.

Зрэдку сустракаюцца ў прыказках і лексічныя паланізмы: *Што ў маім дому, то ніц до тэго нікому* – старабеларускае *ниць* паходзіць са старапольскага *nic* 'нічога'[1]; *Дзе фэст, там і я ест* – *fest* 'урачыстасць'; *Няма чалавека без вады* – *wada* 'загана, недахоп'; *Гдзе сваё вока не дабачыць, там ворак даплаціць* – *worek* 'мех, мяшок, торба'; *Кожны вэдлуг сябе знае* – *według* 'паводле, у параўнанні'; *Бруха не звярцядла – што з'еў, то прападла* – *źwierciadło* 'люстэрка'; *Пакроў пытаецца ў ла-*

[1] Г. Ц ы х у н, *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1993, Т. VIII, с. 38.

*троў: „Дзе вы летавалі і йдзе зімаваць будзеце?”* – *łotr* ‘нягоднік, гультай’.

Што да фразеалагізмаў, то фанетычныя і лексічныя паланізмы таксама заўважаюцца ў наступных выразах: *прыйдзе коза да воза* (*коза* – бел. ‘каза’), *дзве дзюркі ў носе і скончылося* (*скончылося* – бел. ‘закончылася’), *на святыя нігды* (*нігды* – бел. ’ніколі’), *шарая гадзіна* (*шарая* – бел. ‘прыцемак’), *як пііліп з канапель* (*піліп* – бел. ‘заяц’), *да грэчаскіх календаў* (*календаў* – бел. ‘каляды’).

Стымулам для запазычання з’яўляецца не толькі і не столькі намінатыўная значнасць той ці іншай лексемы, колькі яе поліфункцыянальная вартасць. Сярод іншых выяўленчых сродкаў іншамоўныя словы выконваюць своеасаблівую эмацыянальную функцыю. Паэтыка прыказак і фразеалагізмаў у многім залежыць ад умела падабранага і ўстаўленага слова. Як паказвае фактычны матэрыял, польскамоўныя элементы ў складзе ўстойлівых адзінак часцей за ўсё выяўляюцца ў вусным маўленні.

Такім чынам, аналіз, параўнанне і інтэрпрэтацыя фактычнага матэрыялу пераканаўча сведчаць аб прыкметным уплыве, кантактаванні і ўзаемадзеянні беларускай мовы з польскай на фразеалагічным і на парэміялагічным узроўнях моўнай сістэмы. Як бачым, праблема міжмоўных сувязей увогуле і этымалагічнага аналізу прыказак і фразеалагізмаў у прыватнасці патрабуе яшчэ свайго вырашэння. Гэтыя моўныя адзінкі могуць узыходзіць да адной мовы-асновы, сфарміравацца ў кожнай з моў, быць запазычанымі ці скалькаванымі (поўнасцю або часткова).

*Alena Sadouskaya, Maryia Yakaltsevich*

**Belarusian-Polish Interrelations in Paremiology and Phraseology**

A b s t r a c t

The article is devoted to the analysis of Slavic languages on the phraseological and paremiological levels. The phraseology and paremiology of the Belarusian language, apart from Belarusian fixed expressions, contain a large number of international, common Slavic or East Slavic loan words as well as calques and semi-calques. The Polish language has become a source of borrowings, which yielded a great many fixed linguistic units or individual components of these units introduced into Belarusian.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ганна Жураўлёва**
Ліль / Парыж

# Ужыванне лацінскага алфавіту ў сучаснай беларускай мове

У сучаснай беларускай мове назіраецца ўжыванне двух алфавітаў – лацінскага і кірылічнага. Гістарычна, прыкладна з XVI стагоддзя, на тэрыторыі Беларусі сталі выкарыстоўваць лацінскія літары для запісу тэкстаў. Беларуская лацінка з'явілася па розных прычынах – гістарычных, палітычных, сацыяльных і з практычнымі мэтамі. На беларускіх землях лацінскія літары ўжываліся не толькі для запісу лацінскай і польскай моў, але таксама каб перадаць беларускія словы ў польскіх і лацінскіх тэкстах. Так з'явілася беларуская лацінка, якая развівалася і трансфармавалася. Гэтаму працэсу садзейнічала атсутнасць кірылічных шрыфтоў у друкарнях. Першапачаткова беларуская лацінка ўзнікла як сістэма транслітарацыі кірыліцы старабеларускай мовы на лацінскі алфавіт на падставе графічнай сістэмы польскай мовы. Гэтая графічная сістэма ўжывалася для запісу юрыдычных афіцыйных дакументаў, напрыклад, *Прывілей караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы, нададзены гораду Віцебску на "Магдэбургскае права"*, 1597 года.

Захаваліся і рэлігійныя творы, малітвы, запісаныя беларускай лацінкай. Летапісны звод *Хроніка Быхаўца* з'яўляецца найбольш значным помнікам пісьменства, цалкам напісаным на лацінцы. Гэты твор напісаны ў XVI стагоддзі на кірыліцы, але захаваўся ў транслітараваным на лацінку варыянце з выкарыстаннем польскіх арфаграфічных нормаў. Напрыклад: „Byli u tom miste, baczeczy tak welikuiu siłu ludey ieho, byli ohorneny strachom welikim y rozbehlisia z mesta, a niekotoryie pobehli do rybołow swoich y tam sia poczali budowat na ostrowe; to sie nazwała Wenecya.

A kniaża imenem Apolon, kotoroie też u tom meste było, zabrawszysia zo wsim, y pry nem było piatsot semen szlachty rymskoie, a meży nimi czotyry rożaj na wyspie szlachty rymskoie, imenem z herbu Kitowrasowa Dowsprunkow, herbu z Kolumnow Preszpor Cezarinus, a z herbu Urseynow Julianus, a z herbu Roży Toroho, poszoł morem meży zemli y wziął so soboju odnoho astronoma, kotory astronom znał sia po zwizdach. Y poszli na korablech morem na połnocz, y obszedszy Francyiu i Angiliju, y woszli sut u korolewstwo Dunskoie, a w korolewstwe Dunskom uwoszli u more Akijan,

y morem Akijanom doszli do ustija, hde reka Nemon wpadajet w more Akijan, potym poszli rekoju Nemnom u werch aż w more zowemoje Małoie, kotoroie nazywaietsia more Nemnowoje”[1].

Такім чынам, асноўным алфавітам для беларускай мовы XVI–XVII стагоддзяў была лацінка.

У XVIII стагоддзі ў некаторых творах на беларускай мове паралельна з лацінкай ужывалася кірыліца. Найбольш актыўнае ўжыванне лацінкі адзначаецца ў творах беларуска-польскіх пісьменнікаў і паэтаў XIX стагоддзя. Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Адам Гурыновіч і іншыя карысталіся лацінкай для запісу сваіх твораў на беларускай мове. Першыя беларускія перыядычныя выданні друкаваліся на лацінцы, напрыклад, “Мужыцкая праўда”, (“Mużyckaja prauda”). Лацінка шырока ўжывалася ў беларускай мове да сярэдзіны XIX стагоддзя, а пазней паступова выцяснялася грамадзянскім пісьмом.

У XIX стагоддзі ўлады Расійскай імперыі забаранялі друкаваць азбукі, літаратурныя творы і часопісы на лацінцы і выкарыстоўваць польскі алфавіт на беларускіх землях. Дзейнічала цэнзура на ўсё нацыянальнае і польскае. Беларускую мову лічылі дыялектам рускай мовы. Так, напрыклад, цэнзура расійскага ўрада забараніла распаўсюджанне паэмы Адама Міцкевіча *Пан Тадэвуш*, надрукаванай па-беларуску. Ва ўказе Галоўнага ўпраўлення цэнзуры ад 1859 года знойдзем наступнае: “не допускать употребления польского алфавита при печатании сочинений на белорусском наречии”[2]. Але, нягледзячы на забарону з боку Расійскай імперыі, большая колькасць твораў XIX – пачатку XX стагоддзяў на беларускай мове друкавалася лацінкай за яе межамі.

У пачатку XX стагоддзя на лацінцы былі надрукаваныя зборнікі вершаў Цёткі *Скрыпка беларуская* (*Skrypka biełaruskaja*) і Янкі Купалы *Гусляр* (*Huślar*), выходзілі газеты “Наша Доля” (“Naša dola”) і “Наша Ніва” (“Naša niva”). Спачатку беларуская лацінка выкарыстоўвала польскую графічную сістэму, якая дакладна перадае ўсе асаблівасці беларускай мовы, як, напрыклад, мяккасць зычных. У 1907 годзе беларуская лацінка была рэфармаваная, польскія літары **cz, sz, ż** замяняліся на **č, š, ž,** але засталіся польскія літары **w** і **ł**. Такім чынам, колькасць літар зменшылася, але з'явілася вялікая колькасць дыякрытычных знакаў. Такая лацінка хутка стала папулярнай сярод выдавецтваў, на ёй друкавалася газета “Наша Ніва”. У гэты перыяд трэба адзначыць паралельнае існаванне кірылічных варыянтаў названых газет (1906–1912 гады).

У двух варыянтах, на лацінцы і на кірыліцы, надрукаваная *Беларуская граматыка для школ* Браніслава Тарашкевіча, якая зацвердзіла нормы правапісу беларускай мовы.

[1] *Хроніка Быхаўца*: http://litopys.org.ua/psrl3235/lytov08.htm [доступ: 30.04.2018].

[2] Цыт. па: P. Dawidowski, *Беларуская лацінка*, “Туризм и Отдых” 2007, с. 16–17 [online], https://pawel-d.livejournal.com/5466.html [доступ: 30.04.2018].

Пасля падзелу Беларусі на Усходнюю і Заходнюю лацінка працягвала ўжывацца на заходніх беларускіх землях, якія ўваходзілі ў склад польскай дзяржавы. У гэты перыяд свабодна існавала і кірыліца. Лацінкай карысталіся як каталіцкія выданні, так і беларускія дзеячы, якія бачылі беларускае адраджэнне ў складзе польскай дзяржавы. Беларусы, якія арыентаваліся на БССР і Расію, карысталіся кірыліцай.

Значны ўплыў на станаўленне нормаў сучаснай беларускай мовы аказаў Б. Тарашкевіч. У 1918 годзе з'явілася першая граматыка сучаснай беларускай мовы ў двух варыянтах – на кірыліцы і на лацінцы. Гэтая праца легла ў аснову ўсіх далейшых граматык беларускай мовы У 1926 годзе выйшла пятае выданне *Беларускай граматыкі для школ* Б. Тарашкевіча, значна пашыранае і перапрацаванае. Граматыка прычынілася да нармалізацыі беларускай лацінкі ў сучаснай мове. Яе графічная сістэма вызначалася выкарыстаннем польскіх літар **ł** і **w**, а для перадачы шыпячых гукаў выкарыстоўваліся літары з дыякрытычнымі знакамі **č, š, ž**.

У канцы 30-х гадоў XX стагоддзя кірыліца стала інтэнсіўна ўжывацца на заходніх беларускіх землях як адказ на палітыку асіміляцыі польскіх уладаў. На пераломе 30–40-х гадоў XX стагоддзя пасля наступнай рэформы беларускай лацінкі літару **w** замянілі на **v**. У часы нямецкай акупацыі лацінка таксама ўжывалася, але асноўным алфавітам заставалася кірыліца. Трэба адзначыць, што ў гэты перыяд кнігі на лацінцы друкаваліся, напрыклад, *Лемантар пераходны з лацініцы на кірыліцу* (1942) і *Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацініцаю* (1943) Яна Станкевіча.

Лацінка, якую прапанаваў Я. Станкевіч, з'явілася прыкладна ў 1906 годзе і адрознівалася ад ранейшай лацінкі з польскай графікай, новымі графічнымі сімваламі з дыякрытычнымі знакамі. Гэту лацінку называлі "нашанiўскай", таму што на ёй выдавалася газета "Наша Ніва".

Зараз мы назіраем адраджэнне беларускай лацінкі. Існуе два варыянты: класічны і афіцыйны. У 2009 годзе быў прыняты афіцыйны варыянт лацінскага алфавіту, прапанаваны Акадэміяй навук Беларусі і зацверджаны ААН.

У ніжэй пададзенай табліцы адлюстраваны беларускі алфавіт, які выкарыстоўваецца ў сучаснай беларускай мове:

| Кірылічны сімвал | Сімвал на лацініцы | Кірылічны сімвал | Сімвал на лацініцы |
|---|---|---|---|
| А | A | Р | R |
| Б | B | С | S |
| В | V | Т | T |
| Г | H | У | U |
| Д | D | Ў | Ŭ |
| Е | Ie / Je | Ф | F |
| Ё | Jo | Х | Ch |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ж | Ž | Ц | C |
| З | Z | Ч | Č |
| І | I | Ш | Š |
| Й | J | Ы | Y |
| К | K | Э | E |
| Л | L | Ю | Iu / Ju |
| М | M | Я | Ia / Ja |
| Н | N | ʻ | ʻ |
| О | O | Ь | гл. правілы |
| П | P | | |

**Правілы ўжывання**

**1.** Мяккасць зычных перад іншымі зычнымі або на канцы слова перадаецца пры дапамозе крэскі над літарай, напр.: *loś, ćvik, šyĺda.*

**2.** Літары **е, ё, ю, я**

– пасля зычных перадаюцца спалучэннем галосных **e, o, u, a** з **i**, напр.: *lios, nie, ziamlia;*

– у пачатку слова, пасля галосных і апострафа – спалучэннем галосных **e, o, u, a** з **j**, напр.: *jon, maja, z’java.*

**3**. Дыграфы **дз** і **дж** перадаюцца пры дапамозе спалучэнняў дзвюх літар **dz** і **dž**, а **падоўжаны дз** – пры дапамозе спалучэння трох літар **ddz**, напр.: *dzie, chadžu, stahoddzie*[1].

Сёння выкарыстанне лацінкі ў беларускай мове пашыраецца. Беларуская лацінка прысутнічае ў шмат якіх сферах жыцця: інфарматыцы, камерцыі, турызме, міжнароднай камунікацыі, культурных сувязях і інш. Яе ўжыванне ў сучаснай беларускай мове мае ў асноўным прыкладны характар.

Пашырэнню ўжывання беларускай лацінкі спрыяе развіццё новых тэхналогій, камп’ютарных праграм і сучаснай камп’ютарнай тэхнікі, тэлефонаў, гаджэтаў. Беларускай лацінкай шырока карыстаюцца ў Інтэрнэце. Існуе інтэрнэт-старонка прыхільнікаў лацінаграфічнага напісання www.lacinka.org, складаюцца суполкі ў сацыяльных сетках, напрыклад, BIEŁARUSKAJA ŁACINKA – aryhinalnaja supołka на старонцы https://vk.com/lacinka, а таксама распрацоўваюцца праграмы-канвертатары з кірыліцы на лацінку: праграма-лацінізатар тэкстаў для Windows і анлайн-лацінізатар ды раскладкі клавіятуры Programmers і Custom. Ужываецца лацінка пры напісанні смс-паведамленняў. Для смартфонаў і планшэтаў на базе Android ёсць лацінкавая раскладка для клавіятуры AnySoftKeyboard[2]. Беларуская лацінка ўжываецца ў элек-

[1] *Гісторыя мовы, Беларуская лацінка*, 2014 [online], http://www.movananova.by/zaniatki/gistoryya-movy-belaruskaya-lacinka.html [доступ: 30.04.2018].

[2] А. А р с е н о в, *Как правильно писать белорусской латиницей?* “Наша Ніва” 2016 [online], https://nn.by/?c=ar&i=147849&lang=ru [доступ: 30.04.2018].

тронным перакладніку Google: разам з перакладам на беларускую мову даецца яго напісанне на лацінцы.

Лацінкай вельмі часта карыстаюцца беларускія рок-гурты пры афармленні вокладак дыскаў з мэтай азнаёміць міжнародную публіку з творчасцю, а таксама аблегчыць чытанне і вымаўленне беларускіх слоў і захаваць іх самабытнасць. Такіх напісанняў шмат: Lavon Volski *Śpiavajcie*: *Skončyłasia šoŭ*; *Psychasamatyka*: *Mnie treba iści*; *Hramadavieda*: *Krainy niama*; NRM: *Minsk-Mensk*, *Prostyja słovy*; Stary Olsa *U karčmie*, *Rycar Bajda*, *Šlach*, *Litvin*; Dzieciuki *Zabytaja Mahiła*, *Tadevuš Kaściuška*; Prymaki *Da Kachanaje*, *Biełastockij Kraj*; Homan *Znička*, Viesna *Palubiła ja jaho*, Sherion *Oj u łuzie*, *Krambambula*, *Karchomka*.

У інтэрнэце выступае напісанне поўных тэкстаў песень на лацінцы, якія ілюструюць відэа, напрыклад:

Lavon Volski *Čužy*: „Žyvieš u darozie, žyvieš u palocie, // Na kryłach, na kołach, na rejkach, na borcie. // Žyvieš u hatelach, u apartamentach, // Na ŭsich paralelach, na ŭsich kantynentach. Refren: Adkul ni ŭciakaj, // Kudy ni biažy, // I tut ty čužy, // I tam ty čužy”[1];

Mroja *Kraina kryvavych daždžoŭ*: "Dźvie pary maich škarpetak // Sochnuć na batarei // Šeryja majskija budni // Robiać uražańnie śviata. // Tupat načyščanych botaŭ // Pa haradskich alejach // Krok za krokam niaspynna // Budujecca pomnik času"[2].

Трэба адзначыць, што пры напісанні лацінкай сустракаюцца памылкі, звязаныя з сумяшчэннем розных варыянтаў лацінкі. Напрыклад, Harotnica выкарыстоўвае слова **G**valt з выбухным *г*, але ў назвах песень прытрымліваецца афіцыйнага варыянту (*Matyliok* і *Nievyliečny*), а таксама знікае азначэнне мяккасці, гачыкі (кароны), акуты, брэвіс або выкарыстоўваюцца сімвалы з чужых лацінак: TerraKod *No**cy***, Unia *Nikoli bol**ś***, Vietah *Tajemstvy no**czy*** і *Ad**lj**ustrava**nni** **ū** **cz**ornaj vadzie*, Майтай *Minul**ae***[3]. Сустракаецца таксама напісанне польскіх літар *w, cz, sz* і польскіх слоў: Kri**w**i *Biaz hučnych słovaŭ*, Prymaki *Nali**w**aj Dyk **W**ypi**w**aj*, *Mamina soro**cz**ka*, *Ty i ja na **wieki***, Zorka *Znaju **Kochajesz***, Lyapis Trube**czk**o**i** *Ramonki*. Разам з ужываннем лацінскіх літар з розных алфавітаў сустракаюцца і памылкі ў транслітарацыі, напрыклад, *oi* замест *oy, kh* замест *h*. У словах знікае ў нескладовае *й*: Irdorath *By**u**. Jost'. Budu*.

Сустракаецца вялікая колькасць напісанняў лацінскімі літарамі, але па правілах транслітарацыі англійскага варыянту: Lyapis Trubetskoy *Ne Byts Skotam*, *Ogon'ki*, *Capital*, а таксама сумяшчэнне транслітарацыі і лацінкі Dzieciuki ***Czorn**y **Chleb***, Krambambula *Bu**dz**ma **bela**rusami* (разам з сумяшчэннем англійскай транслітарацыі знікае і мяккасць **dz**), а таксама транслітарацыі і англійскіх слоў: Pomidor/**off.**

Найбольш паказальным з'яўляецца факт, што беларускія палітыкі і грамадскія дзеячы, арыентаваныя на Захад, выкарыстоўваюць лацін-

[1] https://www.youtube.com/watch?v=2pRYauusjmY, 2015 [доступ: 30.04.2018].

[2] https://www.youtube.com/watch?v=HDhHdqp8T88, 2014 [доступ: 30.04.2018].

[3] В. Радионов, *Няхай жыве беларуская лацінка!* 2015 [online], https://rdnv.me/lacinka [доступ: 30.04.2018].

ку для перадачы сваіх імёнаў і прозвішчаў у друку на замежных мовах. Але не трэба блытаць беларускую лацінку з транслітарацыяй на англійскую мову, якая выкарыстоўваецца для напісання беларускіх імёнаў і прозвішчаў у пашпартах. У камерцыйнай сферы найчасцей ужываецца транслітарацыя на англійскую мову расійскага варыянту, напрыклад, назвы фірмаў, арганізацый. Існаванне цалкам самастойнага беларускага лацінскага алфавіту ігнаруецца.

У турыстычнай сферы таксама выкарыстоўваецца беларуская лацінка. Лацінаграфічныя надпісы назваў станцый у мінскім метро, якія з'явіліся ў 2012 годзе падчас Чэмпіянату свету па хакеі, таксама можна назваць варыянтам дапрацаванай сістэмы "нашаніўскай" лацінкі. У трансфармаванай форме яе выкарыстоўваюць для запісу беларускіх геаграфічных назваў лацінскім алфавітам, яна зафіксавана Дзяржаўным камітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь (№ 15 ад 23 лістапада 2000 года) у *Інструкцыі па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь*[1]. Інструкцыя па транслітарацыі адрозніваецца ад беларускай лацінкі двума галоўнымі разыходжаннямі. Літару **ł** замянілі на **l**, а мяккі гук [л'] запісаны лацінскім сімвалам **ĺ**: *Fanipaĺ, Lahojsk* (інструкцыя) – *Fanipal, Łahojsk* (лацінка). Асімілятыўная мяккасць зычных і іншыя асаблівасці правапісу, зафіксаваныя ў граматыцы Б. Тарашкевіча, не пазначаюцца: *Niasviž, Ikazń* (інструкцыя) – *Niaśviž, Ikaźń* (лацінка). Так выглядаюць станцыі мінскага метро сёння: "Kastryčnickaja", "Mahilioŭskaja", "Plošča Lienina".

З другога боку, напрыклад, на дарожных знаках Беларусі амаль не сустракаецца карэктнае напісанне. Часцей за ўсё надпісы робяць па-англійску альбо лацінкай з рускай формы напісання, што не толькі блытае замежнікаў, але і парушае беларускае заканадаўства. Калі на многіх картах беларускія населеныя пункты ўжо пазначаны як Sluck і Mahilioŭ, на дарогах бачым Slutsk і Mogilev.

Беларуская лацінка выкарыстоўваецца таксама і для запісу літаратурных твораў. У 2012 годзе выйшаў у свет зборнік вершаў Уладзіміра Арлова на лацінцы і кірыліцы: *Свецяцца вокны, ды нікога за імі*. У. Арлоў тлумачыць выбар двух варыянтаў выдання: "Мне хацелася, каб беларусы не забыліся на сваю лацінку, традыцыя якой налічвае не адно стагоддзе"[2].

Назіраем пашырэнне ўжывання беларускай лацінкі ў сферы гатэльнага і рэстараннага бізнесу. З практычнай мэтай для іншаземных гасцей меню рэстаранаў пішацца на англійскай мове і на беларускай лацінцы. Назвы беларускіх страў і напояў таксама сустракаюцца ў трох варыянтах, на рускай мове дадаткова. Прэйскуранты ў гатэлях выглядаюць адпаведна на беларускай лацінцы.

---

[1] *Інструкцыя па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіта* [online], https://be.wikipedia.org/wiki/інструкцыя_па_транслітарацыі [доступ: 30.04.2018].

[2] *Саюз беларускіх пісьменнікаў, Уладзімір Арлоў прадставіў кнігу з вершамі лацінкаю*, 2012 [online], http://www.lit-bel.org/by/news/3153.html [доступ: 30.04.2018].

У спартыўнай сферы беларуская лацінка пачынае ўжывацца менавіта ў футболе. Імёны і прозвішчы футбалістаў БАТЭ, напрыклад, Mayeŭski, і маскот з імем "Маланка": Barysaŭ[1].

Ужыванне беларускай лацінкі ў сучаснай беларускай мове пашыраецца. Вельмі істотным з'яўляецца факт, што беларуская мова мае свой, гістарычна сфарміраваны алфавіт на лацінскай аснове. Выкарыстанне лацінкі робіць беларускую мову больш даступнай пры чытанні і напісанні, падкрэслівае яе еўрапейскія карані. Такім чынам, пашырэнне ўжывання лацінкі ў сучаснай беларускай мове з'яўляецца больш зручным і мэтазгодным. А.У. Сямёнава адзначае, што мэтазгодна выкарыстоўваць лацінку для больш глыбокага вывучэння беларускай мовы[2]. Сёння выкарыстанне некалькіх розных сістэмаў транслітарацыі на лацінскі алфавіт стварае блытаніну ў напісанні беларускіх тапонімаў, антрапонімаў і іншых уласных назваў у дакументах і тэкстах на замежных мовах. Але можна таксама прасачыць спрыяльныя ўмовы глабалізацыі і развіцця міжнародных зносін, спорту і турызму, якія выяўляюць пазітыўныя тэндэнцыі. На іх аснове можна зрабіць прагноз, што напісанне беларускіх уласных назваў у арыгінальным варыянце беларускай лацінкай будзе пашырацца. Вельмі важнае таксама пашырэнне яе практычнага выкарыстання насельніцтвам. Менавіта лацінскі алфавіт агульнапрыняты ў міжнародных зносінах. Гэты працэс можа павялічыць ужыванне беларускай мовы на Беларусі і ў свеце.

*Hanna Zhurauliova*

**The Use of the Latin Alphabet in the Modern Belarusian Language**

A b s t r a c t

In modern Belarusian we observe the use of two alphabets, the Latin and the Cyrillic. Historically, approximately in the 16th century, the Latin alphabet began to be used for writing texts in the territory of Belarus. This use persisted in Belarusian until the mid 19th century, when the Latin alphabet was gradually supplanted by the Cyrillic. At present, we observe a revival of the Belarusian Latin alphabet. In 2009, the official version of the Latin alphabet proposed by the Belarus Academy of Sciences and approved by the UN was adopted. Today, the use of the Latin alphabet in the modern Belarusian language is expanding. This process is due to the fact that Belarusian is a European language, with many lexical items of Latin origin. This brings it closer to other European languages, especially Polish. The use of the Latin alphabet makes the Belarusian language more accessible in terms of reading and writing and highlights its European roots. Thus, the increased use of the Latin alphabet in the modern Belarusian language is more comfortable and rational.

[1] *Biełaruskaja łacinka у беларускім футболе* 2017 [online], https://charter97.org/ru/news/2017/2/11/240559/ [доступ: 30.04.2018].

[2] А.У. Сямёнава, *Беларуская лацінка: мінулае, сучаснае, будучае,* 2014 [online], http://elib.bsu.by/bitstream.pdf [доступ: 30.04.2018].

**Tom 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091**

**Maria Anufryieva**
Warszawa

# Czy istnieje polszczyzna miejska na Grodzieńszczyźnie? Zarys problematyki

## 1. Wstęp

Niniejszy artykuł jest poświęcony badaniom polszczyzny miejskiej wśród Polaków pochodzących z trzech miast obwodu grodzieńskiego na Białorusi: Grodno, Lida, Wołkowysk. Podstawę rozważań stanowi analiza materiału językowego, który został uzyskany w drodze nagrań lub wywiadów ciągłych z rozmówcami polskiego pochodzenia, którzy reprezentują różne pokolenia. Za jedno pokolenie przyjęty został okres 20 lat[1], co w sumie dało pięć pokoleń respondentów: najstarsze (1921–1940), starsze (1941–1960), średnie (1961–1980), młodsze (1981–2000), najmłodsze (po 2001). Na rzecz badań przyjęto, że respondenci z pokoleń najstarszego i starszego mogą pochodzić ze wsi, ale osiedlili się w mieście nie później niż po 25. roku życia. Natomiast respondenci z pozostałych pokoleń urodzeni są wyłącznie w miastach. Artykuł składa się z dwóch części. W pierwszej części jest przedstawiony ogólny zarys współczesnej sytuacji socjolingwistycznej na Białorusi. W drugiej części artykułu punktem wyjścia uczyniono definicję pojęcia ***polszczyzny miejskiej*** we współczesnym polonistycznym dyskursie językoznawczym, by następnie przedstawić charakterystyczne cechy językowe oraz socjolingwistyczne, które można potraktować jako wyróżniki polszczyzny miejskiej na Grodzieńszczyźnie. W podsumowaniu wyniki te zostaną skontrastowane z dotychczasowymi badaniami języka polskiego na terenach Zachodniej Białorusi, co pozwoli odpowiedzieć na pytanie postawione w tytule artykułu oraz sformułować odpowiednie wnioski.

## 2. Polszczyzna miejska na Grodzieńszczyźnie

### 2.1. Socjolingwistyczna sytuacja Polaków na Białorusi

Według ostatniego spisu powszechnego, który odbył się w 2009 roku, na Białorusi mieszka 9 503 807 osób[2]. Pochodzenie polskie zadeklarowało

---

[1] O takim podziale pokoleniowym pisze S. Dubisz w swoim artykule: S. Dubisz, *Kategoria pokolenia w badaniach lingwistycznych* [w:] *Dialog pokoleń: w języku potocznym, w języku wsi i miasta, w literaturze, w publicystyce, w tekstach kultury*, red. E. Wierzbicka-Piotrowska, Warszawa 2015, s. 33–40.

[2] *Перепись населения 2009. Национальный состав населения Республики Беларусь (Population Census 2009. Ethnic Composition of the Population of the Republic of Belarus)*, т. III, Минск 2011, s. 7–9 [online], http://belstat.gov.by/perepis-naseleniya /perepis-naseleniya-2009-goda/statisticheskie-publikatsii/statistiches kie-sborniki_ 2/index_535/ [dostęp: 04.12.2015].

szechniającym się wykorzystaniem techniki cyfrowej w kolejnych sferach życia współczesnego człowieka poszerza się liczba funkcji, które język pełni w przestrzeni cyfrowej, i tym samym kształtują się internetowe odmiany wszystkich stylów funkcjonalnych. W rzeczywistości wirtualnej nie funkcjonuje tylko jeden styl, nie ma też osobnego stylu internetowego języka białoruskiego. Odmiany stylowe wykorzystywane w Sieci posiadają własne środki stylistyczne, różniące się od środków charakterystycznych tradycyjnym formom poszczególnych stylów. We współczesnym Internecie istnieje jednak pełna dyferencjacja stylowa i różne treści, w zależności od celu komunikacyjnego i sfery użycia, różnią się między sobą stylem w takim samym stopniu, jak ma to miejsce w rzeczywistości pozawirtualnej. Powyższa uwaga dotyczy wszystkich języków nowożytnych, jednak język białoruski znajduje się w sytuacji wyjątkowej, bowiem jest wykorzystywany powszechniej w rzeczywistości wirtualnej niż pozawirtualnej. Internauci mają możliwość swobodnej modulacji rzeczywistości wirtualnej. Część z nich wykorzystuje to do tworzenia, głównie za pomocą portali społecznościowych, kręgu znajomych, którzy na co dzień posługują się językiem białoruskim[1]. W rzeczywistości pozawirtualnej, w której językiem kontaktów codziennych większości Białorusinów jest jednak język rosyjski, tak określony dobór znajomych jest trudny do zrealizowania. W sieci łatwiejszy jest też dostęp do białoruskojęzycznej informacji, literatury i materiałów do nauki. Internet jest więc dla języka białoruskiego sferą, która zabezpiecza mu możliwość swobodnego rozwoju wszystkich stylów funkcjonalnych w większym stopniu, niż inne, pozawirtualne sfery komunikacyjne.

*Anna Siwirska*

**Functional Styles in Contemporary Belarusian**

A b s t r a c t

This article examines the development of functional styles in the Belarusian language. The author presents a contemporary style differentiation based on the example of new genres of texts that function on the Belarusian Internet and discusses in detail possibilities for the development of colloquial, artistic, scientific, official and journalistic styles in virtual reality.

[1] Т. Р а м з а, *Между реальностью и игрой или "новые" носители беллорусского языка и их речь* [w] *Język i tekst w ujęciu strukturalnym i funkcjonalnym: księga jubileuszowa dedykowana Profesorowi Aleksandrowi Kiklewiczowi z okazji 60. Urodzin*, pod redakcją Arkadiusza Dudziaka i Joanny Orzechowskiej, Olsztyn 2017, s. 359.

**Юры Грыбоўскі**
Варшава

# Беларускае праваслаўнае жыццё ў Генерал-губернатарстве (1940–1944)

У выніку паразы польскіх войск у верасні–кастрычніку 1939 г. значная частка даваеннай польскай дзяржавы апынулася пад нямецкай акупацыяй. Германскія ўлады ўвялі тут новы тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел. У кастрычніку 1939 г. было створанае Генерал-губернатарства (ГГ), у склад якога ўвайшлі наступныя дыстрыкты: Кракаўскі, Варшаўскі, Люблінскі і Радамскі, а летам 1941 г. – утвораны Галіцыйскі дыстрыкт з цэнтрам у Львове. Тэрыторыя Генерал-губернатарства была аддзелена ад III Рэйха мытнай мяжой, таксама яна мела ўласную валюту. Палітыка акупацыйных уладаў адносна насельніцтва Генерал-губернатарства вызначалася жорсткай эканамічнай эксплуатацыяй і масавым тэрорам. Вярхоўную ўладу над Генерал-губернатарствам Адольф Гітлер даручыў Гансу Франку, рэзідэнцыя якога месцілася ў Кракаве. Генерал-губернатарства займала значную частку даваеннай польскай дзяржавы. У яго межах у сярэдзіне 1941 г. пражывала звыш 16 мільёнаў чалавек. Характэрнай рысай грамадства ГГ была нацыянальная разнароднасць. Побач з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей фігуравалі таксама беларусы. З нямецкіх крыніц вынікае, што ў 1942 г. на тэрыторыі Генерал-губернатарства жыло 10 тысяч беларусаў, і яны знаходзіліся на пятым месцы пасля палякаў, украінцаў, габрэяў і расіян[1].

Немцы мусілі лічыцца са стракатым нацыянальным складам акупаваных абшараў. Стаўленне акупантаў у дачыненні да розных нацыянальных груп не было аднолькавым, што адпавядала старажытнаму прынцыпу “падзяляй і ўладар”. Гэта палітыка знайшла сваё адлюстраванне ў стаўленні акупантаў да мясцовых беларусаў. Гэтаксама як і іншыя “негабрэі”, беларусы ў ГГ мелі з пункту гледжання нацысцкай расавай антрапалогіі “нацыянальную ці племянную прыналежнасць”, з гэтай прычыны ім, як грамадзянам колішняй польскай дзяржавы, прызнаваліся некаторыя правы. Пры гэтым у культурных і рэлігійных справах яны – разам з украінцамі і рускімі – атрымлівалі свабоду большую, чым палякі. Гэтым нацыянальным групам была дазволена пэўная арганізацыйна-культурная аўтаномія, якой яны былі пазбаўлены ў да-

[1] *Жыхарства ў Генэральнай Губэрніі,* “Раніца” 1942, 1 лютага, с. 3.

ваенны час. Дзеянні акупантаў былі накіраваны на распальванне ў грамадстве негатыўных настрояў праз наданне непалякам пэўных “прывілеяў” у параўнанні з польскім насельніцтвам у культурна-асветніцкай, эканамічнай і рэлігійнай сферах. Фаварызацыя адных і прыцісканне іншых павінна было паглыбляць і распальваць нацыянальныя антаганізмы, што мусіла спрычыніцца да аблягчэння акупантам больш спраўнага кіравання на падпарадкаваных тэрыторыях. Асяродкамі нацыянальна-культурнай актыўнасці былі камітэты самадапамогі, якія дзейнічалі пад пільным наглядам акупацыйных улад. Новую палітычную кан’юнктуру не маглі не выкарыстаць мясцовыя беларускія нацыянальныя дзеячы. Супрацоўніцтва беларускіх дзеячаў з акупантам падчас Другой сусветнай вайны ацэньваецца даследчыкамі па-рознаму. Належыць разглядаць гэту з’яву ў кантэксце тагачасных палітычных і міжнародных рэаліяў. Важным імпульсам для супрацоўніцтва беларускіх дзеячаў з акупантам было памкненне да нацыянальнай эмансіпацыі ў акупаванай Польшчы, што мусіла пракласці дарогу да незалежнасці. Новая рэчаіснасць, якая запанавала ў краіне пасля верасня 1939 г., з пункту гледжання беларускіх дзеячаў давала ім шанец на паляпшэнне ўласнага становішча. Парадаксальна, што жыццё агульнай масы беларускага жыхарства стала змаганнем за выжыванне, але затое яны маглі карыстацца адноснай культурна-асветніцкай і рэлігійнай свабодай. Нельга не адзначыць, што ўвогуле беларускі рух пад нямецкай акупацыяй апынуўся ў лепшай сітуацыі, чым гэта было да 1939 г. Такім чынам, супрацоўніцтва беларускіх дзеячаў з акупантамі было, з аднаго боку, наступствам нацыянальнай палітыкі ўладаў міжваеннай Польшчы, з другога – вынікам палітыкі III Рэйха на захопленых усходніх абшарах.

З дазволу акупацыйных улад у чэрвені 1940 г. быў зарэгістраваны Беларускі камітэт у ГГ (старшыня лекар Мікалай Шчорс). Сядзіба гэтай арганізацыі месцілася ў Варшаве (вул. Ксёнжэнца, д. 4, кв. 7), а ў іншых мясцовасцях (Бела-Падляска і Кракаў) былі створаны філіі. У сакавіку 1942 г. да арганізацыі належала ўжо каля 6 тысяч чалавек, большасць якіх пражывала ў Варшаве. У арганізацыю запісваліся не толькі беларусы, але таксама прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў (перадусім палякі), якія па кан’юнктурных прычынах дэкларавалі беларускую нацыянальнасць. Паўнамоцтвы Беларускага камітэта былі моцна абмежаваныя, статут жа ягоны ствараўся пад дыктоўку Галоўнага аддзела ўнутраных спраў ГГ. Арганізацыя мусіла займацца забеспячэннем насельніцтва харчаваннем, адукацыяй, а таксама дапамогай уцекачам, эвакуяванаму насельніцтву (асабліва з тэрыторыі Заходняй Беларусі, далучанай у кастрычніку 1939 г. да Савецкага Саюза) і членам сем’яў ваеннапалонных. Акрамя таго, Беларускі камітэт праводзіў актыўную культурна-асветніцкую працу, сярод іншага арганізуючы г. зв. суботнія вечарыны для сяброў арганізацыі, на якіх чыталіся рэфераты на гістарычныя і культуралагічныя тэмы, а таксама прысвечаныя актуальнаму

становішчу Беларусі. Дзейнасць Беларускага камітэта ў ГГ ужо была прадметам нашых ранейшых даследаванняў[1].

У дадзенай публікацыі засяродзімся на беларускай дзейнасці ў галіне арганізацыі царкоўнага жыцця. Паводле веравызнання значную частку беларусаў у ГГ складалі праваслаўныя. Неўзабаве менавіта Праваслаўная царква стане адным з галоўных аб'ектаў дзейнасці мясцовага беларускага актыву ў Генерал-губернатарстве. Практычна з першых дзён існавання Беларускага камітэта яго кіраўніцтва рупілася пра тое, каб забяспечыць вернікам належную духоўную апеку. У сувязі з гэтым варта больш уважліва прааналізаваць становішча Праваслаўнай царквы ў ГГ. Колькасць праваслаўных вернікаў на тэрыторыі Генерал-губернатарства складала каля 300 тысяч чалавек. У даваенны перыяд Праваслаўная царква ў Польшчы карысталася аўтакефальным (незалежным) статусам. Аднак пасля вераснёўскіх падзеяў 1939 г. яна падзяліла лёс дзяржавы. Структуры Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (ПАПЦ) былі ліквідаваныя ў выніку дзеянняў акупантаў. Немцы не лічыліся з незалежным статусам Праваслаўнай царквы ў Польшчы і прыступілі да стварэння новай царкоўнай арганізацыі, якая больш адпавядала іх палітычным мэтам. У лістападзе 1939 г. кіраўнік ПАПЦ мітрапаліт Дзіянісій (Валядзінскі) быў адхілены акупантамі ад кіравання царкоўнымі справамі і накіраваны пад нагляд гестапа ў Атвоцк. Часовае кіраванне Праваслаўнай царквой у ГГ было даручана берлінскаму мітрапаліту Серафіну, які быў іерархам Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Сярод вышэйшых чыноўнікаў III Рэйха выявіліся рознагалоссі адносна стаўлення да арганізацыі праваслаўя на разгляданай тэрыторыі. Міністэрства па справах рэлігійных вызнанняў выказвалася за далучэнне Праваслаўнай царквы ў Генерал-губернатарстве да Берлінскай епархіі Рускай праваслаўнай царквы за мяжой. Адрозную пазіцыю займалі іншыя дзяржаўныя ўстановы (МЗС) і дзеячы НСДАП. У спрэчцы таксама прынялі ўдзел функцыянеры СД, ды Г. Франк, кіраўнік Генерал-губернатарства. Урэшце пераважыў погляд, што трэба захаваць статус Праваслаўнай царквы ў Генерал-губернатарстве незалежны ад царкоўнага цэнтра ў Берліне, як варыянт, найбольш адпаведны інтарэсам III Рэйха на Усходзе. У 1940 г. была створаная Аўтакефальная праваслаўная царква ў Генерал-губернатарстве (АПЦ Генерал-губернатарства), на чале якой стаў мітрапаліт Дыянісій, які мусіў падпісаць дэкларацыю аб лаяльнасці да акупантаў[2]. У склад Аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Генерал-губернатарстве ў 1940 г. уваходзілі наступныя епархіі: Варшаўска-Радамская, Кракаўска-Лемкаўская (з 1941 г. Кракаўска-Лемкаўска-Львоўская) і Холмска-Падляшская архіяпархія[3].

---

[1] Гл.: Ю. Грыбоўскі, *Беларускі камітэт у Генерал-губернатарстве (1940–1945 гг.)*, „Arche" 2017, nr 5, s. 17–46.

[2] М. Шкаровский, *Крест и свастика: Нацистская Германия и Православная Церковь*, Москва 2007, с. 84–85.

[3] K. Urban, *Kościół prawosławny w Polsce 1945–1970*, Kraków 1996, s. 58–59; A. Mironowicz, *Kościół prawosławny w Polsce*, Białystok 2006, s. 636–637.

Праваслаўная царква ў Генерал-губернатарстве была нацыянальна разнастайным (украінцы, расіяне, беларусы і іншыя) асяродкам. Паасобныя нацыянальныя групы намагаліся выкарыстаць яе для ўласных мэтаў, у той час як палітыка III Рэйха адносна праваслаўя грунтавалася на прынцыпе "падзяляй і ўладар". Рабіліся намаганні, скіраваныя на раздрабленне царкоўнай арганізацыі паводле нацыянальнай прыкметы, што мусіла прадухіліць узнікненне патэнцыяльнай апазіцыі. Вынікі такой палітыкі яскрава бачны ў акупаванай Варшаве, дзе пры мітрапалітарным саборы былі створаны адразу дзве парафіі – украінская і руская. Акрамя саступак на карысць украінцаў і рускіх (найбольш шматлікіх нацыянальных груп сярод праваслаўных у ГГ) акупанты дазволілі таксама беларусам стварыць унутры АПЦ Генерал-губернатарства ўласныя царкоўныя структуры, ды праводзіць дзейнасць, якая мела на мэце беларусізацыю царкоўнага жыцця там, дзе былі вернікі беларускай нацыянальнасці. Мітрапаліт Дыянісій апынуўся ў вельмі цяжкай сітуацыі, калі, з аднаго боку, ён імкнуўся да захавання адзінства Царквы як інстытута, з другога ж мусіў дбаць пра добрыя ўзаемаадносіны з акупантамі і ісці насустрач пажаданням нацыянальных дзеячаў, што з імі супрацоўнічалі. Восенню 1940 г. пры Беларускім камітэце ў Варшаве была створаная Беларуская царкоўная камісія [старшыня Аляксандр Шыла (з кастрычніка 1943 г. Антон Краскоўскі), сакратар Б. Сыраб], якая занялася справай уніфікацыі беларускамоўных літургічных тэкстаў. У верасні 1940 г. дэлегацыя БК на чале з М. Шчорсам накіравала мемарандум да мітрапаліта Дыянісія, у якім пастулявала патрэбу стварэння ў Варшаве беларускага праваслаўнага прыходу. У адказ на зварот беларускіх дзеячаў кіраўнік АПЦ Генерал-губернатарства выказаў згоду на заснаванне беларускага прыходу Увядзення Багародзіцы ў храм, што ўзнік на Саскай Кэмпе (вул. Парыжская, д. 27)[1]. Першапачаткова беларускі прыход фармальна быў філіяй мітрапалітарнага сабору Раўнаапостальнай Марыі Магдалены, але пазней ён функцыянаваў самастойна. Першым святаром гэтага прыходу стаў айцец архімандрыт Філафей (Уладзімір Нарко), выпускнік факультэта праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўніверсітэта. Гэты святар увайшоў таксама ў склад Варшаўскай духоўнай кансісторыі[2]. Вядомае таксама прозвішча царкоўнага старасты, якім быў А. Краскоўскі[3]. Стаўленне ачольніка Праваслаўнай царквы ў ГГ мітрапаліта Дыянісія да беларускіх пачынанняў было вельмі прыхільным. Неаднаразова іерарх наведваў беларускую парафію і адпраўляў набажэнствы. Першая такая багаслужба адбылася ў 1940 г. на прыстольнае свята парафіі (4 снежня), пасля якой адбыўся ўрачысты банкет з удзелам праваслаўных святароў і вернікаў – сяброў камітэта. Акрамя таго,

[1] *На шляху да сваей царквы*, „Раніца" 1942, 13 красавіка, с. 3.
[2] *Першы беларускі архірэй*, „Раніца" 1942, 10 студзеня, с. 2.
[3] *На шляху да сваей царквы,* „Раніца" 1942, 13 красавіка, с. 3.

у фэсце ўдзельнічаў як прадстаўнік беларускага каталіцкага духавенства кс. Вінцэнт Гадлеўскі. Святар ад імя беларусаў-каталікоў падзякаваў мітрапаліту Дыянісію за наведанне беларускай царкоўнай урачыстасці і разуменне патрэбаў беларускіх вернікаў. Прынамсі, ён падкрэсліў, што праваслаўныя беларусы Варшавы знаходзяцца ў значна лепшай сітуацыі, чым іх браты каталіцкага веравызнання, паколькі апошнія "сніць аб тым не могуць, каб да іх прыехаў польскі біскуп, адправіў ім імшу і быў разам з імі"[1]. Можна меркаваць, што ўладыка, дапамагаючы беларусам, імкнуўся захаваць пэўную супрацьвагу ў дачыненнях да ўкраінскіх дзеячаў, якія пры падтрымцы нямецкіх улад дамагаліся ад іерарха фарсавання ўкраінізацыі царкоўнага жыцця. У згаданы час на тэрыторыі ГГ знаходзіўся яшчэ адзін духоўнік-беларус – архімандрыт Афанасій (Мартас). Аднак святар не браў непасрэднага ўдзелу ў жыцці праваслаўных беларусаў, бо яшчэ ў лютым 1940 г. ён быў накіраваны царкоўнымі ўладамі ў Туркавіцы (на Холмшчыне), дзе працаваў пры аднаўленні жаночага манастыра[2].

Беларуская дзейнасць унутры Праваслаўнай царквы ў Генерал-губернатарстве праходзіла ў цяні ўкраінізацыі гэтага веравызнання. Уплыў беларусаў на Праваслаўную царкву ў Генерал-губернатарстве быў мізэрны ў параўнанні з тым, які аказвалі мясцовыя ўкраінскія дзеячы. Украінскі цэнтральны камітэт у Генерал-губернатарстве праводзіў дзейнасць, якая мела на мэце ўкраінізацыю царкоўнага жыцця. Акупантам было вельмі важна здабыць прыхільнасць украінскага насельніцтва, якое складала найбольш шматлікую нацыянальную групу сярод вызнаўцаў праваслаўя на тэрыторыі Генерал-губернатарства. У руках прыхільнікаў украінізацыі апынулася большасць найважнейшых царкоўных структур, уключна з адукацыйнымі. Дзеля патрэбаў АПЦ Генерал-губернатарства былі высвячаныя два новыя епіскапы-ўкраінцы: архіепіскап Іларыён (Агіенка) і архіепіскап Паладый (Выдыбіда-Рудэнка). Новыя епіскапы, якія разам з мітрапалітам Дыянісіем стварылі Сінод епіскапаў, былі праваднікамі ўкраінізацыі царкоўнага жыцця і актыўна падтрымлівалі дзеянні ўкраінскіх асяродкаў. Асабліва ўкраінская дзейнасць была бачная на тэрыторыі Холмска-Падляшскай епархіі, кіраўніком якой стаў вышэйзгаданы архіепіскап Іларыён. Да таго ж і Варшаўская духоўная кансісторыя была запоўненая асобамі ўкраінскай нацыянальнасці. Пасяджэнні гэтага органа вяліся на ўкраінскай мове. Абмяркоўвалася нават магчымасць абвяшчэння Украінскай аўтакефальнай царквы ў ГГ[3].

---

[1] Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ), ф. 5875, оп. 1, д. 11, л. 248.

[2] А р х і е п і с к а п  А п а н а с  (А. М а р т а с), *На ніве Хрыстовай: У пяцідзесятыя ўгодкі сьвятарства 1928–1978: Успаміны*, Нью Ёрк – Менск – Варшава 2005, с. 8.

[3] М. Ш к а р о в с к и й, *Крест и свастика...*, с. 95–113; J. S z i l i n g, *Kościoły chrześcijańskie w polityce niemieckich władz okupacyjnych w Generalnym Gubernatorstwie (1939–1945)*, Toruń 1988, s. 86; S. D u d r a, *Metropolita Dionizy (Waledyński) 1876–1960*, Warszawa 2010, s. 85.

Беларуская дзейнасць часам выклікала супраціў украінскага актыву, які трактаваў АПЦ Генерал-губернатарства як нацыянальна ўкраінскую структуру. Некаторыя пачынанні беларусаў байкатаваліся. Сінод АПЦ Генерал-губернатарства, у якім украінцы складалі большасць, некалькі разоў адмаўляўся высвяціць епіскапа-беларуса. Ішла гаворка пра святара прыходу св. Іаана Клімака на варшаўскай Волі архімандрыта Феафана (Пратасевіча), які, нягледзячы на адсутнасць прэтэнзій да ягонай асобы з боку акупацыйных уладаў, не быў высвечаны на епіскапа-вікарыя Варшаўска-Радамскай епархіі. Галоўнай прычынай адсутнасці згоды на хіратанію быў той факт, што гэты святар быў неўкраінскага паходжання[1]. Да пэўнага напружання дайшла таксама справа падчас арганізацыі царкоўных структур на паўднёвым Падляшшы. Кіраўніцтва камітэта і Беларускай царкоўнай камісіі зрабілі спробу арганізацыі беларускіх прыходаў у Белападляшскім павеце[2]. З дазволу немцаў у 1940 г. актыў Беларускага камітэта ў ГГ распачаў спробы беларусізацыі мясцовага царкоўнага жыцця. З гэтай мэтай у Белападляшскім павеце былі створаны "хатнія цэрквы": у Белай Падлясцы і Бубенях. Некаторыя мясцовыя святары (Мікалай Зімавец, Пётр Кунях) падтрымалі беларускую ініцыятыву[3]. У верасні 1940 г. беларуская дэлегацыя на чале з М. Шчорсам зрабіла візіт да мітрапаліта Дыянісія з мэтай атрымання згоды на стварэнне на Падляшшы беларускай епархіі і прызначэння біскупа-беларуса. 29 кастрычніка 1940 г. адбыўся сход філіі БК у Белай Падлясцы, на якім было прынятае рашэнне стварыць на тэрыторыі гэтага павета новы цэнтр царкоўнага жыцця. У сходзе прынялі ўдзел і прадстаўнікі праваслаўнага духавенства. Удзельнікі яго наважыліся аб'ехаць вёскі і сабраць подпісы ў падтрымку гэтай ідэі, а затым склікаць на 22 лістапада 1940 г. "кангрэс усіх падляшан". Гэтыя дзеянні сустрэлі супраціў царкоўнай іерархіі, якая прызнала іх супярэчнымі кананічнаму праву. 27 кастрычніка 1940 г. архіепіскап Іларыён пры пасярэдніцтве кансісторыі паінфармаваў кіраўніцтва БК, што ён заўсёды будзе прыхільна ставіцца да ўсіх патрэб беларусаў пры ўмове, што яны будуць яму прадстаўляцца кананічным чынам. Філія БК у Белай Падлясцы прааналізавала пытанне і 10 снежня 1940 г. звярнулася ў Варшаву з просьбай аб стварэнні хатняй царквы ў Белай Падлясцы. У сувязі з гэтым у лютым 1941 г. царкоўны суд Холмска-Падляшскай епархіі падаў скаргу ўладам Генерал-губернатарства на беларускіх дзеячаў, абвінавачваючы іх у дзеяннях, супярэчных кананічнаму праву. У гэтым лісце мы сярод іншага чытаем: "Цэнтр улады Холмшчыны і Падляшша даведваецца пра гэта [пра дзеянні беларусаў. – *Ю. Г.*] выпадкова і акружным шляхам. Да канца кастрычніка 1940 г. на тэрыторыі Падляшша не было нічога чутно пра беларусаў і іх

[1] A. M i r o n o w i c z, *Kościół prawosławny…*, s. 637.
[2] *На шляху да сваей царквы...*, с. 3.
[3] ГАРФ, ф. 5875, оп. 1, д. 11, л. 249 об.

просьбы рэлігійна-царкоўнага характару. Яго Прэасвяшчэнства мітрапаліт Дыянісій у сваёй афіцыйнай заяве ад 23 верасня 1940 г. у Генерал-губернатарства не згадаў пра беларусаў ніводным словам, а Холмска-Падляшскую епархію назваў чыста ўкраінскай. Як толькі прызначаны архіепіскап Холмшчыны і Падляшша Іларыён атрымаў хіратонію на епіскапа (20 кастрычніка 1940 г.), беларусы раптам пачалі актыўна ўдзельнічаць у рэлігійна-царкоўным жыцці. Аднак цяпер яны, на жаль, сышлі з кананічнага шляху, на якім знаходзіліся пад канец верасня 1940 г., калі звярнуліся да мітрапаліта Дыянісія са сваімі патрабаваннямі. Цяпер яны не накіравалі сваіх пажаданняў да архіепіскапа, што кіруе Холмска-Падляшскай епархіяй і адказвае за яе рэлігійна-царкоўнае жыццё, а самавольна пачалі дзейнічаць на рэлігійна-царкоўным абшары Падляшша. Удзельнікі сходу не паведамілі пра свае намеры і планы Яго Прэасвяшчэнства Іларыёну, архіепіскапу Холмшчыны і Падляшша. Яны не толькі свядома праігнаравалі епіскапа сваёй епархіі, але і выступілі супраць яго, калі вырашылі сабраць подпісы сярод праваслаўнага насельніцтва Белападляшскага абшару, каб на іх падставе запатрабаваць ад генерал-губернатара і мітрапаліта (епіскапа гэтай епархіі не згадана аніводным словам) стварэння новага цэнтра царкоўнага жыцця на тэрыторыі Белай Падляскі. Такім чынам, яны адкрыта дзейнічалі насуперак правілам (канону) Праваслаўнай царквы. <…> У той час як прадстаўнікі Беларускага саюза самапомачы збіралі подпісы і запрашалі людзей на кангрэс на 22 лістапада 1940 г., пашырыліся непраўдзівыя і падступныя весткі, прыдуманыя дзеля дыскрэдытацыі ў вачах вернікаў іх душпастыра, правялебнага архіепіскапа Іларыёна, як недастаткова праваслаўнага. Яны імкнуліся зручным дэмагагічным спосабам навязаць людзям погляд, што змена накінутага расіянамі вымаўлення царкоўнаславянскіх тэкстаў на ўласнае ўкраінскае з’яўляецца першым крокам да Уніі. Натуральна, што правялебны архіепіскап Іларыён усім членам кліру забараніў удзельнічаць у такім чынам рыхтаваным кангрэсе. Нягледзячы на гэта, некаторыя святары прымалі ўдзел у пасяджэннях гэтага некананічнага кангрэса. <…> Падсумоўваючы ўсё згаданае вышэй пра беларускія дзеянні на Падляшшы, нельга іх кваліфікаваць інакш, як толькі бунт супраць уласнага душпастыра, што асуджаецца Божымі і людскімі законамі. Нягледзячы на ўсё, правялебны архіепіскап Холмскі і Падляшскі ў дачыненні да сваіх непаслухмяных царкоўных дзяцей выступіў з сапраўды хрысціянскай і бацькоўскай любоўю. Ніводнага са святароў, якія былі ўблытаныя ў гэтыя некананічныя несумленныя дзеянні, ён не пазбавіў прыходу і прабачыў усім, хто, усвядоміўшы няправільнасць сваіх паводзін, выказалі шкадаванне”[1].

---

[1] Archiwum Akt Nowych (AAN), sygn. 205/3, k. 328–332 (ліст царкоўнага суда Холмска-Падляшскай епархіі пад назвай “Дзеянні беларусаў на Падляшшы – некананічныя дзеянні, якія сеюць хаос і дэзарганізацыю”, 21 лютага 1941 г.).

Епіскап Іларыён лічыў, што праваслаўныя святары, якія ўключыліся ў "беларускую кампанію", кіраваліся не нацыянальнымі меркаваннямі, а на самай справе, прыкідваючыся беларусамі, шукалі магчымасці для правядзення русафільскай і камуністычнай справы[1]. Больш за тое, уладыка пачаў пагражаць кананічным судом архімандрыту Філефею (Нарко), які апекаваўся беларускай праваслаўнай грамадой у Генерал-губернатарстве. Менавіта гэтага духоўніка епіскап Іларыён вінаваціў у падрыўной дзейнасці. Уладыка выклікаў таксама на допыт двух святароў з Белападляшскага павета, якія па даручэнні беларускага актыву займаліся зборам подпісаў на карысць беларускіх набажэнстваў. Пад ціскам іерарха святары адцураліся сваёй беларускасці і спынілі супрацоўніцтва з беларускімі дзеячамі. У прыватнай гутарцы з іншымі святарамі ўкраінскі біскуп адзначыў, што ён будзе бязлітасна змагацца з усімі, хто "будзе мяшацца ў справы ягонай епархіі"[2]. Пасля ўважлівага аналізу зместу згаданага дакумента можна зрабіць выснову, што сапраўдныя прычыны канфлікту крыліся ў спрэчцы адносна нацыянальнай прыналежнасці рэгіёна, пра што ўжо была гаворка раней. Беларускія дзеячы трактавалі ўлады Холмска-Падляшскай епархіі ў асобе архіепіскапа Іларыёна як правадніка ўкраінскіх нацыянальных інтарэсаў у змаганні за душы праваслаўнага насельніцтва на Падляшшы. У сувязі з гэтым яны пачалі самастойныя дзеянні, скіраваныя на адасабленне праваслаўных прыходаў на тэрыторыі Белападляшскага павета, што ў выніку мусіла прывесці да іх беларусізацыі. Аналізаваны канфлікт быў таксама прыкладам нацыянальных супярэчнасцяў у межах адной царквы на нацыянальна неаднародным абшары. Украінскія дзеячы разглядалі Праваслаўную царкву ў ГГ як частку ўкраінскага праваслаўя, таму праявы ў яе ўлонні беларусізацыі лічыліся непажаданымі.

Улады Генерал-губернатарства назіралі за беларуска-ўкраінскімі справамі на Падляшшы. У прынцыпе яны не адмаўлялі права беларусаў на ўласныя царкоўныя структуры, але захоўвалі ў дачыненні да іх далёкую дыстанцыю і чакалі ўзгаднення сваіх дзеянняў з царкоўнымі ўладамі[3]. Супраціў украінскага іерарха і адсутнасць трывалай сацыяльнай базы сярод мясцовага сялянства зрабілі немагчымым стварэнне беларускіх царкоўных структур на Паўднёвым Падляшшы. У выніку актыўная беларуская дзейнасць ва ўлонні царквы ў пазнейшы час абмяжоўвалася да Варшавы. Яе ўдзельнікі былі вымушаны адмовіцца да "экспансіі" ў дачыненні да мясцовага праваслаўнага насельніцтва на карысць забеспячэння духоўных патрэб праваслаўнай беларускай супольнасці ў сталіцы. У адрозненне ад непараўнальна большай украін-

[1] AAN, sygn. 205/3, k. 316–317 (нататка пад назвай "Беларускае пытанне", 5 лютага 1941 г.).
[2] ГАРФ, ф. 5875, оп. 1, д. 11, л. 248–249.
[3] AAN, sygn. 205/3, k. 316–317 (нататка пад назвай "Беларускае пытанне", 5 лютага 1941 г.).

скай актыўнасці, праявы беларускай дзейнасці ўнутры Праваслаўнай царквы ў ГГ не звярталі на сябе ўвагі польскага эміграцыйнага ўраду, які ўважліва сачыў за падзеямі, што адбываліся ў жыцці польскіх грамадзян праваслаўнага веравызнання ў акупаванай Польшчы[1].

Нягледзячы на вышэйзгаданыя непаразуменні, пасля заняцця Беларусі вермахтам у 1941 г. беларуская дзейнасць ва ўлонні Праваслаўнай царквы ў Генерал-губернатарстве ажывілася. Мясцовыя беларускія дзеячы зрабілі спробы пашырэння юрысдыкцыі мітрапаліта Дыянісія на тэрыторыі, што належалі перад 1939 г. да ПАПЦ. Мэты самога ўладыкі і беларускіх дзеячаў у вялікай ступені супадалі. Іерарх імкнуўся да пашырэння сваёй кананічнай улады на Украіну і Беларусь, у той час як беларусы звязвалі з ім надзею на стварэнне Беларускай праваслаўнай царквы, незалежнай ад Масквы. Беларускія дзеячы надавалі вялікую ўвагу супрацоўніцтву з мітрапалітам Дыянісіем у справе аднаўлення зруйнаванага савецкімі ўладамі рэлігійнага жыцця ў Беларусі, а таксама правядзення беларусізацыі рэлігійнага жыцця на захопленых немцамі беларускіх тэрыторыях. Больш за тое, у Беларусі не хапала іерархаў, здольных да рэалізацыі згаданых мэтаў. Імкненні беларускіх дзеячаў і ўладыкі супадалі: першыя – намагаліся стварыць на бацькаўшчыне Беларускую праваслаўную царкву, незалежную ад Масквы, а другі – падпарадкаваць сваёй юрысдыкцыі праваслаўе на акупаваных немцамі ўсходніх абшарах. У сувязі з гэтым мітрапаліт Дыянісій аддэлегаваў у Менск архімандрыта Уладзіміра Фінькоўскага. Прыкладаліся таксама намаганні па высвячэнні епіскапаў-беларусаў дзеля патрэб Беларускай праваслаўнай царквы. Праўда, жаданні мітрапаліта Дыянісія ніколі не былі задаволены нямецкімі ўладамі, якія забаранілі ўладыку ўмешвацца ў царкоўныя справы па-за межамі ГГ[2].

9 верасня 1941 г. пад кіраўніцтвам ачольніка АПЦ Генерал-губернатарства ў Варшаве была ўтвораная Беларуская царкоўная рада (БЦР), якая мусіла выпрацаваць прынцыпы набыцця Праваслаўнай царквой у Беларусі самастойнасці. Пасаду намесніка кіраўніка Рады заняў айцец архімандрыт Філафей (Нарко). У склад гэтага органа ўвайшлі таксама Антон Краскоўскі і Барыс Стрэльчык. Меркавалася, што гэты орган будзе прызнаны акупантамі ў якасці дарадчага ў праваслаўных справах у Беларусі. БЦР накіравала мемарандум акупацыйным уладам, у якім прапаноўвалася падпарадкаванне беларускіх праваслаўных прыходаў мітрапаліту Дыянісію. Таксама пастулявалася неабходнасць высвячэння трох епіскапаў-беларусаў: Феафана (Пратасевіча), Філафея (Нарко) і Афанасія (Мартаса)[3]. У лістападзе 1941 г. архімандрыт Філафей выехаў у Беларусь, дзе быў высвечаны на епіскапа. Прапанову БЦР пры-

[1] *Stan i zagadnienia główne Kościoła prawosławnego w Polsce*, Londyn 1943, s. 4–6.

[2] *Блажэньнейшы мітрапаліт Дзяніс на асноведзі Беларускае Царкоўнае Справы*, "Раніца" 1942, 25 сьнежня, № 47–48, с. 7–8; Л. Р э й н, *Праваслаўная царква ў Беларусі за нямецкай акупацыяй (1941–1944)*, "Архэ" 2008, № 5, с. 279.

[3] A. M i r o n o w i c z, *Kościół prawosławny…*, s. 644.

няў таксама архімандрыт Афанасій, які пакінуў манастыр у Туркавіцах і на пачатку 1942 г. накіраваўся ў Менск, дзе ў сакавіку гэтага ж года быў таксама высвечаны на епіскапа[1]. У знак прызнання заслуг гэтага святара варшаўскія праваслаўныя беларусы падаравалі высвечаным іерархам каштоўныя панагіі. Абодва ўладыкі ўключыліся ў аднаўленне праваслаўнага жыцця на занятых немцамі тэрыторыях Беларусі. Трэба сказаць, што беларускія праваслаўныя дзеячы ў Варшаве спрычыніліся да аднаўлення праваслаўнага жыцця ў Беларусі[2]. Тым часам зробленыя мітрапалітам Дыянісіем спробы ўзяць пад сваю юрысдыкцыю Праваслаўную царкву ў акупаванай Беларусі скончыліся беспаспяхова. Акупацыйныя ўлады цвёрда забаранілі ўладыку ўмешвацца ў справы праваслаўя на ўсходзе[3].

Пасля выезду ў Беларусь айца Філафея новым святаром беларускага прыходу ў Варшаве быў прызначаны айцец Пётр Дубовік. Аднак гэты святар не прыступіў да выканання сваіх абавязкаў, бо знаходзіўся ў Германіі. У сувязі з гэтым набажэнствы для беларусаў часова праводзілі айцец Іван Каваленка (святар рускага прыходу), айцец Афанасій Семянюк (вікарый прыходу Страсцей Гасподніх і аканом мітрапалітарнага дома) і айцец Юрый Латоцкі[4]. Толькі ў сакавіку 1942 г. па прапанове кіраўніцтва БК мітрапаліт Дыянісій прызначыў новым пробашчам айца Фёдара Барэцкага. Гэты святар быў украінцам і паходзіў з Бродскага павета Тарнопальскага ваяводства[5]. Духоўнік адпраўляў набажэнствы з дапамогай дзяка Ананія Герасімчука і псаломшчыка Мікалая Ждановіча. На прыходскае свята (4 снежня) набажэнствы штогод праводзіў мітрапаліт Дыянісій[6]. Пра далучэнне да беларускага руху абвясцілі таксама айцец Пятро Сарока і айцец Мікалай Рудакоўскі, якія час ад часу бралі ўдзел у набажэнствах у беларускім прыходзе ў Варшаве. Беларусы ў Варшаве прымалі таксама ўдзел у праваслаўным жыцці ў акупаванай Беларусі. У студзені і лютым 1942 г. адбываўся візіт у Менск беларускай праваслаўнай камісіі Беларускага камітэта. У складзе гэтай дэлегацыі ў Менск прыбыў архімандрыт Афанасій (Мартас), будучы епіскап. Вясной 1942 г. Варшаву наведалі епіскап Філафей (Нарко), Афанасій (Мартас) і епіскап Венядзікт (Сеўба), якія былі ўрачыста прывітаныя кіраўнікамі камітэта. Два першыя іерархі прынялі ўдзел у адзначэнні свята абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. З нагоды гэтага свята 25 сакавіка 1942 г. мітрапаліт Дыянісій уганараваў іконамі і ўхваленнямі кіраўніка БК

---

[1] А р х і е п і с к а п А п а н а с (А. М а р т а с), *На ніве Хрыстовай...*, с. 70–71.

[2] *Зь беларускага царкоўнага жыцьця ў Варшаве*, „Раніца" 1942, 1 лютага, с. 3.

[3] A. M i r o n o w i c z, *Kościół prawosławny…*, s. 650.

[4] *Зь беларускага царкоўнага жыцьця ў Варшаве*, „Раніца" 1942, 1 лютага, с. 3.

[5] G. S o s n a, A. T r o c - S o s n a, *Hierarchia i kler Kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX–XXI wieku*, Ryboły 2012, s. 130.

[6] *Блажэньнейшы мітрапаліт...*, s. 7–8; K. U r b a n, *Ksiądz Atanazy Semeniuk 1904–1996 (życie długie, trudne i ciekawe…)*, Warszawa 2007, s. 100.

М. Шчорса, яго намесніка М. Ждановіча і А. Шылу, старшыню царкоўнай камісіі. Вясной 1942 г. кіраўнік АПЦ Генерал-губернатарства выдаў распараджэнне, згодна з якім рэлігійныя патрэбы (хрышчэнні, шлюбы, пахаванні і г. д.) праваслаўныя беларусы, якія жылі ў Генерал-губернатарстве, маглі задавальняць выключна ў беларускім прыходзе, а не ў прыходах, што належалі іншым нацыянальнасцям. Беларуская царкоўная камісія пры Беларускім камітэце праводзіла ўлік сяброў арганізацыі праваслаўнага веравызнання. Было створанае таксама прыходскае бюро, якое займалася кантактамі з вернікамі. Наведнікі прымаліся штодзень у сінадальнай канцылярыі (вул. Зыгмунтоўская, д. 13)[1].

Восенню 1942 г. у Варшаве з ініцыятывы сяброў камітэта было створанае праваслаўнае брацтва. 19 верасня 1942 г. адбылося першае пасяджэнне ўправы Беларускага царкоўнага брацтва св. Юр'я, падчас якога былі абраныя сябры ўправы ў наступным складзе: айцец Ф. Барэцкі (старшыня), А. Краскоўскі (віцэ-старшыня), М. Ждановіч (сакратар), Башчанін (намеснік сакратара), А. Шыла (скарбнік). Згодна з традыцыяй Праваслаўнай царквы, апеку над брацтвам узяў на сябе мітрапаліт Дыянісій. Брацтва паставіла сабе за мэту: 1) развіццё і ажыўленне духоўнай асветы і рэлігійна-маральнага жыцця сярод праваслаўнага насельніцтва; 2) дзейнасць супраць сектантаў і іншых веравызнанняў, якія пасягаюць на Праваслаўную царкву; 3) спраўленне ўчынкаў хрысціянскай міласэрнасці і г. д.[2] Гэтая арганізацыя ўзялася за справу беларусізацыі Праваслаўнай царквы, а таксама за паглыбленне нацыянальнай і рэлігійнай тоеснасці праваслаўных беларусаў. Прыярытэтным у дзейнасці было прызнана выданне праваслаўнай літаратуры, перш за ўсё жыццяў беларускіх святых, гістарычных нарысаў славутых манастыроў, а таксама цудатворных абразоў[3].

Брацтва выкарыстоўвала сінадальную друкарню Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі. Трэба прызнаць, што выдавецкая дзейнасць брацтва прынесла бачны эфект. У 1942 і 1943 гг. былі выдадзеныя пабеларуску *Беларускі праваслаўны малітвеньнік*, *Праваслаўны месяцаслоў на 1942 г.* і *Беларускі праваслаўны патэрык*. Гэтыя выданні былі першымі ў гісторыі Праваслаўнай царквы такімі аб'ёмнымі малітоўнікамі на беларускай мове і ўтрымлівалі ўсе асноўныя малітвы, неабходныя для штодзённага карыстання вернікамі (тэкст складаўся сярод іншага з сімвала веры, падзячных, ранішніх і вячэрніх малітваў). Асабліва заслугоўвае ўвагі *Беларускі праваслаўны малітвеньнік*, які ўтрымліваў наступныя малітвы: малітва пачатковая, малітва Святому Духу, Анёльская песня, Праслаўленне Бога, Малітва да Найсвяцейшай Тройцы, Малітва Гасподня, Анельскае прывітанне Божай Мацеры, Малітва за бацькаўшчыну, Вызнанне Праваслаўнае Веры, Дзесяць запаветаў

[1] *З Беларускага Царкоўнага Жыцьця. Карэспандэнцыя з Варшавы,* „Раніца" 1942, 29 сакавіка – 5 красавіка, № 11–12, с. 5.

[2] *Нармальны статут царкоўных брацтваў*, Варшава 1942.

[3] *Беларуская хроніка: Варшава,* „Раніца" 1942, 4 кастрычніка, № 37, с. 3.

Божых, Ранішняя малітва Св. Макара Вялікага, Вячэрняя малітва, Малітва да Анёла Храніцеля, Малітва за жывых, Малітва за памерлых, Пахвала Божай Мацеры, Малітва да Святога Крыжа, Канчатковая малітва, Малітва перад ежай, Малітва пасля ежы, Малітва перад вучэннем, Малітва пасля вучэння, Малітва да Святога Апекуна, Малітва да Багародзіцы, Малітва перад прычашчэннем, Вялікодная песня, Вялікапостная малітва Св. Яфрэма Сырына[1].

На падставе параўнання вышэйзгаданай літаратуры з царкоўнымі выданнямі міжваеннага часу можна сцвердзіць, што іх укладальнікі выкарысталі папярэдні досвед. Малітоўнікі можна было набыць у беларускім прыходзе, у сядзібе камітэта, а таксама ў сінадальнай краме. Выдавецкую дзейнасць меркавалася працягнуць. У беларускай прэсе з'явілася інфармацыя, што ідзе падрыхтоўка да выдання другой часткі малітоўніка[2]. Брацтва св. Юр'я ў Варшаве было першай беларускай свецкай праваслаўнай арганізацыяй падчас Другой сусветнай вайны. Беларускія дзеячы звязвалі з дзейнасцю брацтва вялікія надзеі на беларусізацыю праваслаўнага жыцця ў Беларусі. Таму яно невыпадкова заклікала сваіх сяброў праваслаўнага веравызнання, каб тыя запісваліся ў брацтва. Ягоныя дзеячы апелявалі да гісторыі і лічылі сваю арганізацыю працягам традыцый праваслаўных брацтваў у Вялікім Княстве Літоўскім. Таксама заахвочвалася заснаванне брацтваў пры прыходах на тэрыторыі Генерал-губернатарства і па-за ягонымі межамі. Пра гэта красамоўна сведчаць словы А. Краскоўскага: „Мы маем абавязак парупіцца аб нашым бедным беларускім браце, аказваць яму матэрыяльную помач, падаць брацкую руку ў ягоных цяжкіх перыядах жыцця. Гэты абавязак перадалі нам нашыя дзяды ў сваіх прыкладах. Ён павінен з'яўляцца для нас таксама святым, як святым для кожнага патрыёта з'яўляецца ягоная родная мова, яго сям'я, народ і бацькаўшчына. <...> Гэтакую арганізаваную працу дасць нам і загварантуе – арганізацыя! А канкрэтна – Царкоўнае брацтва. Вось жа дзеля таго звяртаемся да ўсіх праваслаўных беларусаў, да ўсіх тых, каторым не чужым ёсць наш царкоўны звон, хто быў хрышчаны як праваслаўны і ў царкоўнай агародзе пачуваецца сваім, каб арганізаваліся і запісваліся ў царкоўныя брацтвы, каб нясьлі свае супольныя ахвяры кажнамесячна ў меры магчымасцяў сваю працу на карысць свайго бліжняга, каб рупіліся аб актывізацыі царкоўнага і народнага жыцця. Гэты абавязак ляжыць перадусім на настаяцелях прыходаў, манастыроў, ці іншых царкоўных інстытуцыях, на актыўным беларускім царкоўным элеменце"[3].

З мэтай арганізацыі новых брацтваў у 1942 г. у Варшаве накладам Беларускага камітэта быў надрукаваны *Нармальны статут царкоўных*

---

[1] *Беларускі праваслаўны малітвеньнік*, Варшава 1943, с. 1.

[2] *З царкоўнага жыцьця*, „Раніца" 1944, 9 студзеня, № 1–2, с. 3.

[3] А. Краскоўскі, *Дабрачынная царкоўная дзейнасьць на Беларусі ў гісторыі й сучаснасьці*, „Раніца" 1942, 4 кастрычніка, № 37, с. 3.

*брацтваў*, які меркавалася распаўсюджваць сярод землякоў на радзіме і за мяжой[1].

У 1943 г. у жыцці праваслаўных вернікаў у ГГ (у тым ліку беларусаў) адбыліся важныя падзеі. У той час мітрапаліт Дыянісій прызначыў беларуса айца Пятра Сароку душпастырам варшаўскіх шпіталяў[2]. У траўні 1943 г. у Варшаве была адчынена духоўная семінарыя, у якую прынялі каля 70 семінарыстаў[3]. Паводле задумы, семінарыя павінна была мець шматнацыянальны характар. Беларускія дзеячы звязвалі з ёй вялікія надзеі на падрыхтоўку беларускага духавенства. Лічылася, што адкрыццё сталічнай семінарыі спрычыніцца да павелічэння колькасці беларускіх святароў, бо семінарыя ў Халме неахвотна рабіла набор навучэнцаў звонку ўкраінскіх асяродкаў. Невыпадкова беларуская прэса з гонарам пісала пра тое, што праграма навучання прадугледжвае сярод іншага і вывучэнне беларускай мовы[4]. Сярод выкладчыкаў семінарыі былі сябры Беларускага камітэта В. Стрэльчык (філасофія), М. Шчорс (пастарская медыцына) і М. Ждановіч (беларуская мова і літаратура). Падчас урачыстага адкрыцця семінарыі 4 траўня 1943 г. В. Стрэльчык як прадстаўнік беларускага боку прачытаў на беларускай мове рэферат пад назвай *Значэнне і месца філасофскіх навук*[5]. Беларускія дзеячы разглядалі Варшаўскую семінарыю як адзін з цэнтраў навучання духавенства дзеля патрэбаў беларускага праваслаўя. У сувязі гэтым беларускі актыў па-за межамі ГГ заахвочваўся да пошуку адпаведных кандыдатаў на семінарыстаў. Не выпадкова ў красавіку 1943 г. кіраўнік Беларускага аб'яднання ў Генеральнай акрузе "Латвія" Кастусь Езавітаў звярнуўся да кіраўнікоў рэгіянальных філій арганізацыі з прапановай пашукаць сярод латгальскіх беларусаў праваслаўнага веравызнання кандыдатаў у беларускую секцыю Варшаўскай духоўнай семінарыі[6].

На жаль, не захаваліся звесткі наконт колькаснага складу беларускай праваслаўнай супольнасці ў Варшаве. На падставе аналізу тагачаснай прэсы, а таксама ўспамінаў відавочцаў, беларускую парафію наведвала некалькі сот вернікаў. Кіроўны склад, найбольш актыўная і ініцыятыўная частка парафіян належала да Беларускага камітэта. Характэрнай рысай рэлігійнага жыцця беларускіх вернікаў было выкарыстанне роднай мовы ў царкоўнай практыцы. Набажэнствы адбываліся на царкоўнаславянскай мове, але казанні святары рабілі па-беларуску. У беларускай варшаўскай парафіі рэгулярна адпраўляліся ўрачыстыя набажэнствы з нагоды нацыянальных святаў беларусаў: 25 сакавіка – на дзень абвяшчэння Беларускай народнай рэспублікі, і 21 ліс-

[1] *Нармальны статут...*, с. 2.
[2] *З царкоўнага жыцьця*, „Раніца" 1944, 9 студзеня, № 1–2, с. 3.
[3] S. D u d r a, *Metropolita Dionizy...*, s. 84.
[4] *Мяшаная Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя ў Варшаве*, „Раніца" 1943, 21 сакавіка, с. 2.
[5] *Адчыненьне Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі*, „Раніца" 1943, 6 чэрвеня, с. 2.
[6] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 458, воп. 1, спр. 17, л. 20.

тапада – на дзень пачатку Слуцкага паўстання. Згаданыя багаслужбы адбываліся ва ўзнёслым і патрыятычным настроі. Захаваліся згадкі пра набажэнства ў праваслаўным прыходзе 21 лістапада 1943 г., якое правёў а. Ф. Барэцкі пры дапамозе айцоў А. Семянюка і П. Сарокі. Апошні прамовіў палымянае казанне, у якім заклікаў да захавання беларускага патрыятызму і патрэбы ахвяравання на карысць бацькаўшчыны[1]. На Раство ў 1944 г. прыход у Варшаве наведалі чарнігаўскі епіскап Ніканор (Абрамовіч), іерарх Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, а таксама наваградскі епіскап Афанасій (Мартас). Апошні 9 студзеня высвеціў у дзякі Вінцэнта Жука. У той жа час кіраўніцтва Беларускага камітэта выступіла з просьбай да мітрапаліта Дыянісія пра павышэнне святара беларускага прыходу айца Ф. Барэцкага да сану протапрэсвітара[2].

Варта дадаць, што беларуская праваслаўная супольнасць утрымлівала кантакты са сваімі родзічамі каталіцкага веравызнання. У Варшаве падчас нямецкай акупацыі існавала беларуская каталіцкая грамада. На жаль, не захавалася шмат звесткаў наконт рэлігійнага жыцця беларускіх каталікоў у Генерал-губернатарстве. Дадзены эпізод гісторыі яшчэ патрабуе грунтоўнага даследавання. Вядома аднак, што беларуская актыўнасць сярод каталікоў распачалася з прыездам у Варшаву кс. Пятра Татарыновіча. Духоўнік быў палымяным патрыётам, які ў міжваенны час чынна працаваў на беларускай рэлігійнай ніве. Дзякуючы яго намаганням пры філіі Беларускага камітэта ў Варшаве была створаная Беларуская каталіцкая камісія, якую сам ачоліў. Камісія займалася перакладам літургічнай літаратуры на беларускую мову. Кіраўніцтва камітэта хадайнічала перад уладамі Генерал-губернатарства і царкоўнымі ўладамі адносна стварэння беларускай каталіцкай парафіі і вылучэння святара беларускай нацыянальнасці, які мог бы апекавацца суайчыннікамі гэтага веравызнання. Нягледзячы на згоду на гэта з боку мітрапалітарнай курыі ў Варшаве, гэтая справа не атрымала падтрымкі ордэна марыянаў, да якога належаў кс. П. Татарыновіч. У гэтай сітуацыі кіраўніцтва Беларускага камітэта ў ГГ 7 лютага 1942 г. звярнулася ў Апостальскую Сталіцу з просьбай вырашэння гэтага пытання. У выніку 22 лютага 1942 г. Варшаўская мітрапалітарная курыя дазволіла кс. П. Татарыновічу ажыццяўляць апеку над католікамі-беларусамі ў Варшаве[3]. Набажэнствы для беларускіх каталікоў пачалі адбывацца ў касцёле св. Марціна на вуліцы Піўнай. Захады беларусаў выклікалі аднак рэакцыю польскага боку. Пад ціскам польскага падполля ў лістападзе 1943 г. беларусы вымушаныя былі перабрацца ў грэка-каталіцкую царкву айцоў базыльянаў на вуліцы Мядовай[4].

[1] *З царкоўнага жыцьця,* "Раніца" 1944, 9 студзеня, № 1–2, с. 2.
[2] *З царкоўнага жыцьця,* „Раніца" 1944, 6 лютага, с. 2.
[3] Ч. Сіповіч, *Пралат Пётр Татарыновіч (1896–1978),* "Спадчына" 196, № 3, с. 276; А. Надсан, *Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус*, Мінск 2004, s. 58–59.
[4] J. Grzybowski, *Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą: Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956*, Warszawa 2011, s. 240.

Апрача душпастырскай працы кс. П. Татарыновіч выкладаў каталіцкую рэлігію ў беларускай школе ў польскай сталіцы. Акрамя Варшавы беларускія дзеячы хацелі таксама ахапіць сваёй дзейнасцю каталіцкае насельніцтва Белападляшскага павету, але праз адсутнасць адпаведнай колькасці святароў-беларусаў і неспрыяльныя вонкавыя абставіны хутка былі вымушаны адмовіцца ад гэтай задумы. Паміж беларускімі варшаўскімі парафіямі абодвух веравызнанняў панавала поўная згода і сяброўства. Ладзіліся супольныя сустрэчы і ўрачыстасці з нагоды нацыянальных і рэлігійных святаў. Вернікі абодвух веравызнанняў удзельнічалі ў працы Беларускага камітэта[1].

Падсумоўваючы становішча праваслаўных беларусаў у Генерал-губернатарстве належыць адзначыць, што ў перыяд нямецкай акупацыі назіралася актывізацыя беларусізацыі царкоўнага жыцця. Галоўным, а на працягу амаль усяго перыяду акупацыі, адзіным асяродкам гэтай дзейнасці заставалася Варшава. Праявай гэтай працы было стварэнне беларускай парафіі, выданне беларускамоўнай рэлігійнай літаратуры, дзейнасць царкоўнай камісіі і брацтва. Паводле задумы беларускіх дзеячаў мэтай беларускага праваслаўнага асяродка ў Варшаве, акрамя задавальнення рэлігійных патрэб, была падтрымка дзеянняў на карысць беларусізацыі царкоўнага жыцця на занятай немцамі Беларусі. З гэтай мэтай падтрымліваліся кантакты з іерархам АПЦ у ГГ, перакладалася і выдавалася рэлігійная літаратура. Усё гэта было магчыма дзякуючы ўдзелу і заангажаванню прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі праваслаўнага веравызнання, якія апынуліся на тэрыторыі ГГ. Гэтыя людзі былі шчырымі вернікамі і палымянымі беларускімі патрыётамі, якія бачылі патрэбу выкарыстання роднага слова ў святынях. Дадзеная дзейнасць не была нечым нетыповым, бо праваслаўе было адным з галоўных чыннікаў захавання нацыянальнай і культурнай адметнасці беларусаў у міжваеннай польскай дзяржаве.

Беларуская дзейнасць была спыненая ўлетку 1944 г., калі да Варшавы імгненна набліжалася Чырвоная армія, а ў жніўні ў польскай сталіцы распачалося ўзброенае паўстанне. Далейшы лёс удзельнікаў і арганізатараў беларускага праваслаўнага жыцця ў Генерал-губернатарстве склаўся па-рознаму. Некаторым з іх пасля вайны ўдалося перабрацца на Захад. Яны сталі пасля вядомымі дзеячамі беларускай дыяспары ў Заходняй Еўропе і Злучаных Штатах. Іншыя загінулі падчас вайны альбо засталіся жыць у пасляваеннай Польшчы. След яшчэ іншых згубіўся ў віры ваеннай завірухі. Пасляваенны лёс гэтых людзей заслугоўвае, аднак, асобнага даследавання.

[1] ГАРФ, ф. 5875, оп. 1, д. 11, л. 249.

*Юры Грыбоўскі*

**Belarusian Orthodox Life in the General Government (1940–1944)**

A b s t r a c t

Under German occupation in the General Government, Belarus's organizational activity became more active among Belarusian Orthodox communities. Guided by political considerations, German invaders gave freedom to Belarusians in the sphere of religion. This activity began in 1940 with the establishment of the Belarusian Committee in Warsaw. The initiators of religious activity were Belarusian intelligentsia who stayed in Poland. Thus, a Belarusian Orthodox parish was established in Belarus, religious literature was published in the Belarusian language, national holidays were celebrated, and Belarusian-church life was promoted.

**Вольга Шарая**
Мінск

# Каляндарныя абрады ўшанавання продкаў у традыцыйнай культуры беларусаў: праблемы і перспектывы даследавання

Ушанаванне продкаў у беларусаў, адной з праяў якога быў абрад Дзяды, стала прадметам цікавасці навукоўцаў у XIX стагоддзі. Шырокая грамадскасць даведалася аб народнай традыцыі з паэмы *Дзяды* Адама Міцкевіча, назва якой звязана з аднайменным беларускім абрадам. Паэма паспрыяла ранняй вядомасці абраду, тады як усебаковае яго навуковае вывучэнне ў першай палове XIX стагоддзя толькі пачыналася. Абрады ўшанавання продкаў беларусаў абрадам Дзяды не абмяжоўваюцца, але ён займае найбольш важнае месца ў традыцыйнай культуры.

Слова *дзед* у адзіночным ліку мае наступныя асноўныя значэнні: 1) бацька бацькі ці маці; 2) стары чалавек. Але ў множным ліку значэнне істотна змяняецца: *дзяды* – продкі[1]. Слова *дзяды* ў дачыненні да беларускай абрадавай традыцыі заўсёды ўжываецца ў множным ліку. Кола асноўных значэнняў слова *дзяды* ў кантэксце народнай беларускай каляндарнай традыцыі наступнае: 1) традыцыйны сямейна-родавы абрад ушанавання памерлых продкаў, які праводзіўся ў доме ў строга вызначаныя дні ў годзе; 2) душы памерлых продкаў, рытуальнае запрашэнне якіх на абрадавую вячэру было лейтматывам абраду Дзяды, які праводзіўся ў доме; 3) дзень або дні ў годзе, калі праводзіўся каляндарны народны сямейна-родавы абрад Дзяды.

Арэал абраду Дзяды ахопліваў тэрыторыю сучаснай Беларусі, украінскага Палесся, вобласць пражывання беларусаў ва ўсходняй Польшчы. Тэрмін *дзяды*, як беларускае запазычанне, выкарыстоўваўся ў некаторых абрадавых практыках прадстаўнікоў літоўскай этнічнай групы ў Беларусі і літоўцаў на тэрыторыях, памежных з Беларуссю[2].

---

[1] *Дѣдъ* [в:] В.И. Даль, *Толковый словарь живого великорусского языка в 4 томах,* т. 1: А–З, ред. И.А. Бодуэн де Куртенэ, Москва 1998, с. 1268; *Дзяды* [у:] *Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў 5 тамах*, т. 2: *Г–К*, агульная рэд. К.К. Атраховіч (К. Крапіва), Мінск 1977, с. 179.

[2] В.М. Шарая, *Асаблівасці абрадавай тэрміналогіі этнічнай супольнасці літоўцаў на Беларусі (на прыкладзе каляндарнай памінальнай традыцыі)* [у:] *Язык и межкультурные коммуникации: материалы III Междунар. науч. конф. Минск-Вильнюс, 17–20 мая 2011 г.*, отв. ред. В.Д. Старичёнок, Минск 2011, с. 293–294.

Найбольшую цікавасць да беларускага абраду Дзяды праявілі польскія, беларускія, расійскія даследчыкі. Пачынаючы з XIX стагоддзя назапасілася шмат матэрыялаў. У той жа час меліся аб’ектыўныя складанасці для іх абагульнення, што было звязана з якасцю, паўнатой і дакладнасцю атрыманых эмпірычных дадзеных, з фрагментарнасцю наяўнага матэрыялу, а таксама з адрозненнем мэт яго вывучэння і метадалагічных падыходаў пры аналізе. Складанасць была і ў тым, што абрад не належаў да якой-небудзь хрысціянскай канфесіі, прадстаўляючы архаічную народную традыцыю. У працэсе хрысціянізацыі народная традыцыя ўшанавання продкаў захавалася і аказалася глыбока інтэграванай у традыцыйную культуру сельскага насельніцтва. Як паказалі даследаванні, найбольш поўна абрад Дзяды быў прадстаўлены ў культуры сельскага праваслаўнага насельніцтва Беларусі.

У XIX стагоддзі матэрыялы аб традыцыі ўшанавання продкаў у беларусаў былі змешчаны ў публікацыях Марыі Чарноўскай, Яўстаха Тышкевіча, Оскара Кольберга, Міхала Федароўскага[1], Паўла Шэйна, Міхаіла Дзмітрыева і інш.

У XX стагоддзі вывучэнне абраду працягвалася. Абрад Дзяды разглядаўся ў працах Еўдакіма Раманава, Яўхіма Карскага, Казіміра Машынскага, Часлава Пяткевіча, Вацлава Ластоўскага, Станіслава Станкевіча, Уладзіміра Васілевіча і інш. У часопісе “Lud” у 1926 г. была апублікаваная работа Юзафа Галомбака *Дзяды беларускія*, у якой быў дадзены грунтоўны агляд вядомай на той перыяд літаратуры аб абрадзе[2].

На пачатку XXI ст. выйшла манаграфія В. Шарай *Ценностно-нормативная природа почитания предков* (2002 г.), у якой прадстаўлены аналіз каштоўнасна-нарматыўнай сістэмы ўшанавання продкаў, распрацаваны тэарэтыка-метадалагічныя падыходы даследавання абрадаў ушанавання продкаў[3]. У кнізе Святланы Талстой *Палескі народны каляндар* (2005 г.)[4] прадстаўлены матэрыялы палескіх экспедыцый маскоўскай этналінгвістычнай школы, якія ўключалі звесткі аб абрадзе

Згодна з дадзенымі, атрыманымі намі ў выніку палявых даследаванняў у Астравецкім раёне Гродзенскай вобл., лексема *дзед*, *дзяды* ў абрадавай традыцыі прадстаўнікоў літоўскай этнічнай групы ў Беларусі магла ўжывацца: а) адносна старцаў, якія наведвалі вясковыя хаты і хадзілі раней, як сведчаць эмпірычныя дадзеныя, у пэўны час; б) як намінацыя міласціны (“насілі дзяды”).

[1] E. Tyszkiewicz, *Opisanie powiatu borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim z dodaniem wiadomości: o obyczajach, śpiewach, przysłowiach i ubiorach ludu, gusłach, zabobonach itd.*, Wilno 1847, s. 376–381; M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: Materyały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1891*, t. 1: *Wiara, wierzenia i przesądy ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki*, Kraków 1897, s. 270; O. Kolberg, *Dzieła wszystkie*, t. 52: *Białoruś – Polesie*, Warszawa 1968, s. 101–102, 137–138.

[2] J. Gołabek, *Dziady białoruskie*, “*Lud*” 1926, s. 1–40.

[3] О. Шарая, *Ценностно-нормативная природа почитания предков,* Минск 2002.

[4] С.М. Толстая, *Полесский народный календарь,* Москва 2005.

Дзяды. Разгляд праблематыкі паэмы *Дзяды* Адама Міцкевіча ў кантэксце беларускай традыцыйнай культуры прадстаўлены ў манаграфіі Гражыны Харытанюк-Міхей[1].

Навуковае вывучэнне абраду Дзяды заняло досыць працяглы час. У XX стагоддзі збор матэрыялаў і іх тэарэтычная распрацоўка праходзілі нераўнамерна. У асобныя перыяды павялічвалася цікавасць да абраду, але былі перыяды, калі яго вывучэнне запаволілася. Магчымасці для сістэмнага даследавання абраду, аналізу яго на новым метадалагічным узроўні сталі больш спрыяльнымі, пачынаючы з 80-х гадоў мінулага стагоддзя. У 1986 годзе ў томе *Пахаванні. Памінкі. Галашэнні*, які з'яўляецца часткай серыі *Беларуская народная творчасць*, выйшаў артыкул Уладзіміра Васілевіча *Беларускія жалобныя абрады і галашэнні*[2], у якім істотнае месца была нададзена абраду Дзяды. У томе прадстаўлены тэксты аб абрадзе, вядомыя з літаратурных крыніц, а таксама невялікая колькасць эмпірычных дадзеных, якія раней не публікаваліся. Як адзначаў аўтар, "Дзяды – сямейнае свята, і яно вымагае ад усіх членаў сям'і прысутнічаць у гэты дзень у роднай хаце"[3]. У другім месцы працы адзначаецца: "Па спосабу правядзення ўсе дзяды падзяліліся на тыя, што адзначаліся выключна ва ўласнай хаце, і тыя, якія праходзілі непасрэдна на могільніках, дзе пахаваная радня. Асаблівай пашанай у беларусаў карысталіся з першай групы змітраўскія дзяды, з другой – радаўніца. Усе астатнія <...> нагадваюць менш выразныя іх адбіткі"[4]. Але правядзенне абраду ў хаце вечарам і правядзенне абраду на могілках днём у аўторак – гэта далёка не адно і тое ж. Гэта розныя рытуальныя паводзіны, розная атмасфера, розны эмацыянальны стан, розны склад удзельнікаў і г. д.

Разглядаючы тэму Радаўніцы, У. Васілевіч прывёў некаторыя гіпотэзы адносна значэння гэтага слова. Але па-за ўвагай даследчыка аказаліся падыходы адносна гісторыі рэгіянальнай распаўсюджанасці традыцыі. Яшчэ Любор Нідэрле адзначаў, што Радаўніца ў старажытны перыяд славянства не засведчана, да ўласна славянскіх дат памінання памерлых продкаў ён адносіў Задушніцы і Дзяды[5].

Уладзімір Проп, абапіраючыся толькі на расійскі матэрыял, адзначаў, што ў Расіі памінальныя абрады дасягалі свайго апагею на Радаўніцу[6]. Аднак наведванне могілак у аўторак Фаміного тыдня на Радаўніцу ў Расіі не называюць *дзядамі*. Жаночы плач і галашэнні на

---

[1] G. Charytoniuk-Michiej, *Obrzęd dziadów w dokumentach i w cyklu Mickiewicza*, Warszawa 2011.

[2] У.А. Васілевіч, *Беларускія жалобныя абрады і галашэнні* [у:] *Пахаванні. Памінкі. Галашэнні,* гал. рэд. А.С. Фядосік, Мінск, 1986, с. 5–59.

[3] *Ibidem*, с. 35.

[4] *Ibidem*, с. 33.

[5] Л. Нидерле, *Славянские древности,* пер. с чешск. Т. Ковалевой, М. Хазанова, ред. А.Л. Монгайта, Москва, 2000, с. 236.

[6] В.Я. Пропп, *Русские аграрные праздники. (Опыт историко-этнографического исследования)*, Ленинград 1963, с. 156.

могілках на Радаўніцу не характэрны для абраду Дзяды. На Дзяды не плачуць і не галосяць. Вынікі картаграфавання паказалі: хранонім Радаўніца, а таксама народныя наведванні могілак на Радаўніцу былі распаўсюджаны пераважна ва Усходнім Палессі. На Заходнім Палессі насельніцтва памінала памерлых на могілках у Наўскі чацвер (чацвер пасля Вялікадня). З улікам навуковых дадзеных, якія ёсць на сёння, можна адзначыць, што каляндарныя памінанні на могілках, такія як памінанне на магілах на Радаўніцу, у Наўскі чацвер, Наўскую Тройцу маюць свае асаблівасці і адрозніваюцца ад народных каляндарных абрадаў ушанавання продкаў, да якіх належыць абрад Дзяды.

У другой палове 70-х і першай палове 80-х гадоў мінулага стагоддзя збор матэрыялаў па традыцыйнай народнай культуры Палесся праводзіўся ў рамках даследаванняў маскоўскіх этналінгвістаў пад кіраўніцтвам Мікіты Талстога. У рамках збору матэрыялаў была атрыманая інфармацыя і аб беларускім абрадзе Дзяды. Паглыбленае вывучэнне абраду не прадугледжвалася. У апытальніку, які быў выкарыстаны для збору матэрыялаў, *дзядам* было адведзена мала месца. Пытанні аб гэтым абрадзе ў праграме ўваходзілі ў раздзел *Похороны*[1]. Пасля 1986 г. палявыя экспедыцыі маскоўскіх даследчыкаў у Палессі спыніліся. Праведзеныя даследаванні паказалі, што ў сельскага насельніцтва беларускага і ўкраінскага Палесся ў 70-я і 80-я гады мінулага стагоддзя добра захаваліся ўяўленні аб абрадзе Дзяды.

З улікам вынікаў праведзеных на Палессі экспедыцый, у этналінгвістычным слоўніку *Славянские древности* была прадстаўлена пазіцыя даследчыкаў па разгляданым пытанні. У 2-м томе *Славянских древностей*, які выйшаў у 1999 г., адзначалася, што “Дзяды – памінальныя дні ў народным календары беларусаў і ўкраінцаў, якія адзначаюцца некалькі (ад трох да шасці) разоў на год; іх лік і значнасць розныя па рэгіёнах”[2]. Пры разглядзе народнай традыцыі аўтары акцэнтавалі ўвагу на адным з яе аспектаў, менавіта на тым, што гэта памінальныя дні.

У артыкуле *Памінальныя дні* 4-га тома слоўніка *Славянские древности* (2009 г.) адзначалася, што: “Памінальныя дні – каляндарна замацаваныя дні памінання памерлых. У адрозненне ад прыватных памінак, прысвечаных канкрэтнай асобе, рытуалы П. д. [памінальных дзён. – *В. Ш.*] прысвечаны ўсім памерлым продкам; яны ўключаюць, як правіла, царкоўнае памінанне, наведванне могілак і памінальную трапезу каля магіл і дома (перш за ўсё ў праваслаўных славян); у гэтыя дні «кармілі душы»: рыхтавалі адмысловую памінальную ежу <…> і выконвалі шматлікія забароны”[3]. Прыведзенае азначэнне народнай традыцыі Дзяды як паняцце “памінальныя дні” нельга прызнаць удалым, бо яно

[1] *Полесский этнолингвистический сборник. Материалы и исследования,* отв. ред. Н.И. Толстой, Москва 1983, с. 25.

[2] Л.Н. Виноградова, С.М. Толстая, *Деды* [в:] *Славянские древности. Этнолингвистический словарь в 5 томах,* т. 2: *Д–К*, общ. ред. Н.И. Толстого, Москва 1999, с. 43.

[3] С.М. Толстая, *Поминальные дни* [в:] *Славянские древности. Этнолингвистический словарь в 5 томах,* т. 4: *П–С*, общ. ред. Н.И. Толстого, Москва 2009, с. 161.

не спрыяе разуменню сутнасці гэтага архаічнага народнага абраду, які не належыць да царкоўных памінальных дзён і рытуалаў. У дзень, на які прыпадаў абрад Дзяды, напярэдадні правядзення абраду ў доме ў адпаведнасці з народнай традыцыяй мела месца памінанне сямейных продкаў з удзелам старцаў, але гэта памінанне па форме і па змесце адрознівалася ад царкоўнай традыцыі. Памінанне продкаў у хаце было важным складнікам абраду Дзяды, але яно таксама адрознівалася ад царкоўнага памінання.

У канцы 90-х гадоў XX ст. – у першым дзесяцігоддзі XXI ст. даследаванне народных рэлігійных уяўленняў, адлюстраваных у традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў, атрымала дадатковае развіццё. Была створаная тэарэтыка-метадалагічная аснова для разгляду рэлігійнага ўшанавання продкаў у традыцыйнай культуры беларусаў як самастойнага напрамку даследаванняў[1]. Даследаванні паказалі, што каштоўнасная прырода ўшаноўваных продкаў на этапе дамінавання архаічнай сацыяльнасці праяўлялася ў пануючай сістэме рэлігійнасці патрылінейнай родавай супольнасці, у якой уяўленне аб родзе як аб духоўным адзінстве і ўзаемазалежнасці жывых нашчадкаў і памерлых пакаленняў продкаў прадвызначала неабходнасць адпаведных каляндарных абрадаў ушанавання продкаў і сімвалічных рытуалаў ахвяравання продкам, якія, паводле народных уяўленняў, маглі ўплываць на жыццяздольнасць родавай супольнасці.

У манаграфіі *Ценностно-нормативная природа почитания предков* на аснове праведзенага даследавання зроблена выснова, што ў абрадзе Дзяды знайшоў адлюстраванне культ продкаў, а не культ памерлых[2]. Вывучэнню феномена культу продкаў у міжкультурным параўнанні ў гісторыка-сацыяльным навуковым кантэксце было прысвечана даследаванне *Культ продкаў у традыцыйнай культуры еўрапейскіх народаў*[3]. Культ продкаў у кантэксце родаваарыентаваных уяўленняў у традыцыйнай культуры ў сувязі з асаблівасцямі гістарычных сямейных і роднасных структур разгледжаны ў працы *Родавая свядомасць у традыцыйнай духоўнай культуры народаў Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы*[4]. Зроблена выснова, што ў традыцыйнай народнай культуры

---

[1] О. Шарая, *Ценностно-нормативная природа...*; В.М. Шарая, *Ушанаванне продкаў у традыцыйнай культуры: семантыка, аксіялогія, трансфармацыя*: аўтарэф. дыс. ... д-ра філалаг. навук, Мінск 2002.

[2] О. Шарая, *Ценностно-нормативная природа…,* с. 147–149.

[3] Праект "Der Ahnenkult in der traditionellen Kultur c. der europäischen Völker" быў выкананы аўтарам пры фінансавай падтрымцы фонду Герды Хенкель (2005–2006 гг.). Olga Scharaja, *Der Ahnenkult in der traditionellen Kultur der europäischen Völker* [in:] *Gerda Henkel Stiftung. Sonderprogramm zur Förderung des Historikernachwuchses in Russland, der Ukraine, Moldawien und Weissrussland. Abschlusspublikation*, Düsseldorf 2012, s. 98.

[4] В.М. Шарая, *Родавая свядомасць у традыцыйнай духоўнай культуры народаў Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы* [у:] *Мовазнаўства. Літаратуразнаўства.*

беларусаў значна больш агульнага з традыцыяй народаў Паўднёва-Усходняй Еўропы, чым гэта прадстаўлена ў сучаснай навуковай літаратуры. Агульным з'яўляецца развітасць рытуальных практык, у якіх яўна выражаны культ продкаў[1]. Такім чынам быў створаны падмурак для раскрыцця ролі і месца родаваарыентаваных уяўленняў у традыцыйнай культуры беларусаў[2], іх асаблівасцей у параўнальным кантэксце[3].

Абрад Дзяды не належыць да царкоўнай традыцыі. Гэты абрад у адпаведнасці з народнай традыцыяй праводзіўся ў суботу, у некаторых лакальных традыцыях – у пятніцу і суботу. Сустракаліся адзінкавыя варыянты, калі абрад праводзіўся ў чацвер, пятніцу і суботу. Дні правядзення абраду Дзяды на працягу года асаблівым чынам звязаны з днямі праваслаўных свят. Неабходна адзначыць, што дзень правядзення абраду Дзяды ў канкрэтнай лакальнай традыцыі не абавязкова супадаў з устаноўленымі Праваслаўнай царквой днямі памінання памерлых, паколькі частка Дзядоў магла прыходзіцца на пярэдадзень іншых праваслаўных святаў, перад якімі не прадугледжаны памінальныя царкоўныя суботы.

На першы квартал года прыходзяцца чатыры суботнія дні памінання памерлых у праваслаўнай традыцыі (у тым ліку тры суботы Вялікага посту), у той час як абрад Дзяды праводзіўся ў гэты перыяд толькі адзін раз (супадаў з Мясапуснай суботай).

Дзень правядзення абраду Дзяды суадносіўся не з днямі памінання памерлых па праваслаўным календары, а з днямі праваслаўных святаў (Мясапусная субота, Тройца, дзень святога Дзмітрыя), якім папярэднічалі, згодна з царкоўнай традыцыяй, *радзіцельскія* суботы, а таксама з днямі праваслаўных святаў, якім праваслаўныя суботы памінання памерлых не папярэднічалі, напрыклад, такія як Пятроў дзень, дзень Кузьмы і Дзям'яна, дзень святога Міхаіла і інш. Такім чынам, абрад Дзяды праводзіўся напярэдадні праваслаўных святаў, незалежна ад таго, прыходзілася ці не на гэты дзень памінанне памерлых згодна з праваслаўным календаром.

Радаўніца, адзін з дзён памінання памерлых па праваслаўным календары, адзначаецца не ў суботу, а на дзявяты дзень пасля свята

---

*Фальклярыстыка: XIV Міжнародны з'езд славістаў (Охрыд 2008): Дакл. бел. дэлегацыі*, Мінск 2008, с. 321–334.

[1] *Ibidem*, с. 332.

[2] Olga Charaïa, *Représentations archaïques concernant la lignée dans les lamentations rituelles*, "Cahiers slaves", 2013, №13, p. 43–63.

[3] В.М. Шарая. *Сацыякультурныя асаблівасці родавых уяўленняў славян у кантэксце традыцыйнай духоўнай культуры еўрапейскіх народаў* [у:] *Мовазнаўства. Літаратуразнаўства. Фальклярыстыка: XV Міжнар. з'езд славістаў*, Мінск, 20–27 жн. 2013, дакл. беларус. дэлегацыі, А.А. Лукашанец (адк. рэд.) [і інш.], Мінск 2013, с. 333–344; В.М. Шарая, *Родаваарыентаваныя ўяўленні ў традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў* [у:] *Нарысы гісторыі культуры Беларусі ў 4 тамах,* т. 3: *Культура сяла XIV – пачатку XX ст.,* кн. 2*: Духоўная культура*, навук. рэд. А.І. Лакотка, Мінск 2016, с. 458–481.

Вялікадня, г. зн. у аўторак. Апрача гэтага, на Радаўніцу наведванне могілак было абавязковым, тады як народная традыцыя правядзення абраду Дзяды не прадугледжвала наведвання могілак у дзень яго правядзення.

Азначэнне народнай традыцыі Дзяды толькі праз паняцце *памінальныя дні*, як гэта мае месца ў слоўніку *Славянские древности*, прывяло да змяшчэння яшчэ аднаго акцэнту, а менавіта ідэнтыфікацыі гэтага абраду як культу памерлых, а не як культу продкаў. У этналінгвістычным слоўніку *Славянские древности* (2004 г.) адзначаецца, што „мёртвых культ – комплекс міфалагічных уяўленняў аб пасмяротным існаванні душ памерлых, а таксама аб узаемаадносінах жывых і мёртвых, які прадугледжвае шанаванне памерлых родзічаў”[1]. Культ мёртвых уключае “комплекс дзеянняў у адносінах да нябожчыка з моманту смерці да пахавання. <...> Культ мёртвых рэгламентуе таксама ўсе бакі пахавальнага абраду”[2]. Культ мёртвых уключае сістэму памінання нябожчыкаў, куды ўваходзіць царкоўнае памінанне нябожчыка, памінкі на трэці, дзявяты, саракавы дзень пасля смерці і праз год пасля смерці[3]. Як адзначае Алена Леўкіеўская, „нябожчык уключаецца ў агульную колькасць продкаў, памінанне якіх вызначаецца як усталяванымі царквой днямі ўсецаркоўнага памінання памерлых (г. зв. *радзіцельскія суботы*), так і мясцовай традыцыяй”[4]. Фактычна гаворка ідзе ў асноўным аб царкоўнай традыцыі.

Калі ў артыкуле *Поминальные дни* слоўніка *Славянские древности* маецца размежаванне пахавальна-памінальнага цыкла, звязанага са смерцю чалавека, і каляндарных памінанняў, уключаючы царкоўныя, якія не звязаны з індывідуальным цыклам, то ў артыкуле *Мёртвых культ* і гэты крытэрый размежавання каляндарных і індывідуальных памінак парушаецца. Варта адзначыць, што ў слоўніку *Славянские древности* няма артыкула *Культ продкаў*. У зарэзерваваным для гэтага артыкула месцы ёсць спасылка на артыкул *Мёртвых культ*.

Разгляд існуючых у навуковай літаратуры падыходаў да аналізу беларускага каляндарнага памінальнага абраду Дзяды паказвае, што маюцца істотныя разыходжанні пры вызначэнні яго прыналежнасці да канкрэтнай культавай практыкі. Павел Фларэнскі пісаў, што культ продкаў – адзін з элементаў, якія леглі ў аснову рускага праваслаўя (іншыя элементы: грэчаская вера, прынесеная святарамі Візантыі; славянскае язычніцтва, якое сустрэла гэтую новую веру; рускі народны характар, які па-свойму прыняў візантыйскае праваслаўе і пераапрацаваў яго ў сваім духу)[5].

---

[1] Е.Е. Левкиевская, *Мертвых культ* [в:] *Славянские древности. Этнолингвистический словарь в 5 томах,* т. 3: *К–П*, общ. ред. Н.И. Толстого, Москва 2004, с. 227.

[2] *Ibidem*, с. 228–229.

[3] *Ibidem*, с. 229.

[4] *Ibidem*, с. 229.

[5] П.А. Флоренский, *Анализ пространственности и времени в художественно-изобразительных произведениях*, Москва 1993.

У кнізе *Ранние формы религии* вядомага расійскага навукоўца, спецыяліста па рэлігійных вераваннях славянскіх народаў акадэміка Сяргея Токарава, апублікаванай у 1990 г., адзначаецца, што культ продкаў уяўляе сабой “пакланенне памерлым прашчурам і суродзічам, і перш за ўсё сямейна-родавыя формы такога пакланення, г. зн. веру ў тое, што памерлыя продкі апякуюць сваіх жывых суродзічаў-нашчадкаў, і ўміласціўленыя абрады, якія ладзіліся ў іх гонар членамі роду ці сям'і”[1]. Гэты ж аўтар адзначаў, што “культ продкаў быў <...> дастаткова развіты, а перажыткі яго трымаліся, як вядома, да найноўшага часу, асабліва ў беларусаў з іх святамі «дзядоў»”[2] .

Але меліся і іншыя падыходы, якія склаліся яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя. Так У. Проп выкарыстоўваў паняцце *культ мёртвых*. У апублікаванай у пачатку 1960-х гадоў манаграфіі *Русские аграрные праздники (Опыт историко-этнографического исследования)*, у якой выкарыстаны пераважна расійскі матэрыял, У. Проп адзначаў, што “культ мёртвых стаіць у сувязі з земляробчымі інтарэсамі і памкненнямі”[3]. Аднак ён прызнаваў, што “рускія абрады не паказваюць прама, у чым менавіта тут заключалася сувязь”[4].

У. Проп не разглядаў спецыяльна беларускага абраду Дзяды. Па яго словах, ён вывучаў толькі “вялікарускі матэрыял”. Такі падыход тлумачыцца тым, што, як асабліва падкрэсліваў даследчык, ён ведае, “як багаты матэрыяламі Украіна і Беларусь, але яны валодаюць нацыянальнай спецыфікай”[5].

Фактычна ў савецкі перыяд склаліся два падыходы. У адпаведнасці з адным з іх культ продкаў разглядаўся як форма рэлігіі, у адпаведнасці з другім выкарыстоўвалася паняцце *культ мёртвых*. Менавіта другі падыход быў выкарыстаны ў артыкуле *Мертвых культ* у слоўніку *Славянские древности* (2004 г.).

У дзень правядзення абраду Дзяды асноўнай была другая палова дня – час пасля абеду, тады як у першай палове дня, з раніцы, праходзіла падрыхтоўка да яго, якая ўключала навядзенне парадку ў хаце і ў двары, падрыхтоўку страў для рытуальнай вячэры ў гонар Дзядоў. Асаблівая атмасфера часу напярэдадні абраду ў першай палове дня была звязана з прыходам у сяло старцаў. Старцы, пераходзячы ад хаты да хаты, выконвалі прынятыя для гэтага часу памінальныя малітвы. Тэкст, які прамаўляў старац, прысвячаўся памерлым продкам кожнай сям'і асобна, для чаго старцам перадаваўся спіс памерлых, імёны якіх належала агучыць у малітоўным памінанні. За такое памінанне старцам

---

1 С.А. Токарев, *Ранние формы религии*, Москва 1990, с. 255.

2 *Ibidem*, с. 261.

3 В.Я. Пропп, *Русские аграрные праздники (Опыт историко-этнографического исследования)*, Ленинград 1963, с. 22.

4 *Ibidem.*

5 *Восемь писем В.Я. Проппа к Г.А. Носовой*, “Этнографическое обозрение” 1999, №4, с. 140.

давалася міласціна ад гаспадароў хаты. Памінальныя тэксты старцаў напярэдадні абраду Дзяды былі такімі ж, як пры калектыўных каляндарных памінаннях на могілках, куды старцы таксама прыходзілі ва ўстаноўленыя мясцовай традыцыяй дні.

Абрад не быў прызнаны Царквою, удзел святара падчас правядзення абраду ў хаце не прадугледжаны. Сярод удзельнікаў абраду дамінантная роля належала мужчынам, ушаноўваліся продкі роднаснай групы па мужчынскай лініі. Галоўная роля падчас урачыстай вячэры надавалася гаспадару або старэйшаму з мужчын. Старэйшы быў у цэнтры абрадавай цырымоніі – ён чытаў малітву, запрашаў душы продкаў за памінальны стол[1]. Гаспадар сядаў за стол на самым ганаровым месцы – у куце пад абразамі, іншыя мужчыны паводле старшынства побач з ім, жанчыны – на процілеглым баку стала[2].

Урачыстай вячэры ў гонар памерлых продкаў папярэднічала малітва, якую выконваў гаспадар дома. Сярод малітваў, што выконваліся ў гэты час, часцей за ўсё былі *Ойча наш*, *Багародзіца*, *Веруюˮ*, *Анёл Гасподні*[3]. У некаторых вёсках чыталі малітвы перад кожнай стравай, у іншых – толькі перад пачаткам і ў канцы вечара[4]. Атмасфера гэтага рытуалу перадаецца праз наступнае апісанне: „Стары, галава сям'і, запальвае свечку, прымацоўвае яе ў вуглу на куце і пачынае малітву. Па заканчэнні апошняй свечка тушыцца. Садзяцца да стала, устаўленага стравамі... Той, хто чытаў малітву, пры ўсеагульнай увазе і глыбокай пашане гаворыць наступныя словы:

Святыя дзяды, завем вас,
Хадзіце да нас!
Ёсць тут усё, што Бог даў,
Што я для вас ахвяраваў,
Чым толькі хата багата.
Святыя дзяды, просім вас,
Хадзіце, ляціце да нас”[5] .

Рытуальнае запрашэнне душ продкаў-дзядоў адбывалася перад пачаткам вячэры. Вакатыўныя формулы ў рытуале запрашэння памерлых продкаў часта пачынаюцца з эпітэта *святыя*: “Святыі дзяды! Прідзітя сюды...”[6]; “Святыя дяды, хадитя к нам, на што Бог даў”[7]. Стараславянскае *svetu* у сваім дахрысціянскім значэнні адносілася да аб'ектаў, якія валодалі звышнатуральнай сілай[8].

[1] О. Шарая, *Ценностно-нормативная природа...*, с. 150–152.
[2] М. Довнар-Запольский, *Исследования и статьи*, Киев 1909, с. 10.
[3] E. Tyszkiewicz, *op. cit.*, s. 378–379.
[4] *Пахаванні. Памінкі. Галашэнні,* гал. рэд. А.С. Фядосік, Мінск 1986, с. 175.
[5] М.А. Дмитриев, *Описание похорон и дзядов в Новогрудском уезде* [в:] *Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год*, Санкт-Петербург 1868, с. 87.
[6] П.В. Шейн, *Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края*, Санкт-Петербург 1890, т. I, ч. II, с. 599.
[7] Е.Р. Романов, *Белорусский сборник*, вып. 8: *Быт белоруса*, Вильна 1912, с. 547.
[8] Э. Бенневист, *Словарь индоевропейских социальных терминов*, пер. с фр., общ. ред. Ю.С. Степанова, Москва 1995, с. 346.

Нябачная прысутнасць душ абазначалася канкрэтна – ім пакідалі месца на лаўках за сталом і інш. Пра сумеснасць трапезы дзвюх частак роду сведчаць матэрыялы, зафіксаваныя ў в. Кучын Кармянскага р-на Гомельскай вобл.: “Вячэру адпраўляеш, дзядоў завеш к сабе на вячэру. Выйду на двор і гавару: «Хадзіце, дзяды-радзіцелі, хто ў нашай хаце жыў, к нам вячэраць». Тры разы вот так завуць у нас. І тады за стол садзімся, вячэраем, выпіваем і етым дзядам наліваем. Яны як бы прыйшлі за стол..., іх места за сталом”[1].

Адначасова з вымаўленнем тэксту запрашэння душ памерлых продкаў на трапезу выканаўца мог адкрываць акно ці дзверы: “Одчыню́ два́ра і просю́: змэ́рлы ду́шэчкы, про́сымо на вэчэ́ру”[2] (в. Спорава Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл.). Інфарманты адзначаюць, што памерлых родзічаў “прыглаша́ють. Да́жэ открыва́ють лю́шку у пэчы́ і два́ра прокрыва́ють” (в. Амельная Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.). Паводле народных уяўленняў, душы памерлых продкаў прыходзяць на Дзяды ў свае хаты ў пэўны час, спажываюць прыгатаваныя для іх стравы.

Супольная трапеза сям’і (роду) пры нябачнай прысутнасці запрошаных душ продкаў выражала рэлігійны характар абраду[3]. На Дзяды гатавалі шмат страў. Звычайна колькасць страў павінна быць няцотнай: 7, 9, 11, 13 і г. д. Для правядзення абраду Дзяды гатавалі адмысловую памінальную страву. У розных лакальных традыцыях гэта *куцця*, *канун*, *каша, сыта*, *коліва* і інш.

Гаспадар хаты і ўдзельнікі памінальнай трапезы частку ад кожнай стравы спачатку адкладвалі душам продкаў, а пасля елі самі. У адносінах да абрадавай стравы характэрны, як правіла, дзеянні па прыкмеце *цэлае – частка*: “Пе́рвэ, нэжывы́м у мы́сочку трэ́ба откыда́ты кану́н, тры ра́зы” (в. Глінка Столінскага р-на Брэсцкай вобл.); “трэйть [тры разы. – *В. Ш.*] ка́пнуть з тэ́йі кутті́ на стіл”; “ка́жную стра́ву ка́пають трэ́йте, тры ра́зы, поко́йнікам, а пото́м е́дять ужэ́ всі” (в. Тышкавічы Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.); “шчо ужэ́ нэ е, з ко́жнойі мы́скы упэро́д трэ́ба укы́нуты у мы́сочку для дэду́в” (в. Пучыны Пінскага р-на Брэсцкай вобл.).

Члены сям’і ў час абрадавай вячэры паводзілі сябе адпаведна традыцыі. Прынята было адведаць кожнай стравы, якая была на стале. Асноўным прадметам застольнай размовы з’яўляліся продкі. У час вячэры прыгадвалі ўсіх памерлых продкаў, называлі іх імёны. Характар рытуалу не дапускаў забаваў, гульняў, спеваў, што лічылася б абразай для памерлых. На Дзяды атмасфера была сумная і строгая, уласціва стрыманасць ў прамовах і паводзінах.

---

[1] У.М. Сысоў, *Беларуская пахавальная абраднасць: Структура абраду, галашэнні, функцыі слова і дзеяння,* Мінск 1995, с. 160.

[2] У артыкуле выкарыстаны матэрыялы аўтара, якія сабраны ў выніку палявых даследаванняў. Гэтыя матэрыялы прыводзяцца ў далейшым без указання на тое, што яны сабраны аўтарам. У выпадках, калі прыводзяцца даныя іншых даследчыкаў, даюцца спасылкі на крыніцу.

[3] О. Н. Шарая, *Ценностно-нормативная природа…*, с. 63, 149.

Абрадавае адкладанне ежы падчас памінальнага стала – сімвалічнае ахвярапрынашэнне, звязанае з чаканнем спрыяльнага стаўлення продкаў да сваіх нашчадкаў. Чаканая прыхільнасць памерлых продкаў не з'яўляецца элементам хрысціянскіх уяўленняў. Як адзначаў Міхаэль Мітэраўэр, продкі, якія караюць або спрыяюць, – невядомы элемент у хрысціянскім бачанні свету[1].

Пасля заканчэння ўрачыстай вячэры ў гонар сямейна-родавых продкаў адбываўся абрад провадаў Дзядоў. Пры гэтым у формуле провадаў таксама мог выкарыстоўвацца вакатыў *святыя*:

Святыя дзяды!
Вы сюды прыляцелі, пілі і елі.
Ляціце цяпер да сябе,
Скажыце, чаго яшчэ вам трэба,
А лепій ляціце да неба.
Акыш, акыш, акыш![2].

Поруч з адпраўленнем продкаў "да сябе", "на сваё месца", продкі адпраўляюцца і "на неба". Для структурнага абрадавага элемента провадаў памерлых продкаў на яго вербальнам узроўні характэрны сінкрэтызм архаічных і хрысціянскіх кампанентаў: памерлыя продкі ў хрысціянскім народным светапоглядзе займаюць асаблівую пазіцыю – "са святымі": "Помя́ны, Бо́жэ, на́шых святы́х дэду́в, пошлы́ йім рай просве́тлы, ца́рство нэбэ́снэе. Нэха́й воны́ со святы́мы спочыва́ють, а нам хліб-суль посыла́ють" (в. Мокрая Дубрава Пінскага р-на Брэсцкай вобл.); "Хай воны́ ужэ́ со святы́мы опочыва́ють, а нэха́й воны́ ужэ́ нам здоро́вья попрыя́ють" (в. Глінка Столінскага р-на Брэсцкай вобл.). Пры заканчэнні абраду выконвалася малітва.

Прызначаную для душ ежу не прыбіралі са стала. Інфармант адзначаў: "Гэта дзедава засталася вячэра, прыйдуць мёртвыя і павячэраюць. Гэто мы йіх памянулі, а яны прыйдуць" (в. Калоднае Столінскага р-на Брэсцкай вобл.); "Хлеб і іншыя рэшткі застаюцца на стале адкрытымі на працягу ўсёй ночы для дзядоў"[3].

У працах, у якіх разглядаюцца розныя аспекты беларускага абраду Дзяды, не заўсёды надаецца ўвага паводзінам старцаў у першай палове дня, у які спраўляліся Дзяды. У выніку даследаванняў, праведзеных у Заходнім Палессі ў 90-я гады мінулага стагоддзя, былі атрыманы эмпірычныя дадзеныя, якія дазваляюць разгледзець асаблівасці памінання памерлых продкаў старцамі напярэдадні правядзення абраду Дзяды. У час палявых даследаванняў у Заходнім Палессі намі атрыманы

[1] Михаел Митерауер, *О једном архаичном реликту: Дискусија о „балканској породици"* [in:] Михаел Митерауер, *Кад је Адам копао а Ева прела: историјско-антропoлошки огледи из прошлости европске породице,* превод са немачког Оливера Дурбаба, Београд 2001, с. 166.

[2] М.А. Дмитриев, *Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края*, Вильно 1869, с. 216.

[3] *Пахаванні. Памінкі*..., с. 175.

наступныя дадзеныя ад інфарманта А. Сідарчук (в. Буса Іванаўскага раёна Брэсцкай вобл.):

> “<…> на Тро́йцу – Дэды́ отмеча́лыса, у субо́ту прыхо́дылы слэпці́ і помына́лы ду́шы. Э́то субо́та булы́ Дэды́, а за́втра ужэ Тро́йца і пэ́рэд Дэда́мы прыхо́дылы і помына́лы ду́шы… Лю́ды на мо́глыца нэ шлы, хыба́ хто ужэ́ хо́чэ. З далё́кых сіл прыхо́дылы слэпці, мой за два́ццэть кіломэтров, мой за трыццэть э́то дэ ужэ́ булы́ слэпці́. Воны́ обхо́дылы усі́ сё́ла. Э́то йіх жэ мно́го було́, одны́ іду́ть у однэ́ сэло́, другы́е – у другэ́ сэло́. Дава́лы йім, хто шчо, хто гро́шы, хто яйца, хто хліб. Воны́ помына́лы ду́шы, отпра́ва гэ́така була́ як у цэ́ркві, бы слу́жбу отправлялы. Ка́ждого поко́йніка мэ́нне, называ́еш і воны за ка́жного отправу дава́лы, і воны́ молі́тву молы́лыса. Слэпці́ до ка́ждойі ха́ты подхо́дять, помо́ляцца, отпра́ву зро́бять за ка́ждого і іду́ть у другу́ю. На мо́глыца нэ ходы́лы, по хата́м ходы́лы, у ко́жную ха́ту. Ста́нэ кай поро́га і мо́лыцца. Усі́, кы́лька помэрло́ чоловік, за ка́ждого, ка́жэш мэ́нне”.

Я. Карскі адзначаў, што духоўныя вершы старцаў не былі старажытнымі ні па змесце, ні па форме і часткова пераймалі царкоўныя памінанні. У сваёй працы *Стихи духовные (Русская народная вера по духовным стихам)* Георгі Фядотаў адзначаў, што “духоўны верш жыве не ў шырокіх народных масах, падобна да казкі ці прымаўкі. Яго носьбітам (паралель да быліннага эпасу) з’яўляецца клас прафесійных спевакоў, адораных і навучаных”[1]. У памінаннях старцаў на Беларусі былі запазычанні з абраду Дзяды.

Абрад Дзяды, які праводзіўся ўвечары ў доме, у коле сям’і, аднак не быў зусім непранікальным для чужых. Па словах інфарманта, на Дзяды за вячэрай “у хаце былі толькі дамашнія. Но еслі старцы, нішчыя хадзілі, значыць, прыглашалі” (в. Калоднае Столінскага р-на Брэсцкай вобл). У асобных выпадках сляпцы (старцы, жабракі) маглі прысутнічаць у хаце ў час правядзення абраду Дзяды. Старцы значна больш ведалі пра тое, як спраўляецца ў хаце вечарам сямейны абрад Дзяды ў коле сям’і, чым мясцовы святар.

Увага да паводзін старцаў у дзень, калі выконвалі абрад Дзяды, можа спрыяць пошуку адказаў на некаторыя пытанні, якія ўжо пастаўлены ў навуковай літаратуры. Палявыя даследаванні паказваюць, што архаічныя культурныя феномены змяняюцца, адбываюцца трансфармацыі, распад традыцыі. Цікавыя звесткі аб дзейнасці старцаў на могілках прыводзіць С. Станкевіч, які адзначаў: “У асобных мясцовасцях Нясвіжскага павету я мог яшчэ заўважыць, што ролю жраца на дзядах нязменна выконвае адзін і той самы чалавек, трактуючы гэтую дзейнасць як пэўнага роду прафесію”[2]. У прыведзеным фрагменце аўтар называе памінальныя дзеянні на могілках “дзядамі”, але, як ужо

[1] Г.П. Федотов, *Стихи духовные (Русская народная вера по духовным стихам),* Москва 1991, с. 14–15.

[2] С. Станкевіч, *Дзяды* [у:] С. Станкевіч, *Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі,* перакл. з польск. М. Хаўстовіча, Вільня–Беласток 2010, с. 117.

адзначалася вышэй, памінальныя рытуалы на могілках не з'яўляюцца абрадам Дзяды, які спраўляецца толькі ў хаце і пад кіраўніцтвам старэйшага, ці найбольш паважанага ў сям'і мужчыны. Старцы менавіта на могілках мелі больш актыўную ролю. С. Станкевіч прыводзіць наступныя звесткі аб дзеяннях старцаў на могілках, спасылаючыся на дадзеныя, атрыманыя ад інфарманта з вёскі Малева Нясвіжскага павета: "Кіраваў дзядамі той стары дзед або баба, хто найлепш пеў. <...> Як папяюць, тады гэты старык бярэ водкі, першы кілішак у магілу ўвалье, паздароўкаецца з пакойнікам, тады налівае сабе і парадкам пойдзе кругом водка, а кажды хоць капяльку ўвалье ў магілу"[1]. Выкарыстанне слова *дзяды* ў адносінах да апісанага рытуалу можа сведчыць аб тым, што яно ў мясцовай традыцыі магло выкарыстоўвацца ў новым сэнсе, як назва памінальнага каляндарнага рытуалу на могілках. І старцы (жабракі) маглі спрыяць такому новаму выкарыстанню паняцця. Прыведзеныя С. Станкевічам дадзеныя – гэта не архаічная, не старажытная з'ява народнай культуры. Вышэй ужо адзначалася, што вербальны складальнік у дзейнасці старцаў наогул не з'яўляўся старажытнай з'явай.

Пры даследаванні культу продкаў ва ўсходніх славян перспектыўным з'яўляецца разгляд каляндарных абрадаў Дзяды і Куст[2]. Калі першы з гэтых абрадаў шырока вядомы, то другі да 90-х гадоў XX стагоддзя заставаўся малавывучаным.

Куст ("водыты Ку́ста", "ходыты у Ку́ста") – архаічны каляндарны абходны абрад. Сучасны арэал абраду з невялікімі адхіленнямі супадае з Піншчынай гістарычнай, абрад зафіксаваны на тэрыторыі сучасных Пінскага, Іванаўскага раёна, часткова – Лунінецкага, Столінскага, Івацэвіцкага; у вёсцы Спорава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобл. Беларусі, паўднёвая частка арэала абраду ахоплівае поўнач Ровенскай і Валынскай абласцей Украіны (Зарэчненскі раён Ровенскай вобласці, уключае вёскі Дубровіцкага раёна Ровенскай вобласці; Любешоўскага раёна Валынскай вобласці).

Абрад выконваўся на першы ці другі дзень Тройцы. Куст – назва абраду, галоўнай фігуры абраду, песенны вобраз. Галоўная фігура абраду – жанчына (дзяўчына), з ног да галавы прыбраная ў зеляніну. Ва ўбранні з зеляніны дамінаваў клён. Абрад пачынаўся з убірання ў зеляніну жанчыны, якую выбіралі на ролю Ку́ста.

Жанчыны з абрадавай групы вялі Ку́ста. Група абыходзіла двары, выконваючы ку́ставыя песні. Мэта абыходаў – атрыманне дароў ад гаспадароў для Ку́ста. У працэсе звароту да гаспадароў абрадавай групы прыбраная ў зеляніну жанчына-Куст заставалася цалкам пасіўнай і маўклівай. Матыў ку́ставых абыходных песень "гасцявання Ку́ста ў бацькі", поўная закрытасць і маўклівасць галоўнай фігуры паказвалі на яе сувязь з "іншым" светам. У абрадзе Куст выступаў у якасці сім-

---

[1] *Ibidem.*
[2] О. Шарая, *Ценностно-нормативная...*

валічнага пасярэдніка паміж пакаленнямі, якія жывуць, і пакаленнямі, якія памерлі. Лакалізацыя атрымання дароў ад гаспадара на двары канкрэтнай сям'і сімвалічна ўказвала на пэўны патрылінейны род. Дары, прызначаныя Ку́сту, прымала абрадавая група, а не Куст. Цырымонія паўтаралася на дварах іншых гаспадароў. Па заканчэнні абраду зяляніну з жанчыны здымалі. Абрад заканчваўся калектыўным застоллем[1].

Для даследавання заходнепалескага абраду Куст важнае значэнне мелі працы польскіх даследчыкаў. Першыя звесткі аб гэтым абрадзе, які праводзіўся на Зялёныя Святкі, прыведзены ў працы *Gry i zabawy* Лукаша Галамбёўскага (1831). У сярэдзіне XIX стагоддзя Рамуальд Зянькевіч апублікаваў 21 ку́ставую песню і прывёў кароткае апісанне абраду "Ваджэнне Ку́ста" на Піншчыне. Сярод даследчыкаў, якія апублікавалі звесткі аб абрадзе "ваджэнне Ку́ста", былі Пятро Бяссонаў (1871), Дзмітры Булгакоўскі (1890), Мітрафан Доўнар-Запольскі (1895).

У 60-я гады XX стагоддзя лічылася, што абрад Куст у жывым бытаванні ўжо не захаваўся. Але гэта аказалася не так. У першай палове 70-х гадоў мінулага стагоддзя спачатку на тэрыторыі Украіны, а затым і ў Беларусі былі зафіксаваныя адзінкавыя выпадкі захаванага абраду. Даследаванне абраду "ваджэння Ку́ста" было праведзена ў 90-я гады XX стагоддзя В. Шарай. У часе палявых даследаванняў па спецыяльна распрацаванай праграме была атрыманая інфармацыя аб абрадзе "ваджэння Ку́ста" ў 55 населеных пунктах, у тым ліку 44 населеных пунктах Беларусі і 11– на Украіне[2].

У выніку даследавання былі вызначаны сучасныя межы арэала заходнепалескага абраду Куст, атрыманы найбольш поўны якасны масіў дадзеных аб абрадзе, што стала надзейнай асновай для наступных навуковых абагульненняў. Новыя дадзеныя дазволілі зрабіць выснову аб вызначальным значэнні ў абрадзе ідэі культу роду[3]. Паказана, што ў арэале абраду для ўдзельнікаў абраду *куст* – гэта не расліна[4].

На аснове праведзенага даследавання даказана, што гіпотэза пра сувязь абраду Куст з магіяй выклікання дажджу не пацвярджаецца[5].

[1] В.М. Шарая, *Абрад "ваджэнне Ку́ста": функцыянальная прырода, аксіялогія, трансфармацыя* [у:] *Нарысы гісторыі культуры Беларусі ў 4 тамах,* т. 3*: Культура сяла XIV – пачатку XX ст.,* кн. 2: *Духоўная культура*, навук. рэд. А.І. Лакотка, Мінск 2016, с. 196–227.

[2] О.Н. Шарая, *Западнополесский обряд "вождение Ку́ста" как социокультурный феномен и проблемы его изучения*, с. 41–42; В.М. Шарая, *Абрад "ваджэнне Ку́ста": функцыянальная прырода, аксіялогія, трансфармацыя*..., с. 204–205.

[3] В.М. Шарая, *Семантыка абраду "ваджэнне Куста"*, "Весці АН Беларусі, сер. гуманіт. навук" 1996, № 4, с. 72–76; О.Н. Шарая, *Ценностно-нормативная…*, с. 120–122.

[4] О. Шарая, *Ценностно-нормативная…*, с. 114–118; О.Н. Шарая, *Западнополесский обряд "вождение Ку́ста" как социокультурный феномен…*, с. 43; В.М. Шарая, *Абрад "ваджэнне Ку́ста": функцыянальная прырода, аксіялогія, трансфармацыя*, с. 205.

[5] О. Шарая, *Ценностно-нормативная…*, с. 143–144; О.Н. Шарая, *Западнополесский обряд "вождение Ку́ста" как социокультурный феномен…*", с. 62–63.

У публікацыях з 2014 па 2017 гг. даказаная беспадстаўнасць выкарыстання недакладных дадзеных, так званых "куставых фіксацый" для вывучэння абраду Куст і вызначэння яго функцыянальных асаблівасцей[1].

Распаўсюджванне ў мінулым патрылінейна-комплексных сем'яў было вызначальным фактарам, які спрыяў захаванню абрадаў ушанавання продкаў у беларусаў[2]. На змяненне канкрэтных форм абрадаў ушанавання продкаў вялікае значэнне аказала прыняцце хрысціянства, а таксама змяненне гістарычных структур сям'і і роднасці. Культ продкаў адносіцца да такога тыпу рэлігіі, у якой існуе відавочная адпаведнасць сацыяльнай структуры. Такой гістарычнай форме патрылінейна-комплекснай сям'і як дворышча, якая да XVI ст. была распаўсюджаная ў Вялікім Княстве Літоўскім, адпавядалі гістарычна складзеныя ў традыцыйнай культуры практыкі культу продкаў.

Дворышчу, як гістарычнай форме сацыяльнай арганізацыі, арганічна адпавядаў абрад "ваджэнне Ку́ста". У патрылінейна-комплексных сем'ях культ продкаў быў звязаны з раўнапраўным мужчынскім спадкаемствам. Характэрна, што дворышчнае землеўладанне на пачатку было землеўладаннем родзічаў, што вялі самастойна сваю патрыярхальную гаспадарку і лічылі сябе ўласнікамі зямлі, якую яны апрацоўвалі[3]. На змяненне гістарычна складзеных архаічных сямейных структур і сістэм роднасці ў межах шырокіх тэрыторый, якія займала Вялікае Княства Літоўскае ва Усходняй Еўропе ў XVI ст., вырашальны ўплыў аказала Аграрная рэформа караля Жыгімонта Аўгуста (прыняцце "Уставы на валокі", 1557). Яна прывяла да ўвядзення канстытуцыі надзелаў *Hufenverfassung*.

У новых сацыяльна-гістарычных умовах дамінавальнай формай паселішча стала вёска. Нягледзячы на тое, што першапачатковая сацыяльная аснова, якая спараджала культ продкаў, распалася, родавая свядомасць, заснаваная на такой ідэалогіі, яшчэ доўга праяўляла сваю жыццяздольнасць, што садзейнічала кансервацыі архаічных вераванняў. Абрады ўшанавання продкаў захаваліся ў агульна пашыранай для беларускага праваслаўнага насельніцтва форме сямейна-родавага абраду Дзяды. Штогод абрад спраўляўся ў хаце напярэдадні некаторых праваслаўных святаў. Абрад выконваўся ў хаце ў другой палове дня, у той час як характэрнай рысай першай паловы дня былі абходы дамоў старцамі

[1] В.М. Шарая, *Аўтэнтычная духоўная культура беларусаў* [у:] *Першы міжнародны навуковы кангрэс беларускай культуры: сучасныя праблемы даследавання: зборнік матэрыялаў* (Мінск, Беларусь, 5–6 мая 2016 г.), гал. рэд. А.І. Лакотка, Мінск 2016, с. 564–566; О.Н. Шарая, *Проблемы методологии и достоверности данных при картографировании так называемых "кустовых фиксаций"* [у:] *Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі*, навук. рэд. А.І. Лакотка, вып. 22, Мінск 2017, с. 407–413.

[2] O. Scharaja, *Der Ahnenkult…*, s. 98.

[3] А.Я. Ефименко, *Дворищное землевладение в южной Руси*, "Русская мысль" 1892, № 4–5, с. 171.

з памінальнымі малітвамі. Пры захаванні архаічнай сутнасці абраду, які спраўляўся ў хаце, у ім значнае месца мелі хрысціянскія элементы, асабліва ў пачатковай частцы абрадавай цырымоніі – іконы, хрысціянскія малітвы, запаленая свечка. Але лейтматывам абраду, яго архаічнай і самай значнай часткай было рытуальнае запрашэнне душ памерлых сямейна-родавых продкаў, якіх называлі *дзяды*, у хату на ўрачыстую абрадавую вячэру, што ў рытуальным плане азначала сімвалічнае ахвярапрынашэнне родавым продкам. У светаўспрыманні членаў родавай супольнасці род разглядаўся складзеным з дзвюх частак – жывых і памерлых родзічаў, што знайшло адлюстраванне ў каляндарных абрадах ушанавання продкаў.

*Volha Sharaya*

**The Calendar Rituals of Ancestor Veneration in the Traditional Culture of Belarusians: Research Problems and Perspectives**

A b s t r a c t

The analysis of scientific approaches in the research of the calendar rituals of ancestor veneration in the traditional culture of Belarusians is presented. Features of such rituals as “Dziady” and “vozhdeniya Kústa” are considered. It is shown that since the end of the 90s of the 20$^{th}$ century the study of rituals of ancestor veneration has begun to be considered as an independent direction of scientific research. It is concluded that the calendar rituals of ancestor veneration are related to the peculiarities of historical family forms and kinship systems of Belarusians.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Вячаслаў Швед**
Варшава

# Гарадзенскія памятныя месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Элізы Ажэшкі

У Гродне Эліза Ажэшка правяла значную частку жыцця – больш за сорак гадоў. Першы раз яна была тут у дзяцінстве, калі з маці прыязджала з Мількаўшчыны на лета ў свой гарадзенскі дом. Прыязджала сюды і з варшаўскага пансіяната, а ў 1869 г. пераехала на сталае жыццё і пражыла ў Гродне да 1910 г. У 1896 г. Э. Ажэшка пісала: "У Гродне, дзе мы жылі зімою, былі (і існуюць цяпер) вялікія памяткі: дом, у якім памёр Баторы, замак, у якім адчайны Рэйтан ляжаў ля парога соймавае залы, двары, у якіх жылі, прыехаўшы на сойм, Агінскія, Сапегі і г. д., будынкі і сады Тызенгаўза"[1].

**I.** Спачатку назавём ***дамы, у якіх жыла пісьменніца***. На жаль, у большасці яны не захаваліся.

***Дом Гладкіх*** знаходзіўся пры вул. Брыгіцкай. Тут зімой і восенню жыла маці Э. Ажэшкі пасля замужжа з Відацкім. Разам з ёю, настаўніцай і выхавацелькай жыла з восені 1857 г. і Эліза. Яны займалі прасторны і выгодны апартамент з 10 пакояў і вялікага салона. Мэблю, партрэты і кнігі прывозілі з Мількаўшчыны[2].

***Дом Разэнбаўма*** быў пры завулку Сенным (1869–1885) каля аднайменнага рынку. Пасля продажу Мількаўшчыны пісьменніца мела ў ім тры пакоі. Адсюль кіравала сваёй віленскай кнігарняй. Гэты дом згарэў падчас вялікага пажару 1885 г., а разам з ім большая частка бібліятэкі, рукапісаў, мэблі, карцін, прывезеных з Мількаўшчыны[3].

***Дом Палуты*** стаяў пры вул. Брыгіцкай. Гэты адрас вядомы з карэспандэнцыі гродзенскага губернатара з віленскім генерал-губернатарам, у якой вялася гаворка пра адкрыццё Э. Ажэшкай віленскай кнігарні і бібліятэкі пры ёй[4].

---

[1] E. O r z e s z k o w a, *O Sobie…*, Warszawa 1974, s. 99.

[2] Ю. Г а р д з е е ў, *Лёсам звязаныя з Элізай Ажэшкай (Гродзенскія фарныя каталіцкія могілкі)* [w:] *Powroty do Elizy Orzeszkowej* (1995–1996), Grodno 1997, s. 66; S. P o c z o b u t - O d l a n i c k i, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej i jej bohaterów wiek później z historycznym opisaniem świątyń i osad po drodze objazdu*, Białystok 2007, s. 36.

[3] S. P o c z o b u t - O d l a n i c k i, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej*.., s. 21, 37.

[4] W. N a u m o w i c z - P a n a s i u k, *Źródła dokumentalne Narodowego Archiwum Historycznego Białorusi w Grodnie*, „Magazyn Polski" 2010, nr 1–2 (41–42), s. 39.

***Дом Шлегела*** (пазней Волка і А. Ядкоўскай-Волкавай) пры вул. Польнай, 15 (сёння вул. Карбышава), на рагу вул. Пясочнай (1885–1895). Э. Ажэшка перасялілася сюды пасля пажару 1885 г. Як успамінае гарадзенка Янчыноўская: "Дом быў вялікі (але не чыншавая камяніца), драўляны, вуглавы, з двума зашклёнымі верандамі, хутчэй галерэямі, на першым і другім паверхах". Тут прайшоў юбілей 25-гадовай літаратурнай дзейнасці Э. Ажэшкі, калі 10 красавіка 1892 г. віленская дэлегацыя (Аляксандр Аскерка і Вацлаў Макоўскі) падаравала ёй бронзавы гадзіннік у форме Замкавай гары, а дэлегацыя з Гродна – бранзалетку з гербам губерні і брыльянтавымі каласамі[1].

***Дом Хамрата*** пры вул. Пясочнай, 18 (цяпер вул. М. Васілька). Фердынанд Хамрат быў камандзірам батарэі 26 артбрыгады, удзельнік заваёвы Чачні і Дагестана[2].

***Дом Нагорскага*** пры вул. Садовай/Мураўёўскай (цяпер Э. Ажэшкі). Першы раз Э. Ажэшка жыла ў ім пасля таго, як яе дом пры вул. Татарскай згарэў падчас вялікага пажару 1885 г. Наступны раз (пасля вяселля з Нагорскім) – у 1895–1910 гг. Вось як апісвае яго Марыя Выганоўская-Гедройц: "Шэры, драўляны, часткова атынкаваны домік з паверхамі і аднапавярховай прыбудоўкай з боку агарода/сада. Фронт дома кантактаваў непасрэдна з вуліцай. Тыл і бакі былі часткова агародам, часткова падворкам"[3]. Як пісаў Францішак Гадлеўскі: "Гэты дом быў аазісам, куды схавалася польская душа. Быў як бы востравам, аб які разбіваліся хвалі палітыкі акупантаў, што залівалі сучаснае жыццё пераможаных"[4]. А вось Квірына Гандке сцвярджала: "Гродзенскі дом Э. Ажэшкі быў месцам яе прымусовага адасаблення, якое па загаду царскіх улад працягвалася доўгія гады. Годныя здзіўлення былі ўмовы, у якіх яна ажыццяўляла гэтыя ўсялякія і living разнабаковыя дзеянні прававога, эканамічнага, палітычнага, культурнага, грамадскага, асветнага, нарэшце адміністрацыйнага і публіцыстычнага характару – галоўным чынам шляхам карэспандэнцыі і пры сціплай дапамозе адной, двух, найбольш трох знаёмых паняў і паненак, што часова гасцявалі ў доме Э. Ажэшкі"[5].

Эдмунд Янкоўскі ахарактарызаваў гродзенскую сядзібу Э. Ажэшкі "амбасадай на правінцыі"[6].

---

[1] E. Orzeszkowa, *Listy zebrane*, t. VII, Wrocław 1971, s. 42; H. Roth z Janczynowskich, *Czasy. Miejsca. Ludzie. Wspomnienia z Kresów Wschodnich,* Kraków 2009, s. 48, 53; S. Poczobut-Odlanicki, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej...*, s. 22.

[2] *Памятная книжка Гродненской губернии на 1879 г.*, Гродна 1878, с. 205; S. Poczobut-Odlanicki, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej...*, s. 22, 37.

[3] Гл.: A. Romanowski, *Pozytywizm na Litwie. Polskie życie kulturalne na ziemiach litewsko-białorusko-inflanskich w latach 1864–1904*, Kraków 2003, s. 328.

[4] F. Godlewski, *Pani Orzeszkowa (Wspomnienia),* Warszawa 1934, s. 20.

[5] K. Handke, *Eliza Orzeszkowa jako kresowa instytucja narodowa i kulturalna* [w:] *Bohatyrowicze sto lat później*, Warszawa 1998, s. 71.

[6] E. Jankowski, *Eliza Orzeszkowa*, Warszawa 1988, s. 318.

У гэтым доме Э. Ажэшка праводзіла патаемныя курсы. У лісце да Тэадора Тамаша Ежа ў 1882 г. яна пісала: "Была б вельмі шчаслівай, каб магла ў сваім доме ў Гродне збіраць тры ці чатыры [разы] на тыдзень паненак і маладых жанчын і па пары гадзін апавядаць ім тое, што ведаю і думаю. Вучылася, вучуся далей і здаецца мне, што для маладога пакалення, асабліва жанчын, якія-небудзь лекцыі з галіны сацыяльных навыкаў і сацыяльных рэчаў мною прачытаныя не былі б, магчыма, без значнага ўжытку"[1]. Як вядома са слоў Э. Ажэшкі, у 1885 г. яна мела каля сябе "дастаткова значную грамадку маладых дзяўчат"[2].

Пра польскую патаемную бібліятэку, якая стала дзейнічаць у студзені 1901 г. на паддашку дома, Э. Ажэшка 27.12.1900 г. пісала Ігнату Бараноўскаму: "Заснавалі мы з грамадскіх складак публічную чытальню, польскую. Запрошаны да гэтага былі 35 дамоў з гэтак званай інтэлігентнай сферы; 23 падтрымалі, а 12 адкрыта заявілі, што баяцца. Гаворачы праўду, мерапрыемства не зусім легальнае, але і сур'ёзнай небяспекай не пагражае, бо адным з пунктаў статута з'яўляецца тое, каб нецэнзурных рэчаў не набываць. <…> Сходы адбываюцца ў мяне і памяшканне архіва ў мяне"[3].

У гэты дом прыходзілі з візітамі высокія чыноўнікі, жонкі губернатараў (Пацёмкіна, Бацюшкава, Сталярова, Урусава)[4] і камандзіры вайсковых карпусоў. З 1904 г. праводзіліся літаратурныя вечарыны, на якія збіралася мясцовая інтэлігенцыя. У голас чыталіся літаратурныя творы. Э. Ажэшка рыхтавала дэкламатараў, тлумачыла незразумелыя месцы, удзельнічала ў дыскусіі[5]. Рыхтавалі вечарыны, прысвечаныя літаратарам, напрыклад, Яну Каханоўскаму, пра якую Э. Ажэшка пісала Крашэўскім: "Прачытала ім сама рэферат пра Яна Каханоўскага. Хтосьці другі дэкламаваў *Псалм кахання* Казіміра Красінскага, хтосьці трэці прачытаў нейкую навэлу і зрабілася вельмі добрае літаратурнае пасяджэнне да агульнага задавальнення 30 асобаў, з якіх 20 – моладзь"[6].

У доме Э. Ажэшкі адбываліся мастацкія вечарыны, на якія часам збіралася каля 100 чалавек. Выступалі дэкламатар Юзаф Катарбінскі (1904), у 1905 г. – артыстка Ванда Сямашка, выкладалі мастак Генрык Нусбаўм, Габрыэль Талвінскі (1908). Гралі піяністы Зоф'я з Кулікоўскіх Дамброўска і Юзаф Шлівінскі (1895 г.)[7]. Пра канцэрт апошняга Э. Ажэшка пісала, што "артыст граў цудоўна, слухачы пляскалі не перастаючы"[8].

[1] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. VI, Wrocław 1967, s. 158.
[2] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane,* t. VII, Wrocław 1971, s. 219.
[3] Цыт. па: E. O r z e s z k o w a, *Dnie*, opr. I. Wiśniewska, Warszawa 2001, s. 206.
[4] E. O r z e s z k o w a, *Dnie*, s. 54, 59, 77, 104, 122, 149, 179 i inne.
[5] A. R o m a n o w s k i , *Pozytywizm na Litwie..,* s. 329.
[6] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. VI..., s. 315.
[7] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane,* t. II, Wrocław 1955, s. 64, 65; t. IV, Wrocław 1958, s. 35, 201, 221, 303; t. V, Wrocław 1961, s. 12–13.
[8] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane,* t. II..., s. 65; E. O r z e z k o w a, *Dnie...,* s. 176, 204.

Дом, які цяпер называюць домам Ажэшкі, быў пабудаваны з вялікіх сілікатных блокаў у 1970 г. Большую частку памяшканняў займае філіял абласной бібліятэкі імя Яўхіма Карскага. Два пакоі і зала на першым паверсе займае экспазіцыя, прысвечаная жыццю і дзейнасці Э. Ажэшкі[1].

***Румлёва (Rumlówka).*** Як піша Э. Ажэшка, у 1857 г. быў гэта "маёнтак, які знаходзіўся ў трох вярстах ад Гродна, які падчас майго знаходжання ў пансіянаце маці (Францішка з Каменскіх – *В. Ш.*) купіла за грошы свайго пасагу"[2]. Э. Ажэшка была тут у 1857 г. У 1877 г. войска выкупіла ў Відацкай маёнтак і зрабіла ў ім летні вайсковы лагер[3]. Цяпер Румлёва знаходзіцца на тэрыторыі Гродна, там знаходзіцца парк і школа-гімназія. Ад былога лагера амаль нічога не засталося.

**II.** ***Дамы сяброў, у якіх бывала Э. Ажэшка***

Дом трох сясцёр ***Зындрам-Касцялкоўскіх*** – Вільгельміны, Барбары і Юзэфы. Э. Ажэшка мела кантакты з пісьменніцай і перакладчыцай Вільгельмінай, якая ў дзяцінстве і юнацтве сябравала з ёю, напісала з Э. Ажэшкай у 1877 г. аповесць *Залатая графіня*. Пазней кантакты сясцёр з Э. Ажэшкай пагоршыліся і яны не хадзілі да яе[4]. Справа была ў поглядах, вальнадумстве Э. Ажэшкі і прафесіянальным разыходжанні з Вільгельмінай. Але Э. Ажэшка часам бывала ў яе, напрыклад, 30.10.1899; 30.11.1900; 30.06.1901[5].

***Дом Міхаліны з Дзяконскіх Залескай***. Яе называлі графіняй, але паходзіла яна з заможнай шляхецкай сям'і з Гродзеншыны, была ўнучкай падскарбія літоўскага Антонія Дзяконскага і пляменніцай лістападаўскага паўстанца генерала Казіміра Дзяконскага. Маладосць правяла ў Парыжы часоў Вялікай эміграцыі, у коле Гатэля Ламбера, Адама Міцкевіча, Фрыдэрыка Шапэна і Цыпрыяна Норвіда. У салоне Залескай бывалі: дачка А. Міцкевіча Марыя Гарэцкая, любімая вучаніца Ф. Шапэна Марцэліна Чартарыская, французскі мастак Віал, ірландка міс Нора. "Графіня" М. Залеская стала прататыпам "добрай пані" ў навэле Э. Ажэшкі (1883). З гэтага часу М. Залеская спыніла кантакты з пісьменніцай[6].

***Дом Абрэмскіх*** (Людаміра і яго жонкі Марыі з Завістоўскіх, іх сына Максімільяна). Стаяў ён каля дома Э. Ажэшкі, і Марыя з Сямашкаў Абрэмская (жонка Максімільяна) была адданай сяброўкай пісьменніцы, а таксама яе сакратаркай, даверанай асобай і настаўніцай у патаемнай

---

[1] S. P o c z o b u t t - O d l a n i c k i, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej...*, s. 29–30.

[2] E. O r z e s z k o w a, *O Sobie*…, Warszawa 1974, s. 37; E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane,* t. III, Wrocław 1956, s. 433.

[3] J. J o d k o w s k i, *Pamiętniki po Elizie Orzeszkowej w Grodnie* [w:] *Elizie Orzeszkowej w Hołdzie*, Grodno 1929, s. 44.

[4] J. O s m o ł o w s k i, *Wspomnienia z przyszłości. Lata dziecinne i młodzieńcze*, rękopis Biblioteka Narodowa, sprawa 7042, k. 92.

[5] E. O r z e s z k o w a, *Dnie...,* s. 65,120, 179.

[6] A. R o m a n o w s k i , *Pozytywizm na Litwie...,* s. 327.

школцы. Дзённікавыя запісы *Dnie* вельмі часта ўспамінаюць Абрэмскіх: Марыю (Марыню) і Максіміліяна (адваката, памочніка ў фінансавых і бытавых справах Э. Ажэшкі). Апошняя бывала ў іх доме на “асвячэнні дома”, “вячэры вігілійнай”, “на свянцоным”, “імянінах Марыні”, “абедзе”, падчас хваробы Марыні[1].

***Дом Урублеўскіх*** (Антонія і Караліны з Манькоўскіх). Адна з іх дачок Аліна была настаўніцай музыкі. Яе “музіцыраванне” ўспамінае Э. Ажэшка ў сваім дзённіку *Dnie*[2]. Івона Вішнеўская, каментатарка яго, піша, што “музіцыраванне” часта станавілася “канцэртамі з некалькімі дзясяткамі гледачоў”, “забаўляльнымі мерапрыемствамі для палякаў з Гродна”. Аліна наймацней была звязана з Э. Ажэшкай. Яе браты Эдвард, Зыгмунт і Вітальд былі вядомымі навукоўцамі. Апошні быў географам і прыроднікам і дапамагаў Э. Ажэшцы ў яе батанічных працах. Марыі Урублеўскай Э. Ажэшка дапамагла атрымаць замежную стыпендыю[3].

**Дом** вядомай у Гродне піяністкі Зоф’і з Кулікоўскіх ***Дамброўскай***, вучаніцы Аляксандра Міхалоўскага.

***Дом Ячыноўскіх***. Станіслаў Ячыноўскі быў уладальнікам маёнтка Янцэвічы ў Брэсцкім павеце, адвакатам і пасля смерці Нагорскага займаўся справамі Э. Ажэшкі, напрыклад, продажам маёнтка Гнойніца. У перыяд ад 14.02.1898 да 10.05.1902 г. Э. Ажэшка зрабіла 7 запісаў пра візіты да Ячыноўскіх[4].

***Дом Бяляскіх***. Леан Бяляўскі быў адвакатам, меў жонку Юлію з Вэбераў. Яны ўдзельнічалі ў грамадскіх і культурных ініцыятывах Э. Ажэшкі ў Гродне. У 1906 г. Л. Бяляўскі выконваў функцыю скарбніка гродзенскага камітэта па арганізацыі 40-гадовага юбілею творчай дзейнасці Э. Ажэшкі. У яе дзённікавых запісах успамінаецца 4 разы ў 1898–1904 гг.[5].

***Дом Бакшчанінаў*** – афіцэра расійскіх войск Эмануэля і Паўліны (Паўлы па-Ажэшцы) з Гадлеўскіх. Апошняя вучылася на патаемных курсах у Э. Ажэшкі, удзельнічала ў яе філантрапічных, грамадскіх і асветніцкіх мерапрыемствах у Гродне. У яе дзённікавых запісах успамінаецца 5 разоў у 1898–1899 гг.[6].

***Дом Гры(э)жулкаў*** Стэфаніі і Яна ў Станіслававе. Ян быў дырэктарам керамічных прадпрыемстваў у маёнтку Друцкіх-Любецкіх у Станіслававе, удзельнічаў у філантрапічных і грамадскіх мерапрыемствах Э. Ажэшкі. Пісьменніца ўспомніла ў дзённіку пра чатыры свае візіты ў Грыжулкаў, напрыклад, 7–8.09.1899 г. яна была на народзінах іх сына Тадэвуша[7].

---

[1] E. O r z e s z k o w a, *Dnie…,* s. 27–29, 116, 148, 183, 193, 219, 275, 300, 306, 310.
[2] *Ibidem*, s. 33.
[3] *Ibidem*, s. 33, 54, 68, 158, 231, 236.
[4] *Ibidem*, s. 33, 44, 65, 120, 175, 178, 218, 270.
[5] *Ibidem*, s. 36, 72, 99, 230, 330.
[6] *Ibidem*, s. 39, 54, 70, 108, 115.
[7] *Ibidem*, s. 86, 108, 115–116, 300.

***Дом Прушынскіх***. Візіт да іх Э. Ажэшкі зафіксаваны 13.10.1900 г. Брыгіта (Брыня, ці Прушка) з Сямашкаў Прушынска была сястрой Марыі Абрэмскай, жонкай Юзафа, які памёр некалькі гадоў пасля шлюбу. Мела ў Гродне кравецкую майстэрню[1].

***Дом Касцялкоўскіх.*** Юзаф Касцялкоўскі – вядомы ў Гродне доктар, быў сведкам на шлюбе Э. Ажэшкі са Станіславам Нагорскім. Касцялкоўскія – гэта бацькі вядомага гісторыка Станіслава Касцялкоўскага, аўтара даследавання жыцця і дзейнасці гродзенскага рэфарматара Антонія Тызенгаўза[2]. Два запісы ў дзённіку Э. Ажэшкі прысвечаны пані Касцялкоўскай (Людвіцы)[3]. Адзін з іх за 28.10.1900 г. канкрэтызаваны: "У Ядзі Касцялкоўскай з павіншаваннем імянін", другі адносіцца да 27.06.1901 г.[4].

Пра наступныя тры дамы можам сказаць няшмат. Дом Ардылоўскіх Э. Ажэшка наведала 24.04.1899, 1.02. і 13.12.1900[5]. Дом Недзялкоўскіх сустракаў Э. Ажэшку 28.03.1900 г.[6] Бывала яна і ў доме гродзенскага гарадзенскага купца Басніна.

**III.** На працягу доўгага жыцця ў Гродне Э. Ажэшка не магла не бываць у розных ***будынках грамадскага прызначэння***. Мы называем толькі тыя з іх, пра якія маем пэўныя звесткі.

***Дом губернатара.*** Домам губернатара быў былы палац А. Тызенгаўза. На жаль, не захаваўся, бо падчас Першай сусветнай вайны ў яго трапіла нямецкая бомба. Э. Ажэшка была ў ім з візітамі ў 1898–1903 гг., калі губернатарамі былі Дзмітры Мікалаевіч Бацюшкаў, Мікалай Пятровіч Урусаў[7]. Напэўна, тут меў пасяджэнні Дамскі камітэт дапамогі пагарэльцам 1885 г., віцэ-прэзідэнтам якога была Э. Ажэшка, а старшынёй – Ганна Юр'еўна Давыдава, жонка губернатара Аляксандра Мікалаевіча Пацёмкіна[8].

***Дом Таварыства сельскай гаспадаркі.*** Леапольду Маету 30.06.1898 г. Э. Ажэшка пісала пра гродзенскае Таварыства сельскай гаспадаркі: "Запісалася сябрам, прыехала на пасяджэнне, старшыня таварыства пан Баер увёў мяне ў залу, якая роілася ад прозвішчаў Пузыняў, Дашкевічаў, Чацвярцінскіх, Залутынскіх, Дамейкаў, Нямцэвічаў, Скірмунтаў, Карповічаў і г. д. Размовы польскія, справаводства па-

[1] *Ibidem*, s. 72, 177.
[2] S. Poczobut-Odlanicki, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej...*, s. 37, 83.
[3] Ю. Гардзееў, *Лёсам звязаныя...*, s. 65.
[4] E. Orzeszkowa, *Dnie*…, s. 176, 224.
[5] *Ibidem*, s. 105, 157, 181.
[6] *Ibidem*, s.162.
[7] *Ibidem*, s. 54, 59, 77, 179, 224, 234, 263, 308; пра губернатараў гл.: Т.Ю. Афанасьева, Р.Ф. Горячева, В.В. Швед, *Гродненские губернаторы (1801–1917): документально-биографические очерки,* Гродно 2007, с. 95–111.
[8] Пра дапамогу Э. Ажэшкі пагарэльцам гл.: В.В. Швед, *Гродзенскія пагарэльцы 1885 года і Эліза Ажэшка* [у:] *Пісьменніца. Грамадскі дзеяч. Жанчына (да 170-годдзя з дня нараджэння Э. Ажэшкі*, Гродна 2013, с. 120–126.

расійску…”[1]. За 14.02.1902 г. у дзённічку Э. Ажэшкі захаваўся запіс “у пана Коцяла ў Станіслававе”. Казімір Коцял запрасіў Э. Ажэшку на пасяджэнне Гродзенскага таварыства сельскай гаспадаркі, якое адбылося ў станіслававоўскім палацы. Ядвізе Галендэрскай Э. Ажэшка пісала: “Прыём быў прыгожы, з кветкамі і рознымі вымысламі, але, што найважней, паны былі адукаваныя і прыемныя, а таму і размовы ажыўленыя і займальныя”[2].

***Польская школа.*** 7(20).10.1908 г. Э. Ажэшка ўдзельнічала ў адкрыцці польскай школы-інтэрната, дазволенага і зацверджанага ўладаю. Магчыма, яна была арганізавана пры ўдзеле ксяндза Міхала Руткоўскага, пробашча францішканскага касцёла. Тадэвушу Бохвіцу яна пісала: “Уяві, калі ласка, уяві вялізны будынак, відны, чысты, акружаны навокал садам, а ў ім каля 150 дзяцей з самых бедных слаёў, малых ад 6 да 12 гадоў; і амаль усё польскае Гродна, панамі, панямі, ксяндзамі, прэзідэнтам горада – усім, што па-польску жыве і гаворыць… Вярнулася дамоў трохі змучаная тлумам, размовамі, уражаннямі, але з нейкай дзіўнай у глыбіні сэрца радасцю…”[3].

***Публічная бібліятэка.*** У карэспандэнцыі сям'і Макоўскіх з Э. Ажэшкай ёсць ліст, у якім яна піша пра бібліятэку, якая “не мае польскіх кніжак, затое ўсімі іншымі забяспечвае расійскае і жыдоўска-расійскае грамадства”[4].

***Тэатр.*** У снежні 1887 г. Э. Ажэшка наведала тэатр, калі ў ім выступала ўкраінская трупа. Яну Карловічу яна пісала: “У гэты момант вяртаюся зноў з тэатра. Бачыла камедыю Тараса Шаўчэнкі *Назар Стадола* і не перастаю настойваць, што гэтая пастаноўка не падобна да ніякай іншай пад сонцам…”[5]. У дзённікавых запісах тэатр успамінаецца двойчы. Першы раз каля 8–10.04.1900 (“расійскія акцёры”) і другі раз 27.04.1901 г. (“тэатр”)[6].

У лісце ад 28.09.1905 г. (стары стыль) да Аўрэлія Драгашэўскага Э. Ажэшка пісала пра пачуцці ад выступленняў у тэатры аркестра Варшаўскай філармоніі, які выканаў паланэз Ф. Шапэна, а затым драматычная артыстка Ядвіга Мразоўская чытала польскую паэзію. “Тэатр быў перапоўнены да краёў, энтузіязм неапісаны, дождж кветак, бура апладысментаў, шмат асоб плакала”, – пісала Э. Ажэшка Яўгеніі Жміеўскай[7]. Зімой 1905 г. польская трупа пад кіраўніцтвам Юзафа Пухнеўскага паставіла на гродзенскай сцэне інсцэніроўку па *Bene nati* Э. Ажэшкі. Літаратарка пісала Конраду Мееру, што “гралі дасканала, а польскае Гродна, якое шматлюдна запоўніла тэатр, апладзіравала твору свайго

---

[1] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. II…, s.167.
[2] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. IX, Wrocław 1981, s. 169.
[3] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. V, Wrocław 1961, s. 35, 338.
[4] Гл.: A. R o m a n o w s k i, *Pozytywizm na Litwie..*, s. 416.
[5] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. III, Wrocław 1956, s. 86.
[6] E. O r z e s z k o w a, *Dnie*…, s. 163, 220.
[7] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. IV, Wrocław 1958, s. 198–199, 221.

мясцовага аўтара і выклікала яго. Кланялася на выклікі і воплескі са сваёй ложы”[1]. На саракагадовы юбілей творчасці Э. Ажэшкі ў тэатры віленская трупа пад кіраўніцтвам Нуне Младзяеўскай-Шчуркевіч зрабіла 29.03.1907 г. інсцэніроўку твораў *Перарваная песня*, *У зімовы вечар*, адзін акт *Гордых душ*[2].

28.01.1900 г. выступаў польскі піяніст папулярны ў Расіі Юзаф Гофман. Э. Ажэшка пісала Тадэвушу Гарбоўскаму, што ў залу, якая магла прыняць 500 чалавек, сабралася 700, было вельмі горача, “пасля кожнага адыгранага нумару ўсплёск энтузіязму дзікі, прыемнасць у такіх умовах ад музыкі сярэдняя”[3].

***Дом Марголіса пры пл. Стэфана Баторыя*, 11**. Тут знаходзілася Гродзенскае таварыства аматараў драматычнага і музычнага мастацтва “Муза”. Э. Ажэшка была цесна звязана з ім. У яе доме паўставалі праграмы і адбываліся рэпетыцыі літаратурных “вечарын”. Першая была прысвечаная *Крымскім санетам* А. Міцкевіча. Пасля прадстаўлення Э. Ажэшка пісала Тадэвушу Бохвіцу, што перад уваходам у будынак “Музы” стаяў натоўп, а ў пакоях яна бачыла і расіян у мундзірах і без, два з якіх прыехалі з Беластока. Пасля другой вечарыны Э. Ажэшка зноў пісала яму: “Гэта парыў польскай публікі да слова польскага; кіраўніцтва «Музы» на сёмым небе, бо апрача іншага і грошы прыносіць”[4]. Пасля свайго выступлення на вечарыне, прысвечанай Юліюшу Славацкаму, Э. Ажэшка пісала: “Ужо адразу пасля майго чытання, а дакладней выступу тэмпература паветра і псіхікі публічнай дасягнула такой высокай ступені, што было пачуццё нейкага гарэння, полымя. Пры апошнім абзацы пра «арфістаў», паказаліся сярод публікі белыя хустачкі, якія падносілі да вачэй”[5].

***Царква Барыса і Глеба на Каложы.*** Ф. Гадлеўскі ўспамінае: “Аднойчы быў запрошаны паняй Элізай на прагулку з Марыяй Канапніцкай. Паехалі на Каложу. <…> Аглядалі руіны, на якіх яшчэ былі бачны крыжы з каляровай кафлі, а ўнутры ў сценах знаходзіўся пусты гліняны посуд. Пісьменніца лічыла, што, верагодна, гэта старажытныя галаснікі-рэзанатары для ўзмацнення царкоўных спеваў, а не урны для попелу памерлых, як было прынята агульна. Паэтка, ахопленая рамантычным настроем, чула ў «урнах» шум рэха старажытнасці ў плёскаце хваль Нёмана – варажбу на будучае і зімправізавала прарочы верш…”[6].

***Касцёл і кляштар брыгітак.*** У дзяцінстве і юнацтве Э. Ажэшка жыла недалёка ад яго і таму бывала ў ім няраз.

---

[1] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane,* t. II, Wrocław 1955, s. 274, 419.
[2] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. V, Wrocław 1961, s. 324; t. VIII, Wrocław 1976, s. 756.
[3] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. III, Wrocław 1956, s. 209; E. Orzeszkowa, *Dnie…*, s. 157, 185.
[4] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. V, Wrocław 1961, s. 42, 51.
[5] E. O r z e s z k o w a, *Listy zebrane*, t. V, Wrocław 1961, s. 89.
[6] F. G o d l e w s k i, *Pani Orzeszkowa* (*Wspomnienia)…,* s. 21.

***Касцёл бернардынскі.*** У 1858 г. тут адбыўся шлюб Элізы Паўлоўскай з Пятром Ажэшка. Абвянчаў іх вядомы ў гісторыі Гродна ксёндз Гінтаўт, будучы біскуп. Праз гады Э. Ажэшка напіша: "Асобаў на вяселлі было шмат, танчылі да белага ранку. Цукровая вячэра, прывезеная панам Ажэшка з Варшавы, прыгатавана на ніжнім паверсе дома, у кватэры пана Станіслава Прушынскага"[1].

***Касцёл Св. Францішка Ксаверыя (Фарны).*** Тут 2.11.1894 г. адбыўся "сціплы і ціхі" шлюб Ажэшкі з Нагорскім[2]. Абвянчаў маладых пробашч Стэфан Рачкоўскі[3].

### IV. *Месцы памяці і ўшанавання*

***Гарадскі парк.*** Гэта быў былы каралеўскі батанічны сад, які, пачаў сваю гісторыю вясной 1776 г., калі запрошаны супрацоўнікам А. Тызенгаўза Тадэвушам Даўнаровічам французскі прафесар медыцыны, батанік і анатам Жан Эмануэль Жылібер зрабіў планіроўку ўчастка паблізу будынка будучай медыцынскай акадэміі. Каралеўскі батанічны сад у Гродне быў прызнаны адным з лепшых у Еўропе (разам з Лонданскім і Пецярбургскім). Выдатныя вандроўнікі нямецкі астраном Ёган Бернулі (Bernoulli), англійскі вандроўнік Вільям Кокс (Coxe), ксёндз і батанік-самавук Крыштаф Клюк наведалі сад у 1778–1780 гг. і ўбачылі яго вялікім і ў квітнеючым выглядзе[4]. Пазней сад стаў губернатарскім. Ён знаходзіўся і знаходзіцца цяпер насупраць доміка Э. Ажэшкі пры вуліцы яе імя.

Дзённікавыя запісы Э. Ажэшкі за 1898–1903 гг. гавораць, што пісьменніца любіла прагулкі адна ці ў суправаджэнні каго-небудзь (часцей з Марыняй Абрэмскай) у розную пару года і дня ў парку, які знаходзіўся праз дарогу ад яе дома. Захаваліся такія запісы: "праца ў парку", "вечар у парку" (20.06.1899 г.); "штодзённа да мясцовага парку зранку" (27–31.08, 1, 2, 4–5.09, 12.09; 1, 2, 5, 6, 8, 10.1900); "у парку цудоўная восень" (21.10.1900), "у парку з Марыняй Абрэмскай" (9.08.1902) і інш.[5].

***Архірэйскі парк***. Знаходзіўся каля сядзібы архірэя. Апошняя з'явілася ў 1842 г., калі былы палац Міхала Валіцкага купіла праваслаўнае ведамства і з гэтых часоў ён стаў рэзідэнцыяй другога вікарыя літоўскай епархіі. Напалеон Орда, які жыў у Гродне ў 1862–1863 гг., намаляваў акварэль, на якім бачна сядзіба архірэя, навакольныя вулачкі пад узвышшам, мост праз Гарадніčанку. У дзённікавых запісах Э. Ажэшкі за 1898–1904 гг. ёсць толькі адзін запіс аб прагулцы ў архірэйскі парк за 30.09.1900 г., але, напэўна, гэта быў не адзіны выпадак[6].

---

[1] Цыт. па: S. Poczobut-Odlanicki, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej...*, s. 44.

[2] H. Roth z Janczynowskich, *Czasy. Miejsca. Ludzie* ...s. 48.

[3] E. Orzeszkowa, *Dnie...*, s. 192; S. Poczobut-Odlanicki, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej...*, s. 177–178.

[4] V. Shved, *Po głównej ulicy Grodna – miasta ostatniego sejmu Rzeczypospolitej (rekonstrukcja zabudowy ulicznej z końca XVIII wieku)*, „Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej" 2017, t. 10, s. 55.

[5] E. Orzeszkowa, *Dnie...*, s. 110, 169–175, 177, 222, 274 і інш.

[6] E. Orzeszkowa, *Dnie...*, s. 172.

***Прыгарадныя лясочкі.*** Ф. Гадлеўскі, патаемнае каханне Э. Ажэшкі, у сваёй кніжцы назваў трасу загарадных прагулак пісьменніцы: лясочкі Румлёва, Сакрэт, Пышкі[1]. Румлёва, частка Гродна, былое месца на беразе Нёмана, куды звозілі дрэва. Тут яго скідвалі ў ваду і вязалі ў плыты (rum – вязаць). Далей па рацэ дрэва сплаўлялі да Балтыйскага мора. Сакрэт у расійскі час гарадской гісторыі станавіўся калі-некалі месцам правядзення дуэляў. Пышкі ў XVII ст. – вёска, у якой жылі замкавыя рыбакі. Яшчэ ў 1775 г. Пышкі належалі да замкавай юрысдыкцыі. У 1872 г. польскі даследчык Зыгмунт Глогер знайшоў на паўднёвым канцы вёскі сляды дагістарычнага побыту чалавека – крамянёвыя прылады працы, чарапкі пакрытага палоскамі посуду з тоўстымі сценкамі.

***Фарныя могілкі.*** Былі закладзеныя ў 1792 г. па ініцыятыве ксяндза Юзафа Мучынскага на каралеўскіх грунтах на ўскрайку горада (зараз пры вул. Антонава). Месца пахавання Э. Ажэшкі (памерла 5/18 мая 1910 г.) і яе мужа Станіслава Нагорскага (30.11/12.12.1896), яе маці Францішкі з Каменскіх Відацкай (1.11.1878) і прыроднага брата Э. Ажэшкі Яся/Яна (вясна 1857 г.). Помнік Нагорскаму Э. Ажэшка паставіла ў чэрвені 1897 г. – чорны камень быў прывезены з Варшавы, а эпітафія ўзятая з Псалма VII у тлумачэнні Я. Каханоўскага: “W Tobie ja samym, Panie, człowiek smutny, // Nadzieję kładę; Ty racz o mnie radzić!”[2]. У дзённікавых запісах Э. Ажэшкі знаходзім запісы: “на могілках” (3.08 і 9.09.1898, 7.10.1899), “паездка на могілкі” (1.06.1898). У першую чаргу запісы адносяцца да С. Нагорскага, якога ў дзённіку яна называла, як і іншых памерлых, “Цені”[3]. На могілках, па падліках гродзенскага гісторыка Юрыя Гардзеева, пахавана каля 26 асоб, звязаных лёсам з Ажэшкай[4].

***Помнік Ажэшкі.*** У 1923 г. быў створаны Камітэт будаўніцтва помніка Э. Ажэшкі ў Гродне. Конкурс, аб’яўлены на выраб скульптуры пісьменніцы выйграў Рамуальд Зерых (Жэрых). У сакавіку 1927 г. з ім заключылі дамову на выкананне бюсту. Праект помніка ажыццяўляўся за сродкі касы мясцовага кіравання Гродна (15 000 злотых), павятовага сойміка (2 000), камунальнай касы (2 000), збораў варшавян (6 200) і іншых (9 800). Урачыстае адкрыццё помніка адбылося 20.10.1929 г. у рамках абходу дзясятай гадавіны незалежнасці Рэчы Паспалітай[5]. Спачатку помнік стаяў у гарадскім парку, недалёка ад тызенгаўзаўскага будынку медыцынскай школы. У пасляваенны час яго перанеслі на бераг Гараднічанкі на вул. Э. Ажэшкі, дзе ён знаходзіцца і сёння[6].

---

[1] F. G o d l e w s k i, *Pani Orzeszkowa* (*Wspomnienia)…*, s. 20.

[2] S. P o c z o b u t - O d l a n i c k i, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej*..., s. 171.

[3] E. O r z e s z k o w a, *Dnie*..., s. 15, 45, 49, 52, 118.

[4] Ю. Г а р д з е е ў, *Лёсам звязаныя…*, с. 64–66.

[5] S. M u s i j e n k o, *Historia pewnego pomnika*, „Magazyn Polski” 2010, nr 1–2 (41–42), s. 43–44.

[6] Больш падрабязна гл.: S. P o c z o b u t - O d l a n i c k i, *Szlakiem Elizy Orzeszkowej...*, s. 32–33.

Такім чынам, маем у Гродне як мінімум сем дамоў, якія звязаныя з жыццём і творчасцю Э. Ажэшкі, 14 гарадскіх дамоў, у якіх яна гасцявала з розных нагодаў, 10 будынкаў грамадскага прызначэння, у якіх Э. Ажэшка бывала ў асабістых ці грамадскіх справах. Ёсць у Гродне таксама месцы (як мінімум сем) прысутнасці Э. Ажэшкі: паркі, лясочкі, могілкі, помнікі. Не ўсе дамы, будынкі, месцы, пра якія мы напісалі, ушанаваныя як помнікі месца жыхарства і дзейнасці вялікай пісьменніцы Э. Ажэшкі, звязанай шматлікімі ніцямі з Гроднам. Можа, наш артыкул дапаможа справе мемарыялізацыі слаўнай літаратаркі, якая ў маладосці свой ліст да Ігнацыя Крашэўскага падпісала "Габрыэля Літвінка".

*Viachaslau Shved*

**Grodno memorable places connected with life and activity of Eliza Ozheshko**

A b s t r a c t

In Grodno Ozheshko Eliza has spent more than forty years. So here we have at least seven houses, which are related to its life and work. They are all located in the historical centre of the city. Friends and acquaintances Orzeszko lived at least 14 town houses. At least ten houses for public use Orzeszko used in personal or public Affairs. In Grodno there are also places (at least seven) Pristina Orzeszko: parks, lacock, cemetery, monuments. May be our material will help the business memorialization of the glorious writer that in his youth his letter to Kraszewski signed "Gabriel litvinka".

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ганна Комінч**
Lida, Białoruś

# Сольныя канцэрты-матэты з *Віленскай табулатуры* (1626–1627) у кантэксце набажэнства эпохі барока

*Віленская табулатура* – помнік музычнага барока Беларусі – змяшчае інструментальныя (для аргана) і вакальна-інструментальныя творы (для салістаў-вакалістаў і аргана). Яны неаднародныя па жанрах і стылю, хоць усе адпавядалі царкоўнай музычнай практыцы ранняга барока і маглі гучаць падчас каталіцкага набажэнства. Калі літургічная функцыя некаторых твораў відавочная (версэты арганных мес)[1], то ў большасці выпадкаў яе не так проста вызначыць.

Надзвычай папулярны ў першай палове XVII ст. жанр царкоўнага канцэрта-матэта (матэта ў стылі канчэртата) для аднаго голасу і цыфраванага баса альбо для ансамбля галасоў з цыфраваным басам прадстаўлены ў *Віленскай табулатуры* чатырма ўзорамі, з якіх адзін – *Domine, Deus meus* захаваўся не цалкам. Упісаныя ў канцы зборніка "дзеля запаўнення пустых старонак"[2] (па слушнай заўвазе Пятра Позняка); вакальныя творы з гэтага зборніка не маюць ані жанравых пазначэнняў, ані каментароў абавязковага ці пажаданага часу (дня, службы) і месца выкарыстання ў набажэнствах. Акрамя таго, іх музычны стыль кардынальна адрозніваецца ад іншых твораў з гэтага помніка.

Мэта артыкула – вызначыць магчымае месца і функцыю ў набажэнстве вакальных твораў з "Віленскай табулатуры".

Дзеля высвятлення гэтага пытання мы звярнуліся да розных інтэрпрэтацый жанру сольнага матэта: ад разважанняў тэарэтыкаў XVII ст. – Ладавіко Віаданы (Viadana /Grossi/, каля 1560 – 1627), Міхаэля

---

[1] Падрабязней пра версэт гл.: А.А. К о м и н ч, *Органный версет как типичный жанр европейской церковной музыки Нового времени* [online], http://sociosphera.com /conference/2017/religiya_nauka_obwestvo_problemy_i_perspektivy_vzaimodejstvi ya/ [доступ 2.12.2017]. А таксама пра версэты мес з *Віленскай табулатуры* гл.: Г. А. К о м і н ч, *Арганная меса з Віленскай табулатуры (1626) у музычнай культуры Беларусі XVII ст.: культурны кантэкст і музычны тэкст* [у:] *Музычная культура Беларусі і свету ў разнастайнасці гукавых ландшафтаў: зб. навук. прац*, склад. Т. Бяркові́ч, вып. 37, Мінск, 2016, С. 110–125.

[2] *Album sapieżyńskie: Wileńska tabulatura organowa z XVII w. obrazami żywota św. Franciszka zdobiona*, wstęp monograficzny P. Poźniak, Kraków 2004, s. XXVI.

Прэторыуса (Praetorius, 1571–1621), Агасціна Агацары (Agazzari, 1578–1640) – да меркаванняў сучасных даследчыкаў.

Хоць матэты XVII ст. значна адрозніваюцца ад больш позніх, генеральныя рысы, якія вызначалі аблічча сольнага духоўнага матэта на працягу перыяду яго росквіту (XVII–XVIII стст.), заставаліся нязменнымі. Карысным для іх вызначэння аказаўся артыкул Кацярыны Антоненка, у якім аб'ектам разгляду з'яўляецца сольны венецыянскі матэт XVIII ст[1]. Асабліва каштоўным быў сабраны аўтаркай і багата працытаваны навуковы і эпісталярны матэрыял з недаступных для нас крыніц, прысвечаны сольнаму матэту.

Пра тое, што барочны матэт (канцэрт-матэт) быў жанрам, цесна звязаным з царкоўнай практыкай, знаходзім згадкі ў розных аўтараў. Так, у кнізе *Wielkie formy wokalne* з грунтоўнага шматтомнага польскамоўнага выдання *Formy muzyczne* чытаем, што матэты ад часоў Рэнесансу сталі жанрам "амаль выключна царкоўным"[2]**.** Крыстоф Вольф (*Wolff*) – адзін з аўтараў артыкула *MOTET* з *THE NEW GROVE DICTIONARY* – сцвярджае, што ў XVII–XVIII стст. тэрмін "матэт" выкарыстоўваўся для азначэння "любой вакальнай музыкі з літургічнай прыналежнасцю"[3]. Пры гэтым менавіта "функцыянальнае азначэнне матэта, як часткі, прыналежнай літургіі, заставалася вырашальным фактарам", які дазваляў разглядаць твор як матэт[4].

Такім чынам, сольны царкоўны матэт, які ад пачатку свайго існавання часта называўся царкоўным канцэртам, быў толькі адной з шматлікіх галін развіцця дадзенага жанру ў эпоху барока[5]. Следам за Гюнтэрам Масэнкайлем (*Massenkeil*) для наймення гэтай жанравай разнавіднасці мы карыстаемся тэрмінам "канцэрт-матэт"[6].

Тэкставай асновай рэлігійных матэтаў эпохі Рэнесансу, паводле Юзафа Міхала Хаміньскага (*Chomiński*), маглі быць розныя тэксты: проприя, гімнаў, псалмоў, антыфонаў, канціг, рэлігійных песень, біблейскіх тэкстаў, у тым ліку і евангелічных[7].

К. Вольф у якасці тэкставых крыніц матэтаў эпохі барока згадвае псалмы, антыфоны, канціклі, урыўкі з Бібліі, якія чытаюцца падчас богаслужэння і г. д. Акрамя таго, па звестках аўтара, матэты маглі пісацца

[1] Е. Антоненко, *Венецианский мотет XVIII века: поэтика забытого жанра*, "Научный вестник Московской консерватории" 2013, № 2, с. 40–55.

[2] J.M. Chomiński, K. Wilkowska-Chomińska, *Formy muzyczne,* t. 5: *Wielkie formy wokalne*, Kraków 1995, s. 36.

[3] E.H. Sanders [i in.] *Motet* [online], http://www.oxfordmusiconline.com/grovemusic/view/10.1093/gmo/9781561592630.001.0001/omo-9781561592630-e-0000040086?rskey=WrcFQE&result=1 [доступ: 1.12.2017].

[4] *Ibidem*.

[5] Больш падрабязна пра розныя тыпы матэтаў гл.: D. Szlagowska, *Muzyka baroku*, Gdańsk 1998, s. 139.

[6] G. Massenkeil, *Motette* [in:] *Das neue Lexikon der Musik*, bd. 3, red. R. Noltensmeier, Stuttgart, Weimar 1996, s. 328.

[7] J.M. Chomiński, K. Wilkowska-Chomińska, *op. cit*, s. 36.

на *ўзоры вольнай паэзіі,* прымеркаваныя па часе да пэўнага набажэнства (напрыклад, секвенцыі, прысвечаныя Марыі, – для Каталіцкай царквы ці харалы – для пратэстантаў)"[1]. Джэром Рош (*Roche*), характарызуючы творчасць паўночнаітальянскіх і рымскіх кампазітараў – Алесандра Грандзі (Grandi, 1586 /?/ – 1630), Ігнацыа Данацы (Donati, каля 1570 – 1638), Джавані Франчэска Анэрыа (Anerio, 1567–1620) і А. Агацары – піша: "Матэтныя тэксты часта браліся з псалмаў; аднак ёсць яшчэ дзве важныя катэгорыі тэкстаў: *Песня Песняў* Саламона для святаў жанчын-святых і духоўнага падмацавання, а таксама эмацыянальна насычаныя вершы пра Хрыста, звязаныя з развіццём абрадаў ушанавання прычасця"[2].

Калі параўнаць рэнесансныя і барочныя крыніцы тэкстаў, становіцца відавочным факт адзінства рэнесансна-барочнай тэкставай традыцыі. Розніца ж заключаецца ў тым, што ў эпоху барока нароўні з традыцыйнымі крыніцамі з'яўляецца яшчэ адна – вершы сучасных паэтаў на лацінскай мове[3], якія згадваюцца ў вышэй пададзеных выказваннях К. Вольфа і Дж. Роша. У часы ранняга барока ў матэтах дамінавалі тэксты біблейскія. Аднак паступова вершаваныя аўтарскія тэксты набывалі сярод кампазітараў матэтаў усё большую папулярнасць, што дазволіла К. Антоненка зрабіць наступную выснову адносна матэтаў XVIII ст.: "Сучасная лацінская паэзія – галоўнае адрозненне сольнага матэта ад іншых літургічных песнапенняў"[4].

Аўтары большасці паэтычных матэтных тэкстаў сёння невядомыя, бо традыцыя іх складання была ананімнай. Але некаторых паэтаў XVIII ст., якія пісалі вершы для матэтаў, згадвае ў сваім артыкуле К. Антоненка, адзначаючы, што "яны былі людзьмі бліскуча адукаванымі і належалі да вышэйшых слаёў грамадства, нярэдка царкоўных"[5].

Чатыры канцэрты-матэты з *Віленскай табулатуры* маюць розныя па паходжанні тэксты. Так, у аснову *O, vere digna hostia* пакладзена пятая страфа велікоднага гімну *Ad Cenam Agni*[6], *Cantate Domino* напісаны на асобныя радкі 95 псалма, *Indica mihi* – на радкі з кнігі *Песня Песняў*. *Domine, Deus meus* – адзіны з чатырох канцэртаў, які захаваўся не цалкам і ў якім не ўдалося выявіць тэкставую першакрыніцу[7]. Магчыма, гэта аўтарскі тэкст, напісаны ў стылістыцы, набліжанай да псалмавай.

Тэксты некаторых матэтаў былі цесна звязаны з пэўнай царкоўнай датай. Прыклад твора з відавочным замацаваннем за святам Раства

[1] E. H. S a n d e r s [i in.], *Motet*...

[2] *Ibidem.*

[3] Нязменнай мовай каталіцкіх матэтаў эпохі барока была латынь, у адрозненне ад пратэстанцкіх, якія складаліся пераважна на народнай мове. Гл.: *Ibidem.*

[4] К. А н т о н е н к а, *op. cit.*, с. 44.

[5] *Ibidem.*, с. 46.

[6] Поўны тэкст гімна змешчаны тут: *Ad cenam Agni providi, The Lamb's High Banquet We Await* [online], http://www.preces-latinae.org/thesaurus/Hymni/AdCenamAgni.html [доступ: 12.11.2017].

[7] *Album sapieżyńskie...*, s. XXVI.

знаходзім у італьянца Адрыяна Банк'еры (Banchieri, 1568–1634) – *Concerto di duo Angioletti in Dialogo nella solennita del Santissimo Natale* для 2 сапрана і лічбаванага баса[1].

Старажытны амбразіянскі гімн *Ad cenam Agni providi*, страфа якога пакладзена ў аснову музычнай кампазіцыі канцэрта *O, vere digna hostia* з *Віленскай табулатуры*, па традыцыі выконваўся на вячэрні ад Пасхальнай нядзелі да Узнясення[2]. Па меркаванні П. Позняка, матэт *O, vere digna hostia* мог гучаць "у часы адарацыі Найсвяцейшага Сакрамента, альбо ў рамках імшы, альбо часцей у рамках самастойнага набажэнства"[3]. Астатнія вакальныя творы зборніка не маюць ніякай адсылкі да пэўнай падзеі ў каталіцкім календары.

Тым не менш, на думку Дж. Роша, "большасць малагалоснай музыкі складалі матэты, якія выконваліся падчас імшы ці афіцыя галоўных святаў і святых дзён"[4]. Гэта значыць, што матэты-канцэрты, у тым ліку і з *Віленскай табулатуры*, прызначаліся хутчэй для святаў, чым для штодзённых набажэнстваў.

Цікава, што за рэдкім выключэннем, адным з якіх з'яўляецца, напрыклад, матэт Гаспара Касаці (Casati, каля1610–1641), прызначаны для элевацыі, у матэтах адсутнічала інфармацыя аб тым, у якім канкрэтна месцы набажэнства належала іх выконваць.

Калі супаставіць розныя звесткі і даследчыцкія погляды на тое, дзе, у якім менавіта месцы набажэнства павінен быў гучаць матэт, карціна атрымаецца даволі стракатай. Так, Ёган Ёахім Кванц (Quantz) адзначае, што звычайна матэт гучаў у месе пасля *Credo*[5]. К. Антоненка, следам за сучасным даследчыкам сольнага матэта Бертольдам Аверам (Over), піша: "Матэты маглі замяняць літургічныя спевы (часткі пропрыя, антыфоны), выконвацца ў заключнай частцы "кароткай" месы, а падчас "ціхай" месы і кароткай вячэрні запаўняць цішыню, выступаючы ў ролі інтэрмецца"[6]. Сольныя матэты без тыповага заключнага раздзела *Алілуя*, на думку Дэніса Арнальда (Arnold), выкарыстоўваліся ў якасці "ўступаў" да *Gloria, Dixit Dominus, Miserere*[7]. У манаграфіі Б. Авера знаходзім выказванні падарожнікаў, якія наведвалі Венецыю ў XVIII ст., пра тое, што ў XVIII ст. вялікі (сольны) матэт выконваўся пасля вячэрні[8].

У сувязі з гэтым К. Антоненка робіць слушныя высновы, праводзячы аналогіі між сольным матэтам і інструментальным канцэртам,

---

[1] A. B a n c h i e r i, *Concerto di dui Angioletti in Dialogo* [online], http://imslp.org/wiki/Concerto_di_dui_Angioletti_in_Dialogo_(Banchieri,_Adriano) [доступ: 11.05.2017].
[2] *Ad cenam Agni providi…*
[3] *Album sapieżyńskie…*, s. XXVI.
[4] E. H. S a n d e r s [i in.], *Motet*...
[5] Цыт. па: Е. А н т о н е н к а, *op. cit.*, с. 44.
[6] *Ibidem.*
[7] M. T a l b o t, *Vivaldi,* 2nd revised edition, London, 1993, p. 251.
[8] B. O v e r, *Pel la Gloria di Dio. Solistische Kirchenmusik an den venezianischen Ospedali in 18.Jahrhundert*, Bonn 1998, s. 198.

а таксама сцвярджаючы, што ў сістэме каталіцкага набажэнства яны мелі аднолькавую ролю і маглі гучаць у любы момант[1].

Як гэта нярэдка бывае ў гісторыі музыкі, жанр сольнага царкоўнага матэта-канцэрта эпохі барока атрымаў асэнсаванне post factum, ужо пасля часу свайго заняпаду, які прыйшоўся на канец XVIII ст.[2].

У слоўніку *Dizionario e bibliografia della musica* (1826) Петэр Ліхтэнталь (Lichtenthal) у артыкуле пра царкоўныя матэты дае ёмістую дэфініцыю твораў, што ствараліся ў гэтым жанры, імкнучыся нават азначыць метамарфозы жанру, звязаныя з яго генезісам. Нягледзячы на тое, што Е. Антоненка падае гэтую дэфініцыю ў якасці азначэння менавіта матэтаў XVIII ст., пры ўважлівым прачытанні тэксту з энцыклапедыі становіцца зразумелым, што перад намі апісанне матэтаў XVII–XVIII стст. "Motetto <...> – піша П. Ліхтэнталь, – гэта музычны твор, які напісаны на тэкст Святога Пісання, напрыклад, Псалмоў, для сольных галасоў, [а таксама] ансамбля 2, 3, 4, 5, 6 з арганам; такімі былі старыя матэты [матэты XVII ст. –*Г. К.*]. У мінулым стагоддзі [г. зн. у XVIII ст., бо слоўнік з артыкулам П. Ліхтэнталя быў апублікаваны ў 1826 г. – *Г. К.*] у суправаджэнні сталі выкарыстоўвацца іншыя інструменты"[3].

Відаць, менавіта ў гэты перыяд запозненага тэарэтычнага абгрунтавання становяцца тыповымі развражанні наконт правамернасці гучання сольных канцэртаў-матэтаў падчас набажэнства, прычым часцей за ўсё гэтыя разважанні аказваюцца не на карысць дадзенага жанру. К. Антоненка, абапіраючыся на шэраг крыніц ад канца XVIII да XX ст. піша, што "ўжо ад пачатку XIX ст. даследчыкі не маглі зразумець, якім чынам гэты жанр упісваўся ў царкоўную службу"[4]. Уважлівае прачытанне прыведзеных ніжэй азначэнняў розных аўтараў упэўнівае, што пытанне літургічнасці канцэрта-матэта становіцца кутнім у літаратуры гэтага перыяду.

У слоўніку *Dizionario della musica sacra e profana* (1801) П'етра Джанэлі (Gianelli) чытаем наступнае: "Як можа ўвогуле гэты твор мець месца [у набажэнстве. – *Г. К.*], я не разумею: яно нагадвае хутчэй тэатральную арыю і, па-мойму, уводзіцца спеваком, каб прадэманстраваць свой голас для асалоды прысутных і большай славы"[5]. А ў артыкуле *The Solo Motet in Venice (1625–1775)* 1980 года Д. Арнальда знаходзім такую думку: "Цяжка зразумець, якую літургічную функцыю яны тут выконвалі"[6]. Падставай для разважанняў наконт літургічнай функцыі матэтаў былі

---

[1] Е. А н т о н е н к о, *op. cit.,* с. 44.

[2] К. Антоненка звязвае заняпад сольнага матэту са знікненнем Венецыянцкай рэспублікі, якая, на думку даследчыцы, была апошнім важным асяродкам развіцця гэтай лініі жанру. Гл.: К. А н т о н е н к а, *op. cit.*, с. 40.

[3] Цыт. па: Е. А н т о н е н к а, *op. cit.,* с. 41.

[4] *Ibidem.*

[5] *Ibidem,* с. 40.

[6] D. A r n o l d, *The Solo Motet in Venice (1665–1775)*, "Proceedinings of the Royal Musical Association", vol. 106 (1979–1980), p. 64.

роўна як паэтычны, так і музычны бок гэтых твораў. Негатыўнае стаўленне да тэкстаў сольных матэтаў відавочнае з наступнай заўвагі П. Ліхтэнталя: “У часы больш блізкія да нас было прынята складаць [матэты] на нейкую духоўную тэму, грубымі, рыфмаванымі лацінскімі вершамі, з рэчытатывамі, кавацінамі і арыямі, і класці на музыку ў тэатральнай манеры”[1].

Непаразуменні, звязаныя з успрыняццем паэзіі матэтаў, былі выкліканыя, на думку К. Антоненка, з аднаго боку, забыццём паэтычнай рытарычнай традыцыі, з якімі тэксты матэтаў былі цесна звязаныя, а з другога боку, – шматлікімі памылкамі ў лібрэта, якія і сёння з’яўляюцца важкай перашкодай на шляху адэкватнага разумення паэзіі матэтаў[2]. Але менавіта гэтая апошняя акалічнасць, на нашу думку, упэўнівае ў вялікай папулярнасці сольных матэтаў, якія, трэба думаць, часта пісаліся на хуткую руку.

Што да музыкі, блізкасць (але не ідэнтычнасць) сольных матэтаў да тэатральнага стылю альбо опернага стылю была візітоўкай гэтай жанравай лініі ад пачатку яе існавання. Канцэрты-матэты развіваліся сінхронна з операй, і, як опера, належалі да з’яў, аб’яднаных паняццем *seconda pratica*. І калі храналагічна першыя ўзоры сольных канцэртаў-матэтаў звяртаюць на сябе ўвагу непаўторным вакальным стылем і выклікаюць паралелі з *drama per musica*, з даволі рыхлымі формамі, то больш познія духоўныя матэты, натуральна, пераймаюць устойлівую сістэму оперных форм і жанраў. Паводле К. Вольфа, матэт засвоіў такія, раней “чужыя”, неўласцівыя для яго элементы, як арыя і рэчытатыў, у канцы XVII ст.[3].

Для нас важна, што на працягу свайго існавання сольныя матэты вылучаліся па музычным стылі сярод іншых “складнікаў” каталіцкага набажэнства. Можна дапусціць, аднак, што пытанне пра дарэчнасць альбо недарэчнасць канцэрта-матэта ў набажэнстве з’явілася, відаць, таксама як большасць яго азначэнняў, даволі позна. Што да прадстаўнікоў эпохі барока, то ў іх выказваннях мы не знаходзім адмоўнай характарыстыкі канцэрта-матэта і разважанняў наконт літургічнасці, аднак заўсёды бачым акцэнт на асаблівым стылі канцэртаў-матэтаў. Так, А. Агацары ў *Del sonare sopra'l basso* піша пра набліжэнне сольнага матэта па выканальніцкім складзе і гучанні да сучасных яму арый, прычым у гэтым не бачыць нічога заганнага. Аўтар у дадзенай працы вылучае канцэрты-матэты як творы “новага стылю” і проціпастаўляе іх звыкламу для свайго часу “старому стылю” царкоўных твораў[4]. Тое ж

[1] Цыт. па Е. А н т о н е н к а, *op. cit.,* с. 41.

[2] К. А н т о н е н к а, *op. cit.,* с. 45–46, 53.

[3] Перадусім, у італьянскім аркестравым матэце Скарлаці, Дурантэ, Леа і Пергалезі і ў французскім гранд-матэце Шарпанцье, Люлі, Лаланда, Кампра і Рамо. Гл.: E.H. S a n d e r s [i in.], *Motet*...

[4] И. Б а р с о в а, *Очерки по истории партитурной нотации: (XVI – первая половина XVIII века)*, Москва 1997, с. 350.

бачым і ў *Syntagma musicum* М. Прэторыуса, які, разглядаючы сольныя канцэрты-матэты Л. Віаданы, адзначае, што кампазітар стварыў іх “у новым, вельмі прыемным стылі”[1].

Выказванні М. Прэторыуса і А. Агацары падаюцца надзвычай важнымі для нас, бо з’яўляюцца доказам таго, што ўжо ў першай палове XVII ст. (г. зн. у творах, якія П. Ліхтэнтайль называе “старымі матэтамі”) сярод кампазітараў і тэарэтыкаў існавала яснае ўсведамленне таго, што сольны матэт быў наватарскім, а не традыцыйным па сваім музычным стылі ў каталіцкім набажэнстве. Можна дапусціць, што традыцыя ствараць музыку ў пэўным стылі датычыліся нярэдка пэўнай жанравай разнавіднасці, а не набажэнства ў цэлым. З’яўленне такіх твораў, як, напрыклад, *Vespro della Beata Vergine* Клаўдыа Мантэвэрдзі пераконвае ў тым, што прынцып кантрасту, так шырока прадстаўлены ў музыцы барока і асноватворны для канчэртата, у сістэме набажэнства выяўляўся яшчэ на ўзроўні супрацьпастаўлення стыляў у розных песнапеннях. Так, пры ўключэнні сольных матэтаў у набажэнства ўзнікала яскравая канфрантацыя стыляў *antico* і *moderno*, таму, трэба думаць, стылёвая адметнасць сольнага матэта ў эпоху барока была якраз патрэбнай, пажаданай рысай.

Акрамя таго, сольны спеў адпавядаў патрабаванням яснага вымаўлення тэксту, прадпісаным Трыдэнцкім саборам. Такім чынам, канцэрт-матэт, на думку А. Агацары, яшчэ і “апынуўся зручным для перадачы сэнсу словаў, імітацыі інтанацый мовы”[2].

Што да пытання аб нелітургічнасці сольнага матэта, то, следам за Б. Аўэрам, мы лічым некарэктным прымяненне катэгорый “літургічнасці” і “паралітургічнасці” ў дачыненні да музыкі, створанай у эпоху, для якой не было абавязковым трымацца адзінага ўзору набажэнства, бо ўніфікацыя царкоўнай службы адбылася толькі ў XIX ст.[3].

Стылістыка матэта абумоўлена сітуацыяй, калі яго абавязковая прыналежнасць да службы спалучаецца з такой жа абавязковай вылучанасцю з масіву музыкі набажэнства. Пра гэта піша, між іншым, Чарльз Бёрні (Burney) ва ўражаннях ад вячэрні ў прытулку Інкурабілі: “музыка, створаная ў тэатральным стылі вышэйшага гатунку, хоць і выконвалася ў царкве, не змешвалася з царкоўнай службай, і публіка сядзела на працягу ўсяго часу як на канцэрце”[4].

Сітуацыя канцэрта (у сучасным разуменні гэтага тэрміну), прадстаўлення ўвасаблялася ў набажэнстве дзякуючы жанру інструментальнага канцэрта і вакальна-інструментальнага канцэрта-матэта эпохі барока. Гэтае спецыфічнае становішча канцэрта-матэта абумоў-

[1] Цыт. па: *Музыкальная эстетика Западной Европы XVII–XVIII веков*, сост. текстов и общая вступ. ст. В.П. Шестакова, ред. Н.Г. Шахназарова, Москва 1971, с. 160.

[2] Цыт. па: И. Б а р с о в а, *op. cit.*, с. 350.

[3] B. O v e r, *op. cit.*, s. 80–81.

[4] Цыт. па: Е. А н т о н е н к о, *op. cit.*, с. 44.

лена стаўленнем да яго як да з'явы эстэтычнай[1]. Нават тыя вучоныя, якія скептычна ставіліся да сольнага матэта і паддавалі крытыцы яго тэксты, адмаўлялі яму ў праве прысутнасці ў набажэнстве, тым не менш, адзначалі яго асаблівую захапляльнасць. Напрыклад, Майкл Тэлбат (Talbot) адзначае: "Гэтыя "канцэрты для голаса" маюць вялікую меладыйную прывабнасць, нягледзячы на тое, што голас у іх бессаромна дамінуе…"[2].

Даследчыкі падкрэсліваюць узаемасувязь сольнага матэта і музычнай практыкі. К. Антоненка піша: "Музыка нярэдка ствaралася для пэўнага выканаўцы. Пры гэтым кампазітар улічваў яго асаблівасці, напрыклад, тэсітуру і дыяпазон голасу... характэрныя прыёмы, напрыклад, улюбёныя аздабленні"[3].

Можна было б дапусціць, што такога роду падыход характэрны менавіта для практыкі стварэння ўзораў жанру XVIII ст., аднак адносна матэтаў К. Мантэвэрдзі са згаданай вячэрні 1610 г. Дж. Рош піша: "яны з'яўляюцца віртуознымі часткамі <набажэнства> неверагоднай складанасці, і напісаныя для прыдворных спевакоў, знаёмых з *Арфеем*"[4].

Яскравыя доказы важкасці эстэтычнай кампаненты пра выкананні сольных канцэртаў-матэтаў літаральна рассыпаныя па ўсёй прадмове Л. Віаданы да ўласнага зборніка *Li Cento Concerti Ecclesiastici, A Una, a Due, a Tre, & a Quattro voci. Con il Basso continuo per sonar nell'Organo*. Менавіта дбаннем пра якасць гучання матэтаў падчас набажэнства, калі верыць аўтару, абавязаны сваім з'яўленнем гэты зборнік. Цікава, што ўжо ў *Слове* Віаданы ёсць згадкі пра фігуры, уведзеныя ў музычны тэкст вакальных твораў дзеля праверкі магчымасцяў спевакоў. А падсумоўваючы свае тэзісы, кампазітар піша: "Не варта казаць, што гэтыя канцэрты даволі цяжкія, паколькі маім намерам было скласці іх для тых, хто ў гэтай справе разбіраецца і добра спявае, а не для тых, хто нясlavіць сваё рамяство"[5].

Вылучаючы як тыповую рысу матэта яго надзвычайную віртуознасць, даследчыкі справядліва бачаць у тэхнічнай дасканаласці, а часамі і перасычанасці матэтаў аналогіі з барочнымі канонамі аздаблення храмавай прасторы. К. Антоненка заўважае: "Прыгажосць і віртуознасць сольных матэтаў, з'яўляючыся неад'емным складнікам святочна-

[1] Адзначым, што не ўсе жанры набажэнства эпохі барока ўспрымаліся як эстэтычны феномен. Так, напрыклад, пра надзвычай папулярныя ў тыя часы кароткія фугі (магніфікат-фугі), што выкарыстоўваліся ў практыцы альтэрнацім, Эміль Платэн піша: яны "сведчаць аб вялікім майстэрстве тэхнікі пісьма, аднак не ставяць асаблівых мастацкіх патрабаванняў" Гл.: E. P l a t e n, *Fuge* [in:] *Die Musik in Geschichte und Gegenwart: Allgemeine Enyzklopädie der Musik begründet von Fridrich Blume*, Sachteil, bd. 3, Kassel [et al.] 1995, s. 938.

[2] M. T a l b o t, *op. cit.*, p. 152.

[3] Е. А н т о н е н к о, *op. cit.*, с. 41–42.

[4] E.H. S a n d e r s [i in.] *Motet*...

[5] L. V i a d a n a, *A'Benigni Lettori*, [online], http://petrucci.mus.auth.gr/imglnks/usimg/2/2a/IMSLP181405-WIMA.723a-viadana-concerti-preface.pdf [доступ: 11.05.2017].

га набажэнства ў венецыянскіх прытулках, гарманіравала з унутраным ладам набажэнства і раскошай храмаў сваёй эпохі”[1].

Разгледжаныя намі разважанні наконт жанру сольнага канцэрта-матэта ў кантэксце набажэнства дазваляюць зразумець спецыфічныя стылёвыя рысы жанру, а таксама станоўча адказаць на пытанне: ці было магчымым гучанне канцэртаў-матэтаў побач з іншымі творамі з *Віленскай табулатуры* ў рамках адзінага набажэнства.

*Hanna Kominch*

**Solo Concerts-Motets from the "Vilnius Tablature" (1626–1627) in the Context of the Church Service of the Baroque Era**

A b s t r a c t

The article reviews solo concerts-motets from the “Vilnius Tablature”. Turning to various sources (from the legacy of theorists of the 18th century to the works of modern researchers), which offer an interpretation of this genre, as well as thinking about poetic texts and the specificity of the musical style of the solo concerts-motets of the Baroque era, the author tries to determine the potential status and function of vocal works from the “Vilnius Tablature” in the sphere of public worship.

[1] Е. А н т о н е н к о, *op. cit.,* с. 53.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Ірына Піваварчык**
Гродна

# Рэлігійная культура этнаканфесійнай электроннай камунікацыі

У сучасным інфармацыйным свеце інтэрнэт-камунікацыя займае не проста важнае значэнне, яна становіцца асноўным рэпрэзентантам зменаў у грамадстве, у ёй знаходзяць выражэнне новыя формы ўзаемадзеяння ў грамадстве. Паводле меркавання Алены Гарошкі, інтэрнэт-прастора выступае як адна з формаў існавання інфармацыйна-камунікатыўнага грамадства, уяўляе сабой пэўную "сілавую канструкцыю", створаную людзьмі, іх сацыяльнымі, культурнымі і камунікатыўнымі практыкамі[1]. Інтэрнэт стаў пляцоўкай не толькі для рэалізацыі асноўных камунікатыўных патрэбаў чалавека, але і месцам асэнсавання і даследавання новых формаў сацыяльных інтэракцый, сацыяльнага канструявання і праектавання рэальнасці, у тым ліку яе каштоўнасна-нарматыўнай сферы.

Інтэрнэт выступае асноўным інфармацыйным каналам, дзе з'яўляюцца і цыркулююць навіны пра рэлігійнае жыццё ў Беларусі. Змешчаныя ў сеціве паведамленні на рэлігійную тэму вядуць да ўзнікнення спантанных тэкстаў, створаных не прафесійнымі журналістамі ці прадстаўнікамі кліру, а радавымі грамадзянамі, якія прымаюць актыўны ўдзел у арганізацыі анлайн-дыскусіі. Тэксты маюць найбольшую цікавасць для даследавання рэлігійнасці, рэлігійнай культуры, бо яны "нясуць у сабе не падпарадкаваныя знешняму ўздзеянню зместавыя і іншыя характарыстыкі, аналіз якіх можа быць найбольш пладавітым"[2]. У якасці аб'екта даследавання мы выбралі тэксты інтэрнэт-каментароў да рэлігійных артыкулаў, пакінутыя наведвальнікамі TUT.by – беларускага інфармацыйна-сэрвіснага інтэрнэт-партала, які выступае дыскусійнай пляцоўкай па многіх, у тым ліку рэлігійных праблемах.

Мэта працы заключаецца ў выяўленні этнаканфесійнай культурнай спецыфікі ўспрыняцця падзей, якая адлюстроўваецца ў камента-

[1] Е. Горошко, *Интернет-жанр и функционирование языка в Интернете: попытка рефлексии* [в:] *Жанры речи,* вып. 6, Саратов, 2009, с. 21.

[2] В. Хруль, *Религиозное сознание аудитории СМИ: тексты самовыражения массы как объект анализа* [в:] "Вестник Московского университета", сер. 10, Журналистика, № 1, 2011, с. 104.

рах. У полі зроку – вывучэнне камунікатыўных паводзін моўнай асобы паводле рэлігійнай/канфесійнай прыналежнасці, камунікатыўная арыентаванасць удзельнікаў віртуальнага дыялогу на выяўленне існавання/неіснавання рэлігійных супярэчнасцей: светапоглядная нецярплівасць, рэлігійны плюралізм, верацярпімасць і іх выражэнне ў спантаннай маўленчай дзейнасці камунікантаў. Дадзены аспект мяркуе апісанне камунікатыўных паводзін моўнай асобы, характэрных для яе стратэгій і тактык вядзення дыялогу. Вынікі даследавання тэкстаў "самавыражэння масы" (Віктар Хруль) дапоўняць сацыялагічныя даследаванні ў трактаванні рэлігійнасці беларускага грамадства, у разуменні істотных характарыстык рэлігійнага сегменту свядомасці інтэрнэт-аўдыторыі.

Улічваючы факт, што сучасная Беларусь з'яўляецца поліканфесійнай дзяржавай, лічым неабходным коратка спыніцца на рэлігійнай сітуацыі ў краіне. Актыўнае рэлігійнае адраджэнне Беларусі (1990–2000 гг.) садзейнічала ўзмацненню рэлігійнасці насельніцтва, узрастанню ролі традыцыйных хрысціянскіх канфесій – праваслаўя і каталіцызму – адраджэнню іўдаізму, лютэранства, ісламу.

Паводле дадзеных Апарата ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей, у краіне на 01.07.2017 г. зарэгістравана 26 рэлігійных канфесій і напрамкаў[1]. Агульная колькасць рэлігійных арганізацый дасягнула 3488. Вядучую ролю ў рэлігійным жыцці краіны адыгрывае Беларуская праваслаўная царква, якая аб'ядноўвае 1681 абшчыну, 15 епархій. Каталікі складаюць 14,5% насельніцтва Беларусі (звыш 1,4 млн. чалавек), у склад РКЦ уваходзяць 4 епархіі і 496 абшчын. Пратэстанцкія рэлігійныя арганізацыі прадстаўлены 1033 абшчынамі, лютэранскія – 27, іўдзейскія – 52 абшчынамі. Такім чынам, рэлігійнае жыццё Беларусі характарызуецца канфесійнай разнастайнасцю, уяўляе сабой складаную сістэму адносін[2].

Каб усебакова вывучыць і прааналізаваць рэлігійнасць і рэлігійную сітуацыю, у Беларусі рэгулярна праводзяцца сацыялагічныя апытанні. У 2011 г. Цэнтрам рэлігіязнаўчых даследаванняў факультэта філасофіі і сацыяльных навук Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта было распрацавана і ў 2012–2015 гг. праведзена маштабнае комплекснае даследаванне рэлігійнасці насельніцтва краіны. У ходзе даследавання былі атрыманы наступныя вынікі размеркавання па веравызнанні беларускіх грамадзян: рэлігійнымі на працягу перыяду 2000–2010-х гг. сябе лічаць ад 60 да 70% насельніцтва, да праваслаўных сябе адносяць каля 86%, да каталікаў – каля 12%, каля 2% грамадзян адносяць сябе да іншых канфесій і рэлігій[3]. Узровень рэлігійнасці

[1] Информация о конфессиональной ситуации в Республике Беларусь [online], http://www.belarus21.by/Articles/1439296790) [доступ: 23.04.2018].

[2] Церковь и религия [online], http://president.gov.by/ru/society_ru/ [доступ: 23.04.2018].

[3] С. Карасева, Е. Шкурова, И. Шатравский, А. Доманская, М. Казмирук, *Некоторые особенности религиозного населения Беларуси (по материалам исследования*

ў краіне сярэдні: па дадзеных на 2006–2008гг., прыкладна 50–60% насельніцтва заявілі пра сваю рэлігійнасць, а 12,3% лічаць сябе нерэлігійнымі[1].

Тым не менш, Леанід Землякоў сцвярджае, што характэрнай асаблівасцю рэлігійнай сітуацыі ў Беларусі з'яўляецца разрыў паміж дэклараваннем рэлігійнасці і практыкай. Нізкі ўзровень царкоўнай дысцыпліны сведчыць пра прыярытэт знешняй рэлігійнай формы паводзін над унутраным зместам, нізкую ступень уцягнутасці ў рэлігійную сістэму: сярод апытаных праваслаўных вернікаў толькі 18% пастаянна наведваюць царкоўныя службы, не ходзяць – 16,8%, наведваюць зрэдку – 65,2%. Сярод католікаў пастаянна наведваюць царкоўныя службы 50,5%, наведваюць 6,6%, наведваюць зрэдку 42,9%. На думку даследчыка, рэальны ўзровень рэлігійнасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь значна ніжэйшы за заяўлены[2].

Рэлігійнасць у Беларусі з'яўляецца арганічнай часткай грамадскага жыцця, мае вялікі ўплыў на фарміраванне каштоўнасных прыярытэтаў грамадзян, Так, працэнт разводаў сярод рэлігійнага насельніцтва нізкі – 9,4%, у цэлым па Беларусі ён складае каля 30%[3].

У даследаваннях вучоных, палітыкаў, журналістаў канстатуецца факт, што для інфармацыйнага грамадства характэрны крызіс чалавека, выкліканы працэсамі секулярызацыі і атэізму. Тым не менш, вядучы нямецкі тэолаг Ф.В. Граф сцвярджае, што ў сучасную эпоху "расце кампенсатарна-стабілізуючая надзея на Бога", а пачатак XXI ст. з'яўляецца часам "рэлігійнай прадуктыўнасці"[4].

Сучасныя міжканфесійныя адносіны ў Беларусі даследчыкі характарызуюць як "адносна стабільныя", "носяць дастаткова спакойны характар", аднак адзначаюць адсутнасць актыўнага ўзаемадзеяння рэлігійных арганізацый з іншымі канфесіямі[5].

Вывучэнню класічных маўленчых жанраў прысвечана шмат прац расійскіх і замежных даследчыкаў. Новая камунікатыўная прастора відазмяніла форму зносін паміж людзьмі, што знайшло адлюстраванне ў жанравай сістэме інтэрнэт-дыскурса. Асабліва ярка камунікатыўная

*"Типология религиозности в современной Беларуси", 2012–2015 гг.),* "Философия и социальные науки" 2016, № 1, с. 84.

[1] *Ibidem*.

[2] Л. Земляков, Н. Щёкин, *Государственно-конфессиональная политика в Республике Беларусь*, "Социологический альманах" 2013, № 4, с. 223–224.

[3] С. Карасева, *op. cit.*, с. 87.

[4] Гл.: Ю. Ореханов, *"Patchwork-religiosität" – "лоскутная религиозность": особенности изучения явления в современном немецком контексте*, "Вестник ПСТГУ: Богословие. Философия" 2015, вып. 6 (62), с. 100.

[5] Е. Шкурова, *Динамика межконфессиональных отношений в Республике Беларусь: социологический анализ* [в:] *Социологическая наука и образование: состояние, проблемы и перспективы развития: материалы междунар. науч. конф., посвящ. 20-летию институционализации социол. образования в Беларуси, открытию отд. и кафедры социологии в БГУ, Минск 2010, с. 183.*

актыўнасць моўнай асобы праяўляецца ў жанры інтэрнэт-каментара. Інтэрнэт-каментары адносяцца да другасных тэкстаў, крыніцай-стымулам да іх узнікнення з'яўляецца адзін і той самы тэкст. Аднак нягледзячы на дадзены факт, паведамленні, рэакцыі чытачоў на заяўлены стымул самыя разнастайныя. Каментары сталі настолькі звыклым і неабходным атрыбутам інтэрнэт-камунікацыі, што ўсё больш карыстальнікаў могуць сказаць, што чытаць каментары бывае больш цікава, чым сам пост.

Актыўны зварот да дыскурсіўнай практыкі каментавання выклікаў цікавасць да вывучэння каментароў у аспекце розных напрамкаў лінгвістыкі. Мы не будзем падрабязна спыняцца на сучасных даследаваннях інтэрнэт-каментароў, адзначым толькі некаторыя з аспектаў дадзенай з'явы. Сучасныя даследчыкі разглядаюць жанр з пункту гледжання яго структуры, лінгвістычнага прызначэння, узаемадзеяння з зыходным тэкстам і з іншымі выказваннямі. Сярод лінгвістаў адзначым працы Таццяны Сцексавай, П.В. Кошаля, Е. Вежнавец, прысвечаныя аналізу інтэрнэт-каментароў як жанру сеткавай камунікацыі. Т. Сцексава вызначае жанр інтэрнэт-каментара па камунікатыўнай мэце як ацэначна-імператыўны, у якім аўтарамі і адрасатамі тэксту становяцца самі стваральнікамі каментароў, па камунікатыўным мінулым ён уяўляе сабой рэакцыю на карнявы пост, па камунікатыўным будучым жанр арыентаваны на далейшую камунікацыю. Моўнай асаблівасцю жанру з'яўляецца выкарыстанне размоўнага стылю з элементамі прастамоўя, прыёмаў экспрэсіі і эматыўнасці[1]. Жанр інтэрнэт-каментара рэпрэзентуе ў віртуальнай прасторы прыватна-публічную асобу, самавыражэнне якой заснавана на каштоўнасна-арыентаваных камунікатыўных паводзінах, на выражэнні прыватнай пазіцыі чалавека як члена соцыума.

Мы звярнуліся да практыкі інтэрнэт-каментавання на вядучым інфармацыйным партале навінаў Беларусі –TUT.by, які па статыстыцы каталога Google Analytics пабіў рэкорд па колькасці праглядаў навін усіх паддаменаў – 129,3 млн (дадзеныя на студзень 2018 г.)[2]. Кантэнтны змест мае выразную структуру і ярка выражаны інстытуацыйны характар, навіны на сайце падзелены на адпаведныя рубрыкі згодна з тэматыкай. На сайце для атрымання магчымасці пакінуць каментар неабходна зарэгістравацца, вядзецца статыстыка наведвання, мадэратары сочаць за захаваннем правіл форума. Пакінуць каментары да навін могуць толькі зарэгістраваныя карыстальнікі партала, што, з аднаго боку, абмяжоўвае колькасць каментароў, а з другога – павышае адказнасць каментатараў за прадстаўленыя на афіцыйнай пляцоўцы матэрыялы. Дзякуючы высокай папулярнасці камунікацыйнага партала

---

[1] Т. Стексова, *Комментарий как речевой жанр и его вариативность,* "Жанры речи" 2014, №1–2, с. 81–88.

[2] https://tutby.com/history/ [доступ: 20.03.2018].

TUT.by і адпаведна высокай колькасці наведвальнікаў, посты ўтрымліваюць многа каментароў (іх колькасць можа перавышаць тысячу на адзін пост), што дае багатую крыніцу для лінгвістычнага аналізу.

Рэлігійная тэматыка ў розных зместавых праяўленнях – дастаткова рэгулярная з’ява ў кантэнце інфармацыйнага партала TUT.by. За перыяд студзень–люты 2018 г. на партале былі размешчаны 32 артыкулы на рэлігійную тэму. У полі нашай увагі ўключаны артыкулы, якія суправаджаюцца не менш як 30 каментарамі. Сярод 2 438 каментароў, змешчаных да 17 артыкулаў, найбольшую колькасць выклікалі публікацыі *Ислам – лучшее, что случилось в моей жизни. Мусульманки рассказывают про красоту, стиль и веру*, апублікаваны за 26 студзеня, мае 49465 праглядаў і 328 каментароўў[1]; *С кем нельзя венчаться православным, и в каких случаях разводиться. Новые церковные правила в вопросах и ответах*, дата публікацыі – 2 снежня, рэйтынг 21292 прагляды, 185 каментароўў, што само па сабе паказвае пра ўвагу да рэлігійнай сферы карыстальнікаў інтэрнэту[2]. Непасрэдна матэрыялам даследавання паслужылі 493 тэксты інтэрнэт-каментароў, якія ўяўляюць сабой рэплікі да названых вышэй артыкулаў, ствараюць сеткавы дыялог.

Найбольш вострую дыскусію і шырокае абмеркаванне выклікаў матэрыял *С кем нельзя венчаться православным, и в каких случаях разводиться. Новые церковные правила в вопросах и ответах*, у якім аб’ектам каментароў стаў прыняты 1 снежня 2017 года на Архірэйскім сходзе Рускай праваслаўнай царквы дакумент *О канонических аспектах церковного брака*[3]. Згодна з дакументам, РПЦ не будзе вянчаць людзей, якія былі ў шлюбе больш за тры разы, пры гэтым улічваюцца не толькі царкоўныя шлюбы, але і запісаныя ў органах загса.

Спантанныя тэксты-каментары, у якіх аб’ектывізуюцца ўяўленні шараговых носьбітаў мовы аб рэлігійнасці, рэлігійнай талерантнасці, лічым мэтазгодным апісаць праз камунікатыўныя паводзіны моўнай асобы і характэрныя для яе камунікатыўныя стратэгіі і тактыкі вядзення дыялогу. Даследаванні такога роду пакуль нешматлікія, у расійскім і замежным мовазнаўстве аўтараў цікавяць стратэгіі камунікатыўных паводзін у палітычнай камунікацыі, дастаткова дэталёва апісаны канфліктныя стратэгіі, але камунікатыўныя паводзіны моўнай асобы ў рэлігійнай камунікацыі не станавіліся прадметам спецыяльнага даследавання[4]. Такім чынам, у працы ўвага засяроджваецца на найбольш рэлевантных для даследавання падыходах: вывучэнне моўнай асобы

[1] https://lady.tut.by/news/life/578385.html [доступ: 20.03.2018].
[2] https://news.tut.by/society/571384.htm [доступ: 20.03.2018].
[3] http://www.patriarchia.ru/db/text/5075384.html [доступ: 20.03.2018].
[4] В. Каменева, *Интернет-комментарий к англоязычным статьям политической и культурной тематики. Коммуникативные цели*, “Политическая лингвистика” 2016, вып. 1 (55), с. 15–19.

праз выкарыстаныя ў працэсе камунікацыі стратэгіі і тактыкі. Праведзены аналіз дазволіў выдзеліць асноўныя камунікатыўныя стратэгіі – самаідэнтыфікацыі як вербальнае маркіраванне сацыяльнай ідэнтычнасці і дыскрэдытацыі рэлігіі.

У фокусе сучасных лінгвістычных даследаванняў – паняцце ідэнтычнасць, самаідэнтыфікацыя чалавека. У сучаснай лінгвістычнай навуцы пад тэрмінам *самаідэнтыфікацыя* разумеецца ўсвядомленае або неўсвядомленае вербальнае і невербальнае маркіраванне ідэнтычнасці, г. зн. прыналежнасці ці непрыналежнасці моўнага суб’екта да якой-небудзь групы/катэгорыі, да якога-небудзь класа/узроўню/тыпу людзей[1]. У даследаваннях праблематыкі самаідэнтыфікацыі вучоных прыцягвае вывучэнне вербальных паводзін асобы, адлюстраванне ў маўленні прыватнай і калектыўнай ідэнтычнасці, канструяванне асобы ў розных тыпах дыскурсу, спецыфіка рэпрэзентацыі нацыянальнай ідэнтычнасці ў медыядыскурсе.

Маўленчая стратэгія самаідэнтыфікацыі ў рэлігійным дыскурсе накіраваная на ўсведамленне еднасці з аднаверцамі і іх адрознення ад іншых, г. зн. на выяўленне самаідэнтыфікацыі. Ідэнтыфікацыя – працэс выяўлення самабытнасці, унікальнасці, непадобнасці групы вернікаў на іншыя групы.

Камунікатыўная стратэгія самаідэнтыфікацыі рэалізуецца праз фарміраванне апазіцыі “свой–чужы”, у выніку чаго індывід вызначае сябе як прадстаўніка пэўнай групы, для якой характэрны аднолькавыя з аўтарам прыкметы, ці адмяжоўвае сябе ад групы непадобных да яго людзей, дзякуючы чаму адбываецца фарміраванне сацыяльнай ідэнтычнасці.

Аднак у міжканфесійным фармаце дыскурсу спантанных інтэрнэт-каментароў апазіцыя “свой–чужы” можа губляць ярка выражаны бінарна-ацэначны характар. Яна невыразна кладзецца на структуру рэлігійных выказванняў, таму больш карэктна гаварыць пра апазіцыю “свой”–“іншы”, бо культурнае, гістарычнае і моўнае ўзаемадзеянне паміж канфесіямі настолькі моцнае, што ў рамках нашага даследавання не можа весціся гаворка пра рэлігійную нецярпімасць прадстаўнікоў розных веравызнанняў.

Роля “свайго” зводзіцца да рэпрэзентацыі значэння адзінства грамадства, выкарыстоўваецца з мэтай стабілізацыі і падтрымкі існуючага тыпу канфесійных адносін. У плоскасці рэлігійных “сваіх” хоць і адбываецца падзел на аднаверцаў (“сваіх”) і іншаверцаў (“чужых”), аднак мяжа паміж імі размываецца або назіраецца расцягванне сваіх граніц на прастору “чужога”.

---

[1] М. Лаппо, *Самоидентификация: прямое, косвенное эксплицитное и косвенное имплицитное описание идентичности говорящим субъектом,* “Вестник Томского государственного университета” 2013, № 372, с. 28.

Моўнымі сродкамі выражэння стратэгіі рэлігійнай самаідэнтыфікацыі выступаюць апазіцыі “вера – не вера”, “канфесія – соцыум”. Як паказаў аналіз, інтэрнэт-камуніканты найбольш актыўна разважаюць пра канфесійную прыналежнасць “сваю” і “іншага”, дэманструюць здольнасць “ужывацца ў светапогляд” іншага, талерантнае стаўленне да вернікаў іншых канфесій. Характэрна, што ва ўзаемаадносінах паміж прадстаўнікамі розных канфесій рэлігійныя адрозненні палягаюць у галіне дэкларатыўных ведаў (“я ведаю, што ёсць розніца”), на практыцы пераважае ўяўленне аб кааперацыі, адзінстве соцыума, г. зн. усведамленне таго, што ёсць у рэальным жыцці і прыдатна для культуры паўсядзённасці.

Акрамя названых вышэй журналісцкіх артыкулаў, уключым у якасці матэрыялу для аналізу пост аднаго з аўтараў, які выклікаў рэзананс і быў актыўна пракаментаваны карыстальнікамі. Сэнс поста ў наступным:

**Bobenskiy:** *А что с крещением ребенка? У нас, в Гродненской епархии отказываются крестить ребенка, за то, что крестная мама будет католичкой!!! И не просто отказывает, а запретила всем церквям в области!).*

Міжрэлігійны дыялог сярод аўтараў зварочваецца вакол актуальных праблем – рэлігійнага шлюбу і хросту (гэтае пытанне было паднятае аўтарам поста ў чаканні, што ўдзельнікі дыскусіі яго захочуць пракаментаваць). Заўважым, што ў прыкладах захоўваецца арфаграфія і пунктуацыя аўтараў.

**Аксиния_Шинкарёва:** *Моя крестница родилась преждевременно. Находилась в тяжёлом состоянии в реанимации. Я, православная, стала крёстной, а крёстным стал лечащий врач, католик. Батюшка ему сам предложил, доктор согласился.*

**Tokarevich_Ivan:** *Все зависит от батюшки. Мы, когда с женой венчались, не соблюли некоторые правила. На что батюшка ответил: “Вы же хотите венчаться? Так я буду молиться за ваши грехи и незнания!” Вот оно, настоящее доверие и вера!!!... Не вижу проблем между “православные-католики”! Все веруют в одного Бога, просто, у них разные подходы. Главное-что бы Бог был в сердце! Независимо от конфессий! …*

**outy:** *Более того, мы свою дочь крестили в костеле, а крестные мама и папа были православными. И никаких возражений или отказов не было. Только один раз ксёндз спросил, может быть есть кто-то из католиков, кто может быть крестным. Но у нас такого варианта не было. И более того, в костеле нет какой-то таксы за проведение крещения. О деньгах никто не заводил разговор со стороны костела... В православном храме за крещение где-то 60 р. нужно выложить в обязательном порядке.*

**Shiki-Miki:** *У меня в семье муж и дети католики, а я одна православная.*

**Prohojiy:** *Я сам (католик) крестил в церкви (правда давно, та же Гродненская епархия), кума православная, из Краснодара. В итоге крестник женился на польке, венчался в костёле. Свои дети воспитаны в католичестве, хотя жена была православная.*

Дастаткова высокі паказчык тэкстаў сведчыць пра тое, што адчужанасць па канфесійнай прыкмеце сярод наведвальнікаў сайта практычна нівеліруецца, рэлігійныя адносіны выступаюць фактам паўсядзённага жыцця. У дыялогах удзельнікаў пераважае ўстаноўка на міжканфесійную згоду, спасылка на ўласны вопыт, а не на веру ці рэлігійныя догмы, а канфесійныя адрозненні не ўплываюць на ўзаемаадносіны ў іх акружэнні.

Апазіцыя "свой–чужы" атрымлівае сваю рэалізацыю ў супастаўленні "вера – не вера", калі прыхільнікі розных канфесій супрацьпастаўляюцца іншым членам грамадства па прыкмеце веры. "Чужы" ў каментарах – прадстаўнік без веры, атэіст, які адмаўляецца прызнаваць любое рэлігійнае вучэнне, не прызнае рэлігійных каштоўнасцей. Тэксты такіх аўтараў пабудаваны на супрацьпастаўленні свецкай і рэлігійнай пазіцыі, набываюць адкрыта варожы характар да прадстаўнікоў любой канфесіі, утрымліваюць жорсткую крытыку і агрэсію.

**Мозговед:** *Хорошо быть еретиком и не бояться сожжения на костре <...> но когда видишь толпу людей возле церкви жаждущих чтобы их пироги и крашеные яйца побрызгали водой, или читаешь подобные статьи то начинаешь верить, что человек самое безумное из всех живых существ.*

**toomushchik_toomushchik:** *Эпидемия тупости. Моя твердая позиция – все религиозные вопросы мой ребенок будет решать сам, после того, как ему исполнится 18 лет. В то же время я всеми силами буду растить образованного человека, чтобы этих вопросов у него не возникло. ЛЮБУЮ ЦЕРКОВЬ, РЕЛИГИЮ – ПРЕЗИРАЮ. Людей, поклоняющихся трупам, верующих в сказки тысячелетних давностей и проводящих всю жизнь на коленях – ПРЕЗИРАЮ. Морды эти, которые по телевизору ратуют против ЭКО, против прерывания беременности по врачебным показаниям и втирают дичь, что где-то там есть мужик, который следит за вами и всем надает по попе после смерти – объявил бы мошенниками и шарлатанами и посадил бы надолго. Вот такое вот ЛИЧНО МОЕ отношение к религии.*

**Bobenskiy хм.:** *Я – неверующий. И не крещён. Библию считаю вымыслом. Стало быть, я – еретик…*

**mikhail_kurochkin:** *Как же хорошо, что я атеист и мне совершенно наплевать на эти правила.*

**id202042197:** *А вообще христианская церковь теряет свой авторитет. Я давно стал атеистом и думаю что религия (любая) не дает человеку ничего полезного <...> Мне кажется церковь через лет сто перестанет быть актуальной т. к. эта контора просто бизнес, причем с гос поддержкой, которая даже налоги не платит…*

**alskh:** *Интересно чем вообще бог от дьявола отличается. Один шлёт испытания, другой искушения – суть одно и то же, оба карают грешников. Может это одно лицо?*

Дыферэнцыяцыя "свайго" і "чужога" па лініі рэлігійных адносін рэалізуецца праз супастаўленне "канфесія – соцыум". Тактыка заключаецца ў эксплікацыі канфесійных адрозненняў і рэалізуецца ў ацэначна-маркіраваным супастаўленні праваслаўя і каталіцызму, прычым у міжканфесійным дыялогу праяўляецца лаяльнае стаўленне да каталіцызму, а праваслаўю даецца негатыўная ацэнка.

**Prohojiy**: *У католиков более лояльный подход к этому. Они и детей к первому причастию готовят при костёлах.*

**sexi:** *Государство <…> стрижёт налоги с церкви, все указки в полит. и духовном плане с Московии идут. У католиков всё по-другому <…> там нет этой показухи, я хоть и православная, но детей покрестили в костёле.*

**Janych:** *Т. е. православная вера уже перестала быть христианская? Московский патриархат исповедует какую-то свою – православную веру. И ребенка хрестят не в христианскую веру, а в православную? Беларусы уже давно живут в своем православно-католическом мире и отлично уживаются – они христиане, настоящие...*

**sexi:** *У нас больше католиков <…> поэтому со временем все перейдут на польскую веру*.

**the_wisher:** *В Европе уже все больше и больше мусульман... так что вам не польская вера нужна, а ислам*.

**hiki-Miki:** *Католическая церковь в плане "контактов" с другими христиантскими ветвями более свободных взглядов придерживается*...

Для аўтараў некаторых каментароў рэлігійныя догмы застаюцца другаснымі ў дачыненні да ўнутраных меркаванняў.

**Pani:** *Я – католичка. В Библии тоже есть такие "опасные" места. Я не принимаю призывы некоторых псалмов, где в тексте говорятся страшные проклятия, пожелания смерти детям. Объясняется это тем, что это история еврейского народа, что это все иносказательно. Тем не менее, читать это неприятно.*

Яшчэ адзін падыход, які можна ахарактарызаваць як "вера без прыналежнасці" ці "прыналежнасць без веры": і праваслаўе, і каталіцызм каментуюцца як "чужыя" для беларускага грамадства рэлігійныя сілы.

**ales.kaput:** *Ёсць спрадвеку на Беларусі свая адмысловая вера, т. з. "вера беларуская", якая азначае, што хрост мы прымаем ці ў царквах ці касцёлах, але потым туды не ходзім, бо не маем да іх веры. У касцёлах нас апалячвалі, а ў царквах – рабілі рускімі. Гэта такі своеасаблівы пратэстантызм пераплецены з моцнымі дахрысціянскімі традыцыямі (Радаўніца, Дзяды, Івана Купала і г.д.).*

Нягледзячы на тое, што ў тэкстах дамінуюць негатыўнае стаўленне да традыцыйных канфесій, некаторыя посты дэманструюць дастаткова яскравую рэлігійнасць наведвальнікаў сайта.

**6565302:** *Читаю и дивлюсь. Большенство пишущих либо троли-атеисты либо крещенные, которые пару раз в жизни были в храмах и то как туристы, которые тоже ничего не понимают в жизни Церкви <…> Это же тема для Православных верующих и принятых правилах на Архиерейском соборе. Это правила к исполнению, а не обсасыванию вопросов в которых не понимаешь.*

P.S. <…> *Вы просто прикоснетесь к духовному и на многие вопросы у вас откроются глаза, все станет на свои места. Человек полон, когда объединяет в себе и физическое и духовное, это является гармоничным развитием личности.*

**Василий_Петров_talks67:** *Православная Церковь – единственное, что ещё удерживает наше общество от разгула безнравственности и либерального безумия. Но и Церкви нужно зорко смотреть за своими служителями и следованию Священного Предания.*

**ingemar_smit:** *В сводках преступлений несравненно больше фигурируют атеисты. Несравненно. Преступления, заморочки. Почти одни атеисты.*

Наступная маўленчая стратэгія – дыскрэдытацыі рэлігіі і веры – рэалізуецца з дапамогай тактык, моўных сродкаў, тропаў і фігур, выкарыстанне якіх парушае лінгвапрагматычныя прынцыпы камунікацыі. Маўленчая стратэгія дыскрэдытацыі рэлігіі рэалізуецца ў наступных тактыках: дыскрэдытацыі канфесій у цэлым; дыскрэдытацыі Рускай праваслаўнай царквы і Рымска-каталіцкага касцёла як сацыяльных інстытутаў; дыскрэдытацыі святароў.

Тактыка дыскрэдытацыі праваслаўя і каталіцызму як рэлігійных вучэнняў заключаецца ў падрыве даверу, змяншэнні аўтарытэту, традыцыйным абвінавачванні ў цемрашальстве Царквы. Тэксты ўтрымліваюць нападкі на рэлігію, негатыўнае стаўленне як да праваслаўных, так і каталікоў, у цэлым да "афіцыйнай" Царквы, якая выступае носьбітам варожага светапогляду.

**Иван_Штульц:** *Библия и есть выдумка смертных, давно мучает вопрос, если бог создал человека по образцу и подобию своему, то человек это копия бога, значит бог это человек, почему тогда человек не всемогущ и не вездесущ как бог? И почему копия бога является его рабом? Человек разумный найдёт там много непонятного, просто библию никто не читает.*

**гыук60491**: *А если бы были атеистами, то не имели бы вообще такого геморроя. И сколько денег оставили бы в семье, а не отдали бы попам в карман.*

**Мария_Иванова_talks99:** *Бесспорно, что Иисус существовал, и бог есть, но это вовсе на значит, что именно христианская религия истинная.*

**the_wisher**: *Вера она в душе, а не в церкви. Религия это просто такой бизнес.*

Тактыка дыскрэдытацыі Рускай праваслаўнай царквы і Рымска-каталіцкага касцёла як сацыяльных інстытутаў у прааналізаваным

матэрыяле рэалізуецца праз трактаванне РПЦБ і РКК як палітычных, грамадскіх, культурных, гаспадарчых структур, якія дзейнічаюць не на карысць усяго грамадства, але ў сваіх інтарэсах. Аўтары постаў бачаць у Царкве аналаг свецкай арганізацыі ці нейкую "бізнес-карпарацыю". Звяртае на сябе ўвагу той факт, што, крытыкуючы дзейнасць Царквы, аўтары постаў не адмаўляюць веры ў Бога і Хрыста.

**Janych:** *Тут встретил два типа верующих – верующих в свою церкву и верующих что человек жил и будет жить без всякой веры. А почему бы не верить просто в Бога в Троице Единого. Церковь в лучшем случае посредник. Посредник не справляется с работой – найдем другого.*

**Александр_Петрович_tutby5:** *Церковь – дело рук людских. Никакого отношения к Богу она не имеет. Вообще. Бог в каждом из нас. Душа – это и есть частичка Бога. Он в мыслях и в поступках. А Церковь – эксплуатация веры человека, в корыстных целях.*

**Чен_Кайшу:** *Мракобесие, конечно, с одной стороны. С другой стороны, раз есть некая организация, то какие-то и правила для ее членов должны быть. В крайнем случае, всегда можно перейти в другую веру, если что.*

**Люблю_Себя:** *моя знакомая (католичка) зашла в храм православный <…> Ее попросили, настойчиво попросили (вежливо выпроводили) выйти.*

**Егор Батрудов:** *Такое ощущение, что представители церкви побывали там, все законспектировали и вернулись сюда, чтобы благую весть доносить <…> Идиотизм чистой воды <…>.*

Стратэгія дыскрэдытацыі святароў сарыентаваная на фарміраванне негатыўнай ацэнкі іх дзеянняў і рэалізуецца ў такіх прыёмах, як абвінавачанне, папрок, іронія, намёк, навешванне ярлыкоў. У дыялогах удзельнікаў дыскусіі прыкладна ў аднолькававай ступені, рэзка і часам нават з нянавісцю, крытыкуюцца і праваслаўныя, і каталіцкія святары за дзеянні, якія парушаюць, з пункту гледжання аўтараў постаў, рэлігійныя каштоўнасці і рэлігійную сістэму паняццяў. Адзін з найбольш вострых момантаў для крытыкі духавенства – імкненне да ўзбагачэння за кошт прыхаджан.

**flakman_talks8:** *А насчет, яхт и дорогих машин святых отцов, что там боженька говорит, или только его однополые волнуют?*

**the_wisher:** *В борьбе за клиента (верующего) все методы хороши. Но читаешь про католиков-священников педофилов, ПРЦшных бухих священников сбивающих насмерть людей и понимаешь – это все бутафория, это все такое фальшивое и красивое, что даже словами сложно это описать).*

**id172317619:** *А фото машин, на которых ездят "приближенные" к Богу? А периодически мелькающие статьи о развратниках –служителях церкви. А определенное "пожертвование" (такса) за крещение, венчание <…> В моем понимании вера не измеряется походами в церковь, она внутри человека.*

**ekaterina_bultsevich:** *Я венчалась в костеле в Беларуси <…> По приезде в Польшу местный ксёндз вертел свидетельство о браке, выданное у нас, приговаривая, что оно как-то "не так" выглядит и надо принести ему еще несколько бумажек и он произведет запись в книге венчаний в Польше <…> В итоге сошлись на том, что белорусского свидетельства будет достаточно. Чуть позже местный народ просветил, что такая запись стоит 1000 злотых.*

Можна меркаваць, што пазіцыя негатыўнага канструявання вобразу святароў у свядомасці каментатараў грунтуецца на публікацыях свецкіх СМІ, для якіх характэрная тэндэнцыйнасць у асвятленні рэлігійнага жыцця, нізкі прафесійны ўзровень і неаб’ектыўнасць, прадузятасць журналістаў[1].

Спробу ўзважанага падыходу да праблемы дэманструюць тэксты, аўтары якіх спасылаюцца на ўласны вопыт прыхаджаніна. Хоць канкрэтных сведчанняў наведвальнікаў сайта такога плану не так і многа, аднак яны пішуцца на праверанай канкрэтнай інфармацыі, вытрыманы ў далікатнай форме, утрымліваюць важкія аргументы. Вельмі шкада, што такія факты застаюцца для СМІ непачутымі ці малазначнымі.

**ekaterina_bultsevich:** *Из белорусских ксендзов, знакома была с легендой Владиславом Чернявским (служил в Вишнево, Воложинский район). Он имел привычку спрашивать у людей, не последние ли деньги ему отдают, брал некую часть, остальное отдавал людям и говорил, что ему много не надо, а у людей дети и многое другое подобному делал. Более таких не встречала. Найти лояльного ксендза в Беларуси сейчас не проблема.*

Віртуальная прастора стала месцам выражэння рэлігійных поглядаў грамадзян, што паслужыла прычынай для аналізу асаблівасцей дадзенага сродку камунікацыі ў кантэксце выражэння карыстальнікамі інтэрнэту сваёй рэлігійнай культуры. Падкрэслім, што мы не экстрапалюем атрыманыя вынікі на свядомасць і рэлігійную культуру ўсіх грамадзян Беларусі. Увага звяртаецца на спантанную тэкставую дзейнасць аўтараў постаў, якая, на нашу думку, фіксуе рэлігійныя погляды, чаканні аўдыторыі. Аналіз інтэрнэт-каментароў да артыкулаў рэлігійнай тэматыкі паказаў, што вядучай камунікатыўнай стратэгіяй выступае стратэгія рэлігійнай самаідэнтыфікацыі, якая накіравана на ўсведамленне канфесійнай еднасці аднаверцаў і іх адрозненні ад іншых. Стратэгія дыскрэдытацыі рэлігіі і веры замест усебаковага аналізу і прывядзення аргументаў “за” ці “супраць” дэманструе катэгарычна выражаную негатыўную ацэнку рэлігіі. Можна меркаваць, што дадзеныя стратэгіі выбіраюцца аўтарамі свядома, не характарызуюцца аб’ектыўнымі падыходамі. Камунікатыўныя дзеянні ўдзельнікаў вір-

[1] В. Хруль, *Медиатизация религиозных ценностей как фактор формирования культуры диалога в российской журналистике,* “Вестник Московского государственного университета”, сер. 10, Журналистика, 2012, № 4, с. 62.

туальнага дыскурсу характарызуюцца выражанай аксіялагічнасцю: аўтары постаў дэманструюць недавер, падазронасць, неўхваленне канфесійнай палітыкі, імкнуцца да навешвання ярлыкоў і г. д.

Артыкул выканы пры падтрымцы БРФФД (дамова Г17Р-069 ад 18.04.2017).

*Iryna Pivavarchyk*

**The Religious Culture of Ethno-Confessional Electronic Communication**

A b s t r a c t

The article analyses the genre of the Internet commentary on religious texts posted on the leading information and news portal of the Republic of Belarus TUT.BY. The main goal was to study the speech interaction of communicants, their communicative strategies and tactics of expressing religious identity. It is established that alienation by confessional grounds is practically levelled; it is emphasized that texts for religious articles are mostly characterized by negative assessment.

**Таццяна Трафімчук**
Брэст

# Мастацкая рэцэпцыя і творчае адлюстраванне эпохі Сярэднявечча ў музыцы беларускіх і польскіх кампазітараў другой паловы XX – пачатку XXI стст.

Тэма і вобразы гістарычнай мінуўшчыны заўсёды мелі важнае значэнне ў мастацкай культуры Беларусі і Польшчы. У другой палове XX – пачатку XXI стст. тэндэнцыя гістарызму не толькі актуалізавалася зноў, але і выклікала новую фазу напружанай рэфлексіі творцаў.

Адным з вядучых напрамкаў гістарычна заглыбленай плыні стала захапленне многіх мастакоў, пісьменнікаў, скульптараў эпохай Сярэдніх вякоў. Не стала выключэннем і творчасць кампазітараў. Далёкае, працяглае, таямнічае і неадназначнае Сярэднявечча адкрывала шырокі прастор для фантазіі паводле "залатых і чорных" легенд даўніны, выклікала разважанні пра складаныя шляхі гісторыі, станавілася крыніцай філасофскіх пошукаў духоўных асноў і традыцый продкаў.

Індывідуальна-аўтарская рэцэпцыя эпохі Сярэдніх вякоў абумовіла мноства рашэнняў яе мастацкага адлюстравання ў творчасці сучасных кампазітараў. Аднак на інтэртэкстуальным узроўні можна вызначыць пэўныя кропкі скрыжаванняў тых ці іншых твораў (тэкстаў), вылучыць топасы, якія аб'ядноўваюць розных аўтараў, розныя часавыя перыяды, розныя віды і жанры мастацтва, стылявыя напрамкі і мастацкія тэндэнцыі.

У гэтым рэчышчы паказальна, што ***тэматыка***, ***вобразнасць*** музычных твораў XX – пачатку XXI стст., звернутых да сярэднявечнай эпохі, засяроджваецца на шэрагу агульных "сюжэтаў". Сэнсавую сутнасць апошніх акрэсліваюць часава-прасторавыя ўяўленні кампазітараў, аднак не меншае значэнне маюць і "топасы-персанажы". Найбольш выразна дадзеныя адсылкі прадстаўлены ў праграмных назвах твораў:

• да далёкай эпохі адразу накіроўваюць такія загалоўкі, як *Гімны беларускага Сярэднявечча* Ларысы Сімаковіч, *Сярэдневяковая музыка* Вячаслава Кузняцова, *Гатыцкая сюіта* Шчэпана Цесаровіча, *Гатыцкі канцэрт* Анджэя Пануфніка;

• рэальная прастора Сярэднявечча праз стагоддзі разгортваецца праз топіку старажытных гарадоў і іх локусаў – храмаў, замкаў, вежаў і інш., якія пазначаны ў назвах твораў *Полацк*, *Каложа* Віктара Войціка, *Полацкія пісьмёны*, *Тур*, *Мсціслаўль*, *Сафія* Андрэя Мдзівані, *Старажытны Полацк*, *Гальшаны, Замкавая гара* Ганны Кароткінай, *Трубяць трубы Гарадзенскія* Уладзіміра Кандрусевіча, *Тураўская легенда* Сяргея Хвашчынскага, *Грамадзяне горада Кале* Алега Хадоскі, *Сабор Святой Сафіі* Генадзя Ермачэнкава, *Белая Вежа* Васіля Кандрасюка, Ларысы Мурашка, Уладзіміра Дарохіна, *Гатычная вежа* Валерыя Іванова, *Крэва* Аляксандра Літвіноўскага, *Сны Замкавай гары* Канстанціна Яськова, *Грунвальд–1410* Уладзіміра Байдава, *Грунвальд* Рамуальда Твардоўскага, *Грунвальдскае поле* Пятра Моса, *Вавельскі смок* Ёзэфа Свідэра;

• чалавечае жыццё далёкай эпохі набывае мастацкае ўвасабленне, дзякуючы абліччам выдатных постацей, пра якія "распавядаюць" творы *Францыск Асізскі*, *Святы Рафал Каліноўскі – Божы пілігрым* Юліуша Луцыўка, *Святая Катажына Генуэзская* Казімежа Юрдзінскага, *Святая Ядвіга Сілезская – заступніца разумення* Міраслава Гонсінеца, *Пілігрым* Марэка Сэвена, *Tristan in memorium* Яна Крэнца, *Песні трувэраў* Тадэвуша Бэрда, *Sanctus Adalbertus* Генрыка Мікалая Гурэцкага, *Сны Еўфрасінні* Л. Сімаковіч, *У вянок Еўфрасінні Полацкай* Г. Ермачэнкава, *Кірылу Тураўскаму* Уладзіміра Будніка, *Страсці (Рагнеда)* А. Мдзівані, *Князь Навагр噶дскі* Андрэя Бандарэнкі, *Спевы даўнейшых ліцвінаў*, *Вітаўт* В. Кузняцова, *Соф'я Гальшанская* У. Кандрусевіча, *Успаміны аб Рагнедзе* Уладзіміра Саўчыка, *Князь Альгерд* Г. Кароткінай, *Плач Ізольды* Віктара Капыцько, *Трыстан і Мелот* В. Войціка, *Дыялогі пра Трыстана* Дзмітрыя Лыбіна.

Істотна тое, што амаль кожны з вобразаў, якія раскрываюцца ў названых творах, з'яўляецца складаным і невыпадковым. Прайшоўшы розныя этапы гістарычна-культурных "выпрабаванняў", яны і раней, і цяпер застаюцца дзейснымі, важкімі, запатрабаванымі сімваламі, у тым ліку – сімваламі Сярэднявечча. Менавіта таму многія з пералічаных, а таксама і іншыя музычныя творы, якія закранаюць падобныя глыбінныя, надчасавыя і інтэркультурныя ўзроўні, "узнімаюць чалавечы дух ад матэрыяльнай рэчаіснасці да ідэальнай, ад бачнага да нябачнага, ад канчатковага да бясконцага"[1]. З прычыны гэтага асаблівасцю іх мастацкай рэцэпцыі становіцца нівеліраванне розніцы паміж літаральнай або рэальна-гістарычнай і ўмоўнай рэчаіснасцю, што падобна таму, як у сярэднявечнай сімвалічнай карціне светабудовы "прадмет і яго патаемныя іншасказальныя значэнні выступалі непадзельна і валодалі аднолькавай мерай рэальнасці"[2].

Па-іншаму асаблівасці кампазітарскага ўспрыняцця і ўвасаблення эпохі Сярэднявечча раскрываюцца ў сувязі з пэўнымі ***сферамі зместу,*** дзе можна вылучыць дзве:

[1] В. Даркевич, *Светская праздничная жизнь Средневековья IX–XVI вв.*, Москва 2006, с. 12.

[2] *Тамсама.*

• рэлігійную,

• эпічную.

Першая наўпрост звязана з вядучай і асноватворчай катэгорыяй культуры Сярэдніх вякоў – рэлігійнасцю, якая ў творах сучасных аўтараў знайшла выяўленне ў некалькіх іпастасях:

• "прафанная" фальклорная,

• сакральная – звязаная з хрысціянскай традыцыяй,

• сінтэтычная, у межах якой суіснуюць папярэднія дзве, што "сутыкае нас з парадаксальным перапляценнем палярных суплацьлегласцей – нізіннага і спірытуальнага, змрочнага і камічнага, жыцця і смерці. Разведзеныя па палюсах, гэтыя крайнасці разам з тым бесперастанку зблiжаюцца, мяняюцца месцамі з тым, каб ізноў разысціся"[1].

Да прыкладу, у харавым канцэрце беларускай кампазітаркі Л. Сімаковіч *Гімны беларускага Сярэднявечча* для змешанага хору, салістаў і ўдарных (2002) вылучаныя эманацыі рэлігійнасці паўстаюць у шматгранным скрыжаванні. Першая частка канцэрту (*Kyrie eleison*) адразу асацыятыўна адсылае да жанру каталіцкай імшы, што падкрэслівае стрыманая, манадыйная па складзе тэма, якая нагадвае сярэднявечны песнаспеў. Аднак пры далейшым развіцці да яе далучаецца семантычна кантрасны музычны пласт, дзе імітуецца гучанне народнага ансамбля. Новая вобразна-гукавая сфера паступова скасоўвае першапачатковы пасыл, набывае развіццё і ўжо ў наступнай, другой частцы (*Kyrie eleison-2, "з валачобным прысмакам"*) дадаецца адначасовае гучанне фрагментаў малітвы і народнай валачобнай песні *Валачобнічкі валачыліся*. Трэцяя частка *Гімнаў* (*Раство Твае, Багародзіца*) ізноў вяртае сферу хрысціянскай (у дадзеным выпадку – праваслаўнай) сакральнасці. Выразнае сола тэнара на фоне мяккага, прасветленага харавога акапэльнага гучання перадае цеплыню асабістага малітоўнага звароту і робіць частку лірычна-ўзнёслым цэнтрам цыкла. Чацвёрты *Гімн* (*Ангелу Хрыстоў! Ахоўніча мой! Сьвяты Ангелу Хрыстоў!*) адзначае новы пераход ад адной да другой семантычнай сферы. Ён гучыць быццам настойлівая малітва-замова, дзе лапідарныя, сугестыўныя, адкрытаэкспрэсіўныя харавыя фразы перамяжоўваюцца з кароткімі інструментальнымі фразамі літаўр. Пятая (*Не краду перамогу па начах*) і шостая (*Як тых куранят, што ў ахвяру парэжуць, а іншыя будуць у водах патоплены*) часткі канцэрта з'яўляюцца ўзорамі сінтэзу дзвюх вылучаных асноў цыкла, што адлюстроўваюцца ў адначасовым наслаенні стылізаваных фальклорных тэкстаў і блізкіх, як да народнай, так і да храмавай культуры пакутных песень. Апошняя, сёмая частка (*Сьвяты Йоане*) з'яўляецца аўтарскім варыянтам гімна пра святога Іаана. Вызначальным змястоўным модусам тут становіцца стыхія народнага святочнага руху. Песенныя звароты да Святога Іаана – "ахоўніка горла і га-

[1] А. Г у р е в и ч, *Категории средневековой культуры*, Москва 1984, с. 19.

ласавых звязак усяго спеўнага люду" (паводле аўтарскай рэмаркі да назвы часткі) чаргуюцца з імітацыяй народнай манеры спеву "пад язык".

Такім чынам, Сярэднявечча ў творы Л. Сімаковіч – шматгараннае, кантраснае, зменлівае, прадстаўленае праз прызму пачуццёва-эмацыянальнага аўтарскага ўспрыняцця ўзаемасувязі рэлігійна-сакральнай і "прафаннай", народнай асноў.

У *Сакральнай сімфоніі* (1963) польскага кампазітара Андэя Пануфніка "сярэднявечнасць" праяўляецца ў іншым, адметным ключы: не столькі ў праграме, змесце, колькі ў музычным тэксце твора, пранізаным інтанацыямі гімну *Багародзіца*.

Варта падкрэсліць вядомасць і распаўсюджанасць аднаго са старэйшых помнікаў музычнай культуры Сярэднявечча як уласна ў часы яго непасрэднага бытавання, так і ў наступныя эпохі. Збольшага гэта можа быць звязана з шырокім "полем" гучання і функцыянавання *Багародзіцы*: "Нагадаем, – піша Багуміла Міка, – што гэта песня ўяўляе род малітвы, мальбы да Прачыстай Панны Марыі. Адначасова гэта і рыцарская песня з XIII ст., якая, паміж іншым, выконвалася падчас бітвы пад Грунвальдам у 1410 г."[1]. "*Patrium carmen*, як яшчэ называлі *Багародзіцу*, цесна зраслася з гісторяй Польшчы, – заўважае Эва Абніска. – Яна гучала і пры каранацыях каралёў, і пры выдачы важнейшых дзяржаўных дэкрэтаў"[2]. Значнасць песнаспеву падкрэслівае і Геранім Фейхт, калі даводзіць, што "кампазіцыя гэта выконвала ў даўніх стагоддзях, паводле традыцыі, ролю нацыянальнага гімна"[3].

З іншага боку, *Багародзіцу* не толькі ведалі, але па-асабліваму, вельмі паважліва і любоўна ставіліся да яе. Пацвярджэннем таму можа быць прадмова да аднаго з выданняў твора, дзе аўтар піша: "Спеў гэты, як светлая ніць нябеснага ззяння, абвівае жыццё Польшчы, як поўны велічы і святасці прыпеў кожную хвіліну адгукаецца ў магутнай песні мінуўшчыны. З тым гімнам на вуснах нашыя продкі ваявалі з ворагам <…>, калі тым часам жанчыны, старыя, калекі і дзеці тым жа гімнам пасля Боскіх храмаў малілі Прачыстую Маці Збавіцеля аб блаславенні зброі змагароў"[4].

Шматгранная семантыка сярэднявечнага гімну, які, паводле аўтарскага бачання А. Пануфніка "спявалі не толькі вернікі ў касцёлах як малітву да Марыі, але і польскія рыцары на палях бітвы"[5], праз стагоддзі адлюстравалася ў яго сімфоніі. Музычныя інспірацыі *Багародзіцы* надалі, з аднаго боку, своеасаблівы каларыт гучанню ўсіх частак твора, а, з другога – выканалі важную структурна-кампазіцыйную

---

[1] B. M i k a, *Pieśń Bogurodzica w funkcji cytatu w muzyce polskiej XX wieku,* Donum Natalicum, red. Z. Fabiańska, Kraków 2007, s. 209.

[2] *Тамсама*.

[3] H. F e i c h t, *Studia nad muzyką polskiego średniowiecza,* Warszawa 1975, s. 103.

[4] *Bogarodzica* (ноты), Petrograd 1916, s. 3.

[5] P. P i e ń k o w s k a, *Epopea narodowa w nuty zaklęta:. Simfonia Sacra Andrzeja Panufnika* [online], http://historiaposzukaj.pl [доступ: 15.01.2018].

функцыю. У першай частцы сімфоніі, якую складаюць тры кантрасныя па ўнутраным строю *Уявы*, кампазітар выбудоўвае музычную (меладыйную і гарманійную) тканіну на аснове інтэрвалаў першых чатырох гукаў мелодыі *Багародзіцы* (кварта, вялікая і малая секунда), а ў другой частцы – *Гімне* – цалкам праводзіць тэму даўняга песнаспеву, які напрыканцы становіцца асновай кульмінацыі як апошняй часткі, так і ўсёй сімфоніі ў цэлым.

Другая змястоўная сфера – эпічная – мае сваю спецыфіку ўвасаблення ў музычных творах сучасных кампазітараў. Тэмы і сюжэты, якія адсылаюць да эпохі Сярэднявечча, не столькі апісваюць гістарычныя падзеі таго часу, колькі прадстаўляюць нейкі "ідэальны свет", у якім адлюстроўваецца народная свядомасць з усімі ўспамінамі і выяўленнямі. Таму характэрнымі рысамі становіцца часава-прасторавая ўмоўнасць, наратыўнасць, насычэнне твораў шматлікімі інтэртэкстуальнымі перакрыжаваннямі і культурна-гістарычнымі сімваламі.

Вышэйадзначанае можна знайсці ў сімфанічнай паэме *Грунвальд* (1944) польскага кампазітара Яна Маклакевіча. Паводле праграмнай назвы відавочна, што паэма прысвечана адной з вядомых гістарычных падзей эпохі Сярэднявечча – Грунвальдскай бітве. Аднак "скрозь радкі" ў змесце "прачытваецца" і праекцыя актуальных ваенных падзей часоў напісання твора. Аптымістычнае заканчэнне паэмы ў дадзеным кантэксце таксама ўспрымаецца дваяка: з аднаго боку, нагадвае аб выдатных перамогах мінуўшчыны, а, з другога боку, узнімае дух і веру сучаснікаў.

З гісторыі стварэння вядома, што першыя фартэпіянныя эскізы былі зроблены аўтарам яшчэ ў 1939 г., але цяжкія ўмовы ваеннага часу адцягнулі поўнае заканчэнне твора на некалькі гадоў. Толькі ў верасні 1943 г. кампазітар пачаў інструментоўку паэмы, якую скончыў праз два месяцы. Першае выкананне *Грунвальда* адбылося 30 мая 1945 г. Пазней твор часта гучаў у розных гарадах Польшчы і за яе межамі[1].

Эпічна разгорнутая, патэтычная паэма для сімфанічнага аркестра Я. Маклакевіча вытрыманая ў традыцыях неарамантычнага стылю, які ўвогуле быў характэрны для творчасці кампазітара, дзе "спалучаліся ўплывы Дзюка, Русэля, харалу, народнай і арыентальнай музыкі, накладзеныя на неарамантычную гарманійную мову і інстументоўку"[2].

Адначасткавая форма твора адметная багатым падзелам на асобныя раздзелы, эпізоды (асабліва ў распрацоўцы), дзе красамоўна перададзены вобразы "малітоўнага спеву войска, тупат коней, ваенных сігналаў, сутыкнення ворагаў, бітвы, жалобы па загінулым на полі бою і славы перамогі"[3].

---

[1] Прынамсі, 16 мая 1946 г. *Грунвальд* быў выкананы ў Маскве пад кіраўніцтвам Казімежа Вілкамірскага.

[2] K. B a c u l e w s k i, *Historia muzyki polskiej, tom VII, cz. 1,* Warszawa 1996, s. 60.

[3] M. W a c h o l c, *Jan Adam Maklakiewicz. Grunwald. Poemat symfoniczny* [online], https://pwm.com.pl [доступ: 21.12.2017].

Невыпадкова кампазітар звяртаецца да блізкіх слухачу ўзораў і ўплятае ў музычную тканіну *Грунвальда* шэраг вядомых фальклорных тэм і матываў, а таксама цытат сакральных песнаспеваў, сярод якіх – фрагменты велікоднага *Праз Тваё святое Уваскрасенне* і згаданага раней сярэднявечнага гімна *Багародзіца*. Яны гучаць на працягу ўсяго твора і складаюць асаблівае вобразна-музычнае "поле", якое спалучае далёкую мінуўшчыну і сучаснасць, ваяўнічую прыўзнятасць і сакральнасць, выразную ілюстратыўнасць і абагульненую апавядальнасць.

Эпічнае адлюстраванне культурна-гістарычнай спадчыны Сярэднявечча ўвасобілася ў *Шостай сімфоніі* ПОЛАЦКІЯ ПІСЬМЁНЫ для хору, сапрана і аркестра (1987) беларускага кампазітара А. Мдзівані, напісанай з нагоды святкавання 1125-годдзя горада Полацка.

Мастацкая рэцэпцыя далёкай эпохі сфакусаваная вакол філасофскіх разважанняў кампазітара аб тэмах часу, асветніцтва, граматы, духоўнасці, аб падзвіжніцкіх постацях Еўфрасінні Полацкай і Сімяона Полацкага, аб складаным лёсе самога старажытнага горада. У сімфоніі гэта адлюстроўваецца ў адпаведна пазначаных аўтарам музычных тэмах, якія пранізваюць увесь двухчасткавы цыкл. Прынамсі, важная ў змястоўна-вобразным і драматургічным плане тэма Еўфрасінні гучыць на пачатку твора і раскрывае шматграннае аўтарскае бачанне гэтай славутай постаці: "Яна, Еўфрасіння, павінна была быць далікатная і валявая, яна павінна была быць, перш за ўсё, велізарнай унутранай культуры і велізарнай унутранай сілы, таму што толькі такія людзі як яна маглі весці за сабою"[1]. Вобраз-сімвал Полацка ўвасоблены ў асобных сімфанічных сцэнах *Град* і *Полацк*. Ідэя "апявання адукацыі і граматы" шматпланава перададзена ў другой аркестрава-харавой частцы *Полацкіх пісьмёнаў*, якая складаецца з чатырох раздзелаў (*Грамота*, *Азъ веди*, *Книга* і *Мудра*). Характэрна, што тут кампазітар звяртаецца да даўніх тэкстаў са *Слоўніка XI–XVII ст.* і з *Помнікаў літаратуры Старажытнай Русі* X–XI ст. Ключавыя для аўтара словы падкрэслены ў музыцы частымі паўторамі і выразнымі меладыйнымі фразамі ў партыі хору, гарманійнымі і тэмбравымі акцэнтамі ў гучанні аркестра.

*Шостая сімфонія* па-свойму асаблівая таксама ў плане жанравага, мастацка-стылёвага вырашэння. Сінтэтычная аснова сімфоніі, якая спалучана з кантатай або араторыяй, з характэрнымі для іх маштабнасцю, гукавой насычанасцю – надае адметны велічна-эпічны размах музычнаму палатну А. Мдзівані, а стылістычныя перакрыжаванні сучаснай аркестравай (вакальна-сімфанічнай) музыкі са стылізацыямі ўзораў старажытнай музыкі, якія адсылаюць да знаменных спеваў, даўніх, нават архаічных мелодый, паказваюць тонкае і глыбокае мастацкае адчуванне дыялога двух аддаленых эпох.

Сімфонія *Полацкія пісьмёны*, якая апявае выдатныя падзеі і постаці Сярэднявечча, павінна, паводле аўтарскай ідэі, выразна данесці сучас-

[1] Паводле запісу інтэрв'ю з А. Мдзівані ад 23. 03. 2011.

нікам, што без мінулага няма будучыні і што сімвалы мінуўшчыны – гэта шлях да далейшага руху.

Шматграннасць рэцэпцыі сярэднявечнай эпохі творцамі XX – пачатку XXI стст. не менш шырока адлюстравана ў ***жанравай палітры*** кампазітарскіх твораў. Пры гэтым музычны жанр часта пераламляецца скрозь прызму крэатыўнай культурнай памяці і актывізуе цэлую тоўшчу розных культурных тэкстаў – музычных і пазамузычных.

У сцэнічных музычна-тэатральных жанрах – ***оперы і балеце*** – вобразы і сюжэты сярэднявечнай мінуўшчыны паўсталі на вялікай сцэне яшчэ на пачатку стагоддзя.

Опера *Маргер* (1905) Канстанціна Горскага (тэкст паводле паэмы Уладзіслава Сыракомлі) асвятліла падзеі, якія разгортваліся на землях паганскай Літвы XIV ст., а ў оперы *Кароль Роджэр* (1926) Караля Шыманоўскага (сумеснае лібрэта кампазітара і Яраслава Івашкевіча) была пададзена старажытная легенда аб сіцылійскім каралі. Пазней у оперы Міколы Шчаглова-Куліковіча *Усяслаў Чарадзей* (або *Князь Усяслаў Полацкі*) (1944, лібрэта Наталлі Арсенневай) даўняя эпоха Сярэдніх вякоў паўстала праз зварот да старонак гісторыі Полацка XI–XII ст.

У другой палове XX ст. беларускі кампазітар А. Бандарэнка адрадзіў цікавасць да даўняй эпохі сваёй операй *Князь Наваградскі* (*Войшалк*) (1992, лібрэта Вольгі Іпатавай). Змест оперы асвятляе гісторыю стварэння Вялікага Княства Літоўскага. Філасофская глыбіня, эпічны размах спалучаюцца ў творы з рамантычнай таямнічасцю, тонкай лірыкай, а гучанне старажытнаславянскіх мелодый пераплятаецца з сучаснай музычнай мовай, што надае твору сэнсавую і гукавую шматмернасць, а таксама "рысы незвычайнасці"[1].

Оперы У. Саўчыка *Еўфрасіння* (1998, лібрэта В. Іпатавай) і *Успаміны аб Рагнедзе* (2006, тэкст лібрэта кампазітара) працягнулі і развілі лінію гісторыі старажытнага Полацка, якая раскрылася ўжо праз вобразы славутых жанчын таго часу і падзеі, звязаныя з іх лёсам і жыццём.

Сярод твораў беларускіх кампазітараў у жанры балета можна назваць *Сны Рагнеды* Сяргея Бельцюкова (1988), *Тураўская легенда* С. Хвашчынскага (1991), *Князь Альгерд* Г. Кароткінай (2013). Адным з яркіх і вядомых з'яўляецца балет *Страсці (Рагнеда)* А. Мдзівані (1992). Драма, эпіка і лірыка цесна пераплятаюцца ў яго сюжэтным змесце, што адбіваецца на шматпланавасці драматургіі, яркасці і насычанасці музычнага гучання. Менавіта таму балет А. Мдзівані называюць "харэаграфічным раманам", дзе "буйны штрых спалучаецца з тонкай дэталізацыяй, абагульненасць інтанацыйна-пластычнага вобраза – з персаніфікаванасцю, дакладнасцю музычных партрэтных характарыстык, яркі аркестравы тэмбр – з выразнасцю мелодыкі, гармоніі і рытму"[2].

[1] Т. М д з і в а н і [і інш.], *Кампазітары Беларусі*, Мінск 1997, с. 289.
[2] Т. М д и в а н и, *А.Ю. Мдивани,* Минск 2009, с. 8.

Іншае аўтарскае выяўленне і мастацкае ўвасабленне сярэднявечнай эпохі адлюстравана ў балеце *Вітаўт* (2010) В. Кузняцова. Сюжэтная лінія твора заснавана на матэрыялах хронік аб падзеях канца XIV – пачатку XV стст., але вялікую долю складае і творчая фантазія аўтара. Прынамсі, гэта адлюстроўваецца ў музычным плане: “Якой была музыка ў тую далёкую эпоху можна толькі здагадвацца, – гаворыць кампазітар. – І мне, як кампазітару, было вельмі цікава пранікнуць у глыбіню стагоддзяў і адчуць сябе часткай гэтай драматычнай дзеі”[1]. Балет В. Кузняцова адрозніваецца складанай разгалінаванай, дынамічнай драматургіяй, выразнай, каларытнай музыкай, дзе абагульнена-архаічныя, фальклорныя і царкоўныя тэмы і інтанацыі пераплятаюцца з вострым, экспрэсіўным сучасным гучаннем.

Мастацкія інтэнцыі эпохі Сярэднявечча ўвасобіліся ў ***вакальных*** і ***вакальна-інструментальных жанрах***, накшталт араторыі, кантаты, вакальна-сімфанічнай паэмы, твораў (цыклаў) для хору з суправаджэннем і без яго.

Прыкладамі інспірацыі вядомай сярэднявечнай секвенцыі *Stabat Mater* у адзначаных жанрах у польскай музыцы другой паловы XX – пачатку XXI стст. з’яўляюцца аднайменныя творы Рамана Падлеўскага, Казімежа Сікорскага, Гражыны Кржаноўскай, Марыяна Савы, Марэка Сэвэна, Збігнева Буярскага, Войцеха Каламажа, Багуслава Шэфера, Яна Аляшковіча, Мілаша Бембінава, Пятра Моса, Кшыштафа Пэндэрэцкага і інш. Кампазітары з’вяртаюцца да розных варыянтаў тэксту: лацінскага (аўтарства якога да гэтага часу дакладана невядома, але прыпісваецца манаху-францысканцу Якапонэ да Тоддзі (к. 1228–1306) і польскага (версія тэксту *Stała Matka bolejąca* вядома праз пераклады Валенты з Бжазова (1554), Станіслава Грахоўскага (1598) і іншыя больш познія ўзоры.

Павел Лукашэўскі ў сваім творы *Stabat Mater* для трох жаночых хораў a capella (1994) выкарыстоўвае лацінскую версію сярэднявечнай паэмы, якая прадстаўлена цалкам, без скаротаў і з захаваннем паслядоўнасці ўсіх 20 тэрцын. Цікава, што пры гэтым агульная працягласць гучання пры ўмераным тэмпе займае каля 10 хвілін. Такая “хуткасць” дасягаецца пры дапамозе асаблівай працы кампазітара з формай: музычная партытура падзеленая на некалькі пластоў, дзе ў розных партыях адначасова гучаць розныя радкі тэксту паэмы, якія накладаюцца адзін на аднаго. Шматфазнасць кампазіцыі дапаўняецца частай зменай фактуры, каларытам і ўнутранай экспрэсіяй гучання.

Сам аўтар падкрэслівае, што імпульсамі для напісання *Stabat Mater* з’явілася “выдатная лацінская паэзія, рытміка якой адлюстравана ў вялікапоснай секвенцыі[2]”, а таксама святкаванне юбілейнай даты з дня

[1] О. С а в и ц к а я, *Князь Витовт*, “Партер” 2013, № 7 (32), с. 8.

[2] R. B o r o w i e c k a, *W kręgu muzyki pasyjnej – STABAT MATER i LUCTUS MARIAE Pawła Łukaszewskiego* [w:] *Forum Muzykologiczne 2012–2013. Musica ecclesiastica – vetus et nova*, Warszawa 2014, s. 80.

нараджэння Джакома Пергалезі, аднайменны твор якога таксама ў пэўнай ступені паўплываў на сачыненне сучаснага кампазітара.

Пэўная мастацкая сувязь з сярэднявечным узорам прасочваецца і ў музыцы Паўла Лукашэўскага. На самым пачатку партытуры творца сам дае спасылку на запіс *Stabat Mater*, узяты з *Alius tonus, p. 1643*. Менавіта гэта мелодыя, яе фрагменты, інтанацыі неаднойчы ўкрапляюцца ў гучанне твора ад яго пачатку і да канца. Як піша Рэната Баравецка: “у частцы, якая вытрымана ў тоне ламентацыйна-сузіральным [строфы 1–11], кампазітар праводзіць яе [секвенцыі] як cantus firmus. У першай фазе [страфа 1] яна мае алюзійны характар <...>. У другой фазе [строфы 2–5] і пятай [строфы 8–11] гэта мелодыя прадстаўленая цалкам у партыі сапран. Яна выразна гучыць у шматлікіх паўторах у фактуры nota conta notam <...> у межах уласнай нэатанальнай мовы П. Лукашэўскага”[1]. Прыёмы развіцця музычнай тканіны таксама нагадваюць некаторыя тэхнікі мінуўшчыны, прынамсі: лінеарнасць і поліхаральнасць, адсылкі да мадальнай ладава-гукавой сістэмы, праз гэта – сувязь з даўнімі жанрамі матэта, кантаты spirituale і інш.

Аднак *Stabat Mater* П. Лукашэўскага нельга не назваць творам менавіта ХХ ст., дзякуючы асаблівай аўтарскай канцэпцыі суаднясення слоўнага тэксту і музычных ліній, незвычайнага экспрэсіўнага, кантраснага, вострa-стрыманага каларыту гучання, якое складае ўражанне “глыбокай прастаты”, сучаснай стылістыкі і кампазітарскай тэхнікі, дзе аўтар свабодна, творча злучае ўзоры і традыцыі мінуўшчыны і сучаснасці.

Сярэднявечныя вобразы ўвасобіліся таксама ў жанрах ***сімфанічнай музыкі*** другой паловы ХХ – пачатку ХХІ стст. Сярод твораў беларускіх кампазітараў варта згадаць сімфанічную фрэску *Крэва* (1986) А. Літвіноўскага, сімфанічныя паэмы *Трубяць трубы гарадзенскія* (1978) У. Кандрусевіча, *Заслаўская легенда* (1986) Віктара Помазава, *Магіла льва* (1999) Г. Ермачэнкава, канцэртную фантазію для цымбалаў і сімфанічнага аркестра *Сны Замкавай гары* (2011) К. Яськова, канцэрт для сімфанічнага аркестра *Грамадзяне горада Кале* (2015) А. Хадоскі, а таксама народна-аркестравыя фрэскі *Сабор святой Сафіі* (1996) і *У вянок Еўфрасінні Полацкай* (2004) Г. Ермачэнкава, *Пятую сімфонію* А. Мдзівані *Памяць зямлі* (1984) для хору, меца-сапрана і народнага аркестра.

Па-свойму мастацкія разважанні пра лёс людзей далёкай эпохі, пра духоўнасць і веру, пра барацьбу з ворагамі і часы мірнага жыцця ўвасоблены ў *Першай сімфоніі (сімфоніі-паэме) Каложа* (1972) В. Войціка. Невыпадкова, што менавіта топас Барысаглебскай або Каложскай царквы, выдатнага помніка старажытнага дойлідства ХІІ ст. (знаходзіцца ў Гародні) паўстаў для кампазітара (гарадзенца па месцы нараджэння) шматгранным сімвалам сярэднявечнай мінуўшчыны.

---

[1] *Тамсама*, с. 83.

Аб Каложы згадваецца яшчэ ў Іпацьеўскім летапісе ад 1183 г.: “Того же лета Городен погоре всь и церквы каменная от блистання молние и шибения грома”. Хрысціянская назва храма звязана з імёнамі яго заснавальнікаў – князёў Барыса і Глеба Усеваладавічаў. Другая назва, паводле версій гісторыкаў, была дадзена ў пачатку XV ст., калі на тэрыторыю пасада былі заселеныя палоненыя абаронцы пскоўскага прадмесця Каложы, або запазычаная ад славянскай назвы ненаселенай мясцовасці – “коложень”.

Сімфонія або, паводле пазначэння кампазітара ў рукапісе партытуры – сімфонія-паэма, з’яўляецца трохчастковым цыклам (Andante, Adagio, Allegro). Пры гэтым важна падкрэсліць імкненне В. Войціка “напісаць паэму, але паэму не адначастковую, а разгорнутую <…>, якая аб’яднаная адной інтанацыяй і разгортваннем – тэматычным і сюжэтным”[1].

У драматургіі твора прадстаўлена некалькі палярных вобразных сфер, умоўна – “станоўчых” і “адмоўных”, якія адлюстраваныя ў музычным тэксце сімфоніі на некалькіх узроўнях.

Першы ўзровень – тэматычны. Адну з груп адкрывае тэма ўступу, жанравай асновай якой з’яўляецца заклічная інтанацыя. Яна ўвасабляе велічна-драматычны сімвал каложскай святыні і ў цыкле выконвае ролю лейттэмы (з’яўляецца напрыканцы першай часткі, а таксама ў іншым, прасветленым варыянце гучання завяршае сімфонію). Тэма пабочнай партыі першай часткі спачатку гучыць як драматычны харал, але затым зменьвае свае вобразнае напаўненне і, прадстаўленая ў няспешным тэмпе і кранальна-простым тоне ў тэмбрах драўляных духавых, становіцца тэмай-сімвалам прыроды, надзеі, мірнага жыцця. Аснову тэмы другой часткі *Каложы* складае мікст інтанацый праваслаўных малітоўных спеваў і стылізаванай народнай песні. Яе непарыўнае разгортванне ў межах варыяцыйнай формы паступова раскрывае новыя адценні экспанаванага вобраза (напрыклад, драматычна-малітоўнае гучанне, дзе можна пазнаць мелодыю малітвы *Святы Божа* ў заключэнні тэмы, прыродна-пастаральныя матывы – у першай варыяцыі, драматызм і блізкасць да “тэм лёсу” – у трэцяй і інш.).

Другую, вобразна-супрацьлеглую групу найбольш ярка рэпрэзентуе тэма галоўнай партыі першай часткі, якая ўспрымаецца як сімвал нашэсця, навалы і вылучаецца інтанацыйнай, рытмавай, сінтаксічнай вуглаватасцю і рэзкасцю. Вядучае месца яна займае тут жа ў распрацоўцы, а далей нагадвае аб сабе ў драматычных кульмінацыях другой і трэцяй частак.

Іншы ўзровень раскрыцця асноўных сфер сімфоніі – інтанацыйны. У цэлым можна вылучыць дыятанічны і храматычны інтанацыйныя комплексы. Першы суадносіцца пераважна з групай “станоўчых” тэм, а другі карэлюе з “адмоўнымі”.

[1] Паводле запісу інтэрв’ю з В. Войцікам ад 23. 02. 2011.

Такім чынам, мастацкая рэцэпцыя В. Войціка эпохі Сярэднявечча звязана з гісторыяй роднага краю, сімвалам якой становіцца сакральная топіка каложскай царквы. Эпічнае развіццё сімфоніі раскрывае розныя грані свету далёкай эпохі, прадстаўленага, аднак, не столькі праз сувязі з канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі, колькі праз па-аўтарску трактаваную міфапаэтыку сярэднявечнага часу-прасторы: "Мяне больш прываблівaў неразгаданы, невядомы нейкі міф, які я сам сабе сканструяваў"[1].

Шматлікія жанры ***камернай*** (камерна-вакальнай і інструментальнай) ***музыкі*** сучасных беларускіх і польскіх кампазітараў таксама дэманструюць разнастайныя бакі мастацкага ўяўлення і ўвасаблення эпохі Сярэднявечча.

Беларускі кампазітар Міхал Васючкоў у творы *Варыяцыі і версіі на старажытную французскую тэму* для трамбона і фартэпіяна (1992, 2-я рэд. 2006) звярнуўся да музычнай тэмы старадаўняе балады пра Генрыха IV. В. Кузняцоў у *Сярэдневяковай музыцы* для струнных і ўдарных (2003) стварыў лаканічную і ёмістую гукавую замалёўку даўніны, дзе розныя грані сярэднявечнага свету адлюстраваліся ў трох кантрасных частках сюіты. Першая частка (*Шэсце*) і трэцяя частка (*Гімн*) рэпрэзентуюць цырыманіяльна-свецкі, урачысты аспект, а ў другой частцы (*Малітва*) гучыць кранальная інструментальная "малітва", стылізаваная пад узоры сярэднявечнай музыкі.

Польскі кампазітар Тадэвуш Бэрд у *Песнях трувэраў* для альта, дзвюх флейтаў і віяланчэлі (1963) выкарыстаў тэксты і мелодыі, знойдзеныя ў працы П'ера Абры *Troubadours et trouvers* (1909). Г.М. Гурэцкі ў *Старапольскай музыцы* для аркестра (1969) працытаваў сярэднявечны арганум (каля 1300 г.) *Benidicatus Domino* – адну з самых ранніх паліфанічных кампазіцый, захаваных у Польшчы. На яго інтанацыйнай (інтэрвальнай) аснове кампазітар стварыў сваю *Музыку*, якую "можна параўнаць з простай, суровай і цвёрдай як граніт статуяй, створанай з гукавых блокаў, у якіх М. Гурэцкі знаходзіць так многа сілы"[2].

Такім чынам, тэма і вобразы Сярэднявечча займаюць асаблівае месца ў музычнай творчасці беларускіх і польскіх кампазітараў другой паловы XX – пачатку XXI стст.

Мастацкая рэцэпцыя і адлюстраванне далёкай эпохі адбываецца на ўзроўні пэўных сімвалаў. Іх шматстайнасць пры гэтым кансалідуецца вакол рэлігійнай і эпічнай змястоўных сфер, якія паказваюць найбольш важныя для сучасных аўтараў духоўныя і культурна-гістарычныя каштоўнасці Сярэднявечча.

Для розных кампазітараў вядучым з'яўляецца такі стылёвы напрамак, пры якім пераважае высокі ўзровень пачуццяў і эмоцый, умоўнасць, фантазійнасць, паэтычнасць вобразнага напаўнення твораў,

---

[1] *Ibidem*.
[2] A. T h o m a s, *Górecki*, Kraków 1998, s. 91.

высокая доля “наратыўнасці”, характэрныя літаратурныя, выяўленчыя і іншыя сімвалічныя адсылкі. У гэтым рэчышчы важнымі становяцца праяўленыя ў розных жанрах інспірацыі сярэднявечнага музычнага матэрыялу, паказальных для эпохі вербальных тэкстаў ці таго і другога разам.

Скрозь прызму дыялогу значна аддаленых па часе культур у музычным мастацтве і шырэй – культуры другой паловы XX – пачатку XXI стст. выступаюць важныя надчасавыя і інтэркультурныя асновы. Нягледзячы на розны тэатральна-сцэнічны і канцэртны лёс польскіх і беларускіх кампазітарскіх твораў, яны не толькі працягваюць лінію культурна-гістарычнай памяці, але і ствараюць духоўна багатую прастору сучаснасці.

*Tatsiana Trafimchuk*

**The Artistic Reception and Creative Reflection of the Middle Ages in the Music of the Belarusian and Polish Composers of the Second Half of the 20th Century and the Beginning of the 21st Century**

A b s t r a c t

The attention to the historical theme in art and composer’s creativity of the second half of the 20th and the 21st centuries has been clearly reflected in the direction of music authored by Belarusian and Polish composers. These works, which are somehow connected with the Middle Ages, occupy an important place, which is embodied in idiolexis, differences in content, genre and style. Characterised by a different nature, not only do they conceptually combine a certain group of works by authors from different generations and schools, but also represent important universal values in the culture of the 20th and 21st centuries.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Наталля Валанцэвіч**
Мінск

# Змена культурнай парадыгмы праз прызму тэатральнага мастацтва ў беларускіх губернях у 1830–1860-я гг.

Існаванне Беларусі ў складзе Расійскай імперыі з канца XVIII ст. яшчэ больш абвастрыла праблему Усход-Захад, якая пэўным чынам уздзейнічала на развіццё беларускага тэатра. Сапраўды, айчыннае тэатральнае мастацтва ў XIX ст. можна разглядаць як своеасаблівае люстэрка, у якім адбіваліся тагачасныя грамадска-палітычныя і сацыякультурныя працэсы, бо, на думку французскага даследчыка Патрыса Паві: "Тэатр – <…> самае ўспрымальнае з усіх мастацтваў у кантэксце эпохі"[1]. Таму, вывучаючы тэатральную культуру рэгіёна 1830–1860-х гг., можна паказаць разнастайнасць грамадска-палітычнага жыцця.

Дадзеная праблематыка ўжо не адно дзесяцігоддзе цікавіць навукоўцаў. Так, гісторыкі даследуюць сацыяльна-культурную і ўнутрыпалітычную сітуацыю, што склалася ў Беларусі ў XIX ст., раскрываюць пытанні, звязаныя з паступовай зменай культурнай парадыгмы ў тагачасным грамадстве[2]. У дысертацыйным даследаванні Святланы Сяльверставай утрымліваюцца шматлікія факты пра існаванне польскага і рускага тэатра ў буйных гарадах Беларусі першай паловы XIX ст. на шырокім грамадска-палітычным фоне, асобна разгледжваюцца асаблівасці цэнзурнай палітыкі ў сферы сцэнічнага мастацтва[3]. У 2000-я гг. навукоўца пачала выкарыстоўваць культуралагічны падыход да даследаванай праблематыкі[4].

[1] П. Пави, *Словарь театра*, Москва 1991, с. XI.

[2] С. Сяльверстава, *Фармаванне сістэмы нагляду за культурай Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX стст.*, "Беларусіка = Albarutenica: Кн. 3: Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне", рэд. А. Мальдзіс, Мінск 1994, с. 39–41; В. Швед, *Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.)*, Гродна 2001.

[3] С. Сельверстова, *Развитие культуры Белоруссии в первой половине XIX в. (изобразительное и театральное искусство)*; диссертация на соискание ученой степени кандидата исторических наук, Гродно 1989.

[4] С. Куль-Сяльверстава, *Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фарміраванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII – 1820-я гг.)*, Мінск 2000; С. Куль-Сельверстава, *Палітыка. Культура. Асоба. Нарысы па гісторыі культуры Беларусі*, Гродна 2012.

Беларускія тэатразнаўцы яшчэ ў савецкі перыяд звярталіся да пытанняў развіцця тэатра ў губернях г. зв. Паўночна-Заходняга краю ў XIX ст.[1]. На жаль, работы, выдадзеныя ў другой палове XX ст., мелі істотныя недахопы: тэатральная культура аналізавалася з пункту гледжання класавай тэорыі разумення мастацтва, з тэатральнага кантэксту "выпалі" многія гарады, якія не ўваходзяць у сучасныя тэрытарыяльныя межы Беларусі, у прыватнасці, Вільня, Коўна, Друскенікі, Дынабург і іншыя. Апошняя акалічнасць не дазваляла даследаваць мастацтва тэатра як цэласную мастацкую сістэму, якая фарміравалася і існавала пад уплывам многіх фактараў.

Адзін з першых гісторыкаў тэатра, хто імкнуўся сканцэнтравацца на асаблівасцях функцыянавання тэатра ў беларускіх губернях у XIX ст. у грамадска-палітычным кантэксце, быў айчынны тэатразнаўца Юрый Пашкін[2]. Але ў раннім артыкуле і манаграфіі *Рускі драматычны тэатр у Беларусі ў XIX стагоддзі* ён толькі аглядна ахарактарызаваў рэпертуарную афішу польскіх труп, якія пераважна выступалі ў 1830–1850-я гг. на дадзенай тэрыторыі, бо гэта не з'яўлялася аб'ектам даследавання аўтара. У некаторых раздзелах калектыўнай манаграфіі *Гісторыя беларускага тэатра* навуковец паспрабаваў узнавіць карціну развіцця тэатра Беларусі ў культурна-гістарычнай перспектыве: акрэсліў пытанні цэнзурнай палітыкі, глядацкай аўдыторыі[3]. На жаль, у савецкі час тэатразнавец не меў магчымасці аб'ектыўна прадставіць прычыны і наступствы пераходу тэатральнага мастацтва ў беларускіх губернях ад польскага ўплыву да расійскага.

Сярод польскіх даследаванняў, у першую чаргу, неабходна вылучыць працы Збігнева Ендрыхоўскага[4]. У манаграфіі *Teatra grodzieńskie 1784–1864*, энцыклапедычнай па сваёй сутнасці, аўтар зрабіў рэканструкцыю рэпертуарнай афішы тэатраў Гродзеншчыны на фоне выразнай змены стаўлення расійскай улады да "заходніх губерняў" і паступовай русіфікацыі краю. Даследчык у храналагічнай паслядоўнасці раскрывае невядомыя факты з гісторыі польскага тэатра ў Гродзенскай губерні, прыводзіць імёны многіх артыстаў і антрэпрэнёраў,

---

[1] У. Няфёд, *Гісторыя беларускага тэатра*, Мінск 1982; *Гісторыя беларускага тэатра ў трох тамах,* т. 1: *Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г.*, рэд. У. Няфёд, Мінск 1983; *Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период*, ред. Г. Кулешова, Минск 1990.

[2] Ю. Пашкін, *Утварэнне прафесійнага рускага драматычнага тэатра ў Беларусі да 1863 г.*, "Весці АН БССР, сер. грам. навук" 1970, № 4, с. 105–112; Ю. Пашкин, *Русский драматический театр в Белоруссии в XIX веке*, Минск 1980.

[3] Ю. Пашкін, *Прыватны і гарадскі тэатр на Беларусі з канца XVIII ст. па 1861 г.* [у:] *Гісторыя беларускага...*, т. 1, с. 225–258.

[4] З. Ендрыхоўскі, *Артысты Віленскага тэатра на Гродзеншчыне*, "Мастацтва Беларусі" 1990, № 11, с. 17–21; Z. Jędrychowski, *Antrepryza Jana Chełmikowskiego w Mińsku Litewskim*, "Notatnik Teatralny" 1996, № 12–13, s. 199–217; З. Ендрыхоўскі, *Тэатральнае жыццё Віцебска ў 1845–1849 гг.*, "Віцебскі сшытак", 1997, № 3, с. 60–70; Z. Jędrychowski, *Teatra grodzieńskie 1784–1864,* Warszawa 2012.

імкнецца паказаць уплыў гістарычных абставін на тэатральнае жыццё і вызначыць тую ролю, якую тэатр адыгрываў у палітычным жыцці краіны.

Актуальнасць і перспектыўнасць комплекснага асэнсавання гісторыі тэатра ў краі ў 1830–1860-я гг. праз прызму грамадска-палітычных і сацыякультурных працэсаў відавочная. Такі падыход дазволіць не толькі асэнсаваць развіццё тэатральнага мастацтва ў культурна-гістарычным кантэксце, але і вызначыць адпаведнасць зместу сцэнічных твораў хвалюючым ідэям часу, раскрыць механізмы ўзаемадзеяння тэатра і публікі.

Напрыканцы XVIII – пачатку XIX ст. з адміраннем сацыяльных абмежаванняў тэатр становіцца даступным кожнаму, хто мог заплаціць за месца ў глядзельнай зале. А агульнадаступны тэатр – гэта сацыякультурны інстытут, які выконвае ў грамадстве не толькі пацяшальную і эстэтычную функцыі, скіраваную на мастацка-вобразнае пазнанне рэчаіснасці, але асветніцкую і ідэалагічную. Таму і стаўленне тагачасных улад да азначанай культурнай установы змяняецца. Напрыклад, імператрыца Кацярына II лічыла, што "тэатр – школа народных нораваў, якая будзе дзейнічаць мацней і хутчэй за ўсе народныя вучылішчы, таму што ён уздзейнічае на ўсе саслоўі і ўзросты, у адным і тым жа кірунку. Канешне, кірунак гэты будзе давацца празорлівым вокам і прыводзіцца ў выкананне вопытнай рукой, каб замест карысці тэатр не прыносіў шкоды"[1]. У цытаце падкрэсліваецца такая ўласцівасць тэатра, як уплывовасць на публіку і магчымасць рэгулявання выбару твораў для пастановак. Таму нядзіўна, што з цягам часу сцэнічнае мастацтва стала выкарыстоўвацца ўладамі як сродак фарміравання карціны свету мясцовага насельніцтва ў неабходным для расійскай дзяржавы кірунку.

Да пачатку 1830-х гг. прафесійныя трупы пачалі больш-менш стала выступаць у гарадах і мястэчках. Пераважна гэта былі польскія артысты, якія звычайна працавалі ў адным горадзе не больш за месяц, а потым пераязджалі ў іншую мясцовасць. Так, у 1829 г. у газеце "Северная пчела" ў каментары да нарыса пра тэатры Расійскай імперыі пазначалася, што аўтар акрамя згаданых дваццаці трох дзеючых тэатраў не падаў "звесткі пра тэатры ў Літоўскіх губернях, бо пастаянныя польскія сцэны існуюць у Вільні, Гродне, Мінску, і звыш таго бываюць прадстаўленні ў Камянцы-Падольскім, Коўне, Зэльве і Свіслачы падчас кірмашоў…"[2].

Менавіта выступленні польскіх вандроўных калектываў садзейнічалі абуджэнню цікавасці да тэатральнага мастацтва ў гарадскіх жыхароў Беларусі. Камічныя оперы, камедыі, меладрамы і вадэвілі, якія выконваліся ў 1830-1840-х гг. у вялікай колькасці на беларускіх сцэнах,

[1] *Народные спектакли на Виленской сцене*, "Виленский вестник" 1866, № 14, с. 2.

[2] *История русского драматического театра в семи томах,* т. 3: *1826–1845*, гл. ред. Е. Холодов, Москва 1978, с. 23–24.

грунтаваліся на прынцыпах “сюжэтнасці” і “сцэнічнасці”, дзеянне ў іх было насычанае спеўнымі і танцавальнымі элементамі, таму такія творы хутка станавіліся папулярнымі. Большая частка спектакляў выконвалася па-польску, часта заходнееўрапейскія і ўкраінскія п’есы перакладаліся. Можна меркаваць, што толькі песні гучалі на мове арыгінала[1]. Публіка, якая наведвала спектаклі, ведала польскую мову, літаратуру, культуру і традыцыі, сфарміраваныя ў часы Рэчы Паспалітай. Таму нядзіўна, што ва ўмовах актыўнай змены культурнай парадыгмы ў беларускіх губернях у бок русіфікацыі польскі тэатр стаў аб’ектам асаблівай увагі імперскіх улад.

Яшчэ з 1828 г. дазвол на прадстаўленні драматычных твораў давала III аддзяленне ўласнай Яго Вялікасці канцылярыі, а абвесткі аб спектаклях, якія планаваліся паказваць на сцэнах тэатраў у заходніх губернях, дасылаліся ў азначаную ўстанову штотыдзень[2]. У сваю чаргу мясцовая адміністрацыя пачала пастаянна сачыць за сцэнічнымі прадстаўленнямі. Так, віцебскі віцэ-губернатар адразу прадпісаў гарадской і земскай паліцыі “мець назіранне ў выпадку, каб дзе адбываліся тэатральныя паказы, паведамляць грамадзянскаму губернатару кожны раз папярэдне аб іх адкрыцці з дадаткам аб’яў аб п’есах, якія будуць прадстаўляцца”[3]. За асобнымі тэатральнымі трупамі ўлады ўстанавілі паліцэйскі нагляд. Напрыклад, у 1831 г. у Віцебскай губерні дзейнасць вальціжора Генрыма і калектыву Караліны Гензель праходзіла пад наглядам паліцыі, што не задавальняла тэатральных дзеячаў[4].

Пасля паўстання 1830–1831 гг. улады працягвалі кантраляваць тэатральную дзейнасць. Так, у 1831 г. для прадстаўленняў тэатральных твораў у заходніх губернях антрэпрэнёры павінны былі прасіць дазволу ў III аддзяленні, нават калі назвы спектакляў былі ў “Спісе дазволеных для паказу п’ес”, які быў зацверджаны цыркулярам міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі[5]. У пачатку 1832 г. Аляксандр Бенкендорф патрабаваў дасылаць у III аддзяленне не толькі абвесткі аб тэатральных п’есах у беларускіх губернях штотыдзень, але і друкаваць афішы “абавязкова напалам”, г. зн. на польскай і расійскай мовах[6].

На месцах адміністрацыя таксама ўзмацніла нагляд за развіццём тэатральнай справы. Так, у 1831 г. быў выдадзены цыркуляр віцебскага грамадзянскага губернатара “аб дастаўленні яму спісаў п’ес, якія ставяцца трупамі ў губерні, для яго асабістага кантролю”. У якасці прыкладу можна прывесці звесткі пра тое, як у 1832 г. акцёр Карл Баўэр

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ), ф. 1416, воп. 6, адз. зах. 61, л. 5.
[2] В. Латкин, *Учебник истории русского права периода империи (XVIII–XIX вв.)*, Санкт-Петербург 1906, с. 349.
[3] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 50330, л. 1–2.
[4] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 2820, л. 2—6.
[5] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 34322, л. 1–4.
[6] *Гісторыя беларускага...*, т. 1, с. 232–233.

асабіста паехаў да губернатара і павёз спіс твораў, якія прызначаліся для пастановак. Чыноўнік даў згоду і рэкамендаваў назіраць за цішынёй і добрапрыстойнасцю падчас спектакляў, а таксама папярэдзіў, каб сярод артыстаў трупы не было падазроных асоб[1]. Азначаны калектыў выступаў і ў Мінску, і ў Лепелі, у спісе п'ес сярод іншых польскіх твораў значылася гістарычная драма *Алена, або Гайдамакі на Украіне* Яна Камінскага[2].

Можна меркаваць, што ў заходняй частцы Беларусі кіраўніцтва для дазволу спектакляў не абмяжоўвалася пералікам п'ес, а звяртала больш увагі на змест твораў. Так, у 1833 г. гарадзенскі грамадзянскі губернатар прадпісваў гараднічым і паліцмайстрам "няйначай дазваляць прадстаўленні, як пасля разгляду асабіста кожнай п'есы, каб не заключалася ў іх чаго-небудзь заганнага альбо непрыстойнага, а асабліва ў палітычным сэнсе"[3]. Такім чынам, паліцэйскі нагляд за тэатральным мастацтвам стаў звычайнай практыкай у рэгіёне.

Паступова тэатральнае мастацтва стала актыўна развівацца не толькі ў буйных гарадах Беларусі, але і ў павятовых, станавілася неад'емнай часткай грамадскага жыцця. Па словах кіраўніка III Адзялення А. Бенкендорфа, які ў 1842 г. дакладваў імператару Мікалаю І: "На працягу 14 гадоў колькасць тэатраў увесь час узрастае, вандроўныя трупы наведваюць кірмашы і гарады, асабліва ў заходніх губернях"[4]. Вельмі часта азначаныя калектывы "ставяць творы або забароненыя, або зусім невядомыя цэнзуры"[5].

Таму кантроль за развіццём тэатра ўсё больш узмацняўся. Так, згодна з цыркулярам міністра ўнутраных спраў ад 9 лістапада 1842 г. кіраўнікі губерняў павінны былі "паведамляць неадкладна пра кожную трупу акцёраў, якая прыязджае ў горад, пазначаючы, у якіх дамах ці тэатрах будуць ладзіцца спектаклі, і кожны тыдзень даносіць пра дадзеныя імі прадстаўленні, з дадаткам афіш у двух экзэмплярах, ухваленых цэнзурай. <…> Падаваць імянныя спісы акцёраў з тлумачэннем: адкуль і на які час прыбылі, ці маюць правамоцныя пашпарты"[6].

У гэты час у Заходняй Еўропе абвастрылася рэвалюцыйная сітуацыя. Таму нядзіўна, што мясцовае кіраўніцтва зрабіла яшчэ больш канкрэтныя крокі па рэгламентацыі функцыянавання тэатра ў кірунку больш жорсткай русіфікацыі: у 1845–1847 гг. была праведзеная тэатральная рэформа па ўкараненню ў краі расійскага тэатра.

Ініцыятарам "упарадкавання" тэатральнай справы выступіў віленскі ваенны губернатар, генерал-губернатар гарадзенскі, мінскі і ковенскі Фёдар Міркавіч. У пачатку 1845 г. ён прапанаваў у давераных яму

[1] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 50911, л. 1–3.
[2] *Гісторыя беларускага*…, т. 1, с. 236.
[3] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна, ф. 1, воп. 10, адз. зах. 1512, л. 20.
[4] *Гісторыя беларускага…*, т. 1, с. 233.
[5] НГАБ, ф. 1, воп. 20, адз. зах. 879, л. 1.
[6] НГАБ, ф. 1297, воп. 1, адз. зах. 17415, л. 1–2 адв.

губернях "абмежаваць размнажэнне вандроўных труп, якія могуць аказваць значны ўплыў у маральных і палітычных адносінах"[1]. Згодна з праектам, вандроўныя трупы апынуліся па-за законам, а ў губернскіх гарадах ствараліся пастаянныя расійскамоўныя тэатры пад кіраўніцтвам тэатральнай дырэкцыі, у склад якой уваходзілі мясцовыя чыноўнікі і выбарныя прадстаўнікі дваранства. Акрамя таго, па прапанове Ф. Міркавіча былі ўведзены пасведчанні аб добранадзейнасці для артыстаў. Пачынаючы з 1847 г., па спецыяльнай пастанове Камітэта міністраў ва ўсіх астатніх беларускіх губернях пачала праводзіцца азначаная рэформа.

Для яе правядзення патрабаваліся значныя фінансавыя сродкі, і гарадскія ўлады імкнуліся аказваць грашовую дапамогу тэатральным калектывам, якія выступалі ў гарадскіх тэатрах. У Вільні "для падтрымання рускага рэпертуару" выплачвалася штогадовая субсідыя ў памеры 3 тыс. руб. серабром з прыбыткаў горада. З 1847 г. у Мінску штогод выдзялялася на развіццё тэатра 2 тыс. руб. серабром (пры гадавым бюджэце 13–17 тыс. руб.). У той жа час віцебскі грамадзянскі губернатар Афанасій Радзішчаў абяцаў генерал-губернатару віцебскаму, магілёўскаму і смаленскаму Андрэю Галіцыну выдаткаваць прыкладна каля 3 тыс. руб. серабром на год з агульнага земскага збору на ўтрыманне пастаяннай расійскай трупы і арганізацыю спектакляў у Віцебску, але гэтая субсідыя стала выплачвацца не адразу[2].

Нягледзячы на ўсе захады ўлад, на сцэнах беларускіх губерняў у сваёй большасці даваліся спектаклі па-польску, бо расійскамоўных калектываў не хапала. У якасці прыкладу можна прывесці словы генерал-губернатара віцебскага, магілёўскага і смаленскага Андрэя Галіцына: "У Віцебску прадстаўленні даюцца акцёрамі, якія прыязджаюць з суседніх польскіх губерняў і іграюць толькі польскія п'есы, бо мала ведаюць рускую мову. Таму не могуць выконваць твораў на іншай з належным поспехам"[3].

Са збору афіш 1840-х гг. можна даведацца, што ставіліся шматлікія замежныя драмы, камедыі, оперы і аперэты па-польску, і арыгінальныя польскія творы: *Кракавякі і гуралі* Войцеха Багуслаўскага, *Старая рамантычка* і *Прэтэнзіі на каханне* Станіслава Багуслаўскага, *Муж і жонка*, *Дамы і гусары*, *Помста*, *Пажыццёвая рэнта* Аляксандра Фрэдры, *Стары муж*, *Акно ў другім паверсе*, *Майстар і чаляднік*, *Габрэі* Юзафа Кажанёўскага.

Каб усё ж такі змяніць дадзеную сітуацыю, мясцовая адміністрацыя дазволілі артыстам выконваць шматактовыя п'есы ў некалькіх дзеях на польскай мове, а кароткія вадэвілі і камедыі – па-расійску. Але антрэпрэнёры атрымлівалі зусім мала прыбытку ад большасці

[1] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 780, воп. 2, спр. 4, л. 2–2 адв.

[2] *Виленский дневник*, "Виленский вестник" 1865, № 12, с. 1; НГАБ, ф. 24, воп. 1, адз. зах. 235, л. 4; НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 13132, л. 4.

[3] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 13132, л. 1-1 адв.

расійскамоўных прадстаўленняў, а некаторыя спектаклі ўвогуле не карысталіся попытам у публікі. Так, у 1847 г. у Віцебску камедыя *Наш Саша* ў перакладзе на расійскую мову Якава Чаховіча, *Цырульнік Шнапс* на польскай мове і вадэвіль па-расійску *Кватэра на Бугарках* Паўла Фёдарава былі адменены па прычыне пустой глядзельнай залы[1]. Генерал-губернатар віцебскі, магілёўскі і смаленскі А. Галіцын пісаў у Пецярбург, што "няўдача гэтых прадстаўленняў у тым, што ўсе мясцовыя памешчыкі польскага паходжання і таму больш падтрымліваюць польскі тэатр"[2].

Цікава, што пры жорсткасці знешніх умоў польскія антрэпрэнёры ўключалі ў выступленні папулярныя сярод публікі нумары. Напрыклад, нярэдка пасля паказаў расійскіх аднаактовых вадэвіляў ці камедый наладжваліся музычныя дывертысменты, падчас якіх артысты спявалі расійскія рамансы і песні, украінскія народныя песні, танчылі ў касцюмах польку, сола кракавяка альбо мазурку[3].

Але з цягам часу тэатральныя дзеячы пачалі падстройвацца пад дэклараваныя ўладамі правілы. Так, у 1848–1850 гг. у Мінску кіраўнік трупы польскіх акцёраў Войцех Драздоўскі ўключыў у рэпертуарную афішу звыш 40 расійскіх твораў[4]. У 1851 г. у Віцебску і Магілёве ў польскай трупе К. Фядзецкага выступалі расійскія акцёры Піражковы, якія апрача ўдзелу ў спектаклях выконвалі ў дывертысментах расійскія народныя песні[5]. Вельмі паказальным таксама падаецца факт, калі ў 1847 г. сцэнічны калектыў пад кіраўніцтвам Вільгельма Шмідкафа, у рэпертуары якога былі заходнееўрапейскія оперы, польскія камедыі і драмы, прапанаваў вадэвіль *Кетлі, або Вяртанне ў Швейцарыю* і камічную оперу *Акцёры ў правінцыі* з танцамі і музыкай, у афішы быў зварот да гледачоў: "Зычлівая публіка! Трупа мае гонар іграць упершыню на расійскай мове, таму пакорна прашу аб ласцы"[6].

Усё часцей у рэпертуар труп уключаліся перакладныя п'есы, дзе імёны дзейных асоб, такія як Фелікс, Матэвуш, Вацлаў, Альдона, Рузя, Тэкла, былі заменены на Апалона Федулавіча, Ціхана, Віктара, Аграфену Міхееўну, Юлію і інш. Калі раней падчас спектакляў беларускія гледачы маглі "апынуцца" ў Парыжы ці яго ваколіцах, Варшаве, Харкаве, італьянскіх гарадах, кітайскіх правінцыях, то з сярэдзіны 1840-х гг. ужо нярэдка ставіліся творы, героі якіх дзейнічалі ў Пецярбургу, Маскве і іншых расійскіх мясцовасцях.

Паказальна, што менавіта напрыканцы 1840-х гг. у беларускія губерні сталі прыязджаць трупы расійскіх акцёраў. Напрыклад, у 1849–1850 гг. у Віцебску і Магілёве выступаў калектыў пад кіраўніцтвам

[1] НГАБ, ф. 1297, воп. 1, адз. зах. 17415, л. 92–94.
[2] НГАБ, ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 13132, л. 7.
[3] НГАБ, ф. 1416, воп. 6, адз. зах. 61.
[4] Ю. Пашкин, *Русский драматический...*, с. 19.
[5] НГАБ, ф 1297, воп. 1, адз. зах. 22373, л. 40.
[6] НГАБ, ф. 1297, воп. 1, адз. зах. 17415, л. 119.

Мацвея Дудчанкова. З вялікага збору афіш варта падаць некаторыя назвы: меладрама *Людміла, або Смаляне ў 1812 годзе*, створанай паводле балады Васілія Жукоўскага, вадэвіль *Паненка-сялянка* Мікалая Кароўкіна паводле аповесці Аляксандра Пушкіна, расійскі народны вадэвіль *Фурманы, або Як гуляе стараста Сямён Іванавіч* Пятра Грыгор'ева, камедыя *Рэвізор* Мікалая Гогаля, жарт-вадэвіль *Гамлет Сідаравіч і Афелія Кузьмінішна*, перароблены Дзмітрыем Ленскім з французскага твора *Індыяна і Шарлемань* Жана-Франсуа Баяра і Філіпа Дзюмануара, інтэрмедыя *Імяніны дабрадзейнага пана, або Нечаканае вяселле ў сяле Сваярчкове* з прыналежнымі да яе расійскімі песнямі і скокамі. У афішы да апошняга спектакля дадаткова пазначалася, што "музыка спецыяльна з'імправізавана для аркестра з рускіх матываў Жучкоўскім"[1].

На працягу наступнага дзесяцігоддзя тэатральнае жыццё ў гарадах беларускіх губерняў становіцца яшчэ больш інтэнсіўным. Так, па словах віцебскага карэспандэнта, "заезджых фокуснікаў і артыстаў не пералічыць"[2]. Прычым крытыкі спецыяльна падкрэслівалі значэнне тэатра для развіцця горада: "З-за нешматлікасці гарадскіх забаў, сярод якіх клуб з нязменнай гульнёй у карты, більярд, маскарады, сямейныя вечары і прыезджыя артысты з канцэртам або фокусам, тэатр застаецца адной з тых агульнакарысных устаноў, якія, даючы жыхарам асалоду, развіваюць маральнасць і вылечваюць ад заганаў" [3].

На тэатральных афішах па-ранейшаму назвы польскіх твораў суседнічалі з расійскімі. Але ў параўнанні з папярэднімі дзесяцігоддзямі ідэйна-тэматычная накіраванасць часткі польскамоўных спектакляў значна адрознівалася ад русіфікатарскіх прадстаўленняў. Напэўна, гэта дало падставу ў сярэдзіне 1860-х гг. рэцэнзенту газеты "Виленский курьер" напісаць: "Да апошняга паўстання тутэйшы тэатр служыў мяцежнай польскай прапагандзе"[4].

Сапраўды, калі прааналізаваць рэпертуар сярэдзіны 1850-х – пачатку 1860-х гг., можна знайсці пацвярджэнне вышэйпададзенай думкі.

У многіх сцэнічных творах уздымалася тэма супрацьпастаўлення жыццёвых прынцыпаў багатай і дробнай шляхты, асноўнай ідэяй пастановак была рэпрэзентацыя старасвецкіх шляхецкіх каштоўнасцей. Канфлікт разгортваўся сярод прадстаўнікоў розных пакаленняў, маладыя героі часцей за ўсё былі закаханыя, але няроўныя па сваёй сасалоўнай прыналежнасці.

Так, пры аналізе сюжэтаў п'ес, прадстаўленых публіцы ў буйных беларускіх і польскіх гарадах – *Багацце або імя* Ю. Кажанёўскага, *Дзеля мілага гроша* Апалона Кажанёўскага, *Хатка ў лесе* і *Граф на Ванторах*

---

[1] НГАБ, ф. 1416, воп. 6, адз. зах. 61, л. 284.

[2] *Об общественных удовольствиях*, "Витебские губернские ведосмости" 1859, № 17, с. 72.

[3] К. Г. *О Витебских общественных увеселениях*, "Витебские губернские ведомости" 1860, № 12, с. 1.

[4] *Народные спектакли на Виленской сцене*, "Виленский вестник" 1866, № 14, с. 2.

Уладзіслава Сыракомлі, *Дачка мечніка, або Польскія сямействы ў XVII стагоддзі* Канстанціна Маераноўскага, *Галька*" Станіслава Манюшкі – заўважаецца пэўнае падабенства.

У камедыі *Дзеля мілага гроша* галоўны герой Юзаф Старапольскі вяртаецца на радзіму пасля 6-гадовай ссылкі. Ён вельмі кахае дачку заможнага палкоўніка ў адстаўцы, які спачатку даведаўся, ці бяспечна размаўляць з маладым чалавекам, потым цынічна абвясціў, што яго дачка не можа стаць жонкай беднага шляхціца.

У *Графе на Ванторах* прадстаўнік старажытнага роду, які, па ўласных словах, "не горшы за Астрожскіх ці Радзівілаў"[1], дзеля жыцця адпаведна свайму статусу аддае ліхвяру спрадвечную каштоўнасць свайго роду – сямейны герб. Яго дачка Ганна прызнаецца, што радавітасць і ў яе сэрцы быццам штосьці змяніла, бо малілася, каб каханаму Станіславу далі гербы. Дзяўчына разумее, што яе бацька ацэньвае чалавека не па духоўных якасцях і ўчынках на карысць Айчыны, а па наяўнасці багацця і сацыяльным становішчы.

Галоўны герой *Хаткі ў лесе* – бедны паэт Генрых – вымушаны набыць нерухомасць у вёсцы, каб выглядаць рэспектабельным чалавекам у вачах багатых бацькоў Марыі. Дзеля грошай малады літаратар прадае "срэбра, што на памяць ад бацькоў засталося, з бацькоўскага жупана дыямент вялікі"[2] і аўтабіяграфічны дзённік. У ім занатаваны ўспаміны пра вобразы мінулага, якія ўспрымаюцца аўтарам як "рэліквіі жыцця", што дапамогуць "сэрцу закалаціцца, як даўней, бо ў цяперашнім жыцці няма суцяшэння"[3]:

Tam postać mojej matki, tam siostry, tam krewni,
Tam jest niejedna scena, co serce rozrzewni:
Mój dyrektor, i pleban, i włościanie z wioski,
I arendarz brodaty, faworyt ojcowski,
I szlachta, co poluje, i dziewki, co przędą;
Jest nawet organista, co jeździ z kolędą.
Każdą postać maluję tak wiernie, tak święcie,
Że ją poznasz z oblicza, poznasz po akcencie,
Każdą łatwo odgadniesz po mowie i głowie,
Czego się nie domyślisz, serce ci dopowie[4].

Можна меркаваць, што многія ідэі гэтай п'есы падаліся блізкімі публіцы, бо калі ў 1858 г. у Познаньскім тэатры прайшла прэм'ера твора, шанаванне аўтара ператварылася ў бурлівае выяўленне патрыятычных пачуццяў гледачоў[5]. Дэбютны драматургічны твор У. Сы-

[1] W. Syrokomla, *Hrabia na Wątorach* [w:] *Pisma epiczne i dramatyczne Władysława Syrokomli*, t. 4, Poznań 1868, s. 135.
[2] W. Syrokomla, *Chatka w lesie* [w:] *Pisma epiczne i dramatyczne Władysława Syrokomli*, t. 4, Poznań 1868, s. 39.
[3] *Ibidem*, s. 11.
[4] *Ibidem*, s. 15.
[5] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, навук. рэд. тома У.І. Мархель, В.А. Чамярыцкі, 2-е выд., Мінск 2010.

ракомлі антрэпрэнёры Вільні двойчы паставілі ў тым жа годзе, тройчы ў Друскеніках і Гродне – у 1859 г.

Гістарычная драма *Дачка мечніка, або Польскія сямействы ў XVII стагоддзі* выклікала не менш значную глядацкую рэакцыю. У 1860 г. твор быў прадстаўлены некалькі разоў у Гродне, Кобрыне, Мінску, за месяц пастаўлены пяць разоў у Вільні, у 1861 г. за тры жнівеньскія тыдні – чатыры разы ў Магілёве. Паказальна, што магілёўскі антрэпрэнёр Юзаф Снядэцкі нават змяніў арыгінальную назву п’есы на *Польскую арыстакратыю і шляхту ў XVII стагоддзі*, можна думаць, для большага ўдакладнення ідэйна-тэматычнай накіраванасці сцэнічнага твора.

У спектаклі ўзнімалася праблема сутыкнення жыццёвых пазіцый прадстаўнікоў старажытнай шляхты: старога мечніка, які ставіць высакароднасць душы вышэй зямных даброт, і старога графа, які пагарджае дробнымі шляхціцамі з-за іх беднасці. Стаўленне ваяводы прывяло да трагічнага кахання яго сына Вацлава да беднай шляхцянкі Марыі. Мясцовы крытык канстатаваў: “Паводле сюжэта дзеянне адбываецца на берагах роднага нам Дняпра. Апладысменты не сціхалі. Па ўсяму было бачна, што гледачы спачувалі выказаным у п’есе павучальным думкам. <…> Тэатру ўдалося закрануць жывую струну нашага грамадства”[1].

Таксама на сцэнах былі прадстаўлены спектаклі, дзе супрацьпастаўляліся героі, якія любяць Радзіму, і персанажы, у якіх заўважна хіліліся да замежнай культуры, да Парыжа. Сярод яскравых прыкладаў можна назваць пастаноўкі такіх п’ес, як *Ідылія* Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, *Дажынкі, Вайна з жанчынай, Вусы і парык* Юзафа Кажанёўскага.

Асобна хочацца спыніцца на апошняй з пералічаных камедый вядомага польскага драматурга, паказанай у 1857 і 1858 гг. у Гродне, у 1859 г. – у Брэсце і Мінску. Паводле сюжэту, Казіміра Заміхоўскага, галоўнага героя п’есы, прымушаюць замяніць шляхецкі жупан на еўрапейскі касцюм і зголіць вусы. Аднак малады шляхціц не можа нават дзеля кахання і кар’еры адмовіцца ад усяго, што паважалі на працягу стагоддзяў яго продкі.

Калі ў 1861 г. у Дынабургу (Віцебская губерня) трупа віленскіх акцёраў двойчы сыграла камедыю *Вусы і парык*, віцебскі губернатар адразу даслаў мясцоваму гараднічаму сакрэтны ліст, у якім катэгарычна забаранялася “даваць у заходніх губернях сцэнічныя творы, якія пры існуючым кірунку думак у гэтым краі абуджаюць рэвалюцыйныя жарсці”[2].

У асобную групу можна вылучыць пастаноўкі, асноўнай ідэяй якіх з’яўлялася сакралізацыя гісторыі. Так, у 1858–1860 гг. на сцэнах

[1] Ф. Подобед. *Театр в Могилеве,* “Могилевские губернские ведомости” 1861, № 59, с. 766.

[2] НГАБ. ф. 1430, воп. 1, адз. зах. 30934, л. 254.

беларускіх губерняў гледачы ўбачылі гістарычныя драмы *Каспар Карлінскі, Магнаты і сірата, або Соф'я, князёўна Слуцкая* У. Сыракомлі, *Барбара Радзівіл* Антонія Эдварда Адынца, *Мазепа* Юліуша Славацкага і іншыя. Згаданыя спектаклі з сюжэтамі пра даўнюю славу Рэчы Паспалітай, ахвярнасць і мужнасць гістарычных асобаў у складаных абставінах, з адпаведнай сцэнічнай абстаноўкай і касцюмамі набывалі грамадска-палітычнае гучанне.

У 1858–1861 гг. у Брэсце, Друскеніках, Мінску, Гродне, Беластоку, у 1858 г. у Вільні дзевяць разоў была паказаная п'еса *Каспар Карлінскі*, дзеянне якой адбываецца ў XVI ст. Паводле сюжэта, галоўны герой – шляхціц Карлінскі – робіць складаны выбар: не здавацца ворагам, а страляць з гармат ва ўласнага сына, які ўзяты заложнікам і рухаецца наперадзе непрыяцельскага войска.

Крытык газеты "Виленский вестник" з захапленнем адзначаў: "Рэдка каму з драматургаў выпадаў такі вялізны фурор, які выклікала ў тутэйшай публікі новая гістарычная драма Сыракомлі"[1]. Сітуацыя была настолькі нязвыклай, што рэцэнзент паспрабаваў асэнсаваць прычыны такога поспеху: "У спектаклі адбывалася барацьба паміж грамадзянскім і бацькоўскім абавязкамі, аднолькава святымі і блізкімі для прысутных у зале гледачоў. Расповед Уладзіслава Сыракомлі пра жыццё патрыёта, які ўсё аддае Айчыне, шмат гаварыў кожнаму чалавеку"[2]. У пецярбургскім часопісе "Иллюстрация. Всемирное обозрение" таксама адзначалася незвычайна бурная рэакцыя віленскіх гледачоў на пастаноўку: "Аўтар быў засыпаны кветкамі ў літаральным сэнсе гэтага слова. Уся глядацкая аўдыторыя была ахопленая адзіным найвышэйшым запалам, які выяўляўся ў несціханых апладысментах і захопленых крыках"[3].

Рэзананс у грамадстве быў настолькі вялікі, што ў друкаваным асобніку п'есы на тытульным лісце была занатавана дата прэм'ернага паказу, пералічаны дзейныя асобы з пазначэннем імёнаў выканаўцаў гэтых роляў у спектаклі. У пачатку 1858 г. у продажы з'явіўся і альбом фатаграфічных малюнкаў самых важных сцэнаў пастаноўкі. Паказальна, што праз некалькі дзесяцігоддзяў расійскія ўлады асэнсавалі, што дазвол прадстаўлення гістарычнай драмы *Каспар Карлінскі* ў Вільні напярэдадні паўстання 1863–1864 гг. быў вялікай памылкай, бо спектакль "узрушваў неймаверныя патрыятычныя пачуцці палякаў"[4].

---

[1] В Веселовский, *Театральная и художественная хроника*, "Виленский вестник" 1858, № 10, с. 81.

[2] В Веселовский, *Театральная и художественная хроника*, "Виленский вестник" 1858, № 11, с. 90.

[3] В Веселовский, *Польский современый поэт Владислав Сырокомля и его последняя драма Каспер Карлинский,* "Иллюстрация. Всемирное обозрение" 1858, № 19, с. 302.

[4] Z. Jędrychowski, *Teatra grodzieńskie…*, s. 305.

Можна меркаваць, штó вельмі моцна ўплывала на глядацкае ўспрынящце і візуальны вобраз прадстаўленняў. Так, у *Каспары Карлінскім* зброя, адзенне, палявы лагер, муры крэпасці адпавядалі "да самых дробязей" эпосе. У 1859 г. у Мінску і ў 1860 г. у Вільні ў пастаноўцы *Барбара Радзівіл* удзельнічала больш за трыццаць дзейных асоб, "касцюмы, зброя цалкам адлюстроўвалі гістарычную эпоху часоў Жыгімонта Аўгуста. У пралогу на дэкарацыі выяўлялася частка старажытнага Віленскага града з ніжнімі і верхнімі замкамі. Гледачы былі ў захапленні"[1]. Такім чынам, ствараліся маштабныя відовішчы, якія дапамагалі публіцы лепш уявіць падзеі ў Рэчы Паспалітай у XVI ст.

Неабходна падкрэсліць, што многія камедыі і гістарычныя драмы з рэпрэзентатыўнымі сюжэтамі пра шляхецкую культуру, праз якія міфалагізавалася гісторыя, былі шматразова прадэманстраваны ў мясцовых тэатрах і сталі грамадска-палітычнай з'явай.

Пасля паўстання 1863–1864 гг. на тэрыторыі г. зв. Паўночна-Заходняга краю тэатр па-ранейшаму займаў адно з першых месцаў у грамадскім жыцці. Так, па словах карэспандэнта "Виленского вестника", "у тэатры лепш, чым дзе-небудзь, заўважаць патрабаванні, вобраз думак, светасузіранне і сучасны кірунак нашай публікі"[2]. Таму расійская адміністрацыя яшчэ больш мэтанакіравана стала выкарыстоўваць тэатры, школы і бібліятэкі як "сродкі лепшага ўкаранення рускіх ідэй і рускіх патрыятычных тэндэнцый"[3] сярод мясцовага насельніцтва. Можна меркаваць, што з гэтай прычыны галоўны кіраўнік краю Міхаіл Мураўёў для падтрымкі расійскага тэатра загадаў выдаткоўваць апрача пастаяннай штогадовай субсідыі яшчэ 3 тыс. руб. у Вільні, 2,6 тыс. руб. у Мінску, 2 тыс. руб. у Гродне і Коўне. Паказальна, што гэтыя сумы браліся са штрафаў асобаў, якія ўдзельнічалі ў паўстанні[4].

У рэпертуарную афішу сярэдзіны 1860-х гг. уключаліся арыгінальныя расійскія п'есы: *Дзядуля рускага флоту, Жыццё за Цара, або Кастрамскія лясы* і *Іголкін, наўгародскі купец* Мікалая Палявога, *Рускае вяселле напрыканцы XVI стагоддзя* Пятра Сухоніна, *Баярскае слова, або Вестка пра выбранне на царства Міхаіла Фёдаравіча Раманава* Платона Абадоўскага, *Пскавіцянка* Льва Мея, *Запіскі вар'ята*, *Жаніцьба*, *Рэвізор* Мікалая Гогаля, *Сапсаванае жыццё, Бацька сямейства* Івана Чарнышова, *Свет не без добрых людзей* Мікалая Львова. Апрача таго, "публіку кармілі камедыямі і драмамі Астроўскага"[5]. Сярод п'ес знакамітага расійскага драматурга часцей за ўсё ставіліся *Свае людзі — паладзім!*, *Навальніца*, *Беднасць не загана*.

[1] *Виленский дневник. Театральные представления*, "Виленский вестник" 1860, № 12, с. 101.

[2] С. Ф., *Минск,* "Виленский вестник" 1865, № 28, с. 2.

[3] *Отчет по делам Гродненской публичной библиотеки за истекший 1864 год, читанный одним из директоров в общем собрании ее членов*, "Гродненские губернские ведомости" 1865, № 11, с. 2.

[4] *Виленский дневник*, "Виленский вестник" 1865, № 12, с. 1.

[5] Театрал, *Гродненский театр,* "Гродненские губернские ведомости" 1870, № 49, с. 1.

Пералічаныя творы павінны былі “пазнаёміць тутэйшае грамадства з рускім жыццём і норавамі, рускай мовай і ўсёй яе прыгажосцю, прадэманстраваць подзвігі знакамітых продкаў і звычаі даўніны. Тэатр, як орган урада, павінны быў ліквідаваць у рускай краіне чужую ёй польскую мову”[1]. Такім чынам, мясцовае насельніцтва імкліва пераводзілася ў прастору новых вобразаў і прадстаўленняў.

З 1864 г. выключна выкарыстоўвалася паняцце “руская акцёрская трупа”, што ўключала ў сябе не толькі сцэнічныя калектывы з Расіі, але і аб’яднанні польскіх артыстаў, якія сталі іграць усе спектаклі парасійску. Канешне, многія акцёры не адразу прызвычаіліся да выканання расійскіх п’ес на нязвыклай мове і стварэння на сцэне расійскіх характараў. Напрыклад, крытык пісаў пра акцёра А. Чыжа, які выступаў на мінскай сцэне: “Спадзяёмся, што з часам ён выправіць свае вымаўленне, бо польскі акцэнт дзівіць слых рускага чалавека”[2]. Пра талент удзельніцы той жа мінскай трупы – актрысы Л. Новаграбельскай – рэцэнзент адзначаў, што “ў ролях жанчын з простанароднага быту ёй не хапала менавіта рускай натуры. Нябачачы, верагодна, ніколі блізка простых рускіх жанчын у іх штодзённым жыцці, па няведанні яна ўпадала іншы раз у крайнасці, што ёй, канешне, як палячцы, можна прабачыць”[3].

Паказальна, што ў рэцэнзіях крытыкі супрацьпастаўлялі такія дэфініцыі як “свой” і “чужы”. Напрыклад, калі ў 1861 г. у Магілёве прапанавалі спектакль *Жалезны ліст*, сюжэт якога быў заснаваны на падзеях, што адбыліся ў мінулыя часы непасрэдна ў Магілёўскай губерні, то ў зале была вялікая колькасць гледачоў, бо, на думку рэцэнзента, “сваё нам заўсёды больш падабаецца, чым чужое”[4]. Такая тэндэнцыя назіралася і пасля паўстання 1863–1864 гг. Так, у 1865 г. рэцэнзент газеты “Минские губернские ведомости” канстатаваў, што “пасля ўсяго таго, што дэманстравалася на мінскай сцэне гады тры таму, цяпер рэпертуар нам не чужы, бо рускі”[5].

Мяркуючы па водзывах сучаснікаў, публіка па-рознаму рэагавала на новы рэпертуар. Напрыклад, у 1865 г. у Гродне былі выпадкі, калі ў тэатр прыязджала няшмат наведвальнікаў, а часам з-за адсутнасці гледачоў прадстаўленні адмяняліся. У тым жа годзе ў Мінску, дзякуючы выступленням любімых акцёраў, знаёмых гледачам яшчэ з мінулых

[1] Постоянный посетитель Минского театра, *Возражение на “Известие о Минском театре”, помещенное в Виленском вестнике № 39-м,* “Виленский вестник” 1865, № 44, с. 2.

[2] *Заметка любителя о Минском городском театре*, “Минские губернские ведомости” 1866, № 41, с. 462.

[3] *Заметка о театре*, “Минские губернские ведомости” 1866, № 11, с. 112.

[4] Ф. Подобед, *Театр в Могилеве,* “Могилевские губернские ведомости” 1861, № 59, с. 767.

[5] Любитель театра, *Несколько слов о Минском театре*, “Минские губернские ведомости” 1865, № 51, с. 1186.

гадоў, і сцэнічнаму поспеху пры ўвасабленні расійскіх п'ес, нават людзі, настроеныя "з прадузятасцю ў адносінах да рускага тэатра, сталі прысутнічаць амаль на кожным спектаклі"[1].

У заключэнне варта адзначыць, што ў сувязі з гістарычнымі абставінамі ў 1830–1860-я гг. у беларускіх губернях агульнадаступны тэатр стаў адным са сродкаў ідэалагічнай палітыкі імперскіх улад, якія настойліва і мэтанакіравана ўздзейнічалі на фарміраванне рэпертуару. Прычым практыка жорсткай рэгламентацыі тэатральнай справы не змянялася дзесяцігоддзямі.

Да паўстання 1863–1864 гг. часта паказваліся перакладныя і перапрацаваныя французскія камедыі і вадэвілі "з куплетамі і рознымі прыгаворкамі"[2]. Адначасова, у гэты перыяд у Заходнім краі можна заўважыць значную цікавасць публікі да сцэнічных прадстаўленняў гістарычнай тэматыкі, у якіх актуалізаваліся грамадска-палітычныя і сацыяльна-культурныя адносіны ў Рэчы Паспалітай.

*Natallia Valantsevich*

**The Change of Cultural Paradigm Through the Prism of Theatrical Art in the Belarusian Provinces in the 1830s-1860s**

A b s t r a c t

The article discusses the problem of the mutual influence of socio-political processes and theatre in the cities of Belarus in the 1830s-1860s. Based on archival and bibliographic sources, the peculiarities of the development of scenic art in conditions of Russification are revealed. Despite administrative prohibition, since the mid-1850s authors of many Polish-language comedies and historical dramas mythologized the history of the Polish-Lithuanian Commonwealth. After the January Uprising the authorities of the Russian Empire began to regard the theatre as an ideological means by which Polish culture was replaced by the Russian one.

[1] Натан Бендетсон, *Русский театр в Гродно*, "Виленский вестник" 1865, № 134, с. 2; Любитель театра, *Несколько слов о Минском театре*, "Минские губернские ведомости" 1865, № 51, с. 1186.

[2] *Русская труппа, ангажированная для Гродно*, "Гродненские губернские ведомости" 1865, № 9, с. 5.

Том 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Андрэй Зінкевіч**
Вена

# Беларуская і польская мовы ў акупацыі (1939–1945)

Малавядомай старонкай моўнай гісторыі беларусаў і палякаў дагэтуль застаецца перыяд Другой сусветнай вайны, калі два народы жылі ва ўмовах акупацыі. Якая моўная палітыка праводзілася ўладамі ў гэты час? Як змяніўся статус польскай і беларускай моў паміж 1939 і 1945 гадамі? Як узаемадзейнічалі і канкуравалі паміж сабой мовы-суседкі ў рэаліях новай улады?

Асабліва цікава разгледзець тыя рэгіёны, дзе беларусы і палякі традыцыйна жылі побач і іх мовы знаходзіліся ў прамой канкурэнцыі паміж сабой: Заходнюю Беларусь і Усходнюю Польшчу. Але і іншыя тэрыторыі, дзе беларусы або палякі складалі нацыянальную меншасць, нельга пакінуць па-за ўвагай: асэнсаваныя Рэйхам польскія раёны, усходнюю частку Беларусі, Літву і Латвію. Пры гэтым трэба ўлічваць тое, што, па-першае, Заходняя Беларусь перажыла з 1939 па 1944 гг. дзве змены ўлады (савецкую і нямецкую)[1]; па-другое, у час нямецкай акупацыі тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел акупаваных тэрыторый не толькі часам моцна адрозніваўся ад даваеннага падзелу, але і ў кожнай акупацыйнай зоне была прадугледжана свая моўная палітыка.

Уяўляецца мэтазгодным разгледзець моўную палітыку ў дачыненні да беларускай і польскай моў на наступных акупаваных тэрыторыях:

1. Заходняя Беларусь, верасень 1939 – чэрвень 1941 (савецкая зона акупацыі);
2. Генеральны камісарыят Беларутэнія (Generalbezirk Weißruthenien), чэрвень 1941 – ліпень 1944;
3. Усходняя Беларусь, 1941–1944 (зона адказнасці Вермахта);
4. Тэрыторыі Польшчы, якія былі ўключаны ў Рэйх: Вартэлянд (Wartheland), Данцыг-Заходняя Прусія (Danzig-Westpreußen) і Усходняя Прусія з Беластоцкай акругай (Ostpreußen + Bezirk Bialystok), верасень 1939 – люты 1945;
5. Генеральнае губернатарства з Галіцыяй (Generalgouvernement + Distrikt Galizien), кастрычнік 1939 – студзень 1945;

[1] Калі не ўлічваць, зразумела, вяртання савецкай улады ў 1944 г.

Зразумела, што ў межах невялікага артыкула немагчыма дэталёва апісаць моўную палітыку на працягу некалькіх гадоў на такой вялікай тэрыторыі. Таму мэтай працы было акрэсліць агульныя тэндэнцыі моўнай акупацыйнай палітыкі ў дачыненні да беларускай і польскай моў на падставе даследаванняў і дакументаў з архіваў Нямеччыны, Польшчы, Беларусі (у большай частцы неапублікаваных).

### Беларусізацыя як сродак дэпаланізацыі: Заходняя Беларусь (верасень 1939 – чэрвень 1941)

Як вядома, пасля далучэння ў верасні 1939 г. Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза, на гэтай тэрыторыі была абвешчана палітыка беларусізацыі. Зразумела, што палітыка пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы і вылучэнне на ключавыя пасады беларусаў мела на мэце не столькі развіццё беларускасці, колькі дэпаланізацыю былых „крэсаў усходніх“ і фарміраванне пачуцця еднасці з Савецкай Беларуссю. Ужо ў снежні 1939 г. у пастанове ЦК ВКП(б)[1] былі агучаны адзіныя патрабаванні да школьнай адукацыі, дзе апроч іншага планавалася асаблівая падтрымка беларускай мовы. На практыцы гэта азначала, што вялікая частка польскіх школ стала трансфармавацца ў беларускія[2], а таксама рускія і габрэйскія. Але катастрафічны недахоп не проста кваліфікаваных настаўнікаў, а такіх, якія хаця б ведалі беларускую мову, абумовіў тое, што большая частка “беларускамоўных” заняткаў праводзілася папольску, па-руску ці на „трасянцы“[3]. Праблему не вырашыла і запрашэнне настаўнікаў з усходу Беларусі, вялікая частка якіх ці наогул не ведала беларускай мовы, ці ведала яе вельмі слаба. Гэта было прызнана пазней (у студзені 1941 г.) у пастанове ЦК КП(б)Б[4], дзе гаварылася пра праблему няведання беларускай мовы ў беларускай школе і планавалася правесці рэвізію моўнай кампетэнцыі настаўнікаў. Адыграла сваю ролю і адсутнасць падручнікаў на беларускай мове (што азначала выкарыстанне рускамоўных кніг), а таксама пераарыентацыя вялікай колькасці насельніцтва на афіцыйную мову новай метраполіі – рускую.

Такім чынам, непадрыхтаванасць савецкіх уладаў да паўнавартаснай беларусізацыі прывяла да таго, што інтэнсіўная дэпаланізацыя суправаджалася, так бы мовіць, моўным вакуумам у галіне адукацыі і афіцыйных сфераў ужытку беларускай мовы. З-за няведання літаратурнай беларускай мовы настаўнікі і адказныя асобы спрабавалі гэты

[1] А.М. Вабішчэвіч, *Праблемы нацыянальна-культурнага жыцця заходніх абласцей БССР у 1939–1941 гг.*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne“ 2000, № 13, с. 118.

[2] 74,4% беларускіх і 17,5% польскіх школ па стану на верасень 1940 г.: С. Яцкевіч, *Адукацыя нацыянальных меншасцей на Беларусі ў 1920–1990 гг.*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne“1998, № 10, с. 73.

[3] A. Brakel, *Unter Rotem Stern und Hakenkreuz: Baranowicze 1939 bis 1944,* Paderborn 2009, s. 70–73.

[4] Пастанова ЦК КП(б)Б ад 24–25 студзеня 1941 г. „Аб вывучэнні беларускай мовы ў ВНУ, тэхнікумах і школах БССР”. Гл.: А.М. Вабішчэвіч, *Праблемы...*, с. 126.

моўны вакуум кампенсаваць рускай, польскай, або, у лепшым выпадку, размоўнымі варыянтамі беларускай мовы, у тым ліку, змешанымі. Такі пераходны этап на шматмоўнай тэрыторыі пасля гвалтоўнай змены ўлады падаецца, тым не менш, натуральным. Цікава, што падобная моўная палітыка ў 1939–1941 г. праводзілася і ў фінскай частцы Карэліі, захопленай савецкімі войскамі ў час г. зв. халоднай вайны. Там таксама быў абвешчаны прыярытэт мясцовай мовы – фінізацыя, якая была абсалютна не падрыхтаваная савецкімі ўладамі і сутыкнулася з непераадольнай праблемай адукаваных нацыянальных кадраў. Яшчэ большае падабенства паміж гэтымі дзвюма моўнымі сітуацыямі можна ўбачыць, калі разгледзець далейшае развіццё падзей.

### Беларусізацыя як сродак дэпаланізацыі, дэрусіфікацыі і дэсаветызацыі: Генеральны камісарыят Беларутэнія (чэрвень 1941 – ліпень 1944)

Як гэта ні дзіўна выглядае, але можна сказаць, што цывільная нямецкая адміністрацыя пад кіраўніцтвам Вільгельма Кубэ працягвала савецкую моўную палітыку ў Заходняй Беларусі – беларусізацыю і дэпаланізацыю. Палітычнае крэда кіраўніка Генеральнага камісарыята Беларусі В. Кубэ адносна моўнай і нацыянальнай палітыкі можна ўбачыць у яго артыкуле, прысвечаным угодкам цывільнай адміністрацыі ў акупаванай Беларусі: „Палітычна захад і поўнач тэрыторыі Генеральнай акругі належалі Польскай Рэспубліцы. Але на гэтых абшарах пераважалі, без сумневу, беларусы. <…> Калі рэлігійнае і царкоўнае жыццё прачнулася ад застою, выкліканага бальшавіцкім тэрорам, выявілася, што шмат людзей належыць да Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. <…> І тут таксама, у галіне культу, істотны лозунг «Беларусы – не рускія!». <…> Тое, што для нас беларусы ўяўляюць сабой *дзяржаўны народ* – гэта натуральна. Таму беларускай мове аддаецца і будзе аддавацца безумоўная перавага ва ўсіх школах краю, як мове выкладання і камунікацыі. І руская, і польская нацыянальныя меншасці павінны падпарадкавацца гэтаму разумнаму прынцыпу”[1].

Галоўным прынцыпам нацыянальнай, а значыць і моўнай акупацыйнай палітыкі Рэйха на Усходзе была максімальныя дыферэнцыяцыя народаў па моўных, этнічных і іншых прыкметах. Як у Польшчы, так пазней і ў савецкіх акупаваных раёнах асаблівая ўвага надавалася вылучэнню як мага большай колькасці народаў, нацыянальных меншасцяў, каб супрацьпаставіць іх самым шматлікім нацыям: польскай і рускай ды тым самым паслабіць іх. У дачыненні да нацыянальных рэспублік былога Савецкага Саюза і менавіта да Беларусі, беларусізацыя павінна была таксама адыграць істотную ролю ў дэсаветызацыі менталітэту беларусаў праз разрыў з інтэрнацыяналісцкай ідэалогіяй.

---

[1] В. Кубэ, *Год нямецкай цывільнай адміністрацыі*, „Голас вёскі“ 1942, № 31(38), с. 1. (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 371, спр. 49, л. 15).

У першыя месяцы нямецкай акупацыі Заходняй Беларусі палякі занялі большасць найважнейшых пасад у акупацыйнай адміністрацыі. Тлумачыцца гэта традыцыйнымі антысавецкімі настроямі палякаў; больш высокім, як правіла, адукацыйным узроўнем польскага насельніцтва, вопытам працы ў адміністрацыйных структурах даваеннай Польшчы. Але ўжо з верасня 1941 г., калі ўлада ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі ў асноўным была перададзена цывільным акупацыйным структурам, палякі і польская мова мэтанакіравана выціскаліся з акупацыйнай адміністрацыі. Натуральна, што немцы бачылі ў грамадскай актыўнасці палякаў, у распаўсюджванні польскай мовы глебу для ідэі ўзнаўлення самастойнай Польшчы. Вельмі часта палякаў замянялі беларусамі-эмігрантамі з Рэйха або з Польшчы[1].

У канцы 1941 г. моўная палітыка стала больш жорсткай у дачыненні да польскай мовы. Калі спачатку ў якасці асноўных моў справаводства, кантактаў паміж службамі і пры зваротах грамадзянаў выкарыстоўвалася польская і нямецкая мовы, то пасля верасня 1941 г. з'явілася пастанова цывільнай адміністрацыі, згодна з якой трэба было карыстацца толькі нямецкай ці беларускай. Польская знікала як мова друку, камунальных надпісаў, адукацыі і нават як мова Каталіцкай царквы. За выкарыстанне польскай мовы ў афіцыйных установах (напрыклад, пры разглядзе скаргі і г. д.) прадугледжваўся штраф у памеры 50 марак[2].

Слабое веданне беларускай мовы ці падмена яе руска-польскім змешаным варыянтам нямецкія ўлады спрабавалі кампенсаваць арганізацыяй курсаў беларускай мовы для мясцовых жыхароў, якія працавалі ў цывільнай адміністрацыі.

У Заходняй Беларусі, нягледзячы на антыпольскую пазіцыю нямецкіх уладаў і актыўную працу прыхільнікаў беларускага нацыянальнага руху, моўная сітуацыя мянялася павольна: польская мова заставалася істотным камунікацыйным сродкам не толькі паміж палякамі, але і была часта своеасаблівай *лінгва франка* ў камунікацыі паміж рознымі групамі мясцовага насельніцтва[3].

Што тычыцца моўнага заканадаўства ў Генеральным камісарыяце, то яно вызначалася двума асноўнымі дакументамі. Па-першае, як адміністрацыйная адзінка Рэйхскамісарыята Остланд, Генеральны камісарыят Беларутэнія кіраваўся пастановай цывільнай адміністрацыі Остланда ад 18 жніўня 1941 г. „Парадак прыняцця кіравання Рэйхсксамісарыятам Остланд“: „Афіцыйная мова [Amtsprache] Рэйхсксамісарыята Остланд – нямецкая. У кожным Генеральным камісарыяце дапускаецца [zugelassen] мясцовая мова, мова краіны [Landessprache]”[4].

---

[1] A. Brakel, *Unter Rotem Stern…,* Paderborn 2009, s. 123.
[2] *Ibidem*, s. 130–131.
[3] *Ibidem*, s. 134–135.
[4] P. Kleist, *Zwischen Hitler und Stalin. Bonn, 1950, s. 175; O. Bräutigam, Überblick über die besetzten Ostgebiete während des 2. Weltkrieges*, Tübingen 1954, s. 15.

Па-другое, з самага пачатку акупацыі Беларусі ў Берліне[1] пачаў распрацоўвацца закон аб мовах для Беларусі, які быў дасланы для разгляду ў Генеральны камісарыят у Мінск ужо пасля смерці В. Кубэ: „Перад усім, неабходна падтрымка беларускай мовы, каб і тут палітыка адпавядала выразнаму вылучэнню беларусаў сярод іншых народаў. Беларуская мова, такім чынам, <…> павінна абазначацца як мова краіны (landeseigene) або, яшчэ лепш, <…> як тутэйшая, спрадвечная (einheimliche) мова. Акрамя тутэйшай беларускай мовы, у якасці г. зв. моў меншасцяў разглядаюцца польская, руская, татарская мовы"[2].

Трэба сказаць, што адказныя за распрацоўку моўнай палітыкі чыноўнікі з Міністэрства па акупаваных усходніх тэрыторыях някепска ведалі моўную сітуацыю ў Беларусі і часта згадвалі польскую і рускую меншасці, у дачыненні да якіх прапанавалася палітыка частковай моўнай падтрымкі пры захаванні безумоўнага прыярытэту беларускай мовы, што дазваляла захаваць агульную лінію на размежаванне народаў на акупаваных тэрыторыях: „Пры разглядзе пытання моў меншасцяў трэба зыходзіць з таго, што спробам некаторых народаў асімляваць меншасці праз мову неабходна даць адпор. Трэба ўлічваць, што падобнага тыпу імкненні з'явяцца і ў беларусаў, пасля таго, як яны атрымаюць палітычную падтрымку нямецкай улады. Аднак варта адрозніваць выпадкі, калі гаворка ідзе аб вяртанні разбуранага беларускага ідэнтытэту. Супраць гэтага не трэба нічога рабіць, але і быць напагатове, каб польскія элементы не прынялі такой кан'юнктуры для атрымання палітычных перавагаў. Моўнае рэгуляванне, такім чынам, павінна ўяўляць сабой палітычна справядлівае і прыдатнае для нямецкай улады балансаванне. Крокі насустрач у адносінах да польскай і рускай моў не павінны азначаць палітычную падтрымку гэтых народаў, а, наадварот, спрыяць размежаванню народаў паміж сабой"[3].

Далей у дакуменце ідзе гаворка пра тое, што нямецкая мова магла б выконваць ролю мовы міжнацыянальных зносін паміж прадстаўнікамі розных этнасаў у Беларусі, і гэта прадухіліла б экспансію польскай і рускай моў: „Ад распаўсюджвання беларускай мовы ў школах з іншымі мовамі навучання, перш за ўсё ў рускіх школах, зараз варта адмовіцца. Больш за ўсе я жадаў бы, каб не толькі ў беларускіх, але таксама і ў польскіх, рускіх, татарскіх <…> вывучалі нямецкую мову, каб у камунікацыі паміж народамі <…> беларуская мова не выціскалася б польскай ці, яшчэ меней, рускай мовай"[4].

Пасля забойства В. Кубэ і прызначэння Курта фон Готберга выконваць абавязкі гаўляйтара Беларусі моўная палітыка ў Генеральнай акрузе стала выключна прагматычнай і была арыентаваная на выкарыстоўванне рускай мовы ў якасці агульнай мовы зносін, а варыянт

[1] У Міністэрстве па акупаваных усходніх тэрыторыях.
[2] Bundesarchiv Berlin, дакумент R 6-173, *Моўнае рэгуляванне ў ГК Беларусь,* с. 56.
[3] *Ibidem.*
[4] *Ibidem.*

моўнага рэгулявання, згодна з якім беларуская мова абвяшчалася дзяржаўнай і прыярытэтнай мовы Беларусі, быў адхілены К. Готбергам і адпраўлены назад у Берлін на дапрацоўку: „Па ўказанні канцылярыі спадара гаўляйтара адсылаю Вам назад копію пастановы аб моўным урэгуляванні ў ГК Беларусь і звяртаю Вашу ўвагу на тое, што выконваючы абавязкі Генеральнага камісара Беларусі – <…> фон Готберг на нарадзе кіраўнікоў галоўных аддзелаў 22.11.43 зрабіў заключэнне, што беларуская мова не была б зразумелая шырокім масам насельніцтва, у адрозненне ад рускай мовы, і з гэтым трэба лічыцца. Я прашу прыняць да ведама гэтую заўвагу <…> пры паўторным разглядзе праекта пастановы...”[1].

Улічваючы вялікую колькасць палякаў, што жылі на ўсход ад Польшчы, міністр па ўсходніх акупаваных тэрыторыях Альфрэд Розэнберг выдаў у канцы 1942 г. пастанову аб абыходжанні з палякамі на абшарах былога СССР. Непасрэдна моўнае пытанне ў пастанове закраналася ў трох пунктах: па-першае, польская адукацыя абмяжоўвалася 4-класнай школай; па-другое, міністр выступіў супраць раўнапраўя польскай мовы з украінскай, беларускай і літоўскай[2]; па-трэцяе, быў спынены выпуск усёй польскай прэсы (акрамя „Goniec Codzienny” ў Вільні). Дыскрымінацыйную для палякаў сутнасць гэтай пастановы асабліва добра бачна, калі параўнаць наклады прэсы для мясцовых жыхароў, якая выдавалася акупацыйнымі ўладамі ў былых рэспубліках Савецкага Саюза. Для ўсходніх тэрыторый у маі 1942 года выдавалася 130 газет на 8 нацыянальных мовах: 14 эстонскіх, 21 латышская, 11 літоўскіх, 1 польская, 6 беларускіх (пазней 11), 60 украінскіх, 16 рускіх, 1 татарская (агульны наклад больш за 2 мільёны асобнікаў)[3].

Калі гаварыць пра ўласнамоўныя інавацыі, якія змагла рэалізаваць акупацыйная ўлада за тры гады, то гэта, па-першае, замена кірылічнага алфавіта лацінкай[4]; па-другое, арыентацыя на нерусіфікаваную граматыку і лексіку; па-трэцяе, беларусізацыя Праваслаўнай царквы.

Калі падсумаваць асноўныя тэндэнцыі акупацыйнай моўнай палітыкі ў Генеральным камісарыяце Беларусь, то трэба сказаць, што, па-першае, вялікую ролю тут адыграў персанальны фактар: В. Кубэ і К. фон Готберг праводзілі дзве розныя лініі ў дачыненні да моў на тэрыторыі Генеральнага камісарыята – адпаведна, беларусізацыю і палітыку захавання статус-кво. Па-другое, у перыяд кіравання В. Кубэ вызначальнай была ідэя іерархіі моў, дзе беларуская займала месца класічнай адзінай афіцыйнай мовы, а польская разам з іншымі – мовы

[1] Bundesarchiv Berlin, дакумент R 6-173, *Моўнае рэгуляванне ў ГК Беларусь*, с. 76.

[2] C. Madajczyk, *Die Okkupationspolitik Nazideutschlands in Polen 1939–1945,* Köln 1988, s. 175.

[3] H.-D. Handrack, *Das Reichskommissariat Ostland. Die Kulturpolitik der deutschen Verwaltung zwischen Autonomie und Gleichschaltung 1941–1944*, München 1981, s. 197.

[4] Як вядома, хутка кірылічны алфавіт быў вернуты з прагматычных прычын, а лацінку планавалася ўвесці пазней.

нацыянальнай меншасці. Гэтае палажэнне паслядоўна ажыццяўлялася ўладнымі акупацыйнымі структурамі. Па-трэцяе, у зоне адказнасці ваеннай адміністрацыі, на ўсходзе Беларусі, тылавымі службамі Вермахта праводзілася палітыкі моўнага статус-кво, мэтай якой было захаванне спакою і наладжвання камунікацыі з мясцовым насельніцтвам. Ваенныя таксама выяўлялі самастойнасць у вырашэнні пытання выкладання нямецкай мовы для мясцовых жыхароў, што нават прыводзіла да канфрантацыі з цывільнай адміністрацыяй і Міністэрствам па акупаваных тэрыторыях у Берліне.

Калі працягнуць параўнанне згаданай вышэй карэльскай сітуацыі з сітуацыяй у Заходняй Беларусі, то ізноў тут назіраецца нечаканы паралелізм: фіны, калі ў 1941 г. адваявалі „сваю" Карэлію назад, а таксама захапілі большую частку Савецкай Карэліі, па сутнасці працягнулі моўную палітыку Саветаў – фінізацыю.

## Тэрыторыі Польшчы, якія былі ўключаны ў Рэйх: стагнацыя польскай мовы і лабіраванне моў меншасцей (верасень 1939 – люты 1945)

Стратэгічныя мэты Рэйха ў заходняй і паўночнай частках даваеннай Польшчы прадугледжвалі велізарную моўную перабудову гэтых тэрыторый: анямечванне "падыходзячай" часткі насельніцтва і тапонімаў; моўная асіміляцыя пераселеных сюды фольксдойчэ (большасць з якіх або зусім не валодала нямецкай мовай, або вельмі слаба яе ведала), перавод адукацыі на нямецкую мову выкладання, пазбаўленне польскай мовы большасці яе ранейшых функцый і кардынальнае зніжэнне яе статуса (за ёй павінна была застацца толькі камунікатыўная функцыя для польскага насельніцтва), пабудова моўнай дыферэнцыяцыі паміж польскім і нямецкім насельніцтвам. Апошні пункт звязаны з праблемай выкладання нямецкай мовы мясцоваму польскаму насельніцтву. З аднаго боку, ідэалагічная забарона на змешванне народаў і асабліва германскага з неарыйскімі этнасамі прывяла да забароны выкладаць нямецкую мову палякам, а з іншага боку, неабходнасць прафесійных кантактаў палякаў і немцаў выклікала з'яўленне дзіўных дырэктыў па вырашэнню гэтай супярэчнасці. У пастанове кіраўніка Вартэлянда ад 23.02.1943 г. гаварылася: „У польскіх школах нямецкая мова выкладаецца роўна ў такой ступені, <…> каб польская працоўная моладзь, якая нам неабходная для выканання ваенных і аднаўленчых задач, магла паразумецца на нямецкай мове: гэта азначае, што вывучаецца нямецкая лексіка, але граматычна правільна гаварыць у іх неабходнасці няма"[1].

Такім чынам, гаворка, практычна, ішла пра свядомую піджынізацыю сваёй мовы ў ідэалагічных мэтах! Згаданая супярэчнасць паміж расавымі ўстаноўкамі і практычнымі патрэбамі эканомікі ваеннага

[1] Выдана ў G. Hansen, *Schulpolitik als Volkstumspolitik*. Münster–New York 1994, s. 84.

часу прыводзіла да таго, што многія кіраўнікі прадпрыемстваў стваралі свае правілы, якія тычыліся ўжывання моў. Некаторыя нават штрафавалі за выкарыстанне польскай мовы на працы. Такія выпадкі выклікалі з'яўленне інфармацыйнага ліста ўладаў Вартэлянда па пытанні ўжывання палякамі польскай мовы: „У камунікаванні паміж сабой, на вуліцы і г. д. паляк можа гаварыць па-польску, колькі ён хоча. У нас няма цікавасці ў тым, каб прымусіць яго гаварыць па-нямецку. Таму гэта няслушна, што ёсць такія прадпрыемствы, дзе накладаецца штраф, калі палякі гавораць па-польску“[1].

Цікава, што адносіны акупацыйных уладаў да вывучэння нямецкай мовы нацыянальнымі меншасцямі былі значна больш пазітыўныя: для прыняцця ў нямецкую школу дастаткова было паказаць дакумент прыналежнасці да нацменшасці (горцаў, украінскай, беларускай і г. д.). Рабілася гэта, каб „пазбегнуць таго, што дзеці польскага паходжання гэтым шляхам *праточацца* [sic!] у нямецкія школы <...> Для гэтых дзяцей будуць створаны асобныя школы, у якіх яны па скарочанай праграме будуць вывучаць асноўныя паняцці нямецкай мовы і ліку”[2].

Беларусаў у заходніх раёнах Польшчы, якія лічыліся пасля 1939 г. часткай Рэйха, хутчэй за ўсё, было няшмат. Але можна знайсці некаторыя звесткі пра адносіны мясцовых уладаў да беларускай мовы ў кантэксце нацыянальнай палітыкі на гэтай акупаванай тэрыторыі. Звяртае на сябе ўвагу, перш за ўсё, гісторыя стварэння беларускага класа ў пачатковай школе Лодзі (Litzmannstadt)[3]. З гэтай просьбай у ліпені 1943 г. „Беларуская самапомач” звярнулася ў школьныя ўстановы Лодзі: „Рускія і ўкраінцы ўжо маюць такія класы і з іх дапамогай хутка авалодваюць нямецкай моваай і культурай; без беларускай школы беларускія дзеці часта падпадаюць пад непажаданы польскі ўплыў; у рускія і ўкраінскія класы беларускія дзеці не могуць быць пасланы, бо не разумеюць гэтых моў і былі б выхаваны ў такім выпадку ў чужынскім для іх духу”[4].

Гэты ліст быў высланы кіраўніку акругі на вырашэнне з наступнай заўвагай: „Я падтрымліваю тую пазіцыю, што да беларускай меншасці можна ставіцца так, як да рускай і ўкраінскай, і задаволіць іх просьбу. Мова і культура ў рускіх, украінцаў і беларусаў розныя, таму мне здаецца, што заява Беларускага камітэта пра навучанне іх дзяцей у асобных класах мае рацыю”[5].

---

[1] *Ibidem.*

[2] Ліст Аддзела выхавання і народнай асветы Вартэлянда Рэйхміністру навукі, выхавання і народнай асветы ад 14.11.1941. *Ibidem*, s. 210.

[3] Лодзь на пачатку акупацыі належала да Генерал-губернатарства, але потым была далучана да Рэйхсгау Вартэлянд – заходняй Польшчы, якая была анексаваная Рэйхам.

[4] *Ibidem,* s. 223.

[5] *Ibidem,* s. 222.

Улады Беласточчыны, якая таксама фармальна належала да Рэйха ў якасці адміністрацыйнай адзінкі Усходняй Прусіі, адзначае Чэслаў Мадайчык[1], была больш антыпольская, чым на іншых польскіх тэрыторыях, якія былі анексаваныя Рэйхам. Так, напрыклад, тут наогул не былі адкрыты польскія школы. У іншых анексаваных Рэйхам польскіх раёнах школ з польскай мовай навучання не было да сярэдзіны 1942 г. У лепшым выпадку палякі маглі наведваць школы для палякаў з нямецкай мовай навучання, якія прадугледжвалі вывучэнне толькі асноў нямецкай мовы[2]. Праграма польскай школы прадугледжвала 7 гадзін польскай мовы з першага па чацвёрты клас і 6 гадзін з чацвёртага па сёмы клас[3].

Яшчэ адно пытанне, звязанае з моўнай палітыкай ў акупацыі, – выкладанне ўсходнеславянскіх моў у школах Рэйха. Гаворка тут ідзе не пра беларускую, рускую або ўкраінскую мовы ў школах адпаведных нацыянальных меншасцяў, а пра выкладанне гэтых моў як замежных у нямецкіх школах анексаванай часткі Польшчы. Пазіцыя адказных асоб у кіраўніцтве Рэйха наконт гэтага пытання была выказана ў ліставанні паміж намеснікам дырэктара па вучэбнай частцы Гандлёвай школы Данцыга Куртам Аберметам (Kurt Abermeth) і канцылярыяй А. Розэнберга, міністра па акупаваных усходніх тэрыторыях. К. Абермет, які сам доўгія гады займаўся выкладаннем рускай мовы, 25 верасня 1942 г. напісаў ліст на імя міністра з просьбай выказаць сваю пазіцыю па выкладанні рускай і ўкраінскай моў у Рэйху: "Я хацеў бы Вас спытаць, ці лічыце Вы мэтазгодным вывучэнне рускай мовы і ці не думаеце Вы, што акрамя рускай мовы было б апраўдана вывучаць украінскую і іншыя мовы «рускіх» тэрыторый"[4].

Адказ 31 кастрычніка 1942 г. быў пасланы не толькі К. Абермету, але і міністру па навуцы, выхаванню і адукацыі Рэйха для азнаямлення: „Вывучэнне ўкраінскай, беларускай і рускай моў я лічу мэтазгодным (і неабходным, а таксама ў інтарэсах нямецкага народа)[5] і вітаю Вашы намаганні ў гэтым кірунку"[6].

Нельга не заўважыць, што міністр па акупаваных усходніх тэрыторыях зрабіў акцэнт на ўкраінскай і беларускай мовах, паставіўшы рускую мову на апошнюю пазіцыю ў пералічэнні, што адпавядала акупацыйнай палітыцы размежавання народаў усходнеславянскай прасторы і вылучэнню ўкраінцаў і беларусаў з "рускага" (= савецкага) ідэнтытэту.

Такім чынам, на анексаваных тэрыторыях Польшчы за польскай мовай была пакінутая толькі функцыя камунікацыі палякаў паміж

[1] C. Madajczyk, *Die Okkupationspolitik…*, Köln 1988, s. 146.
[2] G. Hansen, *Schulpolitik*..., s. 226–227.
[3] *Ibidem,* s. 397.
[4] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 652, спр. 1, л. 7.
[5] Словы, дадзеныя ў дужках, былі пазней закрэсленыя ў дакуменце.
[6] *Ibidem*, л. 6.

сабой. Польская мова выконвала таксама ролю сродку дыферэнцыяцыі польскага і няпольскага насельніцтва. Беларуская мова, нягледзячы на нешматлікасць насельніцтва з беларускім ідэнтытэтам на захадзе і поўначы Польшчы, мела статус мовы прывілеяванай меншасці з усім спектрам функцый – як мова адукацыі, прэсы, культуры і г. д.

## Генерал-губернатарства: рэзервацыя польскай мовы (кастрычнік 1939 – студзень 1945)

Генерал-губернатарства лічылася немцамі месцам для "непажаданых" элементаў з анексаваных раёнаў Польшчы, рэзервуарам працоўнай сілы на бліжэйшы час. Аб гэтым у сваім *Дзённіку* некалькі разоў выказваўся і сам Генерал-губернатар Г. Франк: „Трэба зыходзіць з таго, што зараз Генерал-губернатарства з'яўляецца месцам пражывання (Heimstätte) польскага народа"[1]. <…> „Гэта <…> свайго роду рэзервацыя (для палякаў)" [2].

Моўная дыферэнцыяцыя палякаў і немцаў у Генерал-губернатарстве была закладзена ўжо ў адной з першых пастаноў Ганса Франка ад 31 кастрычніка 1939 г. У ёй гаварылася, што нямецкія дзеці павінны вучыцца толькі ў нямецкіх школах у нямецкіх настаўнікаў, а польскія – толькі ў польскіх[3]. Тым самым быў выказаны ясны намер не дапускаць германізацыі палякаў. У адрозненне ад анексаваных польскіх раёнаў, у Генерал-губернатарстве польская мова была "квазіафіцыйнай" мовай і была дазволена ў некаторых сферах улады і грамадскага жыцця. Тым не менш, яе культурная і іншыя функцыі былі мінімальнымі. Эўгеніюш Круль пісаў, што рэшткі польскай культуры былі зведзены адміністрацыйна-палітычнымі метадамі на мяжу дазволенага існавання[4].

Непасрэдна ўжыванне моў ва ўладных структурах Генерал-губернатарства вызначалі два параграфы ў "Пастанове аб стварэнні адміністрацыі ў акупаваных польскіх раёнах" ад 26 кастрычніка 1939 г.: Параграф 9: "Афіцыйнай мовай у Генерал-губернатарстве з'яўляецца нямецкая мова, дапускаецца таксама і польская мова" Параграф 10: „Распараджэнні публікуюцца ў «Verordnungsblatt für das Generalgouvernement für die besetzten polnischen Gebiete» на нямецкай і польскай мовах. Вызначальным для разумення з'яўляецца нямецкі тэкст"[5].

Нямецкія ўлады, як ужо было згадана, з расавых меркаванняў не віталі вывучэння палякамі нямецкай мовы, што, на іх думку, магло б сцерці межы паміж нямецкім і польскім насельніцтвам Генерал-губернатарства. У рэчышчы такой палітыкі моўнай дыферэнцыяцыі для

---

[1] H. Frank, *Das Diensttagebuch des deutschen Generalgouverneurs in Polen* (запіс ад 01.03.1940), Stuttgart 1975, s. 126.

[2] *Ibidem* (запіс ад 02.03.1940), s. 128.

[3] *Verordnungsblatt für die besetzten polnischen Gebiete*, 1939, № 3, Krakau 1939, с. 18–19.

[4] E.C. Król, *Polityka hitlerowska wobec szkolnictwa polskiego na terenie Generalnej Guberni (1939–1945)*, Warszawa 1979, s. 105.

[5] *Verordnungsblatt für die besetzten polnischen Gebiete*, № 1, Krakau 1939, s. 4.

камунікацыі паміж нямецкімі ўладамі і польскамоўным насельніцтвам планавалася, што з цягам часу чыноўнікі, якія мелі непасрэдны кантакт з польскім насельніцтвам, будуць ведаць польскую мову. Для гэтага пачалі адкрывацца курсы польскай мовы для нямецкіх служачых. Напрыклад, для цэнтральнага апарата Генерал-губернатарства ўжо з ліпеня 1940 г. працавалі курсы польскай мовы, на якіх выкладаў былы супрацоўнік Кракаўскага ўніверсітэта германіст Адам Клячкоўскі[1].

Вельмі істотным фактарам моўнай палітыкі ў Генерал-губернатарстве было заканадаўства ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. З самага пачатку акупацыі новыя ўлады прынялі за аснову польскі закон ад 31.07.1924 г., які рэгуляваў правы нацыянальных меншасцяў у даваеннай Польшчы. Згодна з ім, у школах Генерал-губернатарства, дзе русінскае, беларускае ці літоўскае насельніцтва складала больш за 25% жыхароў, заняткі маглі праводзіцца на роднай мове меншасці[2].

Пасля далучэння Галіцыі да Генерал-губернатарства з'явілася пастанова Г. Франка, кіраўніка гэтай „вобласці дзяржаўных інтарэсаў Нямеччыны", ад 1 жніўня 1941 г.: Параграф 4: „Афіцыйнай мовай у акрузе Галіцыя з'яўляецца нямецкая мова, дапускаецца таксама ўкраінская і польская мовы". Параграф 5: „Распараджэнні і іншыя заканадаўчыя акты выдаюцца на нямецкай, украінскай і польскай мовах"[3].

Ужо ў лютым-траўні 1941 г. пасля прызнання беларусаў нацыянальнай меншасцю Аддзел навукі і адукацыі Генерал-губернатарства даў дазвол на адкрыццё школ з беларускай мовай навучання. У першую чаргу гэта тычылася Варшаўскага рэгіёну, дзе па інфармацыі СД жыло больш за 10 000 беларусаў[4]. Як і ў анексаваных раёнах Польшчы, беларускую меншасць можна лічыць прывілеяванай меншасцю. Яна была, зразумела, не такой уплывовай, як украінская, але часам, напрыклад, у пытанні вывучэння нямецкай мовы мела больш правоў, чым тытульная нацыя Генерал-губернатарства.

### Зона адказнасці ваеннай адміністрацыі: «status quo ante bellum» (чэрвень 1941 – ліпень 1944)

Не трэба забывацца на тое, што палова даваеннай Беларусі, на ўсход ад Мінска і Слуцка, увесь час вайны заставалася зонай адказнасці Вермахта. Гэта азначае, што цывільнае жыццё на ўсходзе Беларусі ўладкоўвалі вайсковыя тылавыя структуры. У тым ліку яны вызначалі моўную і адукацыйную палітыку. Тылавыя структуры Вермахта праяўлялі пэўную самастойнасць у арганізацыі жыцця мясцовага насельніцтва ў зоне сваёй адказнасці. Самым яскравым прыкладам несумяшчаль-

[1] G. Hansen, *Schulpolitik*..., s. 90.
[2] *Ibidem,* s. 98–99.
[3] *Verordnungsblatt für das Generalgouvernement für die besetzten polnischen Gebiete*, № 67, Krakau 1941, s. 443.
[4] G. Hansen, *Schulpolitik*… , s. 370–371.

насці вайсковых інтарэсаў і ідэалагічных установак з Берліна з'яўляецца канфлікт па пытанні выкладання нямецкай мовы мясцоваму насельніцтву ў Беларусі і Украіне. Агульная пазіцыя кіраўніцтва Рэйха была наступнай: на ўсходніх акупаваных тэрыторыях нямецкая мова не выкладаецца або выкладаецца ў мінімальным аб'ёме (выключэнне – прыбалтыйскія краіны). Гітлер лічыў, што: „абсалютна дастаткова, калі ненямецкае насельніцтва, напрыклад, украінцы, будуць трохі чытаць і пісаць па-нямецку”[1].

Але Вермахт імкнуўся як мага хутчэй узнавіць працу школ і выкладаць там нямецкую мову мясцовым жыхарам, каб наладзіць з імі супрацоўніцтва, камунікацыю і забяспечыць тым самым спакойную абстаноўку ў сваім тыле. О. Бройцігам, адказны чыноўнік па сувязях Міністэрства па акупаваных тэрыторыях з Вярхоўным камандаваннем сухапутных войскаў, пісаў: “Я абмяркоўваў пытанне адукацыі ў Штабе сухапутных войскаў у Аддзеле ваеннага кіравання, і там выказаліся за як мага больш хуткае ўзнаўленне школьных заняткаў. Войска з меркаванняў бяспекі зацікаўлена ў тым, каб дзеці школьнага ўзросту пайшлі з вуліцы; некаторыя з іх выконваюць даручэнні партызанаў, усе больш і больш дзічэюць і крадуць”[2].

Па дадзеных Д. Шольтэна[3], у зоне адказнасці Вермахта нямецкая мова выкладалася ў школах 4 гадзіны на тыдзень. Але гэта выклікала непаразуменне з боку цывільных уладаў Беларусі і Украіны, а таксама Берліна. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захавалася некалькі дакументаў, якія сведчаць пра канфлікт Вермахта і Міністэрства па акупаваных усходніх тэрыторыях у пытанні, ці трэба выкладаць нямецкую мову мясцовым жыхарам. Першы дакумент – гэта ліст Рэйхскамісара Украіны ў Берлін ад 09.11.1942 г., дзе гаворыцца: „па ініцыятыве нямецкай ваеннай адміністрацыі на падкантрольных ёй тэрыторыях у школах уведзены заняткі па нямецкай мове. Гэта не стасуецца з палітычнай лініяй, якая вызначана міністэрствам. <…> Каб у далейшым, калі гэтыя тэрыторыі пяройдуць у цывільнае кіраванне, не давялося ўводзіць новыя правілы, якія супярэчаць сённяшняй палітыцы Вермахта, прашу абавязаць адказныя вайсковыя ўстановы прытрымлівацца адпаведнай палітычнай лініі ў гэтым пытанні”[4].

Ліст у адказ ад 25.11.1942 г. выказвае падтрымку пазіцыі Рэйхскамісара і адзначае, што вывучэнне нямецкай мовы ў школе немэтазгоднае, але ў прафесійнай адукацыі магчыма засваенне асноў прафесійнай камунікацыі на нямецкай мове. Заняткаў па нямецкай літаратуры і культуры не прадугледжана[5].

[1] Прыведзена ў D. Scholten, *Sprachverbreitungspolitik des nationalsozialistischen Deutschlands*. Frankfurt am Main–New York 2000, s. 294.
[2] O. Bräutigam, *So hat es sich zugetragen*..., Würzburg 1968, s. 427.
[3] D. Scholten, *Sprachverbreitungspolitik*…, s. 330–331.
[4] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 652, спр. 1, л. 147.
[5] *Ibidem*, л. 148–149.

Яшчэ адно разыходжанне паміж моўнай палітыкай у зоне адказнасці цывільнай і ваеннай адміністрацыі – падыход да мовы выкладання і афіцыйнай камунікацыі. Як у Беларусі, так і ва Украіне цывільныя адміністрацыі прытрымліваліся палітыкі лабіравання мовы тытульнай нацыі, адпаведна, беларускай і ўкраінскай. Але ваенныя ўлады кіраваліся, у асноўным, прагматычнымі меркаваннямі і арыентаваліся на тую мову, на якой размаўляла большасць насельніцтва ў дадзеным рэгіёне. Такім чынам, на ўсходзе Беларусі і Украіны мясцовыя службы часта карысталіся рускай мовай; але, калі таго патрабавала моўная сітуацыя, – таксама беларускай і ўкраінскай[1]. Канкрэтнай інфармацыі пра функцыянаванне польскай мовы на ўсходзе Беларусі нам не траплялася.

### Беларуская і польская мовы ў Латвіі і Літве: другое дыханне (чэрвень 1941 – ліпень 1944)

Як адзначае Ганс-Дытэр Хандрак, ужо ў першы год акупацыі Латвіі там быў амаль адноўлены ўзровень беларускай адукацыі, які быў у дваццатыя-трыццатыя гады – па-беларуску вучылася больш за 2500 вучняў[2].

У справаздачы акупацыйнай адміністрацыі Латвіі за жнівень-кастрычнік 1942 г. у раздзеле "Школы для нацыянальных меншасцяў" гаворыцца: "У Латвіі неабходная ясная пазіцыя наконт вялікіх нацыянальных груп (рускіх і беларусаў), бо наспела пытанне, ці створым мы, адкрыўшы вышэйшыя школы для меншасцей, адносна моцны слой насельніцтва з добрай адукацыяй для працы ў Беларусі і іншых краінах на ўсходзе, або трэба арганізаваць для іх пэўныя прафесійныя школы для падрыхтоўкі спецыялістаў і рамеснікаў"[3].

Палякі і беларусы маглі, як і ўсе асноўныя меншасці ў Літве, адкрыць польскую або беларускую школу, калі ў раёне пражывала не менш за 30 польскіх ці адпаведна беларускіх дзяцей. Літоўская мова ў такіх школах вывучалася, пачынаючы з другога класа, а таксама некаторыя прадметы вывучаліся выключна па-літоўску (напрыклад, краіназнаўства, гісторыя і г. д.)[4]. У Вільні склалася такая сітуацыя, што мясцовая ўлада была катэгарычна супраць польскамоўнай адукацыі большай за некалькі класаў школы, і нягледзячы на тое, што нямецкая адміністрацыя імкнулася зраўняць правы на адукацыю ўсіх нацменшасцяў у Літве, ёй да канца вайны так і не ўдалося пераадолець антыпольскі настрой мясцовага самакіравання[5].

У пастанове "Выкарыстанне моў у Остландзе" (студзень 1942 г.) звярталася асаблівая ўвага на статус польскай мовы ў Літве: з аднаго

---

[1] D. Scholten, *Sprachverbreitungspolitik*..., *ibidem*.
[2] Hans-Dieter Handrack, *Das Reichskommissariat*..., s. 179.
[3] *Справаздача за жнівень-кастрычнік 1942 г.*, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, фонд 652, справа 1, л. 191–192.
[4] *Літоўскі закон аб пачатковых школах, Ibidem*, л. 55–65.
[5] *Ibidem*, л. 180.

боку, нямецкая ўлада бачыла ў ёй інвазійны патэнцыял, а з іншага, – перасцерагала супраць пераходу польскага насельніцтва на літоўскую мову: “У Літве трэба звяртаць увагу на тое, каб літоўская мова абавязкова мела перавагу перад іншымі мовамі, асабліва польскай, але не трэба дапускаць літуанізацыі польскага насельніцтва. <…> Перад усім царква не можа прымушаць літоўскае насельніцтва карыстацца польскай мовай”[1].

У Латвіі, дзе польскае насельніцтва было значна меншае, чым у Літве, у вышэйазначанай пастанове згадана толькі небяспека асіміляцыі польскай меншасці: “Неабходна пазбягаць таго, каб польская частка насельніцтва ў сённяшняй Генеральнай акрузе Латвія была асіміляваная праз латышскую мову”[2].

Што тычыцца моўна-культурнай канкурэнцыі беларусаў і палякаў у балтыйскіх краінах, то звяртаюць на сябе ўвагу рэпартажы мясцовых карэспандэнтаў для беларускай прэсы, дзе палякі прадстаўлены ворагамі беларускай справы (далей на мове арыгінала): “Палякі ўсё яшчэ спрабуюць правакаваць беларусаў: польскія беларусаеды ўсё яшчэ нічому не наўчыліся і пастарому вядуць змаганьне з беларускім рухам і беларусамі ў Латвіі. Ня маючы сілы фізічна напасці на беларускіх дзеячаў, што яны былі спрабавалі ў пераходны час, яны зараз узяліся за стары выпрабаваны спосаб даносаў і правакацый”[3]. “«Польскія шаптуны» зразумела дужа не задаволены ажыўленьнем сярод беларускага грамадзтва ў Краслаўцы і спрабуюць пашыраць розныя палохаючыя чуткі і пагрозы, але беларусы ўжо навучыліся не зьвяртаць на гэтых разбурывальшчыкаў беларускае справы ніякае ўвагі. Лічба вучняў беларускае школы штодня павялічваецца, і многія з тых, што яшчэ колькі год назад “ня ведалі” хто яны такія, – зараз сьмела і радастна становяцца ў беларускія шэрагі”[4].

Калі коратка падсумаваць гэты кароткі агляд акупацыйнай моўнай палітыкі ў дачыненні да беларускай і польскай моў, трэба адзначыць, што беларуская і польская мовы трактаваліся ў нацысцкай ідэалогіі па-рознаму, што абумовіла паўсюдную падтрымку беларускай мовы і амаль паўсюдны ціск на польскую мову. Польская мова ўспрымалася, як мова адвечнага ворага-суседа, мова шматмільённага народа-суперніка, які займае “жыццёвую прастору” немцаў. Каб паслабіць гэты народ, трэба вылучыць у ім як мага больш нацыянальных меншасцяў і лабіраваць іх нацыянальную адметнасць; выключыць магчымасць анямечвання палякаў; пазбавіць польскую мову, якая аб’ядноўвае ўсіх палякаў, самых істотных культурных функцый і трактаваць яе толькі як сродак размежавання з іншымі этнасамі.

[1] Bundesarchiv Berlin, дакумент R 6-173, с. 13.
[2] *Ibidem*.
[3] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 371, спр. 116, л. 74.
[4] *Ibidem*, л. 75.

Беларуская мова ў Польшчы, разам з украінскай, рускай, русінскай і іншымі традыцыйнымі мовамі польскай дзяржавы, разглядалася якраз у якасці процівагі "польскасці", а, значыць, падтрымлівалася акупацыйнымі ўладамі і мела больш прэферэнцый, чым польская. Беларуская мова ў Генеральным камісарыяце Беларусь бачылася акупантам таксама процівагай руска-савецкаму імперыялізму, а нацыянальная палітыка В. Кубэ заклала грунт для фарміравання нацыянальна-арыентаванай беларускай культуры, дружалюбнай да нацыянал-сацыялізму. Гэтыя фактары абумовілі падтрымку беларускай мовы як адзінай афіцыйнай мовы Генеральнага камісарыята, абмежаванне ўплыву польскай мовы і зніжэнне яе статусу на Беларусі.

*Andrei Zinkevich*

**Belarusian and Polish Languages During the Occupation**

A b s t r a c t

The article deals with the language policy of the occupation authorities towards the Belarusian and Polish languages during the Second World War. The regions where the Belarusian and Polish population resided are considered: Western Belarus, the General Commissariat of Belarus, Western Poland, the General Government and some others. An analysis of archival sources suggests that differing policies were applied to the Belarusian and Polish languages during the occupation: while the Belarusian language was supported both as a state language and as a language of a national minority, the Polish language was subjected to a policy of oppression in the entire occupied area.

Tom 18 • 2018 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091

**Таццяна Казак**
Варшава

# З мінулага ў будучыню: значэнне дзейнасці Юзафа Ядкоўскага – даследчыка горада Гродна ў сучаснай беларускай і польскай навуцы

Юзаф Ядкоўскі з'яўляецца знакавай асобай у гісторыі горада Гродна. Вядомы краязнаўца, стваральнік гродзенскага музея (1920), які ў тыя часы стаў важнай часткай культурнага аблічча горада і істотна ўплываў на свядомасць мясцовых жыхароў. Нарадзіўся ён 20 снежня 1890 года ў г. Гродне. З юнацтва пачаў цікавіцца гісторыяй. Разам з сябрамі выязджаў у вандроўкі па ваколіцах Гродна[1]. Наведваў Ружаны, Адэльск, Верхаўляны, Новы Двор, Альшанку, Хадароўку, Кузніцу, Сухаволю, Радзівонавічы, Папялоўку і інш., пра што сведчаць нататкі з вандровак, пачынаючы з 1907 г.[2]. Добра знаёмы быў з Элізай Ажэшкай: прыходзіў да яе ў дом, браў кнігі з бібліятэкі. Яна дапамагла Ю. Ядкоўскаму ўладкавацца ў Варшаве, калі ў гімназіі пачаліся ў яго праблемы з-за польскіх патрыятычных настрояў. Ён пакінуў гімназію і атрымаў сярэднюю адукацыю ў Варшаве[3]. У 1905–1906 гг. Ю. Ядкоўскі звязаўся з сацыялістычным рухам, быў сябрам Польскай сацыялістычнай партыі. Пра яго ўспамінае ў сваім артыкуле аб гродзенскай арганізацыі выкладчык хіміі з гімназіі – Браніслаў Шушкевіч, які ў гады вайны быў захавальнікам фондаў музея[4].

Разам з Ю. Ядкоўскім у гродзенскай гімназіі вучыўся Уладзіслаў Талочка – беларускі рэлігійны дзеяч, гісторык[5]. Яны пасябравалі з тых часоў, але, якое стаўленне да беларускай справы было ў Ю. Ядкоўскага мы ведаем толькі з яго выказванняў на старонках выданняў і перапіскі, і, трэба дадаць, што яно не з'яўлялася прыязным. Сувязі двух асобаў з супрацьлеглых лагераў уяўляюць вялікую цікавасць. Напэўна, праз У. Талочку Ю. Ядкоўскі мог ведаць пра беларускія справы, калі б імі цікавіўся, а з іншага боку, ведаючы, што Ю. Ядкоўскі – прадстаўнік уладных структур, ксёндз мог замоўчваць праўду. Але дакладна вядома, што У. Талочка не стаяў у баку ад даследаванняў Ю. Ядкоўскага, дапамагаў

[1] Е.Ф. Орловский, *Гродненская старина,* часть I, Гродна 1910, с. 8.

[2] Архіў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея*,* справа № 4, арк. 1–31.

[3] A. Śnieżko, *Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział,* Białystok 2000, s. 7.

[4] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska P.P.S. 1898–1910,* Warszawa 1937, s. 18.

[5] A. Śnieżko, *Wydobył z ziemi gród...*, s. 18.

калегу. Атрымалася выявіць толькі адзін ліст, адрасаваны ксяндзом да кусташа музея. У 1923 г. ксёндз інфармаваў пра ксяндза Я. Вайштаровіча (XVII ст.)[1]. Перапіска вялася на польскай мове.

Цікавым падаецца факт, што Ю. Ядкоўскі, паляк, атрымоўваў вышэйшую адукацыю ў Археалагічным інстытуце ў Маскве, тэма яго дысертацыі – *О литовской гривне в связи с вопросом о древнейших денежных единицах в Литве*. Праца захоўваецца ў фондзе Аддзела пісьмовых крыніц Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве (Фонд асабістага паходжання ф. 431, спр. 99)[2].

Пасля вяртання на Радзіму ў Гродна Ю. Ядкоўскі займаў пасаду дзяржаўнага кансерватара па Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях[3]. Пасля Першай сусветнай вайны і вяртання незалежнасці польскай дзяржаве Гродна апынулася ў яе складзе, даследчык заняў пасаду чыноўніка па ахове спадчыны. На гэтай пасадзе ён прымаў актыўны ўдзел у многіх справах аховы помнікаў у міжваенны час. Дзякуючы даследчыцы Дароце Пірамідовіч атрымалася папрацаваць з дакументамі, звязанымі з дзейнасцю Ю. Ядкоўскага на пасадзе кіраўніка аддзела камісіі аховы помнікаў мастацтва і культуры пры Гродзенскім старостве, якую ён займаў ад пачатку сваёй прафесійнай дзейнасці ў Гродне з 1920 года. Напрыклад, ён прымаў актыўны ўдзел ў перадачы каталікам былога жаночага кляштара бернардынак у Гродне, што, безумоўна, суправаджалася доўгай перапіскай з уладамі. У сувязі з гэтым Ю. Ядкоўскі пісаў гістарычныя даведкі пра кляштар, перакладаў і перапісваў дакументы на лацінскай і расейскай мовах для ўладаў[4].

Ю. Ядкоўскі актыўна збіраў матэрыялы пра помнікі археалогіі і гісторыі не толькі Гродна, але і Гродзенскага павета. У лютым 1930 года быў складзены спіс помнікаў Гродзенскага павета (спіс помнікаў Гродна быў створаны яшчэ ў 1922 г.), якія ахоўваюцца дзяржавай. Ён быў высланы да розных дзяржаўных установаў, у тым ліку паліцэйскаму кіраўніцтву Гродна, раённаму архітэктару і іншым. У спіс увайшлі, у першую чаргу, касцёлы, археалагічныя помнікі, жылыя і гаспадарчыя будынкі, з праваслаўных храмаў – толькі Каложская царква (у той час не належала адміністрацыйна гораду), пры гэтым згадваецца як былы базыльянскі храм, яшчэ “cerkiewka” – як пазначана ў спісе царква на могілках у в. Котра і капліца (пры гэтым указанне: праваслаўная/уніяцкая ў Вялікай Бераставіцы). Спіс адлюстроўвае тагачасныя

[1] Архіў ГДГАМ, справа № 4, арк. 97.

[2] Е. Глазунова, *Диссертация Юзефа Иодковского из фондов Государственного исторического музея,* „Банкаўскі веснік” 2018, люты, с. 20–23.

[3] A. Śnieżko, *Przeoczony jubileusz Józefa Jodkowskiego,* “Archeologia. Rocznik Polskiego Towarzystwa Archeologicznego” 1948, t. II, s. 435.

[4] D. Piramidowicz, *Kościół p. w. Narodzenia Matki Boskiej, Św. Antoniego Padewskiego i Św. Kazimierza oraz klasztor bernardynek w Grodnie* [w]: *Materiały do dziejów sztuki sakralnej na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej*, cz. IV: *Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa trockiego*, t. 3, red. M. Kałamajska-Saeed, 2016, s. 133–160.

акцэнты ў зборы падобнай інфармацыі, больш помнікаў, звязаных з польскай гісторыяй, менш з гісторыяй расійскага перыяду. Сам Ю. Ядкоўскі, накіроўваючы дадзены спіс, піша ад імя дырэкцыі музея: "Wymienienie zaś wiadomości nie sprawdzonych Dyrekcja uważa za niewskazane, przeto mogą być dosyć znaczne luki, szczególnie w zakresie wiadomości o świątyniach prawosławnych i zabytkach przed i wczesnohistorycznych"[1].

Справай жыцця Ю. Ядкоўскага стала стварэнне музея ў Гродне, дзе ён, будучы кіраўніком, актыўна займаўся навукова-даследчыцкай дзейнасцю. Ён разумеў разнастайнасць культуры Гродзеншчыны, дзе з даўніх часоў жылі побач розныя народы, якія стваралі непаўторнасць рэгіёну. Таму дзейнасць гродзенскага музея, дзякуючы намаганням Ю. Ядкоўскага, была накіраваная на даследаванне розных культур Гродзеншчыны: каталіцкай, праваслаўнай, іудзейскай, уніяцкай. Ю. Ядкоўскі быў сапраўдным музейшчыкам і living разнабаковым чалавекам. Дзякуючы яму былі заснаваныя музейная бібліятэка, калекцыя археалогіі, нумізматыкі, этнаграфіі, мастацкіх твораў і дакументаў, што гаворыць аб шырыні яго інтарэсаў, а напісаныя і выдадзеныя ім артыкулы, брашуры і кнігі – аб глыбіні яго ведаў. Большасць з артыкулаў прысвечана розным аспектам гісторыі Гродна – археалогіі, архітэктуры, удзельнікам і падзеям паўстання 1863 года, дзейнасці музея і яго каштоўным экспанатам, нумізматыцы і іншым тэмам.

Пра музейную дзейнасць Ю. Ядкоўскага тагачасныя пісьменнікі і журналісты выказваліся з вялікай павагай. Так, напрыклад, аўтар вядомых і часта вострых рэпартажаў віленскай газеты „Słowo" Юзаф Мацкевіч пісаў у 1936 годзе: "Nie chcę nikomu robić reklamy, ale przyznam, że z każdym krokiem nabieram coraz większego szacunku dla ofiarnej pracy kustosza Jodkowskiego. Gdybym był fachowcem, możebym zabrał głos w krytyce, że to nie jest ścisłe, tamto z punktu widzenia naukowego wątpliwe, ówdzie dopatrzył omyłki. Ale skąd mogę wiedzieć. Ja przede wszystkim widziałem ogrom wykonanej pracy. W ciągu kilku lat: remont, restauracja wewnętrznej linii, odtworzenie szczegółów. Nawet rysunek drzwi, styl krzeseł, ornament każdego klucza, framugi okiennej, kafel kominków – to wszystko rezultat długich badań i ciężkiej pracy jednego człowieka! W ten sposób zdobywa się izba za izbą, sala za salą odradza się w duchu starego zamku"[2].

Таксама хацелася б згадаць эсэ Зоф'і Налкоўскай 1926 года, прысвечанае Гродну, дзе яна апісвае гарадскую архітэктуру, вядомыя мясціны і з сучасных ёй асобаў называе толькі Ю. Ядкоўскага (іншых асобаў, за выключэннем Тызенгаўза і Станіслава Аўгуста Панятоўскага, там няма): "W Muzeum grodzieńskim, pełnym małych skarbów, wyszukanych po strychach i sklepikach, wydartych zniszczeniu i poniewierce przez

[1] Цытаты з польскамоўных крыніц прыводзяцца на мове арыгіналу. Архіў ГДГАМ, справа № 2, арк. 1.

[2] J. Mackiewicz, *Cztery dni w Grodnie: Słoneczne plamy na zamkowym parkiecie,* „Słowo" 1936, nr 18, s. 3.

